# Алесь Якімовіч

## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ТРОХ ТАМАХ

# ТОМ ПЕРШЫ

*Аповесці*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1978

# ШЧОДРАЕ СЭРЦА ПІСЬМЕННІКА

За пяцьдзесят гадоў нястомнай працы ў дзіцячай літаратуры Алесем Якімовічам напісана шмат аповесцей, апавяданняў, казак, на высокім мастацкім узроўні зроблены пераклады асобных твораў А. Пушкіна, М. Някрасава, М. Горкага, У. Маякоўскага, С. Маршака, К. Чукоўскага, А. Гайдара на родную мову. А кніжкі «Каток — Залаты Лабок» і «Бацькаў дар», у якіх пісьменнікам сабрана і апрацавана больш за семдзесят папулярных беларускіх народных казак, з'явіліся сапраўдным святам для дзяцей.

Вялікі жыццёвы шлях за плячыма Алеся Іванавіча Якімовіча. Юнацтва будучага пісьменніка прайшло на Уздзеншчыне. Савецкая ўлада шырока расчыніла дзверы вясковай бядняцкай моладзі ў навуку. Прага да вучобы прывяла ў 1921 годзе юнака ў Мінскі педтэхнікум. Ён старанна авалодвае ведамі, актыўна ўдзельнічае ў літаратурным жыцці, друкуючы свае допісы на старонках газет.

У пачатку 1923 года часопіс «Маладняк» змясціў першы літаратурны твор Алеся Якімовіча — верш пад сімвалічнай назвай «Вясна». Знамянальнай падзеяй у жыцці пачынаючага пісьменніка было яго знаёмства з Якубам Коласам, які выкладаў у тэхнікуме методыку роднай мовы, а ў вольны час праводзіў гутаркі на літаратурныя тэмы, чытаў свае новыя творы. «Колас, як і Янка Купала,— успамінае Алесь Якімовіч,— вучылі нас пісаць проста, ясна, без мудрагельства».

У 1924 годзе ў рэспубліцы пачаў выдавацца часопіс «Беларускі піянер». Камсамолец Алесь Якімовіч становіцца сакратаром рэдакцыі новага дзіцячага часопіса. І з гэтага часу ён звязвае свой лёс з дзіцячай літаратурай, сумяшчаючы работу ў рэдакцыі з вучобай. У 1926 годзе Якімовіч заканчвае педагагічны тэхнікум, а праз чатыры гады — Беларускі дзяржаўны універсітэт.

Значным творчым дасягненнем маладога пісьменніка было выданне ў 1925 годзе яго першага зборніка апавяданняў «Гул бубна». З вялікай усхваляванасцю А. Якімовіч расказваў у сваіх апавяданнях пра жыццё і справы першых піянерскіх атрадаў рэспублікі, вучыў дзяцей быць вернымі справе бацькоў, справе Камуністычнай партыі. Кніга адразу знайшла дарогу да юнага чытача.

Нягледзячы на сваю маладосць, А. Якімовіч хутка становіцца прызнаным аўтарытэтам сярод пачынаючых аўтараў. Вось цікавы ўспамін калгасніка паэта, земляка А. Якімовіча Кастуся Шавеля пра тыя часы.

«Ужо на самым пачатку творчасці для нас, піянераў, Алесь Якімовіч адразу ж стаў цікавым пісьменнікам. Я помню, як у 1927 годзе ў школе з'явілася яго кніга «Гул бубна». Было яе ў школе адзін ці два экземпляры. І мы, вучні, запісваліся ў чаргу, каб прачытаць гэту цікавую кнігу».

Алесь Якімовіч заўсёды канкрэтны ў сваіх апавяданнях. Вось чаму юныя чытачы знаходзяць у персанажах яго твораў знаёмыя ім рысы, а ў паводзінах і ўчынках герояў — свае паводзіны і ўчынкі. Пісьменнік умее знайсці такія сітуацыі, у якіх найбольш поўна праяўляецца характар персанажа. У цэнтры апавядання «Санька» юны ўдзельнік рэвалюцыйных падзей. Аўтар дакладна падае падзеі ў гэтым творы, дае трапныя партрэтныя характарыстыкі персанажаў. Падзеі, апісаныя ў апавяданнях «Піянер Геня», «Чарнавочка», «Аўтамат», пераносяць нас у першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны.

У цэнтры апавядання «Васількі» — эпізод з жыцця школьніка Віці, які на ўроку батанікі атрымаў двойку, палічыўшы васількі за карысную кветку. За гэтым знешне буднічным празаічным эпізодам ідзе паэтычны расказ хлопчыка пра сваё летняе падарожжа ў вёску, пра дапамогу дарослым у працы.

Асноўным творчым прыёмам А. Якімовіча з'яўляецца імкненне паставіць героя ў больш ці менш складаныя абставіны, што дае магчымасць глыбей раскрыць рысы характару персанажа, паказаць яго ўнутраны свет. Дададзім, што ў творах А. Якімовіча маленькія героі амаль не ставяцца ў абставіны, з якімі не заўсёды справіцца і дарослы чалавек. Гэта мы назіраем не толькі ў названых вышэй апавяданнях, але і ў аповесцях.

Першым значным творам пісьменніка ў жанры аповесці была «Перамога» (1930). А. Якімовіч у ёй паэтычна і натхнёна расказвае дзецям пра калектывізацыю сельскай гаспадаркі, раскрывае тыповыя з'явы жыцця нашай вёскі 30-х гадоў.

У цэнтры аповесці «Базылёў курган» — юныя краязнаўцы. Пасля працяглых пошукаў піянеры даведваюцца пра цікавую гі-

сторыю старадаўняга кургана. У творы значнае месца адведзена мастацкаму паказу мінулага нашай краіны.

Ні ў адной з аповесцей А. Якімовіча няма таго маленькага, адасобленага ад жыцця дарослых, дзіцячага свету, у якім дзейнічаюць яго героі. У творах жыццё дзяцей і падлеткаў, іх дзіцячы свет падаецца ў цеснай сувязі з жыццём і дзейнасцю іх бацькоў, старэйшых таварышаў, настаўнікаў. А. Якімовіч падкрэслівае, што дзякуючы гэтаму адзінству лепшыя рысы характару перадаюцца ад старэйшага пакалення малодшаму. Гэта датычыцца і аповесці «Смелыя людзі», у якой расказваецца пра гераічныя справы піянераў і камсамольцаў у гады апошняй вайны.

Героі гэтай аповесці Толя Кавалёў і Міхась Прахарэвіч помсцяць фашыстам за здзекі над жыхарамі вёскі Зялёны Бор. Юныя патрыёты збіраюць, а потым перадаюць партызанам зброю, пішуць лістоўкі, знішчаюць гітлераўцаў, становяцца партызанамі. Накіроўваюць барацьбу падлеткаў прадстаўнікі старэйшага пакалення, камуністы. Праўдзіва, рэалістычна ў аповесці апавядаецца пра баявыя справы партызанскага атрада на чале з камуністам Андрэем Міхайлавічам. Пераканаўчым у творы атрымаўся вобраз дзеда Лукаша, які пайшоў на самаахвяраванне, каб захаваць жыццё Толі Кавалёва.

Заўважым, што гэтую праўдзівую аповесць пра гераічныя справы юных і дарослых патрыётаў напісаў аўтар, за плячыма якога быў немалы салдацкі вопыт ваеннай пары. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Алесь Якімовіч пайшоў са зброяй у руках абараняць Радзіму. У адным з жорсткіх баёў пад Харкавам камандзір стралковага ўзвода лейтэнант Якімовіч быў паранены. Пасля шпіталя ён быў звольнен у запас...

Неяк на сустрэчы з настаўнікамі школ рэспублікі Алесь Якімовіч сказаў, што хацеў бы расказаць цяперашнім дзецям пра жыццё іх аднагодкаў і жыццё беларускага народа ў далёкія часы, у далёкім мінулым. Такую кнігу пісьменнік напісаў — цыкл аповесцей «Адкуль ліха на свеце» (1963), «Канец сервітуту» (1968), «Кастусь Каліноўскі» (1971), «Цяжкі год» (1976).

Гэты цыкл аповесцей — маштабная мастацкая хроніка жыцця беларускай вёскі ад 50-х гадоў мінулага стагоддзя да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Да стварэння тэтралогіі Алесь Якімовіч рыхтаваўся ўсё жыццё. У сваіх ранейшых апавяданнях і аповесцях ён зрабіў паспяховую спробу падступіцца да тэмы. Так у «Базылёвым кургане» (1954) пісьменнік расказаў пра лёс дзесяцігадовага прыгоннага хлопчыка, закатаванага лютай пані Мазурскай. У першай кнізе трылогіі — аповесці «Адкуль ліха на свеце» — Алесь Якімовіч апавядае пра лёс маленькага Язэпкі з вёскі Галынаўка, якога цівун

Дракула сілком забірае ад бацькоў і прыводзіць у маёнтак пана Ясінскага. З гэтага часу і пачынаецца пакутлівае жыццё дзесяцігадовага дзіцяці. Аднак пісьменнік не расчульваецца, апавядаючы пра невыносна цяжкія ўмовы жыцця свайго героя.

Да лепшых старонак першай кнігі належаць тыя, дзе аўтар перадае перажыванні маленькага Язэпкі, калі той назірае, як пан і яго найміты здзекуюцца з дваровых работнікаў і сялян Галынаўкі. Адарваны ад бацькоў, сяброў, хлопчык пачынае задумлівацца над убачаным, пачутым, імкнецца знайсці выйсце са становішча, у якое ён трапіў. Нарэшце ўцякае з маёнтка і трапляе да паўстанцаў.

У аповесці пісьменнік раскрыў унутраны свет падлетка, паказаў працэс фарміравання яго светапогляду. Карціна росту самасвядомасці героя намалявана ў творы на шырокім эпічным фоне, удумліва даследаваны і прааналізаваны сацыяльныя з'явы таго часу, падкрэслены ашуканчы характар рэформы 1861 года. Запамінаюцца вобразы работніцы Аўдолі, што па-мацярынску ставіцца да Язэпкі, і пастуха, дзеда Міхаля, які адкрывае хлопчыку вочы на навакольныя з'явы жыцця, расказвае народныя паданні пра адважных і смелых змагароў за шчасце і волю. Рэалістычна паказаны бяспраўнае жыццё сялян, выспяванне ў іх пратэсту супраць прыгнятальнікаў, створаны паэтычныя малюнкі прыроды роднага краю.

Паказ гістарычных падзей 1863 года складае змест аповесці «Кастусь Каліноўскі». Тэма і сюжэт аповесці непасрэдна звязаны з хвалюючымі палітычнымі праблемамі сярэдзіны мінулага стагоддзя, гісторыя, палітыка тут «уваходзяць» у сферу пачуццяў дарослых і дзяцей, уплываюць на іх жыццё, светаўспрыманне, ідэалы.

Трэба адзначыць, што аповесць «Кастусь Каліноўскі» цэментуе тэтралогію, выводзіць яе героя на гістарычныя прасторы жыцця. Кульмінацыя аповесці — яе апошнія старонкі. Каліноўскі бярэ кіраванне ўсімі паўстанскімі атрадамі. Мы бачым мужнага, з непахіснай верай ў народную справу, барацьбіта. Знаёмімся мы і з паплечнікамі і сябрамі кіраўніка паўстання, людзьмі высокіх гуманістычных ідэалаў, адукаванымі прадстаўнікамі моладзі таго часу.

Пісьменнік працяглы час працаваў над гэтай кнігай. Ён прарабіў велізарную працу па вывучэнню эпохі, звязанай з паўстаннем Кастуся Каліноўскага, выкарыстаў шматлікія архіўныя матэрыялы. Не выпадкова таму гэтая аповесць, па ліку другая ў цыкле, убачыла свет пасля аповесці «Канец сервітуту».

У аповесці «Канец сервітуту» падзеі адбываюцца ў час імперы-

ялістычнай вайны і напярэдадні Кастрычніка. Галоўны герой аповесці — падлетак Пятрусь, унук Язэпа Валовіча, удзельнічае ў падзеях, што адбываюцца ў вёсцы Галынаўка.

Па-мастацку перакана́ўча А. Якімовіч паказвае, як сяляне ставяцца да вайны, як фарміруецца іх самасвядомасць, як узрастае аўтарытэт партыі Леніна сярод працоўных.

Тэма аповесці сама па сабе не новая. Тагачасныя падзеі ды і лёс Петруся пры ўсёй сваёй непаўторнасці і самабытнасці нагадваюць лёс тысяч сялян, абуджаных рэвалюцыяй. Здавалася б, што можна яшчэ дадаць да таго, што сказана Я. Коласам, Зм. Бядулем, сучаснымі пісьменнікамі. Аднак А. Якімовіч у «Канцы сервітуту» нікога з іх не паўтарыў, не збіўся на пратаптаную папярэднікамі сцяжынку. Праўдзівасць апавядання, мастацкая пераканаўчасць пры ідэйна-эстэтычным асэнсаванні і ўзнаўленні падзей мінулага ў немалой ступені забяспечаны тым, што пісьменнік па-свойму глянуў на гэтыя падзеі. Вось чаму праз лёс сям'і Петруська Валовіча мы бачым не толькі жыццё вёскі Галынаўка, што на Міншчыне, але і жыццё сялян усёй тагачаснай Беларусі.

У крытыцы ў свой час адзначалася, што «Канец сервітуту» — твор аўтабіяграфічнага характару. Сапраўды, у аповесці заўважаецца супадзенне асобных дэталей біяграфіі аўтара з лёсам яе галоўнага героя. Аднак было б памылкова тлумачыць папулярнасць аповесці толькі значнасцю матэрыялу біяграфічнага характару і недаацэньваць мастацкія вартасці твора.

Дзеці палюбілі героя аповесці «Канец сервітуту» і пыталіся ў пісьменніка, ці сустрэнуцца яны ў яго новых творах з Петрусём Валовічам. Адказваючы на гэтае пытанне, Алесь Якімовіч гаварыў:

— Мне і самому хацелася, каб такая сустрэча адбылася. Я доўга думаў, як і дзе наладзіць яе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі я паступіў у вышэйшае пачатковае вучылішча. А чаму ж не мог зрабіць гэтага і мой герой Пятрусь Валовіч? І я паслаў свайго Петруся ў мястэчка на вучобу. Вышка, з якой цяпер ён глядзіць на свет, стала вышэйшай. А мне, як яго мастацкаму біёграфу, лягчэй было з гэтай вышкі маляваць яго вобраз. Так пісалася новая мая аповесць «Цяжкі год».

Прыкметныя рысы стылю і творчай манеры пісьма А. Якімовіча выявіліся і ў заключнай аповесці тэтралогіі. Як і ў папярэдніх творах, сюжэт тут нескладаны, да таго ж умела «схаваны» пісьменнікам, дзеянне разгортваецца павольна, аўтар не спяшаецца завяршыць гаворку, не сказаўшы, на яго думку, самага істотнага.

Галоўны герой аповесці намаляваны ў дзеянні, глыбока паказаны працэс сталення, псіхалагічна матываваны ўчынкі. Пісьмен-

нік імкнецца глядзець на падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі вачыма свайго героя.

Ёсць свая заканамернасць у тым, што Алесь Якімовіч прыйшоў да стварэння цыкла аповесцей пра далёкае мінулае. Пісьменнік з вялікай сыноўняй любоўю і павагай ставіцца да роднай зямлі, прыроды, жыцця. Радзіма А. Якімовіча — нічым непрыкметная вёска Чурылава Уздзенскага раёна на Міншчыне, якіх шмат на Беларусі. Але менавіта яна, з лясамі і палямі за ваколіцай, і ёсць тое самае найдаражэйшае месца, куды неаднойчы скіроўваецц (не толькі ў думках) былы вясковы юнак Алесь Якімовіч.

Тэтралогія Якімовіча — жывая часціна гераічнага мінулага, яна дапамагае юным чытачам глыбей пазнаць гісторыю народа і мацней палюбіць наша сёння. За аповесці «Адкуль ліха на свеце», «Канец сервітуту» і «Кастусь Каліноўскі» А. Якімовічу была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа за 1974 год.

Цікавая з'ява ў творчасці Алеся Якімовіча — яго вершаваная казка «Каваль Вярнідуб». У ёй маляўніча адлюстравана гістарычнае мінулае нашага народа, паказана сіла, гуманізм, імкненне да свабоды працоўнага чалавека. Добраму знаўцу народнай казкі А. Якімовічу ўдалося стварыць каларытны, паўнакроўны вобраз смелага змагара за лепшае жыццё для народа. Каваль Вярнідуб прыйшоў на старонкі твора пісьменніка з беларускіх казак і легенд, гэта вобраз збіральны, абагульнены.

Не менш цікавыя і празаічныя казкі А. Якімовіча — «Браты Лазоўскія», «Лянота», «Казка пра смелага Вожыка», «Казка пра каваля-асілка і дзяўчыну-лебедзь». У іх многа жыццёвай праўды і творчай фантазіі.

Камсамолец 20-х гадоў, салдат Вялікай Айчыннай вайны, Алесь Якімовіч і сёння ў страі, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, часта сустракаецца са сваімі юнымі чытачамі. У 1973 годзе А. Якімовіч прымаў удзел у міжнароднай сустрэчы дзіцячых пісьменнікаў. «Мне выпаў гонар,— гаворыць майстар дзіцячай кнігі,— выступіць ад імя нашай дэлегацыі. Я коратка расказаў, што мы ў сваёй рэспубліцы ствараем не толькі новыя арыгінальныя кнігі для дзяцей, а і ўзбагачаем сваю дзіцячую літаратуру перакладамі з іншых моў. Інтэрнацыянальная тэма, тэма дружбы народаў — характэрныя для нашай літаратуры, пачынаючы з першых твораў Янкі Маўра».

Кнігі А. Якімовіча не старэюць з гадамі. Разумны і шчыры сябар дзяцей, Алесь Якімовіч сваімі кніжкамі, якія вызначаюцца навізной і своеасаблівасцю аўтарскага бачання свету, знайшоў шлях да іх сэрцаў.

ІВАН РАЗАНАЎ

## НА АДЗІНОЦЕ

Сядзіць Сцёпка праз усе, без канца доўгія і нудныя для яго, зімовыя вечары на куртатай дубовай калодачцы. Завіхаючыся, перабірае бярозавы хвораст. Хопіць разгачык, прабяжыць па ім уздоўж руплівым гаспадарскім вокам і адразу заўважыць, дзе непарадак, што трэба паправіць, які лішні і непатрэбны гучок сцяць сваім складанчыкам, перш чым палажыць хварасцінку ў асобную кучку. А як вырасце такая ніштаватая кучка-горка, Сцёпка вяжа з яе венік. Спрытна расшчэпіць для перавясла гладкую і гонкую лазінку. Потым акуратна пераважа ў дзвюх мясцінах, каб было мацней і дзябёлей. Такі венік змяцецца на дзяркач, а не рассыплецца.

Складанчык Сцёпкаў зроблены са старога ржавага сярпа кавалём Павалам гадоў тры таму назад. Ён шануе яго, як вока: моцна прывязвае свой ножык за пятлю світкі, калі адыходзіць на ўвесь дзень у бярэзнік рэзаць хвораст для венікаў.

За гэтыя гады ножык зрэзаўся, выеўся на сярэдзіне, як старыя зубы ў іх гнедага. Толькі ж Сцёпка прылаўчыўся да нораву складанчыка. Заўсёды стараецца хапіць дубчык пяткаю, і пакуль ножык заесца шчарбатаю сярэдзінкаю, нават ніштаватая хварасціна не вытрымае, адскочыць ад пенчука, як сцятая касою чараціна.

Цьмяна гараць на камінку смалякі-дрэўкі. Няма каму падкладваць свежых.

Маці, завіхаючыся, прадзе кужаль. Спяшаецца, каб у час здаць гаспадару-заказчыку. Свайго не было. Нацерла

з паўпуда кастрывага пачасся [1], дык ужо даўно перапрала. Цяпер прадзе суседу Вінцэсю за бульбу ды за мякіну цялушцы, якую сяк-так агоралі летась купіць. Лядашчая, худая цялушка, але хоць надзея жыве, што можа ўдасца і кароўку мець, без якой так нагараваліся за гэтыя гады...

Малыя спяць, скурчыўшыся, у запечку.

У хаце ціха і маркотна. Сярдзіты вецер раз-пораз налятае з шырокіх аснежаных палёў на іх хатку, спыніцца тут, загудзе дзікім ветраным голасам, зашуміць у коміне ды імчыцца далей ад хутара ў цёмную пушчу, якая адна толькі і можа стрымаць яго гарэзлівасць.

Непадалёк, за густым дашчаным плотам суседа, часта брэшуць і выюць сабакі. Ім памагае і Сцёпкаў Шарык.

Сабакі брэшуць і выюць так сабе, без усякай прычыны, на ўзвей-вецер. Ды і сапраўды не любяць яны ветру. Сцёпка даўно заўважыў, што сабакі непакояцца больш якраз тады, калі вецер з асаблівай сілай пачынае заводзіць свае дзікія песні ў комінах і закутках.

Хутар асеў на самым высокім узгорку і здалёку выглядаў нібы шапка, надзетая на галаву гэтага ўзгорка. Праз акно Сцёпка часта пазірае ў цёмную лагчыну, дзе, нібы зоркі, блішчаць прывабныя агеньчыкі калгасных сяліб...

І такімі доўгімі зімовымі вечарамі вяжа Сцёпка венікі. Рыхтуецца на нядзельны кірмаш. Тады бацька запражэ яму ў развалкі гнедага і выправіць у мястэчка.

Толькі і радасці Сцёпку, што ў гэты дзень! Ён, як сталы мужчына, садзіцца спераду на развалках, дзе на самых канцах гнутых палазоў прымайстравана для гэтага знарочыстая лаўка, і едзе на кірмаш. Ззаду, за плячыма, ладны возік венікаў. Іх не менш сотні, тугіх, дзябёлых, разгатых, з буйнымі махрамі. З такімі венікамі не трэба доўга стаяць ды таргавацца.

Але не весяліць Сцёпку такая работа.

Вось ужо і канец зімы, а ён ніяк не можа забыцца пра сямігодку. Кожны раз, калі трапляецца ісці ці ехаць у будні дзень каля школьнага будынка, ён з прагнасцю ўпіваецца сваімі чарнявымі вачанятамі ў высокія і шырокія вокны, з-за якіх відаць дзесяткі галоў, уважліва скіраваных у адзін бок, дзе стаіць настаўнік і дзе каля сцяны разгарнулася прысадзістая чорная дошка.

Ён пазнае сярод вучняў і чыста абстрыжаную галаву

---

[1] Пачассе — кудзеля горшага гатунку.

Юзіка, які сядзіць ля самага светлага акна. Але Юзік чамусьці не адчувае Сцёпкавага позірку, ніколі не гляне на яго. Заўсёды або пазірае на настаўніка, або, прыгнуўшыся над партаю, нешта чытае ці піша.

Юзік — Сцёпкаў дружбак. Разам яны вучыліся і разам скончылі пачатковую школу. І ён не горш тады вучыўся за Юзіка.

З восені Сцёпка доўга нудзіўся, прасіўся ў бацькі, каб паслаў і яго ў сямігодку. Ды нішто не памагло.

— Пражыў я нявучаны, пражывеш і ты,— адказваў бацька.— Лепш венікі вяжы — карысць у гаспадарцы будзе.

Цяпер у Сцёпкі толькі адна надзея — калгас... Але ўсё зноў жа будзе залежаць ад бацькі. Адумаецца ён, пойдзе да людзей — усё будзе добра. Там будзе рабіць на сябе, а не на Вінцэся. Там людзі памогуць.

І Сцёпка чакаў вясны, як новага жыцця. Вясна, думалася яму, канечне, прынясе нейкую перамену. Бо няўжо бацька дзеля свайго «гаспадарства» яшчэ згодзіцца пакутаваць цэлае лета пры такім старэнькім коніку-недабойку, з паламанаю з'езджанаю снасцю, каб потым зноў галадаць? А што разжыцца на трох дзесяцінах пяску, якога даў яму Вінцэсь за шматгадовае парабкоўства,— не разжывешся. Праўда, цяпер Вінцэсь выхваляецца перад усімі сваёю дабратою.

— Хто б другі зрабіў так, на маім месцы будучы? — расказвае ён кожнаму і пры кожным выпадку.— А кажуць, я — такі-сякі... Кулак, кажуць. Які ж я кулак? Парабкаў не трымаю. Сам сваю зямлю аддаў беднаму чалавеку. Глупства кажуць!

Але тутэйшыя людзі добра ведалі, адкуль раптам вынікла ў яго гэтая дабрата. А вынікла яна гадоў чатыры таму назад, калі за парабкаў павялічылі яму падатак. Ды і пра абрэзку хутара загаварылі. І, вядома, маглі абрэзаць не ўзгоркі, якія больш пуставалі, чым засяваліся.

Вось у тыя часы і адбыліся гэтыя змены на Вінцэсевым хутары: аднаго парабка-бабыля ён адправіў, а Сцёпкавага бацьку, Трахіма, перасяліў з сям'ёю на пяскі.

ЗМОВА

Напрацаваўшыся за доўгі вясновы дзень, сям'я спіць моцным сном. Трахім страшэнна храпе, часта штосьці мармыча. Праз гэта Сцёпка доўга не можа заснуць.

Але найбольш даймаюць яго трывожныя думкі. Прыйшла вясна, а ніякіх змен у яго жыцці не адбылося, на што ён так спадзяваўся. Бацька ў калгас не пайшоў. Значыць, і гэты год будзе такім жа цягучым і нудным. І ён зноў застанецца на гэтай пустэчы, адарваны ад сяброў, ад школы, аб якой не пакідае марыць. У пачатку вясны ён нават хадзіў да старшыні калгаса дзядзькі Язэпа, прасіўся, каб прынялі аднаго, без бацькі. «Нельга, сынку,— спагадліва паківаў галавою дзядзька Язэп,— малыя яшчэ ў цябе гады, несамастойны яшчэ ты сам вырашаць такія справы...»

На гэтым яно і скончылася.

«Малыя гады» для Сцёпкі — другі бацька, з якім ён даўно не ў ладзе. Яны, нібы вострая костка ў горле, сталі ўпоперак і загарадзілі яму дарогу да жыцця.

Раптам Сцёпка прачынаецца ад сваіх думак-мараў: за акном нешта моцна зашастала... Ён устаў і асцярожна падышоў да шыбіны. Зірнуў — ніякай розніцы,— што на двары, што ў хаце. Цемень. Самыя сходнія дні. Ды і хмарыцца праз увесь час.

«Шарык маўчыць у будцы, відаць, проста пачулася»,— падумаў Сцёпка і неахвотна пацягнуўся назад у запечак, дзе ў брудных лахманах, у густой цяжкай духаце спалі малыя.

Стук-стук-стук! — ужо выразна пачуў Сцёпка, як дробна забарабанілі ў шыбу.

Ён падышоў да бацькі, крануў яго за плячо.

— Устань, тата, нехта ў хату просіцца...

Трахім спрасонку толькі мацней замармытаў ды павярнуўся на другі бок.

— Тата, тата, уставай! — павысіў голас Сцёпка, тузаючы бацьку за плячо.

Другі раз забарабанілі ў раму. Глухія гукі трывожна рассыпаліся па хаце.

Калі бацька раскатурхаўся ды разабраўся, што хоча ад яго Сцёпка, ён уссунуў набасанож свае падраныя апоркі, дастаў з пячуркі кляновую качалку для большай смеласці і выйшаў у сенцы.

— Хто там? — запытаўся нерашуча.

— Ды гэта я, суседзе...

Пачуўшы знаёмы голас, Трахім паставіў у куток кляновую качалку і адсунуў драўляную засаўку.

— А хто ж тут яшчэ? — заўважыў ён другую высокую постаць, якая варушылася за Вінцэсем, нібы яго цень.

— Свае, братко, свае...— сказаў Вінцэсь, шукаючы вобмацкам высокі малазнаёмы яму парог Трахімавай хаты.

Але гэты парог усё ж падвёў Вінцэся. Правая нага яго, перанесеная цераз парог, уваліласяў нейкую нетру раней, чым паспеў ён падняць левую. Вінцэсь старчма кульнуўся ў яму, на месцы якой мусіла быць падлога з дошак ці ток з гліны.

— А-ая-яй!.. Як жа гэта, пане Вінцэсю, так неасцярожна?! — кінуўся перапалоханы Трахім падымаць яго.

— У чужым доме, як у лесе...— прагаварыў Вінцэсеў цень.

Па голасу Трахім пазнаў у ім старшага агранома раённага зямельнага аддзела Рамана Баравіка: ён неаднойчы гасцяваў у Вінцэся на хутары.

У сенцах ніякага памосту не было. Вінцэсь таму лішне і не выцяўся.

Але цяпер ён ужо не спускаўся навобмацак, а моцна ўплёўся за зрэбную Трахімаву кашулю і так перайшоў другі парог, што вёў у хату.

У хаце Трахім запаліў газовачку.

— Пастаў, братко, у пячурку, няхай лішне не блішчыць,— параіў Вінцэсь.

Трахім быў прыемна здзіўлены. Ніколі не чуў ён ад Вінцэся такіх далікатных слоў: «братко», «суседзе»... А самае важнае — поначы з ім прыйшоў у Трахімаву хатку і сам старшы аграном.

— Калі ласка, таварыш Баравік, сядайце,— далікатна запрашаў гаспадар.

Ён адсунуў з лавы лахманы і паказаў на ачышчанае месца ля стала.

Баравік і Вінцэсь прыселі. Сядзелі моўчкі, усё неяк не адважваючыся пачаць тае гаворкі, якая толькі што ў іх адбылася, каб увесці ў курс справы Трахіма, для іх цяпер такога блізкага і жаданага.

Трахім жа спадзяваўся пачуць першае слова ад гасцей і таксама маўчаў.

Нарэшце загаварылі, бадай, усе разам.

— Ці не здарылася што? — пачаў першы Трахім.

— Бяда, братко-суседзе...— паціху адазваўся Вінцэсь, разводзячы рукамі.

— Ну вось і разгаварыліся,— усміхнуўся Баравік.

— У-га! Дай ты рады. Хіба ж першы дзень мы з Трахімам жывём. Ён жа выгадаваўся ў мяне, ажаніўся пры мне.

— І гаспадаром зрабіў яго,— дадаў Баравік.

— Але ж. У Вінцэся я жыў і рабіў з усёю сям'ёю. А цяпер я — гаспадар! — адказаў Трахім, задаволены тым, што сам райзоўскі аграном назваў яго гаспадаром.

Трахім з самага малку служыў у Вінцэся за парабка. Пра гаспадарку сваю раней ён мог толькі марыць. А гэта — Трахім гаспадар! У яго свой конік, цялушка і тры дзесяціны зямлі. Нават і снасць сякая-такая заводзіцца. Праўда, туга пражыць, нястача. Прыходзіцца шмат рабіць у Вінцэся, каб як-небудзь перакідацца з зімы на лета з малымі дзецьмі. Але гаспадарка для Трахіма цяпер засланіла ўсё.

Вось толькі з старэйшым сынам, Сцёпкам, нелады пачаліся.

Нядаўна, калі зайшла гаворка пра калгас і Трахім выставіў перад сям'ёю ўсе свае довады супроць калгаса, Сцёпка сказаў злосна:

— Гаспадар! Які ты гаспадар? Саромеўся б гаварыць. Табе Вінцэсь знарок гары даў і выжараў [1], каб ты нікуды ад яго не пайшоў, а тут з голаду пух і да яго прасіць хадзіў хлеба на адработак. Няўжо ты гэтага, бацька, не бачыш? Пра гэта ж усе людзі гавораць.

Так усё адкрыта і сказаў!

Ох, гэты Сцёпка! А яшчэ, кажуць, з калгаснымі піянерамі ды камсамольцамі ссябраваўся...

...У падпечку ўжо праспяваў певень, калі Вінцэсь з Баравіком пакінулі Трахімаву хату.

## КУЛЯМЁТ

Назаўтра Сцёпка гарэў, як у агні. Работа не спорылася. Усё валілася з рук.

Зранку бацька паслаў яго араць.

— Калі добра ўтне заедзь [2], тады вернешся,— сказаў бацька.— Мне трэба памагчы Вінцэсю, прасіў...

[1] Выжары — зямля, на якой выпалены лес або хмызняк.

[2] Заедзь — машкара.

Сцёпка нічога не адказаў, але сэрца яго затахкала мацней, нібы нешта адарвалася ўсярэдзіне, і ён саслабеў ад гэтага раптоўнага здарэння.

«Ведаю, якой помачы чакае ад цябе Вінцэсь...» — падумаў ён сам сабе.

Праўда, гаварылася ўчора пра гэта шэптам. Але Сцёпка чуў, а што недаслухаў — здагадаўся. Дарэмна яны думалі, што ўсе спяць. Ён хроп толькі для таго, каб увесці мужчын у зман. Бо хіба ж не цікава было паслухаць пра такія рэчы?

Затое сёння і пакутуе праз гэта Сцёпка.

Рукі не слухаюцца яго, трасуцца, а з'араны, лядашчы плужок з тупым нарогам бразджыць па жарстве, енчыць ды, здаецца, як жывы, просіць ратунку. Пясок перасыпаецца цераз кароткую акладню, засцілае разору. Здаецца, не арэ ён, а проста толькі разграбае зямлю, як сахою-абганянкаю. Чуць дзе натрапіць плужок на камень, тузанецца і вышчаўкне з разоры. Тады конік, рады, што палягчэла, пускаецца траха не бегма да канца палосы.

— Стой, каб цябе ваўкі растрыбушылі! — крычыць Сцёпка на каняку. Хапаецца з усёй сілы за лейчыну і крута зарывае гнедага на бок. Варочаецца назад, запускае нанава плужок у разору, усхліпвае ад крыўды і жалю ды зноў «нукае», глытаючы слёзы.

Конік Трахімаў стары, адны рэбры, але яшчэ рухавы і заложны [1]: цягне да ўпаду. Сцёпка празваў яго «раргара».

Трахім ужо даўно збіраецца памяняць каня, якога купіў да часу — «пакуль разжывецца». Ды ўсё не выпадае «разжыцца». Цень-нацень ніхто мяняць не хоча, а на прыдатак ніяк не сабрацца. Так яно і жывецца. Перагаруеш вясну,— там лягчэй. А пра восень ніколі не думаў Трахім. Ён чалавек набожны і ўсе клопаты ў такім разе спіхваў на бога. «Эт,— кажа ён, каб апраўдаць перад людзьмі сваю беднасць і нядбайства,— навошта мазгі сушыць: бог бацька, яму відней...»

Сцёпка не дачакаўся «заедзі», уставіў плуг у драўляны палазок ды падаўся памалу дахаты. «Сёння ж пайду да Юзіка»,— вырашыў ён.

Сонца пасылала зямлі свае астатнія прамені. Захад загарэўся ружовым агнём, які пераскакваў з хмаркі на

---

[1] З а л о ж н ы — упарты, цягавіты.

хмарку, а потым асядаў, зніжаўся ды адступаў услед за сонцам.

У паветры павеяла вільготай. Пахла маладою зелянінай. Пах кветак змешваўся з пахам свежай раллі пад ярыну, з свежым гноем, што не паспелі заараць за дзень.

Адступіўшы колькі крокаў ад хутарской сядзібы, роўнаю сцяною прылягае да Вінцэсевага поля калгасны палетак. А за палеткам, каля старой школы, у канцы вёскі — цэнтр калгаса. Тут будуецца вялікі будынак для новай школы, клуба і дзіцячых ясляў. Там горы бярвення, цэглы і гліны.

Сцёпка выйшаў з хутара і падаўся ў калгас. Ён не можа доўга вытрымаць, каб не пабачыцца з сваім сябрам. Юзік так многа ўсяго ведае і так цікава расказвае. Ён любіць расказваць аб тым, як стварылася зямля, пра зоры і сонца. Якія дзіўныя жывёлы ёсць на зямлі і дзе яны водзяцца. Усё гэта ён ведае з кніжак, па якіх вучацца ў сямігодцы, і не толькі Сцёпка,— усе слухаюць яго ахватней за модныя вальсы і тустэпы славутага скрыпача Гароіма. А на хутары што пачуеш ці пабачыш? Сыны Вінцэсевы ўжо вялікія, дык якое можа быць у іх сяброўства? Дома ж надакучае забаўляцца з меншымі ды слухаць бацькавы згрызоты.

Мінуўшы колькі першых ад школы будынкаў, Сцёпка звярнуў на знаёмае прыгуменне. Гумно было адчынена насцеж, і Сцёпка, не мінаючы, заглянуў у яго.

— Добры вечар, Юзік! — узрадаваўся ён, убачыўшы свайго сябра.

Юзік стаяў пасярод тока, углядаючыся на нейкую скрынку.

— Што гэта за катрынка [1] ў цябе? — запытаўся Сцёпка, здзіўлена ўтаропіўшыся на скрынку.

— Машына! — бойка адказаў Юзік.

— Машына? — перапытаў Сцёпка.

Такой машыны ён яшчэ не бачыў — ні ў калгасе, ні ў саўгасе. Гэта — проста нейкая скрынка на ножках, падобная на конскі жолаб. Але пры чым тут вялізная лямпа збоку? Вось дык машына!

Сцёпка аглядае «машыну», а Юзік стаіць, ухапіўшыся рукамі за жывот, і качаецца ад смеху.

— Асцярожна, а то разарве! — жартуе ён.

---

[1] Катрынка — скрынка з корбай, на якой гралі музыкі-вандроўнікі.

— А ліха яе ведае, можа з порахам? — кажа збіты з панталыку Сцёпка.

— Тут, брат, такі порах, што як разарвецца, дык не будзе дзе дзецца. Жывыя кулі пасыплюцца! — рагоча Юзік.

Смех яго такі сяброўскі і шчыры.

— Ну, не жартуй, што гэта?

А Юзік рад сваёй выдумцы, страшыць Сцёпку:

— Гэта, брат, кулямёт. Прыходзь заўтра, паглядзіш, як ён будзе страляць... курапятамі!

Юзік шпарка падскочыў да «машыны», хапіўся за верхні столік і высунуў яго са скрынкі:

— Вось якімі кулямі зараджаны!

— Ды гэта ж — яйкі! Самыя звычайныя! — закрычаў ашаломлены Сцёпка, нібы ён зрабіў вялікае вынаходства.— Для чаго яны тут?

Юзік перастаў смяяцца, паглядзеў сур'ёзна на Сцёпку ды паківаў галавою:

— Дзік ты, Сцёпка. Жывеш, як воўк у лаўжы.

А потым зноў весела засмяяўся:

— Гэта такі машына. Яна будзе выводзіць нам курапят. А я — ну... рабочы, як бы машыніст. Цяпер разумееш?

— Нічога не разумею!.. — адказаў разгублены Сцёпка.

— Ну, брат, раней, у школе, ты лепш за мяне ва ўсім разбіраўся, а цяпер я буду вучыць цябе, так і быць. Гэта — інкубатар. Чуў калі пра яго?

— Першы раз, таварыш настаўнік,— шчыра прызнаўся Сцёпка.

— Дык слухай уважліва, бо за нядбайнасць пакіну без абеду на ўвесь вечар аднаго ў класе,— падрабляючы голас настаўніка, у якога яны раней вучыліся, гаварыў Юзік.

— Буду слухаць, таварыш настаўнік...

— Вось столікі: адзін, два, тры, чатыры,— пералічыў Юзік.

— У кожным па пяць дзесяткаў яек. А за квахтуху тут служыць вось гэтая машына,— паказаў ён на лямпу з боку інкубатара.

— Ну, і што з таго? — усё яшчэ не разумеў Сцёпка.

— А тое, што скрынка інкубатара зроблена шчыльна, туды трапляе цяпло ад лямпы, а гэта ўсё, што трэба, каб вывеліся кураняты. І мая машына не падгадзіць. Пры доб-

рым доглядзе праз тры тыдні мы маем дзве з палавінаю сотні куранят. А потым яшчэ гэтулькі, і яшчэ, і яшчэ... Выводзь, колькі хочаш! Вунь, зірні, які даміна будуецца для гэтай арміі,— паказаў Юзік на загуменне.

І сапраўды, там узвышаўся дашчаны гмах траха не на цэлыя ганкі. Ужо выведзены сцены і пастаўлены кроквы. Жоўтыя чыстыя дошкі зіхацелі ў бляcках патухаючага дня.

— На наш невялікі калгас,— кажа Юзік,— гэта размах. Мы ж толькі нядаўна пачалі жыць калгасам, а ўжо глядзі, што робіцца. Адна курыная гаспадарка якая! І які за курамі догляд? Малыя будуць даглядаць іх улетку.

Юзік зусім нібы змяніўся. Гэта не той маўклівы, задуменны прыяцель, якога ведае Сцёпка па школе. Сцёпка здружыўся з ім тады, бо абодва яны былі адной натуры. А цяпер нейкая прорва вырастае паміж імі, і што далей, усё больш шырыцца гэтая прорва ды разлучае іх.

— А ты бачыў наш сапраўдны завод? — запытаўся Юзік.

— Які?

— Ужо канчаем вунь будаваць,— махнуў ён рукою ў бок рэчкі.

— Дык гэта ж млын!

— А якая розніца? — не здаваўся Юзік.

На дварэ змяркалася. З бліжэйшага балотца галасней закрумкалі жабы. Гэта іх звычайная вячэрняя песня. Потым з поля пачулася палахлівае ржанне жарабяці, якое, відаць, адстала ад маткі. У суседняй вёсцы заспявалі дзяўчаты. Нічога не разабраць з іх песні, толькі бясконцае «до-о-о» далятае праз балота да Алёхаўкі. Дзяўчаты свайго не даруюць. Праз усё лета збіраюцца яны вечарамі на вуліцы, каб праспяваць на сон адну-другую песню. Без гэтага не заснеш.

— Боркаўскія ўжо сакочуць,— сказаў Сцёпка.— Нешта ж вашы маўчаць?

— Нашым яшчэ не пара. Звычайна, калі боркаўскія сціхаюць, тады пачынаюць нашы.

— Добра. Нечага не замінаюць адны адным,— засмяяўся Сцёпка.

— Хадзем у хату,— паклікаў Юзік, зачыняючы гумно.— Газы павінна хапіць на ноч, а заўтра канчаецца час. Прыходзь паглядзець на маю армію!

— І ты — курыны камандзір!— зарагатаў Сцёпка. А сам шчыра пазайздросціў таварышу.

І тут жа замоўк, раптоўна заглушыўшы вясёлы настрой, які перадаўся яму ад Юзіка. Успомніў учарашні вечар. Хацелася сказаць аб гэтым, але чамусьці язык не варушыўся: у гэтай жа хеўры і яго родны бацька!

— Павячэраем ды сходзім да школы,— сказаў Юзік,— там сёння сход. І ведаеш які?

— Не,— адказаў заклапочаны Сцёпка.

— Цябе будзем у калгас прымаць! Чуў?

— У цябе дзіва за дзівам,— пацісnуў плячыма Сцёпка.— Аднаго, без бацькі, мяне не прымуць...

— Усё робіцца як не трэба лепш для нас і для цябе. Мы хочам пашырыць свой калгас. Не можа пад бокам калгаса жыць кулак. А наравісты твой бацька нідзе не дзенецца — адзін не ўстаіць.

— Ну пэўна ж,— згаджаецца Сцёпка, весялеючы ад гэтых слоў.

Яны выйшлі з гумна і падаліся дахаты.

## СХОД, ЯКОГА НЕ ЧАКАЛІ...

Калі хлопцы павячэралі і выйшлі на вуліцу, ужо зусім змерклася. Цёмныя фарбы ночы згусціліся і застылі ў нерухомасці сярод зялёных садоў і шэрых будынкаў вёскі. Неба выглядала бязмежным рэшатам з бліщчастымі малюсенькімі дзірачкамі-зоркамі. Ноч неяк увачавідкі, раптоўна апусцілася на спакойную зямлю і пачала закалыхваць яе.

Каля старых кучаравых ліпаў кішма кішэлі хрушчы. Ліпы гаманілі, як жывыя. А ўздоўж вуліцы, над галовамі хлопцаў, спраўлялі свае пагулянкі вёрткія жартуны-кажаны.

З-пад школы ўжо плылі на хвалях вячэрняй цішыні звонкія пераліўныя гукі дзявочых песень.

— Ужо і вашы падалі галасы,— кажа Сцёпка.

— Але. Як жа ім уседзець дома ў такі час?

Хлопцы крыху памаўчалі, думаючы кожны пра свае справы. Потым Юзік сказаў гаспадарлівым тонам:

— Добрая пагода. Заўтра сеялку пусцім. Каля трыццаці гектараў узарана пад адзін толькі авёс. Ведаеш, колькі гэта? Усе ніўкі аблажылі. Вось, брат, лавішча, і чыстая, роўная, хоць ляж ды качайся. Без межаў, без дарог,

— Ну, калі зародзіць, то будзе на чым разгарнуцца,— перапыніў яго Сцёпка.

— А дзе яно дзенецца? Гною навазілі і глыбока пара конными плугамі зааралі. Зародзіць!— упэўнена адказаў Юзік.

Ля школы весялілася моладзь.

Ох і біла ж мяне маці,
Навуча-а-а-ла-а-а,
З камсамольцамі гуля-я-яць
Не пускала-а-а-а...

Гэта спявалі дзяўчаты.

І тут жа нечы хрыпаты мужчынскі голас заглушаў высокія ноты:

Калі ласка, калі ласка,
У нас заўсёды месца ёсць.
Не саромейся, Параска,—
Ты для нас жаданы госць...

А потым заспявалі ўсе без ладу і парадку,— як хто мог і хацеў. Стварыўся такі гоман, у якім можна было пачуць толькі адзін неразборчывы крык.

Былі ў бацькі тры сыны,—
Д'э-э ух я!
Ды ўсе трое Васілі,—
Д'э-э ух я! —

не сцярпеў, заспяваў і Юзік, калі падышлі да гурту.

Маладыя пачапляліся на плоце ля школы, а старэйшыя масціліся насупраць, праз вуліцу, на сціртах бярвення. Мужчыны таксама крычалі, аб нечым спрачаліся. Але песні маладых заглушалі іх крыкі. Праз гэта яны злаваліся і заклікалі Язэпа хутчэй супакоіць людзей ды пачынаць сход.

— Хлопцы, дзяўчаты!— моцна загукаў дзядзька Язэп.

Да яго голасу спачатку патроху прыслухоўваюцца хлопцы і адзін за другім канчаюць песню. А потым ужо самі, набраўшыся сур'ёзнасці, крычаць на дзяўчат:

— Ціха, каб вам, сакатухі!.. На заўтра крыху песень сваіх пакіньце...

Нарэшце ўсе заціхлі. Галасы ўтаймаваліся, знізіліся, аж да спакойнага шэпту.

Да парадку на сходах ужо трохі прывучыліся. Бо праз цэлае мінулае лета цягам цягнуліся сходы. Толькі ўвосень стварыўся калгас. І ў першы раз летась пахавалі на адным палетку межы ды засеялі жыта. Колькі было га-

воркі, пакуль крыху асвойталіся ды прывыклі да новага ладу жыцця! А цяпер думкі ўсіх скіраваны да аднаго — збудаваць такі калгас, каб усе суседзі падзівіліся!

Так, калгас «Перамога» ўжо можа ганарыцца. Збудаваны вялікі вадзяны млын, якому зайздросціць уся ваколіца. Ля школы вырастае гмах «дома культуры» (такую назву гэтай будове даў Юзік). Рыхтуецца бярвенне на абору для кароў.

Калі ўсе ўціхамірыліся, дзядзька Язэп загаварыў спаважна:

— Сёння, мужчынкі, мы сабраліся вырашыць адну вельмі важную справу. Вы ўсе ведаеце, што наш сусед, Вінцэсь, мае шмат зямлі. Дзе ні ткніся — Вінцэсь! Сенажаць — у яго, лес — у яго, выган — у яго. Мы стаім за тое, каб наш сельсавет перайшоў на суцэльную калектывізацыю, каб уся зямля была пад калгасамі...

— Дык што важней — Вінцэсь ці калгас? — падаў голас пастух Мікіта, перапыніўшы Язэпа.

— Але ж, але ж, дакуль гэта ён будзе тут раскашавацца?! Даволі набраўся з нас штрапаў. Плюнеш — на яго поле трапіш, і штраф плаці,— перабівае Мікіту пчаляр Адам, якому дужа даліся за век у знакі штрафы ды адработкі Вінцэсю за розныя патравы.

Сход захваляваўся. Траха не ў кожнага знайшлося за што ўспомніць Вінцэся нядобрым словам. Тыя, што з ім жылі раней па-суседску, маўчалі: не лаялі яго і не хвалілі.

Сцёпка стаяў збоку каля плота і слухаў гэты шум, як найпрыгажэйшую ў свеце музыку. Так, цяпер скончыцца ўсё, як і казаў Юзік! Вінцэсеву зямлю аддадуць пад калгас, а бацька адзін не ўстаіць на дарозе, па якой рушыць грамада. Туды або сюды, а саступіць...

— Ціха, мужчыны, дайце скончыць,— супакойвае людзей дзядзька Язэп.

Шумлівая паводка памалу спадае, цішэе, нарэшце ўсё зноў уваходзіць у свае берагі.

— Мы сёння павінны гэта вырашыць ды паслаць сваю просьбу ў раён. Тут з намі якраз і прадстаўнік з зямельнага аддзела таварыш Баравік, якому мы і дамо наконт гэтага слова. Калі ласка, таварыш Баравік,— запрасіў Язэп старшага агранома.

Раман Баравік выйшаў на сярэдзіну, кашлянуў, расшпіліў верхні гузік свайго даўгога бобрыкавага паліто ды загаварыў устрывожаным, заікастым голасам:

— Я... я, мужчынкі, з дарагой душы-ы-і рад вам дапамагчы-ы-і... Але ёсцека цвёрды закон, якога мы не маем права парушаць. Закон кажа: адбіраць зямлю ў кулакоў можна толькі на аснове суцэльнай калектывізацыі... Чулі? Дык вось? А Трахім хіба ў калгасе? І ён жа не кулак?..

— Не,— адказала некалькі галасоў.

— Ну, тут і загваздка... А сілаю Трахіма прымусіш уступіць у калгас?

— Нашто яго прымушаць — сам прыйдзе,— выгукнуў Юзік.— Прымем Сцёпку, возьмем яго часць, дык бацька нідзе не дзенецца...

— І гэтага нельга зрабіць,— тут жа адказаў Баравік.— Я ўжо думаў... Сын малы, а стары не хоча ісці ў калгас. Што ж, трэба мірыцца, бо пра Вінцэся і гаворкі не можа быць, пакуль Трахім жыве асобна, на хутары...

Усіх гэта так уразіла, што адразу ж пасля слова Баравіка нібы лопнула парахавая гара. Сход загаманіў на розныя лады. Успомнілі сваё ранейшае, калі справы вырашаліся не галасаваннем, а крыкам: хто каго перакрычыць — таго верх.

Крычалі ўпарта, доўга.

— Нічога, таварышы, не зробіш, калі такая справа,— сказаў нарэшце дзядзька Язэп.— Мы не супроць закону. Але... нешта не верыцца... Раз адзін несвядомы падкулачнік не ў калгасе, дык мы праз гэта мусім сціскацца і трымаць ворага пад бокам? Га?

Людзі разышліся без пэўнай пастановы. Адчувалі ўсе, што тут нешта не так, але закон, вытлумачаны Баравіком, быў ясны і просты.

* * *

Сцёпка ішоў дахаты адзін маркотны і злы. Усё сталася так, як не павінна было быць.

Ён не адважыўся, у яго не хапіла смеласці расказаць пра Баравіка.

«Эх, Сцёпка, Сцёпка, ты — нікчэмны баязлівец,— нібы шэпча яму голас сумлення.— Ты ведаў тое, чаго не ведаў сход. Чаму б табе не выступіць і не сказаць: «Таварышы калгаснікі! — і Сцёпка добра чуе свой упэўнены голас, якім ён павінен быў гэта сказаць.— Баравік — Вінцэсеў хаўруснік. Яны ўгаварылі бацьку цвёрда трымацца свайго хутара. Зямлі дакляравалі прыбавіць. І гэта толькі пры-

чэпка, што бацька не ў калгасе. Гэта закон, прыдуманы самім Баравіком! Так, Сцёпка,— дакарае яго гэты голас,— ратуючы бацьку, ты здрадзіў Юзіку, здрадзіў калгасу...»

## КАСАВІЦА

Лета ўбіралася ў сілу...

Усе, старыя і малыя, высыпалі на сенажаці.

Касавіца ў поўным разгары.

Мужчыны ахвотна налягаюць на косы, завіхаюцца, каб да вечара аблажыць куты Зарэчча. Ужо не так шмат і засталося. Трэба спяшацца, бо ўся работа яшчэ наперадзе. Жыта вось-вось папросіць сярпа. А там — ячмень тапырыць свае калючыя вусы. За ім і аўсы пачынаюць шапацець густымі ды буйнымі веццямі.

Гарачы час настаў для калгаса «Перамога»!

Дзядзька Язэп наперадзе ідзе, рэй вядзе. А за ім пяцьдзесят шырокіх роўных дарог-пракосаў высцілаецца. Свішчуць сталёвыя косы, сыплецца звон ад мянташак.

— Хлопцы, пацей, здаравей будзе для касцей,— жартуе Язэп, азіраючыся, што хлопцы крыху змарыліся і за ім не паспяваюць.

А і сапраўды цяжка даганяць дзядзьку Язэпа!

Некалі ён адзін скошваў траха не ўсё панскае Зарэчча на чацвёртую часць.

Язэп — бядняк, жыў у вёсцы, як куткавы. Карміўся са сваіх рук. Усё рабіў на часць. І зямлю ўрабляў, і сенажаці касіў на часць. І пастаянна трэба было рабіць за чатырох, каб мець хоць крыху на аднаго. Таму і прывык ён рабіць усё завіхаючыся.

Важны работнік дзядзька Язэп. Няма тае работы, дзе ён не дапаможа, чаго не ведае. І любяць за гэта калгаснікі яго, шануюць і паважаюць, як старэйшага і шчырага работніка. Затое ўжо не сцярпіць ён, калі хто загультаіць.

— Сэрца маё не дазваляе бачыць гэтага,— кажа дзядзька Язэп гультаю.— Робіць, як мокрае гарыць...

Гэта адразу збівае з панталыку кожнага, да каго гавораццa такія словы.

— Пакурыць, хлопцы! — заклікае касцоў Язэп, давёўшы пракос-шнур да рэчкі, дзе красаваўся новенькі, толькі што адбудаваны млын.

Мужчыны, па чарзе, даганяюць пракосы да берага,

мыюць у рэчцы косы, выціраюць іх насуха і засоўваюць у вільготную траву,— няхай і яны адпачнуць.

Паволі бераг ажывае. Цэлымі хмарамі сцелецца кучаравы дым, махорка пяршыць у горле, і мужчыны моцна кашляюць.

— А помніце, хлопцы, як мы нядаўна кожны год ваявалі на гэтым беразе? — пачынае гаворку Язэп.— І дагэтуль рубцы не пасыходзілі...

...Так, было калатні за гэты бераг! Зарэчча раней належала пану Альхіровічу. Потым, пасля рэвалюцыі, яго аддалі алёхаўцам.

Дзялілася яно кожны год паміж беднейшымі. І кожны год у час касавіцы цэлымі днямі грымеў бераг, калацілася балота. Усякі лічыў, што яго крыўдзяць, абкрадаюць сярод белага дня, што другім даюць большы і лепшы кавалак. І не раз, каб развязаць спрэчку, пускаліся ў ход нажы і косы... Тады на балота прыходзіў увесь сельсавет і вырашаў, каму, колькі і дзе касіць. Мужчыны к гэтаму часу таміліся, здаваліся ў спрэчках і браліся за работу, коса паглядаючы адзін на аднаго, як на ворага.

Бывала, толькі зімою, калядамі, за чаркаю мірыліся «ворагі». А налета музыка зноў пачыналася спачатку...

Дзічыла і губіла людзей мізэрная ўласнасць.

Мужчыны пакурылі, пагаманілі пра млын, які ўжо гатоў і чакае толькі млынара, паскардзіліся на Баравіка, што без дай прычыны чамусьці абараняе Вінцэся, і пачалі даставаць з травы свае косы.

— Вечар блізка, хлопцы, сонца на седала спускаецца. Трэба завінуцца,— сказаў Язэп, пачынаючы новы пракос.

А з другога боку Зарэчча стракацілася ад жаночых хустак. Мужчын там было мала. Яны, як буслы, высіліся на стагах, а бабы і дзяўчаты падносілі і падавалі ім на стагі сена. Тут жа завіхаліся і дзеці — начыста падгрэбвалі пакос.

Песні дзявочыя запаўнялі і ажыўлялі бераг з гэтага боку.

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Трахім пабудзіў Вінцэся яшчэ на досвітку. Учора яны згаварыліся — канечне, што б там ні было, агарадзіцца ад калгаснага палетка.

— Выгарадзім, братко, сваё, як у пастаўніку жыць будзем,— сказаў Вінцэсь Трахіму.— Яно не так і многа. Тыдні два раніцамі падбяжым — і ўсё...

— Але,— згаджаецца Трахім.— Толькі вось... людзі смяяцца будуць... Ніколі такіх платоў не гарадзілі...

— Хэ,— кажа Вінцэсь.— Хто будзе смяяцца? Якія гэта людзі? Ці ж яны гаспадары, як мы з табою, суседзе?

— Але,— зноў згаджаецца Трахім, панурыўшыся.

Напакавалі два вазы сухога жэрдзя і калоў ды павезлі за сядзібу.

Калгасная ярына шырокаю жоўтаю сцяною падыходзіла да мяжы, дзе пачыналася хутарская сядзіба. Густы буйны авёс «залаты дождж» прыемна спявае сваю аднастайную аўсяную песню пад ціхі шэпт палявых вятроў.

Добры авёс зарадзіў! Каліва ў каліва. Пасеялі адборным насеннем, і не рукамі, а сеялкай, роўнымі, як пад шнур, радамі.

Глядзіць Трахім на шырокі палетак калгаснага аўса, потым крадком перабягае вачыма на свае лысыя горы, дзе нават грэчка і тая села макам. Зайздрасць бярэ, за сэрца штосьці шчыпле. Але мацуецца і не паказвае выгляду перад Вінцэсем, каб той не загневаўся. Увесь век ён наравіў Вінцэсю, і гэта ўвайшло ў прывычку.

Вінцэсь зачэсвае калы і таксама аб нечым думае. Ён чалавек спакойны, разважны і хітры. Ён добра расставіў карты і ўсе казыры згроб у свае рукі... Цяпер толькі застаецца даць ход гэтай справе. Аднак усё павінна быць зроблена без яго. Праўда, Вінцэсю яно будзе сёе-тое каштаваць, але хіба так многа ўжо будзе затрат?

— Дык, значыцца, кавалак сенажаці каля хвойніку і ялавіна [1] каля барка — твае, братко...— ціха гаворыць Вінцэсь.— Баравік — чалавек свой... Ён за нас... за мяне і цябе, значыцца. І за гэта ты павінен дзякаваць мне. Але мы з табою — што? — свае людзі,— памяркуемся. Я ўжо так пастараўся, каб Баравік за нас з табою пастаяў, дзе трэба. Вясною як сказаў слоўца на сходзе, дык адразу ўсім дух і мову заняло. Як рукою ўсю бяду зняў. Але гэтага мала, братко, мала. Пакуль у нас пад бокам калгас, я не магу спаць спакойна.

«Нешта ты языком-то мелеш, што дам, дам, а ўжо каторая пара і нічога не даў»,— падумаў Трахім, заганяючы

[1] Ялавіна — няўробленае, запушчанае поле.

ў зямлю востры кол. Хацелася напомніць, неяк дагаварыцца ясней.

— Яно ж так,— кажа Трахім,— я гаспадар... і ты гаспадар... і мы гаспадары...

«Гаспадар! Які ты гаспадар?» — пачуўся знутры голас сына.

«А і праўда, сказаў я не тое,— падумаў Трахім.— Якая ты мне раўня!»

— Але, братко,— гаварыў далей Вінцэсь,— не пераможам мы, дык перамогуць нас, гаспадароў. І хто? Галота!..

Крыўда ахапіла Трахіма за гэтае слова. Гэта ж яго роднае слова, ён век зжывае, злучаны з гэтым словам.

«Заблытаўся ты, мусіць, Трахімка...» — мільганула думка. Ад гэтай думкі яшчэ горшая злосць апанавала яго. На каго гэтая злосць? Трахім і сам не можа разабрацца. І на сябе, што неяк усё не ў лад выходзіць, і на ўсіх людзей. Але больш на Сцёпку. Каб не дапякаў ён, жыў бы чалавек спакойна і клопату не меў. А ён узварушыў думкі, даняў да сэрца словамі: «Гаспадар? Сароме́ўся б гаварыць...» Цяпер нідзе няма ні месца, ні супакою. Усё стаіць, як нейкая назойлівая здань, уваччу Сцёпка і бесперастанку паўтарае адно і тое ж.

«Разарву, сваімі рукамі разарву яго...» — бянтэжыцца ў думках Трахім. Цела яго пачынае калаціцца, як у трасцы, галаву ахапляе гарачка. Нібы варам апякло цяжкія неразварушаныя мазгі. Сэрца застукала моцна-моцна, вось-вось, здаецца, вырвецца з-пад бруднай зрэбнай кашулі ды пусціцца наўцёкі ад свайго гаспадара. Ён хапаецца рукою за кашулю і апускаецца на мяжу.

— Што з табою, суседзе?

Трахім вылупіў на Вінцэся мутныя, асалавелыя вочы, хацеў крыкнуць нешта грознае і важнае, але язык зноў адразу заблытаўся, і ён толькі прагаварыў, як ранейшы парабак:

— Нездаровіцца нешта...

— Дык ідзі дахаты, братко, ідзі. Такой бяды. Яшчэ паспеем. Раз такое дзела, ідзі дахаты.

— Хіба што пайду...

Крыху адпачыўшы, ён устаў і падаўся ўздоўж мяжы да хутара.

— Прапацей, Трахімка, бо ўвечары трэба... Не забывайся, братко, што мы — гаспадары... а гэта ад нас хочуць адабраць,— кінуў яму наўздагон Вінцэсь.

Трахім, бледны, худы, скура ды косці, як тая смерць, у белай зрэбнай кашулі і такіх жа штанах, ледзь змяняў босыя ногі.

Дома на яго накінулася жонка.

— Ці не звар'яцеў ты?! Плот гарадзіць на вярсту сабраўся! Ці ёсць у цябе, чалавеча, розум? Ты ж не Вінцэсь! Людзі, не табою будучы, жывуць, і яшчэ як, у калгасе. Паглядзі, што за ярына ў іх! Як лес, паўзрастала. Млын які збудавалі... Курэй колькі за адно лета нагадуюць... А што мы з табою маем? Сцёпка, хоць дзіця яшчэ, а праўду кажа...

Нічога не адказаў ёй Трахім. Дык, значыцца, і жонка, якая пастаянна маўчала, згаджалася з ім, сёння адважылася так укалоць Трахіма, закрануць яго самастойнасць і гаспадарскі гонар. Значыцца, усе супроць яго, і ён больш як бы не гаспадар у хаце, а немаведама хто...

«Не, так нельга, Трахім яшчэ жыве і кіраваць гаспадаркай ён будзе сам! І табе ўжо коле ў вочы калгас, ты зайздросціш, што ў іх усё зарадзіла... Добра ж, скора ты не будзеш зайздросціць!» — падумаў Трахім і зваліўся, як сноп, у запечак.

## СУМНАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ

Радасная вестка абляцела калгас: прыехаў млынар!

Млын ужо цеперся як гатоў. Маўкліва загарадзіў ён раку, стаяў і дзівіўся з вялікай працы, а сам нічога не рабіў, нікому не дапамагаў. Ён быў сведкаю вялікіх у жыцці змен, а не ўдзельнікам. А цяпер прыйшла і яго чарга ўключыцца ў агульную работу.

І, нягледзячы на гарачы час, дзядзьку Язэпу рашыла зараз жа пусціць млын. Пусціць пры ўсіх людзях, паклікаць на такую радасць гасцей. Такое свята не часта бывае. Гэта ж першая іх калектыўная будова, якая ўжо сёння ўступіць у строй.

І раптам, сярод белага дня, моцна, на ўвесь голас зацюгукала труба.

Трубіў Мікіта. Цяпер, у самае гарачае лета, ён ганяў на пашу два разы: па раніцу і на адвячорак. Удзень мухі, заедзь — каровы адпачываюць па хлявах, у цяньку. Некалі Мікіта ганяў пасвіць у лес. Цяснота была, нідзе лішняй пядзі не маглі выкраіць для пашы. Вось тады і слу-

жыла труба сваю верную службу: без яе ў лесе статка не збярэш. Цяпер яна непатрэбна пастуху, і яе вырашылі скарыстаць за спешны сігнал на агульныя зборы ў час пільнай на гэта патрэбы.

Неўзабаве каля млына паказалася фурманка і першы гурт людзей. Гэта кладаўшчык калгаса Змітрук прывёз новага жыта на новы камень, каб зрабіць пачатак. Заўтра тут будзе не адцерабіцца ад завознікаў. Людзі даўно чакаюць млына. На прыезд млынара спадзяваліся ўжо дзён два таму назад. Застаўкі пры млыне былі зачынены. Вада паднялася і выйшла з берагоў.

Сцёпка не выцерпеў, таксама прыбег паглядзець, як будуць пускаць млын.

Сярод гурту Сцёпка знайшоў і свайго сябра.

Юзік ужо бегаў каля рэчкі, ганяў печкуроў, свістаў і радаваўся, як і ўсе, такой незвычайнай падзеі.

— І ты тут! — падзівіўся Юзік, убачыўшы свайго дружаку.

— А ці ж я застануся,— весела адказаў Сцёпка.

— Хадзем,— паклікаў Юзік,— ты яшчэ не бачыў усярэдзіне.

Пакуль людзі збіраліся на беразе, хлопцы забеглі ў млын.

— Гэта — жолаб, бачыш? — тлумачыў Юзік, які ўжо дасканала ўсё тут ведаў.

Жолаб быў зроблены пры боку, блізка ад сцяны. Ён крыху ўзвышаўся, каб можна было чапляць за канец пусты мяшок, у які будзе ссыпацца гатовая мука.

З другога боку ад скрынь і жолаба былі прыбудаваны ўсходкі, што вялі на вышкі.

Хлопцы з цікавасцю аглядалі млын.

Неўзабаве ўсе сабраліся. Млын адразу ажыў.

Мужчыны ўхапілі мяшкі і на плячах панеслі іх да каша. З імі ішоў і млынар, высокі, кашчавы дзядзька.

— Добры млын збудавалі,— хваліў ён.

— Яшчэ і не такое збудуем,— перапыніў яго Мікіта.— Налета сыраварня загудзе ў нас, вось дзе будзе штука...

— Дзіва што збудуем,— смяецца дзядзька Язэп.— Гэта табе не адзін. За што ні ўпылімся, дык спор у рабоце.

Млынар агледзеў кош і засыпаў мяшок жыта.

— Ну, можна пачынаць,— сказаў ён.

— То хадзем,— закамандаваў Язэп.

Знізу, на беразе рэчкі, на поплаве, сабралася грамада.

Прыйшоў і паклікаиы на ўрачыстасць Раман Баравік. Ён быў сумны і, апрача скупога «добры дзень», нічога больш не сказаў. Стаяў з боку ад грамады ды чакаў, пакуль папросяць выступіць, адбыць свой абавязак. Ён вельмі ж заметна змяніўся за апошні час. Глядзеў мутнымі вачыма на раку, нібы шукаў там нечага, вельмі патрэбнага. З думак не сыходзіла пісьмо, якое прыслаў яму меншы брат. Брат пісаў, што ў яго роднай вёсцы на Віцебшчыне арганізавалі калгас і што бацьку іх раскулачылі...

Баравік па дакументах лічыўся сынам бедняка. Ніхто яго ў гэтых краях добра не ведаў.

Узлезшы на пусты воз, Язэп загаварыў:

— Таварышы, браткі! Сёння мы святкуем сваю новую перамогу. Мы пускаем млын, які збудавалі самі сваімі рукамі. Млын патрэбен і нам і ўсім нашым суседзям. Ён дасць нам прыбытак, які пойдзе на карысць калгаса. Ён дапаможа нам збудаваць і наш «дом культуры», і сыраварню, і абору... Цяпер мы будзем расці, як на дражджах, браткі. Нам адчынена вольная дарога. Толькі трымацца адзін аднаго, толькі не гультаяваць, а шчыра працаваць!

Язэп не гаваркі! Яму лягчэй рабіць, чым гаварыць.

Услед за Язэпам узяў слова Баравік.

— Гэта ўсё-о добра,— пачаў ён нараспеў, націскаючы на асобныя гукі,— мы радуемся новай перамозе. Але...— Баравік замоўк, абвёў усіх колкім поглядам, як бы шукаючы, ці няма тут каго лішняга і ці можна ім сказаць нейкую патайную навіну...— але буржуазія не дрэмле. Яна ніколі не даруе нам, таварышы... Наша суседка,— паказаў ён рукою на захад,— падрыхтавалася... Па загаду Антанты можа і сёння ўжо вечарам быць тут... І гэта можа быць... Так яно ўсё выходзіць... Таму, адзначаючы перамогу, мы не павінны забывацца...

Апошнія словы ён сказаў траха не шэптам і гэтым яшчэ больш уразіў слухачоў.

Грамада захісталася, заахала.

— Раз раённы аграном кажа — мусіць жа, праўда...— пачуліся трывожныя галасы.

— Яму лепш вядома...

— Вось і збудавалі чорту лысаму...

Баравік доўга не гаварыў. Хапіла і гэтых скупых слоў, каб збіць людзей з тропу.

Праўда, агроном гаварыў пра ўсё гэта не зусім выразна, але тое, чаго ён не дагаварыў, дапоўнілі самі слухачы.

Дзядзька Язэп спахмурнеў таксама. Радасць была сарвана і з яго вясёлага твару. Было такое адчуванне, як на пахаванні самага блізкага і дарагога чалавека.

І сапраўды: чаму не паверыць? Кожны дзень гавораць пра вайну. Пакуль куды — вайна на іх першых наваліцца... Граніца — рукой падаць. Выйдзеш за бор, а там роўнае, чыстае поле. У ясныя дні з баравога ўзгорка відаць і сама граніца. Зусім нядаўна, у дзень Першага мая, там выбухнула сапраўдная вайна...

...У прыгранічны калгас прыехала раённая трактарная калона. З урачыстасцю распачаў калгас сяўбу. На гэтую ўрачыстасць сыходзіліся людзі з блізкіх вёсак і пасёлкаў. Палетак пад ярыну, што раскінуўся ля самай мяжы, быў усыпаны людзьмі. З раёна прыслалі духавы аркестр.

Пасля ўрачыстасці, пад вясёлую музыку і радасныя выкрыкі грамады, зычна, на ўсю сваю жалезную моц, загулі трактары. Адзін за адным рушылі яны ўздоўж граніцы. А людзі на ўзгорку спраўлялі сваё вясенняе свята сяўбы. Аркестр іграў бесперастанку. Моладзь спявала, весялілася.

Каля самай граніцы, на той бок, раскінулася вялікая, цесна збітая ў кучу вёска Брады. Пачуўшы музыку, бродаўцы павыбягалі на ваколіцу, адкуль, як на далоні, відаць былі і трактары, і аркестр, і па-святочнаму прыбраныя людзі. Такога цуда яны яшчэ не бачылі. Маладзейшыя не вытрымалі, кінуліся бліжэй, пад самую забароненую лінію. За імі падаліся і старэйшыя. Кожнаму ў гэты час хацелася пераляцець цераз калючы дрот, якім была аплецена граніца.

Раптам граніца запоўнілася жандарамі. Яны, як звар'яцелыя, накідваліся на людзей.

— Вруць назад!

Спачатку бродаўцы не зважалі на іх, спрачаліся:

— Няўжо і паглядзець няможна?

Але вось раптам густа затрашчалі стрэлы.

Усе кінуліся да хат. Жандары сілаю праганялі людзей з вуліцы і панадворкаў. Аднак зычны гул сталёвых коней з вясёлымі спевамі ды музыкай далятаў і ў хаты. Людзі адчынялі вокны і з радасцю дзівіліся на дзівы, якія твораца іх суседзямі на той бок граніцы. Хутка жандары ўбачылі, што гэтым яны не выратавалі бродаўцаў ад «бальшавіцкага ўплыву». Яны загадалі шчыльна пазачыняць і пазавешваць коўдрамі ўсе вокны.

Аднак і гэта не памагала. Людзі залазілі на вышкі і праз шчыліны закотаў дзівіліся на калгасныя палеткі і на збянтэжаных жандараў, якія, каб выслужыцца перад начальствам і выказаць пратэст супроць бальшавіцкай сяўбы, затыкалі вушы і стараліся не глядзець на той бок граніцы...

...Разыходзіліся калгаснікі з урачыстасці сумныя і заклапочаныя. Навошта радавацца, калі заўтра ўсё можа быць пушчана з дымам і пажарам, а сам добра калі адкупішся бізунамі або астрогамі: усе ж яшчэ добра памятаюць зверствы і здзекі белапалякаў, якія зусім нядаўна балявалі тут, на іхняй зямлі.

Сцёпка таксама быў збіты з тропу.

Няўжо Баравік гаварыў праўду? Калі так, значыцца, усё прапала... Гэта яшчэ горш заблытала яго думкі і звязала язык. З разбітымі надзеямі пайшоў ён дахаты.

## ПАЖАР

Юзік доўга кідаўся з боку на бок.

— Ты не спіш, тата? — запытаўся ён, пачуўшы, што і бацька вельмі часта варочаецца на ложку.

— Нешта сон не бярэ...— адказаў бацька і працягнуў руку да стала, дзе ляжалі яго курэцкія прылады.— Чытаў свежую газету?

— Збольшага праглядаў,— адказаў Юзік.

— Нічога пра вайну не пішуць?

— Не. Але пішуць пра розных шкоднікаў. Нядаўна на Украіне раскрыта патайная група контррэвалюцыянераў. У згодзе з белапалякамі яны рыхтавалі напад на нас.

— Ці бачыш?.. — дзівіўся бацька, прыпадымаючыся на локаць.— Праўду Баравік казаў. Без вайны не можа быць. Не захочуць яны даравадь нам...

— Часам яшчэ пішуць, што нават некаторыя з начальнікаў сябруюць з кулакамі. На словах яны за калгасы, а на справе заводзяць хутары і падтрымліваюць заможнікаў.

— Хітрыя нябось недаверкі,— заўважыў бацька.

— Нічога, з часам іх хітрыкі выплываюць наверх. У газетах і пра гэта пішуць.

Юзік змоўк. Бацька таксама аб нечым задумаўся.

— А ведаеш, тата...— прагаварыў неўзабаве Юзік.—

Нешта райзоўскі аграном Баравік вельмі падобны да такіх...

— Якіх?

— А ўсіх, якія толькі шкодзяць рабоце. Падумай, што ён для нас карыснага зрабіў. Калгас паставіць на ногі памог?

— Дзе там...

— Раскулачыць Вінцэся памог?

— Ну,— сказаў бацька,— тут закон...

— Я паслаў у рэдакцыю запытанне...

— Якое?

— Каб адказалі, ці можа адзін Трахім затрымаць кулацкую гаспадарку пад бокам калгаса?

— Пра гэта цяпер усе загаварылі. Кажуць нават, як бы Вінцэсь знарок загадзіў Трахіму і нават Баравіку...

Крыху памаўчаўшы, бацька дадаў:

— А думаеш, у нас няма такіх, што трымаюць руку Вінцэся? Ёсцека. Цяпер маўчаць, а калі што якое — адразу за ім пойдуць...

Марцін доўга гаварыў з сынам у гэтую ноч. Юзік ва ўсім выяўляў кемлівасць, і гэта радавала бацьку. Раней рэдка хто з іх вёскі канчаў пачатковую школу. А што да сямігодкі, дык Юзік першы працярэбліваў туды сцежку. Цяпер, гледзячы на яго, збіраюцца на восень паступаць у сямігодку і іншыя дзеці з іх калгаса. Марцін сам непісьменны. Ведае толькі лічбы. Хоць напісаць каторую з іх — для яго вялікая пакута. І гэта ён часта паўтарае, калі хоча сказаць, як далёка адкаціўся ад яго сын і як усё цяпер мяняецца к лепшаму.

Спакойная салодкая дрымота ўсё ж пачынала браць верх. Першым здаўся бацька.

Юзік усё яшчэ хаўкаў, сплюшчыўшы вочы і стараючыся нічога не думаць, каб заснуць. Успомніў недзе чутую параду: калі хочаш хутчэй заснуць, адгані ад сябе ўсялякія думкі ды старайся, з заплюшчанымі вачыма, уяўляць толькі белыя прадметы, лепш за ўсё — каня белай масці. Юзік скарыстаў параду. Але намаляваць сапраўднага каня ў сваім уяўленні ніяк не мог. Перад вачыма скакалі толькі асобныя часткі — галава, ногі, мыса...

У хаце сціхла, толькі нейкі невідочны музыка-цвыркун цырыкаў у качарэжніку. Ці мо гэта проста здавалася, мо гэта несціханы шум у галаве, водгукі пражытага дня?

Раптам, ужо дрэмлючы, Юзік адчуў скрозь заплюшчаныя павекі, як у хаце нібы пасвятлела. «Гэта ж не конь»,— прамільгнула сонная думка.

Перамагаючы дрымоту, ён расплюшчыў вочы. «Ці не пажар?» — падумаў, убачыўшы, як скачуць па столі светлыя плямы. Ён усхапіўся з пасцелі, зірнуў у вокны і ледзь не ўскрыкнуў.

Але ўспомніўшы, што ўсе спяць і што неасцярожны крык можа перапалохаць сонных, паклікаў ціха:

— Тата...

Бацька адгукнуўся хутка: ён яшчэ таксама, відаць, не паспеў добра ўспаць.

— Мусіць, стагі гараць!..— сказаў Юзік, стараючыся не выявіць асаблівай трывогі і хвалявання, якія ахапілі яго.

Спяшаючыся, бацька сяк-так усцягнуў на сябе верхнія порткі і выскачыў з хаты. Ён імчаўся ўздоўж вуліцы і крычаў на ўсю сілу:

— Пажар!.. Пажар!..

На пажар беглі хто ў чым і хто з чым папала.

Перапыняючы крыкі, трывожна цюгукала Мікітава бяроставая труба. Яна сёння спатрэбілася аж у другі раз.

Калі пярэднія дабеглі да рэчкі, яны ясна ўбачылі: тры самыя большыя стагі разгарэліся не на жарты. Полымя ахапіла іх з нізу да верху і злізвала сваімі агністымі чырвонымі языкамі.

— Позна... Адзін абвуглены адонак[1] астанецца, пакуль дабяжыш,— гаварылі мужчыны, спыняючыся каля берага.

Раптам нехта з грамады нема залямантаваў:

— Глядзіце! Млын гарыць!

Агонь тут толькі разнімаўся. Падпал, відаць, быў зроблены зусім нядаўна, пазней, чым загарэліся стагі.

Людзі кінуліся да млына. Яны скідалі з сябе світкі, кашулі, мачылі ў вадзе ды шлёпалі імі па сцяне, збіваючы полымя.

Крыкі, шум, плёскат вады, трэск і сіпенне агню — усё гэта злівалася ў адзін суцэльны гул.

Агонь тым часам віпічаў, пускаў больш дыму, але паволі здаваўся. Цяжка было аднаму яму ўстаяць супроць такога гурту ўстрывожаных людзей.

---

[1] Адонак — памост пад стогам.

— Гэта ж, каб злавіў гада, на месцы разарваў бы, як жабу! — гаварыў моцна ўстрывожаны дзядзька Язэп, калі небяспека для млына мінула.

— Такой кары шкада для яго,— адказваў яму Лявон Кушнер.— Я з такога палосамі скуру лупіў бы...

Кожны па-свойму караў ворага, якога ніхто не бачыў, але добра адчуваў усю яго звярыную лютасць.

Толькі пад дзень людзі ўгаманіліся ды заснулі трывожным сном.

## ВАЙНА...

Назаўтра дзень пачынаўся па-звычайнаму.

І, як звычайна, пастух Мікіта выкрыкваў сваё прывычнае: «Вы-га-ня-я-я-яй!» Гэтае слова было не простым словам, а цэлаю песняю, якая спявалася кожны раз на розныя лады: то расцяжна, то коратка, то слабей, то мацней, гледзячы па тым, які настрой у пастуха і каля чыйго дома гэта спяваецца. Ёсць гаспадыні, што спяць вельмі чула, і тады няма патрэбы павышаць залішне тон песні.

А ўслед за ранішняй песняю пастуха Мікіты па-звычайнаму адгукаліся на гэты знаёмы голас каровы, потым скрыпелі вароты хлявоў.

Бабы ўходжваліся каля печы, а мужчыны, пакуль падрыхтуецца снеданне, ішлі да брыгадзіраў або ў праўленне пагаварыць аб справах.

Але работа сёння не ладзілася. Якім Бандарчук, Цімох Гарбуз і Міхаль Валькевіч прынеслі Язэпу заявы, каб выпісаў з калгаса.

— Пачакайце,— сказаў Язэп.— Разбяромся. Не парыце гарачкі. Вы апусцілі рукі ад першых няўдач... Не, мужчынкі, так справа не пойдзе. Мы будуем калгас сярод ворагаў і сваіх, і замежных. І, вядома, трэба мець вытрымку.

Але мужчыны не адступаліся ад сваіх заяў і на поле не выйшлі.

Хоць Язэп і стараўся быць такім жа спакойным і разважлівым, як заўсёды, але звычайная яго дабрадушная ўсмешка сёння пакінула яго, ды і сам ён неяк раптам нібы пастарэў, асунуўся з твару.

А ўдзень здарылася такая падзея, якая зусім заблытала справу і перавярнула ўсё дагары нагамі.

З-за прыгранічнага лесу на ясным небасхіле паказаўся самалёт.

Услед за ім густа засакаталі кулямёты...

— Вайна!..

— Вайна!..— замітусіліся збітыя з панталыку людзі.

— Але, мусіць, вайна...— сказаў і ўстрывожаны дзядзька Язэп.

У гэты час ён працаваў на зрубе: канчалі рубіць апошні вянок «дома культуры». Ён выбіраў драчку [1] на роўным гладкім бервяне-бруску. Работа патрабавала самай сур'ёзнай увагі. Драчку трэба выбіраць роўна, без засекаў, каб не сапсаваць бруска. Але рукі Язэпавы здрадзілі яму: сякера з размаху заелася за адрысаваную рыску, а потым і зусім вышчаўкнула з рук.

Вайна застала ўсіх так раптоўна, што не дала і апамятацца. Ніхто не ведаў, што рабіць. Усе бегалі, мітусіліся, бабы галасілі, але справе гэта ні кроплі не дапамагала.

Камсамольцы збегліся ў школу, потым па загаду свайго сакратара ячэйкі Паўлюка Малюковіча кінуліся ў мястэчка, у пагранатрад.

Многія ўспомнілі ранейшую практыку паратунку ад вайны. Лавілі на выгане коней, пакавалі вазы дабром, крычалі, гарачыліся...

Аднак уся ваенная падзея адбылася за некалькі хвілін.

Абстрэлены нашымі пагранічнікамі, варожы самалёт вылецеў з-за лесу і кулём, як каршун на выгледжаную здабычу, шугануў уніз, на ялавы палетак ля Вінцэсевага хутара. Калі ён апусціўся на зямлю, з кабіны выскачыў чалавек і бегма кінуўся ў лес. Але не паспеў ступіць і дзесяці крокаў, як з-за лесу вырваўся гул матора, а ўслед за ім засакаталі густыя стрэлы. Відаць было, як адтуль імчаўся аўтамабіль.

Чалавек спыніўся, потым рэзка павярнуў назад, ускочыў у самалёт. Самалёт узвіўся ўвысь і знік у лёгкіх рэдкіх воблаках.

Аўтамабіль павярнуў у бок граніцы.

І ўсё зацíхла, нібы гэта быў нейкі недарэчны сон. Людзі, што глядзелі ўверх на самалёт, цяпер сапраўды працíралі вочы, як пасля сну...

---

[1] Драчка — паз на бервяне.

## БАНКЕТ НА ХУТАРЫ

На чыстай вышыванай настольніцы красаваліся сціргы нарэзаных пірагоў, міска з палядвіцаю [1] і тоўстымі скруткамі вантрабянкі [2], свежая жоўтая яешня, сыр-лапата і добры бусак [3] чыстага першаку.

Госці пакуль што туліліся ў цёмных кутках. Адзін толькі Вінцэсь з жонкаю тупалі ад печы да стала ўзад і ўперад,— зносілі розныя закускі.

Вінцэсь падгаліў бараду, падрэзаў вусы, а на шчоках пакінуў, дзеля форсу, навіслыя кусцікі-бакенбарды. Ад старасці і рознага клопату Вінцэсь за апошнія гады прыкметна пахуднеў, шчокі пазбягаліся ў маршчакі, вочы ўпалі глыбока.

Уся ваколіца добра ведае Вінцэся, былога старшыню воласці і дэпутата царскай Думы. Цяпер апусціўся Вінцэсь. Сам мала што робіць, але з-пад свайго вока нічога не выпускае. У яго два дарослыя сыны — Воліcь і Броніcь. Яны з дапамогаю Трахіма і робяць усю гаспадарскую работу.

— Проша, дарагія госці, проша,— павярнуўся Вінцэсь тварам у запечны куток, калі на стале ўсё было гатова.

Куток заварушыўся. Спачатку вылез на святло Баравік, за ім грузная, дзябёлая Вінцэсева дачка Анэта.

З другога кутка выпаўз, як таракан з цёмнай шчыліны, пачуўшы спажыву, худы — скура ды косці — невысокі чалавек з рыжаю памятаю бародкаю, у белай саматканай кашулі і зрэбных штанах. Гэта быў Трахім. Услед пакazаліся рослыя, мардастыя хлопцы — сыны гаспадара дому.

— Анэта, зацягні фіранкі,— загадаў бацька.

— Нічога, аканіцы нашы шчыльныя,— адказала Анэта, распасціраючы фіранкі.

Госці і гаспадары паселі за стол, моўчкі паглядаючы адзін на аднаго. Гаворка не клеілася. Вінцэсь заўважыў такі нялад і паспяшаўся наліць чаркі.

— Ну, братко, пане-таварыш Баравік, я хоць і стары, але за нашу перамогу вып'ю,— падняў сваю чарку Вінцэсь.

Баравік прыветна ўсміхнуўся і таксама падняў поўную чарку.

---

[1] Палядвіца — мяса лепшага гатунку.
[2] Вантрабянка — кілбаса з вантроб.
[3] Бусак — вялікая бутля.

— Гэтая перамога нам міла, адказаў ён,— і яе мы вітаем чыстымі «божымі слязьмі». Няхай жыве! — Баравік спрытна перакуліў чарку.

— Вы, пане-таварыш Баравік, добры чалавек і добры палітык,— усміхнуўся павесялеўшы Вінцэсь.— Некалі і я быў такім...

Языкі патроху развязваліся. І пакуль Вінцэсь гаварыў з Баравіком пра палітыку і сваю пашану да яго, Трахім сядзеў моўчкі, думаў пра дзялянку зямлі, пра сенажаць, што яму дакляраваў Вінцэсь.

Ужо каторы час, а Вінцэсь штосьці маўчыць. Гэта і турбуе Трахіма больш за ўсялякую палітыку.

«Ці не збіраецца ён хвастом накрыцца? Цяпер для яго ніякай бяды: у калгасе засталося не больш палавіны людзей. І тыя яшчэ ці затрымаюцца?» — думае Трахім.

Рупіць Трахіму адплата. Здаецца, калі загаворыць, дык і сарвуцца самі, міжвольна, гэтыя словы з языка.

«Не, усё ж трэба папытацца,— вырашае Трахім,— трэба ўведаць, упэўніцца...»

І ён пачынае гаворку:

— Вінцэсь — золата, не чалавек. Каб не ён, нічога б не выйшла,— хваліць Трахім Вінцэся, а сам думае: «Гад ты, Вінцэсь, вуж печаны». — Але пара, пане Вінцэсю, падумаць і пра нас...— паказаў ён пальцам на сваю асобу.

Хітрыя, жульніцкія Вінцэсевы вочы забегалі, потым утаропіліся ў Трахіма.

— Братко суседзе, ты ж у мяне, як сын родны. Я ніколі на цябе не забываюся...

— Дзякую, пане Вінцэсю. Але я хацеў гэта наконт зямлі і сенажаці, што сам дакляраваў...— прагаварыў, калоцячыся, Трахім.

— Што ты, што ты, братко? Якой зямлі? Ты крыху, суседзе, мусіць, перахваціў гэтае...— паказаў Вінцэсь на бутэльку.— Ці ж я не даў табе зямлі? Га? Ай, які ты, Трахімка, зайздросны! Брыдка, суседзе!..

На Трахіма нібы ўзлілі чыгун гарачага вару і апяклі не толькі скуру, але і мазгі.

— Дык, выходзіць, ты, Вінцэська, кідаў словы так сабе, на вецер...— Трахім усхапіўся з-за стала.

Ён, сухотны, вечна бледны, раптам пачырванеў, усе рэшткі крыві сабраліся на яго твары, а на лбе выступілі сінія жылы.

— Я абараняў цябе, колькі шкоды людзям нарабіў...

— Дык ты ж маю гарэлку за гэта п'еш, пірагі ясі! Каб не я, ты б з голаду пух з дзецьмі і з жонкаю...— пачынаў злавацца і Вінцэсь.— Не, суседзе, так не па-божаму. У мяне лішняй зямлі няма, як сабе хочаш... Мала што калі я табе дакляроўваў...

Баравік скарыстаў гэтую спрэчку, падхапіў сваю бясспрэчную ўзнагароду — гаспадарову дачку і падаўся ў цёмны куток, за дашчаную перагародку.

— Я чалавек, можна сказаць, інтэлігентны, і мне зямля непатрэбна,— махнуў ён рукою.— А вы сабе разбірайцеся самі...

Трахім адчуў сябе страшэнна пакрыўджаным. Калоцячыся, ён вылез з-за стала, апрануў сваю парыжэлую жакетку і, хістаючыся ад выпітай гарэлкі і ад нервовага ўзрушэння, пацягнуўся да дзвярэй.

— Пачакай, Вінцэська, пачакай, паплачаш мо і ты яшчэ! — пагразіўся Трахім.

— Суседзе, не забывайся, што я тут ні пры чым. Вінаваты ва ўсім ты! Толькі заікніся пра пажар, і ты згніеш у турме! — патрос Вінцэсь пальцам услед Трахіму.

## СЦЁПКА ІДЗЕ Ў КАЛГАС

Сцёпка за апошнія дні прыкметна пабляжэў. Ён выглядаў як пасля цяжкай хваробы. Рысы яго заклапочанага твару завастрыліся.

Маці заўважыла такую перамену са Сцёпкам. Пачала дапытвацца, бо Сцёпка ні на якую хваробу не скардзіўся.

— Работы шмат,— адгаворваўся ён.

— Праўда,— згаджалася маці,— работы хапае. А ўсё праз бацьку. Не на дабро звязаўся ён з Вінцэсем. І на ліха яму гэтае гаспадарства здалося? Паскакаў, пацешыўся, і хопіць. Ці ж не відаць, што на такой гаспадарцы жыць сагорш, чым парабкам. Усё роўна, як рабілі Вінцэсю за скарынку хлеба, так і цяпер робім...

— То ты раскажы пра гэта бацьку, можа, ён цябе паслухае і вернецца да розуму,— адказаў ёй на гэта Сцёпка.

— Дзе там! Унь тады, як прыйшоў з гарадзьбы плота, сказала яму, дык толькі бяды нарабіла. Ат, не дажыць мне веку з такім чалавекам...— гаварыла расчараваная маці.

Сцёпку шкада было маткі. Яна яшчэ не так і старая, а ўжо колькі перапакутавала за свой век. Ніколі, як людзі, не жыла,— усё на чужых рабіла. А цяпер, пад старасць, яшчэ папраўляцца трэба. І хоць маці ўсё часцей і часцей скардзіцца на розныя хваробы, аднак ні разу не дазволіла сабе згуляць лішняй хвілінкі. Усё спяшаецца, тупае, працуе. Высахла ў шчэпку, пачарнела з твару.

Маці цяпер больш спачувала сыну, чым мужу.

— Упарты і дурны наш бацька,— сказала аднойчы маці.

Гэтым яна правяла выразную мяжу паміж ранейшым Трахімам і цяперашнім, да якога з кожным днём гасла нават павага, як да блізкага, роднага чалавека.

Такая перамена ў поглядах маткі яшчэ больш натхняла Сцёпку на рашучы разрыў з бацькам. Ён адчуваў, што маці на яго баку і ў цяжкую для сям'і хвіліну пойдзе за Сцёпкам, а не за бацькам. Апошнія падзеі ў калгасе ўпэўнілі яго, што ні Вінцэсь, ні яго падручныя не адмовіліся ад сваіх намераў разбурыць калгас. І што, як відаць, Баравік знарок страшыць людзей вайною...

* * *

Сцёпка не ішоў, а хутчэй бег у калгас.

«Цяпер усё павінна скончыцца!..» — думаў ён. Ён пойдзе сваёй самастойнай дарогай, якой бы яна ні была цяжкой.

Задыхаўшыся, Сцёпка пераступіў парог Язэпавай хаты. У хаце было чалавек дзесяць калгаснікаў. Язэп сядзеў за сталом, падпёршы рукою бараду, і ўважліва слухаў Юзіка, які чытаў нейкае пісьмо. Сцёпка запыніўся ля дзвярэй, разглядваючы Язэпавых гасцей.

— Пачакай,— сказаў Язэп да Юзіка, заўважыўшы Сцёпку.— Ты да мяне?

— Ага, дзядзька Язэп,— адказаў Сцёпка, падыходзячы бліжэй да стала.

— Справу якую маеш?

Сцёпка кіўнуў галавою.

— Ну, дык кажы, а то ў нас тут, бачыш, праўленне ідзе.

І Сцёпка шчыра расказаў пра ўсё, што ведаў і аб чым здагадваўся.

— Дзякуй, Сцёпа,— паціснуў яму руку Язэп.

— Чаму ж ты раней не сказаў? — з дакорам выгаварыў Юзік свайму сябру.

Сцёпа апусціў галаву і неспакойна заміргаў вачыма.

— Ну, нічога, Сцяпан,— супакоіў яго дзядзька Язэп.— Цяпер усё ясна. Вось і пісьмо з рэдакцыі парадавала нас. Пішуць так, як мы і думалі. Значыць, з Баравіком трэба разабрацца.

— Ён зараз у Вінцэся...— сказаў Сцёпка.— Я бачыў, як ён ішоў туды на змярканні. Бацьку таксама паклікалі...

— Дзядзька Язэп! — перапыніў Сцёпку Паўлюк.— Нам трэба застаць Баравіка на кулацкім хутары. Гэта будзе лепшы доказ, чым тое, што сказаў Сцёпка... Ён хітры, выкруціцца, калі мы яго не зловім за каўнер.

Язэп кіўнуў галавою.

## АХВЯРА ВОРАГАЎ

Неўзабаве атрад камсамольцаў разам з дзядзькам Язэпам выйшаў на хутар. Дарога была невялікая. За школаю, праз ганок трое, пачыналася хутарская сядзіба.

Хлопцы ішлі ціха. Кожны быў заняты сваімі думкамі. Усё яшчэ не верылася, што вось-вось зараз яны на свае вочы ўбачаць Баравіка ў сваёй сапраўднай ролі. І хто б мог падумаць, што вораг так блізка — проста ў іхнім уласным доме...

— Акружайце дом! — скамандаваў паціху Язэп, калі падышлі да хутарскога агарода.— А я з Паўлюком, Ігнасём і Міронам пайду ў хату.

На двары залямантавалі ды рванулiся н прывязі сабакі.

Пастукалі ў дзверы. Ніхто не адчыніў. Праз аканіцы відаць было, як раптам у хаце патухла лямпа.

Язэп крыкнуў праз дзверы:

— Гаспадар, адчыні! Гэта я — Язэп...

Аднак ніхто не выйшаў з хаты і на гэты раз. Тады гарачыя хлопцы з сілаю налеглі на дзверы, сарвалі іх і апынуліся ў сенцах.

У хаце пачуўся тупат.

Калі Язэп адчыніў хатнія дзверы, хтосьці кулём кінуўся з хаты. Паўлюк хацеў затрымаць яго, але той ірвануўся з такою сілаю, што ён не ўстояў і грымнуўся патыліцаю аб парог.

Заблішчаў кішэнны ліхтарык Мірона. Цемра шарахнулася ў баку, і, перад хлопцамі замітусіліся постаці людзей.

— Гэ-эх! — пачуўся адчайны выкрык.

— Бандыты! — закрычаў Паўлюк, усхапіўшыся з парога і заўважыўшы пры святле ліхтарыка сякеру над галавою Язэпа. Але вырваць яе з рук забойцы ён не паспеў...

## НЯСІЦЕ НАПЕРАД ІХ СЦЯГ

— Быў чалавек, і няма...

— А здавалася, ніякая бура не зломіць такога дуба... Ніхто не думаў, не гадаў...

— Навошта было ісці туды! І так бы ўсё выявілася...

— Каб жа ведалася, што гэтак станецца...

Так разважалі паміж сабою Лявон Кушнер і Мікалай Лапавіцкі, робячы труну ў сенцах Язэпавай хаты.

Мужчыны сабраліся на двары. Некаторыя заходзілі ў хату. Але доўга там не заставаліся. Балюча было глядзець на гэтую дарагую для іх ахвяру. Сёй-той з мужчын спрабаваў супакойваць Язэпаву радню, але і ў саміх на вачах блішчалі слёзы...

Чакалі Паўлюка з раёна. Яшчэ зранку ён са сваімі хлопцамі павёў у раён Віцэся з сынамі, Баравіка і Трахіма.

Якім Бандарчук адчуваў сябе вінаватым і гаварыў цяпер больш за ўсіх, каб апраўдацца, чаму ён першы выйшаў з калгаса. Тыя, што ішлі следам за ім, спачувалі яму, іншыя — ганьбілі.

Каля абеду вярнуліся камсамольцы з духавым аркестрам.

Труна была гатова, і ў ёй ужо ляжаў вымыты нябожчык з абвязанаю белаю хусткай галавою.

...Сцёпка ішоў поплеч з Юзікам. Спераду мужчыны неслі на плячах цяжкую труну. За імі, у такт музыцы, ледзь варушыўся невялічкі духавы аркестр, павольна іграючы пахавальны марш.

Сцёпка слаба разбіраўся ў тонкасцях музычных тонаў. Але такую музыку ён разумеў у самых найтанчэйшых яе ладах і пераходах.

Душэўны настрой і пахавальны марш зліваліся ў адну суцэльную жалобную гаму. Адчуваць і разумець сілу гэтай музыкі можна толькі ідучы за труною блізкага і дарагога чалавека. А для Сцёпкі нябожчык Язэп быў самым блізкім і дарагім.

І не толькі... Гэта ж праз яго загінуў дзядзька Язэп! Каб не прыйшоў Сцёпка ў калгас ды не расказаў пра Баравіка, дык, можа, абышлося б і без такой дарагой ахвяры...

І чым больш думаў Сцёпка, тым больш прыходзіў да вываду, што ён, толькі ён, вінаваты ў смерці дзядзькі Язэпа. Сцёпка адчуваў, што нават Юзік зусім змяніўся да яго, хоць стараецца не паказаць гэтага. Але што ён думае? Маўчыць. А калі што і загаворыць, дык словы такія халодныя здаюцца, такія дакорлівыя...

Усе, хто ішоў следам за труною, востра адчувалі вялікае гора.

Калгас зноў сабраўся ў адзіную цесную сям'ю. Усё ўваходзіла ў свае берагі, станавілася на сваё месца. Толькі ж гэтай страты ніякімі сіламі назад не вернеш...

На могілкі доўга ісці не прыйшлося. Недалёка за будынкамі, наводшыбе, стаяў малады лясок, вартаўнік мёртвых.

Лясок быў агароджаны моцным плотам. Толькі з аднаго боку, што выходзіў пад будынкі, былі зроблены вароты, і пры іх невялікая фортка.

Магілу дзядзьку Язэпу выкапалі на самым грудку, каля тонкай кучаравай хвойкі.

Калі перад жалобнай паходняй паказаўся свежы пясчаны насып, жанчыны, услед за раднёю Язэпа, загаласілі наўзрыд...

Бледны і ўсхваляваны Паўлюк падышоў да галавы нябожчыка.

— Дарагія таварышы,— сказаў ён.— Мы страцілі лепшага барацьбіта і шчырага работніка, першага арганізатара калгаса. Але мы перамаглі! Жыццём дарагога нам дзядзькі Язэпа мы заплацілі за сваю перамогу... Без ахвяр вайны не бывае. А гэта хіба не вайна? Вайна! Вайна старога свету з новым. Вайна за калгас. Вайна за права беднаты на лепшае жыццё. Вайна за сацыялізм! У гэтай вайне адны гінуць, але іх тут жа замяняюць новыя папаўненні, каб несці іх сцяг наперад, да поўнай перамогі.

Калі Паўлюк скончыў, аркестр зайграў пахавальны марш, а мужчыны пачалі павольна апускаць на вяроўках труну. Цяпер ужо ніхто не вытрымаў: праслязіліся нават і тыя, хто шмат бачыў гора на вяку, але рэдка калі плакаў...

Сцёпка стаяў збоку, млявы, усхваляваны, а з думак не выходзілі словы завучанага ім раней у школе верша:

Не плачьте над трупами
Павших бойцов,
Несите их знамя вперед!..

*1930*

Курганы шмат чаго нам гавораць.

*Янка Купала*

## НА ЎЗБЯРЭЖЖЫ РАКІ

У гарачы летні дзень сябры паклікалі Васіля купацца.

— Куды пойдзем? — запытаўся ён, замыкаючы хату.— Усюды ж мелка. Рака зусім перасохла.

— Хадзем на Базылёў курган,— параіў Міхась, чарнявы плячысты хлапчук, якога ўсе аднагодкі паважалі за сілу і за добры дружацкі характар.

Прыжмурыўшыся ад яркага паўдзённага сонца, Васіль зірнуў на неба.

— Далекавата,— зморшчыўся ён.— А ісці такою гарачынёю...

Міхась засмяяўся:

— Каму далекавата, а табе з тваімі хадулямі...

— Ша, ша, малы,— замахаў рукамі Васіль,— угаварыў!

— Дзіва што! Тут і ўгаварваць няма чаго. Затое там глыбей, чым дзе. Я нядаўна быў на тым беразе з бацькам. Хадзілі браднікам рыбу лавіць. Дык там, брат, такія ямішчы, што нават бацька з галавою схаваецца!

Васіль шырока раскрыў вочы:

— І шмат налавілі?

— Цэлую торбу! Усё акуні. Вот такія! — Міхась развёў рукамі, каб паказаць, якія былі акуні.— Яны, брат, сышлі цяпер на глыбейшыя месцы.

— Не маніш?

— Што ты, буду я маніць!

— Дык можа вуды возьмем? — загарэўся Васіль, пачуўшы пра такую важную навіну наконт акунёў, якія пасплывалі ў глыбокія ямы ля Базылёвага кургана. То-

та ж яму ў апошнія часы зусім не шанцуе на рыбу. Адны дурныя пячкурыкі ды дробныя калючыя яршы чапляюцца на кручок. А трэба сказаць, Васіль быў рыбак не толькі заўзяты, а нават, як кажуць, заядлы. Цэлы дзень, ад цямна да цямна, мог ён праседзець на рэчцы, не зважаючы ні на спёку, ні на дождж, і нават на тое, што людская рыба не бярэцца. Праўда, такім гарачым і заўзятым Васіль быў не толькі ў рыбнай справе: так ставіўся ён і да ўсялякай работы. На гэтую рысу яго характару, відаць, і звярнула ўвагу важатая Жэня Вараб'ёва, калі параіла піянерам выбраць Васіля звеннявым. Магчыма, яшчэ меў тут пэўнае значэнне і яго рост: Васіль быў вышэйшым за сваіх аднагодкаў і ў страі хадзіў у першым радзе. Так ужо і прывыклі ўсе бачыць яго першым.

Міхась не пярэчыў наконт вудаў. Пра акунёў ён, вядома, прыхлусіў — не такія ўжо яны там і вялікія і не так ужо шмат яны тады і налавілі іх. Але ж яшчэ не было таго, каб паляўнічы паскупіўся на фарбы для апісання велічыні зайца, якога ён упаляваў, а рыбак каб не прыбавіў лішніх кілаграмаў шчупаку, якога ён злавіў...

Згадзіўся ўзяць вуды і трэці кампаньён Юзік. Ён наогул ахвотна згаджаўся з усім, з чым былі згодны яго неразлучныя сябры Васіль і Міхась. Гэта быў шчуплы, танклявы хлопчык са светлымі, ільнянога колеру, валасамі, мяккі па натуры; ён любіў спяваць і захапляўся вершамі, чаго ніяк не падзялялі з ім ні Васіль, якому больш падабалася гісторыя, ні Міхась, які меў не малую здольнасць да матэматыкі. Аднак, не зважаючы на розныя густы і характары, хлопцы шчыра сябравалі з самага малку і адзін без аднаго доўга не маглі заставацца.

Міхась з Юзікам пабеглі дахаты і неўзабаве вярнуліся з тонкімі лёгкімі вудамі і пустымі бляшанкамі.

— Чарвей накапаем ля рэчкі,— растлумачыў Міхась, паказваючы Васілю сваю пустую бляшанку.— Іх там пад купінамі многа.

Насвістваючы кожны сваё, хлопцы весела рушылі ў паход.

Ісці да Базылёвага кургана трэба было кіламетраў тры. І прасцейшая дарога туды вяла не берагам рэчкі, якая абхінала вёску і ўлукаткі пятляла па лугах і сенажацях, а напрасткі, сцежкаю — цераз жытняе поле. За полем пачынаўся гай з густога алешніку і бярэзніку. Ён цягнуў-

ся аж да самага берага ракі, які меў назву Базылёвага кургана.

Гэта быў звычайны лугавы бераг, нават досыць нізкі і сям-там забалочаны рачнымі затокамі. У затоках вясною і ў дажджлівыя гады стаяла брудная рудая вада, і ў ёй расла жорсткая і такая ж рудая асака, перамешаная крамяным лапушыстым разаком.

Луг быў нядаўна скошаны і зараз выглядаў пустым і голым: атава на ім у такі сухмень яшчэ нават і не адскочыла. Адзін толькі невялічкі грудок-узгорак з густымі кустамі ўзвышаўся над лугам. Ляжаў ён недалёка ад таго месца, дзе рака рабіла круты паварот на поўдзень. На гэтым павароце яна вымыла глыбокія ямы, якія не высыхаюць нават і ў самае гарачае лета.

Сонца яшчэ стаяла над галавою, калі хлопцы дабраліся да ракі.

Міхась з Юзікам пакідалі вуды на беразе і тут жа павaліліся на дробную зялёную мураву, а Васіль кінуўся выглядаць рыбныя мясціны.

— Давай спачатку пакупаемся,— прапанаваў Міхась, раздзяваючыся.

Але Васілю больш за ўсё карцелі акуні. Пра іх ён думаў усю дарогу.

— Хоць разок закіну, пакуль не напуджаны,— замітусіўся ён, разматваючы вуду.

Знайшоўшы ладнага чарвяка пад купінай, ён зрабіў насадку, паапляваў на яе дзеля рыбацкага шчасця і закінуў вуду далей ад берага.

— Дарэмна ты гэта,— спрабаваў адгаварыць яго Міхась.— У іх цяпер самая мёртвая гадзіна. Зараз яны з-пад карчоў і хваста не пакажуць...

— Вядома, не пакажуць,— падтакнуў і Юзік: яму не цярпелася хутчэй скокнуць у ваду.

І праўда, што клёву яшчэ не было. Васіль пабегаў туды-сюды з вудаю і, падышоўшы да сяброў, плюнуў са злосцю:

— Каля дому дык хоць печкура злавіў бы за гэты час...

Хлопцы добра выкупаліся. Месца тут сапраўды было неблагое, калі мець на ўвазе іхнюю рэчку Быстрыцу, якую ўлетку нават курыца пераступіць.

Пасля купання парашылі схадзіць на грудок і адпачыць у цяньку, пакуль спадзе гарачыня, бо на беразе ў гэтым месцы не было ніводнага густога куста.

Васіля хоць і цягнулі да сябе акуні, але пасля такой няўдачы ён таксама ахвотна ішоў на грудок.

Падняліся на самы верх. І тут перад імі адкрыўся прыгожы краявід у бок зарэчча, быццам раптам яно зрабілася шмат большым і шырэйшым, не такім, як бачылі яны яго з нізкага левага берага. Зарэчча належала другой брыгадзе іхняга калгаса «Светлы шлях». Там была і другая вёска — вяршкі стрэх яе віднеліся з узгорка. За зарэчнымі сенажацямі, таксама ўжо скошанымі, ішлі папарныя палеткі. Адтуль чуваць быў прыглушаны далечынёю мерны гул трактароў.

Хлопцы прыселі ў засені кустоў і заняліся сваімі звычайнымі размовамі. Успомнілі і пра школу: сёлета ім ісці ў шосты клас. Юзік пахваліўся, што ўжо купіў з новых падручнікаў хрэстаматыю па літаратуры і перачытаў у ёй усе вершы. А якія цудоўныя там вершы!

Раптам усхапіўшыся і павярнуўшыся тварам да ракі, ён пачаў дэкламаваць:

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—
Ўздзірванелы курган векавечны.

— Харошая паэма! — уздыхнуў ён, прадэкламаваўшы ўвесь першы раздзел.— Люблю яе! Сёлета будзем вывучаць у класе,— дадаў ён і зноў прысеў да хлопцаў.

Васіль задумаўся, зачараваны музыкай верша. Ён таксама ведае гэтую паэму яшчэ з першых школьных гадоў: яе не раз дэкламавалі вучні старэйшых класаў на вечарах мастацкай самадзейнасці.

Міхась тым часам углядаўся ў люстраную гладзь ракі Быстрыцы, якая блішчала ля падножжа ўзгорка.

— Чакайце! — раптам падняў ён руку ўгору.— Ці не пра наш гэта ўзгорак?..

Юзік і Васіль утарапіліся на яго.

— Дакладнае апісанне. Толькі рака не дужа шумнацечная.

— А і праўда! — спахапіўся Васіль.— Ты, здаецца, зрабіў вынаходства. Луг называецца курганом,— пачаў разважаць ён,— хоць гэтая назва павінна належаць якраз вось гэтаму грудку, на якім мы сядзім... Чаму ж гэта так?

Міхась пацiснуў плячыма:

— Гэта ж курган тваіго цёзкі, і ты лепш павінен ведаць.

— Якога цёзкі?

— Ну, Базыль і Васіль — адно імя. Праўда, Юзік?

— Вядома, адно,— падхапіў Юзік.— Майго дзеда завуць Базылём, а пішацца ён — Васіль.

— Жарты жартамі,— сур'ёзна гаварыў Васіль,— а ўсё ж, што гэта за курган і хто такі Базыль? Ты, Юзік, нідзе не вычытаў пра яго ў вершах?

— Вычытаў, чаму ж не. У Максіма Багдановіча — «Як Базыль у паходзе канаў...».

І ён пачаў дэкламаваць:

Як Базыль у паходзе канаў,
Ўсё старонку сваю спамінаў...

— Не, не той,— заківаў галавою Васіль, выслухаўшы верш.— Таго Базыля, відаць, закапалі дзе-небудзь у звычайным акопе імперыялістычнай вайны.

— Ну, тады гэта нейкі гістарычны Базыль, і ты пра яго павінен быў сам вычытаць,— адказаў Юзік.

— На жаль, не вычытаў,— пашкадаваў Васіль.— Не, я гэтага так не пакіну. Трэба будзе дома распытацца. Можа гэта і ёсць той курган, аб якім Купала напісаў.

Міхась тым часам наскроб у траве жменю пяску і паказаў сябрам:

— Гэта ж з поля пясок... А як ён сюды трапіў? Тут жа зямля балотная...

— Значыць, нехта знарок насыпаў,— расціраючы пясок пальцамі, дзівіўся Васіль.

Хлопцы не раз бывалі тут і раней, але ніколі дагэтуль ім не прыходзіла думка, што гэта за ўзгорак і чаму луг мае такую назву. Відаць, не падумалі б яны і цяпер, каб не ўспомніў Юзік купалаўскай паэмы.

Адпачыўшы, яны падаліся на бераг.

Сонца ўжо хілілася к заходу. Гарачыня спала. Ад ракі павявала прыемным свежым халадком. На самай глыбейшай яме боўтнула нейкая вялікая рыбіна.

— Мёртвая гадзіна скончылася! — зарадаваўся Васіль і, спяшаючыся, пачаў у другі раз разматваць вуду.

## ПІЯНЕРСКАЕ ЗАДАННЕ

Познім адвячоркам рыбакі вярнуліся дахаты. Рыбай, праўда, яны пахваліцца не маглі, але аб гэтым не шкадаваў нават і Васіль. Затое як слаўна правялі яны дзень

у дружнай кампаніі на беразе рэчкі! Гэта, бадай, было важней і за акунёў.

А пра курган Васіль не забыўся. І калі вярнулася з поля маці, ён запытаўся ў яе.

— Хто яго ведае...— адказала маці.— Усе так завуць той бераг. Можа, бацька ведае. А навошта гэта табе?

— Проста цікава.

І Васіль расказаў ёй пра паэму Купалы, у якой апісваецца якраз такі ж курган. Прысеўшы на ганку, маці ўважліва слухала сына.

— Праўда, што цікава,— згадзілася яна.— Можа, і той самы. Вось пра Краўцову стругу, што ля Вострава, дык я ведаю.

— А я і пра яе нічога не ведаю,— замітусіўся Васіль.— Раскажы.

— Часу няма,— адмахнулася маці.— Вячэру гатаваць трэба. Скора бацька вернецца.

— Дык ты гатуй і расказвай.

— Ого, ты хочаш, каб я адразу дзве работы рабіла...

— Дык я табе памагу.

— Тады іншая справа.

Маці ўстала, узяла ў сенцах кош і рыдлёўку:

— Пойдзем бульбы падкапаем. Там і раскажу.

Бульбу, хоць і скараспелку, капаць яшчэ ранавата было. Таму яе хітрыя гаспадыні нейкі час не капаюць, а «падкопваюць», гэта значыць выбіраюць пад карчамі большую, а малую пакідаюць, прысыпаючы зямлёю.

— Ну, дык вось,— пачала маці, калі яны заняліся сваёй работай,— расказ мой будзе невялікі. Старыя людзі гавораць так. Жыў некалі ў нас адзін кравец. З якога роду ён быў і як яго звалі, цяпер ужо ніхто не памятае. Але быў ён чалавек вясёлы і працавіты. Абшываў усіх і ў сваім сяле і па чужых сёлах хадзіў. Аднаго разу позна, папацёмку ўжо, вяртаўся ён дахаты. А, відаць, нецвярозы быў. Ну і завяла яго сцежка ўбок. Ішоў ён, ішоў ды трапіў у дрыгвяное балота. А дзе дрыгва, там і стругі [1]. Ну, ён і ўскочыў у адну такую стругу. А з стругаю, вядома, жарты кароткія. Дапамогі ніадкуль не было. Так ён, небарака, і пайшоў на дно — засмактала яго дрыгва. Толькі шапку, кажуць, знайшлі потым наверсе і пазналі, чыя яна. Цяпер

[1] Струга — прорва ў дрыгве.

там няма ніякай стругі: высахла ўсё. Але месца тое так і завуць з таго часу «Краўцова струга».

Васіль быў расчараваны расказам:

— Нічога цікавага. Гэта не тое, што гусляроў курган!

— Можа і так,— згадзілася маці.— А яшчэ чула я ад сваёй бабкі такую байку пра наша Азярышча. Цяпер там таксама гладкая сенажаць. Толькі на самай сярэдзіне блішчыць невялічкае азярцо. Ты ж бачыў яго?

— Бачыў.

— Ну, дык вось, казалі, некалі там было вялікае возера. А на беразе возера стаялі рыбацкія хаты. Аднойчы адна кабета паліла ў печы і пякла бліны. І ў яе не хапіла вады. Адрывацца ад печы ёй нельга было. Тады яна і кажа свайму сыну, так вось, як я табе: «Збегай, сынок, да возера, начэрпай вады». Сын узяў дубовае вядро, начэрпаў вады з берага, ды не мог падняць вядра. Быў ён малы, а вядро цяжкое. Кінуць вядро пабаяўся. Ну, яно і пацягнула яго ўніз. Нарабіў ён крыку, топячыся. Пачула маці і, як стаяла, пабегла на бераг са скаварадою з блінам у руках. Бачыць — сын ужо на дно пайшоў. Адны бурбалкі скачуць на тым месцы. З гора ды з роспачы шпурнула маці скавараду з блінам у самую глыбіню і пракляла душагубнае возера сваім матчыным праклёнам. З таго часу возера пачало зарастаць і хутка зусім зарасло. Толькі маленькае акенца засталося — кажуць, гэта тое месца, дзе хлопчык утапіўся і дзе скаварада з блінам упала...

— А гэта ўжо куды цікавей,— сказаў усхваляваны пачутым Васіль,— хоць і не ўсё праўда. Возера магло зарасці. Нам пра гэта настаўнік геаграфіі гаварыў. Але ж не ад матчыных праклёнаў...

— Праўда ці не — не ведаю,— усміхнулася маці.— Што чула, тое і кажу. Хоць гэта яшчэ і не канец байцы. Памятаю, бабка гаварыла яшчэ так. На тым месцы можа калі-небудзь зноў стаць возера. Трэба толькі знайсці ў балоце тую скавараду з блінам. Але пакуль што ніхто яе не знайшоў...

— І шукаць не варта,— сказаў Васіль.

— Чаму? — здзівілася маці.

— Навошта нам тое возера? У нас рэчка пад бокам. А Азярышча можна асушыць, і там будзе ўрадлівая зямля, як на Палессі. Чула, што там цяпер робіцца? Усё Палессе асушваюць...

— Бач, які ты ў мяне гаспадарлівы,— глянула на Васіля маці, і вочы яе заблішчалі ад радасці.

Бацька таксама нічога не ведаў пра курган. І гэта яшчэ больш распальвала Васілёву цікаўнасць: што за таямнічы курган?

Назаўтра ён сустрэў на вуліцы важатую Жэню. І з першых жа слоў загаварыў аб учарашнім паходзе на рэчку і аб кургане.

— Дык жа і я не ведаю! — усклікнула Жэня і неяк вінавата развяла рукамі.— Хоць і сорам не ведаць сваёй мясцовасці. Геаграфію вучым, усе гарады, рэкі ведаем. А пра курган, што ў сябе пад бокам, нічога сказаць не можам...

Жэня падумала крыху, папраўляючы грабянцом свае каштанавыя валасы. Яна перайшла ўжо ў дзесяты клас. Вучылася добра і шмат чытала. Праўда, не вырасла вялікай: Васіль ужо даганяў яе. Але ўсё ж яна лічыла сябе яго настаўніцай, і ёй не хацелася зараз проста абысці пытанне, якое так зацікавіла яе выхаванца. Звычайна яна так не рабіла: піянеры заўсёды знаходзілі ў яе і добрую параду і таварыскую дапамогу.

— Вось што, Васілёк,— сказала яна нарэшце.— Даю табе ад атрада заданне: даведайся ад старых людзей усё пра гэты луг і ўзгорак і потым раскажаш на зборы атрада. Я думаю, і для ўсіх гэта цікава будзе.

— Добра,— адказаў Васіль.— Але я ўжо распытваў дома, дык ні маці, ні бацька не ведаюць...

— Бацькі твае могуць і не ведаць, яны ў цябе яшчэ не так і старыя. А ты пагавары з самымі старэйшымі бабулямі і дзядулямі. Быць не можа, каб ніхто не ведаў.

## ПОШУКІ БАБУЛЬ І ДЗЯДУЛЬ

Калі Васіль слухаў важатую, яму здавалася ўсё проста. Але ўжо з першых крокаў выявілася, што такое заданне даць лягчэй, чым яго выканаць. Каго лічыць самым старым? Нават маці не магла адказаць яму на гэтае пытанне. Старых многа, а хто з іх самы старэйшы — хто яго ведае. Потым — як весці запіс расказаў? Як проста і ясна растлумачыць старому чалавеку, што ён ад яго хоча даведацца? Адным словам, адразу ж вынікла нямала пытанняў, звязаных з даручаным заданнем.

Паразважаўшы над гэтымі пытаннямі, Васіль вырашыў паклікаць на дапамогу сяброў. «Адна галава добра, а дзве лепш», успомніў ён прыказку. І трэба сказаць, што на гэты раз прыказка тут жа і пачала спраўджвацца. Практычны Міхась адразу ўзяў «быка за рогі».

— Хадзем у сельсавет,— прапанаваў ён.— Там ёсць спіскі, і мы даведаемся, хто самы старэйшы і ў нас і ў блізкіх да нас суседзяў. Гэта раз...

— А і праўда! — згадзіўся Васіль з простай і яснай прапановай Міхася.— Я ж кажу, што ты ў нас самая разумная галава.

— Чакай, не перахвалі,— адмахнуўся Міхась.— Далей зробім так: ты, Васіль, будзеш гаварыць са старымі, а мы з Юзікам запісваць.

— Навошта ўдваіх? Юзік і адзін запіша.

— А калі ён прапусціць што важнае? А тэтае важнае можа якраз запішу я. Тут нельга абы-як.

— Вядома, нельга,— падтрымаў яго Юзік.— Міхась праўду кажа.

Васіль падняў абедзве рукі:

— Угаварылі. Здаюся!

У сельсавеце хлопцы засталі і старшыню, чарнавусага дзядзьку Рыгора з суседняй вёскі, і сакратара, камсамольца Андрэя з іхняй Альхоўкі. Было тут і яшчэ некалькі наведвальнікаў, якія прыйшлі па сваіх справах. Яны сядзелі на доўгай лаўцы, ля сцяны, і гутарылі паціху між сабою. Адзін толькі добра знаёмы хлопцам дзед Мікалай, з палкаю ў руках, стаяў блізка ля старшынёвага стала.

Прывітаўшыся, хлапцы прымасціліся на той жа лаўцы. Дзядзька Рыгор гаманіў з дзедам Мікалаем. З размовы можна было здагадацца, што дзед патрабаваў нейкую даведку аб старасці. Міхась злёгку паштурхаў Васіля ў бок: вось табе першы стары...

— Добра,— сказаў старшыня, выслухаўшы дзеда,— дамо табе, дзядзька Мікалай, такую даведку. Пачакай крыху.

Дзед, накульгваючы, падаўся да лаўкі. Месца вольнага на ёй ужо не было, і хлопцы, як па камандзе, ускапіліся ды адышліся ўбок. Дзед паглядзеў на іх з удзячнасцю і моўчкі прысеў, апіраючыся на палку.

Дзядзька Рыгор сказаў сакратару, каб напісаў дзеду даведку.

— А вы, піянеры, што добрага скажаце? — звярнуўся ён да хлапцоў.— Слухаю вас.

Васіль выйшаў наперад. Камечачы ў руках шапку, пачаў гаварыць. Выходзіла не зусім складна, бо ён трошкі хваляваўся перад старшынёй, але дзядзька Рыгор ужо з першых слоў зразумеў яго.

— Гм...— усміхнуўся ён, паглядаючы на лаўку, дзе сядзеў дзед Мікалай.— Дык мы зараз вось і вырашым ваша пытанне. Мне нават і самому цікава ведаць. Дзядзька Мікалай, хадзі сюды на хвілінку. (Старшыня быў тaксама немалады і таму, відаць, зваў дзеда Мікалая дзядзькам.)

Дзед падышоў, працёр кулаком цьмяныя вочы, паглядзеў на хлопцаў, потым на старшыню і падрыхтаваўся слухаць.

— Вот піянеры хочуць ведаць, чаму луг, што за гаем, на завароце ракі, называецца Базылёвым курганом,— сказаў старшыня.

Дзед яшчэ раз паўглядаўся на хлопцаў.

— А адкуль жа вы, дзеткі? З нашай Альхоўкі?

— З Альхоўкі, дзед Мікалай,— адказаў Васіль.

— А-а... — нешта няпэўнае прагаварыў дзед і заклапочана пачаў углядацца ў акно.

Старшыня і хлопцы з цікаўнасцю пазіралі на яго, чакаючы адказу. Але дзед чамусьці не спяшаўся адказваць. Ён з натугаю моршчыў лоб і крахтаў сам сабе пaціху. Здавалася, хацеў нешта сказаць, ды вось бяда — у горле перасохла. Потым адвярнуўся ад акна, пацісuyў плячыма:

— Думаю, думаю, ды нічога вам і сказаць не магу на гэта. Завуць у нас так гэты луг. А хто быў Базыль — не скажу. Можа які ранейшы гаспадар з паноў. Ды толькі не за маю памяць.

Старшыня ўстаў з-за стала.

— Вось табе і задача,— загаварыў ён. — А я на цябе, стары, спадзяваўся. Ну, а курган на лузе быў за тваю памяць?

— Гэта ўзгорак той? — перапытаў дзед.

— Але.

— Быў. Я яго малым яшчэ памятаю. Ён такі ж і тады быў. Толькі дзве ці тры нізкія хвойкі, старыя ўжо, раслі на самым версе. Але іх спілаваў нехта яшчэ ў тую вайну. Гэты ж луг за маю памяць належаў пану Чапскаму. А чый ён быў раней, за паншчынай,— не ведаю...

Дзед раптам спахмурнеў і закашляўся ўжо як мае быць. Адкашляўшыся, вёў размову далей:

— А каб яго паралюш — аж папярхнуўся, як успомніў пана... Даўся ён нам у знакі. Колькі нашы бацькі ды і мы яшчэ павалтузіліся з ім за гэты луг! Бацькі казалі, што па старых планах Базылёў курган пасля паншчыны прыпісаны быў да нашага сяла як пасбішча. А стары Чапскі, а потым і яго сыны не хацелі аддаць луг сялу, падкупілі каморнікаў, і тыя перапраўлілі планы. Вось тады і пачалося. Мы гонім пасвіць кароў на свой луг, а панскія стражнікі не пускаюць. Мы сваё, а яны — сваё: забіраюць нашу жывёлу ў маёнтак. Ну, а там — плаці або гарбом адрабляй. Мы на суд, а там у пана свая рука. Мы да губернатара пішам прашэнні, а ён і не чытае іх. Некалькі чалавек нашых на катаргу пайшлі праз гэты луг... Яны, бачыш, гарачыя былі, з косамі ды віламі выступалі супроць панскіх служак. Ну, а тут ужо царскі парадак не міламаў мужыка. Ого, няхай яму калом зямля, гаду таму Чапскаму, і ўсяму яго роду, калі ён яшчэ дзе вядзецца... Толькі як ужо рэвалюцыя прыйшла, дык скончылася наша пакута...

Расказаўшы пра старыя парадкі за панам Чапскім, дзед падаўся на лаўку, а дзядзька Рыгор звярнуўся да расчараваных хлапцоў:

— Задачу вы мне задалі нялёгкую. Я спадзяваўся на дзеда Мікалая: яму ж ужо за сёмы дзесятак стукае! Да каго ж тады пасляць вас?

Ён падышоў да шафы, выбраў там адну тоўстую папку і, вярнуўшыся на месца, пачаў гартаць яе. Дагартаў да старонкі, з якой пачынаўся перапіс жыхароў вёскі Альхоўка, узяў аркуш чыстай паперы і заняўся выпіскай. Запісваючы ў слупок прозвішчы, сяды-тады паўтараў сам сабе:

— Так, так, ёсць і старэйшыя за дзеда Мікалая...

Хлопцы стаялі ля стала, сочачы за работай старшыні. Вось ён напісаў адно прозвішча і збоку паставіў год нараджэння — 1875.

Міхась тут жа зрабіў вылічэнне і весела шапнуў сябрам: семдзесят сем...

Потым у слупок стала другое прозвішча і год — 1878. Хлопцы з-за стала не разабраліся, каму належыць гэтае прозвішча, але Міхась зморшчыўся і пакруціў галавою. Затое, калі траплялліся меншыя лічбы, хлопцы весялелі.

Спісаўшы амаль цэлы аркуш, дзядзька Рыгор падаў яго Васілю:

— Вось вам пятнаццаць самых старэйшых людзей вашай Альхоўкі. Ідзіце пакуль што да іх. Паспрабуйце шчасця. Потым мне скажаце. Цікава ўсё ж. Выходзіць, вы і мяне ўцягнулі ў сваю піянерскую работу,— пажартаваў ён.

Васіль узяў лісток, падзякаваў і пайшоў да дзвярэй. За ім падаліся і Міхась з Юзікам.

## ЛЕТАПІСЦЫ

— Недарэкі мы безгаловыя,— з дакорам сказаў Васіль, выходзячы з сельсавета.— Ужо зрабілі памылку...

— Якую? — спалохана глянулі на яго Міхась і Юзік.

— Трэба было ўзяць сшыткі... Запісалі б, што гаварыў дзед Мікалай.

— Дык жа гаварыў ён не пра курган! — адказаў Міхась.

— Якраз пра курган.

— Дык жа не тое, што нам трэба...

— Гэта таксама гісторыя кургана, хоць і не такая старая.

— Нічога,— супакоіў Васіля Юзік. — Я ўсё запомніў. Дома запішу.

Хлопцы ішлі нейкі час моўчкі. Кожны думаў пра дзедаў расказ. І хоць яны вучылі ўжо гісторыю, а ўсё ж цяжка ім было ўявіць і пана Чапскага — ранейшага гаспадара Базылёвага кургана і ўсіх навакольных зямель, і яго кастражнікаў, якія сілаю забіралі ў маёнтак сялянскіх кароў з гэтага лугу. Дзіўны ўсё ж нейкі свет быў у тыя далёкія для іх часы!

Васіль успомніў размову з маткай.

— А вы чулі байкі пра Краўцову стругу і старое Азярышча? — запытаўся ён у сяброў.

— Не,— адказаў Міхась.

— Я таксама не чуў,— пакруціў галавою Юзік.

Васіль расказаў.

— Ого! — усклікнуў Юзік, уражаны байкамі пра знаёмыя мясціны. — Выходзіць, што і ў нас ёсць цікавыя казкі і легенды. Помніце, летась мы вывучалі народную твор-

часць... Давайце запішам і гэта. А потым Віктару Сяргеевічу аддадзім. Ён на ўроках будзе расказваць!

— Ці не летапісцам Нестарам ты хочаш стаць? — пырснуў са смеху Міхась. — Тады, брат, знай дружбу: вырву я для цябе ў нашага куслівага гусака Ґогі пяро, завастру і падарую на памяць: «На, брат Юзік, пішы летапіс калгаса «Светлы шлях», пачынаючы ад старажытнай Русі...»

Еще одно последнее сказанье,
И летопись окончена моя...—

нараспеў вясёлым тонам пачаў дэкламаваць Юзік.

Васіль спыніў яго:

— Гэта для цябе не падыходзіць. Ты яшчэ збіраешся занісаць толькі першае сказанне. Аднак жарты жартамі, а ты, Міхась, здаецца, зноў разумнае прыдумаў. Вось стаіць наша Альхоўка на беразе Быстрыцы. А калі яна тут з'явілася? Хто першы пачаў яе будаваць? Што тут было далей? Аб гэтым жа ніхто з нас не ведае... — І, звярнуўшыся да Юзіка, дадаў: — Даю табе ад звяна піянерскую нагрузку: пішы летапіс нашага калгаса — і стары, і новы. Вершамі ці прозай — усё роўна. А я ў цябе згодзен стаць памочнікам. Ты ж у насценнай газеце ўжо выступаеш з вершамі...

Юзік пачырванеў:

— Ну, сказаў...

— Не хавайся — ведаем, хто напісаў пра Паўлікаву двойку...

— Дзіва што ведаеце. Там прозвішча стаіць: Ю. Асот. Значыць, Асот і напісаў. А я пры чым тут?

— А псеўданім ты выбраў сабе няўдалы,— заўважыў Міхась. — Які ж ты асот? Хутчэй — атава... Табе Паўлік грымакоў нашпыляў, а ты і здачы не асмеліўся даць.

— Гэта ўжо, брат, па тваёй спецыяльнасці... — агрызнуўся Юзік.

— Ша, малыя,— спыніў іх Васіль,— а то яшчэ да сваркі дойдзе.

Юзік скоса паглядзеў на Міхасёвы рукі:

— Да сваркі то нічога, а вось калі да кулакоў...

Вярнуўшыся з сельсавета, хлопцы паабедалі і зноў сабраліся ў Васіля. Юзік прынёс тоўсты сшытак у сінім пераплёце, а Міхась — невялікі блакнот.

Узброіўшыся, як належыць летапісцам, хлопцы рушылі ў сваё першае гістарычнае падарожжа. Але на вуліцы

адразу ж задумаліся — з каго пачынаць абход? Васіль дастаў з кішэні лісток, перачытаў. Прозвішчы старых ім былі знаёмыя, хоць і не ўсе: Альхоўка вёска немалая і жыхароў у ёй з аднолькавымі імёнамі і прозвішчамі таксама нямала. Вось першае ў спісу — Кацуба Кацярына. Усіх Кацубаў-школьнікаў яны ведаюць. Але чыя ж з іх бабка Кацярына?

— Гэта, напэўна, Міколкава,— пачаў здагадвацца Юзік.

— Адкуль ты ведаеш, што Міколкава? — запытаўся Васіль.

— Я быў у іх зімою, дык бачыў на печы старую бабулю.

Міколка жыў у другім канцы вёскі. І таму, параіўшыся, хлопцы вырашылі пачаць свой абход з Міколкавай бабкі, а пасля варочацца назад, у свой канец.

Размаўляючы аб тым ды сім, яны і не заўважылі, як хутка прашагалі сваю доўгую Альхоўку і апынуліся ля сядзібы патрэбных ім Кацубаў. Двор Кацубаў быў абгароджаны новымі штыкетамі, з брамаю і каліткаю, за якімі відаць была новая хата на высокім цагляным падмурку. Але толькі хлопцы зачынілі за сабою калітку, як раптам аднекуль з-за хлява насустрач ім выскачыў вялізны лапавухі сабака. Ён падбег зусім блізка і спыніўся ў нерашучасці, скалячы зубы і разглядаючы незнаёмых гасцей.

Міхась адпіхнуў назад Васіля і Юзіка, а сам, пасвістваючы, зрабіў крок да сабакі.

— Чакайце,— сказаў ён сябрам,— я сам пагаманю з ім. Я ўмею ім зубы загаварваць.

І ён распачаў перагаворы з недалікатным гаспадаром двара:

— Ты што? Не пазнаў? Ідзі ў будку! Ляж!

Аднак гаспадар двара не вельмі прыслухоўваўся да такіх дыпламатычных перагавораў. Высказаліўшыся, ён злосна забурчаў: «Не падыходзь!»

— Ну, ну, чаго ўсхадзіўся?

Міхась вырашыў улагодзіць сабаку ласкай і выставіў руку, каб паказаць, што ён прыйшоў да яго без каменя і без палкі... Сабака ж зразумеў гэты ласкавы жэст па-свойму і цапнуў зубамі за руку...

Міхась кулём кінуўся да варот. За ім далі ходу і Васіль з Юзікам. Адчуўшы сваю перамогу, сабака моцна забрахаў.

На вуліцы, за каліткаю, Міхась паглядзеў на пакусаную руку. На ёй у некалькіх месцах чырванеліся свежыя плямы крыві.

— Ах каб цябе ваўкі разарвалі!.. — хукаў ён на руку. — Вось табе і загаварыў зубы...

— Баліць? — пыталіся спалоханыя сябры.

— Шчыміць...

З двара пачуўся зычны голас:

— Келма, на месца!

Келма, які дагэтуль усё яшчэ злосна бурчаў ля каліткі, падцяў хвост і вінавата пацягнуўся да хлява, у будку.

На вуліцу выбег Міколка, шустры басаногі хлапчук.

— Вы што — дражніліся з ім? — нахмурыўся ён на хлопцаў.

— Ды не,— адказаў Васіль. — Мы да вас хацелі зайсці. А ён бачыш, што зрабіў...

Міхась паказаў акрываўленую руку.

Міколка аж спалохаўся.

— Я ж яму дам!

Ухапіўшы на двары аскабалак, ён кінуўся да будкі. Неўзабаве адтуль, як апараны, вырваўся разбойнік Келма, скокнуў цераз плот і з енкам знік у садку. Міколка наўздагон запусціў у яго аскабалкам.

Вярнуўшыся назад, ён сказаў заклапочана:

— Хадзем у хату. Трэба ёдам заліць.

У хаце нікога з старэйшых не было. Але шустры Міколка хутка знайшоў у заградцы бутэлечку з ёдам, а ў куфэрку — чысты белы ласкуток.

— Ваты няма ў нас,— пашкадаваў ён, перавязваючы ласкутком параненую Міхасёву руку. — Вось жа дурны сабака! Ну, пачакай, я ж яму яшчэ дам! Гэта ён вас не ведае. А так, хто знаёмы, ён не кінецца. Толькі стаіць ля каліткі ды бурчыць — страшыць.

Міхась змаўчаў перад Міколкам аб сваіх перагаворах з Келмам, а Васіль сказаў з усмешкай:

— Першая ахвяра нашага гістарычнага паходу...

— І рука ж правая... — забедаваў збянтэжаны Юзік.— Як цяпер запісваць будзеш?

Міхась развёў рукамі:

— Інвалід другой групы!

Дастаўшы свой блакнот і аловак, ён перадаў іх Васілю.

— На, брат Васіль, цяпер я буду цябе замяняць.

Васіль узяў блакнот, засмяяўся:

— Я ж казаў, што гатоў стаць памочнікам у Юзіка. Так яно і выйшла. — Зірнуўшы на Міколку, ён запытаўся: — Дзе твая бабка?

— На агародзе. Грады поле.

— Дык што яна — маладая? — здзівіўся Васіль.

— Не, старая.

Васіль глянуў у лісток і, пашаптаўшыся сам з сабою, сказаў:

— Ёй жа восемдзесят гадоў! Я думаў, яна толькі на печы ляжыць.

— Ёй і тата так гаворыць: «Ляжы ты, маці, кажа, лепш на печы, без цябе зробім». А яна не хоча. На печы ёй, кажа, косці баляць,— ахвотна пачаў расказваць Міколка пра сваю бабку.

Разам з Міколкам хлопцы пайшлі на агарод. Бабка Кацярына сядзела ў разоры і жвава скубла маладую лебяду на капуснайградзе. З выгляду яна здалася хлопцам зусім маленькай і кволай, як дзяўчынка.

Толькі што адзета не так, як маладыя: у паркалёвай хустцы, перасыпанай гарошкам, у доўгай цёмнай спадніцы і ў кабаце паверх цёплай мультановай кофты.

Даведаўшыся, што хочуць ад яе піянеры, бабка Кацярына адказала ціхім шапялявым голасам:

— Не ведаю, дзеткі. На тым лузе я і маладая некалі рэдка калі была. Ад нас туды і не хадзілі. Мы там не касілі і не пасвілі. Можа з таго канца хто ведае...

Бабка зноў пачала палоць, а хлопцы, пастаяўшы крыху, пайшлі назад.

Да вечара яны абышлі амаль палавіну Альхоўкі. І — нічога пэўнага так і не пачулі. Усе адказвалі тое ж, што і дзед Мікалай і бабка Кацярына: так бацькі і дзяды называлі гэты луг, ну і мы так яго называем...

Увечары пачалі вывучаць спіс. Выявілася, што яны пабывалі ўжо ў бабуль і дзядуль, якім па семдзесят і нават па восемдзесят гадоў. А калі пераглядзелі прозвішчы яшчэ неапытаных, дык зусім спахмурнелі: у спісу не засталося старэйшых за тых, з кім яны гаварылі...

— Цяжка быць летапісцам,— уздыхнуў Міхась, касавурачыся на Юзіка. — Не, брат, лепш не бярыся за такую гіблую справу. Дарэмна толькі ногі саб'еш.

— Табе жарты,— заўважыў Васіль,— а ў мяне заданне.

Аднак і другі і трэці дзень паходаў нічым не парадавалі малых летапісцаў. Праўда, пахадзілі яны не дарэмна: некаторыя бабулі і дзядулі ахвотна расказалі ім шмат іншых цікавых гісторый пра Альхоўку, і ўсе гэтыя гісторыі Юзік, хоць і каратка, паўпісваў у свой тоўсты сіні сшытак. Перагартаўшы сшытак, Міхась зусім без жартаў на гэты раз пахваліў Юзіка:

— Вось цяпер ты сапраўдны летапісец!

## НЕСПАДЗЯВАНАЯ ПРЭМІЯ

Пасля няўдалых паходаў Васіль вырашыў пагаварыць п важатай. Выслухаўшы яго, Жэня спахмурнела. Дробны яе твар, на якім выразна вылучаліся адны толькі вялікія цёмна-шэрыя вочы, пакрыўся ценем заклапочанасці. «Выходзіць, гэта сапраўды нейкі старажытны курган, і аб ім ужо не захавалася нічога ў людской памяці...» — падумала яна. Значыць, раскрыць яго таямніцу не так проста, як здавалася.

Але цікаўнасць брала верх і над Жэняй, і ёй не хацелася зараз так лёгка адмовіцца ад далейшых пошукаў якіх-небудзь вестак пра курган. Тое, што луг носіць назву іменна кургана, не выклікала сумнення. З гісторыі яна ведала, што курганы ў старыя часы насыпалі на магілах. Значыць, трэба думаць, што гэта магіла нейкага Базыля... Ёй успомніўся пачатак шаўчэнкаўскага запавету: «Як умру, то поховайте мене на могили серед степу широкого на Украіні мілий...» Ведала яна на памяць і купалаўскі «Курган» — цудоўную легенду пра смелага гусляра-песняра. А сапраўды: ці толькі легенда гэта?

Цэлы рой думак выклікаў у яе гэты нямы сведка якойсьці даўно мінулай падзеі. І дзіва: дагэтуль яна таксама, як і іншыя, ніколі не задавала сабе падобных пытанняў!

— Так,— сказала яна нарэшце,— заданне тваё, Васілёк, здаецца, не лёгкае... Але ці варта нам апускаць рукі? Гэта было б не па-піянерску.

Васіль таксама гадаў зараз, што яшчэ яны маглі б зрабіць, каб усё ж не пакінуць справу нязконччанай.

— Можа з Віктарам Сяргеевічам пагаварыць,— падказаў ён Жэні.

Жэня ўсміхнулася:

— Ты перахапіў маю думку. Праўда, Віктар Сяргеевіч не з нашай мясцовасці. Але можа ён хоць параіць нам што-небудзь. Я пагавару. А не, давай зараз зойдзем да яго. Хаця,— раптам схамянулася яна,— ты вось казаў пра зробленыя Юзікам запісы. Мне здаецца, гэта зацікавіць Віктара Сяргеевіча. Пакліч Юзіка. Я пачакаю вас.

Праз хвілін колькі Васіль вярнуўся з Юзікам і Міхасём. Міхася ён паклікаў сам. Як жа без яго? А раптам ён зноў што разумнае прыдумае?

Віктар Сяргеевіч быў дома. Ён толькі што вярнуўся з раёна і зараз, лежачы ў гамаку, развешаным у невялічкім садзе пры доме, чытаў свежыя газеты. Убачыўшы важатую з піянерамі, ён падняўся з гамака.

— Выбачайце, Віктар Сяргеевіч, мы вас патурбавалі... — нясмела загаварыла Жэня, прывітаўшыся.

— Калі ласка, калі ласка, рад гасцям! Разлежвацца мне яшчэ рана. Не стары. Прашу вось на лаўку.

Лаўка стаяла тут жа пад яблыняй, побач з гамаком. Віктар Сяргеевіч прысеў сам з краю і паказаў рукою на вольнае месца для гасцей. Сярэдняга росту, круглатвары, з вясёлымі жвавымі вачыма, Віктар Сяргеевіч выглядаў яшчэ сапраўды маладым чалавекам гадоў трыццаці пяці, хоць меў крыху больш. Але зараз гэтую рэшту гадоў хаваў здаровы крамяны летні загар. Адзеты ён быў ва ўсё белае — белая вышываная кашуля, белыя, з ільнянога палатна, штаны, белыя парусінавыя туфлі.

Віктар Сяргеевіч прыехаў у калгас «Светлы шлях» шэсць гадоў таму назад, калі ўпершыню тут пачатковая школа пачала пераўтварацца ў сямігадовую. Спачатку тады прыбавіўся толькі пяты клас, а зараз ужо дайшло і да дзесятага. Цяпер ужо ўсе бадай і забылі пра стары драўляны будынак на краі вёскі, што называўся раней школай. Цяпер там размясцілася праўленне калгаса, а для новай школы пабудавалі ў самым цэнтры Альхоўкі новы двухпавярховы будынак, і не з бярвення, а з цэглы, і накрылі яго чарапіцай. Будову гэтую рабілі на доўгі век і рабілі з любоўю: атынкаваная, абсаджаная маладым садам, абгароджаная пафарбаванымі ў салатавы колер штыкетамі, школа цешыла вока і радавала кожнага прахожага і праезджага.

Дырэктарам гэтай новай школы і быў настаўнік мовы і літаратуры Віктар Сяргеевіч.

Даведаўшыся аб няўдалых спробах піянераў раскрыць таямніцу Базылёвага кургана, Віктар Сяргеевіч жвава ўсхапіўся з лаўкі, сарваў з яблыні пяць самых большых спялейшых яблыкаў і, падаючы ўсім па яблыку, сказаў вясёлым тонам:

— Гэта вам прэмія!

— За што? — здзівілася важатая.

— За тое, што вы пачалі добрую справу.

Пяты яблык ён выцер хустачкай:

— А гэта мне — таксама прэмія.

— А вам за што? — засмяялася Жэня.

— За тое, што выслухаў вас. Бачыце,— паказаў ён на густую прысадзістую яблыню,— рваць іх яшчэ ранавата, але дзеля прэміі можна дазволіць сабе такое выключэнне. Тым больш што яны салодкія.

Важатая і хлопцы збянтэжана паглядалі на дырэктара: за што ўсё ж яны заслужылі прэміі? Наадварот, яны аказаліся зусім бездапаможнымі ў той справе, аб якой ішла размова.

З'еўшы яблык, Віктар Сяргеевіч працягваў:

— Мне, апрача ўсяго, падабаецца сама ідэя гэтай справы. Сапраўды: чаму б нам не заняцца гісторыяй сваёй вёскі, а можа і шырэй паглядзець на гэта — не толькі сваёй, а і суседніх, якія звязаны з нашай школай і калгасам. І не толькі гісторыяй, а і геаграфіяй, і геалогіяй, і фальклорам [1]. Вось што перш за ўсё бачу я ў вашай рабоце!

— А курган? — спалохана запытаўся Васіль.

— Курган само сабою мяне захапіў не менш, чым вас. Хоць, прызнаюся, і засмуціў таксама. Магчыма, гэта самы выдатны старажытны помнік нашай мясцовасці або ўсяго краю. І магчыма, што гісторыя яго ўзнікнення загінула або можа загінуць бясследна. Такіх фактаў нямала.

Віктар Сяргеевіч змоўк, аб нечым задумаўшыся. Потым загаварыў ажыўлена:

— Добра, вельмі добра, што вы пачалі гэтую работу. Першыя крокі, вядома, могуць быць і няўдалыя. Але расчароўвацца не варта. Я таксама падумаю наконт кургана. Схаджу пагляджу яго, зраблю план і замалёўку.

— Навошта? — запыталася важатая.

— Пашлю ў Акадэмію навук. Магчыма, ён упамінаец-

[1] Фальклор — вусная народная творчасць.

ца дзе ў энтаграфічных ці гістарычных дакументах. А калі не — тады будзем думаць, што рабіць далей.

Абнадзееныя Віктарам Сяргеевічам, хлопцы павесялелі.

— А калі б раскапаць яго? — нерашуча задаў пытанне Міхась.

Віктар Сяргеевіч адказаў:

— Гэта неблагая думка. І, магчыма, так мы і зробім. Але толькі тады, калі не зможам нічога пэўнага даведацца іншым шляхам. Чаму? Таму што раскопкі ўсё ж не выявяць усёй гісторыі. Калі нават мы там і знойдзем якія-небудзь рэчы, дык яны не раскажуць самага галоўнага: хто такі быў Базыль і чаму яго пахавалі іменна ў гэтым месцы? Урэшце, я думаю, што на раскопку трэба, відаць, мець дазвол Акадэміі: гэта ж не просты ўзгорак!

— А калі там багаты князь пахаваны і каля яго золата скрыня... Дык мы хоць золата забяром...— фантазіраваў Міхась, размахваючы рукамі.

— Золата ад нас не ўцячэ,— адказаў настаўнік. — Мы сапраўды яго забяром, калі знойдзем. Але я не думаю, каб багатых князёў хавалі ў такім месцы. Тут нейкая больш мудроная загадка.

— Віктар Сяргеевіч, а можа гэта і ёсць гусляроў курган? — сказаў Юзік, пачырванеўшы. — Ён жа закапаны на ўзбярэжжы ракі...

— ...шумнацечнай! — падхапіў Міхась.

Настаўнік адказаў з хітрынкай у вясёлых вачах:

— Што ж, можа наша рака таксама была некалі шумнацечнай. Недарэмна яна Быстрыцай называецца. Многія рэкі памяльчэлі за апошнія стагоддзі. Памятаеце, я расказваў вам пра бітву на Нямізе. У часы, калі жыў аўтар «Слова аб палку Ігаравым», гэта была вялікая рака. Цяпер жа ад яе адзін раўчук застаўся. Ну, што ж, будзем ганарыцца сваім вялікім земляком, калі толькі гэта ён спачывае тут на землях нашага калгаса. Зусім можа быць, што прыгожая легенда пра гусляра не толькі паэтычны вымысел народа. Вось наша задача і выясніць гэта — хоць бы і для навукі.

Віктар Сяргеевіч яшчэ доўга гаманіў з піянерамі, чытаў Юзікаў сшытак. І хоць у запісах, зробленых наспех, было нямала памылак, настаўнік шчыра захапляўся і хваліў хлопцаў.

Тыдні праз два Віктар Сяргеевіч паклікаў у школьную канцылярыю важатую Жэню. Нічога не кажучы, ён дастаў з шафы аркуш паперы з друкаваным на машынцы тэкстам і падаў ёй, а сам сеў за стол ды заняўся разглядам нейкіх брашур.

Жэня шпарка забегала вачыма па радках тэксту:

«Паважаны Віктар Сяргеевіч!

Пісьмо ваша вельмі зацікавіла нас. Мы, сапраўды, далёка не поўнасцю даследавалі свой край. А скарбаў у нас багата — і пад зямлёю, і на зямлі, і ў народзе. Іх трэба выявіць і вывучыць. Гэтым і займаецца наша Акадэмія. Але нам патрэбны тысячы памочнікаў, якія б заглянулі сваім пільным вокам ва ўсе куткі краіны. Вы, паважаны Віктар Сяргеевіч, з сваімі выхаванцамі і ёсць тыя памочнікі, якіх мы з радасцю вітаем. Таму вельмі пажадана, каб пачатая вашымі піянерамі работа пашыралася і набыла масавы краязнаўчы рух у школе.

Што можна сказаць аб Базылёвым кургане, план і замалёўку якога вы нам прыслалі?

Нідзе ні ў гістарычных, ні ў іншых дакументах, вядомых нам, ён не ўпамінаецца. Па велічыне і форме, а таксама па тэрытарыяльным размяшчэнні ён, на нашу думку, не можа быць курганом старажытнай пагранічнай заставы або загінуўшай у бойцы княжацкай дружыны ці самога князя. Часта яшчэ курганамі завуць у нас звычайныя ўзвышшы сярод лугу або сенажаці, дзе ставяць стагі. Але чаму ж тады ваш курган мае такую назву, звязаную з іменем чалавека? І сапраўды, калі не захавалася ніякіх іншых вестак, дык мы не пярэчым, калі Вы звернецеся з Вашым пытаннем да самога кургана: ці не скажа хоць штонебудзь сам нямы сведка нейкай падзеі мінулага? Паспрабуйце зрабіць траншэю да цэнтра. Рэшткі пахавання, вядома, могуць быць, перш за ўсё, у цэнтры кургана. Абавязкова напішыце нам аб выніках раскопак. Чакаем ад Вас фальклорных запісаў, як ужо зробленых Вашымі вучнямі, так і тых, што зробіце. Будзем Вам вельмі ўдзячны.

Шчырае прывітанне Вашым юным краязнаўцам Юзіку, Васілю і Міхасю!

Старшы навуковы супрацоўнік сектара археалогіі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР *К. Карповіч*».

Жэня яшчэ раз перачытала пісьмо і моўчкі аддала яго настаўніку.

— Ну, што скажаш? — запытаўся Віктар Сяргеевіч, заглядаючы ў яе спахмурнелыя цёмна-шэрыя вочы. — Бачу, не ўзрадавала яно цябе.

— Так, не ўзрадавала, Віктар Сяргеевіч...

Настаўнік з дакорам паківаў галавою:

— Зразумела: вам бы хацелася атрымаць гатовенькі адказ або яшчэ лепш — прачытаць у падручніку.

Жэня густа пачырванела, успыхнула:

— Зусім не так, Віктар Сяргеевіч...

— Дык у чым жа справа?

— Я думаю — не час нам зараз займацца раскопкамі.

— Чаму?

— У калгасе самая ўборка. А мы ўсё ж не апошнія ў гэтай рабоце: усе піянеры за камбайнам і жняяркамі каласкі падбіраюць, перавяслы вяжуць...

Віктар Сяргеевіч павесялеў:

— Ах, вось яно што! А я ўжо хацеў падумаць благое: расхаладзела піянерыя да таямніцы кургана.

Дырэктар падняўся з-за стала, затупаў па пакоі, разважаючы:

— Што ж, выходзіць, будзем чакаць наступнага лета? А што скажуць на гэта піянеры? Дарэчы, нядаўна ў мяне пытаўся пра курган нават старшыня сельсавета. Відаць, і яму нарабілі клопату твае цікаўныя хлопцы,— усміхнуўся ён. — Ну, добра. Я пагавару з Раманам Іванавічам. Мне здаецца, мы да заняткаў зможам справіцца і з каласкамі і з раскопкамі.

— Тады іншая справа,— ажывілася Жэня. — А то мы, ведаеце ж, узялі на сябе абавязацельства...

У той жа дзень Віктар Сяргеевіч гаварыў з старшынёй калгаса Раманам Іванавічам. Заняты работаю і рознымі калгаснымі справамі, Раман Іванавіч, аднак, вельмі ж спагадліва паставіўся і да гэтай пабочнай справы.

— Калі ласка,— ахвотна згадзіўся ён. — Бярыце сабе хоць паўдружыны. Самая гарачка ў нас, можна сказаць, мінае. Ды я і не крыўджуся сёлета на камбайнераў — чыста ўбіраюць. Толькі вось што мяне турбуе: ці можна даручыць раскопку кургана адным піянерам? Вазьміце, Віктар Сяргеевіч, на сябе кіраванне. На адхоне капаць траншэю не цяжка. А калі дойдзеце да сярэдзіны, там, відаць,

трэба будзе дашчаныя перагародкі рабіць, а можа і тунель на метраў два-тры...

Праз хвілін колькі аб выніках гэтай размовы даведалася і Жэня.

— Відаць, прыйдзецца арганізаваць брыгаду з старэйшых класаў,— параіў ёй Віктар Сяргеевіч.

Але Жэня нечакана рашуча запратэставала:

— Чаму са старэйшых? Хіба піянеры нашага атрада самі не справяцца з такою работаю? Не, Віктар Сяргеевіч, як сабе хочаце, а я на гэта не згодна. І што я ім скажу пасля гэтага?

Адчуўшы такую крыўду ў голасе важатай, дырэктар мусіў адступіць.

— Толькі адна ўмова,— дадаў ён.— Пойдуць хлопцы, а дзяўчаткі няхай сабе застануцца на полі. І кіраваць гэтым атрадам буду я сам...

Жэня зноў спалохана глянула на дырэктара.

— Такі загад Рамана Іванавіча,— растлумачыў ён.— Нічога не зробіш. Не хоча адных піянераў пасылаць.

— Дык што — мне не хадзіць туды?..

— Чаму ж не хадзіць? — супакоіў яе дырэктар. — Пойдзеш і ты. Але начальнікам гэтай археалагічнай экспедыцыі буду я.

Жэня ледзь не падскочыла ад радасці. Такую ўмову яна прыняла з прыемнасцю. Бо як жа, каб без яе працаваў атрад! За год работы ў атрадзе яна моцна прывыкла да піянераў, здружылася з імі, і зараз ёй цяжка нават уявіць, каб нехта другі замяніў яе, ды яшчэ на такой рабоце, як раскопка кургана...

Назаўтра ж, узброеная ламамі, рыдлёўкамі і сякерамі, археалагічная экспедыцыя рушыла ў паход. Вяла яе сама Жэня, вельмі здаволеная тым, што Віктар Сяргеевіч не адабраў ад яе атрада.

Віктар Сяргеевіч, з ломам на плячы, ішоў следам за атрадам — замыкаў калону. На ім была цёмная картовая рубашка, цёмныя штаны і старыя чаравікі. Толькі саламяны капялюш, звычайны, які ён носіць улетку штодзённа. Трэба сказаць, што Віктар Сяргеевіч належаў да той катэгорыі людзей, якія любяць і паважаюць усялякую работу, і таму знешні воблік яго часта мяняўся. То яго бачылі ў святочным новенькім гарнітуры, калі ён з'яўляўся на занятк або ішоў на прагулку, то ў звычайным рабочым, калі ён корпаўся ў садку ці на агародзе або з вудай сядзеў на

беразе Быстрыцы. Улетку ён часта хадзіў з касою на сенажаці і касіў не горш за самых заўзятых касцоў. Але асабліва любіў ён займацца хатняй гаспадаркай: рэзаў і калоў дровы, насіў ваду, майстраваў розныя заградкі, полкі і палачкі, табурэткі і лаўкі. І галоўнае, што сам ён гэтую работу лічыў толькі за адпачынак. Самай большай пакутай для яго было нічога не рабіць, ляжаць або сядзець склаўшы рукі.

Брыгада ішла з песнямі. Запяваў, як звычайна, Юзік. Яго высокі, звонкі голас любілі ў атрадзе, і таму ўсе ахвотна падпявалі яму. А сёння ў дадатак да маладых галасоў мяккім басам падпяваў Юзіку і сам дырэктар школы.

Так з песнямі і не заўважылі, як дайшлі да рэчкі. У апошнія дні прайшлі дажджы, рэчка прыкметна папаўнела і цяпер весела блішчала пад сонцам. Змяніўся за гэты час і луг: на ім густа пайшла ў рост зялёная атава.

Хлопцаў спакусіла рэчка: яны адразу ж парушылі строй, ірвануліся да берага. Але тут у кіраўніцтва атрадам умяшаўся Віктар Сяргеевіч.

— Купацца будзем толькі па камандзе,— строга папярэдзіў ён. — Мы прыйшлі на работу...

Глянуўшы на свой ручны гадзіннік, ён дадаў:

— Пятнаццаць хвілін на перапынак і — за рыдлёўкі!

Пакуль атрад адпачываў, Віктар Сяргеевіч з важатай заняліся практычнай геаметрыяй: змералі крокамі даўжыню кургана, вызначылі сярэдзіну і правялі ад яе простую рысу-лінію да вяршыні. Па гэтай лініі і павінна была праходзіць будучая траншэя ў самы цэнтр кургана. Скончыўшы гэтую работу, Віктар Сяргеевіч акінуў вачыма ўзгорак і сказаў:

— Ну, што ж, паспрабуем, на шчасце, прыадчыніць заслону мінулай быліны. Работы, аднак, не так і многа. Дзён праз пяць будзем размаўляць з продкамі... Пачнём!

— У добры час, таварыш начальнік археалагічнай экспедыцыі! — засмяялася Жэня.

Віктар Сяргеевіч падышоў да хлопцаў і расказаў ім аб парадку работы: першая група спачатку пойдзе церабіць кусты і ачышчаць рабочую пляцоўку, другая, услед за ёй, будзе знімаць верхні здзірванелы пласт, трэцяя — глыбей урывацца ў грунт. Зямлю адкідаць чым далей убок, каб потым не перашкаджала яна, калі пачнуць дабірацца да сярэдзіны кургана.

Увесь гэты распарадак у Віктара Сяргеевіча быў вы-

значаны яшчэ ўчора, як толькі ён цвёрда дамовіўся аб раскопках кургана з Раманам Іванавічам. Вось чаму з першых жа хвілін работа пайшла дружна і спорна. Грабары не збіваліся ў кучу, кожны меў сваё месца на ўчастку і ведаў сваю задачу.

Васіль і яго закадычныя сябры, Юзік і Міхась, пакусаная рука якога ўжо даўно зажыла, трапілі ў першую групу. Да іх далучыўся і Віктар Сяргеевіч. З ломам у руках, ён увесь час паспяваў у тыя месцы, дзе траплялісн найбольш тоўстыя карчы ад ссечаных хлопцамі кустоў, падважваў іх і выкідаў на паверхню. Яго жвавасць і рухавасць захапляла ўсіх. Сяды-тады ён спыняўся і пазглядаў на работу дзвюх іншых груп, ля якіх засталася Жэня. Там дружна мільгалі ў паветры рыдлёўкі і камякі свежай зямлі.

«Добра завіхаюцца,— радаваўся настаўнік,— малайцы. Так і трэба. Выходзіць, Жэня праўду казала, што самі справяцца».

Але ўжо праз якія паўгадзіны, бачачы, што хлопцы вельмі ж заядла рвуць курган, Віктар Сяргеевіч даў каманду не спяшацца... «Гэтак яны могуць у першы ж дзень збіць ахвоту да працы»,— падумаў ён.

Ссякаючы кусты лазняку, Міхась увесь час жартаваў з Васіля:

— Праз цябе губім іх... Каб гэта не курган твайго цёзкі, ці ж я згадзіўся б псаваць яго. А так, што ні кажы — можа тут сапраўды які-небудзь выдатны цёзка нашага звеннявога. Трэба ж хоць паглядзець на яго.

— Маўчаў бы лепш,— нездаволена бурчаў Васіль.— Калі ўжо шукаць вінаватага, дык далёка хадзіць не трэба — усё ты са сваімі акунямі нарабіў...

— Зусім не я, а Юзік...

— А пры чым тут я? — дзівіўся Юзік.

— А пры чым тут мой цёзка? — пераходзіў у атаку Васіль.

— Пры чым ці не пры чым, а мазалёў ён нам нагоніць... — працягваў сваё Міхась.

— Убачыць хочаш Базыля, дык не бойся мазаля,— адказаў яму Юзік тут жа прыдуманым вершам.

Міхась збянтэжыўся:

— Бач ты! Сапраўдны Асот. А я не верыў. Чакай жа, і я на цябе зараз прыдумаю.

Спыніўшы работу, ён замармытаў сабе пад нос:

— Асот — плот — бегемот — чорт...

Але далей нічога не выходзіла. Ён толькі махнуў рукою і зноў ухапіўся за работу.

— А ўсё ж нецікавая нам работа выпала,— праз нейкі час скардзіўся ён, касавурачыся на Васіля. — Можа там хлопцы гуслярову ліру ўжо цягнуць, а мы тут толькі яшчарак пужаем.

— Затое мы пракладаем першы след да ліры,— з гонарам адказваў Васіль, выціраючы рукою спацелы лоб.

Праз гадзіны дзве траса для траншэі была ачышчана, і ўся першая група пераключылася на раскопкі.

## АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ

Як і разлічваў Віктар Сяргеевіч, к канцу пятага дня археалагічная экспедыцыя падабралася да самага цэнтра кургана. Траншэя ад падножжа ўзгорка была мелкая, потым паступова паглыблялася і, нарэшце, недалёка ад грэбеня, перайшла ў тунель. Вось тут і спатрэбілася тое інжынернае збудаванне, аб якім гаварыў Раман Іванавіч.

Цяпер усіх хвалявала адно: ці знойдуць яны тут разгадку таямніцы кургана? Пакуль што, на падступах да цэнтра, ніякіх ні рэчаў, ні слядоў пахавання не было выяўлена.

І як жа расчараваліся хлопцы, калі і ў самай сярэдзіне кургана яны нічога не знайшлі. Толькі зямля там была не такая, як у верхніх пластах, а мокрая, перамешаная з гразёю. Гэтую гразь выносілі на святло, уважліва разглядалі, пераціралі пальцамі і з жалем адкідалі ўбок.

— Можа не там, дзе трэба, капаем? — хвалявалася Жэня.

Віктар Сяргеевіч таксама быў збіты з панталыку. Ён зноў пачынаў мераць курган, на гэты раз ужо кіем, аглядаў яго з усіх бакоў, вывучаў і ўсё ж не мог знайсці памылкі: цэнтр павінен быць якраз там, дзе прайшла траншэя! Адна толькі думка зараз не давала яму спакою: можа хіба насып зроблены няроўна? І сапраўды: не маглі ж тыя людзі, хто насыпаў курган, вымяраць яго каморніцкай рулеткай!

Аднак такая думка зусім не цешыла яго: гэта значыць, давядзецца скопваць увесь курган, аб чым не можа быць зараз і гаворкі.

І начальнік экспедыцыі вымушаны быў падаць каманду спыніць далейшыя раскопкі...

Хлопцы засмуціліся. Выходзіць, не толькі марна загінула іх праца, а і трацілася апошняя надзея раскрыць таямніцу кургана.

Васіль больш за ўсіх перажываў няўдачу. У Міхасёвых жартах, думаў ён, хаваецца і доля праўды. Каб не заняўся ён роспытамі пра курган ды змаўчаў аб ім перад важатай, дык нічога б гэтага не было.

«А можа паспрабаваць яшчэ аднаму шчасця — раскапаць тунель глыбей і ў бакі?» — мільганула спакуслівая думка. І гэтая думка адразу ж заўладала ім. Ён пачаў ужо будаваць план, як будзе прыходзіць сюды крадком ад усіх і як нарэшце ўсё ж знойдзе Базылёву магілу... Вось будуць усе дзівіцца! Але тут жа ён падумаў, што, відаць, страшна будзе аднаму капацца пад зямлёю, ды яшчэ поблач з нябожчыкам... Давядзецца, мусіць, прыняць у хаўрус хоць Юзіка. Міхасю адкрываць гэты сакрэт яму не хацелася — зноў жарты строіць пачне.

Мары яго перапыніла важатая.

— Ну, што, Васёк,— загаварыла яна, прычэсваючы свае растрапаныя каштанавыя кудры,— заданне тваё, як бачыш, мы не змаглі выканаць і ўсім атрадам на чале з самім Віктарам Сяргеевічам. Давядзецца зняць з цябе яго. А зараз ідзіце купацца. Сонца ўжо нізка.

Хлопцы моўчкі пайшлі да рэчкі. За імі падаўся і Віктар Сяргеевіч.

Але не паспелі яны раздзецца, як убачылі, што проста да іх, з боку гаю, ідзе нейкі высокі, плячысты чалавек. Прыгледзеўшыся, яны пазналі ў ім чарнавусага старшыню сельсавета, дзядзьку Рыгора. Дзядзька Рыгор падышоў да берага, прывітаўся да хлопцаў і падаў руку настаўніку.

— Ну, як справы, Віктар Сяргеевіч? Знайшлі што-небудзь? — кіўнуў ён галавою ў бок кургана.

— На жаль, нічога,— адказаў дырэктар.— Дакапаліся да самай сярэдзіны, спрабавалі заглянуць і глыбей, і — ніякіх слядоў... Прыходзіцца адракацца. Няўдалыя мы археолагі.

Дзядзька Рыгор прысеў на мураву і пачаў раздзявацца.

— А я, прызнацца, гэтымі днямі таксама дапамагаў вам... — загаварыў ён, зняўшы боты.

— Якім чынам, Рыгор Апанасавіч? — здзівіўся дырэктар.

— Шукаў старых...

— Дык жа мае хлопцы ўсіх апыталі!

— Не ўсіх, Віктар Сяргеевіч. Ёсць жа яшчэ такія нашы землякі, што жывуць не ў нас. Пра гэта я падумаў, як даведаўся ад Рамана Іванавіча, што вы заняліся раскопкамі Базылёвага кургана. І ведаеце, знайшлася адна наша зямлячка, бабка Мар'яна, якой ужо, па чутках, больш за сто гадоў...

— Дык гэта ж знаходка! — зацікавіўся Віктар Сяргеевіч. — Дзе яна жыве? Мы паедзем да яе.

— Жыве яна ў суседнім сельсавеце, у Забалоцці: выйшла некалі туды замуж.

— Не так і далёка...

— Прызнаюся, я ўжо быў у яе...

— Ну і што яна сказала? — прыўзняўся дырэктар.

Хлопцы цесным колам акружылі дзядзьку Рыгора.

— У тым-та і справа, што нічога не сказала...

— Тады вашы весткі для нас нецікавыя,— паморшчыўся Віктар Сяргеевіч.— Не варта было сюды іх несці.

— Не, пачакайце,— перапыніў яго старшыня.— Уся бяда, што яна глухая. Як ні намагаўся я пагаварыць з ёю, нічога не выйшла: ані слоў не разбірае.

— Дык напісаць ёй трэба на паперы,— не сцярпеў Міхась. «Вось жа які нездагадлівы дзядзька Рыгор!» — падумаў ён.

— Напісаць не цяжка, а як яна прачытае...— адказаў старшыня.— Граматы ж яна не ведае.

— А-а,— пачырванеў Міхась і адсунуўся ўбок, за Васіля.

— Праўда,— гаварыў далей старшыня,— унукі і праўнукі бабчыны кажуць, што аглухла яна ўсяго гадоў дзесяць таму назад. Аднак адзін з іх цвёрда заяўляе, што бабка і цяпер яшчэ сёе-тое чуе. Кажа: калі блізка страляе пярун,— яна хрысціцца.

— Гэта слабы доказ, Рыгор Апанасавіч,— заўважыў дырэктар.— Яна бачыць маланку і ведае, што ўслед за ёю загрыміць гром. Ну, а таму, што бабка чалавек старога веку і верыць у забабоны, дык і хрысціцца.

— Аб гэтым я таксама думаў,— не згадзіўся старшыня.— Але той жа ўнук чуць не кляўся, што бабка яшчэ чуе перуна. Я ўжо хацеў нават яе сюды прывезці, паказаць ёй гэтае месца і як-небудзь рукамі растлумачыць,

што мы ад яе хочам. Дык радня не пусціла: бабка зусім слабая...

Віктар Сяргеевіч задумаўся. Хлопцы тым часам пачалі разыходзіцца, паглядаючы на глыбейшыя ямы ў рэчцы.

— Купацца толькі без фокусаў! — папярэдзіў іх дырэктар.— А то, каб бяды не здарылася.

— Не здарыцца, Віктар Сяргеевіч! Не першы раз тут купаемся,— адказаў за ўсіх Васіль і даў глыбокага нырца.

За ім, як па камандзе, з шумам і свістам, пасыпаліся ў ваду і ўсе астатнія.

— Ну, глядзіце, я за вас адказваю! — крыкнуў ім наўздагон Віктар Сяргеевіч і, павярнуўшыся да старшыні, сказаў: — Ёсць яшчэ адзін шанс пагаварыць з бабкай Мар'янай.

— Які?

— Заклікаць на дапамогу сучаснае дасягненне медыцыны і тэхнікі. Чулі вы пра новыя слухавыя апараты?

— Не даводзілася,— пацісну плячыма старшыня.

— Ёсць такія. Аднойчы я нават бачыў такі апарат у аднаго прафесара. Гэта невялічкая электрычная батарэйка з тэлефоннымі навушнікамі. Прычым гук з дапамогаю слухавога апарата вельмі ўзмацняецца і можа перадавацца як праз вушы, так і праз косныя выступы, вось гэтыя,— паказаў Віктар Сяргеевіч на адростак за вушной ракавінай.— Я параюся з галоўным урачом бальніцы, і, калі можна, выпішам такі апарат. Справа яшчэ і ў тым, Рыгор Апанасавіч, што я збіраюся арганізаваць пры школе краязнаўчы гурток. І, вядома, расказ пра нашу вёску самага старэйшага яе жыхара быў бы цэлай знаходкай. Яна ж, калі так, напэўна, памятае прыгонныя часы.

— Відаць, памятае,— пацвердзіў старшыня. — Бабка вельмі ж старая.

— Ну вось бачыце,— захапіўся дырэктар. — Гэта ж жывая гісторыя! Апошняя наша надзея раскрыць таямніцу кургана. Не, мы не можам абысці яе!

## РАЗМОВА З ЖЫВОЙ ГІСТОРЫЯЙ

Юзік не падтрымаў Васіля — перад заняткамі ён накупляў новых падручнікаў і цяпер цэлымі днямі чытаў іх. Апрача таго, яму не вельмі хацелася ісці на курган

цішком ад Міхася. Васіль жа лічыў, што ў Міхася ўсялякая цікавасць да кургана прапала і што ён замінаць будзе ім.

Тым часам пачаліся заняткі, і пра Базылёў курган зноў успомнілі толькі тады, калі арганізаваўся ў школе краязнаўчы гурток. Старшынёй гэтага гуртка выбралі Васіля, а сакратаром Юзіка.

І вось калі пачалі складаць план работы гуртка, Міхась, неспадзявана для Васіля, унёс прапанову прадоўжыць раскопкі кургана.

— Цяпер няма калі...— пахмура заўважыў Васіль, шчыра каючыся, што не запрасіў Міхася на тайныя раскопкі і прапусціў час.

— Не цяпер, дык налета,— адказаў Міхась.— Для ўсіх нас зараз ясна, што курган — не просты ўзгорак і не якібудзь бульбяны капец. Значыць, яго нехта знарок насыпаў на магіле нябожчыка.

— А калі ад таго нябожчыка і следу не засталося? — выгукнуў сямікласнік Андрэй Грыневіч.

— Ты гісторыю вучыў? — неспадзявана спытаўся ў яго Міхась.

— Вучыў,— збянтэжана заміргаў вачыма Андрэй.— А што?

— А тое, што некалі разам з нябожчыкам хавалі і яго любімыя рэчы. І можа якраз гэтыя рэчы нам і раскажуць пра курган больш, чым хто...

Адным словам, Міхасёва прапанова трапіла ў план работы гуртка. Пра размову Віктара Сяргеевіча з старшынёй сельсавета аб слухавым апараце хлопцы нічога не ведалі. Лічачы гэтую справу няпэўнай, дырэктар трымаў яе пакуль што ў сакрэце. Праўда, галоўны ўрач бальніцы Сцяпан Кандратавіч адгукнуўся на яго просьбу і паслаў заяўку ў Міністэрства аховы здароўя. Аднак з таго часу мінула ўжо больш за месяц, а адказу ніякага не чуваць было.

Захапіўшыся работаю, Віктар Сяргеевіч пачаў быў ужо забываць пра слухавы апарат і глухую бабку Мар'яну, як раптам калгасны паштальён прынёс яму з раёна невялічкую пасылку ад Сцяпана Кандратавіча. Віктар Сяргеевіч асцярожна раскрыў пакунак і ўбачыў у ім анодную батарэйку з нейкай дзіўнай маркай — ЛАБ-8-КВ, шнуры, тэлефонныя трубкі... Тут жа разам з апаратам у пасылцы ён знайшоў і надрукаваную на тонкай паперы фабрычную інструкцыю, у якой расказвалася, якія быва-

юць лямпавыя слухавыя апараты, з чаго яны складаюцца і як імі карыстацца. Абрадаваўшыся жаданай пасылцы, ён хутка наладзіў апарат, падвёў да вуха тэлефон паветранай перадачы і паднёс да яго руку з гадзіннікам. І аж спужаўся: маленькая яго ручная «Звязда» загрукала, як матор!

Цяпер заставалася толькі праверыць цудадзейны апарат на глухіх. Але ў калгасе нікога з глухіх не знайшлося, і Віктар Сяргеевіч вырашыў ехаць з ім проста да бабкі Мар'яны.

Праз хвілін колькі навіна гэтая стала вядомай усёй школе.

— Рыхтуйце новую экспедыцыю! — загадаў дырэктар Жэні.

— Каго возьмеце, Віктар Сяргеевіч?

— Ну, хаця б нашых актывістаў краязнаўчага гуртка — Васіля, Юзіка і Міхася. Як жа без іх? А раптам бабуля сапраўды разгаворыцца? Яны і запішуць яе расказы.

І вось у бліжэйшы выхадны дзень краязнаўчая экспедыцыя на чале з Віктарам Сяргеевічам рушыла ў Забалоцце. Дзеля такой важнай справы старшыня калгаса не пашкадаваў самага лепшага буланага каня і запрог яго ў самую лепшую выязную павозку, туга напакаваўшы яе мурагом і канюшынай. Праўда, пры гэтым ён строга забараніў хлопцам хвастаць каня пугай і даручыў яго ахову толькі самому дырэктару. Аднак пугу ім усё ж такі даў — бо якая ж гэта фурманка без пугі?

Была ўжо восень з першымі прымаразкамі, і таму павозка лёгка кацілася па гладкіх сухіх каляінах. А каб не мецьнікому крыўды, хлопцы, са згоды Віктара Сяргеевіча, дагаварыліся кіраваць буланым па чарзе.

Праз гадзіны тры экспедыцыя шчасліва дабралася да месца прызначэння і з дапамогаю праваднікоў — шустрых забалоцкіх хлапчукоў — хутка апынулася на двары, дзе жыла старасвецкая бабка Мар'яна. Тут экспедыцыю акружыла ўся шматлікая бабчына радня, папрыходзілі і суседзі падзівіцца на незнаёмых гасцей.

Сама бабка ляжала на печы. Худая, з пацямнеўшым ад старасці тварам, яна сапраўды выглядала надта лядашчай.

Віктар Сяргеевіч папрасіў радню зняць бабку з печы. Унукі і праўнукі не пярэчылі, знялі старую з печы і пасадзілі на палок, падпёршы плечы падушкамі.

Бабка палічыла Віктара Сяргеевіча за доктара і трымала сябе спакойна. Але калі Віктар Сяргеевіч замест звычайнай доктарскай трубкі дастаў з кардонкі нейкі невядомы ёй апарат, бабка пачала часцей міргаць вачыма і прыглядацца да «доктара» больш уважліва.

Але вось «доктар» прымацаваў да кофты здзіўленай бабкі батарэйку, прыладзіў тэлефонныя трубкі — слухавыя і косныя, навёў рэгулятар на самае высокае гучанне і раптам моцна кашлянуў.

Бабка скаланулася, жвава пачала праціраць сухімі кулачкамі вочы. Працерла, павадзіла галавою ў бакі, зноў збянтэжана зірнула на «доктара».

— Здалося мне, ці што,— прагаварыла яна слабым голасам,— быццам у мяне вушы адсланіла...

— Ура! — зарадаваўся Віктар Сяргеевіч, а хлопцы дружна запляскалі ў ладкі.

Бабка паспрабавала ўсміхнуцца. І ўся яе радня таксама ўсміхнулася.

— Чую, чую... далібог жа, чую,— зноў загаварыла бабка. — А мой ты саколік! Што гэта ў цябе за трубкі такія? Даўно ж я нічога не чула...

— Мар'яна Маркаўна! — нагінаючыся да бабчынага вуха, моцна выгукнуў Віктар Сяргеевіч. — Колькі вам гадоў?

— Чую... каб ты здаровенек быў!.. Слаба, а нешта чую. Словы толькі не ўсе разабрала. Ці не пра гады мае пытаешся?

— Так, так,— энергічна заківаў галавою Віктар Сяргеевіч.

— Не ведаю, саколік... Як адмянілі паншчыну, у мяне, памятаю, трэці сынок, Піліп, нарадзіўся...

— Нішто сабе,— падзівіўся «доктар». — Сто гадоў з добрым гакам набярэцца.

Хоць і з цяжкасцю, а Віктару Сяргеевічу ўсё ж удалося разгаварыцца з бабкай Мар'янай, і яна зразумела, што ад яе хоча гэты незвычайны доктар-чарадзей.

— Ага, ага... — ажывілася бабка, пачуўшы пра Базылёў курган.— Ведаю, ведаю... Маці мая, нябожчыца, расказвала мне пра яго некалі. Ён, бачыш, з нашай радні быў. Здаецца, дзеда майго, нябожчыка, стрыечны брат...

...Даўным-даўно на высокім узгорку на правым беразе ракі Быстрыцы стаяў стары мураваны панскі дом. Хмуры і непрыветны, як старадаўні замак, узвышаўся ён над ваколіцай і адным выглядам сваім наводзіў жах на прыгонных людзей. Гэта быў не дом, а засценак, дзе з незапомных часоў яго гаспадары і іх верныя слугі чынілі суд і расправу над нявольным народам.

У той час, аб якім расказвала калісьці маці малой еваёй Мар'янцы, уладаром маёнтка і ўсіх вакольных вёсак быў пан Мазурскі.

Ліхі і фанабэрысты, як кожны шляхціц, пан Мазурскі вызначаўся асаблівай лютасцю сярод іншых паноў усяго ваяводства. Гэта быў чалавек-звер, народжаны страшным прыгонніцкім ладам.

З усіх забаў пан Мазурскі найбольш любіў паляванне. Колькі выжлятнікаў і загоншчыкаў затапталі яго жарабцы ў час паляванняў, калі пан з вызвераным тварам і натапыранымі, як у маржа, вусамі гайсаў па лясах і палях! Няхай толькі прыйдзе яму ў галаву адна думка, што якінебудзь яго халоп не ў час падняў на паляванні зайца і праз гэта пан прамахнуўся... Як раз'юшаны тыгр, налятаў ён на такога загоншчыка і з лютасцю хвастаў яго бізуном, калі таму шанцавала выслізнуць з-пад капытоў жарабца.

А колькі людзей засек ён на стайні розгамі, мочанымі ў салёнай вадзе!

Ніхто не мог пярэчыць волі лютага пана.

Не лепшай была і пані Мазурская. І хто ведае: можа ад іх і пайшла прыказка: «Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару сабраў»...

Гора было таму, каго выбірала пані для службы ў сваіх пакоях!

Аднойчы яна пажадала мець, апрача пакаёвак, хлопчыка для пабягушак. Цівун[1] прывёў ёй з Альхоўкі кавалёвага сына Базылька. Як ні плакалі, ні прасіліся бацька і маці, не злітаваўся над імі злы цівун з выбітым правым вокам, апошняе дзіця іх забраў.

Базылёк жыў да гэтага ў Альхоўцы і бачыў панскі дом толькі здалёку. Але паноў сваіх ён добра ведаў: не раз людзі гаварылі пра іх благое, страшылі імі малых.

---

[1] Цівун — прыганяты, наглядчык за работаю прыгонных.

Не ведаў толькі дзесяцігадовы хлопчык Базылёк, што ўсе ведзьмы, цмокі і кашчэі з казак, якія расказвала яму маці, былі проста добрымі рахманымі стварэннямі перад панам і паняй Мазурскімі.

Як толькі Базылёк пераступіў парог панскага дома, яго апанаваў страх. У паўзмрочным пакоі, куды прывёў яго цівун, у высокім мяккім крэсле сядзела стварэнне, зусім не падобнае на тых людзей, якіх ён штодня бачыў у сваёй вёсцы. Злыя вочы на жоўта-рыжым абліччы гэтага стварэння, адзетага ў чорны атлас, з высокім чапцом на галаве, па-змяінаму ўтаропіліся на малога.

Цівун выйшаў з пакоя, а пані Мазурская ўзяла са стала нейкую цацку з ручкай і круглымі шкельцамі ў абадках, прыклала яе шкельцамі да вачэй і працадзіла праз зубы ледзяным голасам:

— Падыдзі бліжэй, хлопча.

Здранцвелы ад страху Базылёк не мог паварухнуцца.

— О-о-о! — выцягнуўшы рыжы твар, замармытала пані. — Як цябе зваць?

— Базыль,— ледзь вымавіў хлопчык.

— Добжэ, добжэ... Падай мне, Базыль, бізун.

Базылёк азірнуўся, але бізуна нідзе не заўважыў. Пані адняла ад вачэй шкельца, сярдзіта тупнула нагою і паказала рукою на сцяну:

— Вунь вісіць!

Базылёк зірнуў на сцяну — там, між нейкіх размаляваных партрэтаў і карцін, на разгалістым ласіным розе сапраўды вісеў бізун, толькі не такі, як у вясковых пастухоў, а з кароткай касцяной ручкай і з трыма раменнымі хвастамі. Перамагаючы страх, Базылёк зняў бізун і перадаў пані.

— Вось гэта — бізун,— прагугнявіла пані. — Бачыш?

— Бачу,— адказаў Базылёк, скурчыўшыся і падняўшы ўверх лапаткі худых плячэй, на якіх, як на калу, вісела зрэбная кашулька.

— А для чаго ён? — дапытвалася пані, памахваючы бізуном.

— Не ведаю... — з трывогаю паглядаў Базылёк у змяіныя вочы пані Мазурскай.

— Ён для тых, хто дрэнна мне служыць,— тым жа ледзяным голасам растлумачыла пані. — А які ён пякучы, ты гэта зараз убачыш. Пакліч сюды пакаёўку Марфу. Яна за тымі дзвярыма,— паказала пані бізуном.

Базылёк кінуўся да дзвярэй, адчыніў іх і ўбачыў там, у пакоі, проста адзетую маладую дзяўчыну, якая качала бялізну.

— Цябе пані кліча!.. — выпаліў Базылёк адным духам і моцна захліпнуўся.

Дзяўчына скаланулася, качалка выпала ў яе з рук. Базылёк зазірнуў у бледны твар дзяўчыны і ўбачыў на ім сумныя блакітныя вочы з цёмнымі кругамі пад імі.

Марфа ўбегла ў пакой да пані, упала на калені, пакорліва схіліўшы долу свае доўгія льняныя косы.

— Што пані загадае? — ціха прагаварыла яна.

— Што загадае? Бач ты яе! Табе ўсё толькі загадваць! А сама ты нічога думаць не хочаш! Гультайка! Мужыцкае быдла... Як ты пану кашулю пагладзіла? Га? Я цябе сёння, здаецца, яшчэ не гладзіла бізуном...

І раптам, змяніўшы тон, нейкім мядовым пісклівым галаском прапішчала:

— Кладзіся, любая, загалі свае плечыкі...

— Панечка... даражэнькая... матухна... — застагнала Марфа, знімаючы кашулю і кладучыся на падлогу тварам уніз.

Пані рухава ўсхапілася з крэсла, жоўты твар яе ўспыхнуў.

— А ты, хлопча, глядзі, для чаго ў мяне бізун вісіць...

Але Базылёк у гэты час глядзеў на худыя плечы дзяўчыны Марфы. Яны былі чорна-сінія ад старых і свежых пісягоў. Марфа дрыжала ўсім целам, сціскала плечы, моцна туліла белыя, як у мерцвяка, рукі да рабрын.

Пані замахнулася і, крэкнуўшы, апусціла бізун на знявечаныя плечы дзяўчыны.

— Гах! — з прыціскам выдыхнула пані ў такт удару бізуна.

Дзяўчына толькі глуха застагнала, вышэй узнімаючы лапаткі.

— Выпрастай плечыкі, выпрастай! — дзіка завішчала пані. — А то больш бізуноў дастанеш...

— Два!..

Базылёк заплакаў. Не звяртаючы на яго ўвагі, пані адлічыла роўна дзесяць удараў. Пасля гэтага, стомленая, адышлася ад сваёй ахвяры і зноў села ў крэсла, прамармытаўшы больш спакойна:

— Ну, мілая, на сёння хопіць. Глядзі ты ў мяне!

Счарнелая ад болю дзяўчына ўстала і, хістаючыся, пайшла ў свой пакой.

Пані зірнула на Базылька. Ён усё яшчэ плакаў, размазваючы слёзы па твары.

— Ты чаго? — строга прыкрыкнула на яго пані. — Сціхні! Я ж цябе яшчэ не чапала. Я толькі паказала табе, для чаго ў мяне бізун. На, памый і павесь!

Глытаючы слёзы, душачы іх у сабе, Базылёк схапіў акрываўлены бізун і кінуўся на двор, да студні, ля якой стаяла доўгае драўлянае карыта з вадою.

Так пачалося яго жыццё ў пані Мазурскай.

А на другі дзень Базылёк ужо сам ляжаў на падлозе ля панінага крэсла і той жа бізун з трыма хвастамі бязлітасна паласаваў яго кволае маладое цела. Правініўся ён за тое, што не скора, як здалося пані, прынёс ёй з кухні цёплай вады і не чыста вымыў ёй ногі.

І гэтак пайшло дзень за днём.

Прыслужваючы пані, Базылёк траха не кожны дзень бачыў, як здзекавалася яна і з другіх дваровых людзей. З дапамогаю злога аднавокага цівуна пані біла сваіх слуг бізуном, розгамі, таптала нагамі, душыла за горла, ціснула каленямі жывот, пякла цела распаленым жалезам, пасля чаго прымушала сваю ахвяру цэлымі гадзінамі скакаць перад ёй, прымаўляючы: «Скачы, уража, як пан кажа!»

Якіх толькі пакаранняў не прыдумлівала пані!

Базылёк моцна занудзіўся. Балела і збітае бізуном і розгамі цела, і чулая да людскога гора яго душа. Ён гаснуў, як свечка. Сілы яго слабелі.

Вядома, пані гэтага не бачыла і не хацела бачыць. Ёй і думкі не магло прыйсці ў галаву, што Базылёк таксама чалавек. Яна глядзела на яго так, як і на ўсіх сваіх прыгонных. Іх можна біць, забіваць насмерць, купляць і прадаваць,— яны ж проста звычайнае рабочае быдла для людзей белай косці, да якіх належалі паны Мазурскія!

Аднойчы, ужо на другое лета, збіты перад гэтым бізуном, Базылёк нёс на падносе для пані кафейнік. Моцна аслабелы, ён незнарок зачапіўся нагамі за дыван і разам з падносам упаў на падлогу...

Усхапіўшыся, Базылёк убачыў перад сабою аслупянелую пані і з немым крыкам падаўся назад. Такой віны яму яшчэ не здаралася мець, і ён не мог нават і ўявіць сабе, якая кара чакае яго за гэта. Відаць, гэтая кара будзе

горшай за любую смерць, аб якой Базылёк не раз думаў.

Дзверы былі адчынены. Базылёк скарыстаў гэта і рынуўся на двор. Адтуль трапіў у садовую калітку, потым, за садам, пераскочыў цераз плот і апынуўся на лузе.

Ён яшчэ не ведаў, што яму рабіць, як уратавацца ад бяды. Але роспач і страх штурхалі яго наперад, і ён бег далей.

На лузе ён убачыў перад сабою раку. І яна вырашыла яго лёс...

Пакуль панская пагоня натрапіла на след Базылька, ён ужо ляжаў мёртвы на дне глыбокай ямы ракі Быстрыцы.

Даведаўшыся аб гэтым, пані Мазурская грэбліва паморшчылася і загадала аднавокаму цівуну цішком пахаваць Базылька, а бацькам сказаць, што сына іх пан прадаў у далёкі край.

Цівун не захацеў турбаваць сябе нейкім прыгонным хлапчуком. Ён утапіў яго цела ў бяздонную стругу на нізкім левым беразе ракі і ў той жа дзень прывёў у панскі дом новую ахвяру.

Але не магло ўсё гэта адбыцца без пабочных спагадлівых вачэй. Праўда аб трагічнай гібелі Базылька неўзабаве дайшла да яго бацькоў.

Доўга галасіла бедная маці, доўга думаў сваю цяжкую думу счарнелы ад гора і крыўды бацька-каваль. Нарэшце ён выкаваў у кузні востры нож-кінжал і, схаваўшы яго пад зрэбную кашулю, падаўся ў маёнтак пана Мазурскага.

Як яму ўдалося дабрацца да самой пані — невядома: ці то дапамаглі тыя спагадлівыя людзі, якія пад страхам смерці расказалі яму праўду пра сына, ці то сама помста давяла яго да змяінага логава...

Як бы там ні было, а пані Мазурскую не мінула справядлівая кара...

Каваля закавалі ў кайданы і, па загаду ваяводы, выслалі на вечную катаргу.

А маці?

Яна не вьтцерпела такога гора. Галава яе падалася, і яна перастала шмат чаго разумець. Але яна ведала, што адзіны яе сын Базылёк пахаваны ў глыбокай струзе і што на ім няма магілы, такой, як на ўсіх нябожчыках.

І яна пачала насіць з блізкага поля зямлю на сынаву магілу.

З часам яна зусім страціла розум. Жыла, як папала. Толькі адно мацярынскае пачуццё засталося ў яе: нязгасная любоў да сына. І адна думка кіравала яе ўчынкамі: зрабіць на сынавай магіле насып. Як дзень, так ноч яна не пакідала сваёй работы.

Злы аднавокі цівун адрокся ад яе — не ганяў на паншчыну. А людзі, бачачы, як пакутуе няшчасная маці, шкадавалі яе. Ходзячы паўз рэчку з работы, яны таксама, хто ў чым, насілі зямлю і сыпалі яе на капец, што рос на струзе. Яны разважалі так: можа маці Базылька ўбачыць высокі насып на магіле сына і перастане мучыць сябе, можа яна апрытомнее...

Тым часам магіла ператваралася ў курган, а да маці ўсё не варочалася прытомнасць: год за годам яна рабіла толькі адну сваю работу.

І рабіла да таго часу, пакуль аднойчы не ўпала мёртвай на высокай сынавай магіле з кашом свежай зямлі ў руках.

Людзі там і пахавалі яе, а ўзгорак той празвалі Базылёвым курганом.

Мінулі гады, пачалі мінаць і стагоддзі.

Нямала адбылося за гэты час змен — малых і вялікіх. І з памяці новых пакаленняў знікла сапраўдная гісторыя кургана.

* * *

Сумная аповесць аб прыгонным Базыльку моцна ўсхвалявала хлопцаў. Яны слухалі расказ бабкі Мар'яны, нічога не запісваючы, баючыся прапусціць хоць адно слова. І ўспомнілі пра запісы толькі тады, калі бабка папрасілася на печ: яна надта змарылася.

Развітваючыся з бабкай, Віктар Сяргеевіч сказаў:

— Дзякую, Мар'яна Маркаўна, за гутарку. Мы да вас яшчэ калі-небудзь наведаемся.

І ён зняў з яе слухавы апарат.

Бабка спалохана заміргала вачыма, занепакоілася:

— Ты што ж, галубок, забярэш вушы гэтыя?.. — запыталася яна, паказваючы рукою на слухавы апарат.

Віктар Сяргеевіч усміхнуўся і знакамі растлумачыў старой, што вушы ён пакіне ёй.

Бабка жвава заківала галавою, і, як здалося хлопцам, маршчыністы твар яе засвяціўся ад радасці.

Назад хлопцы ехалі моўчкі. Маўчаў і Віктар Сяргеевіч. А калі праязджалі міма недалёкага ад дарогі Базылёвага кургана, Віктар Сяргеевіч спыніў каня, злез з воза і, акінуўшы вачыма прырэчны луг з узгоркам, што ўзвышаўся над ім, зняў шапку.

Хлопцы зразумелі ўчынак свайго настаўніка і таксама саскочылі з павозкі ды пазнімалі шапкі.

Аддаўшы гэтым пашану свайму няшчаснаму продку-земляку, яны зноў паселі на воз і рушылі далей, у свой «Светлы шлях».

*1954*

## ПАНСКАЯ ВОЛЯ

Напрадвесні 1857 года ў хатку прыгоннага селяніна Пракопа Валовіча зайшоў панскі цівун Дракула. Гаспадар і яго сям'я былі дома. Кожны займаўся сваёй работаю: бацька плёў лапці з размочаных лазовых лык, маці ткала кросны ў кутку супроць печы, большы з дзяцей, Язэпка, шчапаў лучыну, а меншыя гулялі ў свае няхітрыя гульні.

Хатка была маленькая, з двума акенцамі. Цэлымі ў акенцах засталіся толькі тры шыбінкі. Іншыя былі застаўлены дошчачкамі або заткнуты анучамі.

Добрую палавіну хаткі займала нізкая гліняная печ з камінком, дзе, на скорую руку, варылі бульбу, а вечарамі палілі лучыну. Печ была не толькі асноваю хаткі, але і гонарам сям'і, бо яна мела комін. Самы сапраўдны комін, выведзены над саламянаю страхою. Яшчэ зусім нядаўна яны жылі ў курнай хаце. Але ўсяму бывае канец. Прыйшоў канец і дымным печам. Пачаў адзін, за ім — другі... Іншыя ўбачылі, якую выгоду займелі тыя, хто паставіў комін. Так услед за людзьмі зрабіў нарэшце комін і Пракоп. Цяпер і сам, і жонка, і дзеці не нацешацца з печы: дым не выядае вочы!

Кросны і палаці займалі другую палавіну хаткі. І ўсё ж гаспадары неяк умудрыліся знайсці месца яшчэ і для стала, на тры дошкі, у кутку пад старасвецкай даўнасці абразамі. Каля стала прымасціліся два вузкія ўслончыкі. Адзін стаяў усутык з кроснамі, другі — з палацямі.

Убачыўшы нежаданага госця, гаспадар усхапіўся з услончыка і нізка пакланіўся. Тое ж зрабіла і яго жонка Алена, невысокая худая жанчына гадоў трыццаці. Дзеці з ці-

кавасцю і спалохам разглядалі цівуна. Ён спыніўся ў параве, відаць, разважаючы, варта прабірацца далей ці адразу сказаць, чаго прыйшоў.

Немалады лупавокі цівун быў апрануты па-панску: у рыжай світцы і клятчастых штанах з сукна фабрычнага вырабу, на нагах у яго былі боты з цвёрдымі блішчастымі халявамі. На галаве — высокая кучомка з маладой кучаравай аўчыны. У правай руцэ ён трымаў бізун, сплецены з тоўстай, добра прамасленай сырамяці.

Дракула так сабе, без дай прычыны да прыгонных людзей не заходзіў. Гаспадар гэта ведаў. На паншчыну звычайна ганяў сельскі стараста або войт, як усе яго звалі,— Марка Вакуліч. Цівун лічыў сябе асобаю вышэйшаю за войта, першым панскім слугою. Нават старшы панскі лёкай знімаў перад ім шапку.

Цівун не даў «добры дзень у хату». Гэта абразіла б яго высокі гонар. Прыгонны ж — не чалавек. Не толькі сам пан, а і ён, панскі прыганяты, мае над прыгоннымі поўную волю. Няхай толькі адважыцца каторы паскардзіцца пану на цівуна Дракулу!

Абвёўшы халоднымі лупатымі вачыма хатку, цівун кашлянуў для фасону, пажаваў рудыя вусы, апушчаныя ўніз, і сказаў, ткнуўшы бізуном у Язэпку:

— Гэта твой старэйшы?

— Але, паночку,— адказаў Пракоп.

Ён стаяў перад цівуном усё яшчэ нізка сагнуўшыся. Аднак вачыма, поўнымі страху і смутку, лавіў кожны рух незвычайнага госця. У лазовых, ужо стаптаных, лапцях, у лапленай зрэбнай кашулі і такіх жа зрэбных штанах, з густым чорным шчаціннем на жоўтым хваравітым твары, Пракоп меў выгляд самага апошняга жабрака, якіх нямала хадзіла і ездзіла па свеце ў пошуках кавалка хлеба. Большы сын яго, Язэпка, быў апрануты гэтак жа, як і бацька, а меншы, Васілёк, бегаў яшчэ ў адной кашулі.

Дракула праціснуўся між кроснамі і печчу бліжэй да Язэпкі, памацаў яго грудзі, пастукаў кончыкамі пальцаў па худых плячах. Язэпка не вытрымаў такога блізкага панібрацтва з панскім цівуном, заплакаў і кінуўся да бацькі. Вельмі ж няласкава зірнуў на яго Дракула сваімі бычынымі вачыма! Пра цівуна расказваюць на сяле, як пра самага страшнага разбойніка. Цівун і за шчэпку знойдзе прычэпку, каб паздзекавацца з чалавека. Бізун яго не раз крывавіў худыя спіны і плечы прыгонных людзей.

Цівун не пайшоў за Язэпкам, а, сярдзіта чмыхаючы, пасунуўся да дзвярэй. З непрывычкі хадзіць у цеснаце ён зачапіўся за кросны.

— Наставіла чорт ведае чаго! — накрычаў ён на гаспадыню.— Чалавеку нельга ў хату зайсці...

Потым, спыніўшыся каля парога, буркнуў да гаспадара:

— Заўтра прывядзеш большага ў двор! Чуеш?

Пракоп маўчаў, зжаўцеўшы яшчэ больш, як быў. А маці як стаяла каля кроснаў, так і кінулася цівуну ў ногі:

— А паночак, а даражэнькі! Не губі! Ён жа яшчэ дзіця.

Яна абхапіла цівуновы боты. Цівун адкінуў яе ад сябе.

— Якое там дзіця! — крыкнуў ён.— Колькі гадоў гэтаму дзіцяці?

— Дзесяці няма...— захліпаючыся ад жалю і слёз, адказала маці.— Які ж ён работнік пану? Няхай яшчэ дома пабудзе, хоць з годзік...

— Нічога, дарэмна хлеб панскі есці не будзе — знойдзем работу. У іншых маёнтках такія на прыгон ходзяць. А ты яго песціш! Мне вунь у двары няма каго на работу ставіць. Цябе ж я не вазьму з тваім дохлым мужыком. Вы мусіце паншчыну адбываць. А ён вам не патрэбен. У вас другі такі выжал [1] расце. Пракоп! — Цівун пагразіў бізуном.— З панам не жартуй! Не прывядзеш — сем шкур спушчу...

Увесь дзень і ўсю ноч праплакала маці. Бацька таксама плакаў, толькі па-свойму, па-мужчынску: сам сабе, без голасу. Бедна яны жывуць. Ой як бедна! У холадзе ды ў галадзе. Зямля не родзіць, ды і ўрабляць яе няма калі: ад зімы да зімы войт на паншчыну ганяе. Па пяць, па шэсць дзён на тыдзень трэба пану адрабляць за сядзібу ды за пусты камяністы надзел. І на добры лад, няхай бы ішоў большанькі, Язэпка, на свой хлеб. Але ж выпраўляць у панскі двор такога малога — усё роўна, што выпраўляць на могілкі. Хто яго там дагледзіць, хто пашкадуе? Як яму там жыць сярод чужых людзей, без маткі, без бацькі? Ды ці ж на работу толькі пан бярэ яго? Работа не страшна. А калі пан што іншае задумаў? За апошнюю зіму ён прадаў нямала сваіх работнікаў. Ды ўсё самыя маладыя — хлопцы і дзяўчаты. І цяпер бацькі прададзеных нават не ведаюць, дзе іх дзеці і што з імі.

Кінутыя цівуном на адыходзе словы: «З панам не жар-

---

[1] Выжал — паляўнічы сабака.

туй!» не выходзілі з Пракопавай галавы. Яны душылі яго, ні хвіліны не давалі яму спакою. Пан можа ўсё зрабіць. Гэта праўда. Страшная праўда. Прыгонны — яго рэч, такая ж, як і ўсе іншыя рэчы. Яго ўласнасць, узаконеная самімі багамі — нябесным і зямным...

Назаўтра, як і загадаў цівун, Пракоп Валовіч павёў свайго большага сына ў двор.

## НА ПАНСКІМ ХЛЕБЕ

— Ну, сынок,— сказаў бацька, прывёўшы Язэпку ў маёнтак,— ты ж, глядзі, слухай пана цівуна. Бо, бачыш вунь, які бізун у яго...

Цівуну не спадабалася, што Пракоп упамянуў пра яго бізун. Ён добра ведае, як коле людзям вочы гэты бізун. Ведае ён і прыказку: «Бойся не цівуна́, а яго бізуна». І калі не чуў сам, дык здагадваўся, што бізун яго людзі клянуць не менш, чым яго самога.

І цівун успыхнуў.

— Но, но! — сыкнуў ён злосна.— Пра бізун не брашы. Відаць, забыўся, як ён сячэ шкуру...

Пракоп змоўк, збянтэжаны. Дракула тым часам крануў Язэпку за плячо:

— Хадзем!

Язэпка ўжо адплакаў, колькі мог, сваю разлуку з домам. Але ў гэтую хвіліну ногі яго самлелі, і ён ледзь не ўпаў. Яму хацелася крычаць, галасіць, вярнуцца назад да бацькі. Ды ён бачыў, як вызверыўся Дракула на бацьку. Перамагаючы слабасць, душэўны боль і шчыры свой дзіцячы пратэст супроць несправядлівасці, Язэпка пайшоў за цівуном.

Дракула прывёў новага работніка ў доўгую дашчаную стадоліну. Справа і злева там былі палаці, засланыя сенам. Зверху на сене ляжалі саматканыя посцілкі. У адну з такіх посцілак і ткнуў Дракула сваім бізуном.

— Тут будзеш спаць,— паказаў ён.— А рабіць — пры свінарні. Толькі не ўздумай уцякаць! — Цівун патрос бізуном перад Язэпкавым носам.— Засяку.

«Дзіва што засячэ,— падумаў Язэпка.— Такі не пашкадуе». Ён успомніў Тодаравага Янку. Янка быў высокі, дужы дзяцюк. Яго гэтак жа, як і Язэпку, забраў у двор Дракула. І з першага ж дня неўзлюбіў яго цівун. Янка быў

хлопец працавіты, але горды. Ён ненавідзеў панскага прыганятага, не кланяўся яму нізка і не прасіўся, калі цівун хвастаў яго сваім бізуном. Аднойчы Янка пры ўсіх людзях сказаў цівуну: «Ты — кат, а не чалавек...» Ашалелы цівун кінуўся да хлопца. Янка вырваў бізун з цівуновых рук, шпурнуў у гразь і патаптаўся па ім лапцямі.

Цівуноў гаспадар пан Броніслаў Ясінскі прысудзіў Янку пяцьдзесят лоз. Каталі яго на панскай стайні. Два рослыя гайдукі [1] трымалі хлапца за галаву і за ногі, а цівун Дракула рабіў сваю чорную справу. Ён не лічыў удараў і прут лазовы выбраў на свой густ.

Праз два тыдні Янка памёр. Панскі доктар засведчыў, што дваровы работнік пана Ясінскага Янка памёр ад запалення лёгкіх. Людзі раілі Тодару паскардзіцца на пана і яго цівуна станавому прыставу [2] ці нават павятоваму спраўніку [3]. Казалі, быццам цяпер паны не маюць права забіваць сваіх прыгонных, што гэта забаронена самім царом. Тодар, аднак, сцярпеў сваю крыўду, бо ведаў, што ні прыстаў, ні спраўнік не захочуць слухаць мужыцкую праўду.

І калі праўда, што па новаму закону пан не меў права забіваць прыгоннага, то праўда і другое: ніхто не адмяняў закону 1845 года, у якім запісана чорным па беламу, што за скаргу на пана прыгоннаму належыць даць пяцьдзесят розгаў... За адну толькі скаргу! Незалежна ад таго, слушная гэта скарга ці няслушная.

Паказаўшы Язэпку месца начлегу, цівун завёў яго на свіную кухню. Гэта была прыбудова пры свінарні, шмат даўжэйшая за стадолу для чэлядзі [4]. На кухні клубкамі качалася густая пара ад зваранай бульбы і буракоў. У пары мітусіліся людзі — жанчыны і падлеткі, такія ж, як Язэпка. Пах ад пары ішоў такі моцны і цяжкі, што з непрывычкі Язэпку зрабілася млосна.

Цівун гукнуў з парога:

— Аўдоля!

— Я тут, пан цівун,— пачуўся хрыплы, прастуджаны голас, і ўслед з пары паказалася высокая худая жанчына ў палатнянай кофце і цёмнай, фарбаванай спадніцы, закрытай белым фартухом. Язэпка паспеў заўважыць, што

---

[1] Гайдук — стражнік з панскай аховы.
[2] Станавы прыстаў — паліцэйскі чыноўнік у воласці.
[3] Павятовы спраўнік — паліцэйскі начальнік у павеце.
[4] Чэлядзь — дваровыя людзі.

расчырванелы твар жанчыны быў густа пабіты воспаю і выглядаў не надта дабрадушным.

— Прымай новага работніка! — паказаў цівун на Язэпку.— Толькі, глядзі, не песці хлопца!

Аўдоля зморшчылася:

— Ён жа ад ветру паваліцца. А ў мяне катлы, чыгуны...

Цівун не даў ёй дагаварыць:

— Дай яму сякач!

— Хіба што сякач...— супакоілася Аўдоля.

— Карміцца будзе тут, пры кухні,— дадаў цівун.— Ды глядзі, каб лішне не аб'ядаўся, бо разлянуецца. Яны дома і пустой мякіне жадны.

— Скідай світку,— сказала Аўдоля да Язэпкі, калі цівун пакінуў кухню.

Язэпка зняў сваю шэрую світачку і трымаў у руках, не ведаючы, што з ёю рабіць.

— Павесь,— паказала Аўдоля на цвік каля вушака дзвярэй.

Павесіўшы світку, Язэпка ўтаропіўся ў васпаваты твар худой жанчыны. Што яна будзе рабіць з ім? Можа, адразу ж пачне біць?

Але ў руках жанчыны нічога не было.

— Ідзі сюды,— паказала яна на печ.

Нізкая печ з адкрытым чарэнем была застаўлена катламі і чыгунамі. Аўдоля ўзяла за вушка адзін з катлоў.

— Бяры, будзем знімаць,— сказала яна Язэпку.

Язэпка схапіўся за другое вушка. Яно здалося яму занадта гарачым. Але ён вытрымаў. Кацёл быў не лёгкі. Язэпка не спадзяваўся, што данясе яго да карыта.

— Слабы ж ты яшчэ, хлопча,— ласкавейшым голасам сказала Аўдоля, калі яны высыпалі кацёл бульбы ў карыта.— Я так і ведала. Цівуну што — сталага работніка шкада на кухню ставіць, а дзяцей не шкада...

Яна дала Язэпку сякач.

— Секчы ўмееш?

— Умею...

Язэпка ўзрадаваўся. Работа гэта была яму не ў навіну, хоць сякач і здаўся разы ў два цяжэйшым за той, якім ён сек бульбу дома.

Побач стаяла яшчэ некалькі карытаў, і ў іх таксама секлі бульбу мала большыя за Язэпку хлапчукі. Язэпка пакуль што не прыглядаўся да сваіх сяброў: усю яго ўвагу

паглынула доўгае і шырокае карыта з бульбаю, якую яму трэба перадзяўбці секачом на дробную кашу.

Чым больш сек Язэпка, тым больш каша рабілася сопкай, чаплялася за цяжкі сякач, і хлопец ледзь вырываў яго з гэтага тугога месіва. Рукі памлелі, лоб змакрэў. Але ён падбадзёрваў сябе: гэта нічога, прывыкну!

Праз хвілін дзесяць ён зусім задыхаўся, сякач перастаў слухацца яго.

Аўдоля сяды-тады кідала вокам на свайго новага работніка. Убачыўшы, што ён ужо зусім выбіўся з сілы, яна сказала:

— Перадыхні, хлопча. Ты яшчэ не ўцягнуўся ў работу.

Язэпка рад быў пачуць гэтыя словы. Ён пакінуў сякач у цесце, а сам пайшоў да дзвярэй. Вельмі ж цяжка было дыхаць у свіной кухні!

— Апрані світку,— параіла Аўдоля.— Ты ўвесь мокры...

На двары свяціла сонца, весела шчабяталі вераб'і. Раставаў снег на прасторным дзядзінцы. Дзе-нідзе ўжо чарнелі, падсыхаючы на сонцы, голыя залысіны з кволым светлазялёным трыпутнікам.

Ішла вясна.

## ПАДПАСАК

Вясною Язэпку пашанцавала. Аўдоля параіла цівуну аддаць свайго слабейшага работніка ў падпаскі пастуху Міхалю.

Міхаль не першы год пасвіў панскіх свіней. Цяпер ён пастарэў, і яму цяжка аднаму ў полі з немалою чарадою. Цівун паслухаў свінарку Аўдолю і даў Міхалю падпаска.

— Толькі глядзі, каб ніводнай патравы не зрабіў,— прыгразіў ён старому пастуху.— А то не пагляджу на тваю сівізну. Паходзіць бізун і па табе і па падпаску...

З такім настаўленнем і выгналі першы раз у поле Міхаль з Язэпкам. Папар быў пусты, трава — рэдкі пырнік — яшчэ толькі дзе-нідзе прабівалася. Свінні гайсалі па полі, як ашалелыя. Трымаць іх у чарадзе было нялёгка. Але і распускаць лішне пастух баяўся. Свінні яшчэ не прывыклі да парадку ў полі, іншая, дурніца, можа вырвацца з чарады ды апынуцца каля свінарні. Добра ж, калі не трапіць там на вочы цівуну Дракулу!

Вось чаму Міхаль і сам увесь час круціўся па полі, крэкчучы і паляскваючы пугаю, і не даваў спакою падпаску. Нораў свіней ён ведаў.

— Вунь, глядзі, лапавухая да кустоў пацягнула,— паказваў пастух Язэпку.— Бяжы адвярні. Бо там яе і з сабакамі не знойдзеш.

Язэпка адварочваў лапавухую. Тым часам рудая ці рабая, абшнырыўшы пусты папар, ужо трымала лыч на маёнтак...

Недалёка ад папару мужчыны аралі панскі палетак пад ярыну. Язэпка сяды-тады кідаў вачыма ў той бок, шукаючы сярод аратых знаёмых. А можа і бацька там з імі? Аднак нікога з аратых Язэпка не пазнаў. Відаць, гэта былі людзі з іншых вёсак і сёл. Не адно ж сяло Галынаўка належыць пану Ясінскаму. У пана вунь якія абшары! За дзень на кані не аб'едзеш. І скрозь на гэтай зямлі працуюць людзі. Адны з іх жывуць у сёлах, другія — у двары. Але ва ўсіх іх адзін гаспадар — пан Браніслаў Ясінскі. Бацька Язэпкаў напэўна робіць на другім полі. Язэпка ведаў, што, як пачынаецца вясна, войт не дасць перадышкі, пакуль не адсеюць усе панскія палеткі. На сваіх загонах цяпер аруць ды сеюць хіба толькі начамі, калі яны месячныя.

Язэпка не быў дома з таго часу, як прывёў яго бацька на панскі двор. Хоць гэта было і нядаўна, але Язэпку здаецца, што ён ужо вунь колькі часу як жыве адзін, сярод чужых людзей. Ён не раз прасіўся ў Аўдолі, каб пусціла яго дадому, хоць на гадзіну. Ды Аўдоля і слухаць не хацела. Яна ведала, што малы толькі разжаліцца ад сустрэчы з бацькамі. Няхай лепш адвыкае ад усяго, што звязвае яго з родным домам. Бацькам цівун таксама забараніў прыходзіць у двор да сваіх дзяцей. «Няма чаго ім тут цягацца,— казаў ён.— Калі ўбачу каго — пад розгі пашлю!»

Гэтак жа, як Язэпку свой дом, матцы хацелася ўбачыць сына. Адарваўшыся ад работы, яна часамі прыбягала да маёнтка і падоўгу ўглядалася з-за плота, ці не пакажацца на дзядзінцы яе сынок Язэпка. Яна не ведала, што Язэпку не было калі разгульваць па дзядзінцы. Ён прабягае краем яго толькі раніцай і ўвечары — з начлежнай стадолы ў свінарнік і назад.

І ўсё ж неўзабаве пасля выгану свіней на пашу Язэпка ўбачыўся з маткаю. Яна прыйшла да яго ў поле. Язэп-

ка пазнаў яе мо за цэлую вярсту. Ён гукнуў дзеду Міхалю радасна:

— Дзед, вунь мая мама!

І рынуўся ёй насустрач.

Маці, як убачыла Язэпку, таксама пабегла да яго, быццам баючыся, што хто з нядобрых людзей сочыць за імі і перашкодзіць гэтай сустрэчы. А ёй жа так хацелася хутчэй абняць свайго Язэпку, сілаю адарванага ад яе! Калі ж яна нарэшце дабегла да сына, ногі ў яе падкасіліся і рукі абвялі. Язэпка сам моцна абняў матку, прытуліўся да яе.

— Сынок,— прашаптала маці, азіраючыся,— хаця б цівун не ўбачыў...

Недалёка на поплаве зелянелі альховыя кусты.

— Хадзем, дзіцятка, туды,— паказала маці на кусты.

Яны схаваліся за кустамі і доўга гаварылі. Язэпка распытваўся, што робіцца дома, пра сваіх сяброў Юзіка, Тамаша, Міхася. А маці, часта выціраючы ражком хусткі вочы, распытвалася пра Язэпкава жыццё. Язэпку не хацелася скардзіцца матцы — усё роўна яна нічым не дапаможа. І ён або маўчаў, або казаў, што яму не дрэнна: да работы прывык, і ад дому адвык... Яму хацелася паказаць сябе перад маткаю больш дарослым і самастойным, чым ён быў. Маці расказала, што дома ім цяжка жывецца. Ледзьве лебяды ды крапівы дачакаліся. А так не было чаго варыць. Бацька хварэе яшчэ горш. Ні паншчыны адбываць, ні на сваім полі рабіць не можа. Хварэе і меншая Язэпкава сястрычка Наталька. Што будзе далей, як жыць на белым свеце — маці не ведае. Ёй не хацелася гаварыць аб сваёй бядзе сыну. Але гаварылася само. Яна думала адно, а гаварыла тое, чаго не магла не гаварыць. Язэпка заўважыў, што маці за гэты час дужа змянілася. Раней на яе дробным бледным твары сяды-тады пракідаўся румянец. Цяпер жа твар пажаўцеў і пастарэў. А каля вачэй прыбавіліся новыя маршчынкі.

Раптам маці ўспомніла нешта, захвалявалася.

— Ці не доўга мы, сынок, сядзім? Каб хаця цівун не наскочыў...

Яна ўстала.

— А я чуць не забылася,— сказала і тут жа дастала з-за пазухі невялічкі падсушаны сырок.— Гэта табе, сынок, гасцінца прынесла.

Язэпка ўзяў гасцінец, пачаў жаваць.

— Як жа цябе кормяць тут?

Язэпка хацеў прамаўчаць.

Але маці перапытала.

— Яды хапае,— адказаў ён.— Я на свіной кухні ем.

— Тое, што свінням вараць?

— Але...

Маці ўздыхнула.

— Ідзі ўжо, сынок. Міхаль то не скажа цівуну, што я была ў цябе. Ён добры.

— А як жа ты даведалася, што я на пашы? — пацікавіўся Язэпка.

— Людзі сказалі.

— Хто?

— Нашы аралі тут недалёка.

— Я прыглядаўся, ды нікога не пазнаў.

— Гэта не з нашага канца былі аратыя. Але адзін, Сцяпан Гарачоў, цябе пазнаў і сказаў мне, дзякуй яму.

— Ты яшчэ калі-небудзь прыйдзі, мама...

— Добра, прыйду. Як толькі выдарыцца вольная часіна. Цяжка мне цяпер, сынок. І дома трэба рабіць, і паншчыну адбываць... Прасіла войта, каб памог вярнуць цябе. Дык і гаварыць не хоча. Кажуць, трэба пасуліць хабар цівуну, тады ён заменіць цябе другім. Ды дзе ж нам што ўзяць?

Маці пайшла прыгнечаная, з цяжкім болем на сэрцы. І калі адышлася крыху, дала волю слязам.

Язэпка таксама не мог больш храбрыцца. На яго напала такая нудота, што хацелася кінуць-рынуць усё ды бегчы без аглядкі ўслед за маткаю, туды, за лясок, дзе нават і самае цяжкае жыццё здаецца такім мілым і прывабным.

Стары Міхаль разумеў свайго падпаска. Ён паклікаў яго да сябе, пасадзіў побач. Язэпка ўпурыўся ў Міхалёву світку і моцна расплакаўся.

— Цярпі, унучак,— суцяшаў Міхаль Язэпку.— Ты не адзін такі. Мяне таксама адарвалі ад бацькоў малога...

Стары закашляўся: нешта раптам вельмі сціснула яго горла. Потым дастаў з кішэні свае курэцкія прылады: капшук з тытунём, люльку і крэсіва. Закурыўшы, сказаў:

— Табе, хлопча, яшчэ пашанцавала. Хоць калі сваіх убачыш. А можа ўпросіш цівуна ды і сам дадому збегаеш. Мне не тое было. Мяне мой пан, каб яму калом зямля, падарыў свайму сваяку — гэта значыць бацьку нашага пана. Прывёз мяне сюды, калі мне было гадоў сем ці восем. А родны дом мой адгэтуль вёрст за сто, мусіць. Так з таго

часу я і не бачыў бацькоў. Потым чуў ад людзей з таго боку, што яны доўга і не жылі: паўміралі маладымі...

Язэпка крыху супакоіўся.

Неўзабаве ён падняўся на ногі і пабег збіраць свіней у чараду.

## АДКУЛЬ ЛІХА НА СВЕЦЕ

Дзед Міхаль жыў адзінока. Сям'і сваёй не меў. Некалі, у маладыя гады, пан здаў яго ў найміты падрадчыку па кантракту. Адслужыў Міхаль у аднаго падрадчыка, пан паслаў яго да другога. Гэтага другога дзед Міхаль і цяпер успамінае нядобрым словам. Падрадчык будаваў чыгунку пад Пецярбургам. Як Міхаль выжыў на той чыгунцы, ён і сам дзівіцца. Людзі там мерлі, як мухі. І калі хворы, знясілены, без капейкі ў кішэні, Міхаль вярнуўся да пана, позна ўжо было думаць аб сям'і.

Пан Ясінскі зрабіў Міхалю ласку: пасяліў яго не ў стадоле, дзе жылі адзінокія слугі, а ў асобнай невялічкай будцы і вызначыў яму месячыну [1] за работу. Пану Ясінскаму не мала перапала ад падрадчыкаў за гады Міхалёвай службы! Цяпер ён хацеў паказаць сваю дабрату. Усе яго, вядома, не любяць, лічаць прагным, жорсткім. Няхай жа бачаць, што гэта зусім не так! Пан Ясінскі цяпер мог бы не прыняць да сябе хворага, змарнелага Міхаля. Няхай бы сам шукаў сабе прытулку... А ён, бачыце, прыняў!

Будка Міхалю спадабалася: у ёй была гліняная печкаляжак, адно акенца, з бычыным пузыром замест шкла, і заседжаны мухамі бог-айцец, які вісеў на куце. А месячына яму не спадабалася: не хацелася самому варыць. Лішні клопат! Міхаль папрасіў пана, і той дазволіў яму харчавацца на агульнай чалядзінскай кухні.

Акрыяўшы, Міхаль гэтак жа, як і ў падрадчыкаў, рабіў у маёнтку ўсё, што загадваў яму дварэцкі або цівун: рэзаў дровы, паліў у печах, вазіў і насіў ваду... Ды ці мала знойдзецца работы ў маёнтку! У панскіх стайнях было з паўсотні коней. І рабочых і выязных. У аборах — поўна кароў. У свінарнях і аўчарнях — процьма свіней і авечак. У птушніках — куры, індыкі, гусі, качкі... У сабакарні — адборная псярня ганчакоў для панскага палявання.

---

[1] Месячына — прадукты на пражытак, якія паны выдавалі штомесяц сямейным дваровым людзям.

І ўсё гэтае дабро належала аднаму чалавеку — пану Браніславу Ясінскаму. І ўсе дваровыя людзі або чалядзіны і чалядзінкі, як называлі іх паны, і людзі навакольных вёсак і сёлаў разам з Язэпкавымі бацькамі належалі пану, рабілі на пана, дзень і ноч мусілі помніць пра свайго пана. За надзел зямлі, які, вядома, таксама належаў пану, бацька Язэпкаў адрабляў паншчыны пяць дзён на тыдзень — тры дні з канём і два без каня. У бясконныя дні мужыка магла замяніць жонка ці хто іншы з сям'і. Пану і гэтага здавалася мала. Ён прыдумліваў усё новыя і новыя паборы і службы: патрабаваў даніну ягадамі, грыбамі, яйкамі, ганяў апрача паншчыны гаціць гаці, брукаваць дарогі, вартаваць маёнтак...

Міхаль не раз задумваўся, чаму так несправядліва створаны свет. Чаму адны пануюць, а другія гаруюць? Але ні сам і ніхто іншы адказаць яму на такое пытанне не мог. «Так бог зрабіў»,— казалі адны. «Так жылі нашы дзяды і прадзеды»,— казалі другія. «Затое на тым свеце мужыкам будзе рай, а панам — пекла»,— цешылі сябе трэція.

Міхаль, аднак, не надта верыў ні першым, ні другім, ні трэцім. Ён больш верыў казцы пра тое, адкуль ліха на свеце. Робячы на чыгунцы, ён шмат чуў казак ад людзей — і пра змеяў, і пра чарцей, і пра паноў. Але найбольш даспадобы яму прыйшлася казка пра ліха, бо, як здавалася яму, гэта не казка, а шчырая праўда. Так, толькі так яно было і ёсць, як кажа казка, думаў ён. Гэтак жа думаў і верыў казцы і той пажылы дзядзька, які прывёз яе некалі на чыгунку з далёкага Палесся.

Асцерагаючыся, каб пан або цівун не дачуліся, Міхаль не раз расказваў казку пра ліха добрым людзям. Цяпер яму захацелася расказаць яе і свайму падпаску.

Свінні ўлегліся на стойле пры балоце. Выдалася якраз вольная часіна. А Язэпка ўсё яшчэ ўсхліпваў пасля разлукі з маткаю, і дзеду хацелася хоць чым забавіць хлопца, адагнаць ад яго чорныя думкі.

— Хочаш,— пашчыкатаў ён падпаска каля вуха,— раскажу казку.

Твар Язэпкаў, як здалося дзеду, пасвятлеў.

— Хачу,— адказаў ён, выціраючы кулаком вочы.— Я люблю казкі.

— Якія ж ты любіш?

— Усялякія.

— А хто табе расказваў?

— Маці.

— А якія казкі ты ведаеш? — пацікавіўся дзед.

Язэпка назваў некалькі казак — пра курку-рабку, пра дзеда і рэпку, пра коціка і пеўніка, пра жураўля і чаплю...

— Ну, гэта казкі, што дзецям расказваюць,— паморшчыўся дзед.— А вось я табе раскажу пра тое, адкуль ліха на свеце. Чуў такую?

— Не.

— То слухай. І запамінай, хлопча, бо гэта — не казка, а праўда.

Дзед сядзеў на сваёй любімай купіне — высокай, з густым сухім сіўцом. Сівы, як голуб, крыху згорблены, з худымі, упалымі шчокамі, ён і сам быў падобны да балотнай купіны або старога пня. Тут жа курыўся агеньчык. Клапаціўся аб ім, як звычайна, Язэпка: збіраў сухія галінкі, карэнні і ўсё, што можна было знайсці на поплаве і ў самім балоце.

Дзед паставіў локаць правай рукі на калена, далонню падпёр бараду і загледзеўся ў неба — празрыстае, вясёлае, з лёгкімі, ледзь прыкметнымі воблачкамі.

— Дык вось, казалі старыя людзі,— пачаў дзед,— некалі жыццё было чыстае, светлае, як гэтае неба: паглядзіш на яго — душа радуецца. Жыць хочацца. Не было тады ні паноў, ні мужыкоў. Былі адны людзі — роўныя, вольныя. Вось так, як рыбы ў чыстай вадзе або птушкі ў ясным небе: плыві куды хочаш, ляці куды ўздумаецца. Такую мелі волю. Свет вялікі, усюды месца чалавеку хапае. І людзі жылі-пажывалі, ніякага ліха не зналі. Што сваімі рукамі зрабіў, тое і спажыў. Ніхто ў цябе твайго не адбярэ, ніхто табе благога слова не скажа.

І ўсім тады ўсяго хапала. Мелі людзі, як кажуць, хлеб і да хлеба. Бо ведама: мелі поўную волю і ўладу над усім, што ёсцека і на зямлі і ў зямлі: над палямі і лясамі, над рэкамі і азёрамі, над рыбамі і птушкамі... Нават вецер і сонца служылі чалавеку: вецер хмары разганяў на небе, а сонца грэла і пасылала людзям ясны розум. Праўда, кажуць, шмат розуму не пасылала: скупілася, ці што? Вось так, па кроплі на год ці мо і на век.

Дзед зрабіў перадышку, абдумваючы далейшы ход казкі. Закурыў сваю люлечку, пакашляў трохі і вёў казку далей:

— І ўсё было б добра, каб не адзін благі чалавек. Знайшоўся гэтакі сярод людзей! Звалі яго Сцяпанам. Быў ён

такі гультай, што іншы раз нават імя сваё вымавіць ленаваўся. «Пан»,— прамармыча пад нос. А ты здагадвайся, што ён не пан, а Сцяпан. Каб людзі не кармілі, то ён і з голаду акалеў бы! А хваліцца любіў — крый божа! Я і такі, я і сякі! Што вы ўсе перада мною!

А потым і заганарыўся Сцяпан. Нос задзярэ,— крукам не дастанеш. Адным словам, зблажэў чалавек. А калі чалавек зблажэе, то гэта ўжо не чалавек.

Запрог ён аднойчы каня ў павозку і паехаў у свет — хацеў, каб людзі паглядзелі, які ён важны зух. Апрануў на сябе чырвоны жупан, у шапку наўтыкаў бліскучых птушыных пер'яў. На ногі абуў сінія боцікі з задранымі ўгору насамі. Во, глядзіце, маўляў, які я! Ну, і паехаў.

Як ехаць, дык ехаць,— прыязджае ў вялікі лес. Тут насустрач чорт з гушчару. Убачыў Сцяпана, здзівіўся. Людзей ён бачыў не раз. Але ж яны ўсе не такія стракатыя. «Мо гэта не чалавек?» — думае.

Стаў чорт пасярод дарогі, запыніў Сцяпана.

— Хто ты? — пытаецца.

Сцяпан нават не паглядзеў, што перад ім сам чорт, задраў нос і адказвае нехаця, пазяхаючы:

— Пан... А ты хто?

— Я — чорт!

— Які там яшчэ чорт! — буркнуў Сцяпан, пацягваючыся.— Прэч з дарогі!

І хвасянуў чорта пугаю.

А ніколі яшчэ не было, каб хто з людзей чорта адлупцаваў. Ну, чорт і ўзлаваўся на «пана» Сцяпана. Падскочыў угору, хапіў яго за каўнер і панёс над лесам. Нясе і хвошча ім па вяршалінах дрэў. Ад небаракі Сцяпана толькі ашмоцце сыплецца. Рэзнуўся Сцяпан аб дуб, і адразу вырас новы Сцяпан. У чырвоным жупане, з пер'ямі на шапцы... Яшчэ мудрэйшы, чым стары Сцяпан.

І адразу ж закрычаў новы Сцяпан:

— Я естэм пан Дубіцкі!

І пабег у сяло.

Рэзнуўся Сцяпан аб новы дуб — вырас новы пан Дэмбіцкі. За ім — Дубінскі. За Дубінскім — Дуброўскі...

Рэзнуўся Сцяпан аб бярозу — пабеглі ў сёлы новыя паны: Бжазінскі, Бжазоўскі, Беразоўскі...

Аб сасну шаргануўся — сталі паны Сасноўскія, Сасінскія... Аб елку — Ельскія, Ялоўскія. Аб вярбу — Вярбіц-

кія. Аб асіну — Асінскія... Аб ясень — Ясінскія. Як наш пан...

Нарасло паноў, як грыбоў.

Гайсаў, гайсаў чорт са Сцяпанам, аж замарыўся. Паглядзеў, а ад фанабэрыстага Сцяпана адны вантробы засталіся...

«Што ж з імі рабіць? — думае чорт.— Не цягнуць жа іх у пекла?»

Узяў ён і растрос вантробы па балоце. А ад іх і пайшлі расці дробныя паны і падпанкі — такія, як наш Дракула.

От развялося паноў, насеяных чортам, процьма. Дзе ні пойдзеш — там пан, дзе ні глянеш — і там ён, чортава насенне!

Ну, добра, жылі б сабе, як людзі. Дык не! Самі не робяць і рабіць не хочуць. А яду давай ім самую лепшую. Вось і пачалі гэтыя новыя паны ў людзей дабро адбіраць, людскую працу спажываць. Узялі над людзьмі верх, парабілі іх сваімі слугамі.

І пайшло з таго часу ліха на свеце. Ды такое, што і сказаць няможна. І што далей, тым цяжэй жыць людзям. Паны нават і забывацца пачалі, што іх слугі — людзі. «Які ты чалавек! — крычаў пан на свайго слугу.— Ты — хам, быдла, такое ж, як вол!» А вала б'юць пугаю, бізуном, калі дрэнна цягне. Прадаюць, калі сабе не патрэбен.

Так і з нашым братам. Б'юць яго, катуюць, голадам мораць. А самі пануюць, нічога не робяць, усялякае ліха выдумляюць, бо за сабою чортаву сілу маюць. Сіла гэта — станавыя ды стражнікі, турмы ды астрогі. А мала такой сілы — войска царскае клічуць. З генераламі ды афіцэрамі.

Знаходзіліся разумныя людзі, сарамацілі паноў:

— Дакуль вы, недавяркі, кроў з мужыкоў смактаць будзеце? Навошта волю ў людзей адабралі?

А паны толькі чэравы гладзяць ды выскаляюцца: «Мужык, бач, без пана жыць не можа. Над мужыком трэба стаяць з бізуном. Адно ліха на свеце будзе, калі мужык волю здабудзе. Тады і свет перавядзецца — адна бяда застанецца...»

Дзед перачакаў з хвіліну, уздыхнуў цяжка і працягваў казку далей:

— Вось гэтак і жывуць людзі. Жыццё, як тая куча камення. Пад нізам дробнае звалена. Яго буйнейшае зверху цісне. А на самым версе ляжыць адзін самы вялікі камень.

Трашчыць крушня. Дробнае каменне па жарстве пераціраецца. Трашчыць ды хутка долу асядае: усё ніжэй, ніжэй...

Павысіўшы голас, дзед сказаў упэўнена:

— Ох, прыйдзе час, затрашчаць падпоркі і рассыплецца ўся крушня!..

А потым зноў шапацеў, як лёгкі ветрык, тым жа ціхім, спакойным голасам:

— Ды доўга, мабыць, чакаць таго. Але кажуць людзі, што можна і раней разбурыць тую крушню. Ды адзін чалавек тут рады не дасць. Адзін чалавек — што? Як тая былінка ў полі. Наляціць вецер — сагне былінку, а то і паломіць. Толькі тады чалавек моцны, як ён не адзін сам сабе жыве, а ў грамадзе ды ў згодзе.

І чаго толькі не зробяць людзі, як возьмуцца грамадою, быццам адзін чалавек! Горы перавернуць. Ды вось гэтага і не ведаюць людзі. Сілы сваёй не ведаюць.

Але, кажуць, нарадзіўся такі на свеце ясны розум ад яснага сонейка. І расце той розум. Памаленечку, паціхутку, а расце! Год за годам, век за векам ідзе, а розум расце.

Вось як вырасце гэты ясны сонейкаў розум ды засвеціць усім людзям у вочы, то ўсе і пазнаюць, адкуль ліха на свеце. Праўду пазнаюць. І паднімуцца тады ў згодзе, як адзін чалавек, жыццё перайначаць ды зажывуць на зямлі, як у раі.

Я ўжо не дачакаюся таго. А ты, унучак, можа і дачакаешся...

Дзед Міхаль пакрактаў, выціраючы вочы,— відаць, сам разжаліўся ад сваёй казкі, ды пачаў развязваць торбачку з харчамі. Харчы на полудзень дзеду і Язэпку выдавала панская ахмістрыня [1] Ядвіся ў адну торбачку.

— Давай, унучак, пажуем трохі,— сказаў дзед, раскладаючы харчы на траве.— Скора нашы дзюдкі падымуцца.

Зачараваны казкаю, Язэпка не мог ачнуцца. Вядома, такой казкі ён не чуў! Яна ўскалыхнула ўсе яго думкі, перавярнула ўсё нутро. Ён яшчэ ніколі не задумваўся над тым, аб чым пачуў ад дзеда. Бацька сваё мужыцкае гора тлумачыць зусім не так. Ён усё кляне першага чалавека Адама і яго жонку Еву. Выходзіць, каб Адам не паслухаў сваёй звадлівай жонкі ды не паспытаў яблыка з забароне-

[1] А х м і с т р ы н я — аканомка, кіраўніца домам.

нага богам райскага дрэва — усё было б добра. А так бог пракляў і Еву і Адама. Але мала яму было пакутаў аднаго Адама: ён перадаў сваё праклянцце і на ўсё Адамава патомства, на ўсіх мужчын, дзе б яны ні жылі і калі б яны ні жылі.

Язэпку, аднак, не надта кранала гэта байка пра Адамаў грэх, бо яна, як здавалася яму, была супярэчлівая і спрэчная. І праўда: пра бога кажуць, што ён добры, справядлівы, жыве на небе, гэта значыць угары, недзе там, дзе лятаюць птушкі. Як жа там можа расці сад? Язэпка ведае, што для саду зямля патрэбна. А на чым жа трымаецца той сад, няхай бы сабе хоць і райскі? Потым — чаму ж добры, справядлівы бог пакараў усіх людзей праз віну аднаго чалавека? І ці ж такі дарагі быў той яблык, каб за яго пакутавалі людзі? Урэшце, чаму ж адбываюць божую кару за Адамаў грэх толькі бедныя людзі? А паны? Яны ж ніякага гора не ведаюць. Жывуць сабе прыпяваючы. Мусіць, сам Адам да сваёй спакусы не жыў так у божым раі, як жывуць паны на грэшнай зямлі.

Паслухаўшы дзедаву казку, Язэпка адразу ж аддаў ёй перавагу. Здзівіла яго і яшчэ адно: значыць, не ўсе вераць байцы пра Адама, калі склалі новую, праўдзівую казку аб тым, адкуль ліха на свеце. Ліха на свет пусцілі, значыць, не Адам з богам, а паны! Чортава насенне...

Усхваляваны і заклапочаны новымі для яго думкамі, Язэпка нехаця з'еў некалькі бульбін з салёным агурком і запіў вадою з дзедавай квартовай бутэлькі.

Свіное стойла тым часам скончылася. Памахваючы дубцом, Язэпка пайшоў да чарады.

## ЛАЗОВАЯ ДУДКА

У дзеда Міхаля быў свой уласны ножык. Іменна — уласны. Інакш яго не назавеш. Бо ўсё, у што дзед быў апрануты, што еў і піў, дзе жыў, на чым спаў, было не яго. Ды і сам ён не належаў сабе, а пану, як і ўсё іншае.

А вось ножык быў дзедаў! Ні пан, ні дварэцкі, ні цівун не цікавіліся дзедавым ножыкам. Ды, мусіць, і не ведалі, што ў дзеда ёсць свой ножык. Нідзе ў панскай гаспадарцы ён не быў запісаны. Ніхто з панскіх слуг не адказваў за яго перад панам.

Адкуль жа ўзяўся ў дзеда гэты цудадзейны ножык, які не належаў пану? І што гэта быў за ножык?

Уявіце сабе кавалачак жалязякі, знойдзены на дарозе. Дадайце да гэтай жалязякі тыдзень працы з краменнямі ў руках.

Потым з дапамогаю здабытага такім чынам ляза дзед выстругаў арэхавую ручку. Цвіком выпаліў у ручцы дзірку і асадзіў у яе завостраны шпенем канец жалязякі. Каб не парэзаць торбы ці кішэні, дзед змайстраваў з кавалка старой скурацiны чахол.

Ці то добрая жалязяка трапілася, ці то ўмелыя рукі і ўдалая загартоўка, але ножык удаўся востры. Дзед ім рэзаў не толькі хлеб, калі ахмістрыня Ядвіга часамі клала яго ў торбу, але і выразаў з дрэва конікаў, кароў, свіней...

Аднаго разу Язэпка папрасіў у дзеда ножыка. Яму захацелася зрабіць сабе дудку з лазовага дубца. Такія дудкі рабілі ўсе яго аднагодкі, і Язэпка быў ужо спрактыкаваным майстрам у гэтай справе.

Дзед з ахвотаю даў Язэпку ножык. І нават сам зацікавіўся дудкаю, даваў парады, як лепш скруціць кару, колькі дзірачак выразаць для пераборaў.

Ці трэба казаць, што з дзедавай дапамогай Язэпка лёгка справіўся з сваёй работаю. Неўзабаве дудачка зайграла ды заспявала на ўвесь палетак.

— Якая галасістая! — радаваўся дзед.— Бач ты, усё роўна, што панскі кларнэт!

Хутка Язэпка перайграў на сваёй дудачцы ўсе песенькі і ўсе танцы, якія спяваліся ды іграліся ў іх сяле. Паспрабаваў іграць і сам дзед. Песенька яго была незразумелая Язэпку, нудная, цягучая. Язэпка запытаўся, што дзед іграе.

— Аб нашым жыцці іграю,— адказаў дзед.— Калі сказаць словамі, дык песенька будзе такая:

А вунь мамка ідзе,
А нам рэпку нясе.
— Пачакайце, дзеткі,
Мне тут не да рэпкі,
У хаце сцюдзёна,
Ў печы не палёна,
Нечага варыці...
Чым жа вас карміці?

А вунь татка ідзе,
Нам гароху нясе.

— Пацярпіце троху,
Мне не да гароху.
Ў полі не ўрадзіла,
Што было — пагніла.
Недзе зарабіці —
Чым жа вас карміці?

Словы песенькі былі вельмі зразумелыя Язэпку. Гэта ж песенька пра яго матку і бацьку, пра яго самога, пра брата Васілька і сясцёр Параску і Натальку. Гэта песенька пра яго равеснікаў і сяброў з роднага сяла Галынаўка. Як яны, небаракі, галадаюць усю вясну, чакаючы гэтай жаданай рэпкі! Хлеб напалам з карою і грэцкаю мякінаю цяпер для іх найлепшым ласункам здаецца. Калі што і ўродзіць на полі, дык сабраць няма калі. Дракула з войтам у такі час і на дзень не вызваляць цябе ад прыгону. А там, глядзіш, дажджы пойдуць... І ўсё пагніе, як у той песні спяваецца.

Потым дзед сыграў на дудачцы яшчэ адну сумную песеньку. Скончыўшы, сказаў:

— А гэтая спяваецца такімі словамі:

А ў бары зязюлька кукуе,
Мой сыночак на полі начуе,
Сырую зямельку ён арэ,
На худыя шчокі слёзы лье.
А заўтра да сонца рана
Трэба ехаць араць на пана.
Ах, мая галованька бедная,
Ах, маё горанька горкае!
Што ж мне заўтра раненька ды зварыць,
Чым жа мне сынка свайго накарміць?
Накармлю сыночка лебядою,
Пасалю я лебяду сваёю слязою.
— Еш, мой даражэнькі, ды спяшы,
А то прыганяты ўжо бяжыць.
Каб нашаму пану трасца ў бок,
Як ён цябе сушыць, мой сынок.

Словы і гэтай песенькі былі зразумелыя Язэпку. Ён сам яшчэ не араў і паншчыны не адбываў. Але бачыў гэтых худых аратых з чырвонымі ад слёз і ад недасыпання вачыма і чуў, як маткі галосяць і як пана клянуць...

Язэпка ўсё больш прывыкаў да дзеда Міхаля. А дзед Міхаль тым часам прывыкаў да свайго падпаска. Часта ўспамінаўся яму падрадчык на будове чыгункі. І ён расказваў Язэпку:

— Гад быў, яшчэ горшы за Дракулу. Не чалавек, а звер. І прыганятых падбіраў такіх жа, як сам. Бывала,

дзяўбеш, дзяўбеш ломам ці рыдлёўкаю камяністы грунт. Спіна калом стане. Дух зойме. А чуць спыніўся перадыхнуць — ужо ўбачаць, каб ім павылазіла. Як каршуны наляталі прыганятыя на людзей. Кармілі нас тым, што і сабакі не елі б. А жылі ў такіх стадолінах, баракамі там іх звалі, што хлявы ў добрых людзей куды лепшыя. Халадэча зімою, смурод праз усё лета. Мух — цэлыя хмары. Клапам ды скочкам — рай у тых стадолах.

Дзед часта скардзіцца на ламату ў касцях.

— Там не тое, што моклі,— гнілі косці ў гразі ды ў балоце,— расказваў ён.— Не ўсюды ж сухі грунт. Больш трапляліся балоты, дрыгва. Пастой у іх па калені дзень пры дні! Зімою таксама на печы не ляжалі. І ботаў ніхто нам не шыў. А лапці — яны па сухому добры абутак. У снезе ж лапаць, як грыб гнілы. Вернешся на начлег у халодны барак. Прасушыцца няма дзе. Так і кладзешся з мокрымі нагамі. Назаўтра ўстаеш, глядзіш — не ўсе работнікі падымаюцца. Сёй-той у гарачцы кідаецца, а іншыя дык і зусім богу душу аддалі. Якіх толькі хвароб не было ў нашых бараках!

Язэпку не зусім зразумелыя былі гэтыя дзедавы расказы. Ніяк не мог ён уявіць сабе ні чыгункі, ні дзедавай работы на ёй. І яму здавалася, што дзед проста расказвае нейкую казку-небыліцу.

Дудачка вельмі спадабалася Язэпку, і цяпер ён не выпускаў яе з губ. Яна так і звінела, як той званочак, па ваколіцы, адгукаючыся рэхам у кустах, у блізкім лесе.

Аднойчы на пашу прывалокся цівун Дракула. Ліха нагнала яго якраз тады, калі Язэпка надта разыграўся. Толькі што перад гэтым дзед навучыў яго іграць полечку «Гарні, гарні бульбу з печы».

Дракула быў пануры і злосны, як заўсёды. Лупатыя вочы яго ўтаропіліся на Язэпку.

— Гэта што ў цябе?

— Дудачка...— адказаў Язэпка, скалануўшыся: ён пачуў у голасе цівуна злосныя ноты.

— Хто дазволіў дудачкамі займацца? Ты, стары пень?

Дзед пацісну́ў плячыма:

— Я не думаў нічога благога, пан цівун...

Цівун вырваў дудачку з Язэпкавых рук, пашматаў яе і шпурнуў убок.

— Я паслаў цябе свіней пасвіць, а не ў дудачкі свістаць!

Цівун размахнуўся і аперазаў бізуном збянтэжанага і перапалоханага хлопчыка.

Язэпка заплакаў ад крыўды і ад болю.

— Пан цівун, пабойся бога! — заступіўся за Язэпку дзед Міхаль.— Што ж ён зрабіў такога? Хіба ж няможна на дудачцы пасвістаць? Усе ж дзеці робяць дудачкі!

Цівун адвярнуўся ад Язэпкі.

— Ты, стары пень, яшчэ вучыць мяне будзеш, што можна, а што няможна... Глядзі ў мяне!

Пабушаваўшы, цівун пайшоў прэч.

Дзед доўга кляў яго.

— Чаму няможна іграць на дудачцы? — дапытваўся Язэпка ў дзеда.— Ці ж я каго пакрыўдзіў?

Дзед паспрабаваў усміхнуцца:

— Можа панскіх свіней... А можа і праўда, што паны і падпанкі баяцца дудкі, як у той казцы расказваецца? Ты такой казкі не ведаеш?

— Не...— адказаў Язэпка.

— О, гэта была дудка! Цудоўная дудка. Не тваёй раўня. Хочаш — раскажу.

Дзіва што хацелася Язэпку паслухаць новую казку — ды яшчэ пра цудоўную дудку!

— Дык слухай,— сказаў дзед.— Свінні пакуль што ў чарадзе. А казка не надта і доўгая.

Дзед адкашляўся, каб лягчэй гаварыць было, і пачаў:

— Жылі некалі ў адным краі людзі ў згодзе ды ў ладзе. Зямлі многа, усюды вольна — адзін аднаму не перашкаджалі, а прыйдзе да каго бяда — адзін аднаму памагалі, бяду перамагалі. Паноў тады яшчэ, як бачыш, не было.

Але вось па некаторым часе панадзіўся лятаць у той край страшэнны змей. Пачаў ён лятаць, людское дабро хапаць, сабе ў змяінае логава цягаць...

Язэпка лавіў кожнае дзедава слова на ляту. Фантазія яго разгаралася. Змеяў ён бачыў не раз. Але ж дзед не пра такіх расказвае. Змей з казкі і праўда цэлае страшыдла з добрую гару. Ён з крыллямі, як у ветрака, а мо і большымі. З вачыма ў сто разоў лупацейшымі за Дракулавы. З ноздраў яго агонь шугае, як з добрага вогнішча... Вядома, такое страшыдла людзей не пашкадуе!.. А služкі змеевы — цівуны ды гайдукі! Гэтых Язэпка як жывых бачыць. Яны рыхтык такія ж, як служкі пана Ясінскага. Ды і паны, якіх змей напладзіў, таксама добра вядомы Язэпку. Праўда, на некаторы момант Язэпка адчуў супярэчнасць у дзедавых

казках: раней дзед расказваў, што паноў чорт напладзіў. На новай жа казцы выходзіць — змей пусціў на свет гэтае ліха. Але, відаць, і чорт і змей з аднаго кодла.

Тым часам дзедава казка ўсё далей і далей вядзе. Цурчыць ды цурчыць, як той крынічны ручаёк за кустамі. Колькі ў ёй і цудаў і праўды!

— Дык вось,— цягне дзед далей,— гэтак і жывуць людзі. Адны паміраюць, другія нараджаюцца, а палёгкі няма ніякай. І ніхто не ведае, што зрабіць, каб лепей стала жыць.

А калі дзед расказаў пра Іванку Прастачка — які ён быў і якім стаў, дык Язэпку аж горача ўнутры зрабілася. Так палюбіў ён Іванку з яго цудоўнай дудкай, што, здаецца, не задумваючыся пайшоў бы за ім хоць на край свету.

— І дзе ні пройдзе Іванка са сваёю дудкаю,— людзі там розуму ад яго набіраюцца, за вілы ды сякеры хапаюцца, з ліхімі панамі змагаюцца...

«Ух!» — выцірае Язэпка пот з ілба. Аж цела шэрхне ад радасці за Іванку. Вось малайчына!

А дзедава казка ўсё цурчыць ды цурчыць, і чым далей, тым цікавей слухаць яе.

— Думаюць паны, гадаюць, як Іванку са свету звесці. Пачалі яны войска збіраць, Іванку шукаць. Чуюць голас на ўсходзе — шусь туды. Шаблі звіняць, пікі, як лес, тарчаць. гарматы, як гром, грымяць, а Іванкі нідзе не відаць...

«Хаця б не злавілі, праклятыя...» — мільгае ў Язэпкавай галаве думка. Ды чуе — не! Не даецца Іванка ў рукі панам, як зачараваны які.

— Спыняцца паны з войскам, слухаюць, стаяць. Аж раптам чуюць голас на захадзе,— то Іванкава дудка іграе, людзей навучае, на вялікую бітву ўзнімае. Толькі пошчак ідзе-гуляе ад сяла да сяла, ад краю да краю.

Кінуцца паны на захад. Коні як віхор ляцяць, шаблі звіняць, граматы страляюць, а дзе Іванка — паны не знаюць.

Яшчэ некалькі слоў, і дзедава казка да берага плыве. Язэпка адчувае, што казка канчаецца. Шкада. Хацелася б слухаць яе хоць дацямна. Ды разам з тым і радасць поўніць грудзі: значыць, паны ў дурнях засталіся! Не злавіць ім Іванкі, не заглушыць голасу яго цудоўнай дудкі!

«Вось бы здабыць такую дудку! — думае Язэпка. — Або хоць пачуць яе голас!»

Дзедава казка пра цудоўную дудку заглушыла боль ад

Дракулавага бізуна. Цяпер Язэпка і праўда паверыў, што Дракула баіцца дудкі, як чорт крыжа. Іначай, чаго б яму прыйшло ў галаву караць Язэпку за лазовую дудачку?!

## ГОРКАЯ ДОЛЯ

Праз тры гады пасля таго, як трапіў Язэпка ў двор, пан Браніслаў Ясінскі спраўляў свае імяніны. Яму споўнілася пяцьдзесят гадоў.

Пан Ясінскі быў з тых паноў, якія любілі выпіць і пагуляць не толькі ў святочныя дні. Ён ведаў і яго ведалі гулякі ўсяе ваколіцы. А калі надакучвала гуляць дома і каля дому — пан ехаў у Пецярбург, у Парыж ці ў Сарэнта.

І чым больш пан гайсаў па свеце, тым больш занепадаў яго маёнтак. Каб выкруціцца з вечных даўгоў, ён прадаваў лес, пасылаў людзей на розныя часовыя работы па кантрактах з падрадчыкамі, а на іх месца ставіў жанчын і падлеткаў. А калі ўжо даходзіла да таго, што не было за што выехаць на чарговую гулянку, пан не задумваючыся прадаваў сваіх прыгонных.

І хоць у пана Ясінскага, як звычайна, справы з маёнткам кульгалі на абедзве нагі, імяніны ён рабіў шыкоўныя.

Дзень імянін прыпадаў на канец красавіка месяца. Пагода выдалася сухая, цёплая. І госці ахвотна пацягнуліся з усіх бакоў. Папрыязджалі нават і тыя сваякі ды знаёмыя, што жылі за сто і больш вёрст — у ваколіцах Слуцка, Нясвіжа, Баранавіч.

Цэлы тыдзень цягнуліся панавы імяніны. Цэлымі днямі госці пілі і елі, а вечарамі гулялі ў карты. Пану-імянінніку не шанцавала ў картах. Ён спяшаўся, гарачыўся. Госці ведалі фанабэрыстую натуру гаспадара і часта падахвочвалі яго на рызыку: «З такою картаю ды не стукнуць па банку?» І пан Ясінскі стукаў.

К канцу тыдня фанабэрысты гаспадар прастукаў усе свае запасы. Госці пачалі шушукацца, што пан Браніслаў не такі багаты, як хоча паказаць сябе. Каб не асараміцца перад гасцямі, гаспадар абвясціў, што ён замест грошай будзе ставіць у банк сваіх слуг. У грошы, маўляў, яму гуляць надакучыла. Гэта гульня старая і нецікавая. У дні сваіх імянін ён хоча дазволіць сабе такую раскошу.

Новая гульня спадабалася гасцям. А пану Ясінскаму па-ранейшаму не шанцавала. Цівун Дракула прывёў у залу, дзе гулялі паны, ужо шэсць хлопцаў. Пан прагуляў іх. «Вядзі яшчэ!» — бушаваў пан Браніслаў Ясінскі. Больш людзей, па якіх цівун меў вока, пад рукамі не было. А ісці лавіць іх па вёсках яму не хацелася. Тады ён успомніў пра падлеткаў.

Першы з падлеткаў, хто нарваўся ў гэты час на Дракулу, быў Язэпка. Цівун прыгледзеўся да хлапца, нешта прыкінуў у галаве, прыцмокнуў, што, відаць, азначала: «П'яныя госці не разбяруцца...» Ён пераадзеў Язэпку, абуў у старыя боты на высокіх абцасах і паставіў перад панамі-карцёжнікамі.

Аднак хоць і п'яныя, госці ўсё ж разабраліся, што пан Браніслаў хітруе: выстаўляе непаўнацэннага работніка. Пачаўся гандаль. Адзін з паноў фыркнуў і сказаў, што больш як сотню ранейшымі асігнацыямі [1] такі хлопчык не каштуе. Другі прыбавіў яшчэ дваццаць пяць — тымі ж ранейшымі асігнацыямі.

— Такая цана яму ў рынкачны дзень,— выскаліўся ён, задаволены сваім жартам. — Гэта значыць трыццаць пяць — трыццаць шэсць серабром.

Нарэшце цану крыху падагналі, і Язэпка пайшоў у гульню за сорак пяць рублёў серабром.

Карты абышлі круг, і пану Ясінскаму зноў не пашанцавала.

Язэпка, які нічога не разумеў, што тут робіцца, апынуўся ўласнасцю банкамёта, высокага ружовашчокага пана Адама Жардзецкага.

Ад'язджаючы з гасцей, пан Жардзецкі аформіў свой выйгрыш законным парадкам. Дзеля гэтага была складзена купчая, у якой гаварылася:

«1860 года месяца красавіка 28 дня Мінскай губерні Ігуменскага павета памешчык Браніслаў Ясінскі выдаў гэтую купчую крэпасць памешчыку Адаму Жардзецкаму ў тым, што я, памешчык Браніслаў Ясінскі, прадаў яму, Адаму Жардзецкаму, майго ўласнага дваровага селяніна Язэпа Валовіча сына Пракопава за суму 45 руб. серабром, а таму да гэтага нашага продажу нікому справы няма, і

---

[1] Асігнацыя — папяровыя грошы. Цаніліся ў тры з палавіпаю разы танней за сярэбраныя. Ужываліся да 1843 года.

памешчык Адам Жардзецкі мае права ўладаць вышэйназваным селяніпам вечна і беззваротна, можа рабіць з ім, што пажадае — прадаць, залажыць ці падараваць каму яму захочацца і ўсё іншае.

Падпісалі гэтую купчую крэпасць:

Дваранін *(Браніслаў Ясінскі).*
Дваранін *(Адам Жардзецкі)».*

У купчай крэпасці паны знарок не ўпамянулі, колькі гадоў селяніну Язэпу Валовічу і што прадаецца ён адзін, без бацькоў. Так робіцца ўжо не першы год — пасля таго як усеміласцівейшы самадзержац Мікалай I выдаў у 1842 годзе ўказ аб забароне прадаваць малалетніх дзяцей у адзіночку — без бацькоў. Праўда, пра свой указ цар услед і забыўся. Не лішне стараліся яго запамінаць і паны-дваране. А прыгонным царскага ўказа не чыталі.

Пан Адам Жардзецкі прыехаў на імяніны са сваімі лёкаямі і гайдукамі. Яго выязны абоз складаўся з трох павозак. Сам ён ехаў сярэднім у карэце. Ахоўвалі яго два рослыя гайдукі, якія прымошчваліся на запятках [1].

Да самага ад'езду з двара Язэпка не ведаў, што з ім робяць. Праўда, ён чуў, што пан прагуляў гасцям нямала сваіх работнікаў. Але ж гэта былі дарослыя, не яму раўня. Пан збіраўся аддаваць іх у рэкруты ці пасылаць падрадчыкам, каб зараблялі яму грошы. І таму хлопцы цяпер не вельмі сумавалі. Ім было ўсё роўна — ісці ў салдаты на муштру ці да новага пана.

Язэпка не думаў, што пан прагуляў і яго гэтак жа, як і большых хлопцаў. І, ужо толькі калі цётка Аўдоля, уздыхаючы, пачала збіраць яго ў дарогу, ён адчуў нешта нядобрае. Цётка Аўдоля не сказала, куды яго збіраюцца выпраўляць. Але па ўсім відаць было, што не свіней пасвіць. Свіней у той дзень чамусьці пагнаў адзін дзед Міхаль. Язэпку прынеслі новую чыстую кашулю, новыя штаны, нават лапці новыя. Ён з радасцю пераадзеўся, бо старая кашуля і штаны яго былі вельмі брудныя і парваныя. Яму недзе дасталі нават лепшую, чысцейшую світачку. На галаву падзелі шапку з брылем.

Здагадаўся Язэпка пра сваю горкую долю толькі тады, калі яго пасадзілі на павозку чужога пана. Ён замітусіўся,

[1] Запяткі — месца для слугі ззаду панскай карэты.

ірвануўся з павозкі, закрычаў нема: «Не хачу! Не хачу!» Лёкаі схапілі яго за рукі і прыціснулі да сядзення.

Тым часам паны развіталіся, і абоз пана Жардзецкага рушыў у дарогу.

## НА НОВЫМ МЕСЦЫ

Абоз пана Жардзецкага вярнуўся дадому познім вечарам на другі дзень. Мінулую ноч яны начавалі ў нейкім маёнтку. Язэпка сядзеў на павозцы і плакаў. За ім наглядаў панскі лёкай.

Цяпер яго ссадзілі з павозкі, і той жа лёкай, што вартаваў Язэпку ў мінулую ноч, прывёў яго ў будыніну, дзе стаялі доўгія пустыя сталы. Там пасадзіў яго на лаўку і паставіў перад ім драўляную міску варанай бульбы. Язэпка да бульбы не дакрануўся. Лёкай тупнуў са злосцю:

— Еш!

Язэпка нават не паварушыўся. Ён ужо не плакаў, бо не было слёз, толькі тупа глядзеў на лёкая і калаціўся ўсім целам, як у ліхаманцы.

— Ну і ліха цябе бяры! — сказаў лёкай. — Выгаладаешся,— сам папросіш.

Ён завёў Язэпку ў нейкі хлеўчык, паказаў на кут:

— Там падаслана. Спі!

Потым засунуў знадворку засаўку і пайшоў.

Спаць Язэпка не мог. Галава гарэла ад думак, ад крыўды на пана Ясінскага. Чаму ён прадаў яго? Хіба ж Язэпка дрэнна служыў свайму пану? Рабіў ён з усяе сілы, як мог. Пра гэта заўсёды прасіла яго маці, калі сяды-тады ім здаралася сустракацца. «Старайся, сынок, і цябе не будуць біць, як другіх»,— напамінала яна яму адно і тое ж. А як б'е цівун Дракула і панскія гайдукі, Язэпка добра ведае. У бараку, куды ён прыходзіў начаваць, толькі і гаворкі было пра Дракулу, пра стайню, дзе катуюць людзей розгамі і лазовымі прутамі. Тыя, хто трапляў на стайню, стагналі начамі, праклінаючы панскага цівуна. Часамі Дракула прыдумліваў і іншыя пакаранні: прымушаў скакаць на гарачай блясе, піць па пяць і болей конавак вады адразу. Апошнюю кару ён ужываў для жанчын, якія ў гарачы летні час часцей, чым яму здавалася, адрываліся ад работы, каб напіцца вады. Імя Дракулы наводзіла на людзей большы жах, чым імя самога пана. Дзе яго пан

дастаў, якая маці яго выгадавала,— ніхто з тутэйшых людзей не ведаў. Казалі, быццам і сам ён быў некалі невялікім панам. Потым зглеў, прадаў свой фальварак і пайшоў у цівуны да пана Ясінскага.

Найбольшы жаль і страх наганяла на Язэпку думка, што ён апынуўся далёка ад дому, ад родных мясцін. Не салодка жылося ў старым маёнтку. Але там, недзе зусім блізка, была яго родная Галынаўка. Ён хоць і не быў у ёй апошнія тры гады, аднак усёю сваёю істотаю адчуваў нейкую сувязь з ёю, з бацькамі. Ён жыў думкамі, што восьвось убачыць матку, якая крадком недзе ўжо цікуе за ім на свіной пашы. А калі не матку — то можа хоць мільганецца дзе блізка знаёмы твар чалавека з свайго сяла. Больш як год ён ужо не бачыў бацьку. Маці казала, што бацька ўсё хварэе і таму не можа прыйсці да Язэпкі так, як яна. У Язэпкі закрадваецца трывожная думка, што можа маці няпраўду кажа... Можа, бацька даўно ўжо ляжыць у магіле, дзе-небудзь пад высокаю сасною.

Могілкі ад сяла недалёка. Яны — на ўзгорку, там, дзе шумяць стогадовыя сосны. Сосен ніхто не сячэ, каб не патрывожыць супакой нябожчыкаў. А іх там — і не злічыць. І ўсё нясуць новых. Колькі гэтых нябожчыкаў нагледзеўся Язэпка, як жыў дома, у сваім сяле!

«Хоць бы раз, здаецца, пабыць у роднай хаце»,— часта думаў Язэпка, жывучы на панскім двары. Зараз жа гэтая думка так заўладала ім, што ён гатоў быў на ўсё, абы пабыць дома. Але дзе цяпер яго дом? Колькі вёрст да яго і як туды дабірацца? Яны ехалі палямі і лясамі, грэблямі і хмызнякамі. Яны пераязджалі ручаі і рэкі. І коні мала дзе ступалі шагам.

Лежачы ў хлеўчуку са сваімі цяжкімі думкамі, Язэпка шкадаваў, што не прыглядаўся да дарогі. Праўда, слёзы ўвесь час засцілалі яму вочы. Але ён усё ж мог бы заўважыць і запомніць важнейшыя прыметы, калі б думаў пра іх.

Ужо бралася на дзень, калі думкі Язэпкавы раптам заблыталіся і ён убачыў... сваё сяло, свой дом. Ён ідзе дадому! На двары сустракаюць яго бацька, маці, брат Васілёк і сястрычкі. Усе вясёлыя, радуюцца. Язэпка разам з усімі ідзе ў хату і там расказвае, як ён жыў у панскім двары і як хацелася яму дадому. І вось пан Ясінскі пусціў яго. Мусіць, яму параіў зрабіць гэта цівун Дракула, бо Язэпка стараўся на рабоце як мог.

І раптам радасць яго абарвалася. На парозе паўстаў сам цівун Дракула з бізуном у руках. Якраз як тады, калі ён прыйшоў забіраць Язэпку ў двор да пана. Язэпка закрычаў: «Не хачу! Не хачу!» Цівун падняў бізун і хвасянуў Язэпку па спіне...

Язэпка прахапіўся. Павярнуўся тварам уверх і ўбачыў: каля яго стаяў учарашні лёкай. У руках ён трымаў бярозавы дубец.

— Разаспаўся, як пан, не раўнуючы... — крычаў лёкай. — Ніяк не дабудзіцца. Хадзем!

Язэпка ўсхапіўся на ногі, паціснуў плячыма, якія чамусьці балелі, і, спатыкаючыся, рушыў услед за лёкаем.

Лёкай прывёў яго ў той жа барак, у які яны заходзілі ўчора. Сёння там было поўна людзей. Усе сядзелі на лаўках за доўгімі сталамі і елі панасыпаную ў драўляныя начоўкі бульбу. Бульба была гарачая, разам з параю ад яе ішоў смачны, як здалося Язэпку, пах.

Лёкай падвёў Язэпку да хмурага барадатага дзядзькі. Ён сядзеў насупраць доўгага стала і, уплятаючы гарачую бульбу, пазіраў на лёкая сумнымі вачыма.

— Пан загадаў перадаць хлопца пад твой нагляд,— сказаў лёкай, паказаўшы на Язэпку.

Хмуры барадач скрыва глянуў на шчуплага Язэпку і запытаўся, колькі яму гадоў. Язэпка адказаў.

— Ну, што ж, ужо не маленькі...— прамармытаў сам сабе хмуры дзядзька. — Есці хочаш?

— Хачу,— адказаў Язэпка, глытаючы сліну.

— То спяшайся. Скора ў лес пойдзем.

Язэпка знайшоў вольнае месца за сталом, прысеў і ўзяў з начовак круглую белую бульбіну. «Гэтая не з свінога гатунку»,— падумаў ён узрадаваны. Спехам ён абабраў бульбіну, абмакнуў яе ў соль, потым, як вучыла яшчэ дома маці, перахрысціўся і панёс у рот.

Голад заглушыў на момант тугу па радзіме. Ядучы, ён нават пачаў разглядаць незнаёмых яму людзей, што сядзелі за сталом.

Людзі былі розныя, найбольш пажылыя. Такіх, як Язэпка, не відаць было.

— Ты адкуль узяўся? — запытаўся ў Язэпкі яго сусед, русабароды дзядзька с крыжыкам на расхлістаных валасатых грудзях.

— Ад пана Ясінскага,— адказаў Язэпка.

— Гэта дзе ж такі?

Язэпка хацеў адказаць, але дзе маёнтак пана Ясінскага, не ведаў.

— Мяне ўчора ваш пан прывёз,— растлумачыў ён.

— А-а... — сказаў валасаты дзядзька. — Пан ездзіў у госці некуды.

Не паспеў Язэпка з'есці пары бульбін, як хмуры барадач падняўся з-за стала і скамандаваў:

— Канчай!

Язэпка ўбачыў, як рукі ўсіх, што сядзелі за адным з ім сталом, пацягнуліся да бульбы.

— Бяры, хлопец, за пазуху,— параіў Язэпку яго сусед.

Сам ён схапіў некалькі бульбін. Язэпка ж пакуль разабраўся, што тут робіцца, апынуўся перад пустымі начоўкамі.

Хмуры барадач пайшоў да дзвярэй. За ім паспяшаліся і астатнія — чалавек пятнаццаць. «Куды нас павядуць?» — думаў Язэпка, ідучы за мужчынамі. Дзядзінец, якім яны ішлі, быў вельмі ж падобны на стары дзядзінец пана Ясінскага: шырокі, прасторны, абстаўлены вакол рознымі будынкамі. Праўда, самі будынкі яму не знаёмыя і стаяць не ў такім парадку, як у старога пана. Не відаць на дзядзінцы і мураванага дома з белымі калонамі пры ўваходзе.

Мужчыны спыніліся каля старой нізкай будыніны. На дзвярах яе вісеў круглы замок з выгнутаю дужкаю.

Неўзабаве ўсе глянулі ўбок. Язэпка таксама паглядзеў на дзядзінец. Адтуль ішоў плячысты мужык з бізуном у руках. Апрануты ён быў не так, як астатнія, з кім прыйшоў сюды Язэпка. На гэтых былі толькі штаны і кашулі, такія ж, як насяць людзі там, у старым маёнтку. На нагах — лапці. Мужчына ж, што ішоў да іх, быў у ботах, у камізэльцы паверх чыстай кашулі, штаны на ім былі паласатыя, відаць, не саматканыя. І наогул увесь яго выгляд вельмі ж нагадваў цівуна Дракулу. Толькі вусы ў гэтага Дракулы былі ўзняты ўверх. І вочы не лупатыя, а маленькія, калючыя. І бізун — з белаю ручкай, а не з чорнаю, як у Дракулы.

— Наш цівун Бараноўскі,— шапнуў дзядзька з крыжыкам на грудзях. Ён стаяў побач з Язэпкам і, відаць, сказаў гэта да яго. Потым азірнуўся і яшчэ цішэй прашаптаў: — Гад печаны...

Відаць, гэтыя словы круціліся ў яго на языку, і ён рад быў сказаць іх свежаму чалавеку. Яно, Язэпка то яшчэ не зусім чалавек. Але ж ён пастаўлены зараз з імі на адну ра-

боту і мае права лічыцца раўнапраўным прыгонным пана Адама Жардзецкага.

Цівун адамкнуў будыніну. Хмуры барадач вынес адтуль пілы, сякеры і ладную бачурку для вады.

— Калі, барані бог, прападзе хоць адна сякера ці піла,— сказаў цівун хмураму барадачу,— назад, Рыгор, лепш не варочайся. Чуеш?

— Ведаю, пан цівун,— прыгнуў галаву барадач.— Чую не першы раз...

У момант людзі разабралі пілы і сякеры. Язэпка таксама ўзяў сякеру. Цівун падышоў да яго:

— Гэта цябе пан з гасцей прывёз?

Язэпка матнуў галавою.

— Шчуплаваты,— фыркнуў цівун. — Ды глядзі, старайся. У майго пана грошы не казённыя. А ён цябе за сорак пяць срабром узяў. За такія грошы можна дзецюка купіць!

Цівун ухмыльнуўся тоўстымі губамі:

— Мусіць, заслужыў, калі пан прагуляў цябе... Добрага работніка не прагуляў бы!

— Які з яго работнік! — пацíху прагаварыў русабароды дзядзька. — Дзіця яшчэ горкае...

Цівун, аднак, пачуў яго.

— Ты што там, Панцялей, мармычаш? Глядзі ў мяне!

І па прывычцы ён спрытна ўзмахнуў бізуном:

— Марш!

Рыгор ускінуў сякеру на правае плячо, леваю рукою прыціснуў пад пахаю бачурку і рушыў шырокім шагам у бок лесу. За ім пайшла і ўся яго арцель.

### ЛЕСАРУБЫ

Лес пачынаўся тут жа, за маёнткам. Ён сінеў справа і злева на недалёкім гарызонце.

Значыць, гэта лясная старана, такая ж, як і яго родная, думаў Язэпка, ідучы на работу разам з лесарубамі пана Жардзецкага. Ён успомніў, што ўчора яны доўга ехалі лесавою дарогаю, пакуль не адкрылася перад імі ў цёмным змроку прагаліна, на якой заблішчалі агеньчыкі. Язэпка слаба бачыў іх: вочы яго засланяў туман, у галаве ўсё муцілася. Сёння яму таксама млосна, але глядзіць па свет ён ясней.

Цяпер яму хацелася разабрацца, што здарылася, падумаць, што рабіць далей. Заставацца на чужой старане сярод чужых людзей яму, пэўна ж, не хацелася. Уся гэтая страшная прыгода здавалася ўсё яшчэ нейкім недарэчным сном. Але ўсякі сон мінаецца. А як мінецца гэты і калі?

Язэпка ўспомніў пра самагубцаў са старога маёнтка. За два гады там павесіліся тры дзяўчыны і два пажылыя мужыкі. Яны зрабілі гэта самі, па сваёй волі. Відаць, смерць была для іх збаўеннем ад пакутнага жыцця. Язэпка чуў ад старога пастуха, што дзяўчат давёў да вісельні пан, а мужыкі шукалі ратунку на вяроўцы ад цівуна Дракулы. Ні пан, ні яго цівун не могуць забараніць чалавеку шукаць ратунку на вяроўцы.

Аднак чорныя думкі пра самагубства Язэпку здаваліся вельмі ж страшнымі. Хацелася знайсці нейкі іншы выхад. А можа пан Ясінскі апамятаецца і забярэ яго назад? Можа зрабіў ён гэта таму, што п'яны дзікі хмель бушаваў у яго гарачай галаве ўсе апошнія дні. Бо хіба ж яму самому не патрэбны работнікі? Калі ж гэтага дзіва не здарыцца, Язэпка ўцячэ з чужога краю сам. Дзе будзе жыць і як, ён потым падумае, але паблізу роднага дома і ні стары, ні новы пан яго не знойдуць...

З такімі трывожнымі думкамі ішоў Язэпка за лесарубамі да таго часу, пакуль не адкрылася перад імі шырокая светлая паляна, усеяная спілаванымі хвоямі і елкамі. Частка дрэў была ачышчана ад сукоў, іншыя ляжалі з калматымі вяршалінамі. Усе паваленыя дрэвы, як заўважыў Язэпка, былі роўныя, тоўстыя ў камлі. Падлесак і дрэвы лісцёвых парод абыходзіла піла лесаруба. Але не ўсе яны ўцалелі. Пакалечанае галлё, паламаныя вяршаліны сведчылі, што нялёгка перанеслі яны гэтую навальніцу.

Рыгор спыніў сваю арцель ля краю паляны, побач з густою сцяною елак.

— З богам, браткі! — гукнуў ён зусім не сярдзітым голасам.

Лесарубы ў момант рассыпаліся ў розныя бакі. Язэпка застаўся адзін.

— А ты, хлопча, пойдзеш з сукамі ваяваць. — Рыгор махнуў рукой на паляну. — Спярша абсякай зверху. Потым будзем варочаць. Умееш гэта рабіць?

— Паспрабую...

Язэпку не даводзілася рабіць іменна такой работы,

але трымаць у руках сякеру ён умеў. З бацькам, бывала, і дровы сек, і платы гарадзіў.

— А ну пакажы, як будзеш спрабаваць? — запытаўся дзядзька Рыгор.

Язэпка падышоў да неацярэбленай елкі. Папляваў на рукі, мацней сціснуў сякеру, размахнуўся — і ніштаваты сук адскочыў з першага ўдару. Другім і трэцім лёгкімі ўзмахамі ён падчысціў сваю работу.

— Гожа,— пахваліў Рыгор. — Толькі глядзі, каб сук ссякаўся роўна па кары — не тарчаў і не тапіўся. Вось так.

Ён узяў у Язэпкі з рук сякеру і адсек сам некалькі сукоў.

— Калоды ў Нямеччыну пойдуць,— сказаў Рыгор. — А немцы на ўсё вочы лупяць. Барані бог, забракуюць ці цану збавяць — пан тады са свету мяне зжыве. Ды і ўсім нам не паздаровіцца. Не ведаю, як другія, а наш пан ломанага гроша не перапусціць, за капейку гатоў павесіцца.

Рыгор пайшоў назад. Потым спыніўся і запытаўся:

— Ты што — сірата?

— Не,— адказаў Язэпка.

— Бацька ёсць, маці?

— Ёсць.

— Гм... — задумаўся Рыгор. — Як жа пан прадаў цябе аднаго?

— Ён не прадаў,— растлумачыў Язэпка,— а прагуляў у карты.

— Ну, гэта ўсё роўна... Чуў я, цяпер адных дзяцей пасны не маюць права прадаваць. А выходзіць, ты — не сірата!

Хрыпла пакашліваючы, Рыгор пайшоў. Тое, што сказаў ён, было для Язэпкі навіною. Можа, пан Ясінскі не ведае пра новае права? Можа б, ён згадзіўся прадаць новаму пану і ўсю іхнюю сям'ю? Бацькам жа ўсё роўна, дзе жыць, на якога пана рабіць. Абы жыць разам. Як жа пераказаць пра гэта пану Ясінскаму? А можа пан Ясінскі не лічыць Язэпку дзіцем? Дык гэта ж проста непаразуменне. Усе ж, з кім ён жыве і хто яго добра ведае, кажуць, што ён яшчэ — дзіця горкае...

Навіна, пачутая Язэпкам ад дзядзькі Рыгора, цяпер не выходзіла ў яго з галавы. З новаю сілаю пацягнула яго дадому. Каб ведаў дарогу, здаецца, не паглядзеў бы ні на што.

Язэпку цяжка было ссякаць сукі, ды яшчэ роўна. Думкі яго луналі далёка-далёка...

У поўдзень Рыгор паклікаў яго:

— Хадзі, хлопча, да купы. Прузына вунь абед валачэ!..

Язэпка закінуў сякеру на плячо і крокам спрацаванага чалавека рушыў да свежай вырубкі, адкуль чуліся ажыўленыя галасы лесарубаў:

— Хутчэй, цётка Прузына! А то жываты да спіны прыраслі...

Дзень быў цёплы, сонечны. Лесарубы сабраліся пад густым шатром высокай елкі.

Загарэлая, як асмалак, чарнамазая жанчына прынесла бохан хлеба і бляшанае вядро капусты, запраўленай старым здорам з цыбуляю.

— Дзядзька Рыгор, міскі, лыжкі давай — падганялі маладзейшыя свайго старшога.

Дзядзька Рыгор, як потым даведаўся Язэпка, быў такім жа прыгонным дваровым чалавекам, як і ўсе астатнія лесарубы. Ён рабіў разам з усімі і нароўні з усімі. Цівун проста паставіў яго старшым у арцелі і за ўсе непаладкі цяпер сысквае з яго.

Міскі і лыжкі былі схаваны тут жа на лесавырубцы. Як і ўсім начыннем, імі загадваў дзядзька Рыгор. Ён адышоўся крыху, падняў свежыя лапкі пад маладою елкаю і дастаў адтуль дзве вялікія гліняныя міскі і кучу драўляных лыжак. Лыжкі ён раздаў кожнаму ў рукі, а міскі паставіў на траву недалёка адна ад другой. Прузына наліла апалонікам поўныя міскі капусты. Рыгор парэзаў хлеб на роўныя лусты. Кожны браў сваю лусту і садзіўся да аднае з місак.

Язэпка выгаладаўся на новай рабоце, і капуста здалася яму вельмі смачнай. У старога пана яго не песцілі такімі абедамі. На свіной кухні варылі толькі бульбу з лушпінамі ды буракі. Сяды-тады траплялася бручка. Хлеба рэдка калі давалі, асабліва зімою. Улетку, калі ганяў у поле, Аўдоля пякла праснакі з вобмешкі і клала іх дзеду Міхасю ў торбу. «Дзень летні — год,— казала яна,— на адных картоплях не выцягнеш...»

Мужчыны елі з такім смакам, што толькі лыжкі мільгалі. Міскі хутка апаражніліся. Прузына разліла рэшту, забрала вядро і пайшла ў двор.

Знішчыўшы ў момант дабаўку, лесарубы пачалі закур-

ваць. Некаторыя пацягнуліся да бачуркі з вадою. Рыгор закурыў люльку і прылёг на локаць.

— Хто пасля абеду не аддыша, таго бог за свінню запіша,— усміхнуўся ён, і твар яго, як здалося Язэпку, цяпер быў зусім не папурым.

— Чулі? — загаварыў неўзабаве Рыгор сур'ёзна.— Хлапец гэты,— ён паказаў на Язэпку,— не сірата, а пан прадаў яго без бацькоў...

Русабароды Панцялей уздыхнуў, паматаўшы галавою, астатнія паглядзелі на Язэпку са спачуваннем.

— Відаць, пан твой без сэрца,— сказаў дзядзька Рыгор.

— А другія з сэрцам? — затрос моцнымі валасатымі рукамі Панцялей.— Наш хіба не прадаў бы?

— Наш не прадасць! Што ты? — умяшаўся ў гаворку малады лесаруб з рассечанаю шчакою.— Яму самому работнікі патрэбны.

— Наш шырока разняўся,— згадзіўся Панцялей.— Гэта праўда. Усё мала. Кажуць, новы маёнтак купляе.

— Значыць, мае за што купляць,— сказаў Рыгор.— Іншыя, бачыш, бяднеюць, людзей прадаюць. А наш скупы, грошы запасіць. Лес вунь не прадаў купцам, а прадасць немцу гатовыя бярвенні ў плытах...

— Мы спілуем, звозім на рум,— падхапіў хлапец з рассечанаю шчакою,— вясною сплавім у Нямеччыну, проста нямецкаму купцу ў рукі. А за гэта пан грабяне ў два, у тры разы даражэй, чым прадаў бы на корані.

— Ну, вядома,— кіўнуў галавою Панцялей.— Купцу прыйшлося б наймаць лесарубаў, вазакоў, плытнікаў... А ў пана работнікі дарэмныя...

Язэпка з цікавасцю прыслухоўваўся да гаворкі лесарубаў. Тое, што бываюць бедныя паны, ён яшчэ не чуў. Гэта нешта зусім дзіўнае. Можа тады і пан Ясінскі збяднеў, як кажа дзядзька Рыгор, калі прадае сваіх людзей чужым панам? Але ж гэтага быць не можа! У пана зямлі — не абыдзеш і не аб'едзеш за дзень. Лесу колькі! Хіба ж можа ён збяднець? Бедныя — гэта мужыкі, прыгонныя людзі. Язэпка ведае, чаму яны бедныя. Яны працуюць дзень і ноч, а жывуць без хлеба, бо зямлі ў іх мала і з яе ледзь насенне збіраюць. Бедныя ходзяць босыя або ў лапцях, на плячах у іх зрэбныя кашулі. Чаму такое лядашчае ў іх адзенне? Язэпка таксама ведае. У іх няма грошай купіць боты або крамную кашулю. За тое, што яны робяць

на пана ўсё сваё жыццё, пан ім не плаціць ні гроша. А тыя, што жывуць у панскім маёнтку? Яны яшчэ бяднейшыя. У іх няма ні сваёй хаціны, ні жывёліны. Жывуць з таго, што пан выдае ім як міласціну.

Мужчыны тым часам вялі сваю размову.

— Кажуць,— гаварыў Панцялей,— цар даўно ўжо даў мужыкам волю.

— А дзе яна? — іранічна пыталіся другія. — Чорт на хорму ўхапіў?

— Паны хаваюць...

— Не хочуць выпусціць з рук дармовых работнікаў,— разважаў услых Рыгор. — Што пан зробіць без нас? Ён жа ніколі ў руках сякеры не трымаў, ніколі за саху не браўся.

— А хто яму даў волю над намі? — дапытваўся маладзейшы лесаруб са шрамам на правай шчацэ. — Мы такія ж людзі, як і паны.

— Ты ў папа спытайся — ён раскажа, хто даў пану волю над мужыком,— адказаў Рыгор.

— У папа адна казка: усё ад бога.

— А ад каго ж?

— Выходзіць... — хлапец збянтэжана паглядзеў на Рыгора і Панцялея з яго крыжыкам на валасатых грудзях. — Выходзіць,— зноў паўтарыў ён,— бог спрыяе толькі панам?..

Панцялей крыва глянуў на хлапца.

— Ты бога не чапай! Не нашага гэта розуму справа...

Хлапец змоўк задумаўшыся. Вырвалася ў яго гэтая думка пра несправядлівасць бога выпадкова. Але цяпер расстацца з ёю было нялёгка. Чым жа сапраўды дагадзілі паны богу? Хіба яны больш і лепш моляцца, чым мужыкі? Наўрад! Чым цяжэй чалавеку жывецца, тым часцей ён успамінае бога, скардзіцца яму і моліцца. Чаму ж тады бог не чуе скаргаў і малітваў бедных людзей? А можа ён не хоча чуць?

Язэпка ўспомніў дзедавы казкі пра паноў. Яму хацелася расказаць іх лесарубам, бо, відаць, яны не чулі такіх казак, калі не ведаюць, адкуль ліха на свеце. Але ніколі яму яшчэ не здаралася расказваць казкі сталым мужчынам. Ці здолее ён гэта зрабіць?

Тым часам Рыгор раптам усхапіўся на ногі.

— Засядзеліся, хлопчыкі,— спалохана прагаварыў

ён, паглядаючы ў гушчар. Адтуль паказаўся цівун Бараноўскі.

Убачыўшы лесарубаў на адпачынку, цівун аслупянеў. Ён нават спыніўся, каб лепш разгледзець іх. Вусы яго заварушыліся самі, рука мацней сціснула бізун.

— Ляжаць паслаў я вас, лайдакі, ці работу рабіць? — здалёк загрымеў ён на ўсю вырубку.— Думаеце, калі не стаю над вашым каркам з бізуном, то і не бачу, што робіцца!

— Мы толькі паабедалі, пан цівун,— апраўдваўся Рыгор, вінавата апусціўшы галаву.

— Брэшаш! Абед вам даўно прынеслі!

— Мы адробім...

— Ты, хамула, здаецца, забыўся, чый хлеб ясі! Даўно па табе бізун не хадзіў!

Цівун падскочыў бліжэй да Рыгора.

Рыгор увагнуў плечы, твар яго зрабіўся панурым, скамянелым.

Панцялей заслапіў Рыгора.

— Пан цівун,— сказаў ён,— глянь, колькі лесу звалілі мы. Дык ці ж грэх часінку адпачыць?

Цівун плюнуў сабе пад ногі, збіраючы ў пасму доўгі бізун.

— Заўтра норму дам. Паглядзім, як вы разляжацеся ў мяне. Прэч з вачэй!

Лесарубы кінуліся да пілаў. Язэпка схапіў сякеру і пабег рабіць сваю работу.

## ЦУГЛІ ПАНА ЖАРДЗЕЦКАГА

Нядзеля — святочны дзень. Рабіць у нядзелю — грэх. Гэта прызнаваў нават пан Жардзецкі, хоць і з вялікаю пакутаю для сябе. Падумаць толькі: добрая сотня яго чалядзінаў і чалядзінак гуляе, можна сказаць, кожны сёмы дзень! Замест таго каб пілаваць лес, рэзаць дровы, касіць, жаць, яны слухаюць у царкве паповы казанні і дзяковы песні. Гэта ж чыстая згуба для гаспадаркі!

Але няма правілаў без выключэнняў. У нядзелю, скажам, няможна рэзаць дровы. Бог убачыць і пакарае цябе за гэта: рукі пакурчыць, а то і зусім адсушыць. Ці яшчэ прыдумае якую кару. «Бог,— кажуць папы,— ён «всеви-

дящий» і «вездесущий». Дык вось. Рэзаць няможна, а паліць у печы тымі ж дровамі — можна. Рэзаць нажом палку няможна, а хлеб — можна, чысціць бульбу — таксама. Касіць і жаць няможна, а зграбаць сухое сена, ставіць у копы, сушыць і вазіць на ток снапы — можна.

Пан Жардзецкі добра вывучыў гэтыя выключэнні з агульных правілаў і не прапускаў выпадку, каб не выкарыстаць іх для сваёй гаспадаркі. Асабліва лёгка было падбіраць незабароненую работу ўлетку. Папу не канешне ўвесь дзень трымаць людзей пры сабе. Поп з гэтым згадзіўся і маліўся цяпер карацей. А з тае прычыны, што летнія дні доўгія, людзі маглі і намаліцца, і нарабіцца.

Язэпку таксама знаходзілася работа ў святочныя дні. Ён паліваў грады, падмяняў старэйшых пастухоў, памагаў свінаркам і кухаркам. У царкву ён не хадзіў. «Малы яшчэ,— сказаў пра яго цівун.— Калі ён паспеў награшыць?» Сам Язэпка таксама не вельмі рваўся ў царкву. Ён ведаў збольшага пацеры «Отча наш» і шаптаў іх сам рабе, б'ючы сябе ў грудзі, як некалі бацька, кожную раніцу. Пацеры былі не надта зразумелыя, і таму ў яго галаве заўсёды круціўся іншы «Отча наш». Так і цягнула за язык замест «Отча наш, іжа ясі на небясі» гаварыць: «Отча наш, бацька наш, курэй краў, пад печ хаваў. Дзеці сказалі, бацьку звязалі...» Каб цівун ведаў пра такія бязбожныя Язэпкавы думкі, ён не казаў бы, што Язэпка яшчэ не награшыў, бо грэх — гэта не толькі «злое дзеянне, а і злыя помыслы». Займей такі грэх стары чалавек, яму прыйшлося б не адну свечку спаліць у царкве і не адзін паклон адбіць, каб замаліць свой грэх.

У пачатку чэрвеня паспелі ягады — суніцы і агародныя трускалкі. Пан Жардзецкі ведаў толк у ягадах. Ён не толькі варыў і спіртаваў іх у запас на цэлы год, а і вазамі прадаваў на рынках. Збіраць ягады можна ў любы дзень — нават у самае вялікае свята. І пан Жардзецкі загадваў пасылаць людзей збіраць ягады толькі ў святочныя дні.

Але быў яшчэ адзін клопат у пана Жардзецкага: зборшчыкі самі елі ягады... Тыя ягады, якія выраслі на панскім агародзе або ў панскім лесе! Паспрабуй дагледзь іх. Ніводзін цівун ці гайдук тут не ўсочыць за людзьмі. Тады пан загадаў, каб людзі спявалі, збіраючы ягады. Паспрабавалі, і — нічога не выйшла: адна баба спявае, стараецца на ўвесь голас, а другая тым часам есць трускалкі. Потым — мяняюцца ролямі...

Доўга ламаў скупы пан Жардзецкі галаву і прыдумаў-такі лепшы спосаб...

Язэпка выйшаў збіраць ягады ўпершыню. Яго і яшчэ чалавек дзесяць хлопчыкаў і дзяўчынак паслалі ў панскі агарод. Іншыя, старэйшыя,— пайшлі ў лес.

Павёў дзяцей на работу сам цівун. Дзеці ішлі сумныя, апусціўшы галовы. «Вось дзівакі,— думаў Язэпка.— Там жа ягад можна ўволю наесціся».

Кірпаты хлапчук Казік, які ішоў побач з Язэпкам, сказаў з жалем:

— Мусіць, цівун будзе цугляць нас...

Язэпка не разумеў яго слоў.

— Як гэта цугляць? — сказаў ён.— Мы ж не коні...

Казік здзівіўся:

— Ты што, у ягады не хадзіў?

— Чаму не хадзіў? Хадзіў.

— Адзін?

— І адзін, і з хлопцамі.

— Куды?

— У лес.

— А-а...— заакаў Казік.— Ты ў нас не жыў, дык і не ведаеш.

Ён шмаргануў кірпатым носам і змоўк.

Цівун адчыніў фортку і пусціў дзяцей у агарод. Гэта быў не агарод, а цэлы палетак капусты, буракоў, морквы, цыбулі, ягад-трускалак... Ягадныя кусты зелянелі і чырванелі асобна каля саламянага шалаша. У шалашы цяпер дняваў і начаваў вартаўнік дзед Піліп. Убачыўшы дзяцей з цівуном, ён выбег насустрач.

— Добрага здаровейка, пан цівун,— пакланіўся высокі, яшчэ дзябёлы дзед Піліп.

Замест адказу цівун загадаў:

— Вынось, стары, кашы і цуглі!

— Зараз, панок...

Калі дзед вынес з шалаша цэлую кучу кашоў, цівун сказаў да дзяцей:

— Бярыце па кашу!

Услед за кашамі дзед вынес прыгаршчы сагнутых дужкаю драўляных палачак з вераўчанымі завязкамі на канцах. Цівун забраў палачкі ў дзеда.

— Збіраць толькі спелыя ягады,— сказаў ён дзецям.— Поўныя кашы здаваць ахмістрыні. Зразумелі?

— Зразумелі,— адказаў за ўсіх Казік.

— А цяпер падыходзьце да мяне па аднаму.

— Ідзі,— падштурхнуў Казік Язэпку,— калі хочаш ведаць, што гэта за цуглі...

Язэпка падышоў да цівуна. Той узяў у дзеда адну палачку-дужку, палажыў Язэпку на губы і сказаў:

— Прыцісквай зубамі.

Язэпка прыціснуў. Цівун пацягнуў за завязкі. Палачка ўелася глыбей у рот. Тады цівун спрытна звязаў канцы вяровачак на патыліцы над вушамі. Язэпка адчуў, як нядобра стала ў роце. Захацелася плюнуць, але палачка перашкаджала.

Цівун крануў яго за плячо:

— Ідзі! Калі развяжаш сам, пашлю на стайню да гайдукоў! Свой вузел я ведаю. Мяне не ашукаеш...

Язэпка апусціў галаву і сумны падаўся да ягадніку. Неўзабаве каля яго апынуліся і ўсе астатнія — з такімі ж цуглямі, як і ў Язэпкі.

Казік зрабіў Язэпку смешную міну і паспрабаваў заржаць. Але ў яго атрымаўся нейкі няўдалы піск. Тады ён апусціўся на рукі і ўбрыкнуў Язэпку нагамі.

Жарты Казікавы ўбачыў цівун. Ён яшчэ стаяў каля шалаша і аб нечым гаварыў з дзедам Піліпам.

— Ты што, бізуна захацеў? — крыкнуў цівун.

Казік паматаў галавою: «Не, не хачу!» І пачаў ірваць трускалкі.

Цівун пайшоў за вароты.

Ах, якія гэта былі ягады! Такіх трускалак Язэпка не бачыў і ў старым маёнтку. Буйныя, спелыя, цёмна-чырвоныя... Вось бы паспытаць! Язэпка азірнуўся, каб ніхто не бачыў, і паспрабаваў засунуць у рот адну ягаду. Ды дзе там! Цуглі не пускаюць. Ён сарваў меншую, пакруціўся і сяк-так запхнуў яе. Ягадка апынулася ў роце. Паспрабаваў пажаваць — зноў цуглі не дазваляюць. Праглынуць таксама нельга. І выплюнуць нельга...

Язэпка напалохаўся. Развязаць цівуноў вузел на патыліцы? Страшна.

Доўга мучыўся Язэпка, пакуль сяк-так не праглынуў ягадку. Добра яшчэ, што трускалка была пераспелая, мяккая.

Язэпка ўжо не думаў пра ягады. Не, не салодкія панскія ягады. Няхай іх есць чорт разам з панам!

Цяпер Язэпка добра ведаў, што гэта за штука — цуглі пана Жардзецкага.

БУНТ

Міналі дні за днямі, а Язэпку не пакідала думка аб доме.

Ні Рыгор, ні Панцялей не ведалі, дзе маёнтак пана Ясінскага. Распытваць жа ў панскіх лёкаяў, якія прывезлі яго сюды, ён не адважваўся. Яны маглі здагадацца аб Язэпкавым намеры. Уцякаць трэба толькі цішком, так, каб ніхто пра гэта не ведаў.

Праўда, у Язэпкі была адна прымета: сонца! Ды прымета ненадзейная. Хто ведае, куды выйдзеш, калі пойдзеш у вялікую дарогу па сонцу? Язэпка добра ведаў, дзе ў іхняй старане летам узыходзіць сонца і дзе яно бывае ў поўдзень, калі цень змяншаецца на адзін шаг. Ходзячы з лесарубамі на работу, ён увесь час прыглядаўся да сонца: дзе яно падымаецца, як ідзе па небе, і дзе заходзіць. Яму не раз здавалася, што, калі б ісці проста на ўсход сонца, ён трапіў бы ў стары маёнтак. Вось толькі ці ўдасца прабрацца туды нацянькі, без дарогі? Рэчкі яго не палохалі: ён крыху плаваў. А лясы, балоты? Тут без дарог ды сцежак не прабярэшся.

К канцу лета дваровыя людзі ўсё часцей гаварылі пра волю. Папаўзлі чуткі, што ў другіх маёнтках людзі пераcталі слухаць паноў, не выходзяць на паншчыну. Цар быццам напісаў мужыкам: «Слухайце мяне, а не паноў! Паны схавалі маю царскую грамату і робяць што хочуць».

«Вось каб знайсці тую царскую грамату!» — думаў Язэпка. Тады б не трэба было ўцякаць яму. Тады выйшаў бы сярод белага дня і пайшоў бы, распытваючыся ў людзей дарогу на ўсход — у маёнтак пана Ясінскага.

Знайсці царскую грамату пра волю марыў не адзін Язэпка. Аб ёй марылі ўсе прыгонныя людзі. І не толькі марылі, а і моцна задумваліся, як жыць далей.

Аднойчы Язэпка пачуў спрэчку паміж Рыгорам і Панцялеем.

— Адной волі мужыку мала,— казаў Рыгор.— Што ён будзе рабіць з сваёй волі?

— Будзе жыць як чалавек,— пярэчыў Панцялей.— Дай мне волю! Больш нічога я не хачу.

— А карміць хто цябе будзе?

— Сам буду карміцца.

— З чаго?

— Пайду на вольную работу.

— Да таго ж пана Жардзецкага!

— А можа і не да яго...

— Думаеш, на фабрыках не гаруюць людзі? — Рыгор пачынаў гарачыцца.— Ну, добра. У цябе ні кала ні двара. Лахі пад пахі ды гайда шукаць вольнай работы. А ў каго свая хата, сям'я, жывёліна? Хто жыве на панскай зямлі, за якую і сам ён і яго дзяды і прадзеды адбывалі паншчыну? Куды яму дзецца? Што рабіць? Пан дае яму волю і кажа: «Воля твая, а зямля мая... Забірай манаткі ды — фур за браму!»

Панцялей не ведаў, што адказаць на гэта.

— Мужыку патрэбна зямля гэтак жа, як і воля,— тлумачыў Рыгор.— Адна воля хлебам карміць не будзе.

— Пан сам зямлі не ўробіць,— перапыняў яго Панцялей.— Ён прадасць яе або здасць у арэнду.

— Праўда! — згадзіўся Рыгор.— Пан не ўробіць тысячу ці дзве тысячы дзесяцін. Ён, вядома, можа прадаць зямлю, як ты кажаш. А хто яе купіць?

— Мужыкі.

— За што?

Тут Панцялей зноў неспакойна зачмыхаў, цярэбячы крыжык на валасатых грудзях. А Рыгор разважаў:

— Добра. Можна ўзяць зямлю ў арэнду. Дык гэта тая ж паншчына! Цяпер мужык адрабляе пану за надзел зямлі пяць ці шэсць дзён на тыдзень. Тады гэтыя самыя пяць ці шэсць дзён пойдуць на адработак за арэнду. Грошай жа ў мужыка няма. Плаціць пану за арандаваную зямлю яму няма чым...

Панцялей быццам пачынаў згаджацца з Рыгорам. Але справы зямельныя былі такія заблытаныя, што разабрацца ў іх не маглі яны і ўдваіх. І праўда: купіць зямлю мужык не можа, а дарэмна пан яе не аддасць. Дзе ж выхад?

Язэпка моцна задумаўся над спрэчкаю Рыгора з Панцялеем. Калі ён слухаў Панцялея, то згаджаўся з кожным яго словам. Язэпка таксама хоча толькі волі. Ён бы тады кінуў-рынуў свайго пана і пабег дадому. Ён жыў бы з бацькамі, са сваімі людзьмі — роднымі і знаёмымі. Як бы там жылося, Язэпка не думаў. Будзе ў іх зямля свая ці арандаваная — гэта менш яго турбуе. Але калі ён думаў, аб чым гаварыў дзядзька Рыгор, то здавалася, што яго праўда. І Панцялей, і Рыгор, і ўсе яго новыя сябры — людзі дваровыя. Іх ці іхніх дзядоў або прадзедаў пан забраў на работу ў маёнтак. Так як гэта зрабіў пан Ясінскі з ім,

Язэпкам. У іх няма нічога свайго. Яны — чалядзіны, панская прыслуга. Жыццё гэтых людзей не салодкае — Язэпка гэта ведае.

Панцялею патрэбна воля, каб пан Жардзецкі не здекаваўся з яго, не прадаваў, як жывёліну. Вольны Панцялей будзе рабіць тую ж работу, што і цяпер. Але ні пан, ні яго лёкаі не будуць мець над ім улады. Ён стане чалавекам, стане самім сабою: захоча — будзе рабіць у пана Жардзецкага, не захоча — пашукае другога, лепшага.

А ці ж зможа так жыць Язэпкаў бацька? У бацькі — сям'я, хата, конь, карова. Ад зямлі адарвацца яму нельга.

Звычайна маўклівая цётка Прузына аднаго разу сама загаварыла да мужыкоў, як толькі прынесла абед:

— Каб вы бачылі, мужчынкі, што ў двары робіцца!

— А што? — пацікавіліся лесарубы.

— Ідуць і едуць людзі адусюль...

— Чаго?

— Кажуць, з панам пра волю гаварыць хочуць.

Мужчыны захваляваліся.

— А мы што — волі не жадаем? — пачуліся галасы.— Хадзем у двор!

— А цівун што скажа? — занепакоіўся Рыгор.

— Яму сёння не да нас,— скупа ўсміхнулася Прузына.— Ён нават бізун свой недзе схаваў...

Такая нечаканая вестка пра цівуна ўзрадавала мужчын. Цівун ды без бізуна? Ці не лжэ цётка Прузына? Але Прузына забажылася, што гэта шчырая праўда.

— Відаць, баіцца...— зрабілі вывад мужыкі.— Супроць грамады з бізуном не палезеш!

Паабедаўшы наспех, мужчыны кінуліся ў двор.

Прузына казала праўду. Вакол двара лесарубы ўбачылі дзесяткі вазоў. Як на добрым кірмашы.

— Што яны, не маглі пехатою прыйсці? — дзівіўся дзядзька Рыгор, падыходзячы да маёнтка.

— Відаць, заазерскія,— сказаў Панцялей.— Ім не блізка.

Людзі сабраліся ла дзядзінцы. Запоўнілі яго так, што і прайсці нельга. Былі тут мужчыны і жанчыны, старыя і малыя.

— Значыць, прыехалі з сем'ямі,— здагадваўся Рыгор.— Сабраліся на важны сход. Чаму ж гэта нашы не ведалі?

Лесарубы ўліліся ў натоўп.

Каб не загубіцца сярод чужых, Язэпка вырашыў трымацца дзядзькі Рыгора.

Грамада шумела, як патрывожаны вулей. Свежаму чалавеку цяжка было разабрацца, што гэта за шум, чаго хочуць гэтыя людзі — старыя і малыя.

Рыгор падышоў да пажылога мужыка з рэдкаю рыжаю барадою. Апрануты ён быў, як і многія іншыя,— у шарачковых штанах і ў доўгай палатнянай сарочцы, падпяразанай абрыўкам вяроўкі.

— Здароў, Мікіта! — Рыгор падаў руку рыжабародаму.

— Здароў! — адказаў мужык.

— Што тут за шум?

— А ты не ведаеш?

— Не. Я ў лесе раблю.

— Прыехалі вось да пана.

— У госці? — усміхнуўся Рыгор.

— Але.

— То дарэмна. Пан скупы. Гэтулькі гасцей не прыме.

— Паглядзім...

— Чуў я, хочаце з панам пра волю гаварыць? — сур'ёзна запытаўся Рыгор у Мікіты.

— Але, брат, хочам гаварыць. Ды пан, відаць, не хоча. Чакаем яго ўсю раніцу. А ён не выходзіць.

— А чаго тут — старыя і малыя?

— Усім, брат, воля трэба...— адказаў Мікіта.— Ну, усе і прыйшлі волі ў пана прасіць.

Рыгор пацмокаў губамі.

— У нашага пана зімою снегу не выпрасіш, не тое што волі...

— Гэта калі аднаму прасіць...

— Думаеш — гурт паможа?

— Хто яго ведае...— паціснуў плячыма Мікіта.— Мы гэтак надумаліся. Ды можа і не так самі, як добрыя людзі падказалі. Карабейнік адзін хадзіў надоечы па сёлах і ўсім гаварыў пра волю. Цар, кажа, даўно напісаў паперу, каб паны далі нам волю. Але паны не хочуць прызнаваць царскай паперы. Трэба ісці да іх грамадою і дамагацца волі.

— Ну, пра гэта ўсюды гавораць,— сказаў Рыгор.— Такія казкі і я чуў. Але ці праўдзівыя яны?

— Калі гавораць, то, мусіць, не дарэмна. Дыму без агню не бывае. Той жа карабейнік казаў, што за Смаленскам, адкуль ён сам, мужыкі даўно ўжо бунтуюцца. Нека-

торыя дык проста кідаюць сваіх паноў і ўцякаюць за Дон, да казакоў. А ты ж чуў, што па Жардзецкі вырабляе?

— А што?

— Зганяе мужыкоў з лепшых земляў на горшыя. Ды і горшай дае ўдвая менш, чым раней было.

— Чаго б гэта? — дзівіўся Рыгор.

— Кхе...— кашлянуў Мікіта.— Ты, брат, тут як у мядзведжай бярлозе жывеш.

— А што мне,— горка ўсміхнуўся Рыгор.— Зямлі няма, сям'і — адна жонка. Дзеці, брат, мае не затрымаліся доўга на гэтай грэшнай зямлі, бог забраў іх да сябе. Што рабіць — мне загадае цівун... Вось як я жыву...

— То табе, можа, і воля не патрэбна?

Рыгор затрос чорнаю барадою:

— Ты што, брат, жартуеш?

У гэты час натоўп зашумеў мацней.

— Бачыш! — паказаў Мікіта рукою ў бок саду, дзе стаяў панскі дом.

Рыгор і Язэпка глянулі туды. Да панскага дома спяшаўся станавы прыстаў са стражнікамі.

— Вось чаму пан не выходзіў да людзей,— здагадваўся Мікіта.— Станавога чакаў.

Натоўп падаўся да панскага дома. У шуме нарастала трывога, чуваць былі выкрыкі:

— Станавы нам не патрэбен! Хочам з панам гаварыць!

— Мы не разбойнікі! Стражнікам тут няма чаго рабіць!

Мікіта пакінуў Рыгора і падаўся наперад.

Мураваны панскі дом стаяў у садзе, за моцным парканам. Прасторны балкон другога паверха навісаў над ганкам. Трымаўся ён на тоўстых слупах, што стаялі абапал ганка.

Натоўп згрудзіўся каля балкона. Чуліся галасы:

— Пан Жардзецкі, выйдзі да людзей!

— Не бойся нас. Мы гаварыць прыйшлі!

Язэпка ўслед за дзядзькам Рыгорам пратышчыўся бліжэй да паркана. Сэрца яго білася часцей, чым звычайна. Вось-вось, думаў ён, пан Жардзецкі выйдзе да людзей і прачытае царскую паперу. Язэпка спрабуе нават уявіць сабе, што напісана ў той паперы: «Я, вялікі рускі цар Аляксандр II, даю мужыкам волю. З гэтага дня паны не маюць права прадаваць мужыкоў, ганяць іх на паншчыну, сыскваць даніну... Вольныя мужыкі могуць жыць, дзе хо-

чуць. Паны, іх цівуны, гайдукі і лёкаі не маюць права мужыка і пальцам крануць, не тое што біць бізунамі, лупцаваць розгамі...» Вось так, мусіць, напісаў цар у сваёй паперы. Як толькі пан Жардзецкі прачытае царскую паперу пра волю, Язэпка не застанецца тут і аднаго дня.

«Але чаго ж гэта прыстаў са стражнікамі прыпёрся?» — думае Язэпка. А можа ён прыехаў, каб прымусіць скупога пана Жардзецкага даць людзям волю? Прыстаў — улада, яго цар паставіў, каб за парадкам сачыў, царскія законы абараняў. Відаць, ён выганіць пана да людзей і загадае яму прачытаць царскую паперу.

Толькі падумаў так Язэпка, як на шырокі балкон і праўда выйшлі прыстаў і пан Жардзецкі — высокі, добра адкормлены мужчына гадоў за сорак, з гладка паголенаю барадою і нізка апушчанымі бакенбардамі, у беласнежнай кашулі і белым, шыракаполым капелюшы. Прыстаў быў такі ж тоўсты, як пан, але траха не напалавіну ніжэйшы. На ім быў светлы кіцель з чырвонымі шнурамі і залацістымі пагонамі. Збоку на шырокай папрузе вісела шабля ў ножнах.

Людзі замерлі. Толькі дзе-нідзе чуўся старэчы кашаль.

Пан Жардзецкі падняў руку ўгору і крыкнуў моцным, густым басам:

— Слухайце мяне!

Але голас яго тут жа сарваўся. Ён кашлянуў раз-другі, перачакаў з хвіліну, круцячы сярдзітымі вачыма, і зноў крыкнуў:

— Вас падманулі злыя людзі. Ніякага царскага ўказа пра волю не было і няма! Ідзіце дамоў! З богам!

Грамада глуха ахнула. Потым празвінеў трывожны голас:

— Не можа быць! Пан маніць...

Пан Жардзецкі закалаціўся, пачырванеў, як вараны рак.

— Хто там балбоча! А ну, пакажыся!

Па голасу Язэпка здагадаўся, што сказаў гэта знаёмы дзядзькі Рыгора — Мікіта. І ён утаропіўся цяпер на яго: хаця б не паказаўся пану гэты смелы дзядзька Мікіта!

Мікіта і сапраўды не збіраўся вытыркацца наперад. Пан пачакаў крыху і закрычаў, паказваючы на прыстава:

— Не верыце мне — паслухайце, што скажа вам пан прыстаў.

Прыстаў, як па камандзе, ірвануўся наперад, абапёрся

на дубовую парэнчу балкона. Зняў шапку, выцер спацелы, блішчасты пад сонцам лоб.

— Мужыкі! — гукнуў ён, прыўзнімаючыся на дыбачках.— Пан праўду кажа. Разыдзіся. Бунту я не дапушчу!

Гэта была ўся яго прамова.

— А як жа з воляю? — пачуліся галасы.— Дзе царская воля?

— Цар думае пра вас,— дадаў прыстаў да ранейшай сваёй прамовы.— Чакайце. А бунтаваць — ні, ні! Усіх у астрог заганю!

Пан Жардзецкі дапоўніў прыстава:

— Але ж цар-бацюхна не забывае і сваіх дваран. Не можам жа мы, дваране, ні з таго ні з сяго аддаць тое, што належыць нам па закону.

Пан Жардзецкі зрабіў паўзу, пакруціў галавою на тоўстай шыі і паказаў пальцам на пажылога мужыка, што стаяў бліжэй да паркана:

— Вось ты аддаў бы каму так сабе свайго каня ці карову? Не? А чаму я павінен гэта рабіць?

— Я не конь,— адказаў мужык, на якога ткнуў пан пальцам.— Я — чалавек.

— Чалавек то чалавек,— згадзіўся пан.— Але чый?

— Божы!

— Гм...— збянтэжыўся пан.— Я — таксама божы... Усе мы пад госпадам-богам ходзім. А калі мы божыя дзеці, то павінны трымацца божых законаў. Бог сам пусціў на свет багатых і бедных. Сыноў Хама не я выдумаў! Урэшце, я не супраць даць вам волю...

Натоўп ажывіўся. Галасы цяпер чуліся з розных бакоў:

— Мы ж толькі гэтага і просім у пана...

— Згалелі мы да рэшты ад прыгону...

— Без волі нам няма жыцця...

Пан перачакаў крыху, прыслухоўваючыся, якое ўражанне зрабілі на людзей яго спешнія словы, і зноў загаварыў:

— Я не старамодны памешчык. Я не чапляюся за прыгон, як п'яны за плот. Я магу наняць сабе работнікаў. Частку зямлі магу прадаць або здаць у арэнду. Але хто мне заплаціць за вас саміх?

Слухачы не зразумелі панскага запытання. Ці ж яны — прадажныя?

— Якую пан хоча плату ад нас? — моцна, каб усе чулі, выгукнуў Мікіта.

Пан Жардзецкі развёў рукамі, быццам дзівячыся такому недарэчнаму пытанню.

— Законную,— адказаў ён.— Памяркуйце самі. Кожны з вас — мая ўласнасць. А кожная ўласнасць мае цану. За кожнага з вас я магу выручыць пэўную суму. За работага мужыка, скажам, сама мала рублёў шэсцьдзесят серабром, за бабу — пяцьдзесят, за падлетка — трыццаць — сорак... Цяпер палічыце, які я буду мець прыбытак. А вы ж мне не заплаціце такія грошы за свае вызваленыя душы?

Пан зрабіў перадых, зларадна ўсміхаючыся. Яму здавалася, што ён знайшоў найлепшы козыр, каб на ўсё жыццё адбіць ахвоту ў сваіх прыгонных дамагацца волі.

— Ну, дык як? — здзекліва запытаўся пан.— Па руках, ці што? Згаджаюся пры сведках. Пан прыстаў, чуеш? Барыш стаўлю я...

Прыстаў казырнуў:

— Так точна! Дзешавей прадаваць іх няма рахубы!

Язэпка ўбачыў, як дзядзька Рыгор рэзкім узмахам рукі сарваў з сябе шапку.

— Людзі! — закрычаў ён не сваім голасам.— Людзі! Дайце мне сказаць!

— Кажы! — гукнулі дзесяткі галасоў.

— Пан хоча, каб я сам купіў сябе. Вельмі дзякую пану за такую ласку. Але дзе мне ўзяць гэтыя шэсцьдзесят рублёў? Я пану служу сорак гадоў. Уся мая праца і мая сіла пайшлі на маёнтак. Я прашу перад усім народам, каб пан заплаціў мне за сорак гадоў працы шэсцьдзесят рублёў. Па паўтара рубля за год. Тады я гэтыя грошы ахвотна аддам пану за выкуп сваёй волі...

Мужчыны дружна падтрымалі Рыгора:

— Праўду, чалавеча, кажаш! За сорак гадоў ты зарабіў на сваю волю.

— А мы ўсе хіба не зарабілі? — выгукнуў Мікіта.— Няхай пан палічыць, колькі гадоў адпрацавалі на яго мужыкі! Пан думае, што мы робім за зямлю, на якой сядзім. Але за гэтую зямлю вылілі мора слёз і поту нашы дзяды і прадзеды. Яе акупілі ўжо сотні разоў...

— Цо, цо ты, галган, мувіш? — раптам закрычаў пан на сваёй мове.— Прэч, быдла! Сваёй законнай бацькаўшчыны я не дам нікому ні морга!

Прыстаў зразумеў, што настаў час умяшацца ў спрэч-

ку яго сіле. Рэзкім рыўком ён выхапіў шашку з ножнаў, узмахнуў над галавою:

— Разыдзіся!

Людзі, аднак, не разыходзіліся. Шум і гоман нарастаў з кожнай хвілінай. Светлыя мары аб волі пан Жардзецкі груба, бесчалавечна ўтаптаў у гразь. А гэтая тоўстая свіння — станавы прыстаў — не толькі падбрэхвае яму, а і зброяй пагражае.

— Разыдзіся! — зноў крыкнуў прыстаў, страшэнна чырванеючы ад натугі.— Лічу да трох.

Зрабіўшы паўзу, прыстаў пачаў:

— Раз!

— Два!

— Тры!

Людзі ўсё яшчэ не краналіся з месца.

— Гэй, паліцэйскія! Разагнаць сілаю! — загадаў прыстаў.

Траха не ў той жа момант з панскага дома выскачылі на дзядзінец паліцэйскія, стражнікі і гайдукі.

Людзі падаліся назад. Малыя заплакалі.

Паліцэйскія з выстаўленымі стрэльбамі націскалі на пярэдніх. Гайдукі размахвалі нагайкамі.

— Разыдзіся! Страляць будзем!

Маладыя хлопцы кінуліся шукаць дручкі для абароны. Старэйшыя закрычалі на іх:

— Не смей! Мы не разбойнікі! Мы прасіць прыйшлі!

Мікіта таксама супакойваў гарачых:

— Не лезь на ражон з голымі рукамі! У іх — стрэльбы!

Хлопцы нехаця падаліся да вазоў.

## РАСПРАВА

Пан Жардзецкі не на жарты напужаўся быў, калі раптам убачыў асаду свайго дома. Хто ведае, чым гэта магло скончыцца. Не першы ж год бунтуе прыгонная матухна-Русь! А калі папаўзлі скрозь чуткі пра волю, мужыцкія бунты нарасталі, як снежны вал.

Мікіта казаў праўду, што дыму без агню не бывае. Калі ўсюды гавораць аб волі, значыць, не дарэмна. Але ні Мікіта, ні хто іншы з тых, хто чакаў волі, не ведаў усяе праўды. Яны лёгка верылі чуткам, бо ім хацелася, каб так было. Яны верылі ў цара — зямнога бога, так, як верылі

ў бога нябеснага. Не можа ж бог быць несправядлівым да людзей, якія дзень і ноч думаюць аб ім, моляцца яму? Бог карае людзей, гэта ўсе ведалі. Але карае за правіннасць. Таго, хто мала моліцца яму, не трымаецца запаведзяў, ім устаноўленых. З гэтай прычыны заўсёды лёгка было вытлумачыць божую кару. Калі ў чалавека здыхае конь — гэта божая кара за нейкую пэўную правіннасць. Калі чалавек хварэе,— тут таксама не абышлося без правіннасці перад богам. Усё ад бога! Так гаварылі служкі божыя — папы і ксяндзы.

Бог зямны — цар — не насылаў на людзей няшчасцяў, як бог нябесны. Ён не мог наслаць мор, хваробу, смерць. У гэтым ён нават быў лепшы за бога нябеснага. Дык хіба ж мог такі добры зямны бог не клапаціцца аб бедных людзях? Асабліва калі ведаў, як цяжка яны пакутуюць.

Аб людскім горы цары часта проста не ведалі. Так думалі гаротныя людзі. Бо цар зямны не мае такога чарадзейнага вока, як цар нябесны. Бог нябесны ўсё бачыць з высокага неба. Схавайся хоць на тры аршыны ў зямлю ды з'еш у посны дзень скрылік сала,— бог усё роўна ўбачыць. Вочы ў яго зырчэйшыя, чым у ястраба. А цар зямны не мае такога каштоўнага дару бачыць далей, чым звычайны смяротны чалавек. Ён сядзіць у залачоным палацы і бачыць толькі сваіх міністраў ды генералаў.

Як цар даведаўся, што народу дрэнна жывецца, прыгонныя людзі не думалі. І ўрэшце гэта іх менш цікавіла. Яны ахвотна і лёгка паверылі, што цар нарэшце даведаўся пра іх горкі лёс і даў ім волю. Вось толькі бяда з панамі — не хочуць прызнаваць царскай паперы або ўказа, як называюць тую паперу пісьменныя людзі.

А ісціна была ў іншым. Не толькі цар Аляксандр II, а і яго бацька, і дзед, і прадзед добра ведалі аб горкай долі прыгоннага мужыка. Ды ніхто з іх і не думаў даць яму волю. Наадварот, яны рабілі ўсё, каб яшчэ мацней прывязаць мужыка да пана, закрыць для яго ўсе прадухі і ўсе сцежкі да волі. Рабілі яны гэта проста таму, што іначай не маглі рабіць: цары былі такімі ж панамі, як і любы іншы пан-прыгоннік. Цароў ставілі паны, і яны не маглі паставіць царом прыгоннага мужыка. Гэтак жа, як прыгонны мужык, расказваючы сваю любімую казку, смела рабіў царом свайго брата — беднага чалавека, а не пана.

І ўсё ж цар сур'ёзна задумаўся над прыгонным правам у Расіі. Як жа дажыў ён да жыцця такога?

Прымусіла яго задумацца Крымская вайна. Францыя і Англія перамаглі ў гэтай вайне, і ўвесь свет убачыў, што Расія слабая краіна, хоць і вялікая. У Францыі і Англіі даўно адменена прыгоннае права. Багатыя людзі там пускаюць свае грошы на пабудову фабрык і заводаў, вядуць гандаль з усім светам. Французскі і англійскі селянін ўрабляюць сваю зямлю, а не панскую. І яны стараюцца ўрабляць яе як мага лепш. А добра дагледжаная зямля добра і родзіць.

Нічога гэтага ў Расіі не было. Калі багаты чалавек і адкрываў фабрыку, то не мог знайсці для яе рабочых. Пан не пускаў на фабрыку свайго прыгоннага мужыка. А калі і пускаў, дык толькі на пэўны час, каб мужык зарабіў яму грошы. Прыгонны мужык жыў на панскай зямлі. Пан мяняў яму надзелы калі хацеў і як хацеў. І прыгонны мужык не вельмі стараўся ўрабляць такі надзел. Навошта? Усё роўна праз два-тры гады пан адбярэ, а цябе згоніць на пустэчу.

На панскай зямлі прыгонны рабіў пад бізуном цівуна і войта. І, вядома, не было ў яго ахвоты рваць жылы на чужым полі для ўзбагачэння зненавіднага пана. Запушчаная зямля не радзіла, людзі галадалі. Голад і хваробы касілі народ тысячамі...

Цар, калі б ён нават быў і зусім дурным, не мог не бачыць, што ў новай вайне прыгонная Расія не вытрымае, яе заваююць і падзеляць мацнейшыя дзяржавы. Тады ўжо не цараваць ні яму, ні яго роду. Ды і панам не паздаровіцца, калі над імі будзе стаяць не свой, а чужы цар або кароль.

Аднак не толькі гэта да смерці напалохала цара Аляксандра II. Ён ведаў гісторыю. А гісторыя гаварыла, што і ў Расіі і ва ўсіх іншых краінах заняволены народ ніколі не мірыўся са сваім лёсам. У часы бурных народных выступленняў зляталі галовы не толькі паноў, але і саміх манархаў.

А такія часы ў Расіі набліжаліся. Не забываючы Сцяньку Разіна і Емельяна Пугачова, прыгонная Русь з кожным годам набірала сілы для новага ўсерасійскага бунту. Палалі панскія маёнткі. Людзі не выходзілі на паншчыну. У цара не хапала салдат душыць бунты, не хапала турмаў для неспакойных бунтаўшчыкоў.

Вось чаму, падпісаўшы мір з Францыяй і Англіяй, збянтэжаны і перапалоханы Аляксандр II 30 сакавіка

1856 года заявіў маскоўскім дваранам, што лепш вызваліць сялян зверху, чым чакаць, пакуль яны самі вызваляць сябе знізу. У студзені 1857 года ён стварыў «Сакрэтны камітэт па сялянскай справе», каб той склаў план вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці.

Калі б у «Сакрэтным камітэце» сядзелі самі прыгонныя, яны склалі б план за адзін дзень. Ужо назаўтра яны падалі б цару на подпіс указ аб волі. Але ў «Сакрэтны камітэт» цар вылучыў паноў, такіх, як пан Жардзецкі ці пан Ясінскі. І таму колькі яны ні сядзелі ў камітэце, колькі ні мудрылі — ніякага плана вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці прыдумаць не маглі.

А час ішоў. Пажары не спыняліся, бунты не заціхалі...

Тады цар наклікаў на дапамогу паноў заходніх губерняў: прыдумайце, маўляў, даражэнькія, такі план, каб і козы былі сыты і сена цэла. А не прыдумаеце — мужыкі перавешаюць вас і мяне разам з вамі...

Першымі на заклік цара адгукнуліся некаторыя паны Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў. Няспынныя бунты сялян-прыгоннікаў у гэтых губернях дапякалі панам больш чым дзе. Хоць і нехаця, са скрыгатаннем зубоўным, сёй-той з паноў пачынаў згаджацца даць сялянам волю без выкупу за іхнія душы. А з зямлёю як быць? Зямлю, вядома ж, пакінуць панам! Гэта іх бацькаўшчына, недатыкальная ўласнасць... Як жа тады будуць жыць вызваленыя сяляне? Ну, развважалі паны, гэта іх клопат. Захочуць зямлі, прыйдуць да пана. Пан ім дасць надзел, а яны за гэта будуць адрабляць або плаціць арэнду...

Цар узрадаваўся такому плану беларускіх і літоўскіх паноў. Сапраўды: і козы сыты і сена цэла! Лепш не прыдумаеш. Вольны мужык можа ісці на фабрыку, рабіць на фабрыканта (яны ж ужо даўно націскаюць на цара, каб даў ім мужыка на фабрыку!), а можа, калі захоча, заставацца ў пана, адрабляць яму за свой надзел. Бунтаваць мужыку цяпер няма прычыны: волю-то яму далі!

І цар Аляксандр II, не доўга думаючы, публічна, праз друк, пахваліў разумных паноў заходніх губерняў.

Так цар рассакрэціў свой «Сакрэтны камітэт». З таго часу і пайшлі гуляць чуткі аб царскім указе пра волю. Самі прыгонныя царскага пісьма ў газетах не чыталі і таму не маглі ведаць, якая воля іх чакае.

Ды ўрэшце і такую, абакрадзеную волю не ўсе паны згаджаліся даць. Пан Жардзецкі і слухаць не хацеў пра

вызваленне сваіх прыгонных без платы. Тое, што прыгонны — чалавек, ніяк не ўкладвалася ў галаве пана Жардзецкага. З першых гадоў свайго жыцця ён толькі і чуў ад бацькі і маткі: «Мужык — быдла, яго біць трэба». Яго бацька гандляваў прыгоннымі мужыкамі гэтак жа, як коньмі, лесам, збожжам. Каб выхаваць у сына пагарду да прыгоннага чалавека, ён з малых гадоў вадзіў яго на стайню, дзе каталі людзей, сам біў пры ім сваіх слуг. А потым, калі сынок падрос, даваў яму сваю нагайку. Бацька толькі цешыўся, разваліўшыся ў мяккім крэсле, як яго спадчыннік спрытна хвошча нагайкаю сваіх уласных слуг — прыгоннага Мікітку або Янку... Цяпер пан Жардзецкі рэдка калі сам чыніць расправу. Але не таму, што сумленне мучыць яго, а проста таму, што лянуецца. На гэта ў яго ёсць гайдукі і цівун Бараноўскі.

Ці ж мог пан Жардзецкі спачуваць прыгоннаму мужыку? У гэтыя дні ён афармляў купчую на новы маёнтак пад Гроднам. Купляў ён гэты маёнтак толькі таму, што ў ім была гатовая пільня. А новы маёнтак ляжаў на адной рацэ са старым. Цяпер пан мог сплаўляць лес са старога маёнтка ў новы проста на пільню замест таго, каб ганяць яго ў плытах у Нямеччыну.

Распілаваны лес падыме прыбыткі ўдвая, калі не больш. Гэта апрача пабочных заказаў. Дошкі кожнаму патрэбны. А пільня — не карчма, не ў кожнай нават воласці яе знойдзеш.

І калі ў такі час пану Жардзецкаму напаміналі пра волю, яго кідала ў халодны пот. Воля разбурала ўсе яго планы. Хто ведае, як будзе трымаць сябе вольны мужык. Ці не загародзіць ён за работу на панскай зямлі або ў панскім лесе такой цаны, што і ад маёнтка адрачэшся. Урэшце можна было б рызыкнуць, калі б мужыкі выкупілі сябе. Дзе ім узяць грошы? Няхай казна пазычыць, а потым сысквае патроху. Пану Жардзецкаму важна сабраць лішнюю кучу грошай.

І раптам выступае яго ўласны дваровы перад усім народам з рахункам за сорак гадоў службы... Сорак гадоў дваровы Рыгор цярпліва нёс свой крыж. Ні пан, ні яго цівуны не чулі ад Рыгора скаргі на сваю долю. А тут — на табе, і ён волі захацеў! І захацеў, каб сам пан заплаціў сабе за яго волю. Нечуванае нахабства! Мала таго: відаць, так думае і гэтага хоча не адзін Рыгор. Вунь як загаманілі

мужыкі... Выгаварылі, што не толькі яны,— дзяды і прадзеды іх адраблялі за гэтую волю.

«Пачакай жа, нягачасны,— сказаў сам сабе пан, зачыніўшыся ў кабінеце ўвечары таго дня,— я пакажу табе волю! Так пакажу, каб і дзесятаму заказаў!»

Назаўтра раніцай цівун Бараноўскі загадаў людзям сабрацца па дзядзінцы. «Пан нешта важнае скажа»,— адказваў цівун тым, хто пытаўся ў яго, для чаго сход збіраецца.

Калі ўсе выйшлі на дзядзінец, два гайдукі прынеслі са стайні цяжкі дубовы ўслон, усеяны сухімі крывянымі плямамі. На ўслоне ляжалі два бізуны з тоўстай валовай скуры.

Катавалі звычайна на стайні, далей ад людскіх вачэй і вушэй. Сёння ж чамусьці гэтую каштоўную падпору панскага ладу жыцця вынеслі на сярэдзіну дзядзінца.

Людзі шапталіся, са страхам пазіраючы адзін на аднаго: хто з іх ляжа на такую мулкую пасцелю? Кожны стараўся прыпомніць, ці была ў яго якая сутычка з цівуном, дварэцкім, гайдукамі. Усе панскія слугі маглі прывесці сваю ахвяру на гэты ўслон. Не адзін дваровы звіваўся на ім у цяжкіх пакутах пад ударамі бізуноў, розаг, прутоў. Услон з крывянымі плямамі добра служыў сваю службу яшчэ бацьку пана Жардзецкага.

Гайдукі ў чырвоных кашулях тупалі каля ўслона, нецярпліва паглядаючы на панскі дом.

— Каго караць будзеце? — пыталіся ў гайдукоў людзі.

— Скажуць каго,— скупа адказвалі гайдукі.

— А калі бацьку роднага?

— Загадаюць, дык і бацьку паложым... Нам усё роўна...

Тупыя, бяздушныя, гэтыя слугі сляпа рабілі тое, што пан хацеў. Хто яны? Адкуль? Сярод гайдучага племені трапляліся розныя людзі: дзеці дробных збяднелых паноў, чыноўнікаў, разжалаваныя афіцэры царскай арміі. Адным словам, было б балота, а чэрці знойдуцца. Дакладна паводле гэтай прыказкі падбіралася панамі і гайдучае племя. Многіх гайдукоў паны бралі на службу з маладых гадоў. Самі іх гадавалі і самі школілі, гэтак жа, як сваіх паляўнічых сабак. Гайдукі ахоўвалі пана, яго сям'ю, вартавалі панскі дом, каралі прыгонных на стайні... За гэта паны добра кармілі іх і апраналі ў шыкоўныя гусарскія гарнітуры.

Разам з усёй дворняй на дзядзінец выйшаў і Язэпка.

Ён першы раз убачыў услон, на якім катавалі людзей, хоць чуў пра яго не раз. Відаць, на такім услоне забілі і Янку.

Гэта, мусіць, вельмі страшная смерць. Язэпку зрабілася нядобра, пачынала калаціць ліхаманка. Гэта заўважыў Рыгор.

— Ідзі, Язэп, у барак,— сказаў ён.— Без цябе абыдуцца.

— А цівун жа загадаў...

— Нічога, ён не ўбачыць.

— А калі ўбачыць?

— Скажаш, нездаровіцца...

— Не паверыць,— адказаў Язэпка.— Лепш пастаю.

Тым часам з мураванага дома выйшлі пан Жардзецкі і цівун. Бізуна сёння цівун не хаваў, наадварот, размахваў ім, як гарэзны хлапчук. У руках у пана была нагайка.

Людзі пакланіліся пану і далі яму дарогу. Ля ўслона пан спыніўся, абвёў вачыма дворню. Вочы яго затрымаліся на Рыгору.

— Ходзь тутэй, хлопе,— паклікаў пан Рыгора, памахваючы нагайкаю.

Рыгор падышоў да пана. «Няўжо,— падумаў,— гэта для мяне падрыхтавана?» Але ні ў хадзе, ні ў вачах яго страху не было. Так спакойна трымае сябе перад судом чалавек, які не адчувае за сабою ніякай віны.

— Ты вось, хлопе,— за кожным словам пан тыкаў у Рыгора нагайкаю,— учора дамагаўся ад мяне платы за сорак гадоў. Так ці не?

— Не зусім так, пане,— ціха адказаў Рыгор.

— А як жа загадаеш цябе зразумець?

— Гэта пан дамагаўся ад мяне платы за волю. А дзе ж мне яе ўзяць? Вось я і параіў зрабіць па справядлівасці...

— Справядлівасць! — іраічна ўхмыльнуўся пан Жардзецкі.— Бач ты яго! Але на гэты раз я буду справядлівым, як ты кажаш. Я разлічуся з табою пры сведках. За год — па бізуну! А за сорак, такім чынам,— усе сорак дастанеш спаўна. Гайдукі! Адлічыце гэтаму хлопу яго плату!

Гайдукі адным махам сарвалі з Рыгора кашулю.

— Кладзіся!

Рыгор гнеўна глянуў на пана.

— Дык вось яна — панская справядлівасць! — сказаў ён і спакойна лёг на ўслон.

Гайдукі пасталі з бакоў услона. Цівун стаў каля ног.

— Ну, з богам! — махнуў пан нагайкаю і пайшоў прэч.

Людзі заахалі, заварушыліся. Некаторыя адварочваліся.

— Раз! — падаў каманду цівун.

Гайдук, што стаяў з правага боку, узмахнуў бізуном і з шумным выдыхам «гах!» апусціў яго на Рыгораву спіну.

— Два! — лічыў цівун.

І ўслед за яго камандаю тое ж зрабіў другі гайдук.

Усе, хто стаяў блізка, убачылі, як на Рыгаравай спіне ўвачавідкі набухаюць два крывавыя пісягі...

Язэпка трымаўся, пакуль дзядзьку Рыгора клалі на ўслон. А калі ўбачыў свежую кроў на яго целе, ірвануўся да ўслона, закрычаў нема:

— Не біце! Дзядзька Рыгор не вінаваты!

Цівун замахнуўся на яго бізуном.

— Я табе пакажу, шчапюк!

Крыўда і злосць сціскалі Язэпкава сэрца.

«Га́ды, разбойнікі! — думаў ён, адступаючы ад услона.— За што катуюць добрага дзядзьку Рыгора?» Язэпка даўно ўжо любіць дзядзьку Рыгора, ды і стары лесаруб, відаць, плаціць яму за гэта такой жа любоўю.

Побач з Язэпкам вытыркаў з зямлі камень. Ён выдраў камень і рынуўся назад да ўслона. Але ў той жа момант нечая дужая рука схапіла яго за сарочку. Язэпка ўбачыў побач дзядзьку Панцялея.

— Не дуры, хлопец!..— паціху сказаў Панцялей.— Гэтым ты не дапаможаш...

Панцялей адабраў у Язэпкі камень.

— Хадзем у барак,— цвёрда сказаў ён, беручы Язэпку за руку.

Румзаючы і размазваючы кулакамі слёзы па твары, Язэпка пацягнуўся за Панцялеем да барака.

## БЯГЛЯК

Скрываўлены гайдукамі, Рыгор ні ў той дзень, ні на другі не мог падняцца. У лес арцель вадзіў Панцялей.

Сябры Рыгоравы цяжка перажывалі яго бяду. Аднак яны мала гаварылі пра гэтае здарэнне. Больш маўчалі, сумныя і нахмураныя.

Язэпка адчуваў сябе так, быццам не дзядзьку Рыгора,

а яго самога катавалі на тым дубовым услоне з крывянымі плямамі.

Што ж зрабіў дзядзька Рыгор благога? За што ён прыняў такую кару? Ціхі і маўклівы, сам дзядзька Рыгор, здаецца, і мухі б не пакрыўдзіў. Пану не спадабаліся яго словы? Але ж сказаў ён шчырую праўду, выказаў тое, што яму набалела. Бо хіба ж не заслужыў ён вольнай волі хоць на старасці гадоў? Выходзіць, пан Жардзецкі пакараў яго за праўду?

Язэпку хацелася зрабіць нешта такое, каб адпомсціць і пану Жардзецкаму, і яго прыслужніку Бараноўскаму. Шкада, што дзядзька Панцялей адабраў у яго камень. Няхай бы тады катавалі і яго, Язэпку, на тым услоне. Затое ён ведаў бы, за што церпіць.

Туга аб доме ўспыхнула цяпер з яшчэ большаю сілаю. Яму так захацелася ўбачыць роднае сяло, родных людзей, што аж сэрца сціскалася ад болю. Цяпер ён не палохаўся далёкай і невядомай дарогі. Спакуслівая думка адпомсціць хоць чым-небудзь за дзядзьку Рыгора не пакідала яго ні на хвіліну. «Скупы пан Жардзецкі,— думаў Язэпка,— ашалее ад злосці, калі даведаецца, што збег яго работнік. А праз гэта напэўна пападзе і цівуну».

Вядома, яны кінуцца шукаць яго. Ну што ж, няхай шукаюць ветру ў полі. Абы дадому дабрацца, а там Язэпка ведае, дзе схавацца.

І Язэпка пачаў патрошку збірацца ў дарогу.

Праз тыдзень, выходзячы на работу, ён апрануў світку і надзеў шапку.

— Ты што, баішся старыя косці застудзіць? — пажартаваў Панцялей.

— А калі дождж пойдзе? — адгаварыўся Язэпка.

— Які табе дождж! Неба вунь, як вымытае.

Быў канец жніўня. Пагода яшчэ стаяла цёплая, летняя. Гэта таксама ўлічваў Язэпка, калі думаў пра сваю дарогу. Апрача таго, у кішэнях яго шэрай світкі хаваўся невялікі запас сухарыкаў. Запас гэты Язэпка рабіў усе апошнія дні — па кавалачку ад скупых лустак, што перападалі яму на людской кухні і ў лесарубнай арцелі. Ваду ў дарозе знайсці не цяжка. А сухар ды вада — з голаду не памрэш.

Былі ў Язэпкі і яшчэ запаветныя запасы ў кішэнях той жа світкі: крэмень, трут і кавалак старой жалязякі. Жалязяка не сталёвая, ды з горам папалам высякала іскры. Свой агонь таксама не лішні ў дарозе! А як ён здабываец-

ца, Язэпка добра ведае. Так здабывалі агонь траха не ўсе ў іхняй Галынаўцы. Так здабываў яго і стары пастух Міхаль.

На-ранейшаму Язэпка церабіў сукі. Ён так напрактыкаваўся на гэтай рабоце, што, здаецца, мог ссякаць іх, заплюшчыўшы вочы. Цяпер нават і сякера зрабілася лягчэйшай, не такой, як у першыя дні. Тады ад яе моцна балелі рукі і плечы. І доўга не сыходзілі мазалі з далоняў. Цяпер яго далоні так загартаваліся, што да іх ніякія мазалі не прыстаюць.

У той дзень Язэпка знарок выбраў для работы самы дальні куток вырубкі. Яму хацелася пакінуць работу ціш-ком. Тады пра яго ўспомняць толькі ў абед. А пакуль перакажуць ціўуну, Язэпка будзе ўжо далёка...

Ссекшы некалькі сукоў з тоўстай калматай елкі, Язэпка ўбіў сякеру ў камель дрэва, азірнуўся кругом, перахрысціўся і нырнуў у гушчар.

Праз хвіліну якую ён вярнуўся назад, узяў сякеру: мала што можа трапіцца ў дарозе. Але тут жа ўспомніў, як ціўун траха не кожны дзень напамінае старшаму ў арцелі берагчы інструмент. Гэта ж можа быць бяда дзядзьку Панцялею! Язэпка зноў убіў сякеру на тое ж месца і на гэты раз рушыў без агляд кі.

Побач ляжала дарога. Язэпка стараўся не адрывацца ад яе. З расказаў дзядзькі Рыгора, у якога ён распытваў пра дарогу на ўсход, выходзіла, што лес гэты не такі і вялікі. За ім пойдзе балота, потым — поплаў. За поплавам відаць вёска і маёнтак пана Каржанеўскага. А далей па гэтай дарозе Рыгору хадзіць і ездзіць не даводзілася. Нічога пэўнага пра дарогу на Язэпкаву радзіму не ведаў і Панцялей.

Гадзіны дзве Язэпка бег. Хоць гэта было не лёгка. Лягчэй бегаць у лесе зайцу, чым чалавеку, хоць бы ён быў і хлапчук такі, як Язэпка: худы, шчуплы, спрытны. Яму прыходзілася ўвесь час то нагінацца, то абмінаць дрэвы, кусты, зараснікі. Лес пры дарозе быў такі ж густы і дзікі, як і на тых дзялянках, дзе ён працаваў апошнія месяцы з лесарубамі пана Жардзецкага.

Язэпку ўсё цягнула на дарогу. Там так лёгка, здавалася яму, было б бегчы. Ды хто ведае, каго можна сустрэць на гэтай дарозе.

Да поўдня ён выбіўся з сілы. А калі настаў прывычны час абеду, Язэпку так захацелася есці, што ён мусіў да-

стаць сухарык. Вады блізка не было. Язэпка пагрыз сухарык на хаду маладымі зубамі, і млосць прайшла. Далей ён ужо не мог бегчы. А лесу ўсё канца не відаць. Радавала, аднак, тое, што побач дарога і рана ці позна яна выведзе некуды на чыстае поле. Потым жа, калі меркаваць па сонцу, дарога пакуль што ідзе проста на ўсход, туды, куды яму і трэба. Гэта падбадзёрвала бегляка, вабіла яго наперад. І ён ішоў як мог: дзе подбегам, а дзе — ступою.

Пад вечар лес пачаў святлець. Неўзабаве Язэпка адчуў пад нагамі балота. Тут раслі бадай што адны кусты. Язэпка пайшоў асцярожней, каб не праваліцца ў дрыгву.

Потым пачалі трапляцца нізіны, скрозь запоўненыя вадою. Ногі грузлі ў багне. Язэпка ўбачыў, што ходу наперад яму няма... Ісці на дарогу боязна. Цівун, відаць, даўно ўжо шукае яго. Можа, ён дзе імчыцца следам за ім.

Але не начаваць жа ў гэтым гіблым балоце! Язэпка надышоў бліжэй да дарогі, вымашчанай драўляным мамостам. За дрыгвяністым балотам у канцы дарогі ён убачыў чысты прагалак. Гэта, відаць, і ёсць той поплаў, пра які гаварыў дзядзька Рыгор. Як жа цяпер перабрацца на яго?

Язэпка высунуўся на ўзбочыну дарогі. Паглядзеў тудысюды — нікога нідзе не відаць. Прыгнуўшыся, ён прабег некалькі сажняў. Страх скоўваў цела, наліваў волавам ногі. Дыхаць было цяжка. Ён спыніўся і паглядзеў назад. Дарога, да самага павароту, была пустая. Язэпка зноў прабег з паўгалок.

Перамагаючы страх, ён усё ж адолеў грэблю. На поплаве кустоў было менш. Язэпка збег з дарогі і пайшоў шагам. Адразу стала лягчэй, быццам гара з плеч звалілася. І на стому забыўся — ішоў, радуючыся, што пашанцавала шчасліва пераскочыць гэтае небяспечнае месца.

Калі ён дабраўся да поля, ужо добра звечарэла. Страх цяпер не так мучыў яго. Каля поля і начаваць смялей. Тут недзе побач вёска, людзі. Язэпка выбраў высокую сухую купіну пад лазовым кустом і прысеў. Упершыню за доўгі летні дзень.

Яму захацелася піць. Вады побач не было. Ён выкапаў ямку. Ямка была сухая. Цяпер Язэпка пашкадаваў, што сядзіць на сухім поплаве, а не ў дрыгвяністым балоце. Там вады колькі хочаш. Хоць ты назад варочайся.

Каб не думаць пра ваду, ён выняў з кішэні яшчэ адзін сухарык і захрумстаў памаленьку.

Тым часам пацямнела ўжо і поле. Язэпка падняўся, разварушыў сяк-так ногі і пайшоў, кульгаючы, па ржэўніку. Іржэўнік трапіўся высокі і калючы. «Мусіць, добрае жыта расло,— падумаў Язэпка.— Чыё яно? Мужыцкае ці панскае?» Язэпка прыгледзеўся — межаў блізка не відаць. Значыць, зямля панская. Ды дзе гэта бачана, каб пан аддаў добрую зямлю прыгонным? Язэпка ўспомніў, што казаў знаёмы дзядзькі Рыгора — Мікіта: «Зганяе пан Жардзецкі нас на горшыя землі...» Нават калі лепшы кавалак трапіцца і каля самай вёскі — пан не глядзіць: грабе яго да сваіх уладанняў. А хмызнякі ды ўзгоркі,— няхай сабе хоць і каля маёнтка,— усучвае прыгонным.

Язэпка шлёпаў добра-такі падтаптанымі за дзень лапцямі. Шчасце яго яшчэ, што ён выйшаў у новых лапцях — таучора ўвечары толькі сплёў іх. Старыя не вытрымалі б такой дарогі. Язэпка пашкадаваў, што няма ў яго ніякага ножыка. Што ён будзе рабіць, калі сарвуцца лапці ды зноў давядзецца ісці праз лясы. Лаза ўжо сухаватая. Ды, прылаўчыўшыся, можна яшчэ драць лыкі. Ножык для гэтай работы раней яму даваў дзядзька Рыгор. А ўчора папрасіў у Панцялея. Увесь час Язэпка марыў зрабіць свой ножык, такі, як у дзеда Міхаля. Але для гэтага патрэбен кавалак касы. А дзе яе знайсці, калі ніхто не згубіў і не выкінуў непатрэбнай?

Язэпка змарыўся дашчэнту і цяпер думаў толькі, дзе б выбраць месца і легчы. Хацелася ўсё ж дабрацца бліжэй да жылля, туды, дзе не страшыць чалавека адзінота.

Лагчына скончылася. Пайшлі пясчаныя ўзгоркі. «Ну, значыць, тут недзе і вёска»,— падумаў Язэпка.

Неўзабаве ён пачуў тупат конскіх капытоў і галасы людзей. Язэпка прыгнуўся да зямлі, прыслухаўся. Шум нарастаў. Але, як відаць было, ішоў ён не з таго боку, адкуль уцякаў Язэпка. Значыць, гэта не пагоня. А калі не пагоня, то, відаць, начлежнікі з блізкай вёскі.

І праўда: пазвоньваючы цуглямі, на ўзгорку паказаўся табун.

Язэпка прайшоў з вярсту ў той бок, адкуль ехалі начлежнікі, і ўбачыў перад сабою першую будову. Нават у густым змроку ён адразу пазнаў яе. Гэта быў стары вятрак, крыллі якога прыкметна вылучаліся на фоне пацямнелага неба. Ад ветрака павеяла пахам цёплай мукі і нагрэтых за дзень смалістых бярвенняў.

Далей ісці не было патрэбы. Не збіраўся ж бегляк Язэп-

ка стукацца ў шыбы ды прасіцца да людзей нанач! Будыніна наводшыбе — гэта ж найлепшы начлег.

Язэпка знайшоў дзверы. Яны былі замкнуты. Гэта крыху расчаравала бегляка. Ну, ды нічога. Ночы яшчэ не надта халодныя.

Ён нарваў ахапак палыну, што густа рос вакол ветрака, паслаў яго ля цёплай сцяны і лёг. Нацягнуў каўнер світачкі на вушы, сцішыўся.

Нейкі час яшчэ ён чуў недалёкі сабачы брэх, чыста і выразна чуліся словы песні:

Ой, пара нам дамоў, пара,
Сцюдзёная раса пала.
Сцюдзёная раса пала,
Цёмная ночка настала.

А ў нас няма параднічка,
Ні пана, ні ураднічка.
Некаму рады радзіці,
Нас дамоў адпусціці...

Цягнулася ўсё гэта, аднак, нядоўга. Апошнія словы песні ён чуў праз сон.

Ноч праляцела, як адна мінута. І як ні быў Язэпка змораны, раніцай ён прахапіўся ў прывычны час.

На небе ўзыходзіла сонца — чырвонае, яркае. Дзень пачынаўся ясны, пагодлівы.

Язэпка разгледзеўся і ўбачыў недалёка вёску, а каля яе — выган з кустамі. Між кустоў прывабна заблішчала маленькая рачулка.

Піць яму не хацелася. Але ўспамінаючы ўчарашні вечар, ён вырашыў схадзіць на рэчку і напіцца ў запас.

Людзей на полі не было. Язэпка спусціўся з узгорка, прайшоў кустамі і апынуўся каля рэчкі. Гэта была сапраўды не рэчка, а рачулка, якой яна і здалася Язэпку з узгорка каля ветрака. Яе лёгка можна было пераскочыць. Толькі сям-там яна трошкі шырэла. Густыя кусты алешніку і вербалозу абхіналі яе, хаваючы ад сонца. Можа, таму яна і не перасохла зусім за лета.

Напіўшыся і размачыўшы два сухарыкі на снеданне, Язэпка рушыў уздоўж рачулкі за вёску. Вуліцаю ісці яму не хацелася. Праўда, цівуна сёння ён баяўся менш, як учора. Калі б цівун збіраўся даганяць бегляка, то, відаць, зрабіў бы гэта ўчарашнім адвячоркам. На кані ён мог дагнаць яго яшчэ ў лесе. Але ж ніякай пагоні за ім не было. То,

можа, пану Жардзецкаму і не ў галаве Язэпка? Ці ж мала ў яго работнікаў? Ды і не раўня яны Язэпку.

Выган быў пусты, куп'істы. Цяпер на ім, відаць, і не пасвілі. Травы хапае ўсюды: на скошаных паплавах і сенажацях, на зжатых палетках.

За вёскаю зноў пайшлі ўзгоркі з хмызнякамі. Тут Язэпка адчуў сябе вальней. Аднак сяды-тады ён спыняўся і азглядаўся назад.

Неўзабаве перад ім паказаліся будынкі, абсаджаныя высокімі таполямі. «Мусіць, маёнтак пана Каржанеўскага», — падумаў Язэпка. Не, туды лепш не ісці. І Язэпка пачаў азірацца, каб выбраць сцежку ў абход маёнтка.

Не паспеў ён вызначыць сабе дарогу, як раптам убачыў дзіўны малюнак. З маёнтка выскачыла падвода. Рослы конь чорнай масці, запрэжаны ў брычку, імчаўся рысяком. З правага боку каля яго з немым крыкам бегла дзяўчынка гадоў дзесяці-адзінаццаці. Яна не адставала ад каня ні на шаг.

«Што за праява?» — гадаў Язэпка, саступаючы з дарогі. Ён стаіўся за кустом і пільна сачыў за гэтым дзіўным малюнкам.

Брычка пад'ехала бліжэй, і тады Язэпка ясна ўбачыў, што тут рабілася. Дзяўчынка была прывязана за аглоблю вяроўкаю... У брычцы сядзеў грузны фурман у лёгкім летнім адзенні, з выгляду — пан. У левай руцэ ён трымаў лейцы, а ў правай — пугу. І пугаю хвастаў не каня, а — дзяўчынку!..

Дзяўчынка спатыкалася, цягнулася на вяроўцы, потым усхоплівалася і з крыкам бегла далей. Задаволены фурман выскаляў залатыя зубы.

Недалёка за брычкаю з крыкам і галашэннем беглі мужчына і жанчына, як відаць па вопратцы — людзі прыгонныя, дваровыя. Гурток такіх жа дваровых людзей сабраўся на дарозе каля маёнтка.

Невядомае яму чужое гора моцна ўсхвалявала Язэпку. Калі брычка праскочыла міма, ён выйшаў насустрач людзям, што беглі за падводаю.

Жанчына не магла больш бегчы. Ломячы рукі, яна павалілася на пясок у каляіну. Роспачы яе, здавалася, не было межаў. Мужчына ўсё яшчэ бег далей, цяжка дыхаючы.

— За што яе, цётухна? — запытаўся Язэпка ў жанчыны.

Жанчына качалася па зямлі, сілячыся ўстаць. Язэпка памог ёй. Жанчына з удзячнасцю глянула на незнаёмага ёй хлапчука.

— Гэта ж мая дачушка,— рыдаючы, прагаварыла яна.— Дзіцятка маё кроўнае...

Яна загаласіла нема і зноў кінулася даганяць брычку. Але ў гэты час брычка павярнула назад.

Жанчына разняла рукі, загарадзіла дарогу.

— Паночак, пабойся бога! Што ты робіш? — закрычала яна, кідаючыся да каня, як толькі павозка пад'ехала блізка.

Пан шмаргануў за лейчыну. Конь ірвануўся ўбок. Аглобля стукнула жанчыну ў плячо. Яна ўпала. Пан паспеў хвасянуць яе пугаю і з дзікім рогатам памчаўся ў маёнтак.

Дзяўчынка ўсё яшчэ бегла побач з канём. Белыя льняныя валасы яе растрапаліся, зрэбная сукенка расхлісталася. У вачах свяціўся жах. Яна ўжо не крычала, бо, відаць, страціла голас.

Язэпка другі раз дапамог жанчыне падняцца.

— За што яе, цётухна? — зноў запытаўся ён.

— Гусей упусціла дачушка ў панскі агарод...— прагаварыла жанчына і, галосячы, пабегла ўслед за брычкаю. Мужчына даганяў яе.

Язэпка павярнуў у хмызняк, мінаючы страшнае месца — маёнтак пана Каржанеўскага.

## РОДНЫ КУТ

Увесь другі дзень ён ішоў навобмацак, давяраючы свайму чуццю. Ён не баяўся вузкіх палявых дарог: пан Жардзецкі не мог ехаць з гасцей такімі дарогамі. А большыя дарогі ён звяраў па сонцу.

Другую ноч ён начаваў пры жабрацкім табары ў лесе. Ён баяўся паказвацца нават жабракам і ціпіком лёг недалёка ад людзей. Сабак у табары не было, і ніхто не ведаў, што побач спіць жывая душа.

На трэці дзень Язэпку пачало здавацца, што ідзе ён не туды, куды трэба. Ён захваляваўся. Сілы ў яго заставалася мала, каб блукаць па невядомых дарогах. Сухарыкі ён зжаваў да апошняй крошкі.

Зморапы, галодны, зайшоў ён нарэшце да людзей. Раней яму здавалася, што ён зможа салгаць, хто ён і адкуль. Але ўжо ў першай хатцы на краі вёскі, куды Язэпка зайшоў, ён не мог салгаць...

У хаце была старая згорбленая бабулька.

— Адкуль жа ты, унучак? — запыталася яна, калі Язэпка папрасіў у яе вады.

Язэпка сказаў, што ідзе дадому з работы. А потым, слова за слова, бабулька пра ўсё распыталася. Язэпка не мог зманіць ёй. Вельмі ж шчыра яна заклапацілася аб малым бегляку. Сама прынесла яму салёны агурок са склепа, адрэзала кавалак чэрствага, напалам з бульбаю хлеба. І больш ні аб чым не пытаючыся, пачала скардзіцца Язэпку на сваё жыццё. Яна даўно просіць у бога смерці, а бог не чуе — не шле смерць па яе. Жыве яна пры сыне. Сын з нявесткаю і дзецьмі штодня душацца на паншчыне.

Пан вызначае такую павіннасць, што ніводзін чалавек не можа таго зрабіць. І таму прыходзіцца браць на поле і дзяцей. Бо, не дай бог, не выробіш сваёй часткі. Тады лепш і на свеце не жыць. У сына не зажывае спіна ад розаг. А як глядзець на гэта ёй, роднай мацеры!

— Вялікі божа,— хрысцілася бабулька на цьмяны ад мушыных плям абраз,— ці чуеш ты, ці бачыш, як людзі пакутуюць?

Забруджаны мухамі божа маўчаў. Ён правісеў у гэтай хатцы не адзін дзесятак гадоў і нікому яшчэ не дапамог.

Пра пана Ясінскага і яго маёнтак бабуля не чула. Але, шчыра спачуваючы Язэпку, яна пайшла распытвацца ў суседзяў і суседак. Адзін стары сказаў, што чуў пра такога пана. Сам там не быў, але чуў ад другіх, хто ездзіў у той бок. «Гэта недзе за Стоўбцамі...» — сказаў ён.

Язэпка распытаўся ў бабулі, як ісці на Стоўбцы, і, падзякаваўшы ёй, адразу ж падаўся ў дарогу. Цяпер ісці было лягчэй.

У Стоўбцах ён ужо лёгка даведаўся, дзе шукаць маёнтак пана Ясінскага.

Да сваёй Галынаўкі Язэпка дайшоў яшчэ завідна. Цяпер, калі дом яго быў побач, зноў усё часцей успамінаўся пан Жардзецкі. Добра ж, калі ён забудзецца пра Язэпку. А калі яго слугі шукаюць збеглага чалядзіна? І можа якраз тут, каля дому, пільнуюць яго?

Язэпка зайшоў у гусцейшы бульбянік пры дарозе і праляжаў у ім дацямна з радаснымі і трывожнымі думкамі.

Позна ўвечары ён прыйшоў на свой двор, асцярожна пастукаў у шыбінку акна.

— Хто там? — пачуўся неўзабаве матчын голас.

— Я, мама...

— Язэпка!..— усклікнула маці.— Дзіцятка...

Яна доўга не магла знайсці засаўку, каб адчыніць сенечныя дзверы. А калі адчыніла, доўга не магла апамятацца ад шчасця: усё туліла да сябе сына, цалавала яго, гладзіла па галаве, быццам не верачы, што ўсё гэта не сон.

Потым яна павяла яго ў хатку, усё яшчэ не адважваючыся запытацца, чаму і як апынуўся ён дома. Маці даўно аплакала яго, як нябожчыка. Ёй нават не сказалі, куды пан прадаў яе сына.

— Ты пасядзі, дзіцятка, а я збегаю да суседзяў, агню пазычу.

Язэпка захваляваўся:

— Не трэба, мама...

— Чаму? Ты ж, мусіць, галодны, сынок?

— У мяне ёсць агонь.

Язэпка дастаў з кішэні свае крэсіва. Так і не давялося яму пакарыстацца ім у дарозе!

— Можа, знойдзеш, мама, шматок пакулля ці кудзелі?

Пакулля і кудзелі ў хаце не знайшлося. Дзьмухаючы на ўсю сілу, яны распалілі сяк-так кавалачак сухога моху, вырванага са сцяны. Ад моху загарэлася трэсачка, ад трэсачкі — лучынка. І хутка па камінку скакаў кволы агеньчык. Калі агеньчык акрыяў, набраўшы сілы, маці падкінула ў яго дрэвак і паставіла зверху жалезны таганок. А на таганок — аплецены дротам гаршчок з вадою. У кутку каля печы знайшла кошык, у якім Язэпка ўбачыў бульбу.

— Звару свежай,— сказала маці, выціраючы тыльным бокам далоні вочы.— Што ўдзень варыла, з'елі.

— Нічога, мама, я і так лягу,— перасохлым горлам адказаў Язэпка.— Мне б толькі вады...

Маці падала яму вады.

— А дзе бацька? — адважыўся ён задаць матцы трывожнае для яго пытанне.

У хаце бацькі не было. Значыць, ён мог быць дзе-небудзь у адлучцы. А можа, і няма яго зусім...

Маці прамаўчала, адвярнуўшыся, быццам не чула пытання.

І Язэпка ўсё зразумеў. Цяжкі горкі клубок здушыў яго горла. З вачэй паліліся слёзы. Добра, што маці, занятая бульбай, не глядзела на яго ў гэты час. Ён мог бы моцна расплакацца.

Праз колькі хвілін ён зноў запытаўся:

— А Васіль?

Гэтае пытанне маці пачула адразу.

— Дракула забраў,— адказала яна.— Замест цябе...

— А Наталька?

Маці цяжка ўздыхнула. Потым адказала дрыжачым голасам:

— Бацька да сябе забраў яе...

На гэты раз Язэпка не даў рады свайму гору. Плач вырваўся з яго грудзей, як нястрымны выбух.

Маці сказала паўшэптам:

— Сынок, Параска спіць...

Язэпка зрабіў вялікае намаганне і прыдушыў плач. Значыць, бацька і старэйшая сястрычка не дачакаліся яго...

Маці вымыла некалькі бульбін і ўсыпала ў гаршчок.

— Пытаўся ж, сынок, пра цябе Дракула,— сказала яна, падазрона паглядаючы на Язэпку.

— Калі? — пацікавіўся Язэпка.

— Сёння.

— Што ён казаў?

— Пытаўся, ці не вярнуўся ты дадому. Я сказала — не. Ажно ты і прыйшоў! Можа, адпусціў цябе новы пан на волю? У нас жа ўсе пра волю гавораць. Кажуць, цар даў волю людзям...

— Не, мама,— сказаў Язэпка.— Цар не даў нам волі.

— Адкуль ты ведаеш?

У маткі былі спалоханыя вочы. Няўжо праўду кажа сын? Ёй хацелася верыць толькі першым чуткам, а не гэтай. Як жа так? Усе ж толькі і чакаюць таго дня, калі царская воля дойдзе да людзей.

Язэпка адказаў упэўнена:

— Так наш пан сказаў...

Маці павесялела:

— Дык паны, дзіцятка,— яны не хочуць, каб мы вольнымі сталі. Усе так гавораць.

— Яны не хочуць, і цар, мусіць, не хоча...

— А як жа цябе адпусціў пан?

Язэпка не мог маніць чужым людзям. Тым больш не змог бы зманіць роднай маткі.

У маткі калаціліся рукі, дрыжалі губы. Худы твар яе пажаўцеў. Але яна не пасварылася на сына. Мацярынскае пачуццё яе было мацнейшым ад усялякага страху перад цівуном Дракулам і перад усімі панамі на свеце. Яна ліхаманкава думала, як уратаваць сына. Вярнуць яго назад новаму пану? Але ж хто ведае, які там пан. Ён можа забіць хлапца за самавольства. Трымаць дома? Дык жа пагалы Дракула, мусіць, ужо нешта пранюхаў, калі прыцягнуўся ў розведы... Пан з панам — адна хеўра.

Тым часам бульба зварылася. Маці адцадзіла яе і высыпала ў гліняную міску. Язэпка так змогся за неспакойныя дні дарогі, што цяпер яму хацелася толькі ўпасці дзенебудзь і заснуць. Ён абабраў пару бульбін, з'еў, макаючы ў соль, і заматаў галавою:

— Пакінь, мама, мне на заўтра. Спаць хочацца.

— Можа, табе лепш не класціся ў хаце? — з трывогай запыталася маці.

Язэпка і сам не збіраўся заставацца ў хаце. «Трэба агледзецца, перачакаць»,— думаў ён. І Язэпка пацікавіўся, ці ёсць у гумне сена.

— Сена няма,— адказала маці.— Саломы крыху засталося.

— Ну, то і добра. Парасцы нічога не кажы.

— Добра. Не скажу...

Язэпка ўстаў і, ледзь ступаючы, пайшоў у гумно.

## ПАД РОДНАЮ СТРАХОЮ

Назаўтра раніцай маці зайшла ў гумно, паварушыла Язэпку за плячо:

— Уставай, сынок. Мне на паншчыну пара.

Яна паставіла перад ім учарашнюю міску з бульбаю, кавалак свежага праснака і збанок з вадою.

— Ты адна цяпер ходзіш...— са спачуваннем сказаў Язэпка.— А калі дома робіш?

— Я цяпер хаджу толькі тры дні на тыдзень.

— Чаму? — здзівіўся Язэпка.— Паншчыну зменшылі?

— Зямлю ў нас пан адабраў яшчэ летась,— сказала маці.— Бацька ўсё хварэў, а я адна не магла адрабляць. Цяпер у нас толькі сядзіба. За яе і адрабляю.

— Тры дні на тыдзень?

— Ага.

— Жывадзёр! — са злосцю ўсклікнуў Язэпка.— Усе жывадзёры...

— Што ж зробіш... Жывым у зямлю не ляжаш...

— Каровы таксама няма?

— Няма ні каня, ні каровы. Свінчо яшчэ адно засталося. Ну, я пабягу. Парасцы я не казала пра цябе. Але, мусіць, трэба сказаць. Яна — не маленькая, зразумее... Не ты адзін такі. Па лясах цяпер, кажуць, шмат людзей туляецца. З двароў, як і ты, уцякаюць...

Маці пайшла, прычыніўшы за сабою дзверы. Апошнія яе словы зацікавілі Язэпку. Шкада, што матцы няма часу, і ён не мог распытацца пра людзей, якія туляюцца па лясах. Што гэта за людзі? Як яны жывуць? Можа, і з іх сяла там хто ёсць?

Язэпка са смакам паснедаў. Потым пачаў разглядаць гумно. Яно было пустое. У застаронках заставалася адна пацяруха ды з паўкапы старой леташняй саломы, на якой ён спаў. Тачок, дзе раней ён малаціў з бацькам, патрэскаўся, сям-там на ім раслі кволыя сцяблінкі збожжа і дзікай травы. Праз дзіравую саламяную страху і праз шчыліны ў сценках сюды прабівалася святло. Дзверы таксама свіціліся. Шулы, на якіх трымаліся дзверы, пакрывіліся. Ды і само гуменца, як здалося Язэпку, таксама сагнулася за гэты час і пахілілася ўбок. Толькі знаёмае ластаўчына гняздзечка вісела на сваім месцы. Зараз яно было пустое — маладыя ластавачкі даўно выверіся. Але пакуль Язэпка разглядаў мілае яму з маленства гняздо, у гуменца з боку закота шуснула ластаўка. Са шчэбетам яна праляцела пад страхою, потым спынілася каля пустога гнязда, прысела на яго збоку, паківала хвосцікам і з тым жа шчэбетам выпырхнула вон. «Відаць, не забывае роднага гнязда»,— падумаў Язэпка.

Ах, як яно міла кожнаму, роднае гняздо! Гэтак жа праз увесь час разлукі імкнуўся і ён да свайго роднага гнязда. Колькі сноў аб ім перасніў, колькі слёз праліў! Нярадасна сустрэла яно Язэпку. Ды ўсё ж нават такі родны дом мілей дарагіх панскіх маёнткаў. Няхай бы згарэлі яны там разам з панамі і падпанкамі!

Язэпку хацелася выйсці з гумна, паглядзець, што робіцца ў сяле, што яму тут вядома і знаёма, а што новае з'явілася. Сёе-тое ён бачыць праз шчыліны гуменца. Зблізку, здаецца, усё на месцы. Каля сцяны гумна расла бяроза. Яна і цяпер такая ж — высокая, з каравым, старым

ствалом пры зямлі. Ствол, як і раней, усыпаны дзіркамі. Гэта кожную вясну на ёй круцілі свежыя дзіркі для соку. Ах, які смачны з яе бярозавік! Дачакацца б вясны ды зноў паспытаць яго!

Язэпку добра відаць суседнія гумны і прыгуменні. Там ціха, старэйшыя, мусіць, на паншчыне, а малыя пакуль з хат не вылазяць. Цікава, дзе цяпер яго сябры? Можа і іх ужо забраў у двор цівун Дракула? А можа бацькі адкупіліся ад праклятага паўпанка? Стары панскі пастух Міхаль казаў, што Дракула вельмі ж падкі на грошы. Ад яго не цяжка адкупіцца. Ды так і робяць тыя, у каго ёсць чым адкупіцца. Ён і ў салдаты раіць пану здаваць не тых, каму больш выпадае служыць, а хто не можа даць яму хабар. Дзед Міхаль расказваў, што ранейшы панскі цівун быў не лепшы. Гэтак жа здзекаваўся з людзей і гэтак жа абіраў іх. А дзе зручна, краў і ў пана. Потым купіў фальварак і сам стаў панам. Тады і прыехаў у маёнтак новы цівун.

Пры ўспаміне пра Дракулу Язэпку пачынала калаціць. Значыцца, зненавідны цівун ужо нешта пранюхаў пра яго. Мусіць, перадаў яму гэтую навіну Бараноўскі. Ды пэўна ж: сам ён не можа пільнаваць тут Язэпку. А Дракулу гэта справа дамашняя. Ну і гад! І тут ён стаў упоперак на Язэпкавай дарозе! Войт Марка Вакуліч наўрад ці ўзяўся б дапамагаць нейкаму чужому пану. Марка — мужык, такі ж, як і іншыя ў сяле. Тут яго сваякі, суседзі. Ён, вядома, стараецца выслужвацца перад панам. Але часамі можа і заступіцца за свайго сяльчаніна, калі бачыць, як здзекуецца з яго цівун.

Дракула часта чуць не загрудкі хапае войта: «Ты, крычыць, такі-сякі, бізуна шкадуеш! Бі іх, хамаў, а то яны цябе скора біць пачнуць». Пан можа б і замяніў войта другім, ды не падбярэ лепшага.

Ой, як здоўжыўся гэты дзень для Язэпкі! Усе вочы праглядзеў ён праз шчыліны. Прыслухоўваўся да кожнага шоргату і блізкай гамонкі. Паўз гумны ішла дарога. Сяды-тады хто-небудзь паказваўся на ёй. Язэпка рады быў кожнаму знаёмаму твару. А некаторых, з маладзейшых, ён ужо і не пазнаваў. Павырасталі без яго!

Разы са два на суседніх прыгуменнях прабеглі дзеці. Але Язэпкавых сябрукоў сярод іх не было. Іх бы то ён напэўна пазнаў! Адзін раз блізка да гумна падыходзіла Параска. Язэпка адразу пазнаў яе, хоць яна і падрасла. У яе такія ж, як у маткі, светлыя валасы, такі ж бялявы твар.

Цяпер ёй павінна быць гадоў восем. Відаць, яна поўная гаспадыня дома. Язэпку хацелася выбегчы са сваёй схованкі, наклікаць сястру. Яна ж напэўна не забылася пра яго!

Маці вярнулася на захадзе сонца. Зморапая, змучаная, яна адразу ж забегла ў гумно.

— Ну, як ты, сынок, тут адзін?

Язэпка глянуў у сумныя матчыны вочы і, стараючыся не засмучаць яе яшчэ больш, адказаў з усмешкаю:

— Валяюся на саломе, як пан на пярынах.

Маці прысела каля яго, развязала вузельчык. У ім быў кавалачак хлеба.

— Вазьмі, Язэпка,— падала яна вузельчык сыну.— З'еш, ты ж галодны тут. Летні дзень — год.

Язэпка ўзяў хлеб. Ядучы, запытаўся:

— Калі памёр бацька?

— Вясною... Неяк неўзабаве, як цябе прадалі...

— Мяне не прадалі,— сказаў Язэпка.— Мяне пан у карты прагуляў.

— Ну, гэта не кіем, дык палкаю...

— Бацька ад сухотаў памёр?

— Не. Па сухотах ён бы яшчэ жыў.

— А што?

— Цівуна аблаяў,— уздыхнула маці.— Пагарачыўся чалавек. Сказаў яму: «Каб ты, шэльма, не забраў хлопца ў двор, то пан не прадаў бы яго. Усё гэта твая работа...» І яшчэ нагаварыў усялякіх слоў. Ну, цівуна ж ты ведаеш. Знайшоў прычэпку: нехта, бачыш, у лесе маладыя ліпкі абадраў — на лыкі. Цівун сказаў пану, што гэта наш бацька зрабіў. Ляснік на бацьку не гаварыў. Але ж пан не паслухаў лесніка, а паслухаў цівуна. Бацьку схапілі, завалаклі на стайню. Збілі яго, сынок, так, што ён, небарака, не мог і з тапчана падняцца. Кроў хлынула ў яго горлам...

Слухаючы гэты сумны расказ, Язэпка ўвесь дрыжаў ад крыўды і гневу. Перад яго вачыма паўсталі дзядзька Рыгор, цівун Барапоўскі, гайдукі... Вось гэтак, мусіць, каталі і яго бацьку.

Маці між тым вяла свой расказ далей:

— Паплакала я з дзецьмі, пагаравала. Ды што зробіш? На пана на суд не падасі. Доктар напісаў, што бацька памёр ад сухотаў, а не ад гайдуцкіх палак. Я думала, можа пан уважыць мне і зніме хоць трохі прыгону. Папрасіла Дракулу. А ён кажа: «Табе цяжка адной з дзецьмі, то

аддавай сына ў двор...» Я думала, ён так сабе сказаў. Ажно дзе там! Прыйшоў гайдук і забраў Васілька...

— А чаму Наталька памерла?

— Хто ж яго ведае... Кашляла, як бацька. Мусіць, сухоты прыкінуліся.

Маці ўстала.

— Хадзем, сынок, у хату.

— А Параска...

— Скажам ёй. Яна будзе маўчаць. А што рабіць? Не варочацца ж табе да пана! Людзі ж вунь усё пра волю гамоняць. Можа, дачакаемся як-небудзь.

— Мама,— перапыніў яе Язэпка,— ты казала, што не я адзін такі.

— Гэта праўда.

— А што, калі і мне пайсці ў лес?

— Дзіцятка...— захваляваласяі маці.— У лясах хаваюцца мужчыны і дзяцюкі. А ты ж дзіця.

— Я ўжо не малы!

— Што ты, сынок, кажаш?

— А тое, што чуеш. Усё лета я рабіў у лесе пана Жардзецкага разам з мужчынамі. А чаму ж я не магу жыць у лесе з людзьмі такімі, як я сам? Магу! І буду ўсё рабіць, што мне скажуць.

— Пабойся ты бога, дзіцятка!

Бядуючы, маці павяла Язэпку ў хату.

## ЦАРСКІЯ ПАДАТКІ

Пра лес маці і слухаць не хацела. Яна ўгаворвала сына і ўпрошвала яго не адлучацца з дому. «Я гэтага не перажыву,— напаміналаяна яму.— Разлука з табою пасля смерці бацькі і Натальскі звядзе і мяне ў магілу. А на каго ж тады я пакіну апошняе сваё дзіця?»

Язэпку шкада было матку. Ён ведаў, якое гора яна перажыла і перажывае.

Але што было рабіць яму дома? Ён жа сядзіць у хаце, як у астрозе, увесь час цікуючы, ці не ідзе хто з чужых. Ён не можа паказацца перад чужымі, хоць яны і добрыя людзі. Яны адразу ж пачнуць даходзіць, як удалося яму вырвацца ад новага пана. Што ім сказаць? А калі чутка аб ім дойдзе да Дракулы? Язэпка думаў, што пан напэўна да-

ручыў Дракулу сачыць за збеглым яго работнікам. А Дракула такі, што за грошы роднага бацьку прадасць.

І самае страшнае для Язэпкі было, што ён не можа дапамагаць матцы — хадзіць за яе на паншчыну, нават травы свінчаці не можа нарваць. Вядра вады не можа прынесці.

Для хатняй схованкі выбралі месца пад палацямі. Загарадзілі ступаю і завесілі посцілкаю. Цяпер, калі хто зарыпае варотамі, Язэпка кідаецца да акенца: хто там ідзе — свае ці чужыя? Старэйшыя да іх рэдка заходзяць. Часцей забягаюць да Параскі сяброўкі. Параска цвёрда запомніла матчыну просьбу не гаварыць пра Язэпку. «Калі ты скажаш каму,— навучала маці,— Дракула зноў забярэ Язэпа ў двор».

Трапіць у панскі двор — гэта была самая горшая кара для прыгоннага чалавека. Параска пра гэта ведае з першых гадоў свайго жыцця. Яна ўжо слаба помніць, як забіралі ў двор Язэпку, затое па Васільку адгаласіла разам з маткаю. Каб не мучыць доўга брата ў кутку пад палацямі, Параска стараецца хутчэй справадзіць сяброўак з хаты або сама бяжыць з імі на двор.

Аднойчы каля хаты спынілася падвода. Параска першая падбегла да акенца.

— Войт! — замахала яна рукамі на брата.— Да нас ідзе. Хавайся!

Язэпка нырнуў у сваю схованку.

— Ты ж толькі не кажы, дзе я, калі будзе пытацца,— прашаптаў ён сястры ўжо з-пад палацяў.

— З ім яшчэ нехта ідзе,— паведаміла сястра.— Чорны нейкі дзядзька, як цыган...

— Маўчы...

Скрыпнулі дзверы, і ў хату ўвайшоў войт Марка Вакуліч — пажылы мужык з шырокаю сіваю барадою. За ім паказаўся незнаёмы. Язэпка ўбачыў яго праз дзірачку ў посцілцы і крыху супакоіўся: у пана Жардзецкага такога чорнага слугі не было. Але ж хто гэта? Па вопратцы, відаць, нехта з паноў ці падпанкаў.

— Дзе маці? — запытаўся войт у Параскі.

— На рэчцы бялізну палошча.

— Пакліч.

— Зараз,— адказала Параска і выбегла за дзверы.

Войт з незнаёмым прыселі каля стала, пад абразамі. Войт зняў шапку.

— Мусіць, пан адкупнік, у гэтай хаце таксама мы не пажывімся,— сказаў войт, пакашліваючы ў бараду.— Тут і пры гаспадару было не густа. Галота, адным словам...

Пачуўшы словы «пан адкупнік», Язэпка зусім павесялеў. Значыцца, ён не ад пана Жардзецкага!

Адкупнік агледзеў убогі хатні скарб, скрывіўся.

— Але,— сказаў ён,— хароміна не багатая.— А потым матнуў галавою: — Дык што ж мне самому плаціць за яе падаткі? Вясною не было чаго ўзяць. А цяпер жа восень! А ўвосень, як кажуць, і верабей багаты.

— Багаты, ды не ўсякі,— ухмыльнуўся войт.— Надзел ва ўдавы забралі...

— Мяне не надзел цікавіць, а грошы на падаткі! — гарачыўся адкупнік.— Траха не ў кожнага знаходзяцца прычыны, каб не плаціць...

— У нас зямля няважная,— патрос барадою войт.— Лішняга даходу не дае. А за яе мужык адрабляе, як за добрую.

Адкупнік выскаліў белыя як часнок зубы:

— Ты што — супроць паншчыны? Пачакай жа, я пану Ясінскаму скажу...

Войт збянтэжыўся.

— Мне што,— адказаў ён,— пану я шчыра служу. Як магу.

Адкупнік па-прыяцельску паляпаў яго па плячы:

— Я пажартаваў!

— А ты паслухай, што людзі гавораць.

— Слухаю,— сказаў адкупнік.— Кожны дзень слухаю. Думаеш, мой хлеб — лёгкі?

— Можа, і не лёгкі,— згадзіўся войт,— затое выгадны.

— Каму?

— Табе. Ты ж з удавы нябось не возьмеш таго, што сам за яе ў казну паложыш.

Адкупнік з прыкрасцю паскуб сваю чорную рэдкую бараду.

— Вядома, не вазьму! Калі не мець барышу, то які гандаль тузацца з ёю. Няхай тады казна сама збірае свае падаткі.

— Навошта казне лішні клопат,— сказаў войт.— Яна мае гатовенькія падаткі. Колькі ўдава мусіць плаціць па закону?

— Тры рублі.

— Гэта за яе душу і за хату?

— Але. За зямлю цар падаткаў не бярэ. За зямлю пан бярэ.

— Ну, а колькі ты хочаш сыскаць з удавы?

— Хацяб рублёў пяць! З іншага мог бы лепшы барыш мець...

Войт зауматаў барадою:

— Нядрэнныя прыбыткі...

Адкупнік скрывіў свой смуглявы твар:

— Каб жа яны толькі ў маю кішэню сыпаліся. А то начальнікаў вунь колькі ў воласці, у павеце... Памагай, войт, сыскваць. Я цябе таксама не пакрыўджу...

— Баюся,— сказаў войт,— што і мая дапамога не дапаможа. У нас такіх, як удава Алена, паўсяла. Усе волі чакаюць. Не чуў там, каля начальнікаў ходзячы, што пра волю баюць?

— Ты што — волі захацеў? — усміхнуўся адкупнік.— Які ж ты войт?

— Мне-то воля менш патрэбна,— прызнаўся войт.— Але ж мужыкі толькі пра волю і думаюць. Ад рук пачынаюць адбівацца...

— Кажуць, воля ўсё ж выйдзе,— сказаў адкупнік.— А калі — не ведаю. Некаторыя паны ўжо згодны адпусціць мужыкоў, але без зямлі. Цар з імі спрачаецца. Кажа: а з чаго беззямельны мужык будзе падаткі плаціць казне? Ды ён без зямлі ўзбунтуецца, бяды наробіць. Чуў жа, можа, што ў другіх дзяржавах тварылася? Мужыкі нават каралёў з трону скідалі.

Войт перахрысціў сваю шырокую бараду:

— Не пры нас казана...

— Мужыка трэба трымаць моцнымі рукамі.

— Дык навошта ж тады даваць яму волю? — лыпаў вачыма войт.

Усе гэтыя справы наконт волі, паноў і цароў для яго галавы былі занадта складанымі. Калі ён слухаў мужыка, то ў душы варушылася нейкае спачуванне яму. Калі ж слухаў пана, то згаджаўся з панам. А калі адкупнік загаварыў пра каралёў, то і яны знайшлі ў ім свайго абаронцу. Яму шкада было і скінутых з трону каралёў.

Адкупнік расказваў далей:

— Тут справа не простая. Волю мужыку ніхто і не хоча даваць — ні цар, ні паны, ні мы з табою. Ды вось бяда: мужык сам ірвецца да волі. Яго і работаю душаць, і ў турму садзяць, і ў Сібір высылаюць, а ён — сваё права пра-

віць. Дык, можа, лепш заткнуць яму горла, каб не бунтаваў? А то, глядзі, знойдзецца сярод іх які-небудзь Амелька Пугачоў...

Войт зноў перахрысціўся:

— Божа збаў... Страшна падумаць.

— А табе што? — выскаліўся адкупнік.— Ты ж не пан.

— Усё роўна страшна. Хто іх, мужыкоў, разбярэ? Павесяць пана, а там і да падпанкаў, як яны кажуць, дабяруцца... Я-то, вядома, так не луплю іх, як цівун Дракула. Той дык мужыка і за чалавека не лічыць.

У хату ўвайшла Язэпкава маці.

— Добры дзень, людзі добрыя,— пакланілася яна гасцям, спыніўшыся каля парога.

Войт адказаў. А адкупнік адразу ж прыступіў да справы.

— Ну, у пару я прыехаў?

— Не ведаю...— няпэўна адказала гаспадыня.

— Грошы на падатак сабрала?

Маці вінавата апусціла вочы.

Адкупнік рыўком устаў з лаўкі, загаварыў больш строга:

— У жмуркі гуляць я не збіраюся. З цябе, гаспадыня, належыць казне тры рублі падатку і два рублі іншых расходаў. А ўсяго — пяць рублёў!

— Няма ў мяне, панок, грошай,— прагаварыла маці збялелымі губамі.— Войт жа ведае, як я жыву...

— Скупішся! — падскочыў да яе адкупнік.— Беднай удавою прыкідваешся!..

— Няма, панок. Каб я так жыла...

Адкупнік яшчэ раз абвёў шустрымі вачыма хату. І зноў нічога ў ёй не ўбачыў такога, за што б можна было ўчапіцца.

— Ну, добра,— спакайней сказаў ён,— няма грошай, давай збожжа.

— Якое ў мяне збожжа...

— Няма збожжа — давай каня, карову!

— Няма ў мяне ні каня, ні каровы...

— А што ж у цябе ёсць?

— Свіння толькі,— падказаў войт.

— Давай, паказвай свінню.

— Якая там свіння, дзядзька Марка,— здрыганулася маці.— Парася яшчэ...

— Паглядзім якая,— павесялеў адкупнік, выходзячы з хаты.

За ім пайшлі войт, маці і Параска.

Язэпка вылез са свае схованкі. «Дык вось хто гэты незнаёмы пан!» — думаў ён. Пра адкупнікоў ён ведаў. Пра іх часта гаварылі людзі, клялі іх апошнімі словамі. Але гэтага Язэпка бачыць першы раз. Гэта нейкі новы адкупнік. Няўжо ён забярэ апошнюю свінню?

Язэпка падышоў да акенца. Адкупнік стаяў каля хлеўчука, заглядваючы ў яго праз адчыненыя дзверцы. Потым адышоўся, пакруціў галавою:

— Худаватая... Прыйдзецца прыплаціць. Што ў цябе яшчэ ёсць?

— Нічога,— развяла рукамі маці.

— Ну, няхай маё прападае!.. Войт! Кліч суседзяў. Будзем вязаць. Вяроўкі ў мяне на возе.

Маці апусцілася на прызбе і сядзела скамянелая ад гора. Яна не плакала. Ведала, што ўсё гэта бескарысна. У адкупніка, як у пана, літасці няма.

Язэпка ўсё яшчэ не верыў, што адкупнік забярэ свінню. І толькі калі на двор зайшлі суседзі з вяроўкаю ў руках, ён убачыў, што адкупнік не жартуе.

Язэпка адвярнуўся ад акенца і моцна заплакаў.

## ЦАРСКАЯ ВОЛЯ

Раніцай у пачатку сакавіка войт Марка Вакуліч рэзка забарабаніў у акенца:

— Гаспадыня дома?

Язэпкава маці, Алена, паліла ў печы.

— Дома,— адгукнулася яна.

— Выйдзі на двор.

— Зараз, дзядзька Марка!

Алена ўскінула на плечы палатняную куртачку і выбегла з хаты.

На войту была новая з цёмнага сукна світка і новыя боты. «Мусіць, у царкву сабраўся,— падумала Алена.— Сёння ж нядзеля».

— Добры дзень, дзядзька Марка! — пакланілася яна.

— Добры, кабеціна, добры...— адказаў войт, пагладжваючы шырокую бараду.— І сонейка вунь з-за хмар выглядвае. Вясна ідзе, дзякаваць богу.

— Але ж...

«Што гэта сталася з войтам? — дзівілася Алена.— Ніколі ж такім ласкавым не заходзіў на двор?»

— Уходжвайся барджэй, кабеціна,— сказаў войт,— ды ідзі ў царкву.

— А што там у царкве, дзядзька Марка?

«Звычайна ж у царкву ходзяць без войтавага загаду,— падумала Алена.— Царква — не прыгон».

— Воля ад цара-бацюхны прыйшла! — адказаў войт.— Бацюшка Сіланцій чытаць будзе царскі маніфест. Прыходзь!

Войт павярнуўся і пайшоў да суседзяў. Алена так і застыла на месцы здранцвелая.

На вуліцы ўжо чуліся галасы:

— Воля ад цара выйшла! Людцы! Вот радасць!

З хат павыбягалі старыя і малыя. Старыя хрысціліся, маладыя цалаваліся адзін з другім.

«Вось і збылося тое, чаго так доўга людзі чакалі»,— падумала Алена. Слёзы пырснулі з яе вачэй. Яна ўбегла ў хату, пабудзіла Язэпку:

— Сынок! Воля выйшла!

Язэпка працёр кулакамі вочы.

— Якая воля?

— Цар даў нам волю!

Язэпка не паверыў:

— Хто сказаў?

— Войт, сынок. Загадвае вунь усім у царкву збірацца. Уставай хутчэй. Дапальвай у печы. А я пайду.

З Язэпкі сон як рукой зняло.

— А я што? — усхапіўся ён з палацяў.— І я пайду!

— Ці ж можна табе, сынок? Мо пачакай яшчэ...

— Чаго чакаць? Гэта ж не падман?

— Не,— пацвердзіла маці.— Сам войт сказаў.

— А калі і праўда цар даў нам волю, то чаго цяпер хавацца ад людзей?

— Хто ж яго ведае. Пайду паслухаю, што поп скажа. Няўжо мы, сынок, дачакаліся-такі волі? Аж сэрца замірае...

Маці пачала збірацца ў царкву.

— Дачушка, уставай,— будзіла яна дачку.— Паглядзі, дзіцятка, што на вуліцы робіцца!

Параска прачнулася. Маці прытуліла яе да сябе.

— Волі, дачушка, дачакаліся! Мы ўжо вольныя! Цар волю нам даў.

Параска не зусім разабралася спрасонку, аб чым гаворыць маці. Але, бачачы, як радуецца яна і які вясёлы сёння брат, зразумела, што адбылося нешта важнае і добрае.

— Скора і Васілёк наш вернецца,— сказала маці.— Толькі бацька-небарака не дачакаўся...

Язэпка пасёрбаў гарачай заціркі і заспяшаўся са зборамі. Лапці ў яго былі. Світка таксама. Не было толькі бялейшых ануч.

Маці ўсё яшчэ не адважвалася ўзяць яго з сабою. Але потым вырашыла: няхай, што будзе! Калі выйшла воля ўсім, то і яго не абміне. Яна толькі сказала са спачуваннем:

— Ці дойдзеш ты, сынок, да царквы?

— Дайду! — усклікнуў Язэпка.— Дабягу нават.

— Ты ж такі слабенькі. Крывінкі на табе няма...

Язэпка і праўда меў выгляд хворага чалавека. Каля паўгода прасядзеў ён без святла і сонца ў хатняй турме. Колькі за гэты час перагаварылі яны з маткаю аб волі! Здаецца, толькі чаканая воля і трымала яго на свеце ўсе апошнія гады.

Ды не толькі яны,— пра волю людзі гаварылі скрозь. І чакалі яе з дня на дзень, як цяжкахворы чакае ачунку. Цярплівасць народная трымалася цяпер толькі на цвёрдай веры, што воля ўжо ёсць, яна блізка, недзе зусім побач, ды вось праклятыя паны ўсё яшчэ нечага марудзяць, схавалі волю ў куфрах каваных, замуравалі ў скляпах цёмных. Але вось-вось дазнаецца пра іх злачынства добры цар-бацюхна, возьме ён меч сталёвы, разаб'е куфры каваныя, разбурыць скляпы мураваныя ды выпусціць волю на волю...

Па вуліцы ішлі людзі, апранутыя ў самае лепшае адзенне: маладыя мужыкі ў тое, у чым да вянца ездзілі, старыя дзяды ў тое, што на смерць прыхавалі. Здалёку бомкаў царкоўны звон.

Неўзабаве да людзей далучыліся і Язэпка з маткаю. Усе, каго яны сустракалі, былі так заняты гамонкаю аб волі, што ніхто, здавалася, і не заўважаў Язэпку. Ды, відаць, многія і не пазнавалі хлопца. Ужо тры гады як пакінуў ён сяло. Тады Язэпка быў яшчэ дзіця. А зараз з удавою Аленаю ішоў падлетак роўны з маткаю. Яго пазналі

толькі блізкія суседзі. Яны шчыра парадаваліся, што на рэшце Язэпка адбыў свой доўгі прыгон і цяпер будзе памочнікам матцы. Больш гаворкі пра яго і не было. Кожны думаў і гаварыў пра волю. Якая яна, гэтая воля? Што сказаў цар пра зямлю?

Як хораша сёння на душы ў Язэпкі! Ён думае, што цяпер будзе рабіць вольным чалавекам. Перш-наперш ён пабяжыць у двор да брата. Там знойдзе дзеда Міхаля і ўсіх, усіх знаёмых. Як ён парадуецца разам з імі! Потым ён пойдзе ў лес, на поле, на рэчку... Потым, як падсохне, ён будзе капаць зямлю, рабіць грады. Шкада, што пан адабраў у іх надзел. Цяпер ён мог бы сам урабляць яго. А можа пан адумаецца ды верне ім зямлю?

Шмат прыгожых мараў мроілася ў Язэпкавай галаве!

Невялікая драўляная царква, што стаяла на ўзгорку за сялом, была запоўнена так, што Язэпку з маткаю ў ёй і месца не знайшлося. Яны спыніліся каля дзвярэй. З кліраса[1] чулася знаёмая песня: «Божа, цара храні, слаўнаму доўгія дні дай на зямлі...» Потым песню падхапілі людзі. Яны славілі цара-бацюхну, які нарэшце-такі пачуў іх просьбы і малітвы!

Калі песня скончылася, з царскіх варот[2] выйшаў поп Сіланцій, у залочанай рызе, з кадзілам у правай руцэ і з кніжкай — у левай. Памахаўшы кадзілам, ён гукнуў глухім басам:

— Праваслаўныя! Дзеці мае! Вялікі гонар выпаў на маю долю. Я першы апавяшчу вам у гэтым божым доме свяшчэнныя словы аўгусцейшага нашага імператара Аляксандра Мікалаевіча... Слухайце ўсе! Слухайце!

Царкоўны стараста Лявон забраў у папа кадзіла. Поп кашлянуў раз-другі, пальцам падбіў уверх вусы, якія закрывалі яму рот, і, разгарнуўшы кніжку, пачаў чытаць нараспеў:

«Божаю міласцю, мы, Аляксандр Другі, імператар і самадзержац усерасійскі, цар польскі, вялікі князь фінляндскі і іншая, і іншая, і іншая абвяшчаем усім нашым вернападданым —

Божым правідзеннем і свяшчэнным законам прастоласпадчыннасці быўшы заклікаsuccessively на прабацькаўскі ўсерасійскі прастол, у адпаведнасць гэтаму прызванню мы па-

---

[1] Клірас — месца для царкоўнага хору.

[2] Царскія вароты — дзверы, з якіх поп выходзіць да сваіх прыхаджан.

клалі ў сэрцы сваім зарок абнімаць нашаю царскаю любоўю і апекаю ўсіх нашых вернападданых усякага звання і стану, ад таго, хто дабрародна ўладае мечам на абарону Айчыны, да таго, хто сціпла працуе рамеснай прыладаю, ад таго, хто адбывае вышэйшую службу дзяржаўную, да таго, хто праводзіць на полі баразну сахою ці плугам...»

Прачытаўшы такі доўгі сказ, немалады ўжо бацюшка Сіланцій закашляўся і засопся, як кавальскі мех. Бадай кожнае другое слова гэтага даўжэзнага сказа пачыналася з вялікай літары, і поп браў яго на поўны голас, як малітву.

Язэпка не ўсё чуў, што чытаў поп Сіланцій. Асобныя словы ён выгаварваў надта глуха або скорагаворкаю, іншыя заглушаліся каплюнамі, якіх у царкве набралася нямала. З усіх бакоў на іх сыкалі і шыкалі, і гэта таксама перашкаджала слухаць.

Але з царскага маніфеста можна было зразумець, што сапраўды прыгонным людзям даецца воля. Як будуць жыць вольныя людзі без пана, хто дасць ім зямлю — у маніфесце не гаварылася. А ўсе ж слухачы маніфеста больш за ўсё цяпер чакалі адказу на такое пытанне. Тое, што цар даў волю, яны даўно ведаюць. Але якую волю? Праўда, у маніфесце некалькі разоў упаміналіся нейкія палажэнні. Але ніхто не мог разабрацца, што гэта і да чаго. «У сілу азначаных новых палажэнняў,— чытаў поп,— прыгонныя людзі атрымаюць у свой час поўныя правы вольных сельскіх абывацеляў».

А калі гэта будзе?

Наступныя царскія словы таксама не радавалі: «Памешчыкі, захоўваючы права ўласнасці на ўсю зямлю, што ім належыць, прадастаўляюць сялянам, за ўстаноўленыя павіннасці, у пастаяннае карыстанне сядзібу і, звыш таго, для забеспячэння быту і выканання абавязкаў іх перад урадам, вызначаную ў палажэннях колькасць палявой зямлі і іншых угоддзяў... Карыстаючыся гэтым зямельным надзелам, сяляне за гэта абавязаны выконваць у карысць памешчыкаў вызначаныя ў палажэннях павіннасці...»

Дык чым жа новая воля адрозніваецца ад старой няволі? Такая ці падобная думка не пакідала кожнага, хто слухаў царскі маніфест. Многа ў ім слоў, а ніводнага светлага, якое дайшло б да сэрца.

А калі нарэшце поп Сіланцій скончыў чытанне, адразу ж пачуўся голас з пярэдніх радоў:

— Чаму пра зямлю нам нічога не вычытаў, бацюшка?

— Як гэта не вычытаў? — здзівіўся поп.— Чытаў і пра зямлю.

— А мы нешта не чулі... Ці нельга было б ясней прачытаць?

— Зараз, праваслаўныя,— адказаў поп, адкашляўшыся.— Цар-бацюхна і пра зямлю клапоціцца. Толькі пра гэта ясней сказана ў асобных «Палажэннях».— Слухачы павесялелі. Значыць, ёсць надзея і на зямлю. Поп падаў знак, і дзячок з пеўчымі зацягнулі «Божа, цара храні».

Поп тым часам выйшаў за царскія вароты. Чуваць было, як ён там доўга яшчэ трубіў носам і кашляў.

Але вось дзячок скончыў велічанне цара-бацюхны, і ўслед за гэтым да народа зноў выйшаў поп Сіланцій.

— Слухайце далей царскія словы! — абвясціў ён і пачаў чытаць «Палажэнне» аб умовах вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці.

З «Палажэння» Язэпка зразумеў, што, апрача волі, цар усё ж нічога больш не абяцае. Ніякай палёгкі мужыкам тут няма. Грамата гэтая была доўгая. Слухаць яе стоячы было цяжка. Словы не вязаліся адно з другім, не мелі канкрэтнага зместу. Язэпка спадзяваўся пачуць ясныя словы: «Вось я, цар такі і такі, даю прыгонным людзям волю. Прыгон касуецца. Зямля пераходзіць да тых, хто на ёй жыве і хто яе ўрабляе... Пан не мае права спаганяць з людзей за зямлю ні аброкам, ні адработкамі». Аднак ні ў першай, ні ў другой царскай грамаце такіх простых і ясных слоў Язэпка не пачуў. Наадварот: выходзіла, за надзелы трэба плаціць панам аброк або адрабляць гэтак жа, як і раней. І толькі праз дзевяць гадоў пан страціць права на сялянскія надзелы. Але за гэты час сяляне павінны сабраць і аплаціць панам не менш як чацвёртую частку кошту сваёй зямлі. Рэшту — тры часткі — заложыць казна. Тады сяляне будуць праз сорак дзевяць гадоў сплачваць казне... Цяпер жа, у бліжэйшыя два гады, гаварылася ў «Палажэнні», ніякіх змен па ўвядзенню новых парадкаў рабіць не дазваляецца. Гэты час пойдзе на складанне спісаў і планаў зямельнай рэформы...

Вось табе і воля!

Гэтак жа, як Язэпка, зразумелі царскае «Палажэнне» і іншыя слухачы. Таму, калі поп скончыў чытанне, кашлюны закашлялі мацней. Пачуўся трывожны шум...

— Гэта ўсё? — дапытваліся ў папа пярэднія.

— Усё,— адказаў поп да рэшты сарваным голасам.— Іншыя «Палажэнні» для вас не падыходзяць.

— Чаму не падыходзяць? Можа, там што лепшае пра зямлю сказана?

— Тое ж самае сказана,— тлумачыў поп.— Толькі там напісана для іншых губерняў, дзе зямлёю карыстаюцца цэлым вобчаствам, не так, як у нас.

— Дык што ж змянілася? Значыцца, будзем рабіць на пана так, як і рабілі?

— А дзе ж воля? Цар не мог так напісаць. Паны падмянілі царскую грамату!

— Вядома, падмянілі!

Крык і шум нарастаў. Пярэднія рады наступалі на папа.

— Бацюшка! — крычалі мужчыны і бабы.— Ты прачытай нам сапраўдную царскую грамату! А гэта — панская грамата!

— Няма другой граматы! — адмахваўся поп ад людзей кніжкаю, якую толькі што чытаў.— Вы што — не верыце мне?

— Не верым! — выгукнуў нехта з натоўпу.— Ты руку пана трымаеш...

Поп вылупіў вочы, пачырванеў. Потым зняў з сябе крыж, пацалаваў.

— Клянуся святым крыжам... Бог пакарае таго, хто не верыць свайму пастыру духоўнаму! Я заклікаю вас, прыхаджане, вераю хрыстоваю: не слухайце падбухторшчыкаў! Маліцеся богу, дзеці мае, і слухайце духоўнага айца свайго. Цяпер вы вольныя і за гэта маліцеся за цара нашага аўгусцейшага памазаніка божага Аляксандра Мікалаевіча...

Махаючы крыжам і маніфестам, поп падаўся назад, за царскія вароты. Следам за ім патрусіў і дзячок.

— Мужыкі! — закрычаў на ўсю царкву войт Марка.— Няма чаго шумець у святым месцы! Гэта вам не карчма! Пайшлі дахаты! Лявон, зачыняй царкву!

Ашаломленыя пачутым, людзі выходзілі на цвінтар [1]. Тут збіраліся ў гурткі, гаманілі, спрачаліся. Тыя, хто не разабраўся ў царскім «Палажэнні», распытваліся ў іншых. І ніхто толкам не ведаў: вольны ён чалавек ці такі ж, як быў? Цяпер пан не мае права біць мужыка, прадаваць яго, як жывёліну. Значыць, мужык быццам вольны. Але ж ён

---

[1] Цвінтар — дзядзінец пры царкве, двор.

не мае права пакінуць свайго пана, адчапіцца ад яго. За зямлю, на якой мужык сядзіць, ён мусіць яшчэ дзевяць гадоў рабіць тую ж зненавідную паншчыну. Праўда, называцца гэты мужык ужо будзе не прыгонным, а часоваабавязаным. Якая ж гэта воля? Праз дзевяць гадоў гаспадаром над вызваленым мужыком стане царская казна. Сорак дзевяць гадоў ён будзе мець справу з казною — выплачваць ёй за свой надзел. Але ж казна заложыць тры чвэрці кошту надзелу толькі за таго мужыка, які сам збярэ і заплаціць адну чвэртку. А хто збярэ такія грошы? Зямлю паны цэняць дорага. Не толькі чвэрткі — дзесятай долі не аплаціць за яе бедны мужык. Адным словам, куды ні кінь, дык клін. Не волю прынёс царскі маніфест, а новую няволю...

Нагаманіўшыся, мужчыны вырашылі, што сапраўды гэта не царскі маніфест. Такую недарэчную волю, відаць, прыдумаў сам пан Ясінскі. Вельмі ж яна абараняе яго панскія правы. Трэба пасладь ганцоў у іншыя вёскі і сёлы распытацца, якую волю ім далі.

Ганцы былі выбраны тут жа каля царквы, і людзі пачалі разыходзіцца.

## ДАЛОЎ ПАНШЧЫНУ!

Усе ганцы прынеслі адну невясёлую вестку: пра такую ж волю чыталі і ў іншых цэрквах... Значыць, паны згаварыліся. Ды не дзіва, што яны згаворацца!

А калі згаварыліся паны, то чаму не зрабіць тое ж самае мужыкам?

Далоў паншчыну! Няхай пан сам урабляе сваю зямлю, калі не хоча аддаць яе людзям. Цяпер воля, пан не мае права запрагаць мужыка ў ярмо.

Гэтая простая ісціна лёгка дайшла да старых і малых. Язэпку таксама яна ўсхвалявала сваёю праўдаю. І маці шчыра прыняла яе да сэрца. Шкадавалі яны толькі, што няма ў іх зямлі, як у суседзяў. Адной сядзібы мала, тым больш цяпер, калі вярнуўся Язэпка, ды і Васілёк, відаць, у пана на службе не захоча заставацца, хоць бы і вольным парабкам. Вельмі ж даўся ў знакі ўсім пан Ясінскі і яго цівун Дракула.

Тым часам у маёнтку рыхтаваліся да сяўбы. Работы з кожным днём прыбаўлялася. Але ўсё цяжэй было войту

выганяць людзей на паншчыну. А потым знайшліся першыя, што не выйшлі і зусім... Панскія палеткі пусцелі.

— Чаго мне першаму перціся! — хітра адказвалі ґалынаўцы войту.— Пойдуць людзі, пайду і я...

Памагаць войту прыйшоў сам Дракула. Але і яму адказвалі тое ж самае:

— Што мне больш трэба, як людзям? Як усе, так і я...

Паспрабаваў цівун па прывычцы гразіць бізуном. І гэта не памагло.

— Цяпер мы вольныя! — адказвалі яму мужыкі.— Бізун свой ты выкінь. А не — будзем здачы даваць!

Напалоханы цівун і праўда схаваў бізун за пазуху. Гэта здарылася ўпершыню ў яго жыцці. Дык вось як загаварылі з ім тыя, хто яшчэ некалькі дзён таму назад кідаўся яму ў ногі, як толькі бачыў занесены над сабою бізун! Цівуноў бізун пачынае траціць сваю чарадзейную сілу. Чым жа тады загоніш мужыка на паншчыну? Не, сапраўды недарэчны маніфест выдаў цар Аляксандр II! Біць мужыка без дазволу суддзі і прыстава забараніў, а паншчыну яшчэ на дзевяць гадоў адцягнуў.

Зайшоў цівун і да Язэпкавай маткі.

— Што, і ты з бунтаўшчыкамі згаварылася? Выходзь на работу!

Алена развяла рукамі:

— Паночак, ці ж я горшая за людзей? Ніхто не ідзе, дык чаму ж мне трэба? Што ў мяне зямлі больш, як у людзей? Сам жа, панок, ведаеш: адзін агарод у мяне астаўся... Можа б, закінуў слоўца перад панам, каб зямліцу вярнуў...

Язэпка стаў перад цівуном.

— Нікуды маці не пойдзе!

Цівун утаропіўся ў Язэпку:

— А ты хто такі?

А потым раптам усклікнуў:

— А-а, стары знаёмы! Адразу я цябе і не пазнаў! Змізарнеў нябось у новага пана...

Язэпка прапусціў міма вушэй цівуновы словы.

— Калі брата майго Васіля пусціш дахаты?

— Бач ты яго! — дзівіўся цівун.— Чаму гэта я павінен пускаць твайго брата?

— Як чаму? Воля нам выйшла!

— Выйшла, ды не дайшла,— ухмыльнуўся Драку-

ла.— І твайму брату і табе трэба яшчэ два гады адслужыць у маёнтку. Тады і выйдзе вам воля. Ты хто такі?

— Чалавек,— адказаў Язэпка, успомніўшы старога, які смела заявіў пану Жардзецкаму: «Я — чалавек, а не жывёла!»

— Ты — дваровы чалавек! — павысіў голас цівун Дракула.— Належыш пану Жардзецкаму. Па царскаму маніфесту ўсе дваровыя застаюцца пры дварах яшчэ на два гады. Зразумеў?

Язэпка прамаўчаў. Пра гэта ён чуў. Але яму ўсё яшчэ не верылася, што іменна так напісана ў царскім маніфесце.

— Пан Жардзецкі,— цівун з пагрозаю патрос пальцам,— даўно цябе шукае. Думаў, ты загінуў дзе. Аж вунь яно што: ты хаваешся ад свайго законнага пана!

Апошнія дні Язэпка сяды-тады ўспамінаў свайго пана. Хаця б не выдаў яго гэты панскі падліза. Трэба неяк збіць яго з тропу.

— Ты нічога не ведаеш, пан цівун, калі так гаворыш,— стараючыся трымаць сябе спакойна, сказаў Язэпка.— Праўда, я збягаў ад пана. Потым вярнуўся. А цяпер, як выйшла воля, пан сам адпусціў мяне...

— Добра, калі так,— прамармытаў цівун.— Хоць я нешта не веру, каб пан Жардзецкі распускаў сваіх дваровых...

Цівун пайшоў, злосна ляснуўшы дзвярыма. Маці з плачам кінулася да Язэпкі:

— Я ж табе казала, дзіцятка: не пакідай схованкі! Чула маё сэрца...

Язэпка і сам адчуваў бяду. Але яму хацелася супакоіць матку, і ён сказаў:

— Не паедзе ж Дракула за блізкі свет да пана Жардзецкага заяўляць пра мяне...

— Чорт яму верыў!

— Дракулу цяпер не да мяне.— Язэпка знаходзіў новыя доказы ў сваю карысць.— Бачыш, вунь на паншчыну не можа людзей выгнаць.

— Каб яго ўжо ў магілу загнала, недаярка...— скляла маці цівуна.— І калі ён ад нас адчэпіцца!

— Я заб'ю яго! — сцяўшы зубы, усклікнуў Язэпка.— Далібог!..

— Што ты, сынок! Апамятайся!

— Я даўно пра гэта думаю...

Маці з дакорам паглядзела на сына:

— Дзіця ты яшчэ, дык так і гаворыш. Калі ты заб'еш Дракулу, то і цябе заб'юць.

— Хто?

— Знойдзецца каму. Былі, сынок, такія гарачыя галовы. І нямала...

— Дык што ж, цярпець нягодніка?

Маці ўздыхнула:

— Цярпець цяжка, а рады няма. Дракула служыць пану. А пан што хоча, тое і робіць.

— Цяпер не будзе рабіць!

— Чаму не будзе? Хто яму забароніць?

Язэпка ўспомніў казку старога пастуха. «Але нарадзіўся на свеце ясны розум і пачаў расці,— гаварылася ў казцы.— Вось як вырасце той ясны, нібы сонейка, розум ды пачне свяціць людзям у вочы, дык тады ўсе пазнаюць праўду, падымуцца ў згодзе, як адзін чалавек, прагоняць панскую нечысць і зажывуць на зямлі, нібы ў раі...»

«А можа, ён ужо вырас, той ясны розум?» — думае Язэпка. Праўду людзі ўжо даўно пазналі. Не хапае толькі згоды, каб падняцца на паноў ды падпанкаў усім, як адзін чалавек. Калі ж прыйдзе да людзей тая згода?

Успомніўшы казку, Язэпку захацелася пабачыць дзеда Міхаля.

Ён сказаў пра гэта матцы.

— Схадзі, сынок,— сказала маці.— Дракула ўжо ўсё роўна ведае пра цябе. Там з Васілём убачышся.

— А дзед Міхаль жыве яшчэ?

— Хто яго ведае. Даўно я не бачыла яго. Калядамі яшчэ жыў. Ссівеў, небарака, як той голуб. Чуе ўжо дрэнна. Шкада яго. Добры чалавек. Ды бог шчасця не даў. Так і звекаваў бабылём. Ні дзяцей, ні ўнукаў...

На другі дзень у сяле было ціха з самага ранку. Ні войт, ні цівун не ганялі на паншчыну. Людзі радаваліся. Збіраючыся на вуліцы ў гурткі, яны давалі волю сваёй фантазіі: «Цяпер, казалі, прыгону канец! А што пан зробіць, калі ніхто не выйдзе на работу? У царскім маніфесце ясна сказана: біць і прадаваць мужыкоў паны не маюць права! Мусіць, разважалі мужчыны, гэта такі сапраўдныя царскія словы. А ўсе іншыя дабаўлены самімі панамі. Ну, а калі паны такія хітрыя, то няхай ведаюць, што і мужыкі не дурныя. Мужык быў дурны, пакуль волі не меў. Нікому тады ён не мог нават слова сказаць. Бо хто хацеў слухаць му-

жыка? Пан? Цівун? Станавы прыстаў? Нават войт Марка Вакуліч і той адварочваўся ад свайго брата — мужыка».

Язэпка выйшаў у маёнтак ранічкай. Але пакуль прайшоў вуліцу, сонца ўжо было высока. Ён спыняўся то каля аднаго гуртка, то каля другога. Хацелася паслухаць, аб чым гавораць людзі, ды і самому ўставіць адно-другое слова. Як жа не так! Паны і падпанкі добра ўеліся яму ў косці. Ды ўрэшце Язэпка ўжо не лічыў сябе малым. Ён падумваў нават падацца куды-небудзь да багатых людзей на службу або ў заработкі.

Гэтую зіму яны пражылі вельмі цяжка. Добра, што матцы ўдалося насушыць увосень апенек... Дачакацца б цяпер да лебяды.

За сялом Язэпка прыбавіў шагу. Дарога ўжо ачарсцвела пасля вясновай растокі. А на пешаходнай сцежцы дык і зусім было суха. «Скора араць пачнуць»,— падумаў Язэпка. З якою б ахвотаю ён выйшаў з сахою на сваю палосу! Раней ён яшчэ не араў: не мог падымаць сахі на паваротах ды і ў разоры трымаць яе не хапала сілы ў малога. Цяпер жа, хоць і слабы, думае Язэпка, а не збіўся б з разоры.

Дарога праз лясок таксама радавала Язэпку. Тут яшчэ дзе-нідзе, у нізінах, паблісквалі брудныя астраўкі снегу. Затое на ўзгорках ужо красавалі пралескі. Вось-вось зазелянеюць бярозы.

Сядзіба пана Ясінскага ляжала пры рэчцы. Язэпку падабалася гэтая мясціна, ціхая, утульная. Тут ён пражыў цэлых тры гады і ведае, дзе які куст расце, дзе якія краскі цвітуць. Ён аж заззяў ад радасці, калі ўбачыў першыя на прырэчным поплаве кветкі лотаці. Яшчэ дзень-два, і яны ўсцелюць густым жоўтым дыванам увесь луг.

Дзед Міхаль жыў на ўскраіне двара. Яго дашчаная хатка, уцепленая знадворку кастрыцаю, добра вядома Язэпку. Ён і пайшоў туды адразу. «Дзед,— думаў ён,— у такі час можа быць толькі ў двух месцах: дома або на свінарні».

Дзед якраз быў дома. Ляжаў на сваёй печы-ляжанцы, накрыты старою, латанаю коўдраю. Галава дзедава, як здалося Язэпку, яшчэ больш пасівела. Худы маршчыністы твар зарос белым шчаціннем. Толькі такія знаёмыя, добрыя вочы па-ранейшаму пазіралі на свет сумна і дакорліва.

Язэпка даў «дзень добры ў хату». Дзед адказаў, пры-

глядаючыся да нечаканага госця. Раптам вочы яго пацяплелі.

— Язэп! — прыўзняўся ён.— Гэта ты?

— Я, дзядуля.

— Жывы і здаровы?

— Але, жывы і здаровы.

— Ай, радасць якая! З твару толькі зблажэў. Ці не хварэў?

Дзед доўга прыглядаўся да свайго любімага падпаска. І ўпэўніўшыся, што перад ім не здань і што ён не спіць, крэхчучы, пачаў падымацца з ляжанкі.

— Нездаровіцца табе, дзядуля? — запытаўся Язэпка.

— Але, унучак. Мусіць, паміраць трэба.

— Што ты, дзед! — запярэчыў Язэпка.— Вясна вунь прыйшла. Скора ў поле пагоніш.

— Баюся, ці ўдасца сёлета... Нешта вельмі ж у бакі водзіць. Бадай, сам Дракула бізуном мяне не падыме.

Дзед спусціў ногі з ляжанкі, ахінуўшы плечы коўдраю.

— Садзіся, Язэпка,— паказаў ён рукою на малы ўслончык каля печы.

— Нічога, пастаю.

— Ну як жа ты? Адкуль бог прынёс?

— З дому.

— Што, новы пан адпусціў?

А калі дзед даведаўся, што было з Язэпкам, ён зусім ажывіўся:

— Малайчына! Добра зрабіў. Я некалі таксама ўсё хацеў уцячы. Ды баяўся. А ты — смелы! Глядзі толькі, каб не вярнуў ён цябе назад! Верне — ліха не абярэшся...

— Цяпер жа, дзеду, воля...

Дзед раптам скрывіўся, быццам ад болю:

— Воля то воля, ды калі яна будзе. Два гады яшчэ дваровым у ярме хадзіць. Ад прыгону асвабадзілі, ды зноў пад пана пасадзілі...

— Але прадаваць нас цяпер паны не вольны! — з радасцю сказаў Язэпка.— І забіваць на стайнях не вольны.

— Не ведаю, унучак, як яно будзе. Я ўжо так нагараваўся за свой век, што і не верыцца, каб нашаму брату палепшала калі. Не будзе над намі пана Ясінскага, дык будзе іншы чорт. А ўсе чэрці — аднае шэрсці.

— Нашы ўзбунтаваліся,— пачаў расказваць Язэпка.— Не выйшлі на паншчыну. Дык ведаеш, дзядуля: сам Дракула не даў рады! Хацеў бізуном выганяць, як раней.

А яму сказалі: «Кінь бізун, цяпер мы — вольныя!» Ну, ён і абвяў, падагнуў хвост.

Дзед дужа радаваўся такой навіне. Дракула падагнуў хвост! Цуд!

— Гэта ж — жывая казка! — дзівіўся дзед, ківаючы сівою галавою.— Наш брат, мужык, толькі ў казках бярэ верх над панамі ды падпанкамі. А тут — Дракула падагнуў хвост! Кхе, кхе...— закашляўся стары ад радаснага хвалявання. Потым сказаў: — Ты не чуў казкі пра Рымшу?

— Не, дзядуля,— адказаў Язэпка.— Такое слова першы раз чую. Раскажы!

— А маеш час слухаць?

— Маю.

— Ну, дык слухай. Яе мне надоечы жабрак адзін расказваў. Толькі пачакай, закуру.

Дзед набіў люльку махоркаю, дастаў вугольчык з ляжанкі, прыкурыў. Моцная махорка прачысціла дзедава горла, і ён з ахвотаю расказаў Язэпку казку пра смелага і кемнага хлопца Рымшу, які адпомсціў пану за здзекі з прыгонных людзей.

Слухаючы дзеда, Язэпка ўяўляў сябе героем казкі і разам з ім выгукваў: «Што гэта, пане: бяроза ці лаза? Я ж прадаў табе вала, а не казла!» Калі Рымша з'яўляўся да пана як лекар ці купец ды лупіў яго сваёю папліскаю, Язэпка аж падскокваў ад радасці. Вось бы паказаць такую папліску сам-насам пану Ясінскаму ці пану Жардзецкаму! Шкада, вядома, што такое толькі ў казках бывае. Ды хоць душу пацешыш.

Язэпку хацелася расказаць казку пра слаўнага Рымшу матцы, і ён стараўся запомніць яе слова ў слова. «Можа, калі дзядзьку Рыгора ўбачу,— думаў ён,— раскажу і яму. Дзядька Рыгор, вядома, з прыемнасцю паслухае такую казку. Рымша — той адпомсціў бы і за яго раны, каб сустрэўся з панам Жардзецкім».

Дзед стаміўся седзячы і зноў лёг на сваю мулкую пасцель.

— А брат твой — добры падпасак,— пахваліў ён Васілька.— Такі ж паслухмяны і старанны, як і ты. Ты яшчэ не бачыў яго?

— Не.

— Ён, мусіць, там, у свінарні.

— Я схаджу да яго, дзядуля.

— Схадзі, унучак. Я падрамлю трохі. Нешта на сон

пацягнула. Зайдзі потым, я табе новую казку раскажу — пра асілка Ільюшку.

Язэпка сустрэўся з братам на свіной кухні. Васілёк адразу не пазнаў яго. Усё прыглядаўся падазрона, шморгаючы носам: брат гэта ці не брат? Ён быў такі ж бялявы, як і Язэпка. Толькі крыху ніжэйшы ростам. Абуты і апрануты, як і ўсе дваровыя падлеткі: у лапцях, у шэрай латанай світачцы.

— Дадому хочаш? — запытаўся Язэпка ў брата.

— Дракула не пускае,— адказаў Васілёк.

— А пра волю чуў?

— А як жа,— ажывіўся Васілёк.— Чуў.

— Хто табе сказаў?

— Усе кажуць.

— А нам поп у царкве чытаў,— пахваліўся Язэпка.— І я хадзіў слухаць.

— А дзе ты быў дагэтуль? Па табе маці ўсё плакала...

Язэпку не хацелася адказваць на такое пытанне.

— Быў у другога пана,— сказаў ён.— Потым дома...

Васілёк больш не распытваўся, дзе быў яго брат. Ён думаў аб сваім, набалелым. Яму хочацца дахаты. Ой, як хочацца! Дракула сказаў, што дваровыя яшчэ два гады павінны служыць пану. Цяпер Васілёк лічыць дні. А яны ідуць так марудна!

— Не б'е Дракула? — запытаўся Язэпка.

— Бывае, што б'е...

— Ну, нічога,— супакоіў Язэпка брата,— цяпер біць не мае права.

І раптам успомніўшы дзедаву казку, з радасцю прагаварыў:

— Вось каб на іх Рымша падскочыў! Табе дзед Міхаль не расказваў казку пра Рымшу?

— Расказваў,— павесялеў Васілёк.— Як ён свайго пана паплёскаю лупіў... Ну і даваў!

— Дзед дакляраваў мне яшчэ адну казку расказаць,— сказаў Язэпка.— Пайду зараз да яго. А ты, Васіль, пацярпі яшчэ трохі... Маці плача, думае, што цябе тут б'юць. Ты лепш старайся, каб не чапляліся. Два гады якнебудзь адмучышся. А там будзем разам. Я-то, можа, дзе служыць пайду. Можа, да якога купца наймуся. А ты, як захочаш. Каб была зямля, то жылі б дома...

З сумным сэрцам пакінуў Язэпка брата і пайшоў да дзеда слухаць казку пра асілка Ільюшку.

Дзён праз тры пасля бунту ў Галынаўку прыехаў станавы прыстаў са стражнікамі. Войт сагнаў людзей на сход.

Станавы, малады чалавек гадоў каля трыццаці, са светлымі тонкімі вусікамі, пакруціўся перад людзьмі, памахваючы нагайкаю, і запытаўся:

— Хто не хоча выходзіць на паншчыну?

— Усе не хочам! — адказала яму з дзесятак галасоў.

Станавы па-начальніцку глянуў на войта:

— Хто гэта сказаў?

Войт пачаў пералічваць, чые галасы ён пачуў. Але пакуль лічыў, галасы ўсё прыбаўляліся. Ён збіўся з ліку і махнуў рукою:

— Яны, ваша благароддзе, і праўда ўсе не хочуць...

Станавы замітусіўся:

— Мы знойдзем падбухторшчыкаў! Я арыштую іх!

— Тады, пан прыстаў, усіх арыштоўвай! — параіў малады хлапец з шавялюрай, якая выбівалася з-пад аблезлай рыжай шапкі. І ён плюнуў сабе пад ногі.

— Узяць яго! — закрычаў збянтэжаны прыстаў.

Стражнікі схапілі хлопца, заламалі яму рукі назад.

Станавы сціснуў у руцэ нагайку. «Якое нахабства,— думаў ён.— Пана не слухаюць і законную царскую ўладу не паважаюць!»

І праўда: было ад чаго бянтэжыцца прыставу. Едучы ў Галынаўку, ён думаў, што справа ўладзіцца лёгка і хутка. Варта яму гаркнуць раз-другі ды паказаць нагайку, як усе на калені пападаюць. А тут людзей як падмянілі...

— А ну, выходзь, у каго шкура свярбіць! — закрычаў ён да грамады.— Што, няма ахвотнікаў? Нябось, знойдзем. Войт, цягні заслон!

Войт прыцягнуў з двара шырокую лаўку. Станавы скамандаваў стражнікам палажыць на яе чубатага хлапца.

Хлапец не даваўся. Завязалася бойка. На дапамогу чубатаму падскочылі яго сябры.

— Біць Архіпа не дамо! Не ён адзін на прыгон не выйшоў.

Стражнікі адступіліся, вінавата паглядаючы на станавога. Станавы выхапіў з ножнаў шаблю.

— Адыдзі! Засяку!

— Адыдзі! — закрычаў і войт, штурхаючы Архіпавых сяброў у натоўп.— Што ўздумалі? У Сібір захацелі?

Хлопцы адступілі. Стражнікі зноў кінуліся да Архіпа. Схапілі яго і павалілі на лаўку. Жывасілам садралі світку і кашулю.

Станавы сціснуў зубы і махнуў нагайкаю. Але не паспеў ён апусціць яе на голыя плечы Архіпа, як аднекуль са свістам прыляцеў камень.

Станавы пабялеў і адскочыў да плота, дзе стаялі прывязаныя коні.

Цяпер каменні пасыпаліся на стражнікаў. Стражнікі адракліся ад Архіпа і кінуліся за станавым.

Каменні больш не сыпаліся. Але як толькі станавы апамятаўся і падступіўся зноў да лаўкі, яго зноў сустрэлі тыя ж каменні.

Станавы здаўся.

— Усіх у турме згнаю! — крычаў ён, узбіраючыся на сядло.— Я вам пакажу волю!

Стражнікі таксама шустра паўскоквалі на сваіх коней.

У натоўпе пачуўся свіст, рогат.

Шалеючы ад злосці, станавы прышпорыў каня.

— Што вы нарабілі? — енчыў войт.— Ніколі ж мае вочы такога не бачылі, вушы не чулі... Што ж цяпер будзе?

І праўда: ніколі раней не было таго, каб прыгонны галынаўскі мужык не паслухаў самога пана прystава. Войт не мог сабе гэтага ні ўявіць, ні растлумачыць. Не мог жа ён думаць, што гэта векавая крыўда і гнеў на паноў пачынае вырывацца наверх з новаю сілаю цяпер, як толькі людзі пачулі аб волі. Станавы, думалі галынаўцы, падкуплены панам Ясінскім. Ён прыехаў абараняць пана і фальшывы царскі маніфест аб волі. І ўся крыўда за падман, уся злосць вылілася на яго.

Бачачы, што галынаўцы па-свойму разумеюць царскія граматы і свае цяперашнія правы, войт Марка Вакуліч рашыў дапамагчы ім разабрацца, што і да чаго.

— Мужчыны! — сцішыў ён устрывожаных людзей, калі станавы са стражнікамі зніклі з вачэй.— Паслухайце, што я вам скажу.

Войта прывыклі слухаць. І таму, пачуўшы яго голас, мужчыны прыціхлі.

— Кажы, калі што разумнае...

— Чаго вы, хрэн вам у вочы, бунтуеце? — паблажліва

загаварыў войт.— Вам радавацца трэба, а вы вунь што вытвараеце. Самі па сваёй ахвоце ці дурноце ў астрог лезеце...

Мужчыны загулі. Войт павысіў голас і перакрычаў шум:

— Вы дрэнна разабраліся ў тым, што вам бацюшка Сіланцій чытаў. Ды і не дзіва. Народ вы цёмны, граматы не ведаеце. У царскім маніфесце і «Палажэнні» што сказана?

— Гэта не царскія маніфесты! — пачуліся галасы.— Цар даў нам волю і зямлю. Якая ж воля без зямлі?

— Праўда,— падхапіў войт.— Без зямлі — няма волі.

Натоўп зноў прыціх. Апошнія войтавы словы людзям спадабаліся.

— У царскіх граматах,— працягваў войт,— сказана: кожны з вас мае права выкупіць у пана сваю сядзібу хоць сёння...

— За што?

Войт абмінуў гэтае пытанне — быццам не дачуў.

— А праз дзевяць гадоў з вас і паншчыну знімуць. Казна паможа вам надзелы выкупіць. І жыві прыпяваючы! Хочаш — сваю зямлю ўрабляй, хочаш — у горад падавайся. Не хочаш рабочым стаць, адкрывай краму, гандлюй. Станеш купцом, падрадчыкам, нават панам, калі пашанцуе. Не тое што раней. Цяпер ты роўны з панам!

— Што ён дзяўбе, стары пень? — закрычалі навокал.— Падліза панскі.

Наперад выйшаў худы, шчуплы мужык, бязрукі адстаўны салдат Ахрэм.

— Дайце я скажу! — папрасіў ён слова.

— Гавары, Ахрэм! — дружна адказалі яму.

Ахрэма людзі ахвотна слухалі. Ён пабываў у чужых землях і краях, нават грамату трохі ведаў. У апошнія гады Ахрэм ваяваў пад Севастопалем. Там яму адарвала асколкам левую руку. І цяпер ён жыве з пустым рукавом.

Войт скрывіўся, паскроб бараду і адышоўся ўбок. На яго месца стаў Ахрэм.

— Я і не ведаў, пане войт, што цяпер я — роўны з панам Ясінскім,— пачаў ён, хітра пасміхаючыся.

У натоўпе пачуўся дружны рогат:

— Пане Ахрэме!

— Паночак Ахрэм...

— А чаго ж,— сказаў Ахрэм, пагладжваючы худы жывот,— зусім не кепска выходзіць: пан Ахрэм, пан Янка... Дзякуй, пане войт, што мне вочы адкрыў. Значыцца, так.

У пана тысячы дзесяцін зямлі, лесу, сенажацяў. І ў мяне — тысячы. Так ці што?

Людзі зарагаталі яшчэ гучней.

— Што за смех? Я ж роўны з панам Ясінскім, як кажа войт. У пана раскошны мураваны дом, сад, каля сотні дваровых слуг. І ў мяне — тое ж... Праўду я кажу?

Войт сагнуўся і пашыўся ў натоўп. Ахрэм загаварыў сур'ёзна:

— Ты кажаш, пане войт, кожны з нас можа хоць сёння выкупіць сваю сядзібу. За што? Дзе ён возьме грошы? Ды яшчэ якія грошы! Пан жа цябе не пашкадуе — злупіць у тры разы даражэй. Ну, добра. Будзем лічыць, што пан-бог з высокага неба падкіне мне грошай і я выкуплю сядзібу. А праз дзевяць гадоў з дапамогаю пана-бога і казны я выкуплю і свой надзел зямлі. Дык жа дзесяціна гэтага надзелу абыдзецца мне і маім дзецям даражэй, чым сёння я заплаціў бы за пяць дзесяцін! Чаму? Вельмі проста. За надзел я буду выплачваць казне аж праз сорак дзевяць гадоў. І ўсе гэтыя гады казна будзе браць з мяне працэнты, гэта значыць надбаўку за пазыку на выкуп зямлі. Калі, скажам, сёння я заплаціў бы за дзесяціну дваццаць рублёў, то праз сорак дзевяць гадоў выплачу за яе казне адных працэнтаў яшчэ восемдзесят рублёў. Вось што гаворыцца ў тых фальшывых граматах, якія прачытаў нам поп Сіланцій у царкве. А ты, пане войце, кажаш: я роўны з панам! Хто мог напісаць такі маніфест аб волі? Вядома, не я. Напісалі яго тыя, хто хоча замест старога ярма надзець на мужыка новае, яшчэ горшае. Паны ведаюць: ніколі бедны мужык не выкупіць у іх ні сядзібы, ні надзелу. Выкупіць гэта толькі багаты мужык, такі, як наш войт. Вось ён і стане вольным, не будзе ад пана залежаць. А ўсе мы як рабілі на пана, так і рабіць мусім. І будзе гэта цягнуцца не дзесяць гадоў, як цешаць нас, а да таго часу, пакуль паны не аддадуць нам зямлю без усялякага выкупу...

— Зямля нічыя! — падхапілі Ахрэмавы словы мужыкі.— Які за яе можа быць выкуп? Гэта не па-божаму!

— Праўда,— сказаў Ахрэм,— нідзе ў святых кнігах не сказана, што бог стварыў зямлю толькі для паноў. Паны гвалтам захапілі яе...

— Няпраўда! — агрызнуўся войт.— Панам зямлю цары раздавалі.

— За што? — запытаўся Ахрэм.

— За тое, што паны царам служылі, дзяржаву ад ворагаў баранілі.

— А нашы дзяды ды прадзеды хіба не служылі царам? — запярэчыў Ахрэм. — А мы не служым? Я вось каля дваццаці гадоў цару адслужыў. З каўказскімі паўстанцамі ваяваў. З французам ды англельцам пад Севастопалем біўся. Увесь у ранах, як тая калодка на дрывотні. З пустым рукавом хаджу... А колькі зямлі цар даў мне за гэта?

— То ты ж, дзядзька Ахрэм, не пан і не панскі халуй! — усміхнуўся чубаты хлапец Архіп. — Спачатку трэба стаць панам, а потым ужо чакаць ад цара ўзнагароды.

— То-та ж! — згадзіўся Ахрэм. — Ваявалі мы з панамі разам, праўда, не зусім яно так: мы ваявалі, а паны-афіцэры віно заморскае папівалі... Але няхай сабе. Аднак цары раздавалі і раздаюць землі толькі ім, а не нам. Мне нават бляшанага медаля не далі... А ім — па пяць, па дзесяць крыжоў.

Тут войт не вытрымаў, сілаю адпіхнуў Ахрэма ўбок:

— Хопіць! На цароў напрасліны не ўзводзь! Цары — божыя памазанікі. Гэтак ты, чаго добрага, дагаворышся, што і бог не ўсіх роўна любіць.

Ахрэм махнуў рукою і прыціх, задумаўшыся. Хіба ж ён няпраўду сказаў? Ці такія ўжо святыя цары, як пра іх папы ва ўсе званы звоняць? Але ж, калі прызнаць, што цары нядобрыя да людзей, дык што тады думаць пра бога? Навошта ён «мажа», як кажа войт, такіх цароў ды садзіць на троны?

Разабрацца ва ўсім гэтым Ахрэму было не пад сілу.

Людзі доўга яшчэ гаманілі аб тым, што ім набалела. Архіп і яго сябры клікалі мужчын у маёнтак біць пана і Дракулу.

— Няхай іх, хлопчыкі, сарочка не чапае! — сказаў Ахрэм.

Ён успомніў, як яго разам з карным батальёнам ганялі ў сёлы ўціхамірваць бунты супроць паноў. Не наклікаць бы і ім на сябе такую бяду.

## ЦАРСКІЯ ПАСЛАНЦЫ

Пасля станавога з тыдзень было ціха. Людзі пасмялелі і ўжо збіраліся выязджаць у поле — араць ды сеяць. «А пан няхай скіне жупан ды сам вядзе саху!» — жарта-

валі мужчыны. Нябось, думалі яны, каб пан меў права на прыгон, то так лёгка не адрокся б ад дарэмшчыны! А то сам, дык і носа ў сяло не паказвае.

Але цярпеў пан нядоўга. Аднойчы галынаўцы ўбачылі на сваёй вуліцы цэлую роту салдат. Салдаты ішлі радамі па чатыры, не зважаючы на гразь, і спявалі на ўсё горла:

Белы цар наш праваслаўны,—
Ён дужэй за ўсіх цароў!
Брава, брава, брава, брава,
Брава рускаму цару!
Гэй, гэй,
Брава рускаму цару!

Спераду перад строем ішоў высокі афіцэр са срэбнымі эпалетамі на плячах, з чорнымі бакенбардамі на ўсе шчокі. Ззаду за ротаю ў параконнай брычцы ехаў чырванашчокі генерал, увешаны крыжамі і кутасамі. Побач з ім сядзеў хударлявы, як хорт, светла-рыжы пан Браніслаў Ясінскі. Статны плячысты фурман, падпяразаны чырвоным шалікам, паганяў коней.

Каля войтавай хаты рота спынілася. Афіцэр скамандаваў «вольна». Салдаты выйшлі са строю ды пачалі закурваць.

Праз гадзіну войт зноў сагнаў усё сяло на важны сход.

— Царскі пасланец, сам генерал прыехаў,— перадавалі адзін аднаму галынаўцы.— Мусіць, нешта важнае скажа. Толькі чаму з салдатамі?

Другія знаходзілі гэтаму прычыну:

— Як жа каб генерал ды без салдатаў ездзіў? На тое ён генерал!

— А чаго ж пан з ім?

І на гэта была прычына:

— Пэўна, царскі генерал хоча пры самім пану прачытаць сапраўдны маніфест...

Калі людзі сабраліся, пан Ясінскі стаў на фурманавых козлах, каб яго ўсе бачылі, і закрычаў, як певень, высокім скрыпучым голасам:

— Мужыкі! Вы няправільна зразумелі царскі маніфест. Вы перасталі слухаць войта і цівуна. Прыехаў станавы прыстаў. Вы і яго не захацелі слухаць. Ды яшчэ каменнямі закідалі. За адно гэта вас усіх у астрог пасадзіць трэба. Ды я ўпрасіў станавога. Узяў на сябе вашу віну. Бо прыйшла вясна, араць і сеяць трэба. Што ж, думаеце, я сам буду гэта рабіць?

— А чаму б і не?..

Хто гэта сказаў, не паспеў заўважыць нават войт.

Пан захваляваўся, збіўся з тропу. Рыжыя вусы яго заторгаліся, твар перасмыкнуўся.

— Але ж я вас яшчэ не вызваляў ад работы ў маёнтку! — закукарэкаў ён яшчэ мацней.— Цар наш літасцівы дае вам волю. Гэта праўда. Але ж не адразу. Два гады вы мусіце рабіць, як і рабілі. Тым часам мы, памешчыкі, падрыхтуем устаўныя граматы, у якіх запішам, колькі каму належыць выкупіць зямлі. Граматы падпішуць памешчыкі і вы.

— А што будзе праз два гады? — запытаўся Ахрэм.

— Праз два гады,— падхапіў пан Ясінскі,— вы будзеце называцца не прыгоннымі, а часоваабавязанымі... У царскім маніфесце так і напісана, што дзевяць гадоў вы будзеце адрабляць нам за свае надзелы, як часоваабавязаныя. Не прыгонныя, а часоваабавязаныя! Разумееце?

— А ты нас хоць гаршком называй, але ў печ не стаўляй...— зноў пачуўся Ахрэмаў голас.

Пан Ясінскі быццам не пачуў гэтай заўвагі і гаварыў далей:

— Вы, я вас ведаю, не верыце царскаму маніфесту. Думаеце, што цар даў вам волю і зямлю, а мы, памешчыкі, падмянілі царскі маніфест. То тут сёння перад вамі царскі пасланец — яго высокаправасхадзіцельства генерал-маёр Штэрн. Паслухайце яго.

Пан Ясінскі апусціўся на сядзенне брычкі, а на яго месца стаў генерал-маёр Штэрн. Тоўсты, куртаты, генерал загаварыў басам:

— Аўгусцейшы гасудар-імператар Аляксандр Мікалаевіч загадў мне перадаць вам, што ён любіць вас, як бацька дзяцей, жадае вам дабра.

Войт нізка пакланіўся і махнуў рукою да грамады, каб кланяліся.

— Дзякуем гасудару-імператару за ласку,— сказаў войт.— Мы яго таксама любім, як роднага бацьку.

Генерал перачакаў, пакуль войт выказваў падзяку цару-бацюхну, і гаварыў далей:

— Але гасудар-імператар вельмі засмучаны, што вы не слухаеце свайго пана, нядобра абышліся з прадстаўніком мясцовай улады — станавым приставам. Гэта ж — бунт! — павысіў голас генерал.— Сёння вы не хочаце пану прыгон адбываць. А заўтра, чаго добрага, не захочаце цару рэкру-

таў пастаўляць, казне падаткі плаціць. Што ж тады будзе? Расійская дзяржава разваліцца. Немец, француз ці англічанін прыйдзе і заваюе нас... Я пытаюся: хто падбухторвае вас царскую волю не прызнаваць?

Генерал чакаў адказу. Наперад выйшаў Ахрэм. Узяўшы пад казырок, як належыць салдату, сказаў:

— Мы, ваша высокаправасхадзіцельства, царскую волю прызнаём. Рэкрутаў цару пастаўляем, падаткі казне плацім.

— А пана чаму не слухаеце?

Стары салдат адказаў:

— Ніхто, ваша высокаправасхадзіцельства, не хоча больш паншчыну адбываць. Аб'едзь хоць усю Расію, ахвотнікаў не знойдзецца. Далібог. Я ведаю, бо сам яшчэ нядаўна, да Севастопальскай вайны, ездзіў уціхамірваць бунтаўшчыкоў. Дык чаму мы павінны быць горшыя за людзей? Як людзі, так і мы. А за свае надзелы мы даўно пану адрабілі. Дзяды нашы і прадзеды за іх адраблялі. Колькі ж можа каштаваць гэты няшчасны мужыцкі надзел, каб за яго сотні гадоў адрабляць пану? Цяпер мы людзі вольныя. Цар, дай бог яму здароўя, вызваліў нас ад прыгону. Вы гэта ведаеце...— Ахрэм пераступіў з нагі на нагу і змоўк.

Генерал нездаволена зачмыхаў, варочаючы тоўстаю шыяй. Не, не даходзяць і яго генеральскія словы да гэтых цёмных непісьменных мужыкоў пана Ясінскага!

— А хто ж будзе панскую зямлю ўрабляць? — запытаўся ён у старога салдата.

— Гэта панаў клопат...— адказаў Ахрэм.— Нам, мужыкам, ніхто зямлі не ўрабляе. Мы самі гэта робім. Праўда, у пана трохі большы надзел,— Ахрэм прыжмурыў хітрыя шэрыя вочы,— самому цяжкавата справіцца... Дык няхай пан зробіць па-божаму — аддасць лішнюю зямлю нам... Бог жа стварыў зямлю для ўсіх людзей...

Генерал заслухаўся, задумаўшыся.

— А сам пан з чаго будзе жыць? — усміхнуўся ён.

— Ну,— сказаў Ахрэм,— не ўсю ж зямлю пан аддасць мужыкам. Няхай пакіне сабе надзел...

— І сам арэ, косіць?

— А чаму не?.. Косім жа мы і аром.

— То вы — мужыкі! Чорная косць. А ён — пан...

— Праўда, ваша высокаправасхадзіцельства,— згадзіўся Ахрэм.— Але бог даў яму такія рукі, як і нам. А для

чаго даў? Каб працаваць імі, а не хвастаць розгамі мужыкоў...

Тут ужо генерал не вытрымаў Ахрэмавых жартаў. Бычыная шыя яго пачала сінець.

— Хто навучыў цябе, мужык, так гаварыць?

— Ніхто, ваша высокаправасхадзіцельства. Я кажу праўду. А праўдзе ніхто не вучыць. Яна і без навукі светлая ды ясная для ўсіх.

Глынуўшы на поўныя грудзі паветра, генерал вырачыў на Ахрэма спалоханыя і разам з тым страшныя ад злосці, калючыя вочкі, якіх амаль што не відаць было з-пад брывей.

— Гэта пугачоўшчына варочаецца! Паны — законныя ўладальнікі сваіх маёнткаў!..

— То няхай самі на сябе і робяць! — выгукнулі з грамады.— А мы ім больш — не слугі. Хопіць! Годзе!

Больш аргументаў на карысць пана Ясінскага ў генерала не знайшлося. Усе яго аргументы разбіў просты адстаўны салдат сваёю мужыцкаю праўдаю. Генерал быў пераможаны. І, як тапелец, ён пачаў хапацца за саломінку. Сорамна ж прызнаць сваё бясслаўнае паражэнне!

— Гэй, мужык! — крыкнуў ён да Ахрэма.— Ты будзеш цара слухаць?

— Буду,— адказаў Ахрэм.— А каго ж мне слухаць, калі не цара?

— А пана Ясінскага?

— Пан — не цар...

— Добра,— паківаў галавою генерал.— Станавіся сюды! — Ён паказаў на месца за панскаю павозкаю.

— Есць стаць за павозку! — брава казырнуў Ахрэм.

Пажылы маршчыністы фельдфебель выцягнуў здзіўлены твар: па ўсіх правілах казырнуў і павярнуўся гэты бунтаўшчык! Відаць, у добрага фельдфебеля муштраваўся.

— А ты? — ткнуў пальцам генерал у чубатага хлапца, што стаяў бліжэй да яго.

— Цара буду слухаць. На прыгон не пайду! — выпаліў Архіп скорагаворкай.

— Станавіся! — махнуў генерал рукою ў бок Ахрэма.— Ты?

Пачуўся той жа адказ.

Праз мінут дзесяць траха не ўся грамада перайшла за панскую павозку.

На месцы застаўся войт Марка Вакуліч і яшчэ чалавек дзесяць падлеткаў, якіх генерал абмінуў са сваім пытаннем. Быў сярод іх і Язэпка.

Сабраўшы рэшткі цярплівасці, генерал сказаў:

— Апошні раз у вас пытаюся: будзеце пана Ясінскага слухаць?

Грамада дружна загудзела:

— Не будзем! Якая ж гэта воля, калі зноў у ярмо запрагаюць?

Генерал павярнуўся да афіцэра — высокага маладога прапаршчыка:

— Узяць каманду ў свае рукі! Розаг не шкадаваць!

— Ёсць узяць каманду!

Генерал сеў, выціраючы хустачкаю спацелы лоб і бычыную шыю. Прапаршчык прыстукнуў абцасам:

— Рота, слухай маю каманду!

Паказаўшы рукою на пастраенне, прапаршчык крыкнуў:

— Па чатыры станавіся!

Салдаты ў момант пасталі ў строй.

— Абкружыць бунтаўшчыкоў!

Салдаты паднялі стрэльбы і, рассыпаўшыся, абхінулі колам грамаду.

Прапаршчык матнуў галавою да фельдфебеля. Той у момант выхапіў з-пад фурмановых козлаў добры пук адборных лазовых дубцоў.

Войт прыцягнуў тую ж шырокую лаўку, што прыносіў тыдзень назад па загаду станавога.

За дзесяткі гадоў службы фельдфебель добра набіў руку і на шпіцрутэнах [1], і на розгах. І таму чарговая экзекуцыя [2] была для яго звычайнай справай.

Калі фельдфебель скончыў сваю работу, генерал зноў падняўся на брычцы.

— Спадзяюся,— сказаў ён,— цяпер то ўжо вы памякчэлі...

І ён паспрабаваў усміхнуцца. Выйшла няўдала: выдавіць усмешку на сваім тоўстым твары генералу не ўдалося.

Грамада гнеўна зашумела.

---

[1] Шпіцрутэн — доўгі, гнуткі прут, якім білі салдат, праганяючы іх праз строй.

[2] Экзекуцыя — цялесная кара.

— Што, мала? — буркнуў генерал, грозна надзімаючыся.

Шум аціх. Чорт яму верыў. Можа загадаць яшчэ раз хвастаць дубцамі. А тут навокал салдаты са стрэльбамі напагатове. Генерал, відаць, толькі і чакае прычыны, каб пусціць у ход зброю. Людзі гэта адчувалі і стрымлівалі свой гнеў. Вера, што ёсць недзе на свеце сапраўдны царскі маніфест аб волі прыгонным мужыкам, гасла ў іх сэрцах увачавідкі. Мусіць-такі і праўда падмануў іх цар-бацюхна...

Каму ж тады верыць, як жыць на свеце?

Генерал абвясціў:

— Па просьбе яснавяльможнага пана Ясінскага рота салдат з маёй аховы застанецца на пастой у вашым сяле. Салдаты прабудуць тут да таго часу, пакуль пан Ясінскі не папросіць мяне зняць пастой. Харчовае і грашовае забеспячэнне салдат возьмуць на сябе тыя, хто не выйдзе на работу па загаду сельскага войта або панскага цівуна. Зразумелі?

— Зразумелі...— пачуліся рэдкія вялыя галасы.— Зразумелі...

Генерал здаволена выскаліў залатыя зубы:

— Ну, вось і добра. Дагаварыліся. Слава богу.

Ахрэм тым часам усё глядзеў на генерала.

— Ваша высокаправасхадзіцельства,— загаварыў ён нарэшце,— дазвольце ў вас запытацца.

— Ну, што ж, пытайся, пакуль не позна,— адказаў генерал, рысуючыся перад грамадою.— А то я скора паеду. Не адно ж ваша сяло бунтуецца...

— Ці сапраўдны вы генерал-маёр? — выпаліў Ахрэм, пачырванеўшы.

Генерал утрапёна заміргаў сваімі маленькімі вочкамі. Што гэта? Дурнота ці хітрыкі? Відаць, усё ж дурнота. І ён сказаў, пакручваючы сваю асобу на павозцы:

— А ты хіба не бачыш? Мундзір, эпалеты, аксельбант залаты [1]...

— Не, не,— зморшчыўся Ахрэм.— Гэта я бачу. Але я ніколі не бачыў, каб генералы расійскай імперыі мужыкоў розгамі білі... У нашым карным батальёне генералаў не было...

---

[1] Эпалеты — пагоны параднай формы. Аксельбант — наплечны шнур.

Тут ужо генерал зразумеў, якое запытанне даў яму гэты стары бунтаўшчык.

— Што,— нахмурыўся ён,— яшчэ розаг захацеў?

Ахрэм увагнуў плечы.

— Бронь божа! Хапіла мне і тых. Я толькі запытацца хацеў...

Генерал сказаў нешта паціху пану Ясінскаму. Няцяжка было здагадацца, што размова ішла пра Ахрэма. Пан Ясінскі паматаў галавою ў знак згоды і сказаў так, каб усе чулі:

— Да бунтаўшчыкоў літасці не будзе! Мы знойдзем ім месца. Сібір яшчэ пустуе...

— Аперацыя закончана,— сказаў генерал прапаршчыку.— Я з панам Ясінскім еду ў маёнтак. Ахову за мною выслаць з пяці чалавек. Астатніх размясціць у сяле Галынаўка на пастой.

— Слухаю, пан генерал!

— Айда! — загадаў генерал фурману.

Фурман зняў з коней торбы з аўсом, падцягнуў паскі на падсядзёлках і сеў на козлы.

У гэты час на вуліцы паказаўся вусаты стражнік на буланым кані.

— Пачакаем,— сказаў генерал пану Ясінскаму.— Можа, аказія якая?

Стражнік пад'ехаў да брычкі, казырнуў генералу.

— Што,— запытаўся генерал,— з аказіяй?

— Не, ваша высокаправасхадзіцельства.

— А што?

— Справа адна. Дробная.

— Мяне не закранае твая справа?

— Не...

— Ну, то марш!

Брычка кранулася з месца.

Вусаты стражнік гукнуў да грамады, акружанай салдатамі:

— Язэпа Валовіча тут няма?

— Ёсць,— адказаў войт, які стаяў збоку.— Але ж ён не мужык,— падлетак.

— Няважна. Давай падлетка. Дзе ён?

Збянтэжаны Язэпка выйшаў наперад.

— Ты Язэп Валовіч? — перапытаў стражнік.

— Я...

Стражнік зарагатаў, разявіўшы рот да вушэй:

— Ну, што ты скажаш? Га? Клоп яшчэ, можна сказаць, а ад законнага пана ўцёк! І што гэта робіцца? Дзеці і тыя сваіх паноў не хочуць слухаць. Пайшлі! — Стражнік свіснуў у паветры нагайкаю.— Пан Жардзецкі даўно цябе чакае. Напісаў нашаму прыставу, каб вярнулі яму прапажу...

Язэпка захістаўся. Ахрэм падтрымаў яго.

— Нелюдзі! — плюнуў ён са злосцю.— Да хворага дзіцяці чапляюцца. А дзе ж воля?

— Ну, ну! — пагразіў стражнік.— Прыкусі язык. Язэп Валовіч — беглы халоп пана Адама Жардзецкага. Воля яму, як двароваму, яшчэ не выйшла. Сваім незаконным учынкам ён нанёс немалую страту панскай гаспадарцы. Так што яму цяпер і пяццю гадамі не адкупіцца... Ясна табе?

Пасля такой удалай прамовы бравы стражнік загадаў Язэпку ісці пасярод вуліцы.

Услед за ім з шабляю пры боку і нагайкаю ў руках рушыў на дзябёлым буланым кані вусаты стражнік Расійскай імперыі.

## ШТО БЫЛО ДАЛЕЙ

У першую ж ноч пасля апісаных тут падзей запалаў маёнтак пана Ясінскага.

Гарэў ён зырка, вяселячы ўсю ваколіцу.

Ніхто з прыгонных не кінуўся ратаваць панскі дом і панскія скарбы.

Сонныя салдаты таксама не вельмі спяшаліся. Пакуль яны дайшлі да маёнтка, тушыць ужо не было чаго.

Царскі пасланец генерал Штэрн выскачыў з пажару без мундзіра, у адных нагавіцах.

Але генерала лёгка пазналі т ы я, хто яго добра запомніў. У мітусні нехта з т ы х апераза́ў генерала ладным дручком па лысай галаве...

Пану Ясінскаму ўдалося схавацца.

А што з Язэпкам?

Каб больш не ўцякаў, хітры пан Жардзецкі паслаў яго ў свой новы маёнтак, пад Гродна. Везлі яго туды з завязанымі вачыма. Цяпер, думаў пан, Язэпка не знойдзе дарогі да роднага гнязда!

Але на другі год Язэпка зноў уцёк. Толькі на гэты раз

не на радзіму, якая вабіла яго па-ранейшаму, а ў бліжэйшы паўстанскі атрад.

І ўцёк не адзін. Кінуты Кастусём Каліноўскім кліч аб сапраўднай волі для народа гулкім рэхам адгукнуўся па ўсёй Беларусі.

Язэпку ішоў пятнаццаты год. Дзяцінства яго скончылася.

Цяпер гэта быў не прыгонны хлопчык, а дужаваты падлетак-паўстанец. І звалі яго ўжо не Язэпкам, а Язэпам.

Але гэта тэма новай аповесці.

*1962*

# МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА

## I

Другая веснавая сяўба пасля скасавання прыгону не ладзілася ў маёнтках пана Жардзецкага гэтак жа, як і першая. Часоваабавязаныя, так называлі цяпер былых прыгонных, няспынна бунтавалі. Асабліва ў новым маёнтку. Пан Жардзецкі ўжо каяўся, што купіў яго на сваю галаву перад самай рэформаю. Даліся ў знакі яму гэтыя Дразды — яго новы маёнтак на Гродзеншчыне. Пакуль што ад Драздоў ён меў больш клопату, чым прыбытку. Песень драздовых і нават салаўіных, праўда, тут хоць адбаўляй. Але пану Жардзецкаму цяпер было не да іх.

Пільня, якая так спакусіла яго тады і нагнала цану на маёнтак, траха не кожны дзень прастойвала: усё штонебудзь псавалася ў ёй... Пан, вядома, здагадваўся, што гэта работа бунтароў-пільшчыкаў. Ды паспрабуй злаві яго катарага за руку!

Вось чаму пан Жардзецкі і сам рэдка выязджаў з Драздоў у стары маёнтак і трымаў тут лепшага свайго цівуна Дракулу — ён пераманіў яго ад пана Ясінскага. Хоць, трэба сказаць, Дракула і сам ахвотна змяніў месца сваёй сабачай службы: у маёнтку пана Ясінскага ўжо не заставалася ніводнага чалавека, які не праклінаў бы яго самымі страшнымі кленічамі...

Ратавалі пана Жардзецкага цяпер толькі салдаты трэцяй пяхотнай дывізіі.

Ён сяды-тады выклікаў іх з Гродні або Слоніма, і тыя па некалькі дзён запар лавілі па вёсках і секлі розгамі непакорных часоваабавязаных. Сам пан Жардзецкі зараз секчы іх не мог: царскі маніфест забараняў яму гэта ра-

біць. Ды нават калі б і не было такой забароны, цяпер ужо адзін ён са сваім Дракулам і гайдукамі не даў бы рады ўстрывожанай грамадзе, якая аднадушна дабівалася толькі аднаго: зямлі без выкупу і сапраўднай волі!

І хоць у царскім маніфесце ясна гаварылася, што былыя прыгонныя мусяць адбываць паншчыну або плаціць аброк, пакуль не выкупяць сваіх надзелаў, пан Жардзецкі мала гэтаму верыў. Ужо і зараз у цара не хапае ні салдат, ні паліцэйскіх стражнікаў, каб пасылаць іх ва ўсе маёнткі — панскія і казённыя — уціхамірваць мужыкоў. Не, занадта намуляла панскае ярмо прыгонным шыі, да крыві нацерла мазалі. І яны толькі і мараць, як бы хутчэй скінуць яго з свайго карка.

Гэта і прымусіла пана Жардзецкага пачаць, на ўсякі выпадак, перабудову сваёй прыгоннай гаспадаркі. Ён купляў валоў і коней, наймаў парабкаў з вольных людзей і збяднелых мяшчан. Сваіх дваровых усё часцей пасылаў і ў поле, дзе не хапала рук.

Хадзіў цяпер на работу ў поле разам з іншымі дваровымі слугамі і Язэп Валовіч — невысокі хударлявы падлетак, якога некалькі гадоў таму пан Жардзецкі выйграў у карты ў пана Ясінскага [1]. І хоць сіла ў Язэпа была яшчэ невялікая, шкадаваць яго не было каму. Бацьку яго звёў са свету Дракула, а маці жыве ў сваёй Галынаўцы каля маёнтка пана Ясінскага, куды Язэп цяпер і дарогі не ведае: леташняй вясною яго прывёз сюды пан Жардзецкі з завязанымі вачыма. Гэта, каб больш не ўцякаў дахаты! Адзін толькі дзядзька Рыгор — яго з усёй лесарубнай арцеллю пан Жардзецкі таксама перасяліў у новы маёнтак — па-ранейшаму быў добры і ласкавы да Язэпа.

— Нічога, брат,— суцяшаў ён яго часамі,— перацярпім як-небудзь яшчэ гадок, а там — сам сабе пан! [2]

Гэты апошні гадок няволі Язэпу здаваўся самым цяжкім і пакутлівым. Не было ночы, каб не сніў ён сваю старую хатку ў далёкай Галынаўцы, сваіх родных і сябрукоў, дзеда Міхаля... Сэрца яго было там, на радзіме, а тут ён жыў, як тая птушка ў клетцы.

---

[1] Пра жыццё прыгоннага хлопчыка Язэпа Валовіча расказана ў аповесці «Адкуль ліха на свеце».

[2] Для дваровых людзей (беззямельных) прыгон канчаўся праз два гады, гэта значыць — вясной 1863 года.

Неяк ужо на пачатку лета Язэп разам з іншымі дваровымі араў папар на камяністым узгорку, дзе пан меўся сеяць грэчку. Гэта было самае позняе ворыва і самая позняя сяўба. Зямля тут была не цяжкая для ворыва, і таму аралі яе без прысцяжных — адным канём або валом. Язэпаў плуг цягнуў стары дыхавічны конь па клічцы Сівак. Па старасці гадоў ён не вельмі стараўся ні ў возе, ні ў плузе. Аднак панскі прыгапяты Дракула не рабіў з гэтай прычыны скідкі ні вазаку, ні аратаму.

Язэп, якому чамусьці найчасцей трапляў у рукі Сівак, нямала ўжо намучыўся з ім і нямала нацярпеўся лаянкі ад зненавіднага Дракулы. Дракула цяпер не ходзіць з бізуном. Але гэта было ўсё, што змянілася ў ім пасля скасавання прыгону. Затое лаяўся ён яшчэ больш, чым раней (лаянка царскім маніфестам не забаранялася), і часта пускаў у ход кулакі. Калі ж хто, паспытаўшы Дракулавых кулакоў, скардзіўся на яго пану, апошні толькі весела выскаляўся:

— Глядзі, распанеў як: яго ўжо і пальцам не крані! Нябось, раней не скардзіўся, калі цівун лупіў цябе бізуном або хвастаў розгамі...

— То гэта было раней...

Фанабэрысты пан Жардзецкі не цярпеў, калі яму пярэчылі, і пачынаў злавацца:

— Ты ж яшчэ не гаспадар! Ты яшчэ на маёй зямлі сядзіш праз маю добрую ласку. Выкупіш свой надзел, тады і жыві як знаеш і як хочаш!

Выкупіць у пана свой спрадвечны надзел зямлі часоваабавязаны мог толькі са згоды пана. Для гэтага ён мусіў аплаціць чвэртку кошту зямлі сам. Іншыя тры чвэрткі тады яму пазычыць казна. Але ж казна не пазычала так сабе, бескарысна: яна спадзявалася на вялікія барышы. А калі хітрыў цар, то хітрылі і паны: зямлю сваю ацэньвалі ў два або і ў тры разы даражэй,чым яна каштавала, бо прадавалі ж яе не з таргоў!

Вось тут і даступіся да такой зямлі. Ніхто па добрай волі выкупляць яе не збіраўся. Правесці такую рэформу цар з панамі маглі толькі пад прымусам.

Язэп цяпер, пасталеўшы, таксама ўсё часцей задумваўся, як яно будзе жыцца далей і яму і яго сям'і. Раней пра гэта ён мала думаў. Яму здавалася, што воля для чалавека даражэй за ўсё на свеце. Вось міне два гады, і скончацца яго пакуты. Ён кіне пана Жардзецкага і пе пойдзе,

а пабяжыць дадому ў сваю Галынаўку. А што ён там будзе рабіць? Дзе яны з маткаю возьмуць грошай, каб выкупіць у пана Ясінскага хоць сядзібу? Цяпер гэтыя трывожныя думкі ўсё часцей хвалявалі яго. І зараз, аручы панскую зямлю, Язэп, здавалася, не бачыў перад сабою ні дыхавічнага Сівака, ні плуга, які з шумам разразаў жарсцвяны пясок: думкі яго снавалі далёка-далёка... Праўда, плуг яму прыходзілася трымаць у руках на ўсю сілу, бо ён часта трапляў на каменне і вылузваўся з разоры. Пакуль паспееш яго ўшчаміць зноў у разору, за аратым аставаўся немалы агрэх. Язэп спыняў тады ўпартага Сівака, цягнуў яго лейцамі назад разам з плугам, каб выправіць сваю хібу. Але агрэхаў рабілася ўсё больш, а цягаць Сівака назад было ўсё цяжэй. І праз нейкі час зморапы араты пачаў прапускаць некаторыя меншыя агрэхі. «Нічога,— думаў ён,— прысыплецца другой баразною. Пан не збяднее, калі менш збярэ тут грэчкі. Чорт яго не возьме!» Наадварот, Язэп вельмі рад быў бы, каб пана ўзяў чорт.

Дзень, які зранку радаваў святлом і сонцам, к паўдню спахмурнеў. Збіралася на дождж. Авадні і сляпні з блізкага лесу секлі старога Сівака без жалю. Ён не паспяваў зганяць іх хвастом. Сяды-тады спыняўся і, тузаючыся ў пастронках, біў па жываце нагамі, спрабаваў пускаць у ход мызу, але замінаў хамут. Гэта яшчэ горш псавала і без таго благое ворыва на камяністай няўдобіцы.

Язэп пачынаў злавацца і на Сівака, і на аваднёў, стараючыся збіваць іх пугаю зконскіх бакоў. Рукі яго млелі ўсё больш і больш.

Нарэшце пасыпаўся дробны цёплы дождзжык. Язэп араў у адной зрэбнай кашулі, без шапкі, босы. Але зранку ён узяў з сабою і світку, і шапку. І нават торбачку з харчамі, бо аралі далекавата ад маёнтка і хадзіць туды ўдзень на полудзень цівун не дазваляў. Есці яму ўжо даўно хацелася. Ды спыняць работу не выпадала, і ён чакаў, пакуль гэта зробіць хто з старэйшых.

Язэп апрануў світку і надзеў шапку. І ўжо збіраўся брацца за плуг, як раптам убачыў у лагчыне пад узгоркам цівуна Дракулу. «Чаго яго ліха нясе?» — падумаў Язэп.

— Но, каб цябе! — махнуў ён пугаю і павёў баразну далей.

Дракула! Адно гэтае слова кідала Язэпа ў дрыжыкі. Гадоў пяць таму назад ён гвалтам вырваў яго, малога, з

сям'і — забраў у панскі двор на работу. Потым падсунуў яго ў рукі п'янаму пану Ясінскаму, і той прагуляў яго ў карты пану Жардзецкаму. Ён жа і выдаў яго зноў новаму пану, калі Язэп уцёк быў дахаты...

Дракула ўзышоў на ўзгорак. Спыніўся, цяжка сапучы: у апошнія гады ён прыкметна старэў і таўсцеў. На ім быў лёгкі летні пыльнік, стракатая шапка з лакіраваным брылём і лёгкія парусінавыя чаравікі. Пачмыхаўшы тоўстым чырвоным носам, ён пачаў тыцкаць трысцінкаю ў раллю, у тыя мясціны, дзе траплялі́ся няроўныя разоры.

— Тфу! — плюнуў ён нарэшце.— Хто так арэ? Гэта ж адно кепства!

— Ды тут, пан цівун, камень на камені,— адказаў яму стары араты Апанас.

— Плуга не ўтрымаць...— загаманілі іншыя аратыя.

Цівун злосна замахаў сваёю трысцінкай:

— Гультаі! Абібокі! Нябось, каб пахадзіў па вашых спінах бізун, то ўтрымалі б...

Пакрычаўшы на старэйшых аратых, цівун падышоў да Язэпа. Тут ён знайшоў яшчэ больш хібаў.

— Стой! — падняў ён сваю трысцінку ўгору.— Хіба ж гэта ворыва!

Язэп затпрукаў на Сівака.

— Забарануецца, пан цівун, і ўсё згладзіцца...— нясмела прагаварыў ён.

— Ты, жабяня, мне яшчэ апраўдвацца будзеш! От я цябе зараз пагладжу!

Азірнуўшыся, ці не бачаць старэйшыя аратыя, цівун стукнуў Язэпа кулаком па галаве. Язэп упаў.

— Даўно я цябе не вучыў! — шыпеў Дракула, набіраючыся злосці.— Распусціўся...

— Не маеш права, пан цівун, рукам волі даваць! — усхліпнуў Язэп.— Я скардзіцца буду...

Дракула закалаціўся, пачуўшы такое ад ціхага хлапчука-падлетка. Вось што нарабіла гэтая царская воля! Ён, хто перахвастаў за сваю цівунскую службу розгамі і бізунамі сотні прыгонных, не можа ўжо нават шчаня гэтае мужыцкае паўшчуваць! Ужо і яно скардзіцца збіраецца! Ну і час настаў!

І раз'юшаны цівун пачаў зноў і зноў мясіць сваю ахвяру кулакамі і нагамі.

Гэта ўбачылі аратыя.

— Пан цівун! — крычалі яны, бегучы да Язэпа.— За што б'еш хлопца? Ці ж мала яшчэ з людзей наздзекаваўся!

Цівун адступіўся ад Язэпа.

— Ён ведае, за што...

Пагразіўшы кулаком усім, Дракула рушыў назад з узгорка.

Язэпа ж як хто падмяніў. Усхапіўшыся, ён падняў з зямлі вялікі камень — імі тут было ўсыпана ўсё поле — і з немым крыкам рынуўся ўслед за Дракулам. Пякучая крыўда на душагуба, якая мучыла яго не адзін дзень, раптам з нечуванаю сілаю выбухнула з яго збалелага сэрца. І ён не мог яе стрымаць, каб і хацеў.

— Язэп! Язэп! — гукалі аратыя.— Апамятайся!

Але, ахоплены прагай помсты, Язэп не чуў гэтай перасцярогі. Затое добра пачуў яе Дракула. Ён азірнуўся якраз у той момант, калі Язэп ужо шпурнуў у яго з усяе сілы свой камень...

— А-а-а!..— з жахам зароў цівун, затульваючы рукамі твар.

І тут жа грымнуўся як сноп на зямлю...

Язэп моўчкі абвёў непрытомнымі вачыма аратых і гэтак жа моўчкі рушыў да лесу.

Ніхто яго не спыняў.

Лес быў побач. Каля першага дрэва Язэп азірнуўся. Ён убачыў, як чатыры аратыя панеслі цівуна на руках у маёнтак. Іншыя ўсё яшчэ стаялі на тым месцы, дзе ён аблажыў сваім каменем Дракулу. Коні спакойна адпачывалі ў разорах, ляніва змахваючы хвастамі сляпнёў.

«Няўжо забіў?» — мільганула цьмяная думка ў гарачай Язэпавай галаве. Ён пачынаў разумець, што назад у маёнтак пана Жардзецкага дарогі яму няма. Трэба пакідаць гэтае страшнае месца. І чым хутчэй, тым лепш. Бо забіў ён ці толькі аглушыў душагуба, пан за гэта па галаве не пагладзіць.

Дождж усё яшчэ не перасціхаў. Хмары густа ўслалі неба. Лес нахмурыўся, пацямнеў. Ды і незнаёмы яму гэты лес. Дарога, якая вяла з маёнтка на ўсход, туды, дзе яго радзіма, ляжыць зусім у другім баку. Там недалёка сінеецца і рака Нёман. А калі ісці ўздоўж Нёмана супроць вады, то, Язэп гэта ведаў, можна трапіць у самыя Стоўбцы, адкуль дарога дахаты яму ўжо добра вядома.

Маці! Толькі яна адна яго зразумее. Што яна скажа, тое і будзе. Скажа вярнуцца назад да пана Жардзецкага

на суд і расправу, ён вернецца. Не скажа, ён пойдзе ў свет, куды вочы глядзяць. Ён ужо не маленькі, не той Язэпка, які яшчэ нядаўна хаваўся пад палацямі ў сваёй хаце і ад цівуна Дракулы, і ад усіх іншых людзей.

Выбірацца на дарогу ўзлескам было рызыкоўна. Яго маглі ўбачыць і схапіць па загаду пана. Язэп вызначыў сабе напрамак наўскасяк праз лес. Чым хутчэй і далей ён адарвецца ад гэтага праклятага маёнтка, тым больш шанцаў у яго на ратунак.

Ён ішоў доўга, а ніякай ні сцежкі, ні дарогі ўсё не было. Вакол адна гушчэча. Пад нагамі безліч павалаў, гнілых пнёў. Так і глядзі, каб не ўпасці. Мокры, змораны, ён прысеў на адну з паваленых асін. Даймаў голад. Успомніў пра торбачку з харчамі. Там быў кавалак хлеба і кіслы агурок. Як бы цяпер спатрэбілася яму гэтая торбачка! Чаму ён не прыхапіў яе, пакідаючы поле?

Калі б свяціла сонца, Язэпу не цяжка было б вызначыць нейкі хоць няпэўны кірунак да Нёмана. А так ідзе ён усляпую. Лес няроўны. Трапляюцца гразкія забалоцці. Абмінеш іх, і ўжо не ведаеш, куды, у які бок ішоў. Босыя ногі, хоць і прывычныя да ўсякіх дарог, пачыналі здаваць. Падэшвы гарэлі ад мулкага ламачча і калючых шышак, шчымелі ад дробных ран.

Адпачыўшы крыху, Язэп зноў рушыў далей.

А лес, хоць і змочаны дажджом, жыў сваім звычайным жыццём. З дрэва на дрэва рыжымі агеньчыкамі скакалі шустрыя вавёрачкі, заўзята барабанілі сваімі вострымі дзюбамі дзятлы, весела звінелі галасы пеўчых птушак. Сяды-тады пакрумквалі крумкачы, пралятаючы над вяршалінамі дрэў. Разоў колькі праскаквалі перад бегляком дзікія козы.

Да самага вечара Язэп усё яшчэ не траціў надзеі выбрацца на якую-небудзь дарогу або на поле. І толькі калі густая цемень акружыла яго з усіх бакоў, ён спыніўся. Ісці поначы невядома куды не было сэнсу.

Язэп не баяўся начнога лесу. Пагоня, калі яна і кінулася за ім, у гэтай глухмені яго не знойдзе. А ваўкам ён не патрэбен. У такую пару года яны не галадаюць. Хапае ім маладых зайцоў і коз. Але страх усё ж трывожыў яго. Ён чуў ад дваровых людзей, што лясы тут, вакол маёнтка, не маленькія, вядуць яны недзе аж у самую Белавежскую пушчу, дзе жывуць дзівосныя звяры, падобныя на кароў. Завуць гэтых звяроў зубрамі. Кажуць, яны нават мядзве-

дзя падымаюць на рогі. А што, калі ён не выблытаецца з гэтага лесу ды трапіць у тую страшную зубровую пушчу?

На ўзгорку, дзе ён спыніўся на начлег, Язэп назбіраў ахапкі са два сушэйшага моху ды паслаў яго пад старой густою елкаю, цяжкія разлапістыя галіны якой звісалі траха не да самай зямлі. Залез туды і прылёг на сваёй лесавой пасцелі. Ад магутнага шурпатага камля павявала спакоем і прыемнаю цеплынёю. Цяпер яму хацелася аднаго: хутчэй бы настала раніца і развеяліся хмары. Тады ён пойдзе далей. І быць не можа, каб не выйшаў на поле да людзей, якія і скажуць яму, дзе тая жаданая рака Нёман.

## II

Язэп прачнуўся разам з першымі птушкамі. За ноч ён дужа азяб. Лёгкая старая світачка мала грэла. Босыя ногі таксама пастылі і папухлі ад учарашняга блукання па лесе. Ахкаючы і калоцячыся ўсім целам, ён выпаўз з-пад елкі. Глянуў на неба — яшчэ толькі развіднялася. Зорак нідзе не відаць было. Над лесам усё яшчэ вісела ўчарашняя цёмна-шэрая коўдра. Яна не дажджыла. Але і не весяліла.

Ён патупаў крыху, разважаючы: пакінуць гэты абжыты куток ці яшчэ падрамаць на мяккім моху? Успомніў учарашняе здарэнне з цівуном. Галава яго сёння была святлейшая, аднак ён не асудзіў свой учынак. Відаць, сталася тое, што не сёння дык заўтра магло стацца. Даўно ён насіў у сваім збалелым сэрцы гэтую помсту. Чаго ён, гад печаны, прычапіўся да яго за тыя агрэхі? Хіба мала робіцца агрэхаў на любым полі? Выходзіць, ён сам шукаў сваёй пагібелі... Ну што ж, сабаку, як кажуць, сабачая смерць, калі толькі ён здох.

Але куды ж падацца? Які шчаслівы кірунак можа вывесці яго з гэтай нетры? Блытаючыся ўчора ўлукаткі па незнаёмым лесе, Язэп зусім збіўся з тропу. Далёка адышоўся ён ад маёнтка ці, можа, проста блукае вакол яго?

Сагрэўшыся крыху, пайшоў наўздагад. Ён ведаў, што нават у самых вялікіх лясах мусяць быць і сцежкі, і дарогі. Учора ён да іх не прыглядаўся, бо верыў, што ідзе туды, куды яму трэба. Сёння такой веры ў яго ўжо няма, і ён пойдзе шукаць не Нёмана, а людзей. Ужо скора сут-

кі, як ён нічога не еў. Вясновы лес яго не накорміць. Гэта могуць зрабіць толькі людзі.

Ён ішоў і ішоў, хістаючыся ад зморы і голаду. Трапляў і на нейкія сцежкі, але яны лёгка губляліся ў гушчарах і нікуды не выводзілі.

Нарэшце хмары развеяліся, ярка ўспыхнула сонца. Густы лес пасвятлеў. Жвавей загаманілі над галавою птушкі.

Язэп зрабіў перадышку, спрабуючы па сонцы разабрацца, дзе ён апынуўся. Але гэта, відаць, лягчэй было б зрабіць дзе-небудзь на полі, а не ў лясной нетры. І ўсё ж сонца падказвала яму, што ідзе ён не на Нёман, а ад Нёмана. Значыць, ён сапраўды заблудзіўся. Ён мусіць ісці ў другі бок, на ўсход. Кірунак, праўда, вельмі ж няпэўны. Але іншай рады няма. І ён пайшоў. Лепш сказаць, прымусіў сябе перастаўляць здранцвелыя ногі.

Не прайшоў ён на гэты раз і паўвярсты, як перад ім паказалася не сцежка, а цэлая дарога. Сапраўдная лесавая дарога — з каляінамі, выбоінамі, нават са свежым следам фурманкі!

У Язэпа ўсё ўнутры затрапятала ад радасці. След, пэўна ж, вёў з нейкага сяла і ў нейкае сяло. Да якога ж з іх бліжэй? І ад якога бліжэй да Нёмана? Але тут жа недзе побач з ім жывая душа! Трэба спяшацца да яе, пакуль не позна.

След вёў яго нядоўга: на адным з паваротаў дарогі Язэп раптам убачыў перад сабою павозку, а ля яе агеньчык. Жывы, прывабны агеньчык. На невысокім пянчуку пры агеньчыку сядзеў чалавек у шэрай суконнай світцы. Недалёка пры дарозе пасвіўся выпражаны стракаты конь. Ад агеньчыка даносіўся смачны пах печанага сала.

Язэп спыніўся. Сустрэча з незнаёмым чалавекам у незнаёмым лесе яго і ўзрадавала і ўстрывожыла. Ён стаіўся за камлём таўшчэзнага векавога дуба і пачаў здалёку сачыць за чалавекам. Хто ён? Ці можна падысці да яго і распытацца пра патрэбную яму дарогу? І што сказаць, калі гэты незнаёмы пацікавіцца, адкуль Язэп сам і хто ён?..

Чалавек павярнуўся тварам да дуба. Цяпер Язэп добра разгледзеў яго. Гэта быў малады мужчына або дзяцюк. Шапка на ім была простая, з чорным брылём, такая, якую насілі ўсе мужыкі. На нагах скураныя лапці з раменнымі аборамі. На круглым, дужа загарэлым твары вылучылася невялікая цёмна-русая бародка і такія ж ледзь прыкметныя здалёк вусы. Пёк ён сала на дубчыку, пакручваю-

чы яго над агнём якраз так, як гэта робяць і ўсе мужыкі: у левай руцэ трымаў лусту хлеба, да якой сяды-тады падносіў распушчанае на агні сала.

Значыць, гэты дзяцюк або малады мужчына — звычайны селянін. Які — іншая справа. Язэп ведаў, што сяляне ёсць розныя — панскія, скарбовыя або казённыя і вольныя. Скарбовыя — гэта тыя, што жывуць у маёнтках, якія належаць казне. Яны — такія, як і прыгонныя, панскія. Толькі прыгон за свае надзелы адрабляюць не пану, а казне. Іншая справа — сяляне вольныя. Іх мала. Але яны не служаць ні казне, ні панам. Жывуць самі па сабе, як хочуць. Хто можа, купляе ці арандуе кавалак зямлі ў таго ж пана, хто не можа — ідуць парабкаваць да тых жа паноў або папоў і багатых чыноўнікаў.

Паразважаўшы крыху, Язэп вырашыў падысці да гэтага маладога дзядзькі або дзецюка. Урэшце, што той зробіць яму, калі б гэта быў нават і благі чалавек. Язэп жа не маленькі, і сілаю яго не вельмі возьмеш.

Ён выйшаў з-за дуба і падаўся па дарозе, як нічога і не было. Ідзе сабе звычайны падарожны, і ўсё.

Незнаёмы, аднак, адразу ж пільна загледзеўся на яго. Не часта трапляюцца тут людзі. Чаго б яму бадзяцца ў гэтай глухмені? А мо да лесніка Саўкі ідзе? Туды, куды ён і сам едзе? Тады тым больш трэба насцярожыцца... Саўкава леснічоўка — не толькі зручная тайная мясціна для яго і яго сяброў-паплечнікаў, куды не дадумаецца заглянуць ні адзін жандар. Гэты зацішны мядзведжы кут ён выбраў і для больш важнай справы, якою ўсе апошнія дні толькі і заняты. Калі б хто зазірнуў пад сядзенне яго павозкі, то ўбачыў бы там добры стос чыстай газетнай паперы... Сюды ж прывезены ім нядаўна з Вільні і невялічкі друкарскі станок з мяшком шрыфту ў прыдачу...

Язэп збіраўся ўжо даць незнаёмаму падарожнаму «добры дзень», як той сам весела загаманіў:

— Куды шыбуеш, дзяцюк?

Язэп прамаўчаў, затрымліваючыся каля павозкі.

— Не да Саўкі часам?

— Не,— глытаючы сліну, адказаў Язэп.— Іду вось...— Моцны пах сала забіваў яму дух.

І раптам ён выразна пачуў:

— Сала печанага хочаш?

Словы гэтыя, як здалося Язэпу, незнаёмы сказаў зусім шчыра.

— Дзякую...— адказаў Язэп, аблізваючы сухія губы.

Што, калі гэты малады гаспадар і праўда не жартуе? Тым больш што, як заўважыў Язэп, добры кавалак сала ляжыць на возе на чыстай белай торбе побач з ладным акрайцам ржанога хлеба. Мусіць, гаспадар не з бедных. І павозка ў яго спраўная. І світка не латаная. І лапці не лыкавыя. Сам ён таксама поўны з твару. Вочы цёмныя, крыху задуменныя і быццам засмучаныя, але добрыя, спагадлівыя.

Незнаёмы згарнуў з дубца спечанае сала на лусту хлеба.

— На, трымай патэльню,— усміхнуўся ён, падаючы Язэпу свой дубец.— Без яе, брат, тут, у лесе, сала не спячэш.

Потым падышоў да воза, адрэзаў невялікім складаным нажом з драўлянымі тронкамі ніштаваты кавалак сала і добрую лусту хлеба і ўсё гэта падаў Язэпу.

— Пячы, брат, сам,— сказаў пры гэтым тым жа жартоўным тонам.— Ты, я бачу, не з панічоў. З такою работай справішся.

Язэп, якому ўсё яшчэ не верылася, што гэта не сон, спяшаючыся пачаў насаджваць сала на дубец. Рукі яго калаціліся. Усярэдзіне зрабілася горача. Няўжо вось-вось зараз ён будзе есці гэты чысты свежы хлеб ды яшчэ з печаным на агні салам, якое рэдка калі ў жыцці трапляла яму ў рукі?

— Як зваць цябе, дзяцюк? — запытаўся незнаёмы, павольна жуючы свой хлеб з печаным салам.

— Язэпам.

— А мяне — Васілём. Вось мы і пазнаёміліся.— Ён глянуў на каня.— Ну пячы, Язэп, а я пайду каня падганю. А то ён вунь куды махануў. Усё лепшай травы шукае.

Як толькі Васіль адышоўся ад воза, Язэп адразу ж накінуўся на хлеб і сала. Навошта было яго пячы? Смачнейшага за гэтае сала з рэзкім пахам кмену і часнаку ён, здаецца, ніколі нічога не еў. Язэп праглынуў яго як бач.

Неўзабаве Васіль вярнуўся з канём.

— Ты што, ужо ўмянціў свой полудзень? — здзівіўся ён, убачыўшы Язэпа з пустымі рукамі.— Можа, яшчэ адрэзаць?

— Дзякую,— сказаў Язэп.— Наеўся.

Ён бы, вядома, умянціў, як кажа Васіль, і яшчэ дзве ці тры такія долі, але ж сказаць пра гэта пасаромеўся.

— Тады будзем збірацца ў дарогу.

Васіль пачаў запрагаць свайго стракатага каня белачырвонай масці.

— Табе куды? Можа, падвязу?

— Мне на Нёман трэба...

— На Нёман? — перапытаў здзіўлены Васіль.— Адкуль жа ты ідзеш на Нёман?

— Я заблудзіўся...— шчыра прызнаўся Язэп.

— Вунь яно што! — паспачуваў Васіль.— Далёка ж табе, брат, тэпаць адгэтуль да свайго Нёмана.

Счакаўшы крыху, ён спытаўся:

— А дзе ж ты там, на Нёмане, жывеш?

— У пана Жардзецкага...

— Ён твой пан?

— Ага.

Васіль паморшчыўся, ківаючы галавою.

— Не зайздрошчу я, брат, табе. Благі пан. Хоць і ўсе яны адной шыбеніцы варты!

— Пан як пан,— сказаў Язэп,— а цівун у яго дык і праўда шыбеніцы варты...

Язэп і не заўважыў, як лёгка ў яго распачалася гаворка з новым сваім знаёмым. Быццам перад ім быў вельмі блізкі, свой чалавек, такі, як дзядзька Рыгор, як дзед Міхаль.

Васіль запрог каня, палажыў рэшту хлеба і сала ў торбу, завязаў яе.

— Ну, садзіся, Язэп,— паказаў ён на сядзенне павозкі.— Сёння ты да свайго пана Жардзецкага ўсё роўна не датэпаеш, калі б нават і ведаў дарогу. Гэта, брат, добрых вёрст сорак адсюль, а ногі ў цябе, бачу, вунь зусім папухлі. Падвязу я цябе да свайго прыяцеля лесніка Саўкі. Тут ужо не так і далёка. Пабудзеш у яго, лапці спляцеш. Тады і дыбай да свайго пана. Ён што, усё яшчэ ваюе з мужыкамі?

— Ваюе,— адказаў Язэп, сядаючы на воз.— Яшчэ і як!

— А ўстаўную грамату [1] падпісалі вашы мужыкі? Но, Стракач! — Васіль махнуў лёгкаю пужкаю.

---

[1] Устаўныя граматы — дагаворы паміж панамі і часоваабавязанымі на карыстанне панскай зямлёю да часу яе выкупу. У гэтых граматах паны стараліся зменшыць сялянскія надзелы, забраць лепшыя палеткі сабе, а паншчыну павялічыць. Сяляне ж, наадварот, змагаліся за зямлю без выкупу і за непарушнасць сваіх спрадвечных надзелаў. І, вядома, кабальных, так званых устаўных грамат падпісваць па добрай волі не хацелі.

— Не,— паківаў галавою Язэп.— Не падпісалі.

— І правільна робяць. Ты хто — надзельны ці з двароўых?

— Дваровы.

— І бацькі там пры двары?

Язэп прамаўчаў, апусціўшы вочы. Васіль тут жа запытаўся аб іншым:

— Ну, а што самі вашы мужыкі думаюць: як жыць збіраюцца?

Адказаць на гэтае пытанне Язэпу было нялёгка. Мужыкі думаюць пра волю, пра зямлю. Гэта вядома. А як яны жыць збіраюцца, цяжка сказаць.

Васіль паясніў пытанне:

— Згодны яны выкупіць у пана свае надзелы?

— Не.

— Чаму?

— А хіба сам не ведаеш? — здзівіўся Язэп.— Ты ж, відаць, не з паноў.

Васіль зарагатаў.

— Такі, брат, пан, як і ты.

— А калі так,— сказаў Язэп,— то мусіш ведаць, што на выкуп грошы патрэбны. А дзе іх узяць? Цяпер пра гэта ў нас толькі і гавораць.

— Гавораць... гавораць...— нібы сам з сабою разважаў Васіль.— Пра волю вунь цэлых шэсць гадоў гаварылі. А што выгаварылі? Якая мужыку палёгка ад такой волі? Тут ужо, брат, не гаварыць трэба, каб свайго дабіцца, а нешта рабіць... І рабіць усім, цэлаю грамадою. Іначай наша гаворка ні да паноў не дойдзе, ні да цара не даедзе...

Дарога, пераплеценая буйнымі і дробнымі карэннямі, ішла густым дрымучым лесам. Высокія гонкія хвоі і такія ж магутныя елкі шчыльна ахіналі яе. Сям-там зеляпелі пышнымі кронамі дубы-веліканы, белыя бярозы, высокія клёны. Язэпу здавалася, што толькі цяпер ён пачынае заўважаць іх ва ўсёй сваёй велічы. Душа яго яшчэ не мела спакою. Але і адчай ужо не так мучыў яго.

Кожнаму чалавеку цяжка аднаму перажываць сваю бяду. Тым больш цяжка гэта было Язэпу, адзінокаму падлетку, закінутаму горкім лёсам у гэты глухі невядомы яму лес. Што чакае яго наперадзе? Што рабіць яму зараз? І дзе знайсці падтрымку альбо хоць бы чалавечую спагаду. Да дома свайго яшчэ ой як далёка! Ды і ці дойдзе ён, ці знойдзе яго. Першы раз, калі ён уцякаў са старога маёнтка

пана Жардзецкага, перад ім была мо якая палавіна цяперашняй дарогі. І былі ў яго ў запасе сухары, падрыхтаваныя загадзя. А ў лясах можна было знайсці яшчэ познія чарніцы і маліну. Цяпер жа адна надзея толькі на добрых людзей, якія трапяцца па дарозе.

Васіль тым часам глядзеў сяды-тады на Язэпа сваімі добрымі, крыху засмучанымі вачыма зусім спагадліва. І гаварыў ён з ім як роўны з роўным. Быццам сустрэў не выпадковага хлапчука-падлетка, а свайго добрага знаёмага.

Васіль адчуваў, што Язэп хвалюецца больш, чым можна было б хвалявацца ў яго становішчы. Яму хацелася, каб Язэп сам сказаў, што яго непакоіць, апроч маёнтка пана Жардзецкага, куды ён не можа трапіць. Многія маладыя людзі ўцякаюць і ад паноў, і нават з родных сем'яў. Яны самі шукаюць сабе і волі, і лепшай долі. Васіль гэта ведаў, бо не раз ужо сустракаўся з імі і чуў пра іх ад сваіх сяброў. Ён ведаў, што тайная арганізацыя, да якой ён належыць, вельмі цікавіцца такімі беглякамі. Яна рыхтуе і выдае ім пашпарты вольных людзей і не спускае з іх свайго вока. Але Язэп не быў падобны на бегляка, з якімі яму даводзілася пазнаёміцца. Яму яшчэ патрэбна апека бацькоў, пра якіх ён, аднак, прамаўчаў. Урэшце ўсё можа быць: мог жа ён па якой-небудзь прычыне пакінуць бацькоўскі дом, а цяпер вось блукае як непрыкаяны. І таму ўжо толькі ў дарозе, калі Язэп крыху прывык да яго, Васіль вярнуўся да пачатай раней гаворкі.

— Бацькі, нябось, недзе шукаюць цябе,— Васіль прыхінуў Язэпаву галаву да сваіх грудзей,— а ты вось раз'язджаеш са мною тут каля самай Белавежскай пушчы... Добра яшчэ, што на гаспадароў тутэйшых — рагатых зуброў — не напароўся. Праўда, сюды яны рэдка трапляюць. Тут пушча яшчэ толькі пачынаецца.

Язэп глянуў на Васіля, і слёзы самі пырснулі з яго вачэй.

— Нічога, нічога, брат, усё будзе добра,— ласкава супакоіў яго Васіль.— Ты ўжо не маленькі. Бацькі гэта ведаюць, і лішне баяцца за цябе ім няма чаго...

— Няма ў мяне бацькі...— сказаў, выціраючы слёзы, Язэп.

— А маці?

— Другі год я не бачу яе...

Слова за словам, і Язэп расказаў пра сябе ўсё, што ці-

кавіла Васіля. Не прамінуў і ўчарашняга здарэння на ворыве. І тут адбылося для Язэпа нечаканае: замест таго каб дакараць яго за такі ўчынак, Васіль раптам разрагатаўся.

— Ой, малайчына! — ціскаў ён яго за плечы.— Далібог, малайчына! Я, мусіць, сам так зрабіў бы. Толькі так трэба гаварыць з панамі і іх дракуламі. Усякая іншая гаворка да іх, праклятых, не дойдзе!

Пацешыўшыся ў ахвоту такою навіною, Васіль усё ж сур'ёзна задумаўся. У маёнтак цяпер Язэпу варочацца нельга. Цівун і сапраўды мог апруцянець ад Язэпавага каменя, і тады бяды хлопцу не мінуць. Схавацца дома ў маткі ён таксама надоўга не зможа. І разбойніцкія шайкі ў сваю кампанію яго не прымуць: слабаваты і малаваты. Але ж яго трэба ратаваць ад бяды. А як?

Праз нейкі час Васіль пачаў разважаць уголас:

— Думаю, браток, дадому табе пакуль што не варта спяшацца: яны знойдуць цябе... Пажыві трохі ў лесніка Саўкі. А там відаць будзе, што рабіць. Бо калі цівуна твайго чорт не ўзяў, цябе запякуць у астрог. А калі на ім ужо чэрці смалу возяць у пекле, то табе надзенуць кайданы і пагоняць у Сібір на катаргу. Гадоў малавата для катаржаніна? Ну, ды яны майстры: прыпішуць гадок-другі — і бывай здароў! Не, Язэпе, у рукі пану Жардзецкаму і яго суддзям лепш не трапляць... Запомні гэта.

У Язэпа крыху адлягло ад сэрца. Цяпер ён добра бачыў, што побач з ім сядзеў шчыры сябар, якому можна верыць як роднаму чалавеку.

Неўзабаве дарога раздваілася: адна пайшла прама, другая збочыла. Стракаты конь сам без ляйчыны павярнуў на бакавую дарогу. «Значыць, ён добра ведае гэтую дарогу,— падумаў Язэп.— Куды ж ён прывязе мяне? Што знайду я там у чужых людзей?»

Ужо адвячоркам перад падарожнікамі паказалася леснікова сядзіба — досыць прасторная дзялянка на ўскрайку пушчы, з высокім калодзежным жураўлём, высокім азяродам і рознымі гаспадарчымі пабудовамі, агароджанымі новым плотам. Стракач падняў галаву і весела заржаў. Пераскочыўшы цераз плот, насустрач фурманцы імчаўся вялікі рыжы сабака. Ён не брахаў, а дабрадушна скуголіў, вітаючы гасцей. З хаты, што стаяла з правага боку палянкі, выходзіў ляснік — малады мужык Васілёвых гадоў, толькі крыху шчуплейшы і вышэйшы ростам,

у лёгкай цёмнай кашулі, у шапцы з леснікоўскай цэшкай на аколышу. Ён адчыніў шырокія вароты, і фурманка ўехала на зялёны двор.

### III

Саскокваючы з павозкі, Васіль запытаўся ў лесніка Саўкі:

— Фелікса няма?

— Не, Канстанцін Сымонавіч. Няма.

— Гм...— спахмурнеў Васіль.— Пара ўжо яму вярнуцца...

Язэп здзіўлена глянуў на свайго спадарожніка: ён жа Васіль, а не Канстанцін!

Васіль перахапіў яго здзіўлены позірк. І шчыра рассмяяўся:

— Ну і Саўка! Ты ж выдаў мяне...

Спалоханы Саўка хапіўся за галаву. Толькі зараз да яго дайшло, што ён не меў права пры незнаёмым чалавеку — хто б ён ні быў — называць Васіля яго сапраўдным імем. Цяпер жа перад ім быў іменна Васіль Світка — звычайны часоваабавязаны, а не вучоны чалавек Канстанцін Сымонавіч Каліноўскі, з якім яго пазнаёміў нядаўна начальнік Сакольскай пісарска-егерскай школы Валерый Урублеўскі.

— Ну добра,— супакоіў Васіль збянтэжанага Саўку.— На гэты раз нам пашанцавала: мой новы знаёмы,— ён паказаў на Язэпа,— здолее лепш за цябе трымаць язык за зубамі. Праўда, Язэп?

Язэп кіўнуў галавою. Ён не разумеў, аб чым ідзе гаворка. Але ён, пэўна ж, здолее трымаць язык за зубамі, калі гэта патрэбна яго новаму знаёмаму, добраму, душэўнаму чалавеку.

— Толькі вось што, Саўка, не велічай ты, брат, мяне, а заві проста: Кастусь. Навошта, каб бацьку ікалася. У яго хапае клопату і без мяне. Тое ж скажу, Язэп, і табе. Ты — мой малодшы брат. Чуеш?

Язэп зноў ахвотна кіўнуў галавою.

— А брат заве брата як? Па імені. Ясна табе, разбойнік! — усміхнуўся Кастусь.— Ты мне, браток, падабаешся. Далібог. З цябе чалавек будзе. Ну, а калі нам трапіцца бываць у людзей і сярод людзей, тады ў мяне будзе два

імені: у шэрай світцы я — Васіль, па прозвішчу Світка, у панскай вопратцы — Канстанцін або лепш Кастусь Каліноўскі.

Нават і пасля такіх тлумачэнняў Язэп, відаць, усё яшчэ не разумеў, дзе ён апынуўся і што за людзі тут жывуць. Кастусь гэта бачыў. «Можа, ён нас за разбойнікаў лічыць? — падумаў ён.— Нарабіў Саўка бяды. Паспрабуй цяпер утлумач яму, хто мы і што. Задача нялёгкая. Ну ды нічога: зразумее».

Берастравіцкі каморнік Фелікс Ражанскі, пра якога пытаўся Кастусь у Саўкі, прыехаў у леснічоўку на другі дзень адвячоркам. І не адзін. Разам з ім прыехаў друкар з Беластока Максім Патапчык — чалавек немалады, каржакаваты, з пасівелымі вусамі. Фелікс з яго светла-русым маладжавым воблікам і танклявай постаццю мог сысці яму за сына гэтак жа, як і сам Кастусь.

Кастусь вельмі ўзрадаваўся гасцям.

— Цяпер, браткі, «раззудись, плечо! Размахнись, рука!» — затанцаваў ён вакол Фелікса.

— Ты пахни в лицо, ветер с полудня! — весела адказаў яму шчаслівы Фелікс радкамі з таго ж верша Кальцова.

— Ты, Фелікс, проста маг і чарадзей! Як гэта табе ўдалося?

— Я ж казаў: дзядзька Максім мне сваяк, хоць і не блізкі. А я не думаю, каб хто з маіх сваякоў дужа любіў цара-бацюхну і яго праклятых цэрбераў [1]. Праўда, дзядзька Максім?

— Няхай іх сырая зямля любіць...— сплюнуўшы пад ногі, адказаў Максім Патапчык.

— А як жа са службаю? Не нагарыць за самавольную адлучку? — пацікавіўся Кастусь.

— Усё зроблена чын чынам...— адказаў Фелікс.

— Глядзіце, каб не кінуліся шукаць бегляка. Яшчэ на след натрапяць...

— Не кінуцца,— супакоіў дзядзька Максім Кастуся.— Мяне пусціў са службы сам майстар нашага наборнага цэха пан Баранкевіч.

— Ты што, Фелікс, можа, і пану Баранкевічу адкрыў нашу друкарню? — спалохаўся Кастусь.

---

[1] Цэрбер — паводле старажытнай грэчаскай легенды, люты сабака, вартаўнік пекла.

— Няхай бог крые: ён жа мне не сваяк! Я толькі за сваякоў магу ручацца.

— Дык як жа?

— А так: давялося дзядзьку Максіму схлусіць, што яго самая блізкая бабка богу душу аддае... І ён вельмі хацеў бы хоць развітацца з ёю перад смерцю...

Кастусь супакоіўся.

— Хлусіць, аднак, рэч не надта прыемная,— паморшчыўся ён.— І гэта мы, дзядзька Максім, вінаваты, што вымусілі цябе схлусіць. Так што прабач, калі ласка. Хаця, калі для карысці справы, яно грэх і не вялікі. Важна, каму і для чаго чалавек хлусіць. Ну добра. Даю вам, сябры, вольную да самай раніцы. Пасля вячэры можаце спаць, можаце песні спяваць. А як толькі пачую голас першай птушкі — падымаю на прыгон. Дзядзьку Максіму ў нас работы рабіць — не перарабіць.

— Пастараюся перарабіць,— адказаў Максім.— Вядома, калі прыганяты не будзе лішне бізуном хвастаць. А як станок? Спраўны?

— Здаецца, спраўны,— сказаў Кастусь.— Пастаўшчыкі людзі надзейныя.

— Вярстатка і наборная дошка ў шрыфце?

— Там яны. Мы ўжо тут з Феліксам усю сваю гаспадарку ў руках перамацалі. Праўда, слаба кумекаем, што і да чаго. Але думаем, ты, дзядзька Максім, самае важнае нам удзяўбеш у галовы.

— Паспрабую,— адказаў Максім.— Навука мая для такіх грамацеяў не павінна быць складаная. Мудрэй за ўсё, вядома, набор зрабіць. Тым больш без наборных кас. А друкаваць на ручным станку вялікай навукі не трэба.

Пасля вячэры Максім Патапчык не пайшоў адпачываць, а папрасіў гаспадароў паказаць яму сваю друкарскую гаспадарку.

Гаспадарка гэтая змяшчалася ў лесніковай клуні, разгароджанай на засекі і застаўленай рознымі бочкамі і скрынкамі. Там, пры невялічкім акенцы з адной шыбінай, стаяў нізкі сасновы стол, а на ім узвышаўся, накрыты посцілкаю, друкарскі станок.

Дзядзька Максім зняў посцілку, агледзеў станок з усіх бакоў, пакруціў ручку — верх станка лёгка падняўся ўгару.

— Што ж,— пацiснуў ён плячыма,— станок неблагі, хоць і стары, як свет. Мусіць, на такіх яшчэ пры цару Га-

роху друкавалі. У нас у Беластоку іх ужо не знойдзеш. Гэты, відаць, у Вільні дзе-небудзь заваляўся? Га?

Кастусь засмяяўся:

— Сакрэт, дзядзька Максім!

— Ну, а шрыфт дзе?

Кастусь падышоў да скрынкі, што стаяла побач, зняў з яе накрыўку. Дзядзька Максім нагнуўся і пачаў перабіраць рукамі шрыфт і розны іншы матэрыял. Там жа ён знайшоў і вярстатку з наборнаю дошкаю.

— А шыла няма?

— А нашто яно?

— Наборшчык без шыла, што шавец без дратвы. Ну, ды я думаю, у Саўкі знойдзецца які-небудзь цвічок для шыла.

— А хіба ў яго шыла няма? — сказаў Фелікс.— Падшывае ж ён лапці!

— Лапці і літары не адно і тое ж.

Пакуль дзядзька Максім знаёміўся з іхняй друкарскай гаспадаркай, Кастусь думаў, як нялёгка яна збіралася і здабывалася. Але цяпер гэта — справа мінулая.

Ён прыдумаў ужо і назву для новай газеты — «Мужыцкая праўда». Назва гэтая прыйшла ў галаву яму не выпадкова. Ён даўно ўжо задумваўся над пытаннем, на чыім баку будзе стаяць, калі пачнецца новая сутычка царскай Расіі з Царствам Польскім. А сутычка гэтая не за гарамі. Можна сказаць, яна ідзе ўжо з таго памятнага дня 15 лютага мінулага года, калі царскія салдаты расстралялі ў Варшаве мірную маніфестацыю. Другі год ужо ксяндзы разам з парафіянамі спраўляюць у касцёлах памінкі па ахвярах расстрэлаў, спяваюць свае нацыянальныя песнігімны. У знак жалобы па забітых польскія жанчыны носяць чорныя шапачкі — гарыбальдаўкі, а мужчыны — канфедэраткі [1] белага або фіялетавага колеру. Гэтая пакуль бяскроўная, але зацятая вайна перакінулася і на палякаў беларускіх і літоўскіх губерняў.

Ужо з першых гадоў вучобы ў Пецярбургскім універсітэце Кастусь, як і яго старэйшы брат Віктар, моцна звязаў свой лёс з тымі маладымі людзьмі — студэнтамі з заходніх губерняў і Царства Польскага, якія выступалі супроць царскага дэспатызму і прыгоннага права. Яны ства-

---

[1] Канфедэратка — шапка з чатырохкутным дном і кутасікам наверсе. Такія шапкі насілі польскія рэвалюцыянеры.

ралі тайныя гурткі, чыталі забаронены ў Расіі герцэнаўскі «Колокол», лістоўкі і брашуры рускіх рэвалюцыянераў, артыкулы Чарнышэўскага і Дабралюбава ў часопісе «Современник» і марылі аб вялікай народнай рэвалюцыі і ў Польшчы і ў Расіі.

У Пецярбурзе Кастусь пазнаёміўся і шчыра пасябраваў не толькі з многімі сваімі землякамі-аднагодкамі, а і з людзьмі старэйшымі, якія займалі высокія пасады ў царскіх установах, але думалі так, як Герцэн і Чарнышэўскі, Бялінскі і Дабралюбаў. Сярод іх асабліва вызначаліся афіцэры з акадэміі Генеральнага штаба Зыгмунд Серакоўскі, Яраслаў Дамброўскі і Людвіг Звяждоўскі. Яны былі палякі, шчырыя патрыёты сваёй радзімы, гатовыя аддаць за яе жыццё, як гэта зрабіў іх славуты папярэднік Тадэвуш Касцюшка.

А хто ж ён сам?

Дзяды і прадзеды яго спрадвеку жылі на тых землях, якія даўно ўжо маюць сваё законнае, прызнанае ўсім светам імя — Беларусь. Не польскія правінцыі, якімі лічаць іх палякі, не рускі Паўночна-Заходні край, а Белая Русь. І людзі тутэйшыя гавораць не па-польску і не па-руску, а па-свойму, па-беларуску. Спяваюць свае песні. Расказваюць казкі і легенды на сваёй мове. Ёсць сярод іх і свае паэты, і пісьменнікі. Кастусь сам ведаў на памяць беларускую паэму «Тарас на Парнасе», з якой пазнаёміў яго брат Віктар.

Траляліся яму і кніжкі Вінцука Дуніна-Марцінкевіча. Ды і сам Уладзіслаў Сыракомля, вядомы польскі паэт, у якога ён часта гасцяваў, вярнуўшыся з Пецярбурга, і нават вучыў яго дзяцей рускай мове, не раз чытаў яму і свае беларускія вершы:

Заходзіць сонца пагоднага лета,
І веець вецер з заходніх нябёс.
Здароў будзь, вецер! З далёкага света
Добрыя ж весці да нас ты прынёс!

Здаровы ж будзьце, эй, добрыя весці!
Там, на Заходзе, праліваюць кроў.
Б'юцца для славы, свабоды і чэсці
І робяць вольных людзей з мужыкоў!

Гудуць вясёла і песні і танцы
У добрым жніве на шчаслівы год.
Годзе вам, годзе, вы, паны-паганцы,
Таптаць з балотам хрышчоны народ!

Годзе вам, годзе ў яснай карэце,
Годзе, паночкі, заязджаць у двор!
Годзе вам, годзе, мужыцкія дзеці,
З хаткі астаткі даваць на пабор!

Як усё ў гэтых вершах проста і міла! Кожнае слова хапае за душу, бо знаёмае ад самай калыскі. Так гаварылі яго бацька, і маці, і ўсе суседзі, сярод якіх ён гадаваўся спачатку ў Мастаўлянах, а потым у Якушоўцы каля мястэчка Свіслачы. Ніхто там між сабою не гаварыў іначай, хоць некаторыя простыя людзі і хадзілі ў адзін касцёл разам з багатымі панамі. Кастусь ужо даўно ведаў, што каталіцкая вера яшчэ не робіць чалавека палякам. Вера — гэта зусім іншая справа. Ахрысціў цябе ксёндз, значыць, ты — каталік, ахрысціў поп — праваслаўны. А мова — яна не залежыць ні ад цара, ні ад бога.

Кастусь часта гаварыў пра гэта з Віктарам. Вучоны гісторык Віктар шмат мог расказаць пра свой родны край і такога, чаго ні ў якіх кнігах не вычытаеш. Яго расказы не знікалі бясследна з чулай душы малодшага брата. І цяпер, калі ён сам пачынаў выходзіць у першыя шэрагі змагароў з царскім самаўладствам, ён добра разумеў, што ў заходніх губернях, апрача дзвюх сіл — Царства Польскага і Царства Рускага, ёсць і трэцяя немалая сіла — яго радзіма і яе людзі. І газету сваю ён будзе друкаваць для сваіх родных, кроўных братоў — беларускіх сялян-мужыкоў. Цэнтральны нацыянальны камітэт у Варшаве выдае з лета мінулага года дзве свае падпольныя газеты: «Стражніца» і «Касінер» — для сялян. А яны тут, на Гродзеншчыне, будуць друкаваць сваю «Мужыцкую праўду», бо гэтая газета павінна ў першую чаргу трапіць да мужыка. Разбудзіць яго, раскатурхаць, голасна сказаць яму, што ён — не хам, не быдла, якім лічаць яго паны, каралі і цары, а такі ж чалавек, як і ўсе людзі, што ён спрадвеку носіць у сэрцы сваю мужыцкую праўду і павінен яе нарэшце дабіцца.

## IV

Саўка жыў адзінока. Сям'і яшчэ не завёў. Таму і гаспадарка ў яго была халасцяцкая. З жывёлы ён трымаў толькі каня і сабаку. Відаць, гэта і ўлічваў Валерый Урублеўскі, калі параіў Кастусю Саўкаву лесніčоўку для падполь-

най друкарні. Хто мог да яго зайсці або заехаць? Бацькі, выпадковы падарожны або яго начальнік ляснічы — такі ж добры знаёмы Валерыяў, як і Саўка. У навакольных лясах і ў пушчы ў Валерыя Урублеўскага ворагаў не было. Хіба ж знойдзеш лепшы тайнік у Гродні або Беластоку, перапоўненымі царскімі шпікамі і жандарамі?

Прывабіла Кастуся гэтае глухое месца яшчэ і таму, што ён задумаў стварыць тут сваю асноўную ваенную базу. Для яго гэта была тая печ на трывалым грунце, ад якой ён збіраўся танцаваць.

Лішніх ложкаў і падушак у Саўкі не было, і таму ўсе яго госці зараз спалі ў пуні на сене.

Кастуся доўга не браў сон. Думкі плылі і плылі, адна за адной. За плячыма нялёгкія юнацкія гады. А што чакае наперадзе? Выхад першага нумара газеты, пэўна ж, думаў ён, стане для яго той мяжою, якая рэзка аддзеліць яго сённяшняе жыццё ад учарашняга. Ён бярэ на сябе новую ношу і новыя клопаты. Ці хопіць у яго на гэта сілы і розуму? Сябры, вядома, будуць памагаць. Але ўжо і зараз для Кастуся было ясна, што асноўны цяжар усёй справы ляжа на яго плечы. Ён жа адзіны з кіраўнікоў Гродзенскай арганізацыі, не звязаны з казённаю службаю. На прашэнні наконт службы, якое ён падаў па сканчэнні вучобы вясною мінулага года начальніку краю віленскаму генерал-губернатару Назімаву, апошні напісаў тлустым чорным чарнілам:

«Абвясціць аб адсутнасці вакансій». Гэта была чарговая хлусня царскага генерал-губернатара. Напалоханы народнымі хваляваннямі пасля расстрэлаў у Варшаве, ён баяўся кожнага студэнта і кожнага маладога адукаванага чалавека з заходніх губерняў.

Кастусь жыў як папала. Затое быў вольны, як птушка. Найбольш дапамагалі яму Валерый і Фелікс. Дамоў ён рэдка калі заглядваў. Бацьку сказаў, што шукае сталай службы, і той супакоіўся. У бацькі сапраўды хапала свайго клопату: і гаспадарка немаленькая і сям'я — таксама. Кастусь не ладзіў з мачыхаю, і калі вучыўся, стараўся менш дакучаць бацьку просьбамі аб грашах. Ён прывык жыць у холадзе і ў голадзе. А калі вярнуўся на радзіму, гэтая студэнцкая прывычка яму вельмі спатрэбілася.

Перад світаннем думкі-мары ўсё ж закалыхалі Кастуся. Ён заснуў. Але спаў неспакойна. І калі ўжо добра развіднелася за пуняй, яго аклікнуў Саўка:

— Кастусь Сымонавіч, пара падымацца. Я ўжо вунь чыгун бульбы наварыў на сняданак.

Хоць Кастусь і выгаварваў яму, Саўка ўсё ж ніяк не адважваўся называць яго адным імем.

Кастусь усхапіўся, працёр вочы: на дварэ і праўда займалася чыстая, ясная раніца. За пуняю на ўсе лады гамانілі і шчабяталі птушкі.

— Як жа гэта я так заспаўся! — хваляваўся ён, пацягваючыся.

Услед за Кастусём падняліся і астатнія начлежнікі.

— Ну вось бачыш,— сказаў дзядзька Максім.— А пагражаў падняць на досвітку. Няважны, як бачу я, з цябе цівун быў бы.

Паснедаўшы, Кастусь пайшоў з Максімам і Феліксам у клуню, а Саўку і Язэпа папрасіў наглядаць за ваколіцай.

— Калі што якое,— сказаў ён,— сігнальце. Можна свістам. Можна кашлем. Абы мы пачулі і здагадаліся.

Язэп усё яшчэ толкам не разумеў, што благое збіраюцца рабіць гэтыя новыя знаёмыя і чаму ім трэба ад некага хавацца. Але ён ведаў, што яны добрыя людзі, вельмі добрыя, прынялі яго ў сваю сям'ю, як радню, і ён верыў ім. Ён ужо сплёў сабе новыя лапці, а Саўка знайшоў у сваёй кладоўцы для яго лішнія старыя аборы і анучы. Ён добра адпачыў і нават павесялеў, хоць на душы ўсё яшчэ было трывожна за будучыню: а што, калі яго знойдуць тут ды вернуць назад да пана Жардзецкага? Як і Кастусь, малады ляснік Саўка адразу ж неяк стаў для Язэпа блізкім чалавекам. Ён у першы ж дзень сказаў яму: «Калі хто зойдзе з чужых і пацікавіцца, хто ты, кажы: «Прыйшоў да сваяка». А вёска твая каля Саколкі. Называецца Вераб'ёва. Запомніш?»

Язэп добра запомніў сваю новую вёску, і цяпер яму здавалася, што Саўка і сапраўды яго сваяк з Вераб'ёва.

Працаваць у такой цеснай і змрочнай друкарні наборшчыку Максіму Патапчыку яшчэ не даводзілася. Замест наборных кас перад ім на звычайным Саўкавым кухонным століку ляжала куча шрыфту, перамешанага з розным іншым друкарскім матэрыялам — прабеламі, шпонамі, шпацыямі... Праўда, ужо ўчора пры першым азнаямленні Максім заўважыў, што падбор гэтага матэрыялу рабіў нехта з

толкам, разумеючы справу. Кастусь пацвердзіў, што так яно і было: шрыфт прыслалі ім з самой Варшавы верныя людзі.

— Гм...— пачмыхаў Максім.— Навошта было дзеля гэтага яшчэ Варшаву трывожыць. Сказалі б мне, і я вам дастаў бы.

— А хто ж гэта ведаў,— пашкадаваў Кастусь.

— Фелікс жа ведаў.

— Пра гэтую тайну, дзядзька Максім, і цяпер ведаюць толькі сем чалавек, гэта разам з Саўкам і Язэпам, калі ён што-небудзь кумекае ў нашай справе.

— А ведаеш — хлопец ён кемлівы,— сказаў Фелікс.— Вось бы грамату яму, хоць букварную!

— А чаго ж,— падхапіў Кастусь.— Можна навучыць. Буквара толькі няма.

— Буквар я дастану,— сказаў Фелікс.— Толькі які лепш: польскі ці рускі?

— Думаю, лепш рускі,— сказаў Кастусь.— Ён жа з польскай мовы ведае толькі тыя словы, якімі яго абражалі паны і цівуны: хлоп, быдла, пся крэў, двадзесце ці тшыдзесце пеньць розаг або бізуноў... Хоць, калі шчыра казаць, то і рускі буквар таксама не для яго складаўся. Усе педагогі даўно ведаюць азбучную ісціну: вучыць дзяцей трэба пачынаць з простага, добра знаёмага, а потым ужо ісці і да больш складанага, незнаёмага. Просты і знаёмы быў бы для нашых дзяцей свой беларускі буквар. Але ж паспрабуй уталкуй гэта рускаму цару або яго міністру асветы.

— Цар гэта не зразумее,— сказаў Фелікс,— бо ў яго ў самога першым букваром быў французскі, а не рускі.

— Гэта так,— згадзіўся Кастусь.— Але ж і да буквара ён ужо ведаў больш слоў французскіх, чым рускіх. Усе нянькі і мамкі гаварылі з ім па-французску. А рускую мову ён вучыў проста, можна сказаць, пад прымусам: мусіць жа будучы рускі цар ведаць і рускую мову! Такі ж яго і міністр асветы. Вы паслухалі б, як усе гэтыя прыдворныя, князі і графы, гавораць паміж сабою. На два словы рускіх дзесяць французскіх!

— Так што, выходзіць, яны такія ж рускія, як мы туркі,— усміхнуўся дзядзька Максім.— Вытурыць бы іх туды, у Францыю, няхай бы там галёкалі з маркізамі ды маркізанкамі.

Пакуль ішла гэтая і іншая гаворка, дзядзька Максім шпарка раскладаў шрыфт кучкамі на стале. У кожнай кучцы была асобная літара. Побач з большымі кучкамі ляжалі

меншыя. У першых былі літары звычайныя, у другіх — загалоўныя, або так званыя прапісныя. Асобна размяшчаўся тут жа і іншы друкарскі матэрыял. Гаспадарка гэтая заняла ўвесь стол, які замяніў друкару Максіму Патапчыку прывычныя наборныя касы.

Кастусь з Феліксам з цікаўнасцю разглядалі літары і прывыкалі чытаць іх у адваротным выглядзе. Дзядзька Максім сяды-тады паказваў ім тую ці іншую дэталь з набору і тлумачыў, што яна значыць і для чаго. З яго слоў Кастусь хутка зразумеў, што наборны шрыфт мае сваю пэўную сістэму. Аснова гэтай сістэмы — пункты і квадраты. Самая большая мера — сорак восем пунктаў, самая меншая — адзін. Гэта ўсё роўна як аршын і цалі. Дзядзька Максім зусім лёгка вызначае любую велічыню ў сваёй гаспадарцы проста на вока.

Навука такая Кастусю з Феліксам здавалася вельмі цікавай. І хутка яны наладзілі цэлую гульню ў пункты — хто адгадае, колькі іх у тым ці іншым друкарскім знаку. А праз пэўны час іхняя друкарская гаспадарка ўжо не здавалася ім нейкай таямніцай. І калі дзядзька Максім узяў нарэшце ў рукі вярстатку ды, пазіраючы ў рукапіс, пачаў рабіць набор, Кастусь з Феліксам ужо не глядзелі на яго работу як баран на новыя вароты.

Хоць дзядзька Максім і змарыўся, але работу сваю рабіў з вялікаю ахвотаю.

— Ды вашу газету не толькі чытаць — на памяць завучваць будуць, як пацеры,— ахкаў і дзівіўся ён.— Малая, а такая баявая...

— Малы залатнік, ды дарагі,— радаваўся Кастусь, бачачы, як захапіўся іхняй газетай яе першы чытач, рабочы чалавек.

— Гэта ж усё роўна як сусед з суседам гамоняць і пра такое для іх важнае... Ай ды Яська — гаспадар з-пад Вільні! Хто ж з вас ён? — дапытваўся Максім.— Нябось, не прыслаў жа ён свой рукапіс сюды ў гэтую глухмень з-пад самай Вільні?

— А чаму б і не, дзядзька Максім,— адказаў Фелікс.— Наш Яська на ўсё здатны.

— А чаму ўсё ж ён з-пад Вільні? Мог жа быць, скажам, з-пад Гродні? Або хоць бы з-пад Слоніма ці Ваўкавыска?

— Мог, дзядзька Максім,— перайшоўшы на сур'ёзны тон, тлумачыў Кастусь.— Але скажыце: якога суседа нам

цікавей слухаць — блізкага, якога мы ведаем, як самога сябе, ці далёкага, які заўсёды скажа нешта новае і цікавае?

— Гм... праўду кажаш,— згадзіўся Максім.— Вільня ўсё ж не Ваўкавыск, а цэнтр цэлага краю. Яська з-пад Вільні, вядома, больш бачыць і чуе, што на свеце робіцца. Гаворыць жа ён рыхтык, як у нашай Бераставіцы.

— Ды і назімаўскім віжам [1] работы прыбавіцца. Яны, пэўна ж, кінуцца шукаць Яську каля Вільні,— сказаў Кастусь.— А там Яськаў многа. Пакуль усіх ператрасуць...

І калі зрабілі на друкарскім станку першыя карэктурныя адбіткі будучай газеты, дзядзька Максім папрасіў Кастуся:

— Зрабі ласку, Яська, пачытай, браток, уголас. Цяпер-то я ведаю, што́ Яська напісаў, але хочацца пачуць гэта сваімі вушамі. Мне ўсё яшчэ не верыцца, што напісана гэта па-нашаму.

— Я, дзядзька Максім, не Яська, а паў-Яські або і таго менш,— засмяяўся Кастусь.

— Ну добра,— сказаў Максім.— Калі так, то чытайце па палавіне.— Ён падаў першую старонку адбітка Кастусю, а другую — Феліксу.

— Вось так я згодзен,— сказаў Кастусь.— Гэта справядліва. Але ці не паклікаць нам і Саўку з Язэпам? Відаць, і ім цікава будзе паслухаць, што мы тут натварылі. Ідзі, Фелікс, падмяні іх. А я ўжо тут пачытаю за цябе і тваю долю.

Фелікс пакінуў клуню, і неўзабаве сюды зайшлі Саўка з Язэпам. Прыладзіўшыся бліжэй да акенца, Кастусь пачаў чытаць чыстым, роўным голасам:

«Мужыцкая праўда», № 1

Дзецюкі!

Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі,— цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядлівую, як бог на небе. О, загрыміць наша праўда і як маланка пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць хлебам, но яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўдай.

Пыталі і пытаюць усе, што чуваці на свеце, хто нам, бедным мужыкам, дасць вольнасць? Но, праўду сказаўшы,

[1] Віж — шпік, сышчык.

мала хто хоча сказаць так, як сумленне кажа,— па справядлівасці. Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць гэтую праўду, толькі слухайце нас!

Маскалі [1], чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас, но найдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць вашай свабоды, вашага шчасця — яны то вам самі гэта пісьмо даваці будуць, каб вы зналі, хто ваш прыяцель, а хто ваш вораг.

Шэсць лет ужо мінула, як пачалі гаварыць а свабодзе мужыцкай. Гаварылі, талкавалі і пісалі многа, а нічога не зрабілі. А гэты маніфест, што цар з сенатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае да чаго ён панадобны,— ніякай у ём няма праўды, няма з яго для нас ніякай карысці. Парабілі канцылярыі, зрабілі суд, як бы гэта не ўсё роўна даваць у с...чы з судом, чым без суда.

Парабілі пісароў, пасрэднікаў, а ўсё за мужыцкія грошы і вялікія грошы — чорт іх ведае, на што; для таго хіба, каб запісвалі ў ксёнжкі, як многа напішуць на с... мужыцкіх. А з гэтага то і відаць, што нам нічога добрага і не думалі зрабіць.

Праўда, абяшчалі то калісь даць нам вольнасць, но, як нам здаецца на наш мужыцкі розум, што хочуць ашукаці, бо калі праз шэсць лет нічога не зрабілі, то чэраз рок [2] пэўне не зробяць. Могуць яшчэ напісаці і другі маніфест, яшчэ большы ад гэтага, но і з гэтага другога маніфеста нічога добрага, як і з першага, не будзе.

Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць. Но не доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, дзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлі і свабоду. Вазьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай жа робяць па свентай [3] справядлівасці, бо калі іначай — так чорт іх па-

---

[1] Слова «маскаль» у Беларусі, а таксама ў Польшчы, Літве і на Украіне ў мінулым веку мела тры значэнні: цар або прадстаўнік царскай улады; салдат; рускі. Такія ж значэнні мела і слова «маскоўскі». Гаварылі — не рускі цар, а маскоўскі або: здалі ў маскалі, служыў у маскалях. У «Мужыцкай праўдзе» гэтыя словы ўжываліся ў пераважнай большасці выпадкаў у першым і другім значэннях.

[2] Р о к *(польск.)* — год.

[3] С в е н т а й *(польск.)* — святой.

бяры! Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць сваго[1] патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе.

Гэту «Мужыцкую праўду» напісаў і зноў пісаць будзе
*Яська — гаспадар з-пад Вільні».*

Ужо ад першых прачытаных Кастусём радкоў Язэпу моцна запяршыла ў горле. Гарачы камяк падступіў да грудзей. Ён не раз чуў мужыцкія гаворкі пра волю, пра цара і паноў. Але так гаварыць, каб кожнае слова западала табе ў сэрца, ніхто пры ім яшчэ не гаварыў. Словы ўсе вельмі ж знаёмыя, яго ўласныя словы, а робяць цуд: прымушаюць цябе і слухаць, і перажываць, бо ў словах гэтых твае самыя задушэўныя думкі і жаданні.

Не менш узрушыўся пачутым і Саўка. Праз новую газету, якая толькі што нараджалася тут, у яго цёмнай клуні, гаварыў з ім нехта, хто вельмі ж добра ведае, чым ён, Саўка, жыве і што трэба яму самому ведаць і пра сябе, і пра ўсіх такіх жа, як ён, людзей. Што ні слова тут, то ўсё чыстая шчырая праўда. У лесе Саўка жыве пяты год — з таго часу, як яго пан перавёў сваіх прыгонных на аброк. Аброк пан, вядома, вызначаў сам, без згоды мужыкоў. І вызначыў, душагуб, такі высокі, што хоць ад гаспадаркі адракайся. Але ж прыгонны чалавек і гэтага не вольны зрабіць, бо моцна прывязаны да свайго надзелу і свайго пана ўсімі законамі вялікай Расійскай імперыі. Паспрабуй пакінуць свайго пана, і цябе знойдзе царская паліцыя, дзе б ты ні схаваўся. Таму і паслаў бацька Саўку ў казённае лясніцтва зарабляць на аброк. Саўку даўно пара б і пра сваю сям'ю падумаць, не векаваць жа тут воўкам у гэтым лесе. Ды праклaverты аброк стаіць упоперак яго дарогі. І канца-краю яму няма і не будзе: скончыцца выплата пану, пачнецца выплата казне — усё за той жа кавалак спрадвечнай дзедаўскай і прадзедаўскай зямлі. Праўду кажа Яська, што не жадае людзям дабра цар, што паны яму мілей, чым простыя мужыкі. Іначай не даў бы ён ім такой недарэчнай волі, якая нічым не лепшая за няволю.

Дзядзька Максім шчыра падзякаваў Кастусю за яго газету і сказаў:

— Вось гэта, браткі, сапраўды наша мужыцкая праўда! І дай ёй бог шчаслівай дарогі і да мужыцкіх сэрцаў, і да сэрцаў усіх сумленных людзей!

---

[1] Сваго — свайго.

V

На другі дзень дзядзька Максім паехаў з Феліксам у сваю Бераставіцу. Фелікс прыхапіў з сабою сотні дзве першых адбіткаў яшчэ свежай газеты, каб развезці іх па спаіх дарогах. Дзядзька Максім таксама хацеў узяць некалькі газет з сабою ў Беласток. Але Кастусь запярэчыў:

— Спакайней будзе, дзядзька Максім, калі мы самі перашлём табе іх. Як мы гэта зробім? Падумаем.

— Ну вам віднай,— згадзіўся Максім.— Няхай будзе так.

Феліксу Кастусь не напамінаў пра асцярогу. Ён ведаў, што яго сябар зробіць усё так, як і ён сам зрабіў бы. Ды ўрэшце яны ўжо даўно дамовіліся, як і якімі дарогамі пойдзе і паедзе іх газета да свайго чытача. Большая палавіна тыражу, вядома, мусіць трапіць праз Гродзенскі камітэт у павятовыя і акруговыя арганізацыі. І павязе газету ў Гродню сам Кастусь. Частку ён пакіне па дарозе Валерыю. У яго самыя шырокія сувязі з усімі егерамі і лясвічымі.

Выправіўшы ў дарогу Фелікса з Максімам, Кастусь паклікаў у клуню Язэпа.

— Газету нашу слухаў? — запытаўся ў яго.

— Гэта тыя лісткі, што ты чытаў?

— Але, тыя лісткі і ёсць, брат, наша газета. Хочаш, каб яе і другія пачыталі ды паслухалі?

Язэп нават пакрыўдзіўся:

— Хіба ж не ведаеш...

— Ну калі так, то будзеш памагаць мне друкаваць нашу газету. Саўка няхай вартуе нас.

Язэп зрабіў вялікія вочы.

— Нічога. Нічога,— сказаў Кастусь.— Зараз табе ўсё будзе ясна. На, бярыся за гэтую штуку.

Язэп узяўся за невялікую драўляную ручку друкарскага станка.

— А цяпер пакручвай ад сябе.

— І ўсё?

— Усё.

Язэп пакруціў ручку — верх станка заварушыўся, як жывы, і падняўся на вінтах угору. Кастусь тым часам правёў па талеры са шрыфтам валікам, змазаным чорнаю фарбаю, і палажыў на шрыфт ліст чыстай паперы.

— Цяпер круці ручку ў другі бок.

Язэп пакруціў — верх станка папоўз уніз і прыціснуў ліст паперы.

— Давай угору! — пакамандаваў Кастусь.

Язэп пакруціў ручку ад сябе. Верх станка зноў падняўся. У гэты час Кастусь зняў ліст са шрыфту і палажыў яго збоку. Потым зноў змазаў шрыфт валікам і палажыў на яго новы чысты ліст паперы.

І так пайшло і пайшло.

Некалькі разоў заходзіў у клуню і Саўка. Вельмі ж цікава было паглядзець, як друкуецца газета. Ён нават зайздросціў Язэпу і прасіўся ў падмен яму. Але Кастусь быў строгі.

— Ты, Саўка, на варце стаіш,— праганяў ён яго з клуні.— А вартаўнік не мае права без дазволу нават з месца скрануцца. Разумееш?

Саўка нехаця пакідаў клуню. Ён ведаў, што Кастусь на вецер слоў не кідае: перш чым сказаць што, ён думаў. Вядома, ён любіў і жартаваць, але ніколі не прыкідваўся іншым, кім ён ёсць. Адкрыты і сумленны, смелы і адважны, ён, аднак, не рабіў учынкаў неабдуманых або легкадумных.

Хоць друкары і завіхаліся, работа ішла зусім марудна. За гадзіну паспявалі зрабіць не больш ста адбіткаў.

І ўсё ж на другі дзень пад вечар усе Кастусёвы запасы паперы ажылі, загаварылі голасам адвечнай мужыцкай праўды. Цяпер гэта былі не звычайныя аркушы паперы, а палымяныя барацьбіты за народную справу.

Зморапы, але шчаслівы Кастусь сказаў свайму памочніку:

— Паедзем скора, Язэп, з табою ў дарогу. Згодны?

— Куды?

— Далёка. Адгэтуль не відаць.

— Добра. Паедзем,— кіўнуў Язэп галавою.

Тут жа Кастусь выйшаў з клуні і папрасіў Саўку падрыхтаваць каня і павозку.

— Надоўга? — пацікавіўся Саўка.

— Думаю, на дзён тры.

— Адзін едзеш?

— З Язэпам.

— Сёння ці заўтра?

— А так — паміж сёння і заўтра.

Пасля вячэры Кастусь абуў лёгкія летнія гамашы, апрануў светлы шарсцяны сурдут, на галаву надзеў капялюш. Язэп толькі дзіву даваўся: перад ім стаяў не часоваабавязаны малады мужык Васіль Світка, а нейкі паніч або чыноўнік не ніжэй валаснога пісара. Новая вопратка зусім

змяніла Кастуся. Калі б Язэп убачыў яго не ў Саўкавай леснічоўцы, ніколі б не прызнаў у ім свайго знаёмага.

Перад ад'ездам Кастусь расклаў газеты на два стосы. Большы ўпакаваў пад сядзеннем, а меншы, загорнуты ў пасцілку, палажыў каля ног. Язэпа пасадзіў на фурманскае месца.

Саўка адчыніў вароты і пажадаў падарожнікам шчаслівай дарогі. Ён нават не запытаўся ў Кастуся, чаму і куды той выбраўся насупраць ночы. Відаць, так трэба.

## VI

Ехалі яны траха не да самага світання. І хоць Язэп сядзеў за фурмана, канём кіраваў больш пан-гаспадар, чым ён, бо ехалі ўлукаткі, па дарогах, вядомых аднаму Кастусю. І ў кожнай вёсцы ці паселішчы пакідалі след: «Мужыцкую праўду»... Дзе прымацоўвалі яе да сцен і платоў шпількамі, а дзе і проста перакідвалі цераз вароты ў двары.

На досвітку апынуліся недалёка ад павятовага горада Саколкі. Выбралі зручнае месца для папасу — зялёны лужок пры лесе. Язэп выпраг каня, спутаў яго і пусціў пасвіцца на росны мурог. Сам ён ужо ледзь на нагах трымаўся. Пазяхаў раз за разам.

— Кладзіся, Язэп, на мяккім сядзенні,— сказаў яму Кастусь.— А я павартую.

Язэпу няёмка было займаць гаспадарова месца на возе. Ён паспрабаваў аднеквацца. Але Кастусь і гаварыць не даўся.

Язэп заснуў адразу ж, як толькі апусціў галаву на сухое пахучае сена. Кастусь таксама моцна змарыўся. Ён тупаў каля павозкі туды-сюды, аддаўшыся сваім марам. Тое, што рабіў ён да гэтага часу,— толькі першыя крокі, вельмі яшчэ ціхія і асцярожныя, думаў ён. Для таго каб узняць край на паўстанне, мала адных тайных гурткоў і адных гаворак пра паўстанне. Мала і асобных мужыцкіх бунтаў супроць царскай рэформы. Нехта павінен злучыць усе гэтыя сілы ў адзін моцны кулак. Хто гэты нехта? Пецярбург? Там ёсць светлыя галовы і шчырыя народалюбцы, якія душою хварэюць за свой абяздолены народ. Кастусь гэта ведаў. Але ведаў і другое: сілы там, каб узняць матухну-Русь на паўстанне, яшчэ вельмі і вельмі мала. Больш наспела рэвалюцыя ў Польшчы. І, відаць, Варшава першая ўзніме

сцяг вызвалення сваёй радзімы, так, як гэта было і раней. Але ж у Варшаве ніколі не было ладу і згоды. Нават пецярбургскія студэнты-палякі і тыя падзяліліся на тры партыі. Адны далучаліся да белых, другія — да памяркоўных, а трэція — да чырвоных, да якіх належаў і сам Кастусь. Як белыя, так і памяркоўныя спадзяваліся на мірную згоду з царом. Усялякая ж рэвалюцыя — збаў божа! Яна можа разам з царызмам вытурыць з маёнткаў і саміх паноў з магнатамі... Такія ж, вядома, і бацькі ў гэтых студэнтаў — таксама белыя і памяркоўныя. Ці ж захочуць яны ўзнімаць на паўстанне сваіх мужыкоў? А калі так, то ці захочуць самі мужыкі за няма што праліваць сваю кроў? Мужыку патрэбна воля. А яна настане толькі тады, калі на яго карку не будзе сядзець ні цар, ні пан, калі ён будзе мець зямлю без выкупу.

На ўсходзе сонца Кастусь пабудзіў Язэпа.

— Тут яшчэ вёрст пяць да нашай Саколкі,— сказаў ён.— Пакуль даедзем, то і снедаць пара. Валерый нам самаварчык паставіць, яечню спячэ на сале. Я яго ведаю, ён любіць яечню сам, а яшчэ больш — частаваць ёю сваіх гасцей. Такі ж, небарака, адзінокі, як і мы з табою.

Язэп доўга не мог раскатурхацца ад сну, і таму Кастусь запрагаў каня сам. Потым даў яму пугу ў рукі і сказаў:

— А цяпер зноў я — твой пан, а ты — мой фурман. Гані Стракача проста па гэтай дарозе. Я тым часам трохі падрамлю.

— А лісткоў больш раскідаць не будзем? — запытаўся Язэп.

— Не, не будзем.

— А то я і сам бы...

Язэп не мог, вядома, ведаць, што і гэтая частка іхняй дарогі была абдумана Кастусём загадзя. Тыя газетныя лісты, якія яны падкінулі ўночы, людзі знойдуць толькі раніцай. Хто іх падкінуў, невядома. Урэшце, калі хто і бачыў незнаёмую фурманку, то якія людзі на ёй ехалі і куды, не мог ведаць ці больш-менш дакладна расказаць, калі справа дойдзе да паліцыі. У Саколцы пакуль што павінна быць ціха. Жандары і розныя шпікі не павінны дапускаць і думкі, што тут, побач з імі, жыве самы небяспечны іх вораг Валерый Урублеўскі, у якога апрача Кастуся ёсць дзесяткі і сотні сяброў-аднадумцаў у Гродні, у Вільні і, галоўнае, у навакольных леснічоўках і лясніцтвах.

Пасля невялікай папаскі конь пайшоў весялей. Добра

падмазаныя колы павозкі мерна пакалыхваліся на гладкай пясчанай дарозе.

Узышло сонца. Раса ў лугах задымілася. Кастусь драмаў, а Язэп залюбаваўся ціхай летняй раніцай. За сваё нядоўгае яшчэ жыццё ён нямала бачыў такіх раніц, і ўсе яны выклікалі ў яго дужа светлыя радасныя пачуцці. Але, вядома, тыя раніцы, якія ён сустракаў у сваёй Галынаўцы або разам з дзедам Міхалём у маёнтку пана Ясінскага, былі, як здавалася яму, і свяжэйшыя, і святлейшыя. Яны ўспомніліся яму і цяпер. Ах, як бы хацелася пабыць там, падыхаць паветрам родных лясоў і палёў! Дзеда Міхаля, напэўна, няма ўжо на свеце. Зусім лядашчым Язэп пакінуў тады яго. А брат Васіль і сястра Параска, мусіць, падраслі ўжо за апошні год. Калі цяпер ён з імі ўбачыцца?

Так, заняты сваімі думкамі, Язэп і не заўважыў, як даехалі да горада. Каля першых хат — гэта былі сапраўды хаты, такія ж, як і ў навакольных сёлах, толькі з комінамі над стрэхамі — Язэп аклікнуў Кастуся. Кастусь схамянуўся, пацягнуўся соладка, праганяючы сон. Сеў як належыць гаспадару на сваё месца.

— Цяпер слухай маю каманду,— сказаў фурману.— Пакуль што едзь як едзеш. А куды павярнуць, я скажу.

Гарадок яшчэ толькі прачынаўся. Людзей на вуліцы траплялася мала. Але ўсюды дыміліся коміны, пахла бульбаю, печаным салам, цыбуляю і рознымі іншымі стравамі. Каля хат мірна пасвіліся козы, рохкалі свінні. Рыпалі жураўлі калодзежаў. Дзе-ні дзе спявалі пеўні, кудахталі куры.

Праз нейкі час пачалі трапляцца і большыя хаты — з большымі вокнамі, са шклянымі верандамі. А потым пайшлі і цагляныя будынкі-мураванкі, нізкія, прысадзістыя. Гэта былі розныя крамы і майстэрні. Доўгую вуліцу, па якой яны ехалі, часцей пачалі перарэзваць вуліцы папярочныя. На адну з іх і сказаў Кастусь павярнуць каня.

## VII

Валерый Урублеўскі жыў побач з егерскай школай, у невялікім драўляным доміку, які належаў мясцоваму доктару. За высокім дашчаным плотам і шырокаю брамаю зелянеў стары сад.

Кастусь саскочыў з павозкі, зайшоў праз фортку на двор. Пачуўся лянівы сабачы брэх, але тут жа і захліпнуў-

ся. Відаць, сабака хутка зразумеў, што памыліўся: забрахаў на свайго добрага знаёмага. Кастусь зняў з брамы тоўстую драўляную завалу. Калі брама расчынілася насцеж, Язэп пачуў каля доміка густы мужчынскі голас:

— Кастусь! Вось малайчына. А я ўжо, браток, успамінаў цябе. Табе не ікалася?

З ганка сыходзіў высокі малады мужчына з прыгожым тварам і з цёмнаю кучаравай барадою. На ім былі белая наросхліст кашуля і чорныя штаны, запраўленыя ў мяккія юхтовыя боты. Ён доўга трос Кастусю руку, потым абняў за плечы са словамі:

— Ну хадзем, хадзем, браток, у хату. Ты ж, відаць, здарожыўся.

— Пачакай, Валера, зараз.

Кастусь дастаў з воза добры жмут газет, загорнутых у посцілку, і на хаду сказаў Язэпу:

— Выпражы каня і падкінь сена.

Сабака пабрахаў яшчэ крыху на Язэпа і ляніва пацягнуўся ў будку пры хляве.

Неўзабаве Язэп пачуў смачны пах сала. Захацелася ссці. Але ж нічога з яды яны з сабою не бралі. А што, калі Кастусёў знаёмы забудзецца пакарміць яго фурмана? Хоць бы кавалак хлеба вынес...

Язэп тупаў каля воза, глытаючы сліну: да паху сала далучыўся яшчэ смачнейшы пах яечні. Каб адагнаць думкі ад такой спакусы, ён разглядаў сад — густы, ярка-зялёны, з першай маладою завяззю яблык, груш, сліў, вішань. Пад дрэвамі раслі кусты агрэсту і парэчак. Каля крытага ганка ўзвышалася над домам старая белая бяроза з моцна парэпанаю карою на камлі. Язэп з малых год любіў гэта прыгожае бела-зялёнае дрэва. Такая ж, толькі, можа, яшчэ старэйшая, бяроза расце пры іх гумне ў Галынаўцы. Кожны год вясною бацька круціў на ёй свярдзёлкам свежыя дзіркі для соку. На гэтай бярозе таксама шмат дзірак. Відаць, гаспадары яе любяць смачны салодкі бярозавік. З якою ахвотаю ён выпіў бы яго зараз. Ды каб яшчэ настоены, падкіслены, з халоднага склепа...

Калі Язэп, здавалася, траціў апошнюю надзею на снеданне, на ганак зноў выйшаў Валерый.

— Ну, як, фурман, змарыўся за дарогу? — весела загаварыў ён.— Даў табе Кастусь работы.

— Нічога,— сказаў Язэп.— Такая работа — не прыгон.

Валерыю, відаць, спадабаўся Язэпаў адказ,

— Праўду, брат, кажаш,— падхапіў ён.— Калі чалавек робіць без прыпукі, то любая работа не цяжкая. Але пасля работы, як сам здаровенек ведаеш, чалавеку і паесці трэба. Так я кажу?

— Дзіва што,— згадзіўся Язэп.

— Ну, а з тае прычыны, што мы з табою аднакава думаем наконт гэтага, больш таго, мой дарагі госць Кастусь таксама не пярэчыць, то давай, брат Язэп, да мяне за стол!

Язэп збянтэжыўся:

— Дзякую. Я тут, на двары, паснедаю...

Валерый, відаць, нейкі важны пан. Як жа можна садзіцца за яго стол. Такога з Язэпам яшчэ не здаралася. Праўда, апошнія дні ён харчаваўся ў Саўкі за адным сталом з Кастусём. Але ж Кастусь тады не быў панам. Ім ён стаў толькі з учарашняга вечара, як скінуў свае скураныя лапці, шэрую світку і мужыцкую шапку з бліпчастым брылём.

— Маё снеданне,— сказаў Валерый,— на двары есці нязручна, каб ты і хацеў. Так што хадзем.

Ён узяў Язэпа за руку і павёў у дом. У паўзмрочным калідорчыку, куды яны ўвайшлі, гаспадар зняў з яго світку і павесіў яе тут жа на сцяне на драўляным кручку.

— А цяпер, галубок, з дарогі і памыцца не шкодзіць.

Валерый завёў Язэпа на кухню, дзе стаяла вялікая белая печ, падвёў да рукамыйніка і даў кавалак пахучага ружовага мыла. Сам узяў у рукі блакітны збанок з вадою.

Потым яны ўвайшлі ў прасторны светлы пакой, дзе на мяккай расквечанай канапе чакаў іх Кастусь. На засланым чыстым ільняным абрусам стале стаяла досыць ёмістая патэльня яечні з салам і каўбасою, ляжаў круглы бохан аржанога хлеба з добра прапечанаю каштанавай скарынкаю.

Валерый запрасіў гасцей да стала. Сам расклаў яечню на тры мелкія талеркі, накроіў хлеба.

Язэп еў моўчкі, усё яшчэ дзівячыся, чаму гаспадар — не просты чалавек, хоць і жыве, відаць, падсуседам у чужым доме, не вынес яму якога-небудзь сняданку на двор, а запрасіў да сябе і пасадзіў за свой стол побач з сабою. Значыць, выходзіць, ён такі ж добры чалавек, як і Кастусь, і Фелікс, не кажучы ўжо пра Саўку і дзядзьку Максіма. Да гэтага часу Язэп сустракаў добрых людзей толькі сярод такіх жа беднякоў, як і сам. І гэта было яму зразумела. А вось каб людзі вольныя, вучоныя не ставілі сябе вышэй про-

стага прыгоннага мужыка ды так шчыра спачувалі яго бядзе — такога ён яшчэ не чуў і не бачыў.

Кастусь увесь час хваліў яечню, злёгку жартуючы.

— І дзе ты, чортухна, навучыўся пячы такую хвацкую яечню? Не дзіва, што не жэнішся. Гэта ж ніякая жонка не спячэ табе такой яечні...

Валерый весела рагатаў, падпускаючы, у сваю чаргу, шпількі госцю:

— Ты што ж думаеш, мы лыкам шыты або, як кажуць рускія людзі, шчы лапцем хлябаем. Такія недарэкі, як некаторыя мае знаёмыя...

— Ці не ў мой агарод ты каменьчык запусціў, пане гаспадару?..— касіўся на Валерыя сваімі добрымі цёмнашэрымі вачыма Кастусь.

— Чаму, канешне, у твой? Я думаю, Язэп вунь таксама не зможа спячы такой хвацкай, як ты кажаш, яечні. Праўда, Язэп?

Язэп крыху разгубіўся, выціраючы рукою губы: што сказаць гаспадару? Вядома, ён спёк бы, можа, яшчэ і лепшую яечню, але рабіць яму гэтага не даводзілася. І ён прамаўчаў.

— Ну вось бачыш,— пажартаваў Валерый,— маўчанка — знак згоды.

Пасля яечні гаспадар прынёс з кухні і паставіў пасярод стала бліскучы медны самавар з размаляваным у кветкі імбрычкам наверсе.

Чай пілі таксама па-панску: перад кожным былі пастаўлены маленькі сподачак з пазалочаным абадком і шклянка з чайнай лыжачкай. У асобнай пасудзіне-цукроўніцы дужаватаю горкай ляжаў колаты цукар, у другой такой жа пасудзіне жаўцела чыстае свежае масла.

Кастусь наліваў чай усім і хваліўся, што гэтую работу то ўжо, напэўна, ніхто лепш за яго не зробіць. Гэта, маўляў, не тое, што пячы яечню на сале... Яе любая вясковая баба спячэ.

— Дык за што ж ты, няўдзячны госць, мяне толькі што расхвальваў! — спыняў яго красамоўства Валерый.— Кароткая ж у цябе памяць. Дзявочая, як кажуць.

Пасля трох шклянак густога салодкага чаю Язэп адчуў, што ён дужа аціжэў, і яго моцна пацягнула на сон. Ён падзякаваў гаспадару і выйшаў на двор. Там прымасціўся на возе каля мяккага сядзення. І не паспеў пазяхнуць раз-другі, як яго агарнуў спакойны салодкі сон.

Адвячоркам Кастусь пабудзіў Язэпа і запрасіў да Валерыя на абед.

— Паедзем скора ў Гародню [1],— сказаў ён.— На дарогу яшчэ трохі перакусім. Там мы такога выдатнага кухара, як наш Валерый, не знойдзем.

Язэп выспаўся за дзень і адчуваў сябе лепш не трэба. Есці яму яшчэ не хацелася. Але ён не пярэчыў.

Абедалі яны таксама ўсе трое ў тым жа пакоі. На першае Валерый падаў бульбяны суп, густа закрашаны смажаным салам з цыбуляю, а на другое — мачанку з пытляванай пшанічнай мукі, са свежымі свінымі скваркамі. З таго часу як цівун Дракула забраў Язэпа ў маёнтак, ён не еў такой смачнай мачанкі. Яе гатавала некалі маці ў тыя святочныя дні, калі было ў іх сала. І ён зноў жыва ўявіў сабе сваю цесную хатку ў Галынаўцы, а ў ёй бацькоў і меншых дзяцей. Да мачанкі маці пякла яшчэ і бліны з грэцкай або ячнай мукі, чаго не было зараз на стале ў гаспадара. Есці бліны з мачанкай — о, якая гэта была асалода для малога Язэпа! Маці з бацькам звычайна казалі, што яны не надта паважаюць гэтую страву і сваю долю таксама аддавалі дзецям. А таму, што Язэп быў старэйшы з дзяцей, яму трапляла і большая дабаўка. Дзіўныя, аднак, яго бацькі — як гэта можна не любіць мачанкі з грэцкімі блінамі! У апошнія гады ён харчаваўся як папала і чым папала. Бывала, праўда, што перападала ў панскай чаляднай штонебудзь і смачнейшае: бульбяная каша ці камякі са скваркамі або нават зацірка з малаком.

Найчасцей жа і ў пана Ясінскага, і ў пана Жардзецкага ставілі на стол бульбу з лупінамі і квашаную капусту або салёныя апенькі.

Паабедаўшы па-панску, Язэп зноў падзякаваў гаспадару і выйшаў на двор.

Кастусь жа, які таксама праспаў да абеду, завёў гаворку з Валерыем пра свае справы.

— Значыць, едзеш у губернскую Гародню? — сказаў Валерый.

— А куды ж мне яшчэ падацца са сваім таварам? — адказаў Кастусь.— Па дарозе, вядома, частку пасею — ня-

---

[1] Гародня — старая народная назва горада Гродні.

хай добрыя людзі пажнуць. А рэшту Эразм[1] разашле павятовым і акруговым[2].

— Так, Косця, першая наша ластаўка зусім удалая, скажу табе шчыра,— гаварыў Валерый на гэты раз вельмі сур'ёзна.— Яна зробіць пагоду. Прызнацца, я да гэтага не дадумаўся б. Уяўляю, як заскачуць халуі яго імператарскай вялікасці, калі дойдзе да іх наша праўдзівае мужыцкае слова. У Назімава вочы па лоб палезуць. Далібог. Ён жа забараніў друкаваць на беларускай мове што б там ні было. А тут — крамола ды яшчэ на забароненай мове. Праўду нябожчык Дабралюбаў пісаў: «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы». Як гэта ў яго пачынаецца?

— Валерый, ты не памятаеш гэтых класічных — я не пабаюся так сказаць — радкоў пра наш край і яго людзей! — усклікнуў Кастусь.

— У мяне, браток, не такая памяць, як у цябе. Я ведаю змест.

— А я, даражэнькі, і змест і словы запомніў, як «Отча наш».

— А ну паглядзім.

Валерый падышоў да сцяны, дзе стаяла шафа з кнігамі, знайшоў часопіс «Современник» № IX за 1860 год і, пагартаўшы яго, сказаў:

— Вось гэтае месца. Яно ў мяне падкрэслена чырвоным алоўкам. Давай.

— Даю, пан настаўнік.— Кастусь усхапіўся з канапы.— «Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашаная: забіты канчаткова, так што нават пазбавіўся ўжывання чалавечых здольнасцей. Не ведаем, на колькі хлуслівая гэтая думка, бо не вывучалі спецыяльна беларускага краю; але паверыць ёй, вядома, не можам. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы!»

Кастусь прачытаў на памяць гэтыя дарагія ім словы з вялікім пачуццём, адным духам.

— Ну як? Не змыліўся?

— Не,— развёў рукамі Валерый.— Нічога не скажаш.

— То-та ж.

— А можа, давай хоць падражнім сяго-таго з далакопаў беларускага краю, якіх так удала выставіў напаказ

---

[1] Эразм Заблоцкі — служачы Гродненскай будаўнічай і дарожнай камісій, член тайнай рэвалюцыйнай арганізацыі.

[2] Павятовыя і акруговыя — начальнікі тайнай арганізацыі ў паветах і акругах (валасцях, стапах).

усяму свету Дабралюбаў: пашлём ім па пошце першае гучнае слова беларускага селяніна пра сябе і свой край?

Кастусь не згадзіўся.

— Не чапай ліха, пакуль яно спіць. Зараз нам яшчэ патрэбен спакой. У нас яшчэ шмат іншай работы. Не ўсе ж так думаюць, як мы з табою.

— Чаму не ўсе,— адказаў Валерый.— Капітан Звяждоўскі, мне здаецца, зусім шчыра заклапочаны нашай справаю. Я яму веру. І Серакоўскаму веру. І Дамброўскаму.

— Так-то яно так,— перапыніў яго Кастусь.— Калі б паўстанне залежала ад такіх людзей, як Дамброўскі або Звяждоўскі з Серакоўскім, то лепшага і жадаць не трэба. Але ж за імі і вакол іх сотні і тысячы іншых. І ў кожнага свой розум і свае інтарэсы. Паспрабуй злучы ў адно цэлае ўсіх гэтых белых, памяркоўных і чырвоных.

— Але,— згадзіўся Валерый.— Задача не з лёгкіх.

— А трэба злучыць,— працягваў думаць уголас Кастусь,— бо прабіць сцяну, якая перад намі, аднымі апосталамі[1] нельга. Нават і гурткамі разначынцаў[2], якія мы ствараем на сваёй Гродзеншчыне. Для гэтага патрэбна сіла ўсяго народа.

— Нашы яснавяльможныя[3] тут цябе не падтрымаюць,— сказаў Валерый.— Даць зброю простаму народу яны пабаяцца...

— То-та ж, браток, што пабаяцца. І каб жа толькі яснавяльможныя. Ты ж ведаеш, што думаюць нават звычайныя шляхціцы. Прагнаць з Польшчы рускага цара з яго чыноўнікамі? О, так! Яны згодны! І гатовы ў гэтым памагаць нам. А мы, вядома, ім. А далей? Для іх усё. А для нас — толькі пачатак.

— Я думаю,— сказаў Валерый,— нам сапраўды пара ўжо было б разабрацца як след, хто з кім ідзе і куды мы самі ідзём. Для гэтага раю табе, Кастусь, падацца ў Вільню або нават і ў Варшаву. Час не чакае.

— А чаму не ў Пецярбург?

— Можна і ў Пецярбург,— згадзіўся Валерый.— Аднак бліжэй да нас усё ж Варшава. Яна больш назапасіла сухога пораху супроць рускага дэспата. І гэты порах вось-вось можа выбухнуць. І мы, вядома ж, далучымся да яе.

---

[1] Апостал — прапаведнік пэўнага вучэння, ідэі.

[2] Разначынцы — асобы з пэўнай асветай, якія не належалі да дваран: дзеці папоў, чыноўнікаў, мяшчан або сялян.

[3] Яснавяльможны — велічанне багатых паноў.

— Мы далучымся — гэта так,— сказаў Кастусь.— Але, я думаю, далучацца будзем як суседзі і хаўруснікі, а не як панскія хлопы. І, аднак, каб пакончыць з рускім царом і яго парадкамі, мала адной Варшавы і нас з літоўцамі. Волі чакае і рускі народ, і ўкраінцы. Без іх мы калі і прагонім цара, то ненадоўга. Ён, чорт, спакойнага жыцця нам не дасць. Вось чаму я ўвесь час думаю пра Пецярбург і Маскву. Яны менш гатовы да рэвалюцыі, чым Варшава. Гэта праўда. Значыць, на добры лад і нам і Варшаве трэба пачакаць іх.

— Колькі чакаць?

— Гэтага я не ведаю. Ва ўсякім разе хаця б да вясны. Людзі чакаюць яе, як бога. Спадзяюцца, што цар-бацюхна напіша для іх новы маніфест і аддасць зямлю без выкупу [1]. Цар гэтага, вядома, не зробіць, каб і хацеў. Тады і лягчэй будзе падняць народ... Так, між іншым, думаюць і нашы пецярбургскія сябры, тыя, з кім мне даводзілася гаварыць перад ад'ездам на радзіму. Праўда, як мне здалося, некаторыя з іх больш спадзяюцца ўсё на тых жа разначынцаў, чым на мужыкоў. Тут я з імі зусім не згодзен. Зямля і воля патрэбны перш за ўсё мужыку, а не разначынцу.

— Адным словам, справа не простая,— уздыхнуў Валерый.

— Справа не простая. Гэта праўда. Затое якія далягляды перад намі! Разумееш,— з натхненнем сказаў Кастусь,— чым больш я думаю пра ясную будучыню, тым больш агню разгараецца ў маім сэрцы. Каб мая сіла, я выштурнуў бы і з Літвы, і з Польшчы не толькі царскіх халуёў і дзяржымордаў, але і паноў разам з імі. Бо калі іх пакінуць, яны зноў паставяць свайго цара, якога назавуць каралём. І будзе гэты панскі кароль як дзве кроплі вады падобны на рускага цара Аляксандра другога ці трэцяга.

— Ну, навошта ж нам той кароль? Хіба няможна абысціся без манарха? Зробім рэспубліку, як французы ў сорак восьмым.

Кастусь гучна рассмяяўся:

— Якая праз тры-чатыры гады народзіць Напалеона III?

— Што ж,— не здаваўся Валерый,— вінаваты ў гэтым

---

[1] Вясной 1863 года канчаўся тэрмін увядзення ўстаўных грамат, пасля чаго часоваабавязаныя сяляне мелі права пераходзіць на аброк і са згоды пана выкупляць свае надзелы.

самі французы. Мы новых напалеонаў не паклічам кіраваць намі.

— Не, браце, збаў нас бог ад такой рэспублікі, якою замест манарха кіруюць манархісты. Што дае простым людзям такая рэспубліка? Французская рэспубліка душыла свабоду гэтак жа, як імператар Луі Філіп да яе і імператар Луі Напалеон Банапарт або Напалеон III пасля яе. Ты гэта ведаеш не горш за мяне. Мне больш падабаецца першая французская рэспубліка канца мінулага веку. Але і яна нарадзіла толькі Напалеона I і... сканала.

— Дык якой жа тады рэспублікі ты хочаш?

— Я яшчэ не ведаю якой. Мне больш падабаюцца думкі аб дзяржаўным ладзе Герцэна і Чарнышэўскага.

— Гэта значыць, народная рэспубліка — без цара і паноў? Так я разумею цябе?

— Можа, і так. Ва ўсякім разе, які б ні быў гэты новы лад, ён мусіць быць абсалютна справядлівы, даваць абсалютна роўныя правы і нацыянальнасцям, з якіх складаюцца дзяржавы, і ўсім грамадзянам.— Падумаўшы крыху, Кастусь дадаў: — І не толькі роўныя правы, а і права на роўны скарб.

— А не фантазія гэта, даражэнькі Косця?

— Можа, і фантазія,— спакойна адказаў Кастусь.— Але яна мне падабаецца. Французы падобную фантазію называюць камуністычнай. Чуў?

— Даводзілася.

— Я не ведаю, як такую фантазію зрабіць праўдай і ці можна гэта зрабіць. Але затое я добра ведаю, што людзі жывуць неразумна, што не бог дае адным уладу і багацце, а другім — бяспраўе і галечу. І не бог пакараў наш гаротны край. За ўсю сваю пакутную гісторыю ён не быў сам сабою. Ім кіравалі, над ім панавалі літоўскія кунігусы з нашымі мясцовымі феадаламі, потым польскія князі і каралі, потым рускія цары і генералы. Хто ж мы такія? Паўночна-Заходні край,— кажуць рускія. Не, польская правінцыя,— цвердзяць адно і тое ж палякі.

— Не ўсе. Я — паляк, а гэтага не кажу,— перапыніў яго Валерый.

— Ты — паляк па пашпарту. І не больш. Ты ж ніводнага дня не жыў у Польшчы і не ведаеш, як і чым яна жыве і дыхае. От які ты, пане-браце, паляк!

— Кастусь! — замахаў рукамі Валерый.— Ты зусім зганіў мяне. Хто ж я тады?

— Добры чалавек,— усміхнуўся Кастусь.— А гэта вышэйшая якасць чалавека. Ладна. Будзь сабе паляк. Мне не шкада. Але наш беларускі край — такі ж родны твой, як і мой. Гарыбальдзі [1] ж, нябось, вунь не ваюе за французаў ці немцаў. Ён — італьянец і хоча дабра свайму італьянскаму народу. Вось у каго нам трэба вучыцца. Я не хачу сказаць гэтым, што мая душа не баліць за пакуты польскіх, рускіх ці літоўскіх мужыкоў. Хачу я таго ці не, а думы мае неадлучны ад свайго роднага краю. Дарэчы, табе вядома ода аб славянскай дружбе?

— Якая?

— Пропадают злые духи, гнет тяжелый исчезает...

— Дзіва што вядома.

Валерый падхапіўся з крэсла, узмахнуў рукамі і працягваў:

...Новый гимн святой свободы
Племя новое слагает.
Но в борьбе нас ждут преграды,
Нужны общие стремленья,
Братство, равенство нам надо...

...Пусть отрады и все муки
Будем вместе мы делить.
Братья! Дайте же нам руки,
Чтобы честно вместе жить!

Калі Валерый скончыў дэкламаваць, Кастусь сказаў:

— Ну вось бачыш. А кажаш — памяць у цябе слабая.

— Глядзячы на што,— адказаў Валерый.— На прозу слабая. А вершы я люблю і лёгка запамінаю. Хочаш, успомню без падказкі «Конрада Валенрода»? [2]

— Не, брат, не хачу: доўга слухаць. Лепш павeру на слова.

— Ты што — супроць паэзіі выступаеш? — здзівіўся Валерый.

Кастусь глянуў на насценны гадзіннік і адказаў:

— Зараз выступаю толькі таму, што час ужо збірацца ў дарогу. А вось другім разам гатоў выслухаць хоць усіх

---

[1] Гарыбальдзі Джузепе — народны герой Італіі, славуты змагар за вызваленне сваёй радзімы ад чужаземных захопнікаў.

[2] «Конрад Валенрод» — паэма Адама Міцкевіча. Герой гэтай паэмы шчыра служыў свайму народу, знаходзячыся ў радах яго ворагаў-крыжаносцаў. Многія польскія рэвалюцыянеры — царскія афіцэры, бралі прыклад з героя паэмы Адама Міцкевіча.

«Дзядоў» разам з «Панам Тадэвушам»[1]. А прачытаў гімн свабоды ты цудоўна. Асабліва радкі: «Братья! Дайте же нам руки, чтобы честно вместе жить!»

— Іменна братамі нам трэба стаць,— падхапіў Валерый,— і здабываць жаданую свабоду ўсім разам, як ты кажаш.

— І роўнымі братамі,— зноў напомніў Кастусь.— Бо які можа быць брат сваім мужыкам наш гродзенскі граф Салтан, што нядаўна выклікаў салдат лупцаваць сваіх часоваабавязаных. А ён жа лічыць сябе лібералам[2], добранькім панам. А што можна сказаць пра такіх «братоў», як Дамейка[3], Чапскі, Радзівіл, Тызенгауз? Тыя дык і цяпер адкрыта выступаюць супроць царскай рэформы, хоць яна нічога і не дала мужыку. І ўжо ўмудрыліся адабраць у сваіх мужыкоў траха не палавіну іх прадзедаўскіх надзелаў. Гэта пад шумок складання новых устаўных грамат. Не, Валерый, з такімі братамі нам не па дарозе.

— Але,— сказаў Валерый.— Ода, відаць, складзена не пра іх.

Валерый з увагай слухаў Кастуся. Не першы раз яны гаварылі адзін на адзін пра жыццё-быццё. Але не першы раз заўважаў Валерый, што Кастусь заўсёды скажа нешта новае і важнае, над чым Валерый потым таксама будзе доўга думаць. Ён нават зайздросціць свайму сябру. Сам Валерый, вечна заклапочаны вучылішчам і ляснымі справамі, менш думае пра жыццё людзей, менш чытае тых кніг, у якіх якраз і расказваецца пра гэтае жыццё. З Кастусём ён неяк забываўся пра свой штодзённы настаўніцкі клопат і пачынаў шырэй глядзець на свет. Перад імі ляжалі няведаныя шляхі. Яны ідуць гэтымі шляхамі адны, без праваднікоў. І каб не збіцца з дарогі, вочы ў іх павінны быць ясныя, а крокі ўпэўненыя і выверапыя. Для гэтага мала розуму і вопыту аднаго чалавека. Свой розум, свае думкі і пачуцці кожны з іх мусіць узбагачаць розумам, думкамі і пачуццямі іншых, блізкіх па духу сяброў.

Першым настаўнікам у Валерыя быў яго родны дзядзька Еўстахій Урублеўскі — зацяты вораг царскага самаўладства. Рана страціўшы бацьку, Валерый больш гадаваўся

[1] Самыя вялікія паэмы Адама Міцкевіча.
[2] Ліберал — вальнадумец, старонпік невялікіх рэформ у жыцці грамадства.
[3] Дамейка Аляксандр — прадвадзіцель дваранства Віленскай губ., заўзяты прыгоннік.

ў дзядзькавай сям'і, чым дома. Усю сваю нянавісць да цара і яго парадкаў дзядзька перадаў любімаму пляменніку. Незабыўнаю школаю для Валерыя быў і 1848 год. Тады яму ішоў дванаццаты год, і ён ужо добра разумеў, за што паміралі пад кулямі царскіх салдат яго суайчыннікі і за што быў асуджаны на катаргу яго дзядзька Еўстахій. Вось чаму, калі Валерый Урублеўскі стаў нарэшце на свае ногі і прыехаў у Саколку настаўнічаць, ён з першых жа дзён пачаў вучыць сваіх выхаванцаў дзвюм навукам — лясной справе і нянавісці да рускага цара. А калі ўслед за ім вярнуўся на радзіму Кастусь Каліноўскі — блізкі сябар яго студэнцкіх гадоў,— Валерый ужо не разлучаўся з ім. Гарачаму па натуры, рамантычнаму Валерыю якраз і не хапала яснага разважлівага розуму і арганізатарскіх здольнасцей Кастуся Каліноўскага. Яны цяпер як бы дапаўнялі адзін аднаго, нічога, аднак, не трацячы з уласных характараў. Яны маглі глядзець на рэчы кожны па-свойму, ды так яно і было, але і адзін, і другі гатовы былі аддаць сябе да канца той справе, якая стала для іх вышэй за ўсё іншае ў жыцці.

IX

У Гродню Кастусь з Язэпам ехалі гэтак жа, як і ў Саколку: часта прыпыняліся, часамі давалі добрага крука, каб не мінуць якой большай вёскі. І ўсюды пакідалі след: «Мужыцкую праўду».

Перад самым горадам, ужо на золку, яны выбралі зручнае месца з густым росным мурагом, гэтак жа, як і перад Саколкай, і спыніліся на папас. Але на гэты раз на варту Кастусь паставіў свайго маладога фурмана, а сам лёг спаць.

— Ты, Язэп,— сказаў ён,— паспіш на заезным двары ў Залмана. Мне ж зрабіць гэта там не ўдасца. Пабудзі, як узыдзе сонца. Не заснеш?

— Не,— упэўнена адказаў Язэп.— Я ўдзень добра выспаўся.

— Ну, глядзі. Нам трэба трапіць у горад разам з першымі сялянскімі падводамі. Калі які шалёны жандар спыніць пры ўездзе, скажам — на рынак спяшаемся і больш ніякіх справункаў у нас у гэтым цудоўным горадзе на Нёмане няма. Мне для маёнтка, бачыш, да зарэзу патрэбна

завадскога бугая купіць, а ў Гародні сёння якраз кірмашовы дзень,— жартаваў Кастусь, пазяхаючы.

Але лягчэй было Язэпу сказаць, што не засне, чым зрабіць гэта. Першыя хвіліны ён, і праўда, трымаўся бадзёра, спадзеючыся дачакацца з такім настроем і самога ўсходу сонца. Аднак калі неўзабаве з воза пачуўся зайздросны Кастусёў храп, у Язэпа самі пачалі плюшчыцца вочы і па ўсім целе разлілася салодкая млявасць. Даводзілася сілаю раз-пораз адганяць ад сябе здрадны сон.

Навакол панавала сонная цішыня. Птушкі яшчэ таксама спалі. Недзе за кустамі, як адчуваў Язэп, працякала рака ці рэчка: разам з густым туманам ад яе павявала знаёмым рачным водарам.

Яму ўспомнілася вельмі ж падобная мясціна каля маёнтка пана Ясінскага, дзе ён пасвіў свіней з дзедам Міхалём. І думкі адна за адной роем паплылі туды, у родны кут.

Неба было ўсеяна лёгкімі рабымі хмаркамі. Але на ўсходзе за гэтымі хмаркамі ўжо ясна прабівалася першае святло. Летняя ноч кароткая. Там недзе ўжо ўставала ад сну вясёлае радаснае сонца, несучы з сабою людзям новы дзень. Які гэта будзе дзень для Кастуся, для Язэпа? Ён першы раз едзе ў вялікі горад, пра які чуў не раз. Тыя з маёнтка пана Жардзецкага, хто бываў у Гродні, расказвалі пра яе цэлыя дзівы. Казалі, там такія касцёлы, якія сваімі крыжамі неба падпіраюць. А ў саміх касцёлах безліч розных багоў і бажанят — налеплена ды намалявана. Дзе б чалавек ні стаў ці ні сеў,— адусюль яны ўглядаюцца на цябе, сочаць, ці шчыра ты молішся. І змясціцца ў тых касцёлах могуць каталікі з усяго горада разам з праваслаўнымі, калі б тыя захацелі памаліцца каталіцкім багам.

Дзівосы расказвалі і пра старадаўні княжацкі замак на высокай кручы пры Нёмане, дзе жылі князі і нават каралі, а таксама пра жалезныя масты і чыгунку. Язэп ніяк не мог уявіць сабе гэтую чыгунку, хоць некалі расказваў пра яе і дзед Міхаль. Сілу пары ён добра ведаў, бо і ў пана Ясінскага, і ў пана Жардзецкага былі паравыя млыны, а ў апошняга яшчэ і паравая пільня. Але ж там па́ра круціць жорны або рухае пілы на адным месцы. А як жа яна можа весці за сабою цэлую кучу дамоў, якія называюцца вагонамі? Ды не пустыя дамы-вагоны, а з таварамі або людзьмі.

Выгаладаўшыся за ноч, Стракач не адрываўся ад росной травы. «Цяпер яго і путаць не было патрэбы»,— падумаў Язэп. Каб не заснуць, ён тупаў узад і ўперад, пагля-

даючы, як Стракач папоўніцы мешціць сваё дарожнае снеданне і толькі сяды-тады гучна чмыхае, прачышчаючы ноздры, каб не зблытаць смачнай травы з горкай і шкоднай.

За тыя некалькі дзён, што пражыў у Саўкі, Язэп прывык да Стракача, нават палюбіў яго. Конь быў рахманы, не хмыліўся і не брыкаўся. З ім можна было гаварыць, як з чалавекам. Стракач добра разумеў такія словы, як: «но, тпру, кось-кось, стой». Вельмі любіў, калі яго гладзілі па шыі або мызе. Гучна ржаў, калі яму падносілі торбу з аўсом. Адным словам, ён быў зусім не падобны на дыхавічнага Сівака з маёнтка пана Жардзецкага. Праўда, Язэп не спрабаваў Стракача ў плузе ці ў баране, але, відаць, ён і ў плузе пайшоў бы не горш, чым у возе.

Неба на ўсходзе тым часам святлела ды святлела. Хмаркі ад гэтага святла раставалі ўсё больш ды больш і распаўзаліся ў розныя бакі. Кусты, аднак, усё яшчэ маўчалі. «Хто ж першы парушыць спакой гэтага ціхага кута?» — думаў Язэп. І раптам — кі-гі, кі-гі... Ага! Кнігаўка падала голас. Услед пачулася такое ж кі-гі з другога боку. А потым аднекуль з поля прыляцеў жаўранак. І неўзабаве Язэпу ўжо цяжка было разабраць усе галасы, якімі загаманілі ды заспявалі кусты — альховыя, ракітавыя, лазовыя. Стала весялей. Пачынаў знікаць і сон.

Калі ж з-за лесу, што цямнеў здалёку, пырснулі першыя кволыя праменні, Язэп падышоў да воза і пабудзіў Кастуся.

— Што? Ужо раніца? — здзівіўся Кастусь.— А здаецца, толькі галаву прыхінуў да сена.

Ён пахваліў вартавога, што добра нёс службу, і сказаў распутваць каня.

Тым часам, пакуль яны збіраліся, на дарозе паказаліся першыя сялянскія фурманкі.

— Вось мы да іх і далучымся,— сказаў Кастусь.— Разам і ехаць весялей.

Дзіваў гародзенскіх Язэпу пабачыць на гэты раз так і не давялося. Спыніліся яны траха не на самай ускраіне, не даязджаючы да Нёмана. Паснедаўшы ў Залманавай карчме, Кастусь сказаў Язэпу класціся спаць на павозцы, а сам пайшоў па сваіх справах.

Доўга спаў Язэп ці не, але на самай сярэдзіне пры-

емнага сну — ён пасвіў з дзедам Міхалём свіней у кустах каля рэчкі — Кастусь крануў яго за плячо.

— Падымайся, брат.

Нялёгка было падымацца. Толькі знаёмы ласкавы голас дапамог яму развітацца з такім салодкім сном.

Кастусь быў не адзін. Каля яго стаяў такі ж малады дзяцюк, але святлейшага воласу і крыху шчуплейшы ў плячах.

— Гэта твой фурман? — запытаўся ён у Кастуся.

— А што — дрэнны?

— Наадварот! З такім фурманам можна хоць у Варшаву каціць. Я думаў, хлапчанё, а ён, бачыш, маладзец малайцом! Як цябе знаць?

Язэп сказаў.

— Добрае імя,— пахваліў ён.— Не тое што маё — Эразм...

— Язэпа поп хрысціў,— сказаў Кастусь.— Вось ён і даў яму такое добрае імя. А табе ксёндз пашкадаваў. Але, між іншым, справу гэтую лёгка паправіць.

— Як?

— Пераходзь у Язэпаву веру. Поп табе таксама падбярэ нядрэннае імя, задаволены будзеш.

— А што? Добрая рада. Я, браток, так і зраблю калі-небудзь.

— А як не хочаш перахрышчвацца ў папа, ідзі да уніята [1]. Ён таксама цябе не пакрыўдзіць. Падбярэ хоць нешта сярэдняе — ні праваслаўнае, ні каталіцкае. Што называецца, ні богу свечка, ні чорту качарга.

— Які-небудзь Эрсымон. І то лягчэй вымаўляць.

Перакідваючыся гэтак жартамі, Кастусь з Эразмам дасталі з-пад сядзення мяшок з газетамі і панеслі на вуліцу, дзе, як заўважыў Язэп, сядзеў на козлах барадаты рамізнік, падпяразаны чырвоным шалікам.

Эразм палажыў мяшок пад козлы, сам сеў на брычку і сказаў рамізніку:

— Паехалі, дзядзька!

Рамізнік таргануў худога каштанавага каня лейцамі, свіснуў лёгкаю сырамятнаю пужкаю:

— Но, малы. Варушыся.

---

[1] Унія — аб'яднанне. Тут азначае унію царкоўную: аб'яднанне праваслаўнай царквы з каталіцкай. Вярхоўная ўлада ў гэтым аб'яднанні належала папу рымскаму.

Кастусь вярнуўся назад.

— Дахаты сам патрапіш? — запытаўся ў Язэпа.

— Да якой хаты? — не зразумеў Язэп.

— Ну, да Саўкі.

— Мы ж не ехалі простаю дарогаю...

— Таму я і думаю, як табе туды дабрацца.

— Не ехаць жа мне назад у Саколку. Тут, мусіць, дарога іншая будзе,— сказаў заклапочаны Язэп.

— Вядома, іншая. Зробім так. Я цябе выведу на Індурскі тракт. Ён прывядзе цябе проста ў Вялікую Бераставіцу. А там ты знойдзеш Фелікса. Запытаеш, дзе жыве графскі каморнік Фелікс Ражанскі. І табе кожны пакажа. Там усе яго ведаюць, як папа. Пераначуеш у яго. А заўтра ён табе пакажа дарогу да Саўкі. А можа, і сам давязе. Скажы яму, калі ён дастаў паперу, няхай надрукуе яшчэ сотні дзве газет. Ты яму паможаш. Ён збіраўся ехаць на Брэстчыну па сваіх каморніцкіх справах. Вось там і рассее іх.

— А калі яго не будзе дома?

— Дык жонка пакажа. Ён не такі, як мы з Валерыем, пустацвет. Скажаш, што я цябе паслаў. Вось так, пане-браце. А другі раз ужо будзеш ездзіць тут з завязанымі вачыма. Ты хлопец кемлівы. І не гультай. Праўда?

Язэп пачырванеў. Кастусь заўважыў гэта.

— Нічога, нічога,— сказаў ён.— Я, брат, такі: не магу крывіць душою. Заслужыў — пахвалю адкрыта, не заслужыў — палаю таксама адкрыта.

Хутка яны выехалі за горад на Індурскі тракт. Там Кастусь паказаў дарогу — якая яна шырынёю, якія прысады пры ёй,— гэта, каб не збіцца потым на іншую, бакавую. Сказаў, калі Язэп трапіць у тую Бераставіцу — не раней позняга адвячорка. Гэта, калі ён апаўдні, у самую гарачыню, зробіць папаску.

Адным словам, Язэпу здалося пасля гэтага, што дарога да Бераставіцы яму цяпер добра знаёмая, і ён смела паехаў па ёй адзін.

## X

У Гродні Кастусю прыйшлося затрымацца, хоць ён і не збіраўся гэтага рабіць. Адна работа набягала на другую. У апошні час ён шмат ездзіў па вёсках і мястэчках,

потым ладзіў друкарню ў Саўкавай лесніч оўцы і, вядома, менш аддаваў увагі іншым справам. А іх было нямала. Яны нарасталі, як снежны камяк.

З дзесяці кіраўнікоў Гродзенскай тайнай рэвалюцыйнай арганізацыі ў самім горадзе жыло не больш палавіны. І сярод іх найбольш вылучаўся Эразм Заблоцкі. Пра ўсё, што рабілася ў горадзе ды і ва ўсёй губерні, Эразм даведваўся адзін з першых. Таму Кастусь лічыў яго вельмі важным і карысным сваім памочнікам. Эразм прывёў у арганізацыю і свайго старэйшага брата Юлія, вядомага ў горадзе доктара. Так што ён з братам і замянялі Кастуся, калі той адлучаўся з горада.

Жылі браты Заблоцкія ў ціхім завулку пры Нёмане, у невялікім драўляным доміку, акружаным густым штыкетнікам і не менш густым садком. Тут, у гэтым доміку, бывала, і спыняўся Кастусь, прыязджаючы ў горад. Частымі гасцямі братоў Заблоцкіх былі і сябры па арганізацыі: каморнік казённай палаты Ільдэфонс Мілевіч, афіцэр корпуса ляснічых Ян Ванькові ч, ксяндзы Гінтаўт і Зажыцкі.

У завулку каля доміка заўсёды стаялі сялянскія падводы і гарадскія рамізнікі: да доктара Юлія Заблоцкага прыязджалі і прыходзілі лячыцца. Так што ніводзін паліцэйскі сышчык і не падумаў бы, што не адных толькі хворых вабіць гэты нічым не прыкметны домік у ціхім завулку.

Робячы стаўку на шырокае народнае паўстанне, Кастусь думаў і пра яго кіраўнікоў і арганізатараў. Дзе іх узяць? Простыя мужыкі такіх камандзіраў зараз вылучыць не змогуць, хоць Кастусь цвёрда верыў, што яны знойдуцца і сярод мужыкоў. Іх трэба толькі выявіць і падрыхтаваць. А гэта могуць зрабіць тыя, хто больш-менш сам падрыхтаваны: збяднелыя беззямельныя дваране, дробныя службоўцы, валасныя пісары, ляснічыя. Гэта павінны быць людзі, якім можна даверыць лёс паўстання і якім павераць тыя, хто пойдзе за імі.

За апошні год сёе-тое ўдалося зрабіць: былі створаны гурткі ў паветах і ў асобных мястэчках. З імі трымалі сувязь і вялі перапіску праз канцылярыі Эразма Заблоцкага і Ільдэфонса Мілевіча. Але гурткі гэтыя яшчэ былі невялікія, і работа ў іх вялася таксама невялікая. Не ўсюды яшчэ меліся і сталыя кіраўнікі груп — павятовыя і акруговыя.

І вось калі зараз, пасля доўгай адлучкі, Кастусь заняўся справамі арганізацыі, ён убачыў, што работы перад імі непачаты край. Перш-наперш, паўставала пытанне, што рабіць павятовым і акруговым — праводзіць агітацыю ў гушчах народа ці толькі ствараць тайныя дзесяткі, як раілі Варшава і Вільня, з чым Кастусь не згаджаўся. Задача дзесятак, лічыў ён, не чакаць, калі іх нехта пакліча ў паход, а самім рыхтаваць гэты паход.

Другая не менш важная задача наспела: дзе браць грошы? Дзе даставаць зброю і амуніцыю? Пакуль што яны абыходзіліся невялікімі зборамі-складкамі саміх членаў арганізацыі. А далей? Для вялікай справы патрэбны і вялікія сродкі, і ў першую чаргу сродкі людзей багатых — хочуць яны таго ці не хочуць. Калі даць каманду для збору гэтых сродкаў — цяпер ці пачакаць, пакуль больш пэўна вырашыцца, хто з кім ідзе, як кажа Валерый, і куды ідзе?

За тыдні два Кастусь з Эразмам пераглядзелі і перанрэслі ўсю сваю арганізацыю. Знайшлі дзесяткі новых людзей, якіх прызначылі на розныя пасады ў паветах і акругах. Напісалі і разаслалі лісты павятовым і акруговым з рэкамендацыямі шукаць і знаходзіць аднадумцаў з людзей незаможнага стану, каб не захапілі потым уладу багатыя магнаты.

Жыва цікавіўся Кастусь і апошнімі грамадскімі падзеямі. Эразм меў сваіх блізкіх сяброў у губернатарскай канцылярыі, нават у сакрэтных яе аддзелах, і яны перадавалі яму копіі найбольш важных данясенняў не толькі з паветаў і валасцей, а і з цэнтраў — Вільні і Пецярбурга. Пераглядаючы іх, Кастусь затрымаў увагу на данясенні генерал-губернатара Назімава аб падзеях у Свіслацкай прагімназіі [1]. Яшчэ не так даўно ён сам вучыўся ў гэтай школе, і там яму ўсё такое роднае і знаёмае. Бываючы калі-некалі ў Свіслачы, ён і цяпер не мінае той вуліцы з высокімі густымі таполямі і таго прасторнага школьнага двара, дзе праходзілі яго незваротныя дзіцячыя гады.

Тонам высокага начальніка генерал-губернатар з дакорам пісаў гродзенскаму губернатару генерал-маёру фон Галеру:

«Дайшло да майго ведама, што пражываючыя ў

[1] Прагімназія — няпоўная гімназія.

м. Свіслач дзве маладыя ўдавы, Ілаковічава і Савіцкая, а таксама і сястра першай Хрысціна Нарбут рабілі спробу ўцягнуць вучняў мясцовай прагімназіі ў розныя палітычныя маніфестацыі, для чаго, заводзячы з імі знаёмствы, унушалі ім злачынныя свае думкі і чыталі розныя абураючыя пракламацыі...

Хоць пра гэта мною не атрымана ад вашага правасхадзіцельства ніякага данясення, але, прызнаючы далейшае пражыванне ўпамянёных жанчын у м. Свіслач вельмі шкодным, я вельмі прашу вас, міласцівы гасудар, распарадзіцца аб неадкладным выдаленні іх адтуль у іншыя павятовыя гарады даверанай вам губерні па бліжэйшаму вашаму меркаванню з устанаўленнем за імі строгага паліцэйскага нагляду».

Пад данясеннем Галер напісаў: «Загадаць спраўніку даставіць гэтых жанчын у Ваўкавыск, а гараднічаму ўчыніць за імі строгі паліцэйскі нагляд і пра гэта паведаміць ген.-губернатару».

Кастусь шчыра пашкадаваў сваіх зямлячак, што ім давялося пакінуць роднае мястэчка, але вельмі ганарыўся імі.

— Малайчыны! Далібог, малайчыны! — хваліў ён іх Эразму.— Прынось мне, браток, чым больш такіх данясенняў. Люблю гэткія творы паноў Назімава і Галера! — І, крыху падумаўшы, дадаў: — Вось мы ўсё шукаем надзейных людзей сярод нашага брата. А жанчыны, бач, нам нос уцерлі. І ў мяне гэты генеральскі твор нарадзіў добрую думку: не цурацца жанчын!

— І праўда! — падхапіў Эразм Кастусёву думку.— Жанчыны, можна сказаць, першыя выйшлі на маніфестацыі пасля варшаўскага расстрэлу, першыя апрануліся ў жалобнае адзенне. У касцёлах, дзе спраўляюцца памінкі па расстраляных патрыётах і спяваюцца патрыятычныя гімны і песні, больш бывае жанчын, чым нашага брата. Так што ты, Кастусь, здаецца, зрабіў зусім мудры вывад, хоць сам і закаранелы халасцяк, такі ж, як я.

— Нічога, Эразм,— усміхнуўся Кастусь.— Мы з табою ажэнімся ў першы ж дзень, як здабудзем волю. А пакуль цярпі, казак. Наконт жа вываду — яшчэ не ўсё. Перш-наперш мы дапаможам ваўкавыскай паліцыі.

— Якім чынам?

— Наладзім за маімі зямлячкамі і свой строгі нагляд. Дай, браток, такое заданне ваўкавыскаму павято-

ваму. Яны нам вельмі і вельмі патрэбны, так, як і іншыя, якіх мы будзем шукаць. А мо лепш зробім так: знойдзем добрых жанчын тут, у горадзе, і даручым ім гэтую справу.

— Падумаем,— адказаў Эразм.— Між іншым, цікавая падзея нядаўна адбылася і ў Беластоцкай гімназіі. Чуў?

— Не. Раскажы, калі ласка.

— Да нашага губернатара справа гэтая не трапіла. Відаць, яна пайшла адразу ў Вільню або ў Пецярбург. Гэта было яшчэ ў канцы красавіка. Там у касцёле справілі набажэнства з прычыны гадавіны польскай канстытуцыі, растаптанай пры падзеле Рэчы Паспалітай [1]. На набажэнстве апынуліся і шэсць гімназістаў. Вядома, без дазволу дырэктара: ім жа, небаракам, усё забаронена. Пра гэта даведаўся беластоцкі ваенны начальнік Дэконскі. Бравы ваяка загадаў арыштаваць гімназістаў-крамольнікаў. Тады ўся гімназія кінулася ратаваць сваіх сяброў. Адбіваючыся ад гімназістаў, Дэконскі паклікаў казакоў. І тыя па-зверску расправіліся з маладымі патрыётамі. Больш таго, Дэконскі паслаў казакоў на пастой у тыя дамы і кватэры, дзе жывуць гімназісты. А збітых да крыві шасцярых загадаў выключыць з гімназіі і выслаць да бацькоў. Уяўляеш сабе гэтага дзяржыморду? Кажуць, нават сам дырэктар гімназіі нейкі пан Ган абурыўся супроць яго і паскардзіўся свайму школьнаму начальству ў Вільні.

— Цікава,— сказаў Кастусь, выслухаўшы сумную гісторыю пра беластоцкіх гімназістаў. — Нават больш чым цікава...

Эразм насцярожыўся:

— Што, можа, зноў які вывад зробіш?

— Вывад як вывад,— сур'ёзна адказаў Кастусь.— А гімназістаў нам таксама ні абыходзіць, ні забываць не трэба. Гэта ж самы арганізаваны народ. Бачыш, што робяць: добраахвотна ідуць пад казацкія бізуны дзеля школьнага таварыства. Так рабілі і мы, студэнты. Ды і не адно таварыства тут прычынай. Гімназісты ненаві-

---

[1] Рэч Паспалітая — больш правільна «жэч» (справа), паспаліты — агульны, усенародны. Так называлася аб'яднаная польска-літоўская дзяржава. У канцы 18 стагоддзя Рэч Паспалітая была падзелена паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй.

дзяць царскага дзяржыморду не менш, чым іх бацькі. І гэта ж не дзеці простых мужыкоў. Тыя сваіх дзяцей у гімназіі не пасылаюць. Вось тут я вычытаў у тваіх копіях, як той жа Дэконскі з жандарам Штэйнам пашыраюць асвету і ў вёсцы. Ты звярнуў увагу на гэты жахлівы дакумент? Мяне проста аж калоціць ад яго. Паслухай, што піша намеснік нашага губернатара Назімаву:

«Штаб-афіцэр корпуса жандараў маёр Штэйн, што знаходзіцца ў Беластоку, данёс начальніку губерні, што ў беластоцкім павеце ў казённай вёсцы Беласточак у хаце карэтнага майстра Вайніцкага адкрыта зволеным з С.-Пецярбургскага універсітэта студэнтам Меерам без дазволу начальства нядзельная школа для навучання сялянскіх хлопчыкаў. Па чутках, ён, Меер, вельмі падазроны ў палітычных адносінах, чаму яго правасхадзіцельства даручыў маёру Штэйну з беластоцкім ваенным начальнікам палкоўнікам Дэконскім захапіць школу і зрабіць у Меера вобыск.

Зараз палкоўнік Дэконскі данёс, што 15 чысла ў 5 гадзін ён, запрасіўшы маёра Штэйна і старшага засядацеля беластоцкага земскага суда, накіраваўся разам з імі ў казённую вёску Беласточак у хату карэтнага майстра Вайніцкага, дзе знайшлі адкрытую Меерам нядзельную школу і ў ёй 8 чалавек вучняў, а таму, склаўшы пра гэта акт за агульным подпісам, дапыталі гаспадара хаты Вайніцкага і Меера. Убачыўшы з яго адказаў, што ім заснавана яшчэ рамесніцкая бібліятэка, для якой рабіўся ім жа і беластоцкім мешчанінам Лясевічам грамадскі збор, дапыталі з гэтай прычыны і Лясевіча. Пры вобыску знойдзены ў студэнта Меера розныя паперы і азбука, у Вайніцкага — адна кніжка на польскай мове без цэнзуры, друкаваная ў Пазнані, і ў Лясевіча — кніжка для збору грошай на бібліятэку.

З гэтай прычыны ваенны начальнік загадаў беластоцкім земскаму спраўніку і гараднічаму адабраць ад студэнта Меера і мешчаніна Лясевіча сабраныя імі грошы і зачыніць нядзельную школу і рамесніцкую чытальню з аб'явай па гораду і павету, каб падобных школ і грамадскіх збораў не дапускалася».

Прачытаўшы губернатараву пісаніну, Кастусь усклікнуў:

— Як можна жыць на свеце, калі побач з табою жы-

вуць такія цемрашалы і вырадкі роду чалавечага! Як можна жыць...

Потым, крыху супакоіўшыся, разважаў больш спакойна:

— А жыць трэба. Ужо хоць бы для таго, каб змагацца з гэтымі вырадкамі і з тым ладам, што нарадзіў і наплалзіў іх на нашай гаротнай зямлі.

Чытаючы потым іншыя паперы з губернатарскай канцылярыі, Кастусь абураўся не менш, чым ад першых. У розных данясеннях і рапартах павятовыя спраўнікі і міравыя пасрэднікі з радасцю расказвалі сваім начальнікам пра тыя выпадкі, калі ім з дапамогаю казацкіх бізуноў і астрогаў удавалася зламаць непакорных мужыкоў і вырваць ад іх крыжы[1] на ўстаўных граматах, і рабілі запытанні наконт тых, каго ніякаю сілаю не могуць прымусіць зрабіць гэта.

Затое добра пацешылі Кастуся з Эразмам паперы, у якіх паведамлялася пра два мяцежныя лісткі і пракламацыі, знойдзеныя жандарамі і перасланыя губернатару: «Рускім войскам у Польшчы» і «Руская праўда». Лісткі гэтыя Кастусю былі ўжо вядомы: яны трапілі праз тайную арганізацыю рускіх афіцэраў заходніх губерняў да Валерыя Урублеўскага і Яна Ваньковіча. У іх гаварылася пра тое, што рускія салдаты і рускія людзі не павінны выступаць са зброяй у руках супроць палякаў, якія дабіваюцца вызвалення сваёй краіны з-пад царскага ярма, а наадварот — дапамагаць ім, здабываючы гэтым самым волю і для сябе. Гэта быў заклік да братэрства, выказаны і ў вершы невядомага паэта, які Валерый з такім натхненнем чытаў Кастусю ў Саколцы.

На губернатара Галера гэтыя лісткі, як відаць было са скупой афіцыйнай перапіскі, зрабілі зусім іншае ўражанне. Назваўшы іх абуральнымі, ён тут жа пераслаў іх у Вільню, а копіі данясенняў — у Пецярбург царскаму міністру ўнутраных спраў Валуеву.

— Відаць, нагналі яны страху на пана губернатара,— радаваўся Кастусь.— Паглядзім, як ён заскача ад нашай газеты. Лісткі «Рускім войскам» і «Руская праўда» друкаваліся ў Пецярбурзе, і за іх ён не адказвае.

---

[1] Крыжы — подпісы непісьменных. Звычайна ставілі тры крыжыкі.

А воесь наша «Мужыцкая праўда» — рэч іншая: яна друкуецца тут жа, пад бокам у царскага губернатара Галера. Уяўляю яго ў той момант, калі яму прышлюць ці прынясуць яе. Хацеў бы я гэта бачыць.

І калі Кастусю не ўдалося гэта бачыць, то неўзабаве ўдалося прачытаць паперку, якую толькі-толькі чытаў Галер: Эразм прынёс свежую копію з яе...

Гэтую копію Кастусь чытаў і перачытваў:

«Яго сіяцельству пану ваеннаму губернатару горада Гродні і Гродзенскаму грамадзянскаму губернатару
Брэсцкага земскага спраўніка

Рапарт

Сакрэтна

Старшыня Вержхавіцкай воласці Сымон Дзмітрук рапартам ад 19 гэтага ліпеня за № 1 паведаміў приставу 4-га стану, што селянін вёскі Бярозаўка Місей Геліч 10-га гэтага ліпеня, жаўшы на сваім полі жыта, знайшоў у ім абгорнуты паперай і перавязаны накрыж ніткаю абуральны лісток пад № 1, надрукаваны польскімі літарамі на простай сялянскай гаворцы пад загалоўкам «Мужыцкая праўда», які прынёс яму, приставу, сказаўшы, што ліcткі гэтыя ў 5 экз. знойдзены былі на палях вёсак Бярозаўка, Ясенеўка і Радовічы, з якіх 3 экз. разарваны самімі сялянамі, адзін экз. адабраны ад хлапчукоў вержхавіцкім ксяндзом Жаляшкевічам, а пяты дастаўлены ў станавую кватэру.

Пасылаючы пры гэтым азначаны лісток разам з другім, узятым у кс. Жаляшкевіча, аднаго і таго ж зместу, маю гонар з найвялікшай пашанай паведаміць, што пасля самых старанных пошукаў вінаватых у складанні і раскідванні гэтых лісткоў на палях не знойдзена і што паміж сялянамі як адзначаных чатырох вёсак, так і іншых суседніх, ліcткі гэтыя не зрабілі ні перапалоху, ні шкодных гаворак. Калі ж потым што-небудзь выявіцца на гэты конт, я не міну выпадку ў свой час паведаміць вашаму правасхадзіцельству.

Земскі спраўнік *Маслаў*».

— Вось такіх рапартаў, Эразм, ты таксама прынось сюды чым больш! — зрабіў першы вывад узрадаваны Кастусь.— Ай ды Маслаў! Бачыш, супакойвае губернатара: маўляў, не трацце прытомнасці, ваша правасха-

дзіцельства, абуральныя лісткі шкоды не нарабілі. Ой, паўрад, даражэнькі спраўнік! Нябось, дрыжалі ў цябе, вернападданага, і каленкі і рука, калі крэмзаў свой данос. А цяпер дрыжыць сам пан губернатар і вочы ў яго лезуць на лоб, чытаючы праўду пра сябе і свайго цара-бацюхну. І не выкіне ён нашу «Мужыцкую праўду» ў свой канцылярскі кошык, хоць яна яму і пячэ рукі, а ўжо недзе сам, калоцячыся ад страху, піша рапарты ў Вільню і ў Пецярбург. Заварушылася змяінае кодла. Жыцця спакойнага мы цяпер ім не дамо. Добра. Вельмі добра. Бачу, мне пара варочацца да Саўкі і друкаваць другі нумар. А тады — махну ў Вільню.

Але вярнуцца назад у Саўкаву леснічоўку Кастусю пакуль што не ўдалося. Ужо траха не перад самым ад'ездам на адрас Эразма прыйшоў ліст з Вільні. Нейкі сябар іх Людвіг (Эразм з Кастусём адразу здагадаліся, хто гэты сябар) запрашаў свайго лепшага прыяцеля Кастуся ў госці.

«Прыязджай, браце Кастусь,— пісаў ён,— абавязкова. Даўно мы з табою не бачыліся. Хочацца пагаварыць з блізкім чалавекам за бяседным сталом. Будуць усе нашы знаёмыя. Кідай свае справы і — на цягнік!»

Кастусю было ясна: старшыня Віленскага Камітэта руху Людвіг Звяждоўскі кліча яго на чарговы сход.

І ён у той жа дзень пакінуў Гродню.

## XI

Кастусь не памыліўся: «Мужыцкая праўда» як добрым абухам аглушыла генерал-маёра фон Галера. І хоць гэта быў не першы абух, апушчаны на яго галаву рэвалюцыянерамі Вільні і Гродні, аднак на гэты раз ён захваляваўся не на жарты. Нядаўна адна польская падпольная газета прысвяціла яму асабіста некалькі не надта прыемных радкоў: «За нахабнасць, машэнства, зладзейства і ўціск, якімі вызначаўся Галер, некаторыя асобы напярэдадні яго ад'езду ў Гродню шлюць яму свае віншаванні». Газета ганьбавала тых паноў і чыноўнікаў, якія, падлізваючыся да высокага начальніка-царыста, зрабілі гэты несумленны ўчынак.

Машэннік і прайдзісвет Галер не заслужыў ніякай павагі да сваёй асобы ні на ранейшай пасадзе начальні-

ка назімаўскай канцылярыі, ні на цяперашняй — гродзенскага губернатара. Яго праклінаюць самымі горшымі кленічамі ўсе сумленныя людзі краю. Ён як ніхто выслужваўся перад высокімі ўладарамі і краю, і імперыі. І таму зусім не так сабе Назімаў даручыў яму старшынства ў следчай камісіі пры генерал-губернатарстве. Галер з усяе сілы стараўся апраўдаць такі знак увагі да сябе і, як верны сабака, шукаў і знаходзіў крамолу нават там, дзе ёю і не пахла. Таму, калі вясною насыпаліся з Гродзеншчыны трывожныя рапарты і даносы аб народных хваляваннях, Назімаў, не задумваючыся, паслаў туды губернатарам аднаго з самых верных сваіх слуг. Ён нават выпрасіў у ваеннага міністра новае вышэйшае званне для Галера: у Гродню былы палкоўнік прыехаў ужо з пагонамі генерал-маёра.

Высокі чын і высокае званне зусім закруцілі галаву ганарыстаму, ужо не маладому чыноўніку Галеру. Але ж ён ведаў, што іх лёгка і страціць, чаго яму ніяк не хацелася. Наадварот, губернатарская ступенька, калі ўсё будзе добра, магла прывесці яго ў сталічны Пецярбург, бліжэй да тых, хто цесным колам акружае самога імператара.

І вось цяпер, калі сакратар канцылярыі прынёс і прачытаў яму новую падпольную газету з такім незвычайным загалоўкам, ён раптам адчуў, як глеба пад ім захісталася, нібы ад моцнага землетрасення. Спачатку ён не паверыў сакратару. Выхапіў у яго страшны ліст з друкаваным з двух бакоў тэкстам і пачаў сам чытаць малазразумелыя яму мужыцкія словы. Потым, змакрэўшы, расшпіліў свой белы генеральскі кіцель і папрасіў сакратара расчыніць усе вокны ў кабінеце, сцены якога былі ўвешаны партрэтамі цара і яго сям'і. Грузны шасцідзесяцігадовы генерал падняўся з дарагога скуранога крэсла і, цяжка адсопваючыся, прайшоўся па кабінеце. Адразу ж яго ўстрывожыла думка, што гэтая мужыцкая газета можа нарабіць шкоды перш за ўсё яму самому. Можа, змаўчаць? А калі хто іншы перашле яе Назімаву або, можа, нават і ў Пецярбург. У губерні ж апроч губернатара ёсць і жандармерыя.

Адкінуўшы спакуслівую думку знішчыць гэтую страшную «Мужыцкую праўду» без агалоскі, Галер вырашыў ісці іншым шляхам: знайсці тых, хто яе надрукаваў.

І ён загадаў выклікаць да сябе жандармскага штаб-афіцэра Лелякова.

Галоўны губернскі жандар Лелякоў меў над сабою не аднаго начальніка: самы бліжэйшы з іх быў Галер, а самы высокі і далёкі — князь Далгарукаў, начальнік усіх жандараў — тайных і яўных — вялікай і малой Русі. І ўсім начальнікам ён мусіў слаць рапарты аб кожнай, нават самай нязначнай дробязі, якая так ці інакш закранала дзяржаўныя ўстоі Расійскай імперыі ў Гродзенскай губерні, куды яго перавялі на службу зусім нядаўна. Спраўляўся са сваёю работаю ён пакуль што нядрэнна, умеў дагаджаць усім начальнікам, і таму мяняць яго на лепшага не збіраліся.

Даведаўшыся, чаго паклікаў яго губернатар, Лелякоў захваляваўся не менш за самога Галера. Як жа так! Дзе былі яго жандары і тайныя платныя агенты? Чаму не схапілі гэтага крамольніка Яську яшчэ тады, калі ён толькі задумаў сваё злачынства? Усё гэта закранала за жывое яго жандарскі гонар. Тут ужо запахла самай сапраўднай крамолай. Гэта не тое, што рапарты станавых або спраўнікаў аб тым, што ў адной вёсцы часоваабавязаныя не выйшлі на паншчыну, у другой — пабілі сельскага старасту і адабралі ў яго казённую пячатку, каб не паставіў яе на падложнай устаўной грамаце. Аб такіх злачынцах нават пісаць рапарты не хочацца: надта ж яны дробныя і аднастайныя.

Стукнуўшы абцасамі і казырнуўшы, жандарскі маёр усклікнуў шчыра і горача:

— Усю губерню ператрасу, ваша правасхадзіцельства! Дазвольце пачынаць пошукі.

— Пачакайце, маёр, пачакайце,— спыніў яго губернатар.— Вы чалавек ваенны?

— Так точна, ваенны.

— На мове ваенных гэта называецца аперацыя, а не пошукі. Тут не крыміналістыка, пан маёр. Прадумайце ўсю аперацыю харашэнька, складзіце план і пакажыце мне. Дарэчы, што вы думаеце наконт гэтага Яські з-пад Вільні? Гэта што: маскіроўка ці так яно і ёсць?

Як бы хацелася Галеру, каб гэта не была маскіроўка! Тады добрая палавіна клопату адразу спала б у яго з плеч: віленскі, маўляў, а не гродзенскі гэты Яська! І няхай за яго адказвае Вільня, а не Гродня.

Лелякоў ускінуў угору свае густыя бровы, падумаў, потым пацісnуў плячыма.

— Калі гэта і маскіроўка, то ніякага сэнсу я ў ёй не бачу. Не думаю, што нейкі Яська жыве пад Вільняй, і друкуе сваю крамолу для нашых мужыкоў на іх простай мужыцкай гаворцы. Віленскі Яська хутчэй друкаваў бы літоўскую або польскую крамолу. Але хто б ён ні быў, мы яго знойдзем. Я падыму на ногі ўсю жандармерыю — і сваю, і суседніх губерняў.

Рашучая заява жандарскага штаб-афіцэра Лялякова крыху супакоіла перапалоханага губернатара. Можа, і праўда, яго бравы энергічны жандар знойдзе гэтага праклятага Яську. О, як бы ён рад быў убачыць яго на свае вочы! Сам бы намыліў вяроўку на яго шыю... Толькі калі гэта будзе? А зараз, як ні прыкра, трэба ўсё ж пісаць непрыемны рапарт і пасылаць яго разам з гэтай страшнай «Мужыцкай праўдай» і Назімаву, і ў Пецярбург міністру ўнутраных спраў.

## XII

У той час, калі самы першы начальнік Паўночна-Заходняга краю генерал-губернатар Назімаў таксама, як і фон Галер, ламаў галаву над тым, хто такі Яська — гаспадар з-пад Вільні і дзе яго шукаць, апошні траха не побач з ім у адным з старых віленскіх дамоў на Дамініканскай вуліцы вёў зацятыя спрэчкі са сваімі сябрамі з тайнага Камітэта руху. Больш таго, кіраваў гэтым Камітэтам ад'ютант самога генерала Назімава капітан Людвіг Звяждоўскі...

Назімаў, пэўна ж, не ведаў ды і не мог ведаць, што ад'ютанта для яго выбіраў не ваенны міністр, а сябры Людвіга з Пецярбургскай тайнай ваеннай арганізацыі, што рэкамендаваў яго на гэтую пасаду капітан генеральнага штаба Зыгмунт Серакоўскі са згоды Мікалая Гаўрылавіча Чарнышэўскага...

Паўстанне ў Польшчы рыхтавалася не першы год. Яно пусціла глыбокія карэнні не толькі ў Варшаве і ў Вільні, а і ў самім Пецярбурзе, дзе жылі, часта займаючы нават высокія пасады, ураджэнцы з Царства Польскага і заходніх губерняў. Яны і стараліся паслаць на радзіму як мага больш сваіх людзей. Так у канцы 1859 го-

да і вярнуўся на службу ў свой родны горад Вільню капітан генеральнага штаба Людвіг Звяждоўскі.

На сход Камітэта руху прыйшлі і прыехалі інжынер-паручнік са штаба Віленскай ваеннай акругі Ян Козел, Кастусь Каліноўскі, віленскі доктар Баляслаў Длускі, былы студэнт Пецярбургскага універсітэта Эдмунд Вярыга, італьянец, настаўнік спеваў, ён жа фатограф і пісьменнік з трыма імёнамі Джузепе Ахіла Эльвіра Банольдзі, інжынер-чыгуначнік Уладзіслаў Малахоўскі і маладыя памешчыкі Зыгмунд Чаховіч, Антон Залескі і Ежы Кучэўскі.

Але, бадай, самай важнай асобай на гэтым сходзе быў Нестар Дзюлеран — рэкамендаваны Варшавай прадстаўнік Цэнтральнага нацыянальнага камітэта. Нестар Дзюлеран, як і Малахоўскі, служыў на чыгунцы ў Вільні і службу сваю нёс лепш не трэба, за што высокае начальства з упраўлення чыгункі Вільня — Варшава не раз яго хваліла. Так што канспірацыя яго, як надзейнага падпольшчыка, была, можна сказаць, дасканалая. Да таго ж Нестар быў старэйшы гадамі за ўсіх іншых членаў Камітэта, і гэта, відаць, была адна з прычын, што яму, а не каму іншаму, Варшава даверыла такую важную камісарскую пасаду.

Пачынаючы сход, Людвіг Звяждоўскі коратка далажыў членам Камітэта, што зроблена арганізацыяй за апошнія месяцы, і прадставіў сваім сябрам Нестара Дзюлерана. З крэсла падняўся невысокі, шчуплы, з рэдкаю цёмнаю бародкаю і з сур'ёзным заклапочаным тварам прадстаўнік Варшавы. Ён адразу ж папрасіў слова.

— Калі ласка, грамадзянін Дзюлеран,— сказаў Людвіг.— Слухаем вас.

— Паважаныя грамадзяне і сябры! — пачаў Нестар.— Я хачу дапоўніць нашага першага дакладчыка грамадзяніна Людвіга Звяждоўскага новымі весткамі, якія меў гонар нядаўна атрымаць з Варшавы праз спецыяльнага пасланца. Гэта вельмі важныя весткі. Цэнтральны нацыянальны камітэт прыняў план неадкладнага паўстання ў Каралеўстве Польскім і ў Літве...

Слухачы захваляваліся. Вестка гэтая не толькі важная, а і нечаканая. Усе лічылі паўстанне справаю будучыні, калі і не далёкай, то і не такой блізкай, як можна было чакаць. А тут раптам і план гатовы...

Кастусь усхапіўся з крэсла.

— Што значыць, грамадзянін Дзюлеран, неадкладнае паўстанне? — запытаўся ён.— Вы не агаварыліся? Неадкладнае паўстанне, наколькі я разумею, азначае паўстанне сёння або заўтра...

— Дакладна я не магу адказаць на ваша пытанне, грамадзянін Каліноўскі,— спакойна сказаў Дзюлеран.— Дзень яго ва ўсякім разе яшчэ не вызначаны. Але я думаю, што Цэнтральны камітэт заклікае быць гатовымі выступіць у любы час.

— А каго і з чым мы павядзём на паўстанне, Варшава падумала?

Людвіг папрасіў Кастуся памаўчаць. Кастусь згадзіўся. Але праз нейкі час забыўся на сваю згоду. І калі Дзюлеран сказаў, што Варшава згодна падняць ролю Літвы ў паўстанні і перайменаваць Віленскі Камітэт руху ў Літоўскі правінцыяльны Камітэт, Кастусь зноў перапыніў яго:

— А чаму правінцыяльны, а не проста Літоўскі?

Сябры зашумелі на Кастуся.

— Што ж, па-вашаму, можа, абвясціць самастойную Літоўскую дзяржаву? — сказаў Зыгмунд Чаховіч.

— Па-першае, грамадзянін Чаховіч, чаму толькі Літоўскую? — спытаў Кастусь.

— Грамадзяне, грамадзяне! — хваляваўся старшыня.— Пацярпіце трошкі. Прашу вас, грамадзянін Дзюлеран.

— А якую ж яшчэ? — зашаптаў Чаховіч.

— А Белая Русь што — таксама толькі правінцыя? — такім жа прыцішаным голасам спрачаўся з ім Кастусь.

— Белая Русь ніколі не была дзяржавай...— умяшаўся ў гаворку Ежы Кучэўскі.

— А хто ў тым вінаваты?

— Не я ж,— паціснуў плячыма Кучэўскі.

— І не беларусы ж...

— Грамадзяне, грамадзяне...

Кастусь прыціх.

Дзюлеран гаварыў доўга і як быццам складна, але, здавалася Кастусю, не тое, што трэба было гаварыць. Калі ён выкладае не свае думкі, а толькі Цэнтральнага камітэта, то, відаць, і там не ўсе разумеюць, што на свеце робіцца. Самае важнае Дзюлеран або абмінаў, або ставіў на апошняе месца. Складалася ўражанне, што

Варшава больш спадзяецца на рэвалюцыйны Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы і па замежных эмігрантаў-палякаў, чым на ўласныя сілы. Вядома, генерал Мераслаўскі[1] не скупіцца на абяцанкі. Але ж ён генерал без арміі! Рускіх афіцэраў, на якіх можна цвёрда спадзявацца, дзесяткі. А тых, што да паўстання, пэўна ж, не далучацца,— сотні. Якую ж тады сілу выставіць Цэнтральны камітэт супроць рэгулярнай царскай арміі? У планах Варшавы Кастусь такой сілы пакуль што не бачыў. На сваёй Гродзеншчыне ён толькі пачынае збіраць яе.

Як ні стрымліваў сябе Кастусь, ён усё ж не мог спакойна слухаць Дзюлерана і часта думаў уголас, то перакідваючыся словам-другім з сваім суседам, чарнявым інжынерам-чыгуначнікам Малахоўскім, то перапыняючы дакладчыка. Малахоўскі — рэзкі і цвёрды ў сваіх пераконаннях — бадай ва ўсім згаджаўся з Кастусём, хаця і быў гадоў на восем старэйшы за яго. Асабліва не падабалася яму залішняя далікатнасць, якою патыхала ад некаторых думак дакладчыка.

— Вы збіраецеся рабіць паўстанне ў белых пальчатках! — гнеўна ўсклікнуў ён, калі Дзюлеран загаварыў аб падатках з памешчыкаў на патрэбы паўстання: дзесяць працэнтаў з прыбытку і не больш!

Кастусь запляскаў у далоні.

— Правільна, Уладзіслаў!

Ён і сам не цярпеў такой залішняй далікатнасці, калі справа ішла аб паўстанні.

— На алтар[2] вызвалення трэба ставіць усё — і скарб і жыццё! — дадаў ён.— Прыбыткі памешчыкаў здабываюцца не імі самімі. Гэта народныя прыбыткі. Значыць, яны і павінны служыць народу ў такі цяжкі і вялікі час яго гісторыі.

Дзюлеран добрасумленна расказаў, што абяцае Цэнтральны камітэт сялянам — панскім і казённым. Абяцанкі нішто, нават прывабныя. Але да галоўнага таксама не даходзяць. Перадаць сялянам іх надзелы без выкупу. Гэта добра. Самі сяляне якраз гэтага і хочуць. Нарэзаць па тры маргі[3] з казённых зямель беззямельным удзельнікам паўстання. Таксама не дрэнна. Уся ж іншая

---

[1] Мераслаўскі Людвіг — удзельнік паўстання 1830 года. Далучаўся да партыі чырвоных. Эмігрант.

[2] Алтар — ахвярнік у царкве.

[3] Морг — мера зямлі: 2/3 дзесяціны.

зямля, або львіная доля, застаецца ў паноў. Якая ж тут роўнасць саслоўя, пра што ўжо разоў з дзесяць сказаў дакладчык! Роўнасць не толькі ў тым, каб называць і пана, і мужыка грамадзянінам, як гэта раяць рабіць чырвоныя. Мужыкі наконт такой роўнасці кажуць: «Называй хоць гаршком, толькі ў печ не стаў».

Вядома, добра і тое, што Цэнтральны камітэт абяцае не караць нікога без суда, падзешавіць соль і тытунь — махорку і табаку, паменшыць час службы ў салдатах да шасці гадоў, пабудаваць новыя касцёлы і нават адкрыць польскія школы для ўсіх саслоўяў — вышэйшых і ніжэйшых... А пра тых, хто ходзіць маліцца ў цэрквы, а не ў касцёлы, ні слова няма. Ды і польскія школы для віленскіх або гродзенскіх мужыкоў не такая прывабная ўжо рэч. Не палякі ж яны, а беларусы, літоўцы, рускія...

Пра гэта, аднак, у праграме таксама ні гуку. І хто толькі яе складаў?!

Не спадабалася Кастусю і тое, што будучая польская дзяржава збіраецца заплаціць панам за мужыцкія надзелы. А дзе ж яна возьме грошы для гэтага? У тых жа мужыкоў... Не кіем, дык палкай!

Нарэшце Дзюлеран скончыў свой даклад і сеў за сталом побач са старшынёю. І тут жа заспрачаліся ўсе разам. Адны гаварылі пра зброю,— адкуль і дзе яе браць, другія — пра тое, што час для паўстання яшчэ не наспеў, трэція — хто мусіць стаць галоўнаю сілаю паўстання — паны з разначынцамі ці гарадская галота з мужыкамі?

Людвіг Звяждоўскі спрабаваў іх супакоіць, але дарэмна.

І ўсё ж у бязладнай гамонцы можна было вылучыць тры асноўныя думкі: думку Кастуся Каліноўскага, які зусім не згаджаўся з дакладчыкам, думку маладых памешчыкаў Залескага, Чаховіча і Кучэўскага, якія не толькі згаджаліся з Дзюлеранам, але і спрабавалі звесці паўстанне на мірныя дэманстрацыі, і думку Вярыгі і Козела, якія не верылі ў мірную згоду з царом, але баяліся падымаць на паўстанне саміх мужыкоў. Сам старшыня сходу таксама вагаўся. Кастуся ён ведаў даўно, яшчэ па Пецярбурзе, і любіў яго, як малодшага брата. Але Кастусь усё ж быў для яго занадта нейкі мужыцкі. Людвіг рос і гадаваўся ў Вільні. Потым вучыўся ў Пе-

цярбурзе. І хоць ён спачувае мужыкам, але, пэўна ж, не так, як Кастусь. Ён не надзяваў на плечы сялянскай торбы, не абуваў лыкавых або лазовых лапцей з вераўчанымі аборамі, не начаваў пад сялянскімі саламянымі стрэхамі. Ды і нацыянальнае пытанне яго не так хвалюе: няхай сабе будзе і правінцыяльны Камітэт! Вырашыцца галоўнае, тады можна будзе падумаць і аб іншым: быць Літве правінцыяй Варшавы ці самастойнай. Цяпер жа гэтыя пытанні, думалася яму, толькі замінаюць справе, вядуць убок.

Нагаманіўшыся да страты голасу, камітэтчыкі папрасілі Кастуся ясней абгрунтаваць сваю нязгоду з Варшавай або пакінуць іх на нейкі час адных, каб паспрабаваць дагаварыцца між сабою астатнім членам Камітэта.

Расчырванелы, усхваляваны Кастусь сказаў:

— Мае думкі, паважаныя сябры і грамадзяне, вам вядомы. У мяне яны не разыходзяцца са справаю. А нам цяпер іменна пара пераходзіць да жывой справы. Аднымі гаворкамі паўстання не зробіш. Усім вам я раздаў першы нумар нашай газеты «Мужыцкая праўда». Так што, як бачыце, я мыслю сабе паўстанне толькі з мужыкамі разам. Больш таго: яны, а не падпольныя гурткі змоўшчыкаў, якіх вы дзеліце на дзесяткі і сотні, мусяць стаць грунтам нашай народнай арміі. Не сотні нам патрэбны, а тысячы і дзесяткі тысяч. А то што ж выходзіць? Варшава збіраецца выступаць з арміямі, якіх не мае...

— Няпраўда! — пачуліся галасы маладых памешчыкаў.— Сіла наша не малая.

Кастусь дружалюбна ўсміхнуўся:

— Прашу, сябры, мяне не перапыняць, так, як гэта рабіў я сам, слухаючы дакладчыка... Далі згоду слухаць, дык слухайце! Колькі зараз царскага войска ў Каралеўстве Польскім і ў нашых губернях? Вы пацікавіліся?

— Вестак такіх ваенны міністр не публікуе...

— І правільна робіць. Гэта яго ваенная тайна. Аднак нам трэба раскрыць гэтую тайну, перш чым рушыць у бой свае арміі. Дык вось. Па маіх вестках, толькі ў адной Віленскай ваеннай акрузе зараз налічваецца не менш шасцідзесяці тысяч штыкоў і шабляў. Дадайце сюды сотні дзве з палавінай гармат. Паўтараю, гэта зараз. А калі пачнецца завіруха? Колькі новых казацкіх часцей

ваенны міністр можа падкінуць нам ужо за які першы месяц? А што мы выставім? Ёсць у нас такая армія?

Кастусь зрабіў перадых.

— Вы маўчыце. Я таксама нічога сказаць не магу. Нам кажуць, як толькі мы выступім, да нас тут жа далучацца ваенныя часці рэвалюцыйных афіцэраў. Дай бог. Я вельмі гэтага хачу. А раптам іх будзе так мала, што іх лёгка абяззброяць у першы ж дзень іншыя часці? Што тады? Нам кажуць: Мераслаўскі рыхтуе войска за межамі. Добра. Вельмі добра. Пажадаем яму ўдачы. А калі гэтае войска праб'ецца да нас праз замежныя кардоны тады, як і памагаць не будзе каму? Не, дарагія мае грамадзяне, людзі кажуць: на бога спадзявайся, а сам маху не давай!

— Што ж тады? Адмовіцца...

— Зусім не. Наадварот: рыхтаваць шырокую народную вайну, як гэта раіць рабіць Мікалай Гаўрылавіч Чарнышэўскі. Дарэчы, ёсць вельмі сумныя для нас весткі, што ён арыштаваны... Чулі пра гэта?

— Чулі,— адказалі маладыя паны.— І што з таго?

— А тое, што Чарнышэўскі з яго тайнай арганізацыяй быў першы наш саюзнік... Мы спадзяваліся на братняе плячо рускага народа. Цяпер цар выбівае ў нас гэтую самую надзейную апору. Замяніць яе можа толькі сам наш народ і ніхто іншы. Трэба выкаваць і даць зброю мужыкам. Калі не вінтоўкі са штыкамі, то хоць косы з пікамі або вострыя сякеры.

— Ого! — выгукнуў здзіўлены Козел.— Смелая думка. Далібог, смелая!

— Не смелая, грамадзянін Козел, а разумная, хоць я зусім не хачу хваліць сябе,— сказаў Кастусь.

— Мужык не зразумее нашай мэты,— падтрымаў Козела Вярыга.— Ён не пойдзе супроць цара.

— Правільна, грамадзянін Вярыга. Мужык не разумее нас, цяперашніх. Але ён зразумее нас, калі мы самі лепш зразумеем яго, пойдзем да яго і раскажам яму, што без крывавай вайны з царом і з панамі зямлі і волі ён не здабудзе. Гэта мужык зразумее лёгка. І тады ён не пойдзе — пабяжыць да нас.

Слухачы ажыўлена зашумелі.

— Але ж гэта, грамадзянін Каліноўскі, не наша мэта! — успыхнуў Кучэўскі.— Гэта прывядзе да вайны паміж саслоўямі...

— Або да мужыцкай рэвалюцыі,— дадаў Чаховіч.— Я думаю, Камітэт павінен забараніць вам выкладаць такія небяспечныя думкі і ў сваёй газеце. Наша задача — памірыць мужыка з панам, а не распальваць варожасць.

— Рэвалюцыя перашкодзіць нацыянальнай справе...— падтрымаў маладых паноў і Козел.

— Я думаю, грамадзянін Козел,— сказаў Кастусь,— ваш Камітэт павінен рашаць перш-наперш асноўнае пытанне: хто мы? Калі толькі польская правінцыя, то, вядома, нам няма чаго ламаць галовы: што скажа Варшава, тое і рабі. Я згодзен ісці з Варшавай па адной дарозе, але толькі як роўны з роўным. Мы паможам братам-палякам здабыць нацыянальную волю. За гэта яны мусяць памагчы нам, літоўцам і беларусам, здабыць сваю нацыянальную волю. Чым мы горшыя за тыя народы, што маюць такую волю? Я кажу не толькі аб вялікіх нацыях. А калі з самага пачатку мы паставім сябе роўнымі, то ўсё адразу мяняецца. Тады мы вольны выставіць і сваю праграму. І напішам у ёй вялікімі літарамі: «Прэч цара і царыстаў з Літвы і Беларусі! Прэч польскіх і ўсякіх іншых магнатаў-крывасмокаў з нашай зямлі!» Пойдзе пасля гэтага за намі мужык ці не пойдзе?

— Дзіва што! — горача запляскаў у далоні Малахоўскі.— Я — за такую праграму!

— Паны-магнаты, вядома, за намі не пойдуць,— працягваў Кастусь.— І не трэба. Яны — кропля ў мужыцкім моры. А вось сродкі іхнія мы возьмем для сваёй справы, не мераючы на працэнты. Іначай, хто ж нам дасць гэтыя сродкі? Прыгонныя мужыкі або гарадская галота? І яшчэ адно моцна турбуе мяне, грамадзяне члены Камітэта: чаму Варшава трымае пры сабе Беластоцкае ваяводства? Выходзіць, нам няма ніякай справы да таго, што робіцца ў Брэсцкім, Кобрынскім, Пружанскім паветах? Але ж гэта — наша паўднёвая Гродзеншчына! Начальнік ваяводства Браніслаў Шварц зараз адкліканы Цэнтральным камітэтам у Варшаву. Аднак ваяводства сваё ён нам так і не перадаў, хоць я не раз гаварыў з ім пра гэта. Яно па-ранейшаму кіруецца Варшавай, а не Вільняй.

Кастусь не ўсё сказаў сваім сябрам, што меўся сказаць. Але сказаў самае галоўнае, набалелае. І калі ён

скончыў, спрэчкі на гэтым незвычайным сходзе разгарэліся з новаю сілаю. Паслухалі толькі больш спакойна аднаго Людвіга. Ён сказаў, што яму падабаюцца думкі Кастуся Каліноўскага. Яны свежыя і новыя. Але занадта адарваны ад сапраўднага жыцця. Мужыка на паўстанне цяпер не падымеш. На гэта спатрэбіцца нямала гадоў. Кастусь не ўстрымаўся і параіў Людвігу прачытаць у «Современнике» думку Дабралюбава пра беларускага мужыка. Людвіг адказаў, што ведае гэтае выказванне, але поўнасцю з ім згадзіцца не можа. Зараз трэба рашаць самую найпершую задачу — выгнаць рускага цара з Царства Польскага і яго ўскраін. Кастусь зноў перапыніў яго: «Якіх ускраін?» Людвіг сказаў, што Кастусь сам добра ведае, аб чым ідзе гаворка. Як толькі мы скінем царскае ярмо, тады можна будзе спакойна думаць пра іншае. Як выгнаць цара, якою сілаю? Пэўна ж, сілаю ўсіх саслоўяў, а не адных мужыкоў, як гэта раіць Кастусь Каліноўскі. Праўда, ён разумее Кастуся, паважае яго шчырае спачуванне простаму народу, што добра відаць і ў яго першай мужыцкай газеце, але адны простыя людзі з царызмам не справяцца, каб і хацелі. Так што не трэба адхіляць ад справы і незаможных дваран-землеўласнікаў, такіх, як паважаныя грамадзяне Кучэўскі, Залескі, Чаховіч. Яны — не магнаты, чакаюць вызвалення гэтак жа, як і ўсе іншыя сумленныя патрыёты краю. Былых сваіх прыгонных яны не душаць паднявольнаю працаю, а перавялі іх на аброк. Прыспешваць паўстанне, аднак, як гэта думае Варшава, рызыкоўна. Літва да яго яшчэ не гатова, і пра гэта мы ясна скажам Варшаве. Урэшце, яна павінна ўзгадніць з намі час паўстання, а не дыктаваць нам сваю волю. Мы ўсё ж не якая Люблінская ці Кракаўская арганізацыя. Гэта таксама трэба разумець...

— Цяпер якраз такая! — выгукнуў Кастусь.

— Але ж мы — цэлы край, а не адно ваяводства!

Людвіг і не заўважыў, як пачаў гаварыць словамі Кастуся, хоць і не збіраўся гэтага рабіць. Весела ўсміхаючыся, Кастусь звярнуўся да членаў Камітэта:

— Прашу быць сведкамі, грамадзяне: гэта не я гавару.

Усе засмяяліся ўслед за Кастусём.

— Гэта гаворыць сама логіка падзей,— працягваў Кастусь.— Рана ці позна мы сур'ёзна паставім пытан-

не: хто мы? Правінцыя або край? Усходнія землі Царства Польскага або Літва, Беларусь, Украіна?

Звяждоўскі не адказаў на гэтыя пытанні. Але згадзіўся з Кастусём наконт Беластоцкага ваяводства.

— Беластоцкая арганізацыя, пэўна ж, мусіць кіравацца намі,— сказаў ён. — Паспрабуем гаварыць пра гэта з Варшавай...

Людвіга Звяждоўскага змяніў Нестар Дзюлеран. Яго мала хто слухаў, бо ўсе спрачаліся адзін з адным і кожны з Кастусём.

— Гэта сепаратызм! [1] — абураўся звычайна спакойны Дзюлеран думкамі Кастуся наконт нейкай самастойнасці для Літвы.— Наша задача ў такі адказны час не распыляць сілы, а злучаць. Мы не адштурхоўваем ад сябе сялян. Наадварот, клічам іх на паўстанне таксама... Але не маёнткі разбураць... Усе мы тут з прыемнасцю прачыталі вашу «Мужыцкую праўду». Вельмі добра, што вы ясна і проста для мужыка на яго ж мове расказвалі яму пра цара і яго рэформу. Але тое, што мы пачулі ад вас сёння, нешта зусім новае. Да такога не дадумаўся нават Гарыбальдзі, якога ўсе мы паважаем. Не мужыцкая рэвалюцыя патрэбна нам, а нацыянальная!

Беззямельныя дваране Вярыга і Козел не абаранялі паноў, але палохаліся анархіі [2], да якой можа давесці мужыцкая рэвалюцыя.

І толькі адзін Уладзіслаў Малахоўскі моцна паціснуў руку Кастусю.

— Я, брат, з табою! — коратка сказаў ён і сеў на сваё крэсла.

— Дзякую табе, Уладзіслаў,— адказаў усхваляваны спрэчкамі Кастусь.

Тое, што ён застаўся не адзінокі на гэтым сходзе, бадзёрыла яго і надавала сілы для новай атакі на сваіх сяброў. Яны, цвёрда верыў Кастусь, не благія людзі. Толькі разумеюць справу не так, як яе трэба было б разумець. Захопленыя адною нацыянальнай ідэяй, яны забываюць пра ўсё іншае, нават пра цяжкія ўрокі мінулага. Вераць розным легкадумным кіраўнікам, такім, як генерал Мераслаўскі. Пераход дзесятка-двух рускіх афіцэраў у іх лагер гатовы прыняць за лёгкую перамогу

---

[1] Сепаратызм — імкненне адасобіцца, аддзяліцца ад большасці або аддзяліць тую ці іншую вобласць ад дзяржавы.

[2] Анархія — беспарадак.

над усёй рускай арміяй. Шчыра кажучы, Кастусю нават надабалася гэтая моцная сляпая вера ў перамогу вялікай і справядлівай справы. Але сам ён глядзеў на свет шырэй і далей, да таго ж быў сапраўдным хлопаманам[1], як яго называлі віленскія і варшаўскія сябры. З яго вачэй не знікаў вобраз бяспраўнага прыгоннага селяніна. Вось каму ён пакляўся прысвяціць сваё жыццё, вось пра каго ён думае перш за ўсё.

Сход зацягнуўся. Дзесяткі разоў перагаварвалася адно і тое, і ўсё ж да поўнай згоды прыйсці не ўдалося. Праўда, Камітэт руху замянілі новаю назваю: Літоўскі правінцыяльны Камітэт. Каліноўскі з Малахоўскім пайшлі на такую згоду, толькі каб не ўчыняць поўнага разладу ў рабоце Камітэта. Урэшце, думаў Каліноўскі, такое пытанне не позна будзе ўзняць і потым, калі яму ўдасца зрабіць тое, што задумаў: згуртаваць вакол сябе моцную народную армію. Голас яго тады лепш пачуюць і ў Вільні, і ў Варшаве.

## XIII

Вярнуўшыся да Саўкі, Язэп моцна засумаваў. Яму не хапала Кастуся, да якога ён так прывык за дарогу. Саўка штодня рабіў абходы, ездзіў па сваіх справах да аб'ездчыка і ляснічага або ў Бераставіцы — Вялікую і Малую. Язэп жа сядзеў дома адзін. Іншы раз Саўка пакідаў яму і Рудака — старога рудога сабаку. Але Рудак мала весяліў Язэпа. Гультаяваты сабака спаў цэлымі днямі на сонцы каля будкі або нехаця лавіў мух, калі тыя самі лезлі яму ў рот. Брахаў ён рэдка і мала. Толькі калі ўжо якая занадта шустрая вавёрка саскочыць з елкі на страху або нават на плот,— Рудак падасць голас, каб паказаць, што тут, на двары, ён гаспадар, а не хто іншы.

Сумуючы на адзіноце, Язэп часта думаў пра сваіх сяброў з маёнтка пана Жардзецкага. Як яны там жывуць? Што думаюць пра яго? Ці шукае яго пан? А галоўнае — так хацелася б яму пабачыцца з дзядзькам Рыгорам і парадавацца яго «Мужыцкаю праўдай»: адну

---

[1] Хлоп — раб, прыгонны селянін. Хлопаман — заступнік зняважаных панамі прыгонных людзей.

такую газетку ён прыхаваў сабе на памяць. Да таго ж дзядзька Рыгор сам трохі чытае і па-польску, і па-руску. І ён прачытаў бы яе не толькі сам сабе, але і ўсім, усім сваім сябрам з пільні, а можа, і яшчэ сяму-таму з дваровых. Гэта ж так важна, каб усе ведалі, хто такі цар і чаму ён не хоча дабра мужыкам. Людзі ж і ў старым маёнтку пана Жардзецкага, і ў новым думаюць, што цар добры, дрэнныя толькі паны з падпанкамі ды розныя царскія начальнікі. А ў газеце ж ясна сказана, што цар з сваім сенатам і панамі — адна хеўра. І спадзявацца на іх няма чаго.

Язэп сказаў пра сваю задумку Саўку. Саўка згадзіўся, што такую газету любы мужык пачытае або паслухае з ахвотаю, не толькі дзядзька Рыгор. Вось адно, як яму пераслаць яе?

— Я збегаю да яго,— сказаў Язэп.— Гэта не так і далёка.

Саўка паморшчыўся:

— Няможна, Язэп, табе туды і на вочы паказвацца...

— А навошта мне паказвацца, каму не трэба: пераначую ў дзядзькі Рыгора і ранічкай чуць свет — назад.

— Так-то яно так...— адгаворваў яго Саўка.— Але можа быць і не так.

— А як яшчэ?

— Ну, нарвешся незнарок на свайго Дракулу, калі ён жывы, ці на іншага панскага лёкая. Зловяць цябе, грэшнага, і запытаюць на стайні пад бізунамі: «Дзе быў дагэтуль?» Не ў лесе ж блукаў з таго часу? Што скажаш? А яшчэ, чаго добрага, газету знойдуць. Нам тады верны астрог...

Перасцярога Саўкава ахаладзіла Язэпа. Але, падумаўшы крыху, ён рашуча сказаў:

— На вас я не сказаў бы, каб мяне хоць на кавалкі рэзалі...

Саўка верыў Язэпу, але папрасіў яго пачакаць Кастуся або Фелікса.

— Як яны скажуць, так і рабі.

Язэп чакаў дзень за днём, а ні Кастусь, ні Фелікс не прыязджалі.

У такі час яму і прыйшла ў галаву новая цікавая думка: Кастусь жа толькі ўзрадуецца, даведаўшыся, што ён занёс свайму знаёмаму яго газету! Ці ж не яны з Кастусём дзве ночы запар развозілі яе па вёсках і га-

радах? Ці ж не радаваўся Кастусь, робячы такую работу? Ого, яшчэ як радаваўся!

Гэтая думка так захапіла Язэпа, што ён ужо не меў сілы адступіцца ад яе. Кастусь вернецца, а ён і раскажа яму, дзе быў, ды яшчэ і пахваліцца. І чым больш ён думаў пра гэта, тым больш смялеў. Цяпер, пасля таго як ён з'ездзіў аж у Гродню і сам, адзін, вярнуўся назад, ніякая дарога яго не страшыла. Ён жа не пойдзе зноў невядомымі яму цёмнымі лясамі. Па расказах Саўкі, дарога на Нёман ад яго лесьнічоўкі зусім простая і ідзе траха не ўвесь час палямі, паўз лясы, якія застаюцца з правага боку.

Сабрацца ў дарогу Язэпу было нядоўга. Закінуў за плечы Саўкаву зрэбную торбу з акрайцам хлеба, узяў кій у рукі — і ўвесь збор. «Папытае хто цікаўны, адкуль і куды іду,— падумаў Язэп,— скажу: жабрую...»

Ключ ад Саўкавай хаціны палажыў пад ганак, дзе яго хаваў сам гаспадар, і падаўся ў дарогу. Саўка, думаў Язэп, лішне турбавацца не будзе: здагадаецца, куды ён адлучыўся.

## XIV

Баючыся, каб надта не спазніцца, Язэп больш бег, чым ішоў. Сцішаў хаду толькі тады, калі трапляўся сустрэчны падарожны або якое жытло. Бо кожны ж, пэўна, пацікавіцца, чаго і куды ты бяжыш. А калі чалавек ідзе спакойна, ніхто пра яго нічога не падумае. Ідзі сабе на здароўе, куды табе трэба.

Разоў тры ці чатыры Язэп пытаўся ў сустрэчных пра дарогу на Нёман. Яму ахвотна адказвалі. Дарога, і праўда, была простая, як казаў Саўка. Перасякаючы сяды-тады дробныя хмызнякі з сенажацямі або невялікія пералескі, яна хутка выходзіла на зялёныя палі з блізкаю вёскаю або засценкам. Язэп стараўся абыходзіць іх загуменнямі і палявымі сцежкамі. Навошта, каб лішнія вочы бачылі яго ў мясцінах, блізкіх да маёнтка пана Жардзецкага. Язэпу здавалася, што тут усе ведаюць пра яго сутычку з Дракулам і гатовы пазнаць яго.

Вялікія дрымучыя лясы, у якіх ён блукаў нядаўна, заставаліся ўвесь час убаку. Пагода на гэты раз таксама

спрыяла яму: гарачае летняе сонца сяды-тады хавалася за лёгкія хмурынкі, у твар увесь час павяваў лагодны ветрык.

А галоўнае, што рабіла лягчэйшай гэтую далёкую дарогу,— жаданне хутчэй убачыцца з дзядзькам Рыгорам. Ніхто-ніхто не ведае, які гэта дарагі для яго чалавек! Без Кастуся Язэп зараз таксама сумуе, а без дзядзькі Рыгора — больш.

Перадыхнуўшы з гадзіну ў самую гарачыню ў кустах пры дарозе, Язэп ужо адвячоркам апынуўся каля знаёмага камяністага ўзгорка, дзе ён араў у той памятны дзень... Ён адразу пазнаў яго. На ім скрозь зелянелі дружныя ўсходы грэчкі. Ніякіх страшных агрэхаў, як ні прыглядаўся Язэп, на палетку не відаць было: усё забаранавалася і загладзілася. І чаго гэтаму недаварку Дракуле прыйшло ў галаву чапляцца да яго! Хоць Язэп і цяпер не каецца, што так здарылася.

Язэп пачакаў на ўзлеску да змяркання і рушыў у недалёкі маёнтак цяпер ужо добра знаёмаю дарогаю. Ён разлічваў трапіць туды ў такі час, калі дзядзінец, пасля вячэры, пусцее, а вартаўнікі яшчэ толькі збіраюцца выходзіць на варту.

Дзядзька Рыгор, як чалавек сямейны, жыў у асобнай прыбудоўцы пры чалядні [1]. Чалядня гэтая стаяла ў самым канцы дзядзінца побач са стайнямі і аборамі, і Язэп падышоў да яе нікім не заўважаны.

Святла ў Рыгоравай прыбудоўцы не было, як і ва ўсёй чалядні. Улетку людзі кладзіся спаць услед за захадам сонца. Затое і ўставалі яшчэ на досвітку.

Язэп злёгку пастукаў у шыбіну. Праз хвіліну з хацінкі выйшла Рыгорава жонка цётка Мар'яна.

— Хто тут? — паклікала яна, углядаючыся ў густы вячэрні змрок: стаялі якраз цёмныя дні.

— Гэта я, цётка Мар'яна,— адгукнуўся Язэп паціху.

— Язэп?!

— Ціха, цётухна... Можна да вас?

— Заходзь, заходзь, сынок,— зашаптала Мар'яна.

У маленькім пакойчыку Язэп спыніўся каля парога, не ведаючы, куды далей ступіць, дзе тут у гаспадароў вольнае месца. Цётка Мар'яна кінулася да печы, каб запаліць лучыну. Але Язэп папрасіў яе не рабіць гэтага.

---

[1] Чалядня — дом, барак, дзе жылі дваровыя людзі.

— Ты ж, мусіць, галодны, дзіцятка? Як жа я цябе накармлю папацёмку?

— Дайце, цётка Мар'яна, кавалак хлеба, калі маеце,— папрасіў Язэп.— От і ўся вячэра будзе.

— Навошта ж адзін хлеб. У мяне яшчэ наваранае бацвінне засталося. З затаўкаю. Няма ж цяпер, каток, у нас каму есці...

— А што? Дзе ж дзядзька Рыгор?

— У астрозе, сынок...

Цётка Мар'яна ўсхліпнула. У Язэпа зашчымела ўсё ўсярэдзіне. Ён жа так ірваўся ўбачыцца з дзядзькам Рыгорам!

— За што ж, цётухна, яго пасадзілі? — упалым галасам запытаўся Язэп.

— Ты ж і не ведаеш, што ў нас цяпер робіцца. А дзе ж ты сам, Язэпка, быў гэтулькі часу? Цябе тут шукалі і шукаюць...

Цётка Мар'яна пасадзіла Язэпа на маленькі ўслончык каля маленькага століка. Упоцемку знайшла каля печкі сваё бацвінне і ўсё, што трэба для вячэры.

Язэп еў, а цётка Мар'яна расказвала яму, што ў іх у маёнтку робіцца. З яе расказу Язэп даведаўся, што Дракулу ліха не ўзяло. Але ён ляжыць яшчэ ў бальніцы ў мястэчку. Язэп пашкадаваў, што слаба стукнуў яго тады. Спакайней бы цяпер жылося людзям без Дракулы. Дзядзьку Рыгора пасадзілі ў астрог за тое, што хацеў дабра людзям. Падгаварваў іх не падпісваць устаўную грамату, пакуль пан не верне ім адрэзкі [1]. Пан не згадзіўся. Пачаўся бунт. У дзядзькі Рыгора надзельнай зямлі ніколі не было, як і ва ўсіх дваровых людзей. Але ён не мог цярпець несправядлівасці. За гэта і пасадзілі яго ў астрог, як падбухторшчыка.

Усюды па сёлах стаяць цяпер салдаты: іх прыслалі ўціхамірваць мужыкоў.

Такія невясёлыя весткі пачуў Язэп ад цёткі Мар'яны.

Пра сябе ён расказаў вельмі скупа: наняўся, маўляў, на работу да добрых людзей. Дзе жывуць гэтыя добрыя людзі, хто яны — цётка Мар'яна не дапытвалася. Сказала толькі: «Ось і добра, сынок. Толькі дома цяпер не ўздумвай паказвацца. Не дай бог чаго, яны не даруюць табе.

[1] Паны перад царскай рэформай стараліся захапіць сабе як мага больш лепшай зямлі з сялянскіх надзелаў. Гэтыя адабраныя ў сялян землі і называліся адрэзкамі.

А ўсе дваровыя людзі вельмі шкадуюць цябе: думаюць, загінуў недзе хлопец...»

Язэп не мог доўга гаварыць сам і слухаць гаворку цёткі Мар'яны: хацелася спаць, і ён пазяхаў раз за разам.

Цётка Мар'яна паслала яму пасцель на ўслоне:

— Кладзіся, сынок. Ты ж, нябось, з дарогі.

— Мне назад трэба.

— Не супроць жа ночы. Калі цябе пабудзіць?

— На досвітку, цётка Мар'яна. Не праспім?

— Я — не. Смела кладзіся.

Язэп упаў галавою на мяккую падушку і тут жа заснуў.

## XV

Саўка не знаходзіў сабе месца: Язэп не вярнуўся ў леснічоўку ні на другі дзень, ні на трэці...

Чаго толькі Саўка не перадумаў. І ўсё ў галаву прыходзіла самае горшае: Язэп трапіў у нейкую вялікую бяду. Можа, нават у рукі жандараў. І хто цяпер паручыцца, што ён не раскажа, дзе быў і што рабіў апошнія дні...

Найбольш, аднак, турбавала Саўку друкарня. Ён жа ведаў, як цяжка было Кастусю і яго сябрам здабываць яе. Ды і сам пераканаўся, як яна патрэбна ім.

Друкарню трэба вывезці з леснічоўкі,— гэта першае, што падказаў Саўку яго цвярозы розум. Але куды? Ехаць на параду да Фелікса? Можна час страціць. Пакуль ён будзе раз'язджаць, на сядзібу яшчэ паляцяць паліцэйскія.

Заставалася адно: схаваць друкарню дзе-небудзь тут жа, побач.

Саўка так і зрабіў: загарнуў друкарскі станок у посцілку і перавёз у сухі лоўж. Там жа схаваў шрыфт і ўсё іншае друкарскае начынне.

Цяпер ён шырэй і весялей глядзеў на свет. Ехаць да Фелікса ўжо не было пільнай патрэбы. Ці не паспрабаваць лепш самому пашукаць Язэпа?

Саўка сабраўся і паехаў у маёнтак пана Жардзецкага. Язэп жа пайшоў, калі верыць яму, да нейкага дзядзькі Рыгора — дваровага парабка пана Жардзецкага. Значыць, там і мусяць быць яго сляды.

Дарогаю Саўка ўсё думаў, што ён скажа таму незнаёмаму Рыгору: чаго прыехаў да яго? Нічога разумнага,

аднак, не прыходзіла ў галаву. Як шкада, што ён не даведаўся ў Язэпа больш дакладна, хто гэты дзядзька Рыгор, чым ён цікавіцца, чым займаецца. Можа б, тады лягчэй было прыдумаць прычыну разгаварыцца з ім.

Саўка прыехаў у маёнтак на захадзе сонца. Спыніўся побач з аборамі, быццам на папас. Падкінуў каню сена і пачаў разглядаць дзядзінец — увесь зялёны ад густой травы. Дзе ж тут шукаць Рыгора? Хоць бы прозвішча ведаць.

Неўзабаве да воза падышоў сівы, як голуб, стары. Невысокі, у белай зрэбнай сарочцы і ў такіх жа штанах. Босы. З самаробнаю люлечкай у зубах.

— Здалёку, чалавеча? — запытаўся ён у Саўкі, не перастаючы пасмоктваць сваю люлечку.

— Не зблізку, дзядуля,— адказаў Саўка.— Конь вунь змарыўся. Няхай пажуе трохі.

— Ды яно ж так,— згадзіўся дзед.— І конь без перадыху жыць не можа.

Саўка скарыстаў выпадак і запытаўся ў старога, ці жыве ў іх парабак Рыгор — чалавек ужо немалады.

— А што? — пацікавіўся стары.— Знаёмы твой?

— Трохі...

— Адзін такі немалады, як кажаш, Рыгор у нас жыве. Ды зараз яго няма дома.

— А дзе ён?

Дзед выняў люлечку з зубоў і махнуў ёю ў бок ад сябе:

— У астрозе...

— Ось яно што,— спалохана здзівіўся Саўка.— За што ж яго?

Стары ахвотна расказаў, за што трапіў у астрог парабак Рыгор.

— Такі недавярак наш пан...— са злосцю цмокаў стары,— свет не бачыў. На маім вяку гэта трэці пан у Драздах. І самы горшы. Цар даў людзям волю. А ён ні на грош ад свайго не адступаецца.

Стары, відаць, не супроць быў пагаманіць з незнаёмым падарожнікам. Але Саўка дрэнна слухаў яго.

— А што — дзядзька Рыгор адзін тут у вас жыў?..— перапытаў ён старога.

— Не. З жонкаю.

— А дзе яна?

— Ды вунь, каля чалядні іх хатка,— стары паказаў на прыбудоўку.— Мар'яна, здаецца, дома.

Саўка падзякаваў гаваркому дзядку і пайшоў да прыбудоўкі.

Цётка Мар'яна і сапраўды была дома: толькі што вярнулася з работы. Цяпер, калі траха не ўсе мужыкі з сёл і вёсак ужо каторы час бунтуюцца і не выходзяць на паншчыну, работы дваровым людзям прыбавілася ўдвая і ўтрая. І яны вымушаны рабіць сваю работу, якой бы цяжкай яна ні была, без спрэчак: іначай пан перастане карміць іх. Ніхто ж з іх не мае не толькі сваёй сядзібы, а нават і якога-небудзь лядашчага агародчыка. Тут усё толькі панскае.

Цётка Мар'яна паверыла, што Саўка ведае яе мужыка, і шчыра паскардзілася яму на сваю бяду. Слова за слова, і Саўка рашыўся запытацца ў цёткі Мар'яны пра Язэпа: ці быў ён у іх трэцяга дня?

— Ён што, чалавеча, парабкуе ў цябе? — запыталася цётка Мар'яна.

— Але ж,— наўгад адказаў Саўка.— Нядаўна астаўся...

— Такі ён казаў, што знайшоў добрага гаспадара,— сказала цётка Мар'яна.— І відаць, што добры: іншы б не паехаў шукаць свайго парабка.

Ад яе Саўка даведаўся, што Язэп, як ён і думаў, трапіў у вялікую бяду. Па дарозе з маёнтка ён нарваўся на самога пана Жардзецкага. Пан ехаў на пары коней з Вялікай Берастав́іцы. Можа б, ён сам і не заўважыў Язэпа — не вельмі бо пан, дрэмлючы, прыглядаўся да нейкага бадзягі з жабрацкаю торбачкаю, каб не фурман Адась. «Вунь, пане, наш разбойнік Язэп дыбае»,— здалёку пазнаўшы яго, сказаў Адась пану. Пан затрапятаўся, працёр вочы і траха сам не саскочыў з брычкі. Але, апамятаўшыся, штурхнуў у бок свайго фурмана: «Лаві! Лаві яго!» Даўганогі Адась кулём зваліўся з брычкі і, зрабіўшы некалькі шырокіх скачкоў, дагнаў перапалоханага да смерці Язэпа.

Пра гэта ён потым з гонарам расказваў усім дваровым, а скупы пан Жардзецкі не пашкадаваў яму цэлага рубля на гарэлку.

— І цяпер небарака Язэп у астрозе сядзіць,— скончыла свой сумны расказ заплаканая цётка Мар'яна.— І яшчэ, кажуць, у яго знайшлі нейкую страшную паперу. Быццам у ёй нешта нядобрае пра самога цара напісана... Адкуль у яго тая папера? Чытаць жа ён не ўмее.

— У якім жа ён астрозе? — пацікавіўся Саўка.— Не чулі часам? Можа, у Мастах ці Бераставіцы?

— Не. Казалі, аж у Ваўкавыск пан завёз яго. Гэта мой сядзіць у Мастах.

У Саўкі калаціліся рукі і ногі, калі ён пакідаў хаціну цёткі Мар'яны.

Ён запрог каня і паехаў проста ў Бераставіцу да Фелікса. «Калі яго не застану дома,— думаў Саўка,— давядзецца ехаць аж у Саколку».

У Фелікса, да якога Саўка прыехаў ужо толькі раніцай, ён нечакана сустрэў і Кастуся.

— Ну і малайчына! — узрадаваўся Кастусь, убачыўшы Саўку на Феліксавым двары.— Ты, брат, як ведаў, што я да цябе збіраюся: падводу падаслаў. Сюды я ехаў на паштовым дыліжансе. А да цябе ж, у твой мядзведжы кут, дыліжансы пакуль што не ходзяць.

— А можа, давай паклапочам перад паштова-дарожным начальствам,— пажартаваў Фелікс,— няхай пусцяць адзін-два дыліжансы і да Саўкі. Што ім значыць. Лепшай выгоды тады нам і не трэба: можна ездзіць не толькі газету друкаваць, а і баравікі збіраць. Яшчэ не нараслі баравікі?

Але хутка Кастусь заўважыў нейкую перамену на Саўкавым твары: ён прыметна пабялеў і спахмурнеў.

— Ты што — захварэў? — пацікавіўся Кастусь.— Нейкі сёння не такі...

— Не спаў ноч...— адказаў засмучаны Саўка.

— Чаго б гэта? Можа, закахаўся ў якую красуню тут, у Бераставіцах?

Саўка махнуў рукою:

— Не да кахання мне...

— А што?

— Прапаў Язэп...

Кастусь таксама раптам спахмурнеў.

— Калі?

— Тры дні таму...

— Заблудзіўся, пэўна, дзе ў лесе,— сказаў Фелікс.— Ты што — пасылаў яго куды?

— Не... Ён сам пайшоў. І я ўжо знайшоў яго след...

— Дзе? — захваляваўся Кастусь.— Кажы хутчэй!

Саўка пачаў расказваць.

— Шкада хлопца,— уздыхнуў Кастусь.— Эх ты... Вось

бяда... Што ж рабіць? Ды і для нас гэта пагроза. Трэба друкарню ратаваць.

— Я ўжо зрабіў гэта,— сказаў Саўка. —Схаваў яе ў лаўжы недалёка ад сядзібы.

— Добра, Саўка. Вельмі добра,— ухваліў Кастусь.— Цяпер давайце падумаем, куды яе перакінуць. Нам зараз жа, не трацячы часу, трэба друкаваць другі нумар сваёй газеты. Я ўжо ўсё зрабіў: маю тэкст, дамовіўся на гэты раз з адным наборшчыкам з Гродні.

— Без Валерыя нам не абысціся,— сказаў Фелікс.— Патрэбна новая леснічоўка.

— Згодзен,— сказаў Кастусь.— Яна ўсё ж спакайней для нас, чым горад. Падскоч, браце Фелікс, да Валерыя, а я кінуся ў Ваўкавыск. Думаю, там удасца што-небудзь праведаць... Праўда, я не веру, каб Язэп выдаў нас. Ён хлопец з галавою — прыдумае, што сказаць следчым. Ды і не слабы духам, відаць. Але як кажуць: беражонага і бог беражэ. А ты, Саўка, пакуль што старайся менш заглядваць у сваю бярлогу. Прывяжы Рудака да будкі. І калі ён дрэмле спакойна — заходзь папіць-паесці. А калі трывожыцца або гаўкае — носу не паказвай. Ды што цябе вучыць.

Кастусь абняў Саўку, прыгарнуў да сябе:

— А калі, браток, што якое — нічога не знаю, не ведаю. Ты разумееш мяне? Доказаў няма, і квіта. Мала хто што нагаворыць. Ва ўсякім разе так можна зарабіць толькі турму, а не пятлю на шыю...

— Я то яно разумею,— сказаў Саўка.— Каб не разумеў, не пайшоў бы з вамі адною дарогаю.

— Ну вось і добра, браток,— сказаў Кастусь.— Усе мы чым-небудзь рызыкуем: хто воляю, а хто і галавою. Але ж рызыкуем не так сабе. Перад намі вялікая мэта. Яна вышэй нашай рызыкі.

## XVI

У Ваўкавыску Кастусь доўга не затрымаўся. Ужо на другі дзень пасля свайго прыезду ён даведаўся пра ўсё, што яму было патрэбна.

Весткі пра Язэпа здабыў яму добры знаёмы, сакратар міравога пасрэдніка і ўдзельнік павятовай падпольнай арганізацыі Тамаш Мушынскі. Пра Язэпаву справу ён

гаварыў з самім сакратаром павятовага суда Ральцэвічам — блізкім сваім прыяцелем. Ральцэвіч пакуль што не далучаўся да падпольшчыкаў, і таму Мушынскі не сказаў яму адкрыта, чаму цікавіцца Язэпам. Проста сказаў, што чуў адным вухам пра нейкага страшнага разбойніка і крамольніка, які днямі трапіў у павятовую турму, і што быццам ён забіў свайго цівуна і раскіда́ў на дарогах нейкія забароненыя лісткі...

— Бач ты,— здзівіўся прыяцель Мушынскага,— як хутка абрастаюць чуткі выдумкамі!

— А што? Няпраўда? — у сваю чаргу здзівіўся і Мушынскі.

— Толькі палавіна праўды, калі не менш. Другую палавіну прыбавілі.

— Якая палавіна — першая ці другая?

— Палавіна першай і палавіна другой,— усміхнуўся Ральцэвіч.— Цівуна свайго ён не забіў, а толькі прыбіў. Гэта раз. Лісткоў забароненых па дарогах не раскідаў. Гэта два. Праўда, пан Жардзецкі знайшоў у яго ў торбе адзін такі лісток. Страшэнны, скажу табе. Я чытаў яго. Называецца «Мужыцкая праўда». Надрукаваны простаю мужыцкай гаворкаю.

— Ну дык што,— перапыніў яго Мушынскі.— Хіба ж гэтым ён страшэнны? Не чуў ты мужыцкай гаворкі, ці што?

— Страшэнны змест лістка...— растлумачыў Ральцэвіч.— Уяўляеш, самога цара-бацюхну абражаюць, калі не сказаць большага. Ну, і нашаму брату ўсыпалі... Адным словам, такіх лісткоў я яшчэ не чытаў.

— То дай хоць паглядзець на такое страхоцце,— папрасіў Мушынскі.

Ральцэвіч зрабіў вялікія вочы і падняў палец угору:

— Ого! Следчы нават мне баяўся паказваць.

— Цікава, цікава,— охаў і ахаў Мушынскі.— А мы нічога і не ведаем. То, можа, хоць пакажы мне гэтага разбойніка.

— Хм,— іранічна хмыкнуў прыяцель Мушынскага...— Разбойнік! Які ён там разбойнік. Звычайны дваровы хлапчук. Падлетак яшчэ. Ні чытаць, ні пісаць, вядома, не ўмее.

— Дык навошта яму спатрэбіўся крамольны лісток?

— Падняў, кажа, на дарозе. Ён, бачыш, пасля таго як прыбіў каменем свайго цівуна, уцёк ад пана і бадзяў-

ся недзе, жабраваў. А лісткі ж такія і падобныя, як сказаў мне следчы, ужо не першы раз знаходзяць людзі. Усё гэта падкопы Царства Польскага.

— Ну, і што ж вы з ім цяпер зробіце? На катаргу загоніце?

— Не думаю,— адказаў Ральцэвіч.— Пасядзіць гадоў тры ў астрозе як малалетак.

Гэтую сваю гаворку з сакратаром суда і перадаў Тамаш Мушынскі Кастусю. Яна, аднак, мала ўзрадавала яго. Кастусь вельмі блізка прыняў да сэрца новую Язэпаву бяду. Але ж і малайчына хлопец,— ганарыўся ён сваім названым малодшым братам. Не здрадзіў. Добра прыдумаў: падняў лісток на дарозе... І ніякі следчы да яго за гэта не прычэпіцца. Сам жа ён непісьменны, значыць, не ведае, што ў тым лістку. А вось за Дракулу яму, пэўна ж, не пашкадуюць астрога.

Вярнуўшыся ў Бераставіцу, Кастусь расказаў Феліксу, што пачуў ад Мушынскага. Фелікс таксама пахваліў Язэпа за добрую выдумку і таксама яшчэ раз шчыра пашкадаваў яго.

— Добра хоць, што ён астанецца тут, каля нас,— сказаў Фелікс.— Можа, што ўдасца зрабіць...

— Але,— згадзіўся Кастусь.— Я таксама пра гэта думаю. Нам, відаць, трэба неяк займець свайго прыяцеля ў самой турме. Тады лягчэй было б вырваць яго адтуль...

Кастусь змоўк, задумаўшыся. Фелікс не перапыняў яго думак. Ён выйшаў на кухню, дзе жонка рыхтавала пачастунак для госця.

Калі Фелікс вярнуўся ў пакой з міскай нарэзанай вяндліны, Кастусь запытаўся ў яго:

— Ну, а што ў Саколцы чуваць? Ты быў там?

— Быў,— адказаў Фелікс, ставячы талерку на стол.— Валерый таксама не верыць, каб Язэп — ён яму, дарэчы, вельмі спадабаўся з першай сустрэчы — выдаў Саўкаву лесьнічоўку. Але ўсё ж раіць перавезці друкарню ў іншае месца. На гэты раз бліжэй да яго.

— Што, можа, у Саколку?

— Не. Казаў, недалёка ад Саколкі. Таксама лесьнічоўка. Ён жа ў леснікоў і ляснічых, што ксёндз у парафіян.

— А валасныя пісары! — сказаў Кастусь.— Маладыя вунь — усе яго выхаванцы. Так што, браце Фелікс, без Валерыя мы кукавалі б. Ну добра, хай будзе так, як ён раіць. Гаспадарка наша пакуль што невялікая. Калі не

ў торбе, то на возе змесціцца. Нам абы ціхая мясціна. Я думаю, што шпікі і жандары Галера і Лелякова ўжо даўно пераграэслі ўсе гарады і мястэчкі губерні, шукаючы нашу друкарню. Ну ды няхай трасуць. Няхай іх трасца трасе, як сказаў бы мой бацька. Ён любіць такія прымаўкі. А як жа нам цяпер? Куды везці сваю друкарню?

— Валерый сам забярэ яе. Сказаў толькі, каб ты выклікаў наборшчыка і сам ехаў да яго ў Саколку з тэкстам чарговага нумара.

У той жа дзень з паштовым дыліжансам Кастусь паслаў Эразму Заблоцкаму пісьмо, у якім, апроч прывітанняў і іншага, былі і такія бяскрыўдныя словы: «Кніжку, аб якой я з табою гаварыў, высылай (не затрымліваючы) не Феліксу, а Валерыю». Эразм, вядома, зразумее гэтыя словы правільна і зробіць так, як было дамоўлена.

## XVII

Большую частку другога нумара сваёй газеты Кастусь таксама завёз Эразму Заблоцкаму: яго паштовыя сувязі з валасцямі і паветамі былі пакуль што самыя надзейныя. Пошту сваю ён сам развозіў і разносіў бліжэйшым ад горада адрасатам, а тыя перадавалі яе далей — дакладна так, як было распісана на пакетах. Так што за які тыдзень яна трапляла ў самыя далёкія куткі губерні.

У Гродні Кастусь даведаўся аб смерці Уладзіслава Сыракомлі. Узрушаны сумнаю навіною, ён неадкладна выехаў у Вільню аддаць апошні свой грамадзянскі доўг нябожчыку.

Уладзіслаў Сыракомля быў для Кастуся не толькі добры знаёмы і шчыры старэйшы сябар. Ён быў прыклад чалавека, які не прадаваў свой талент прыгнятальнікам простага народа — і польскага і беларускага, сярод якога ён пражыў сваё жыццё. Збіраючыся выдаваць «Мужыцкую праўду», Кастусь думаў і пра Сыракомлю: калі вядомы польскі паэт не цураецца мовы простага беларускага селяніна, то на якой жа іншай мове мусяць друкаваць газету яны самі, як не на сваёй роднай, беларускай?

Заадно Кастусю хацелася пачуць і свежыя навіны ад віленскіх сяброў, асабліва пра змены ў Варшаве пасля арышту Яраслава Дамброўскага. Ці не аслабіць гэты арышт сілы рэвалюцыйнай Варшавы? Ці не скарыстаюць

яго белыя або памяркоўныя, каб павярнуць стырно паўстання ў іншы бок? З усіх членаў Цэнтральнага нацыянальнага камітэта, як лічыў Кастусь, адзін толькі Яраслаў ясна разумеў свае задачы і цвёрда крочыў наперад простаю дарогаю. Іншыя або ішлі за ім гатовым следам, або шукалі пабочных сцежак.

Асабліва турбавала Кастуся, як наставіцца зараз Варшава да Літвы і Беларусі. Ніяк не мог ён згадзіцца стаць толькі сляпым слугою Цэнтральнага камітэта, забыцца, хто ты, чаго хочаш і чаму верыш. Нават Яраслаў не даваў пакуль што поўнага адказу на гэтыя трывожныя для Кастуся пытанні. Ці ўдасца цяпер дабіцца такога адказу ад Варшавы пасля страты Дамброўскага?

Нічога новага, аднак, у Вільні Кастусь не пачуў. Толькі лішні раз пасварыўся з Нестарам Дзюлеранам. Не сыходзяцца іх думкі і характары, ды і толькі. Акуратны службіст як на рабоце, так і тут, пры Камітэце, Нестар ні на крок не адступаўся ад наказаў Варшавы і сам не дабіваўся таго, каб гэтыя наказы мяняліся. Значыць, думаў Кастусь, больш надзеі на яго няма. Рана ці позна давядзецца пасылаць каго з Камітэта ў Варшаву, каб нарэшце разабрацца, каму мусіць належаць першае слова ў Літве і Беларусі.

Звяждоўскі таксама гаварыў з Кастусём з большай, чым можна было чакаць, асцярогаю. З яго слоў Кастусь зразумеў, што пасля арышту Дамброўскага жандары царскага намесніка ў Царстве Польскім вялікага князя Канстанціна натрапілі і на яго след. Ці ўдасца цяпер яму выслізнуць з засады? Ці не ёсць гэта пачатак разгрому штабаў? Хто ведае, якія весткі паспелі сабраць агенты князя Канстанціна і Назімава. І ці не заслалі яны сваіх людзей і ў іхнія ваяводскія арганізацыі?

Усе гэтыя пытанні вельмі трывожылі Звяждоўскага. У яго апускаліся рукі. Так што Літоўскім камітэтам цяпер больш кіраваў Дзюлеран, чым Звяждоўскі.

Кастуся ж, аднак, гэтая трывога за будучыню не расхаладзіла. Наадварот. Большая небяспека нараджала ў ім большую рашучасць і адвагу. Ён толькі лішні раз пераканаўся, што ствараць паўстанскую арганізацыю трэба не з адных камандзіраў, якіх жандары Назімава могуць у любы час вывесці са строю, а перш-наперш з радавых яе членаў — рабочага люду і мужыкоў. Іх усіх не

арыштуеш, каб і хацеў, бо не хопіць у цара ні турмаў, ні суддзяў.

Кастусю карцела хутчэй вярнуцца на сваю Гродзеншчыну і зноў апрануць сялянскую світку, абуць сялянскія лапці. Трэба біць ва ўсе званы, клікаць народ на вялікую святую справу. Інакш не пераможаш.

З Вільні ён ехаў на паштовых фурманках. Яму хацелася быць бліжэй да людзей, паслухаць, што яны гавораць, чым жывуць. На перапынках пры паштовых станцыях ён стараўся не мінаць рынкаў, корчмаў, а то і проста заходзіў у хаты або заводзіў гаворку з першым сустрэчным, у кім бачыў простага чалавека. Людзі ведалі, што робіцца ў іхняй ваколіцы, і расказвалі пра самае важнае. Але аб чым бы яны ні гаварылі, усё канчалася адным, найбольш важным: скрозь і ўсюды людзі чакалі волі. Не той, што даваў ім царскі маніфест, а сапраўднай, жаданай. Пра яе гаварылі, як пра нешта зусім блізкае: варта толькі адбыцца нейкаму цуду, і воля з'явіцца да іх ва ўсёй сваёй красе і велічы. Хто створыць гэты цуд? Можа, бог, а можа, і цар, які ўсё яшчэ не ведае, што яго маніфест аб волі падмянілі паны... Вось кончацца вясною два гады, як выйшаў маніфест, і цар вышле новы, але ўжо такі, што нікому яго падмяніць не ўдасца. Гэта і будзе той цуд, якога так шчыра і прагна чакаюць усе прыгонныя людзі. У новым маніфесце, пэўна ж, не будзе і гаворкі аб устаўных граматах або выкупе зямлі. Толькі б дачакацца гэтага маніфеста, не паддацца панам. Бо, кажуць, хто падпіша ўстаўныя граматы, таму ўжо і царскі маніфест не паможа: будзе ён адрабляць паншчыну яшчэ сем год, а потым дзесяткі гадоў плаціць казне ці пану — гэта ўсё роўна — за сваю зямлю-карміцельку.

Такія гаворкі Кастусь чуў і раней. Але яны зноў усё галасней і галасней напаміналі яму пра яго найпершы абавязак: расказваць і расказваць людзям праўду пра цара, якой яны, на вялікі жаль, усё яшчэ не ведаюць. Таму ў дарозе ён ужо думаў, што і як расказаць людзям у чарговым нумары «Мужыцкай праўды». У другім нумары ён вёў гаворку пра паноў: адкуль яны пайшлі і чаму адны людзі багатыя, а другія не толькі бедныя, а і бяспраўныя, як тая жывёліна. Уся ж зямля народная! Не панская, не царская, а — народная. Зямля тых людзей, якія на ёй нараджаюцца, жывуць, працуюць і паміраюць. Таму і не павінен ніхто анікому за яе ні адрабляць, ні

плаціць чынш. Вось каб згаварыліся так земляробы паміж сабою ды перасталі рабіць на розных дармаедаў! Цяжка гэтага дабіцца. А трэба дабівацца. Дзень за днём, цвёрда, упарта думаць і рабіць адно.

Праязджаючы недалёка ад родных мясцін, Кастуся моцна пацягнула да сябе Якушоўка — сядзіба бацькоў. Даўно ён іх не бачыў. З мачыхаю, праўда, ён ніколі не ладзіў. А бацьку любіў. Гэтак жа любіў братоў і сясцёр. Але найбольшае месца займаў у яго сэрцы старэйшы брат Віктар, які зрабіў яму дабра не менш, чым бацька, ужо хоць бы тым, што паклікаў яго з глухой лясной Якушоўкі ў вялікую дарогу — у Маскву, у Пецярбург, дзе як мог дапамагаў яму і добрым словам, і дарагой для абодвух капейкай, заробленай бяссоннымі начамі за перапіску розных спраў па заданню публічнай бібліятэкі. Ён жа вывеў Кастуся і на самы верны ў жыцці шлях, па якім ён ідзе зараз.

Са Свіслачы ў Якушоўку Кастусь ішоў пехатою. Быў ціхі летні адвячорак. Пясчаная палявая дарога яму добра знаёма з дзіцячых гадоў. Знаёмы не толькі кожны кусцік пры дарозе, але і кожны камень і каменьчык. Яму ішоў дванаццаты год, як пераехаў сюды, пасля смерці маці, яго бацька. Кастусь добра помніць, як доўга сумаваў ён па пакінутай роднай вёсцы Мастаўляны. Але потым прывык, і цяпер здаецца, што Мастаўляны — гэта толькі салодкі сон далёкага дзяцінства.

Абапал дарогі на шырокіх палетках палавела ярына. Дзе-нідзе мільгалі белыя хусцінкі жней. У Кастуся моцна зашчымела сэрца. Значыць, гнуць спіну яго землячкі на крывасмока пана Пуслоўскага, пана Пэйцыха, пана Бітнера, пана Ляскоўскага, як і гнулі да царскага маніфеста. Што ж змянілася? Або што зменіцца, калі мінуцца і астатнія гады часовага прыгону? Сам жа пан ці яго жонка і дзеці не захочуць жаць свае палеткі. Рабіць гэта будуць тыя ж Ганкі ды Марынкі з курных вёсак і вёсачак за нікчэмныя капейкі...

Чым бліжэй падыходзіў Кастусь да свайго хутара, тым ясней вырасталі перад ім цёмныя лясы на гарызонце. Некалі гэтыя лясы падступалі да самай ракі Свіслач. Але, калі тут, на правым яе беразе, заснаваў сваё жыллё чалавек, яны пачалі патроху адступаць. Апошняя, відаць, засялялася Якушоўка. Тут, на невысокім узгорку пры Свіслацкай пушчы, і стаяў адзінокі хутар яго бацькоў.

Прасторны драўляны дом, крыты гонтамі, быў акружаны густым старым садам, у якім, апроч пладовых дрэў, расло безліч розных ягадных кустоў, пачынаючы ад маліны і канчаючы шыпшынай. Насупраць дома, за сядзібай, размяшчалася бацькава ткацкая майстэрня, а побач з ёю, з паўночнага боку, траха не кожны дзень лапатаў сваімі крыламі высокі вятрак. У ім малоў збожжа не толькі сам гаспадар, а і суседзі — блізкія і далёкія.

З усіх хутарскіх будынкаў Кастусь найбольш любіў гэты вятрак. Тут заўсёды можна было сустрэць чужых людзей, пачуць свежыя навіны. Ён любіў залазіць па бакавых драбінах на самы верх ветрака і сядзець там гадзінамі, з замілаваннем разглядаючы маляўнічую ваколіцу. Адсюль добра відаць былі і бліжэйшыя вёскі і само мястэчка Свіслач, дзе ў ясныя дні выразна вылучаўся масіўны белы будынак знаёмай яму прагімназіі ў вянку стогадовых ліп і таполяў.

Каля дома Кастуся сустрэў стары шэры сабака з доўгімі абвіслымі вушамі па клічцы Галас. Галас не пазнаў Кастуся і кінуўся да яго з хрыплым брэхам: «Хто ты? Не падыходзь блізка!»

Кастусь спыніўся, загаварыў дружалюбна:

— Ах ты, псіна старая, сваіх не пазнаеш!

Галас вінавата заскуголіў і завіляў хвастом. Кастусь падышоў бліжэй, пагладзіў яго:

— Ну, добры дзень ці добры вечар, Галас! Як маешся, стары?

Сабака лізнуў руку Кастусю і, ужо радасна скуголячы, адышоўся ўбок, саступаючы дарогу: «Ідзі сабе, чалавеча, ты свой, гэта чуваць па голасе і па вопратцы: яна пахне нечым вельмі ж знаёмым».

## XVIII

Не паспеў Кастусь адчыніць фортку ў варотах бацькоўскага дома, як убачыў перад сабою старэйшага брата Віктара. Невялічкі дарожны саквояжык выпаў з Кастусёвых рук. Браты моцна абняліся.

— Вось дык неспадзяванка! — радаваўся Кастусь.— Не думаў, не гадаў...

— А для мяне яшчэ большая,— адказаў Віктар.— Бацька гаварыў, ты дома і не стыкаешся і дзе жывеш — невядома. А тут раптам...

— Як ведаў, што ты прыехаў! Чуццё ў мяне добрае. Не такое, як у нашага старога Галаса. Ён не хацеў мяне дадому пусціць.

Віктар падхапіў Кастусёў саквояжык, і браты падняліся на ганак, куды ўжо выбегла ўся сям'я.

Пасля гарачых прывітанняў і пацалункаў Віктар завёў Кастуся ў свой пакой, дзе той адразу ж пераапрануўся ў лёгкую паласатую піжаму, на ногі ўссунуў хатнія пантофлі.

— Ой як добра апынуцца дома пасля вялікай дарогі! — гаварыў Кастусь.— Астаецца яшчэ толькі памыцца, і тады хоць на ігрышча гатоў!

Хутка сястра Казіміра паклікала братоў вячэраць.

— Мы як ведалі, што ты прыедзеш,— гаварыла яна Кастусю.

— А што?

— Наварылі на вячэру тваіх любімых бульбяных клюцак [1] з малаком.

— Ну тады я бягом бягу! Даўнютка не еў такога далікатэсу.

— Сам вінаваты,— сказала сястра.— Рэдка дома бываеш.

Вячэралі ўсе разам у вялікім сталовым пакоі. За стол паселі ў тым жа парадку, які быў заведзены ў сям'і даўно: Віктар і Кастусь занялі свае старыя месцы, побач з бацькам.

Усе радаваліся такому поўнаму збору сям'і. Нават мачыха, невысокая худая жанчына са смуглым тварам, як здалося Кастусю, не глядзела сёння скоса на старэйшых пасынкаў.

Бацька, Сымон Сцяпанавіч, пажылы шыракаплечы мужчына з густа пасівелымі скронямі і вусамі, сядзеў на самым пачэсным месцы, пад абразом Саваофа, і не зводзіў вачэй з свайго любімага, але нейкага, як здавалася яму, загадкавага сына Кастуся. Віктара ён таксама любіў. Але бачыў у ім чалавека глыбока няшчаснага. Жоўтабелы твар, часты неспакойны кашаль ясна гаварылі аб яго невыпадковай хваробе. Кастусь жа сама што набіраў сілу: румяны, загарэлы, дужы... Такім помніць сябе ў маладыя гады і сам Сымон Сцяпанавіч. Толькі быў ён крыху вышэйшы ростам, такі, як Віктар. Кастусь узяў сёе-тое і ад

[1] Клюцкі — клёцкі.

маткі: задуменны пагляд цёмна-шэрых разумных вачэй, буйныя рысы твару. Як бы пацешылася цяпер яго першая жонка, Вераніка, з свайго Кастуськаǃ Яна ж пакінула яго зусім яшчэ маленькага. Ды не судзіў ёй лёс самой гадаваць сваіх дзяцей. А без яе, пры мачысе, меншыя дзеці яго і Веранікі доўга не затрымаліся на гэтым свеце.

На вячэру падалі спачатку верашчаку з мяккай маладой парасяцінай. Прагаладаўшыся за дарогу, Кастусь не мог адарвацца ад яе. Сястра Казіміра ўсё падбаўляла яму, а ён не пярэчыў, бо верашчака таксама была яго любімая страва. Але калі нарэшце дайшло да клёцак, пашкадаваў: для іх ужо, бадай, і не заставалася месца.

Елі ўсе моўчкі, прывучаны да такога парадку за сталом з малых гадоў, па прыказцы: «Як ем, дык глух і нем». Хоць і хацелася бацьку хутчэй распытацца ў Кастуся, ці знайшоў ён ужо сталую службу, якую шукае другі год, дзе жыве і як жыве. Можа, ужо ажаніўся і ашчаслівіў яго, старога, унукам ці ўнучкай. Па гадах — самая пара.

Аднак бацьку не ўдалося пагаварыць з Кастусём і пасля вячэры, бо ім зноў заўладаў Віктар. Браты выйшлі ў сад. Там, у густа заплеценай дзікім вінаградам альтанцы, яны знайшлі спакойнае месца, каб пагаварыць аб сваіх справах.

Ніякіх сакрэтаў у братоў не было. Але з таго часу як Кастусь пакінуў Пецярбург, яны ведалі адзін пра аднаго толькі па расказах сяброў. Нават паштовай перапіскі не вялі: у неспакойным Паўночна-Заходнім краі яна магла трапіць у рукі тых, каго трэба асцерагацца, як самай горшай хваробы.

Вось чаму зараз у кожнага з братоў было гэтулькі пытанняў, што для адказу на іх не хапіла і ночы.

Віктар прызнаўся брату, што здароўе яго зусім пагоршала і ён пакінуў сталіцу, каб падыхаць тут, у лясной Якушоўцы, свежым чыстым паветрам. На гэта зараз уся яго надзея, бо ехаць на поўдзень або ў Арэнбургскую губерню на кумыс, куды яму раяць дактары, ён не можа: для гэтага патрэбны вялікія грошы, а ён, як і раней, зарабляе толькі на хлеб надзённы.

Пра рэвалюцыйныя настроі ў сталіцы Віктар сказаў:

— Баюся, што мы там намнога адсталі ад вас.

— Вось гэтага і я баюся,— сказаў Кастусь.— Хоць таксама пахваліцца нам няма чым. Мы яшчэ больш гаворым, чым робім.

— Аб чым жа вы хоць гаворыце? — цікавіўся Віктар.— Ці адна ў нас з вамі гаворка?

Кастусь расказаў пра апошнія свае сустрэчы ў Вільні. Не прамінуў пахваліцца брату і «Мужыцкай праўдаю». Віктара вельмі зацікавіла газета, і ён спытаўся, ці не мае яе Кастусь пры сабе.

— Вядома,— адказаў брат.— Я з ёю цяпер і не разлучаюся.

Віктару захацелася прачытаць Кастусёву газету, але на дварэ ўжо сцямнела, і яны вярнуліся ў дом. Там Віктар запаліў свечку, а Кастусь дастаў з свайго саквяжыка два нумары газеты і падаў брату са словамі:

— Толькі не вельмі ганьбуй. Мы грамацеі не такія вялікія, як ты...

Віктар з увагаю прачытаў газеты.

— Добрая газета,— пахваліў ён.— Гэта якраз тое, што зараз патрэбна простаму чалавеку: расказаць яму праўду пра цара і яго парадкі, разбудзіць яго грамадзянскую свядомасць. Я вельмі і вельмі рад за цябе, Кастусь. Ты знайшоў у жыцці цвёрды грунт, на якім моцна стаіш. У мяне ж такога грунту няма...

— Не скромнічай, Віктар,— усміхнуўся Кастусь.— Тут жа, браце, і твае думкі! Хіба ж не ты вучыў мяне праўдзе?

— Але ж не я напісаў і надрукаваў гэтыя лісткі... У іх жа больш дабра людзям, чым я зрабіў за ўсё сваё жыццё. Я шчыра кажу і, па праву старэйшага, благаслаўляю цябе на святую справу.

Віктар расхваляваўся і закашляўся. Кашляў ён доўга і цяжка. Кастусь прынёс яму з кухні цёплай вады з содаю. І калі Віктару крыху палягчэла, ён зноў вярнуўся да «Мужыцкай праўды».

— Ты толькі не крыўдуй, Кастусь, але я ўсё ж хачу сказаць табе пра адну недакладнасць у нумары другім.

— Што ты, што ты, Віктар,— замахаў рукамі Кастусь.— Каб я ды пакрыўдзіўся на цябе...

— Ты не зусім правільна тлумачыш, адкуль пайшлі паны і паншчына...

— Але ж гэтак тлумачаць і іншыя.

— Ну так. Толькі, ведаеш, такое тлумачэнне, апрача ўсяго, нейкае надта ж блытанае, або, як кажуць па-вучонаму, нелагічнае.

— У чым?

— Ты пішаш, што некалі польска-літоўскія князі і каралі раздавалі землі сваім служылым людзям. А тыя, хто не служыў князям, вымушаны былі служыць каралеўскім дружыннікам або шляхце.

— Так жа па гісторыі...— заўважыў Кастусь.

— Гісторыю трэба ўмець чытаць. Ужо даўно каралям і царам служаць усе — і шляхта і мужыкі. Чаму ж тады Радзівілы маюць дзесяткі маёнткаў, а я, ты і ўсе іншыя простыя людзі — ні аднаго? У чым тут справа?

— Дык у Радзівілаў маёнткі спадчынныя. Гэта іхняя ўласнасць.

— Добра. Згодзімся. Але ж вялікі літоўскі князь ці польскі кароль не падарылі далёкаму продку князёў Радзівілаў дзесяткі маёнткаў за яго службу. Адкуль жа яны цяпер у нашчадкаў таго ваякі Радзівіла? Не бог жа ім даў...

— Гм...— задумаўся Кастусь.— Вядома, не бог.

— Я зусім не папракаю цябе,— сказаў Віктар.— Мне і самому нялёгка разабрацца, як усё гэта было. Відаць, асноўнае тут — іменна ўласнасць на зямлю, як ты сказаў. Яе можна купіць і прадаць. Хто багаты, можа купіць зямлю ў другога, хто яе прадае. А памочнікам уласнасці стала дармовая праца запрыгоненых мужыкоў. Без мужыкоў ні адзін пан не пражыве і не разбагацее, каб прыкупіць новыя маёнткі. Так што, калі добра разабрацца, усе панскія землі і багацці па праву належаць запрыгоненым мужыкам, а не каму іншаму.

— Вось з гэтым я згодзен! — падхапіў Кастусь.— Іменна самі земляробы-мужыкі мусяць стаць гаспадарамі зямлі, а не паны-дармаеды!

— Дзяржава тут таксама адыграла сваю ролю,— працягваў Віктар.

— Якім чынам?

— Хто ўзаконіў прыгоннае права? Дзяржава. А дакладней — тыя ж каралі і цары. Хацелі мужыкі, каб іх запрыгонілі? Ніколі! Капаючыся ў архівах, я знайшоў цэлыя горы спраў аб мужыцкіх бунтах... Вякамі ішла вялікая спрэчка: паны-землеўласнікі ўсё тужэй і тужэй зацягвалі пятлю на шыі сваіх прыгонных, а прыгонныя стараліся вылузацца з гэтай пятлі. Уцякалі за Дон, засялялі халодныя сібірскія пустэчы, узнімалі бунты і нават цэлыя войны...

Кастусь слухаў брата як зачараваны. Ён любіў гісто-

рыю, шмат чаго чытаў. Але пра тое, што гаварыў Віктар, у кнігах або не пішацца, або тлумачыцца зусім па-іншаму. Супакойвала яго зараз толькі тое, што ён зусім не збіраўся абараняць паноў і іх правa на маёнткі, як бы яны ім ні дасталіся. Вывад ён усё ж зрабіў правільны — паны не сябры мужыкоў і няма чаго служыць ім прыгон або плаціць чынш.

— А ўсё ж, брат,— папрасіў Кастусь,— растлумач ты мне ясней: чаму князі і каралі запанавалі над народам? Як гэта здарылася? Для мяне тут не ўсё ясна. Гісторыю я вучыў, каб здаць экзамен. Не так, як ты.

— Растлумачыць табе адным-двума словамі не лёгка,— адказаў Віктар.— Гісторыя — гэта навука. А навуковыя ісціны апошніх часоў нельга пазнаць, не ведаючы, што было раней, да іх. Дык вось — будзеш слухаць і пра тое, што табе вядома і што напэўна невядома?

— Калі ласка! З ахвотаю. Спаць усё роўна яшчэ не хочацца.

— Спаць не будзем, а прылегчы не шкодзіць,— сказаў Віктар.— Я займу зручнае месца на сваім ложку, а ты, калі хочаш,— прыладжвайся на канапе.

— Добра. Добра. Я пакуль што пасяджу. А ты лезь пад коўдру. Табе цяпло патрэбна.

Віктар раздзеўся і залез пад коўдру.

— Некалі,— пачаў ён, адкашляўшыся,— не было ні бедных, ні багатых. Былі людзі, і толькі. Вандравалі па зямлі, шукаючы спажывы: дзе карэнні капалі, зярняты дзікіх раслін вылушчвалі, дзе рыбу лавілі ці на звера з дубінамі палявалі. Зямля іх не цікавіла: яны яе не ўраблялі. Нарэшце, відаць, надакучыла людзям бадзяцца па свеце. Яны зрабілі матыку, спачатку з каменя, потым з бронзы, змайстравалі з яловага сука саху, прыручылі дзікага каня ды пачалі ўрабляць зямлю, сеяць на ёй дзікую збажыну. Тую, што раней збіралі па каліву. Ўробленая такім чынам зямля стала карміць людзей лепш, чым раней. Вось тады яны і зацікавіліся ёю па-сапраўднаму. І ўсё больш і больш асядалі на адным якім месцы, вядома, найбольш зручным і найбольш ўрадлівым: пры рэках і азёрах, пры лясах.

А тым часам людзей на зямлі прыбаўлялася. Сваяцкія роды злучаліся ў плямёны — па-нашаму гэта ўжо цэлыя дзяржавы. На зямлі цяперашняй Белай Русі гісторыя помніць тры асноўныя плямёны: крывічы — на поўначы,

дрыгавічы — на поўдні і радзімічы — на ўсходзе. Ды, на нашу бяду, ні роды, ні тым больш плямёны не жылі мірна між сабою. І калі роды мелі толькі невялікія сутычкі з суседзямі за лепшыя мясціны для збору пладоў зямных, то плямёны заводзілі між сабою ўжо цэлыя войны. Вось да чаго дайшлі тыя першыя людзі, асеўшы на зямлі! А войны ж без ваявод і войска, як ведаеш, не вядуцца. Так паявіліся на свеце першыя князі-ваяводы і першыя дружыны. Ад іх і пайшло ўсё зло на зямлі. Спачатку плямёны выбіралі сабе князёў з больш вядомых сваёй смеласцю і храбрасцю. Такога князя яны маглі і скінуць, калі ён ім быў не да спадобы. А потым гэтае народнае права неяк забылася, страцілася, і князі ўзялі верх над сваімі плямёнамі. Яны прысвоілі сабе і землі, на якіх жылі плямёны, і саміх людзей. Тады ўжо не гаварылі: зямля крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. А гаварылі: зямля полацкіх, тураўскіх, мінскіх князёў.

Князь, вядома, рабіў з сваёй зямлёю, што хацеў. Добрую частку яе ён, і праўда, раздаваў сваім дружыннікам: рускія іх называлі баярамі, палякі — шляхтаю, а немцы і французы — рыцарамі. Другую частку князь раздаваў сваім дзецям, князянятам, дарыў сваім памагатым, па-нашаму — чыноўнікам за службу часова або навечна. А калі ў князя не хапала грошай для вайны, ён здаваў частку сваіх уладанняў багатым людзям пад залог за пазыку. Час мінаў, вярнуць пазыку князь не мог, зямля так і заставалася ў пазычальніка. Так рабілі князі, так рабілі і каралі, і цары.

— Ну добра,— згаджаўся Кастусь.— Можа, яно так і было з зямлёю. А што ж з людзьмі? Чаму яны страцілі волю?

— Гэта таксама не скора рабілася,— адказаў Віктар.— У нас жа і да апошняга царскага маніфеста былі людзі вольныя і прыгонныя, панскія і скарбовыя. Раней усе людзі былі вольныя, хоць і лічыліся княжацкімі. Адны служылі самому князю, другія жылі на яго зямлі або на землях, дараваных князем сваім памагатым за службу — такія землі так і называліся службамі або памесцямі. Ад гэтай назвы потым і выйшла рускае слова памешчык. Але трэба ведаць, што зямля без людзей ні ў тыя часы, ні цяпер ніякага кошту не мае. Дзікая прырода, ды і толькі. І калі князь дарыў каму-небудзь зямлю, то мелася на ўвазе, што ён дорыць яе разам з людзьмі-земляробамі. Бо

што ж сам баярын зробіць з гэтаю зямлёю? Калі б ён сам урабляў яе, то яму б хапіла дзесяцін дзесяць — дваццаць. А тысячы — навошта? Простым княжацкім дружыннікам, праўда, лішняй зямлі і не давалася: валоку, рэдка дзве, гэта значыць дваццаць або сорак дзесяцін. Гэтулькі, колькі трэба яму, каб пракарміцца з сям'ёй і трымаць напагатове баявога каня на выпадак вайны. Дык вось простыя людзі — не дружыннікі, што жылі на княжацкай ці баярскай зямлі, плацілі ім за яе пэўную даніну, нешта накшталт арэнды. Заплаціў свой чынш, і ты вольны. Хочаш — жыві на зямлі свайго гаспадара, хочаш — шукай іншага месца. Праўда, і тады былі для вольнага чалавека ўсялякія рагаткі: ну, напрыклад, так званая абшчына — гуртавая павіннасць перад сваім панам. Але гэта было яшчэ паўбяды. Бяда пачалася пазней, калі багатыя паны-землеўласнікі, або, як іх тады звалі,— феадалы, увайшлі ўсмак і завялі свае ўласныя маёнткі. А рабіць у гэтых маёнтках прымушалі тых людзей, што жылі на іх землях. Людзі, вядома, ішлі ў гэтае ярмо без жаднай ахвоты. Бунтаваліся, кідалі свае сядзібы і ўцякалі куды вочы глядзяць. Так збіраліся цэлыя вольніцы, як, напрыклад, вольніца запарожскіх казакоў. Але і паны-феадалы не здаваліся. На іх баку былі князі і каралі з войскамі. І так год за годам, век за векам яны ператваралі былога вольнага земляроба ў сапраўднага нявольніка. Ён, небарака, не мог ужо сам, па сваёй волі, ні дыхнуць, ні зяхнуць. Гэта ўжо ты добра ведаеш.

— Дзіва што. Але Кавелін[1] нам не так расказваў...

— Што Кавелін? Сяргей Міхайлавіч Салаўёў трошкі лепш разбіраецца ў гісторыі, ды і то што робіць? Гаворачы аб прыгоне, больш спачувае дваранам-землеўласнікам, чым іх нявольнікам. Бачыце, кажа ён, дваране былі запрыгонены дзяржаўнаю службай: яны, маўляў, і войскі трымалі, і царскую службу спраўлялі, і Расію хлебам кармілі...

— А самі прыгонныя што рабілі?

— Ну, выходзіць, дапамагалі сваім панам дзяржаўны прыгон адбываць. Трэба так разумець. Вось і разбірайся цяпер, чаму адны пануюць, а другія гаруюць і ці мае хоць якое права князь Радзівіл трымаць дзесяткі маёнткаў

---

[1] Кавелін К. Д. — гісторык і юрыст, у якога вучыўся Кастусь Каліноўскі.

у той час, як многія людзі гібеюць без кавалка зямлі. Мне даўно прыходзяць у галаву такія невясёлыя думкі. А вазьмі землі царкоўныя і манастырскія. Рыцараў сярод манахаў я не ведаю. Але затое добра ведаю, як трапілі да іх цэлыя маёнткі.

— Вымалілі ў бога,— пажартаваў Кастусь.

— Было і такое. Страшылі набожных паноў пеклам на тым свеце, калі яны не ахвяроўвалі сваіх маёнткаў або грошай святому касцёлу. А колькі перадалі ім земляў самі князі і каралі! І ўсё з тымі ж прыгоннымі мужыкамі. За гэта папы і ксяндзы ахвотна знімалі з іх мірскія грахі і абяцалі царства нябеснае. А трэба сказаць, грашылі тыя дарыльшчыкі страшэнна.

Польскія паны прадаваліся за грошы каму хочаш. Любы магнат мог падкупіць крыкуноў з польскага сейма, каб правесці патрэбны для сябе закон. Польскія каралі вялікай улады не мелі — іх выбіраў сейм, як некалі выбіралі людзі князёў. І таму паны рабілі, што хацелі: не толькі чынілі суд і расправу над сваімі прыгоннымі, а часта і ваявалі адзін з адным або хадзілі грабіць суседзяў і за межамі сваёй краіны. У іх былі свае войскі — гусары і ўся ваенная зброя. Вядома, што ў 1764 годзе багаты князь Чартарыскі напаў быў на радзівілаўскі горад Нясвіж і страляў па ім з гарматаў... Адзін з Радзівілаў, Януш, якому кароль Сігізмунд падарыў аж чатыры староствы за службу, вельмі захацеў мець яшчэ і пятае — нейкае Дудзінскае. Але тое староства было падорана каралём раней князю Хадкевічу. Дык што ж — князь Януш пайшоў вайною на князя Хадкевіча... Так, так, сапраўдную вайну распачаў. І толькі каралю сяк-так удалося іх памірыць.

А што яны рабілі над сваімі прыгоннымі або нават тымі вольнымі, але бяднейшымі за іх шляхціцамі, якія ім чым-небудзь не дагаджалі або станавіліся ўпоперак дарогі! Ніякі суд не мог заступіцца за такую ахвяру. Адзін ратунак быў — кідаць усё і ратавацца за сценамі манастыра.

Аднойчы страха не пацярпеў цэлы горад — Мінск — з-за буянства нейкага пана Валадковіча — блізкага сябра віленскага ваяводы Радзівіла: Радзівілаў тады ўсюды хапала! Уварваўшыся ал няма чаго рабіць у Мінскі трыбунал, ён пасек шабляю Хрыстова распяцце і параніў высокіх суддзяў. Але яны яму на гэты раз не даравалі: пры-

судзілі да кары смерцю. Дачуўся пра гэта гарачы і фанабэрысты ваявода Радзівіл. Сабраў войска і рушыў на Мінск: «Сатру яго з твару зямлі разам з суддзямі!» — бушаваў ён. Выратавала горад толькі тое, што гэты Радзівіл быў дужа набожны. Блізкія сябры ўгаварылі яго лепш паклапаціцца аб святой душы пана Валадковіча: загадаць мінскім і віленскім касцёлам вечна маліцца за яго... Ваявода паслухаў добрай рады і павярнуў войска назад.

Не дзіва, што яшчэ ў мінулым веку ўсім была вядома прыказка: «Не хачу быць каралём, хачу быць Радзівілам». З даўніх часоў ходзіць па людзях і другая прыказка: «Кароль — у Польшчы, Радзівіл — у Нясвіжы». Гэты самы Нясвіж з шаснаццатага веку — такая ж сталіца для Радзівілаў, як Варшава — для польскіх каралёў. У Нясвіжы князі Радзівілы трымалі не толькі безліч сваіх слуг, але і сваё войска. «Багацці тут,— як піша ў сваёй кніжцы пра Нясвіж вядомы табе Уладзіслаў Сыракомля,— былі незлічоныя. Без пераўвелічэння можна сказаць, што большая палавіна Літвы і значная частка Украіны, Белая Русь і без малога ўсё Палессе прыносілі сюды даніну за свой хлеб, за свае лясы, за рыб, што ў водах, за птушак і пчол, што ў паветры, і, хто ведае, можа, і за самае паветра. Праца тысяч сялян, абмененая на золата, напаўняла тутэйшыя скарбніцы дарагімі рэчамі, тутэйшыя скляпы найлепшымі вінамі, свет здзіўленнем...» Я пераказаў гэтую мясціну з яго кнігі бадай што даслоўна, бо яна мне добра запомнілася.

Пра аднаго з Радзівілаў французскі пасол пісаў свайму каралю: «Радзівіл — сапраўдная свіння, але гэта самы славуты пан у Польшчы».

Вось такія, браток, сапраўдныя жывёліны і тварылі суд і расправу над людзьмі на нашай зямлі.

Віктар змоўк, выціраючы рукою спацелы лоб.

— Так, так,— сказаў Кастусь.— Незайздросная гісторыя ў нашых продкаў...

— Але,— зноў загаварыў Віктар.— А да чаго прыводзіць прага да багацця і ўлады над простым народам, добра відаць хоць бы з такога выпадку. Крайчы Вялікага Літоўскага князя нехта Цэханавецкі збіраўся жаніцца з дачкою аршанскага старасты Лапацінскага.

Віктар узяў са століка, што стаяў пры ложку, кубак з вадою, адпіў крыху.

— Крайчы ж, ведаеш, хто? Саноўнік пры каралю або вялікім князю. Чын і тытул высокі, а сказаць, чым ён займаўся, дык аж смешна: рэзаў мяса для каралеўскага стала...

Кастусь, і праўда, шчыра рассмяяўся:

— Ну і саноўнік! Ён жа звычайны мяснік.

— Калі б ён рэзаў мяса ў нашых свіслацкіх ятках [1], то быў бы, вядома, звычайны. Каралеўскі або вялікакняжацкі мяснік быў багаты магнат, меў цэлыя маёнткі. Праўда, крайчаму Цэханавецкаму іх пакінуў пасля смерці яго бацька — былы аршанскі стараста. Так што, як бачыш, мяснікі бываюць розныя.

— Але,— сказаў Кастусь.— Праўду людзі кажуць: бог не роўна дзеліць.

— Дык вось гэты самы крайчы пасватаўся да дачкі новага аршанскага старасты Лапацінскага. Лапацінскі, вядома, рад быў займець такога знакамітага зяця. Мець сваю руку пры вялікакняжацкім двары — хто б гэтага не хацеў? Дык не дзіва, што пра такое сватаўство разванілі на ўсё староства. Трэба ж, каб усе ведалі, які вялікі гонар выпаў новаму старасту. Тым часам дайшла чутка пра гэтае вяселле і да адной старой кабеты — жабрачкі. Яна заўсёды стаяла каля касцёла з працягнутаю рукою. З таго і жыла.

— Ды гэта ж мой родны сынок жэніцца,— пахвалілася старая суседкам-жабрачкам.

— Які сынок? — здзівіліся тыя.— Што ты, няшчасная, выдумляеш?!

— Сынок, кажу, і ўсё тут... Я ніколі нікому раней не казала. А цяпер кажу. Няхай жэніцца шчаслівенек.

Бабскія гаворкі дайшлі да ксяндза.

Той да жабрачкі:

— Што за глупства ты вярзеш, раба божая? Цэханавецкі — магнат, вядомы ўсім у княстве. А ты — хто?

— Але ён мой родны сын,— з гонарам гаварыла жабрачка, і вочы яе гарэлі радасным святлом.

— Звар'яцела! — не верыў ксёндз.

— Не звар'яцела, пане ксенжа. Магу хоць на святым крыжы прысягнуць...

І яна расказала ксяндзу, што некалі была кухаркаю ў старасты Цэханавецкага і карміліцаю яго малога сынка. Жыў ён, як гэта і водзіцца ў багатых паноў, у свае першыя

[1] Яткі — мясныя крамы, мясны рад.

гады ў кухаркі і гадаваўся разам з яе родным сынам. Маці-пані займалася сваімі строямі, балямі, і ёй было не да сына. Але вось праз нейкі час здарылася няшчасце: панскі сынок памёр... Баючыся кары (паны, нябось, у такіх выпадках вінавацілі не хваробу і нават не бога, а карміліцу, і бывала, цягнулі яе на шыбеніцу або жывой закопвалі ў зямлю), кухарка сказала сваім панам, што памёр яе ўласны сын, а іх, дзякаваць богу, жывы і здаровы. Паны-бацькі, вядома, супакоіліся, і на гэтым справа скончылася. Адным словам, так і гадаваўся сын кухаркі, як панскі. Вырас, стаў багаты і знакаміты. Бацькі яго паўміралі. Старую карміліцу выгналі вон як непатрэбную...

Ашаломлены такою навіною, ксёндз кінуўся да старасты Лапацінскага — будучага шчаслівага цесця жабраччынага сына.

У старасты дух заняло і вочы на лоб палезлі. Паклікаў ён старую. А яна і яму сказала тое, што і ксяндзу.

— Няшчасная! — крыкнуў разгневаны староста.— Паглядзім, ці зробіш ты прысягу перад маім галоўным суддзёю!

Жабрачка прысягнула.

Дайшла гэтая страшная вестка і да крайчага. І ён успомніў, як яго бацькі часта шкадавалі, што сынок зусім на іх не падобны... Значыць, старая кухарка не хлуся. Яна — яго родная маці!.. Але ж гэта адразу робіць жабраком і яго самога: як незаконны сын нябожчыка Цэханавецкага, ён траціць права на спадчыну... Усе яго маёнткі пяройдуць да блізкіх сваякоў нябожчыка старасты. І тады ўжо не быць яму ні крайчым, ні зяцем новага старасты. Ён проста стане звычайным халопам.

Акрыяўшы крыху ад такога ўдару, крайчы кінуўся да маткі-жабрачкі. Ах, якая яна была шчаслівая, што да яе вярнуўся яе родны сын! Яна плакала і не магла спыніць слёз радасці. А сын, стоячы перад ёю на каленях, маліў і прасіў, каб яна не губіла яго... Ён кляўся даць ёй усё, што яна хацела, каб адраклася ад сваіх слоў. Але адрачыся ад сваіх слоў для маткі значыла тое ж, што адрачыся ад свайго сына на векі вечныя. А яна ж усе гады толькі і думала пра яго, бачыла яго ў снах, гаварыла з ім, цешылася з яго. І ўсё ж, калі крайчы намаляваў перад ёю незайздросную карціну сваёй будучыні, яна зразумела, якую яму капае роднаму сыну. З жахам пайшла яна да старасты і сказала, што гаварыла няпраўду.

Але ж за паклёп на магната каралі смерцю. Сын гэта ведаў. Утаіць справы цяпер ужо нельга было. І сын даў згоду старасту судзіць жабрачку за паклёп. Толькі папрасіў, каб не каралі яе да таго часу, пакуль ён не вернецца з Варшавы. Ён спадзяваўся дастаць у караля жалезную грамату.

— Прыдумалі ж як — жалезная грамата! — усміхнуўся Кастусь.

— Але. Сапраўды прыдумалі.

— Чаму жалезная, а не каменная ці драўляная?

— Відаць, хацелі паказаць вялікую сілу каралеўскай граматы.

— Ну, калі ласка, расказвай, расказвай. Гэта ж трагічная гісторыя, вартая пяра самога Шэкспіра,— гаварыў Кастусь, захоплены праўдзівым апавяданнем з сівой мінуўшчыны.

— Крайчы паехаў да караля Веснавецкага. А матку яго галоўны суддзя староства прысудзіў да кары смерцю за паклёп. Тым часам, пакуль крайчы ездзіў — дарога ж немалая,— старасту Лапацінскага паклікаў да сябе вялікі князь. Сабраўся ён і паехаў у Вільню, а суддзі сказаў, каб павесілі паклёпніцу тады, калі вернецца з Варшавы крайчы.

Ну вось, вярнуўся нарэшце і крайчы з жалезнаю граматай. Ды за дарогу перадумаў і паказваць яе суддзі не адважыўся. Лепш усё ж, вырашыў ён, калі старой не будзе на свеце. Тады яму ніякага клопату. Усе будуць ведаць, што былая панская кухарка звар'яцела і нагаварыла глупства, за што яе і пакаралі. А то, крый божа, яшчэ перадумае ды зноў пачне яго за роднага сына прызнаваць...

Суддзя, вядома, зрабіў так, як загадаў яму стараста...

Вось якая гэта сумная гісторыя,— ціха закончыў Віктар.

— І сумная і павучальная! — сказаў усхваляваны пачутым Кастусь.— Багацце і знатнасць губяць самую душу чалавека. Святое святых — родную маці — крайчы памяняў на бяздушныя маёнткі і высокі мясніко́ўскі чын. Не, чалавек, калі ён хоча астацца чалавекам, рана ці позна мусіць вярнуцца да пачатку сваёй гісторыі: зрабіць і зямлю і ўсе багацці нічыімі. Тады ўсё зноў стане на сваё месца.

— Але ж тады зноў з'явіцца які-небудзь князь, потым кароль або цар...

— І пачнецца казка пра белага бычка, ты хочаш сказаць?

— Ды хоць бы і пра бычка...

— Так...— задумаўся Кастусь.— Ёсць над чым галаву паламаць. Ты не дужа змарыўся? Можа, спаць будзем?

— Наўрад ці я цяпер засну,— сказаў Віктар.— Ты раскатурхаў мой сон і мае думкі.

— Гэтак жа, як ты мае. Ну калі так, то скажы мне яшчэ адно: для чаго ж мы збіраемся цара выганяць? Ён усё ж абяцае вызваліць мужыкоў ад панскай залежнасці, калі яны збяруць сваю долю выплаты за зямлю. Хоць не цяпер, дык у чацвер, як кажуць. А што дасць ім той жа Радзівіл або Чартарыскі, калі яны вернуць свае правы над імі? Дулю па талерцы.

— Гэта, братка, таксама складанае пытанне, як і ўсе іншыя грамадскія пытанні. Простага адказу на яго ніхто не дасць. Ну вось ты сам паспрабуй адказаць.

— Чаму я супроць цара і царыстаў?

— Але.

— Мне здаецца, у мяне гэтае пачуццё ў крыві ад самага нараджэння. Усе людскія крыўды і ўсю несправядлівасць я звязваю з царом і яго служкамі. І калі не будзе гэтай пошасці, то, мне здаецца, адразу ясней засвеціць сонца і нада мною, і над усім краем.

— А калі замест цара яго заслоніць кароль?

— Пра гэта я і думаю. Палякам ясней — яны выступаюць за сваю радзіму, якая б яна ні была. А мы — што? Толькі памагатыя? Разумееш,— шчыра прызнаўся Кастусь,— каб я не спадзяваўся на нешта большае, у мяне даўно б апусціліся рукі. Але, мне здаецца, палякі памогуць нам перакінуць пажар паўстання далей, да самага Пецярбурга. І тады ўсё будзе па-іншаму. Калі не стане цара ў Расіі, то наўрад, каб Польшчай заўладаў новы кароль... Я так думаю.

— Але,— згадзіўся Віктар.— Час цяпер не той. Нам трэба ісці з палякамі, але не забываць і пра рускіх. Яны нам самая блізкая радня. Было б, вядома, лепш, каб да нас далучыліся Пецярбург і Масква. Толькі ці дачакаемся мы гэтага. Асабліва цяпер, пасля арышту Чарнышэўскага і Серны-Салаўевіча [1]... Бачыш, як усё складана. Ну, я ця-

---

[1] С е р н а - С а л а ў е в і ч М. А. — адзін з вядомых кіраўнікоў тайнага рэвалюцыйнага таварыства «Зямля і воля».

бе, відаць, больш расхаладзіў сваімі расказамі, чым настроіў на вялікую і святую справу.

— Не, Віктар. Вельмі добра, што я сустрэўся з табою,— сказаў Кастусь, пазяхаючы.— Вельмі добра. Сапраўды, каб не заблудзіцца ў сённяшнім дні, трэба добра ведаць учарашні. Спакойнай ночы, Віктар!

— Спакойнай ночы, брат! І няхай табе прысніцца не старая змрочная наша гісторыя, а новая, светлая!

## XIX

Генерал-маёр Галер страціў праз Яську з-пад Вільні не толькі добры сон і спакой, а і з паўпуда ўласнай вагі. Праўда, лішняя вага ў яго гады нічога прыемнага яму не абяцала. Так што калі глядзець з гэтага боку, то ён, можна сказаць, меў і немалы выйгрыш. Аднак замест таго, каб дзякаваць Яську, ён лаяў яго на чым свет і пагражаў самымі горшымі карамі.

Ужо два нумары «Мужыцкай праўды» гулялі па даверанай яму губерні, а яго галоўны жандар Лелякоў усё яшчэ ніяк не можа натрапіць нават на след гэтага няўлоўнага Яські. Што ён — чарадзей які ці сам чорт? А можа,— генерала кідае ў пот ад такой думкі,— ён дзе-небудзь пад самым бокам у яго аціраецца, нізка яму штодня кланяецца? Можа, ён — той жа Лелякоў ці яго ўласны сакратар? О, гэта страшна! Галер гатоў быў у кожным бачыць цяпер злачынцу, які так трапна наносіць яму ўдары з-за вугла.

Першыя дні, калі пасыпаліся да яго рапарты і даносы з валасцей і паветаў пра «Мужыцкую праўду», ён моцна спадзяваўся на Лелякова. Быць не можа, каб Лелякоў са сваімі агентамі — тайнымі і яўнымі — не разнюхаў новых крамольнікаў. За што ж тады ён плаціць на іх утрыманне такія шалёныя грошы! Але замест Яські Лелякоў пакуль што падсоўвае яму толькі тых, хто дзе-небудзь падняў Яськаў лісток або сам чытаў яго іншым. Вядома, гэта ён, начальнік губерні, таксама мусіць ведаць. Ніхто ў яго губерні не мае права ні знаходзіць, ні тым больш чытаць крамолу на самога цара і яго дзяржаву. І калі Галер раней дазваляў станавым і спраўнікам лупцаваць такіх злачынцаў звычайнымі лазовымі розгамі, то цяпер такой паблажкі ад яго ніхто і не чакае. На рапартах ён кладзе грозныя рэзалюцыі: «Пад суд!»

І вось у адзін з хмурных асенніх дзён, калі, седзячы ў сваім раскошным кабінеце, генерал думаў сваю невясёлую думу пра Яську і ўпартых мужыкоў, якіх гэты Яська збівае з тропу, да яго зайшоў маёр Лелякоў. Вочы на яго хваравіта-бледным твары міргалі спалохана, вусы варушыліся самі. І наогул увесь ён быў нейкі сам не свой. Генерал нават спужаўся: а што, калі ён зараз скажа яму: «Яська, пан генерал-маёр,— гэта я... Бярыце мяне, вяжыце...»

Аднак такога не здарылася. Лелякоў казырнуў як звычайна і папрасіў дазволу зрабіць важны даклад. Генерал матнуў галавою.

— Толькі што я атрымаў рапарт ад прыстава другога стану Слонімскага павета Агаціна...— пачаў ён і неяк адразу ж задыхнуўся ад гэтых слоў, зрабіў перапынак, пракашляўся.

— Ну і што? — сярдзіта прабурчаў генерал.— У гэтым уся важнасць?

— Дазвольце, ваша правасхадзіцельства...

— Калі ласка.

— Рапарт не зусім звычайны.

— Іменна?

— Станавы прыстаў паведамляе, што ў павеце знойдзены свежыя крамольныя лісткі «Мужыцкай праўды»...

— Што, новы нумар надрукаваў Яська? — Генерал падняўся з крэсла.— А вы, маёр Лелякоў, усё яшчэ корміце мяне сваімі абяцанкамі...

— Дазвольце...

— Калі ласка,— безнадзейна махнуў рукою Галер.

— Станавы выехаў на пошукі злачынцаў...

— Ну і што? Злавіў каго?

— На жаль... Але выявіў, хто раскідаў гэтыя лісткі.

— Зноў які-небудзь непісьменны часоваабавязаны Халімон ці Радзівон?

— Не,— падцягнуўся Лелякоў.— Нехта дваранін Вікенцій Каліноўскі...

— Чаму нехта?

— Таму што самога яго станавы не затрымаў. На жаль... Ён толькі даведаўся пра яго з запісу ў праязной кніжцы Ружанскай паштовай станцыі, дзе гэты дваранін Каліноўскі наймаў фурманку...

— І ўсё? — запытаўся расчараваны дакладам Галер.

— Усё...— сухім голасам прагаварыў Лелякоў.— Але мы знойдзем яго. Я аддаў ужо загады па свайму ведамству.

Галер развёў рукамі:

— Гэта сапраўды нешта новае. Дваранін і мужыцкія лісткі... Што тут агульнага? Ці не памылка? Глядзіце, маёр...

— Мяркуючы па знешнім апісанні — на звычайнага абывацеля не падобны,— адказаў Лелякоў.

— Аб якім апісанні вы гаворыце?

Лелякоў дастаў з папкі з цвёрдаю вокладкай рапарт станавога прыстава і прачытаў:

— «Вышэйсказаны пасажыр апрануты быў у кажух, пакрыты, здавалася, сукном, каўнер з доўгіх чорных аўчын, шапку на галаве меў цывільную. Сам быў росту сярэдняга, брунет, вусоў чорных, гадоў каля 36».

— Ну,— паморшчыўся Галер.— Такую знешнасць, тым больш вопратку, можа мець любы валасны пісар.

— Калі нават і пісар,— цвёрда паабяцаў Лелякоў,— ён нашых рук не міне. Мы знойдзем яго і пад зямлёю...

— Глядзіце ж,— паківаў яму Галер пальцам, як школьніку, які дрэнна вывучыў урок.— Вы маеце яшчэ адзін шанц апраўдаць давер'е...

— Пастараюся, ваша правасхадзіцельства.

— А лісток гэты спраўнік прыслаў?

Лелякоў выцягнуў з той жа папкі трэці нумар «Мужыцкай праўды» і падаў Галеру.

— Што ў ім? — падняў цяжкія напалоханыя вочы Галер.— Страшнае што-небудзь?

— Такі ж, як і першыя...

— Добра, пакіньце яго мне.

— Калі ласка.

Галер узяў лісток у рукі і махнуў ім:

— Вы вольныя.

Лелякоў казырнуў і паспешна падаўся да дзвярэй, а Галер, расшпіліўшы фрэнч — пакуль гаварыў з шэфам жандараў, змакрэў дашчэнту,— пачаў чытаць чуць не па складах не зусім зразумелы яму тэкст новай «Мужыцкай праўды»:

«Дзецюкі!

Жывучы пад рондам [1] маскоўскім, кожны ведае, што ён нас абдзірае і душыць, но мала хто добра падумае, чы можна ад яго спадзявацца чаго для нас альбо для дзяцей нашых».

---

[1] Ронд *(польск.)* — урад.

І толькі дачытаў ён сяк-так да канца, як у кабінет зайшоў сакратар з пакетам у руках.

— Ну, што новага? — запытаўся моцна ўзрушаны генерал: гэты Яська са сваімі бязлітаснымі пісанкамі можа звесці яго ў магілу!

Сакратар падаў пакет, Галер раскрыў яго:

— Што, новы крамольны лісток?!

Галер ледзь не задыхнуўся. Але калі прыгледзеўся больш уважліва да пакета, то ўбачыў, што проста старанны слонімскі станавы прыслаў і яму той жа свой рапарт і той жа нумар «Мужыцкай праўды».

Галер уздыхнуў з палёгкай: не давядзецца лішні раз перажываць і хвалявацца за цара-бацюхну, якога так чэрняць і бэсцяць перад усім народам гэтыя жахлівыя Яськавы лісткі... «А вось станавому Агацiну, што не злавіў за руку самога злачынцу ў сваім стане, даравацЬ ніяк нельга,— падумаў Галер.— Ён у мяне запомніць гэтага дварапіна...»

## XX

Дзён праз колькі пасля размовы ў кабінеце губернатара Галера на хутар Якушоўка завітаў ад'ютант Лялякова капітан Віт: дваран Каліноўскіх у губерні пражывала не так многа і таму знайсці сярод іх патрэбнага было няцяжка.

Са Свіслачы капітана прывёз паліцэйскі стражнік на паліцэйскай фурманцы.

Нечаканы прыезд няпрошаных гасцей устрывожыў гаспадароў хутара.

«Чаго іх ліха нясе?» — падумаў Сымон Сцяпанавіч, адчыняючы дзверы.

У хату зайшоў адзін капітан — рыжы, немалады ўжо жандарскі служака. Паліцэйскі стражнік застаўся на двары пры кані.

Пераступіўшы парог, капітан, замест прывітання, запытаўся строгім начальніцкім голасам:

— Дзе я магу бачыць Віктара Каліноўскага? Ён хто — ваш сын? — зіркаючы па баках, звярнуўся да Сымона Сцяпанавіча.

— Але, пан капітан, Віктар — мой сын...

— Вось і цудоўна,— зарадаваўся капітан.— Дзе ён? Паклічце яго хутчэй.

Збянтэжаны Сымон Сцяпанавіч развёў рукамі:

— На жаль, не магу, пан капітан...

— Што, зноў выехаў куды?

— Два тыдні ўжо, як ён пакінуў нас назаўсёды...

— Як — назаўсёды?

— Памёр, пан капітан. Ад сухотаў.

— Памёр?! — усклікнуў капітан.— Вы не прыдумалі такой байкі?

— Не, пан капітан. На жаль, гэта праўда. Можаце запытацца ў суседзяў.

Пераканаўшыся, што гаспадар не маніць, капітан Віт крыху паспакайнеў.

— Скажыце, грамадзянін Каліноўскі, ваш сын-нябожчык не ездзіў куды-небудзь у пачатку мінулага месяца?

— Апошні месяц ён не ўставаў з ложка...

— Што за д'ябальшчына! — захваляваўся капітан.— Па нашых вестках ён сёмага чысла таго месяца наймаў у Ружанах фурманку.

— Ён не мог гэтага рабіць,— растлумачыў капітану Сымон Сцяпанавіч.— Віктар, як вярнуўся з Пецярбурга, нікуды з дому не адлучаўся.

— Дык што, выходзіць, у вас ёсць яшчэ адзін сын Віктар? Так?

— Не зусім. Другі мой сын, Кастусь, мае яшчэ імя Вікенцій, а не Віктар. Гэта ў нас так заведзена здавён: ксёндз, калі хрысціць, дае і два і тры імені.

— Ну, ну! — павесялеў капітан.— Дык аб ім, відаць, і рэч. Гэта я недакладна назваў яго імя. Правільна, правільна, яго зваць Вікенцій, а не Віктар... Дзе ён?

— Гэтага я не ведаю, пан капітан...

— Як гэта не ведаеце? — Рыжы капітан перайшоў на свой звычайны тон.— Так я і паверу!

Сымон Сцяпанавіч насцярожыўся: не, пан капітан, відаць, не з добрымі мыслямі прыехаў у Якушоўку. А і сапраўды: што ён, бацька, ведае пра свайго сына Кастуся? Дзе ён жыве і сярод якіх людзей? Цяпер жа на свеце такое творыцца, што слухаць страшна. Сам Сымон Сцяпанавіч у грамадскія справы не ўмешваўся: вечны клопат аб немаленькай гаспадарцы займаў увесь яго час і ўсе думкі. Але ў душы ён шчыра спачуваў тым, хто хацеў дабра свайму краю. Няўжо і яго Кастусь пайшоў за тымі маладымі людзьмі, пра якіх зараз гавораць, больш шэптам, вядома, што яны выступаюць супроць самога цара і хочуць

вярнуць Царству Польскаму і Літве ранейшую волю... Гэтая думка ўпершыню так выразна ўзнікла ў яго галаве толькі цяпер, калі ён убачыў перад сабою царскага жандара Віта. Калі б сын яго патрэбен быў гэтаму жандару для добрай справы, то навошта ж было яму прыязджаць сюды самому? Прыслаў бы звычайнага пасыльнага...

І колькі капітан Віт ні дамагаўся, нічога больш ад Сымона Сцяпанавіча не пачуў.

Разгневаны няўдачай, капітан пакінуў хутар. Вядома, ён не паверыў словам Кастусёвага бацькі і даручыў свіслацкай паліцыі не спускаць вока з Якушоўкі.

— Ці не здарылася што благое з нашым Кастусём? — гадаў пасля ад'езду капітана Сымон Сцяпанавіч.— Гэты недавярак прыехаў не так сабе... Кастусь — гарачая натура. І крыўды не цярпіць. Колькі набраўся я клопату, як ён вучыўся ў Свіслачы. Бывала, пакрыўдзіць каго настаўнік — ён кідаецца на абарону. А потым і з яго настаўнікі спаганялі, і мяне да пана дырэктара цягалі...

Найбольш блізка, апрача бацькі, прыняла да сэрца ўсю гэту справу Казіміра — старэйшая дачка Сымона Сцяпанавіча ад другой жонкі. Яна з першых сваіх дзён помніла Кастуся толькі добрым і ласкавым, гарачым сваім заступнікам і перад бацькамі, калі тыя, бывала, сварыліся на яе, і перад іншымі дзецьмі, калі тыя яе крыўдзілі. Цяпер ужо Казіміра немаленькая і ведае, што на свеце робіцца. Яна і сама не раз хадзіла ў касцёл у жалобным адзенні ў знак пратэсту супроць крывавай расправы царскіх войск і жандараў над тымі, хто дабіваецца волі.

«Эх, Кастусёк, Кастусёк! — думала яна, ахопленая трывогай.— Як адвесці ад цябе бяду?» Нават ёй, любімай сваёй сястры, не сказаў ён, дзе жыве і што робіць. Можа, ён сказаў што Віктару, які не дажыў да гэтага дня...

І раптам яна ўспомніла пра блізкага Кастусёвага сябра Фелікса Ражанскага — графскага каморніка з Вялікай Бераставіцы. Ён не раз бываў у іх на хутары. Можа, ён ведае, дзе шукаць Кастуся. Недзе ж, мусіць, ёсць на свеце і Кастусёва нявеста, калі не жонка... Пра яе ён, праўда, не хваліўся дома. Але ж не можа яе не быць: Кастусь ужо ў гадах, скора дваццаць пяць. Можа, Фелікс пра яе што ведае.

Казіміра паклікала бацьку ў другі пакой і па сакрэту сказала яму, што яна надумалася зрабіць.

— Добра, дачушка, добра,— сказаў разгублены бацька.— Паедзь да Фелікса. Я ведаю, яны даўно сябруюць. Калі Кастусь у чым вінаваты, то, можа, яму лепш з'ехаць куды пакуль што... Так і скажы Феліксу. Грошы на патрэбу я знайду. Адным словам, важна, каб Кастусь даведаўся пра капітана. А што рабіць, ён сам падумае. Яму відней. Толькі, дачушка, нікому пра гэта не кажы. Хто ж яго ведае, што там у іх і як... Разумееш?

— Разумею, тата.

— І яшчэ скажы Феліксу пра вялікае наша гора... Няхай ён таксама перадасць Кастусю.

— Добра, тата.

— Ён так любіў Віктара...

У той жа дзень Казіміра выехала ў Вялікую Бераставіцу.

## XXI

Вестка пра паездку капітана Віта ў Якушоўку дагнала Кастуся ў Гродні: Фелікс пераслаў яе праз сваіх знаёмых Эразму Заблоцкаму. Калі б капітан пабываў на хутары на два дні раней, Казіміра яшчэ застала б свайго брата ў Бераставіцы ў Фелікса, дзе ён жыў апошні час.

Усё абышлося добра. З дапамогаю Эразма і яго сяброў Кастусь лёгка ператварыўся ў чыноўніка казённай палаты Канстанціна Макарэвіча — маладога чалавека без вусоў і без барады з новаю прычоскаю густой цёмна-русай шавялюры.

— Вось цяпер мы пагуляем з паважаным панам Вітам у копікі і мышкі,— сказаў ён Эразму, углядаючыся ў люстэрка.— Няхай сабе ён паганяецца за маім ценем. Чыноўнік казённай палаты Канстанцін Макарэвіч — гучыць зусім нядрэнна.

Кастусь не ведаў, навошта ён раптам так спатрэбіўся Віту. Яму здавалася самае горшае: нехта яго выдаў... І сярод тых, хто мог гэта зрабіць, быў і названы яго малодшы брат Язэп. Што, калі агенты Лелякова вырвалі ў яго тайну пра Саўкаву леснічоўку? Тады бяда пагражае не аднаму яму, а і Саўку, і Феліксу. І, можа, пакуль дагаляла яго гэтая вестка, капітан наведаў і аднаго і другога...

Не менш хваляваўся і Эразм. Сваіх людзей у канцылярыі Лелякова ў яго не было, а сябры з канцылярыі губернатара нічога пра гэтую справу не ведалі: сакрэтны па-

кет станавога прыстава Агаціна Галер палажыў у свой звышсакрэтны сейф.

— Відаць, мне трэба пад'ехаць у Ваўкавыск,— зрабіў для сябе вывад Кастусь.— Там я што-небудзь даведаюся.

Эразм згадзіўся з яго думкаю.

— Толькі знаёмых чыноўнікаў усё ж лепш абыходзь...— параіў ён.

— Ну, я не думаю, каб Лелякоў ці яго ад'ютант капітан Віт так шырока абвясцілі пра мой росшук. Ды ўрэшце знаёмых з іх ведамства ў мяне пакуль што няма.

— І дай бог, як кажуць, іх не мець.

— Ёсць у мяне, браце, і яшчэ адна думка,— сказаў Кастусь.

— Ну?

— Вярнуцца ў Саўкаву леснічоўку. Вельмі ж зручнае месца.

— Дык што? Давай.

— Справа ўпіраецца ў майго Язэпа...

— Якім чынам?

— Пакуль ён у Ваўкавыску, боязна... Вось і зараз мы гадаем: а раптам гэта ён выдаў мяне?

— Дык што ж,— сказаў Эразм,— яго трэба вярнуць назад у Саўкаву леснічоўку. Тады ўсё стане на сваё месца. Я думаю, Тамаш зробіць гэта.

— Ну ты, Эразм, проста чытаеш мае думкі,— здзівіўся Кастусь.— Калі толькі Язэп яшчэ не расказаў каму пра нас, мы пастараемся яго вярнуць. Пасядзеў за свайго Дракулу месяцаў тры — і хопіць. Ён нам больш патрэбны, чым ваўкавыскай турме. У нас вунь горы работы. Я не веру, што Варшава доўга яшчэ прачакае з паўстаннем. Гарачых галоў там хоць адбаўляй.

— Хоць бы да вясны дацягнулі,— сказаў Эразм.— Зімою цяжка падняцца. Відаць, усё ж нашы асноўныя сілы будуць гуртавацца ў лясах.

— Валерый толькі так і думае,— пацвердзіў Кастусь.— Сутыкнуцца лоб у лоб з рэгулярнымі часцямі небяспечна. Нам прыйдзецца рабіць напады і засады з укрытых пазіцый.

— Ну, Валерыю, як кажуць, і карты ў рукі...

— На жаль, адных картаў мала.І не тады ж сабак карміць, як на паляванне ісці. Валерый кажа, што самы надзейны ўдар — раптоўны. Ці ўдасца Варшаве зрабіць такі ўдар? Вось што мяне турбуе. Бо калі загадзя абвясціць

цару: «Іду на вы» [1], ён сустрэне цябе і ўсімі салдатамі, і ўсімі гарматамі.

Кастусь не раз гаварыў сябрам пра тое, аб чым увесь час думаў, што яму балела. Яму хацелася і думкі свае праверыць уголас, і пачуць ад сяброў што новае. Сілы для паўстання збіраюцца. Яны падымуцца, калі разам з імі выступяць у паход смелыя і разумныя камандзіры. Але сілы гэтыя пакуль што раскіданы па валасцях і паветах, а значыць слабыя. Як іх сабраць у моцны кулак? І дзе?

Усё гэта цяпер і займала Кастусёвы думкі.

У Ваўкавыску Кастусь доўга не забавіўся. У апошні час Тамаш Мушынскі — вясёлы кампанейскі хлопец — займеў сабе сябра і ў павятовай турме. Гэта быў турэмны фельчар Станіслаў Шпакоўскі — такі ж весялун і аматар розных анекдотаў, як і Мушынскі. На гэтым іх густы і сышліся. Але калі Мушынскі пачаў загаварваць з сваім новым сябрам пра жыццё-быццё, Шпакоўскі ў дадатак да ўсяго выявіў яшчэ сябе і заўзятым вальнадумцам. Турму сваю ён праклінаў разам з яе начальнікам і ўсімі цэрберамі. «Хочаш,— гаварыў ён Мушынскаму, падпіўшы ў шынку,— я падпалю яе».— «Ну, і людзей спаліш, разумнік,— адказваў яму Мушынскі.— Ты спярша іх вызвалі, а потым палі сваю турму, калі яна табе няміла». Не, людзей паліць Станіслаў зусім не хацеў, хто б яны ні былі.

Дык вось гэты самы Станіслаў Шпакоўскі і даведаўся ў самога Язэпа, што ніхто з ім нічога не гаварыў з таго самага дня, як яго судзілі. Станіславу спадабаўся Язэп. Расчуліўшыся, ён запытаўся, ці хацеў бы Язэп на волю. Язэп адказаў, што, відаць, у іх турме няма такога астрожніка, які б не хацеў вырвацца на волю. Гаварылі яны адны, без сведкаў, і Станіслаў нават паабяцаў яму: «Ну добра, Язэп, мы што-небудзь прыдумаем. Чакай...»

Размова Станіслава Шпакоўскага з Язэпам перакапала Кастуся, што капітан Віт да Саўкавай леснічоўкі не дапяў. Значыць, яны смела могуць вярнуцца туды з усім сваім друкарскім скарбам. Мясціна каля Саколкі менш падабалася Кастусю: была яна і недалёка ад горада, і блізка каля людной дарогі.

Ад'язджаючы з Ваўкавыска, Кастусь папрасіў Мушынскага, каб той накіраваў Язэпа, калі яму ўдасца вырвацца з турмы, у Бераставіцу. А там да Саўкі дарогу ён ведае.

---

[1] «Іду на вы»— так абвяшчалі вайну суседу князі часоў Кіеўскай Русі.

# ДА АПОШНЯГА ДЫХАННЯ

## I

Тое, чаго Кастусь баяўся, адбылося. У сярэдзіне студзеня ў Вільню з Варшавы прымчаўся ганец Юзэф Пятроўскі з важнаю весткаю: паўстанне ў Царстве Польскім пачалося...

У той жа дзень у нумары гасцініцы, дзе спыніўся варшаўскі ганец, сабраліся члены Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Тыя, што жылі на гэты час у Вільні.

Разгублены Юзэф Пятроўскі папрасіў членаў Камітэта ўстаць, пасля чаго дрыжачым усхваляваным голасам зачытаў маніфест Часовага нацыянальнага ўрада Польшчы:

«Польскі ўрад абвяшчае наступнае:

1. З гэтага дня ўсе сяляне і іншыя жыхары любой веры вольныя, як спадчынная шляхта.

2. Польскі ўрад перадае панскім і скарбовым сялянам навечна без выкупу і выплаты зямлю, якою яны да гэтага часу ўладалі, а ўсе законы рускага ўрада адмяняе, бо гэта зямля польская, а не руская.

3. Сяляне павінны за гэта таксама, як шляхта, абараняць польскі край, грамадзянамі якога з гэтага дня яны з'яўляюцца.

4. Куткавыя[1], парабкі, адстаўныя салдаты і ўсе, хто выступіць на абарону радзімы ад рускіх, або іх сем'і атрымаюць за гэта не менш як тры маргі зямлі.

5. Польскі ўрад заплаціць потым тым памешчыкам, якія цяпер будуць мець страты, з нацыянальнай казны.

---

[1] Куткавы або кутнік — бабыль, бяздомны і беззямельны селянін.

6. Калі хто-небудзь не падначаліцца гэтаму маніфесту, няхай гэта будзе пан, селянін, чыноўнік або хто-небудзь іншы, ён будзе аддадзены пад суд.

Божа, выратуй Польшчу!

Дадзена ў Варшаве 22 студзеня 1863 г.».

Члены Камітэта выслухалі маніфест з такім жа хваляваннем, з якім чытаў яго Юзэф Пятроўскі. Але хваляванне іх было зусім іншае. Як магла Варшава абвяшчаць паўстанне, калі яно яшчэ зусім не падрыхтавана ні ў Царстве Польскім, ні на Літве і Беларусі? Як магла Варшава зрабіць гэта, не параіўшыся з Вільняй? І як магла яна распачынаць вайну ў самай сярэдзіне зімы?

Хвалявала і здзіўляла слухачоў маніфеста ўсё гэта яшчэ і таму, што апошнія два месяцы, як Кастусь Каліноўскі (пасля ад'езду Звяждоўскага ў Маскву) стаў на чале Камітэта, Вільня няспынна вяла перагаворы з Варшавай аб сваіх правах і абавязках у будучым паўстанні. Першы з праектам статута аб роўнасці ездзіў у Варшаву Эдмунд Вярыга. Дзюлеран не хацеў яго пасылаць: няма чаго, маўляў, высвяляць свае нейкія ўзаемаадносіны паміж Польшчай і Літвой. Яны і так ясныя. Слухай, што табе скажуць, і рабі, што загадаюць! І як Кастусь ні тлумачыў Дзюлерану, што Літва і Беларусь не могуць цягнуцца за Варшавай, як цяля на вяроўцы, што яны самі гаспадары свайго лёсу — цяперашняга і будучага,— упаўнаважаны камісар Польскага нацыянальнага камітэта не здаваўся. Тады Кастусь рашуча папрасіў Нестара Дзюлерана пакінуць Камітэт. І гэта было для яго так неспадзявана, што ён разгубіўся і не мог вымавіць слова. Хапіўшыся за грудзі, Нестар збянтэжана глядзеў на іншых членаў Камітэта, спадзеючыся на іх дапамогу. Але члены Камітэта прамаўчалі ў знак згоды са сваім старшынёю, і тады Нестар Дзюлеран, злосна стукнуўшы дзвярыма, выбег з пакоя. З таго часу ён змоўк, чакаючы разбору справы Варшавай. Але Варшава не спяшалася ні мірыць яго з Літоўскім камітэтам, ні абяцаць апошняму роўнасці. Вярыга прывёз статут з рознымі дабаўкамі і папраўкамі. Кастусь не прыняў іх і праз некаторы час паслаў у Варшаву другога ганца, Баляслава Длускага. Але і яму не ўдалося дабіцца нічога лепшага. Хіба толькі таго, што Варшава клялася не пачынаць паўстання раней вясны і без згоды Вільні. Праўда, паабяцалі яшчэ перадаць Беласток Літоўскаму камітэту,

калі ён падпіша згоду, што ўся ўлада належыць Цэнтральнаму камітэту і гаворка аб роўнасці больш узнімацца не будзе.

Кастусю было ясна, што пасля арышту Яраслава Дамброўскага ў Варшаве сапраўды нешта змянілася, і не к лепшаму. Значыць, чырвоныя з Нацыянальнага камітэта калі і не пабялелі яшчэ зусім, то ўжо мяняюць колер. Ва ўсякім разе Яраслаў не дазволіў бы сабе такой фанабэрыі да сваіх літоўскіх сяброў. Ён менш чым хто трызніў аб старадаўніх межах «ад можа да можа».

Тое, што партыя белых выступае на пярэдні край вялікай гістарычнай падзеі, Кастусю было вядома. Тут, у Вільні, яшчэ на пачатку восені белыя стварылі свой пастаянны Камітэт. Хто ж гэтыя камітэтчыкі? Графы Віктар Стажэнскі і Станіслаў Зыберг-Плятэр, паны Якуб Гейштар, Антоній Яленскі і Аляксандр Аскерка. І толькі адзін дваранін з разначынцаў Францішак Далеўскі — з вялікай і цікавай сям'і віленскіх тубыльцаў. Адзін з братоў гэтай сям'і Цітус — добры Кастусёў сябар. Сястра іх Апалонія мінулым летам стала жонкаю Зыгмунта Серакоўскага. Кастусь нават ездзіў да іх на вяселле, яно гулялася не ў Вільні, а ў невялікім літоўскім мястэчку Кейданах. Там жа разам з вяселлем, а лепш сказаць, пад выглядам вяселля праводзілася важная сходка кіраўнікоў будучага паўстання ў Літве і Беларусі. Зыгмунт як ваенны кіраўнік паўстання выкладаў свае планы, слухаў думкі іншых. Сярод гасцей Зыгмунта і Апалоніі быў і Якуб Гейштар — ковенскі памешчык, стары знаёмы Зыгмунта і сям'і Далеўскіх. Кастусь ведаў, што ён з партыі белых. Але ні сам Гейштар, ні яго партыя тады яшчэ не ставілі палак у колы чырвоным. Яны проста трымаліся ўбаку, назіраючы за тым, што робяць чырвоныя, і чакаючы вестак з-за мяжы: як там паводзяць сябе старыя ворагі рускага цара — Францыя і Англія?

Але найбольш запомніўся Кастусю з гасцей Антанас Мацкявічус — яшчэ малады літоўскі ксёндз з гарачым сэрцам і вольнымі думкамі. Кастусь з першага знаёмства пасябраваў з ім. Яны неяк адразу зразумелі адзін аднаго, і ім лёгка было гаварыць. Ксёндз Мацкявічус думаў і клапаціўся толькі пра сваіх прыхаджан — літоўскіх сялян. Гейштару, які дрыжаў за свой маёнтак і за маёнткі такіх жа паноў, ён проста гаварыць не даваў. Францішак увесь час іх мірыў. Вярнуўшыся нядаўна з катаргі за ўдзел у паў-

станні 1848 года, ён яшчэ вагаўся, не ведаў, да якой партыі далучыцца. Белыя не рваліся ў бойку, хоць рэвалюцыйная хваля і падымала іх на свой высокі грэбень. Яны проста спадзяваліся на мірную вайну: трэба настрашыць цара ўсімі страхамі, і ён здасца, верне палякам Польшчу. Гэта і спакусіла асцярожнага цяпер у сваіх учынках старэйшага Далеўскага. Яму ішоў ужо трыццаць сёмы год, і ўсе юнакі з партыі чырвоных здаваліся яму проста неразумнымі яшчэ дзецьмі. Высокі палёт іхніх думак і填 мараў ён ужо зведаў. І зведаў гаркату расчараванняў. Але сучасныя маладыя рамантыкі-рэвалюцыянеры не разумеюць яго. Нават родныя браты і сёстры, асабліва самы малодшы брат Цітус, якому яшчэ ішоў толькі дваццаць другі год...

Калі першае здранцвенне ад праслуханага маніфеста прамінула, Кастусь як старшыня і Камітэта і сходу звярнуўся да сяброў:

— Грамадзяне члены Камітэта! Мы перажываем вялікі момант у сваім жыцці. Нам трэба прыняць зараз вельмі важнае рашэнне. Але перш чым яго прымаць, я хацеў бы, каб упаўнаважаны пасланец Варшавы грамадзянін Юзэф Пятроўскі дапоўніў нам маніфест Часовага ўрада Польшчы.

— Гэтага і мы хочам! — сказаў Малахоўскі.— Няхай грамадзянін Юзэф растлумачыць нам, чаму Нацыянальны камітэт прыспешыў паўстанне.

— Правільна,— падтрымаў яго Кастусь.— Ці згодны ўсе астатнія паслухаць адказ на такое пытанне?

Ян Козел, Эдмунд Вярыга і Ахілес Банольдзі дружна заківалі галовамі: так, гэта сапраўды тое першае пытанне, з якога трэба пачынаць гаворку.

— Калі ласка, грамадзянін Пятроўскі. Мы слухаем вас,— запрасіў Кастусь Юзэфа.

Юзэф Пятроўскі, малады чалавек з добра прыкметнай ваеннай вывучкай, якую ён толькі нядаўна набыў у Генуэзскай ваеннай школе польскіх эмігрантаў, загаварыў энергічна і выразна:

— Не мы вінаваты, грамадзяне члены Камітэта, што так здарылася...

— Вось дык навіна! — уголас здзівіўся Малахоўскі.— Хто ж тады вінаваты? Мы?

— Вінаваты сам рускі цар Аляксандр II. Ён, як вы добра ведаеце, яшчэ ўвосень абвясціў рэкруцкі набор у Каралеўстве Польскім.

— І што з гэтага? — пацікавіўся Вярыга.

— З гэтага тое, грамадзянін Вярыга, што жараб'ёўка на рэкрутаў на гэты раз у нас адменена. І яны будуць набірацца перш за ўсё з гарадской моладзі. І па выбару не ваенных ведамстваў, а паліцыі... Паліцыя загадзя склала спісы рэкрутаў. І хто, вы думаеце, трапіў у гэтыя спісы? Тыя, што выступалі першыя і ў першых радах на ўсіх маніфестацыях. А на іх жа ўся наша надзея. Нацыянальнаму камітэту ўдалося дастаць гэтыя спісы па Варшаве і перадаць многім маладым людзям, каб хаваліся па лясах і вёсках. Але паліцыя разгадала наш манеўр і ў ноч на пятнаццатае студзеня, па рускаму календару гэта было трэцяе студзеня, правяла аблаву. Усіх маладых людзей, хто трапіў ёй у рукі, сілаю заганялі ў казармы. Што заставалася рабіць Нацыянальнаму камітэту? Чакаць, пакуль паліцыя пераловіць і пазаганяе ў казармы ўсіх будучых паўстанцаў, ці неяк ратаваць іх дзеля святой справы?

Слухачы цяжка ўздыхалі, але маўчалі. Сапраўды страшны ўдар нанёс ім цар сваім рэкруцкім наборам. Хто б мог думаць, што так абернецца справа. Ужо колькі гадоў, з часу Крымскай вайны, ні ў Царстве Польскім, ні ў заходніх губернях рэкрутаў не бралі. Раней жа ў рэкруты ішлі таксама толькі нешчаслiўцы — па жараб'ёўцы, ды і то пяць чалавек з тысячы душ. Больш таго, багацейшыя нешчасліўцы маглі наняць за сябе любога ахвотніка. Браць жа без усялякіх правіл, па загадзя складзеных спісах,— не, такога яшчэ не бывала!

— Уявіце, што стала далей,— гаварыў Юзэф Пятроўскі.— Пасля першай аблавы маладыя людзі рынуліся ў лясы без разбору — хто быў у спісах і хто — не. І ўсё мацней і мацней націскалі на Цэнтральны камітэт, каб пачынаў паўстанне. А не — пагражалі — пачнуць яго самі. А што з гэтага выйшла б? Адны непатрэбныя ахвяры. І яны былі б на сумленні ўсіх нас... Вось чаму Цэнтральнаму камітэту не заставалася іншага выбару, як абвясціць краіну на становішчы інсургенцыі [1] і выратаваць ад рэкруцтва маладых людзей.

Адказ Юзэфа Пятроўскага быў ясны і абгрунтаваны. Але не супакоіў членаў Камітэта.

— Ратуючы рэкрутаў,— зрабіў вывад Кастусь,— Цэнтральны камітэт, а цяпер ужо Часовы ўрад, паставіў пад страшэнны ўдар усю справу... Я думаю, гэта каварны

---

[1] Інсургенцыя *(лац.)* — паўстанне супроць урада.

замысел царскіх генералаў. Яны ведаюць, што да паўстання мы яшчэ не гатовы. І ведаюць, што ім небяспечна чакаць вясны. Вось тая хітрая пастка, у якую нас заганяюць. Няўжо Варшава не бачыць гэтага?

— Вы разумееце, грамадзянін Каліноўскі,— сказаў Юзэф,— у Варшавы галава кругам ходзіць...

— Яна проста страціла галаву,— з жалем сказаў Кастусь.— Можна было знайсці іншы выхад.

— Які?

— Паслаць сваіх камандзіраў у лясы і вёскі да маладых людзей і затрымаць іх там да вясны, не прымаючы бою. Хіба ж нельга было так зрабіць?

— Але ж маладыя людзі нецярплівыя. Ды і сам генерал Мераслаўскі падганяў...

— Не так, відаць, Мераслаўскі, як мераслаўшчыкі,— заўважыў Вярыга.— Іх там, у Варшаве, сотні. І кіруе імі самы гарачы і безразважны мераслаўшчык Акулярнік — начальнік тайнай паліцыі Цэнтральнага камітэта. Пра яго цяпер ужо гавораць, як пра дыктатара з кінжалам у зубах. Ён яшчэ мінулым летам падбіваў Цэнтральны камітэт на выступленне...

— Не ўсе члены Цэнтральнага камітэта лёгка згаджаліся пачынаць паўстанне зараз,— шчыра прызнаваўся Пятроўскі.— Гэта праўда. У нас яшчэ, апрача ўсяго, зусім мала зброі. Не раілі нам прыспешваць паўстання і рускія рэвалюцыянеры Герцэн і Бакунін: яны хацелі дачакацца вясны...

— Дык чаму ж не паслухалі іх? — зноў зашумелі слухачы.

Пятроўскі вінавата моршчыў лоб і цёр скроні.

— Што зробіш... Цэнтральны камітэт яшчэ ўвосень паабяцаў выратаваць рэкрутаў. А як? Паклікаць іх на паўстанне. Пра гэта быў надрукаваны лісток. Ну, прыйшлося стрымаць слова...

І колькі члены Камітэта ні гаварылі, да згоды не прыйшлі. Вырашылі толькі паслаць Яна Козела ў Пецярбург да Серакоўскага і ў Маскву — да Звяждоўскага. Як яны скажуць, так і будзе. Тым больш што замяніць Серакоўскага як ваеннага кіраўніка паўстання ніхто з членаў Камітэта не мог і без яго згоды не хацеў.

Юзэф Пятроўскі выказаў жаль з гэтай прычыны і рашуча заявіў, што без адказу Вільні ён не можа вярнуцца ў Варшаву і будзе чакаць Серакоўскага або яго слова.

Тым часам, пакуль Каліноўскі і яго сябры ламалі галовы, што рабіць, і чакалі вестак ад Серакоўскага і Звяждоўскага, паўстанне з Царства Польскага перакінулася на заходнія землі Гродзеншчыны: туды з Падляскага ваяводства прыбыў са сваім атрадам Раман Рагінскі. А на Віленшчыне, у Свянцінскім павеце, зрабіў першы напад на гарнізон царскіх войск Станіслаў Бухавецкі.

Калі гэтыя весткі дайшлі да Вільні, Кастусь зноў наклікаў сваіх сяброў на нараду.

— Мы не хацелі і не хочам гэтай спешкі,— сказаў ён, пачынаючы новае пасяджэнне Камітэта.— Яна — не ў нашу карысць. Мы не паспелі яшчэ пусціць глыбокія карэнні ў народзе. Але, дарагія сябры, мы не можам зараз стаяць убаку і глядзець, як льецца кроў нашых братоў па зброі па той бок Нёмана. Усе нашы спрэчкі і непаразуменні з Варшавай не павінны засланяць перад намі асноўнага — вызвалення краю з-пад царскага ярма. Воля — вось мэта нашага руху. Здабыць жа яе мы можам толькі разам з палякамі. Польская справа — гэта наша справа, гэта вольнасці справа. Я так думаю, грамадзянін Пятроўскі.

— І я так думаю,— павесялеў Юзэф.— Мы выступаем за нашу і вашу волю.

Членам Камітэта стала ясна, што хочуць яны таго ці не, а паўстання ўжо не спыніш: яно само прыйшло да іх.

— Я прапаную,— сказаў Кастусь,— даць згоду Варшаве, не чакаючы Серакоўскага і Звяждоўскага.

Іншых прапаноў не было, і Кастусь зачытаў праект кароткай адозвы да народаў Літвы і Беларусі.

«Браты! Каралеўства паўстала. Нашы ўсюды б'юць маскалёў. Кроў, якая льецца за Нёманам, кліча нас да зброі. Бо і для нас набліжаецца час барацьбы з захопнікамі за нашы свяшчэнныя правы, за нашу волю! Выступім жа разам і дружна, а бог нам дапаможа!»

Адозва была ўхвалена ўсімі членамі Камітэта. Юзэф таксама згадзіўся з ёю, толькі папрасіў дадаць у канцы зварот да пана бога, так, як гэта зроблена ў маніфесце. Пярэчанняў не было, бо сапраўды выходзіць на паўстанне без божай дапамогі ніхто не хацеў.

Калі ж вярнуліся да маніфеста Часовага польскага ўрада, які патрэбна было прыняць або адкінуць, зноў разгарэліся спрэчкі.

— Маніфест, што мы збіраемся зараз абвясціць народу,— сказаў Кастусь,— не з лепшых. Тое, што ён абвяш-

чае волю і роўнасць і перадае былым прыгонным сялянам зямлю зараз жа, а не праз доўгія гады, як гэта робіць цар, і без выкупу, чаго цар не робіць, у гэтым яго сіла. Мы з радасцю далучымся да гэтай часткі маніфеста. Але маніфест мае і свае слабасці. Ён абяцае куткавым, парабкам і адстаўным салдатам па тры маргі зямлі, калі яны далучацца да паўстання. А тым, хто па тых ці іншых прычынах не далучыцца? А беззямельным, якіх у Царстве Польскім ды і ў нас не менш адной трэцяй часткі ўсяго сялянскага люду? Што абяцае маніфест ім? Кій ды торбу. Мы ж тут, у сваім краі, якраз наадварот — спадзяёмся больш на гэтых людзей, чым на іншыя саслоўі. Ды і што гэта за надзелы з трох маргоў! Затое маніфест не забыўся пра тых, каго ўсе сяляне — і зямельныя і беззямельныя — ненавідзяць усёю душою. Я кажу пра пункт пяты маніфеста: «Польскі ўрад заплаціць потым тым панам, якія будуць мець страты, з нацыянальнай казны». Бачыце, якая далікатная апека над гэтымі дармаедамі! У іх застаюцца тысячы маргоў зямлі ды яшчэ ўрад падкіне ім тысячы рублёў за страты... гэта значыць, выкупіць у іх сялянскія надзелы. Дык так жа і цар робіць. Розніца толькі тая, што цар за гэтыя страты хоча злупіць з саміх сялян, а польскі ўрад — з казны... А калі сказаць праўду, зноў з тых жа сялян. Але гэта мы яшчэ паглядзім... Воля і роўнасць без зямлі — гэта не воля і не роўнасць.

Пасля агульнай ацэнкі маніфеста вырашылі прымаць яго па пунктах.

З першымі двума пунктамі згадзіліся без спрэчак. Малахоўскі заўважыў, што не зусім прыемна будзе літоўскім і беларускім сялянам чытаць або слухаць канец другога пункта: «гэта зямля польская, а не руская». Але Юзэф Пятроўскі тут жа растлумачыў, што інакш запісаць і нельга. Справа ж ідзе аб дзяржаве польскай, а не літоўскай ці беларускай. Зямля належыць дзяржаве, а не асобным яе правінцыям.

Малахоўскі паморшчыўся, але заўвагу сваю мусіў зняць.

Пункт трэці пасля доўгіх спрэчак вырашылі ўсё ж крыху змяніць: надта ж ён быў чыста польскі. Яго запісалі ў новай рэдакцыі.

У пункце чацвёртым усім хацелася запісаць не тры маргі, а хаця б пяць. Але Юзэф цвёрда стаў на абарону гэтага пункта і лёгка давёў, што мяняць яго цяпер позна.

Маніфест ужо чытаецца польскімі сялянамі. І не можа ж таго быць, каб польскі ўрад абяцаў, скажам, парабкам Падляссе па тры маргі зямлі, а іх суседзям, парабкам Гродзеншчыны, па пяць.

— Дык чаму ж не паклікалі каго з нас, калі пісалі маніфест? — абураўся Малахоўскі.

У адказ Юзэф паціскаў плячыма і выціраў хустачкай лоб: на такое пытанне адказаць ён не можа... Гэтак жа ўдалося яму абараніць і самы спрэчны пункт маніфеста — пяты.

— Калі апусціць такі пункт,— сказаў ён,— то землеўласнікі не падтрымаюць нас.

— Затое нас падтрымаюць тыя, каго землеўласнікі душылі вякамі і зараз душаць,— перапыніў яго Кастусь.— А гэта важней.

— А хто дасць грошы, зброю, харчы для паўстанцаў? — не здаваўся Юзэф.— Мужык? Ды ў яго ж, апроч кучы галодных дзяцей у запечку, нічога няма за душою...

— Затое душа ў яго чыстая,— сказаў Малахоўскі.

— На жаль, гэтага для вялікай вайны мала...

Пункт пяты ўсё ж прыйшлося таксама пакінуць: Юзэф дазволіў толькі апусціць словы ў канцы: «з нацыянальнай казны», якія вялікай ролі тут не мелі, бо ўсім жа вядома, што ўрад не збіраецца ўзнагароджваць паноў са сваёй кішэні.

Калі маніфест быў нарэшце зацверджаны, Малахоўскі запытаўся ў старшыні сходу:

— А хто гэты маніфест падпіша?

— Як — хто? — адказаў Юзэф.— Ваш Камітэт.

— Камітэт ці Часовы ўрад Літвы і Беларусі?

— Пра гэта я таксама думаў,— сказаў Кастусь.— Але, вы ж ведаеце, Варшава і так вінаваціць нас у сепаратызме. Як на гэта глядзіць пасланец Часовага нацыянальнага ўрада?

Для Юзэфа такое пытанне было нечаканым: ні Падлеўскі, ні Бабpоўскі [1], якія выпраўлялі яго ў Вільню з важным даручэннем, пра гэта не гаварылі. Але, дабіўшыся ў сваёй місіі асноўнага, ён цяпер гатовы быў зрабіць некаторую ўступку і Вільні. Што ж, няхай слова «камітэт» будзе заменена на «ўрад». Няхай сабе да Літвы будзе дада-

[1] Падлеўскі Зыгмунт і Бабpоўскі Стэфан — кіраўнікі польскай партыі чырвоных, члены Польскага нацыянальнага камітэта.

дзена і Беларусь. Папраўкі гэтыя вялікіх змен у справу не ўносяць. Але выкінуць слова «правінцыяльны» — не, не!.. Ні ў якім разе! Так можна дагаварыцца і да самастойнай Літоўска-беларускай дзяржавы.

І Юзэф стаў гарою за гэтае слова. Нехаця Кастусю з Малахоўскім давялося пайсці на згоду.

Пасля гэтага сходу Юзэф Пятроўскі са спакойным сумленнем пакінуў Вільню.

## II

Зіма-чараўніца раскашалася на палях і ў лясах. Пуховымі пярынамі заслала горы і долы, бялюткаю ватаю абсыпала разлапістыя яліны і хвоі, серабрыстым інеем павісла на дубах і клёнах.

Ніштo, здавалася, не парушала соннага спакою дрымучай Белавежы. Зрэдку хіба рыжая вавёрка мільганецца між ялін або стракаты дзяцел забарабаніць па сухой кары, пачуўшы спажыву. Глыбокі снег спыніў дальнія пераходы жыхароў пушчы. Зубры і ласі цяпер больш адлежваліся ў зацішных гушчарах, ваўкі шнырылі начамі па ўзлесках, бліжэй да чалавечага жылля: высачыць пад глыбокім снегам зайца ці курапатку было нялёгка.

І толькі на ўскраіне пушчы, у Саўкавай леснічоўцы, жыццё ішло сваім ладам. Тут па-ранейшаму друкавалася «Мужыцкая праўда». Тут сустракаўся Валерый Урублеўскі з Феліксам Ражанскім і Станіславам Сангіным [1]. Сюды ж позняй восенню вярнуўся і Язэп. Турэмны фельчар Станіслаў Шпакоўскі прыдумаў яму нейкую страшную хваробу і палажыў у гарадскую бальніцу. Адтуль, пераапрануўшыся, Язэп і махануў да свайго добрага гасціннага сябра Саўкі. А ў апошнія дні ў Саўкаву леснічоўку траплялі і тыя, каго цар збіраўся загнаць на дваццаць гадоў у ваенныя казармы. Сярод іх быў і добры Язэпаў знаёмы — Пятрок, хлапец з рассечанаю шчакою з маёнтка пана Жардзецкага. Пасля таго як пан загнаў у астрог самага сумленнага і справядлівага свайго парабка дзядзьку Рыгора, а потым і няшчаснага сірату Язэпа, Пятрок не знаходзіў сабе месца. Яму хацелася хоць чым адпомсціць пану і яго ціўуну. Дракула ведаў і адчуваў на кожным кро-

[1] Станіслаў Сангін — дробны чыноўнік з мястэчка Сямяцічы, член Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі.

ку, як ненавідзіць яго гэты малады светлавалосы парабак, і яшчэ больш чапляўся да яго. І калі аднойчы нехта папацёмку добра-такі агрэў цівуна разы са тры ніштаватым дручком, ён рашыў, што гэта Петракова работа. Пан ужо збіраўся загнаць у астрог і яго, ды пачаўся набор рэкрутаў. І пан прыгразіў Петраку, што рэкруцтва яму не мінуць. Але хлопцу пашанцавала: замест ваеннай казармы ён, пасля нядоўгага блукання па ваколіцы, трапіў да Саўкі, дзе і сустрэў Язэпа.

Саўкава хаціна і ўсе прыбудоўкі даўно ўжо сталі цесныя для яго шматлікіх гасцей. Ды і не пратрымаў бы ён іх, каб не Валерый з Феліксам: яны не пакідалі беглякоў у бядзе.

Вось чаму, калі Валерый атрымаў маніфест Часовага ўрада Літвы і Беларусі і загад аб паўстанні, ён перш-наперш падумаў пра Саўкаву леснічоўку: цяпер яна можа стаць добрым прытулкам як для беглых рэкрутаў, так і для паўстанцаў. Другое месца ён даўно ўжо аблюбаваў недалёка ад Саколкі: бліжэй да сваёй школы і людзей гарадскіх.

Але з чаго ж пачынаць?

Валерый, як і ваенныя кіраўнікі паветаў і акруг, яшчэ далёка не ўсё прадумаў, з кім і з чым ён пойдзе на паўстанне. Збіраць атрады загадзя ён не мог, адкладваў гэта на вясну.

У Валерыя быў невялікі запас грошай — сваіх і перададзеных яму Заблоцкім для розных патрэб. З іх ён і рашыў пачынаць. Пакінуўшы школьныя справы свайму пісару, Валерый падаўся да знаёмых кавалёў Саколкі і суседніх мястэчак і заказаў ім некалькі сот кінжалаў. У знаёмых крамнікаў ён скупіў усе косы і паляўнічыя стрэльбы і тайком пераправіў іх у Саўкаву леснічоўку. Заставалася набыць яшчэ сваю, хоць невялікую кузню, але ўсе грошы былі патрачаны, і ён спешна выехаў у Гродню да Эразма Заблоцкага.

Эразм сустрэў Валерыя з радасцю. Ён толькі што вярнуўся з сваёй будаўнічай камісіі.

— А я ўжо, браток, не раз успамінаў цябе,— гаварыў ён, вітаючыся.— Збіраўся ўжо даваць аказію, каб прыязджаў. Важныя справы пачынаюцца.

— Ну, пра важныя справы то я ведаю,— адказваў Валерый.— Але нам цяпер трэба больш займацца няважнымі — будзённымі.

— Не ўсё ты ведаеш,— сказаў Эразм.

Ён адамкнуў невялічкі жалезны куфэрак, што стаяў на старэнькай цёмнай камодзе, і дастаў адтуль некалькі лістоў, спісаных роўным дробным почыркам.

— Вось апошняя пошта яго правасхадзіцельства нашага любімага фон Галера...

— Табе ўсё яшчэ прысылаюць яе,— усміхнуўся Валерый.— Выходзіць, ты ў фон Галера важная шышка.

— Ды ўжо ж, свет не без добрых людзей. Не забываюць, дзякуй ім.

Эразм выйшаў на кухню ставіць самавар, а Валерый заняўся праглядам апошняй губернатарскай пошты.

Першы з губерні адгукнуўся на паўстанне беластоцкі спраўнік Загаранскі. Сакрэтна па эстафеце [1] ён перадаваў:

«З 10 на 11 чысло бягучага генвара [2] месяца позна ўночы шматлікі натоўп невядомых людзей, узброеных пікамі, косамі і рознай іншай жалезнай зброяй, прыбыў з шумам і крыкам з Царства Польскага ў заштатны прыгранічны горад Сураж...»

— О, сапраўды важная справа! — усклікнуў Валерый, прачытаўшы першыя радкі эстафеты.— Рад вітаць суседзяў на роднай Гродзеншчыне. Калі ласка, з прыемнасцю запрашаем!

— Ты вось радуешся,— адгукнуўся Эразм з кухні праз адчыненыя дзверы,— а Галера, нябось, жывот хапіў ад такой эстафеты.

— Жывот — гэта мала, не шкодзіла б, каб яго чорт схапіў ды ў пекла завалок!

— Але гэта ўжо, браток, наш клопат будзе, а не суседзяў. Чытай, чытай, там і пра нашага Сангіна гаворка ідзе. Так што мы ўжо, можна сказаць, братаемся з суседзямі...

Далей спраўнік расказваў, як камандзір 7-й роты 2-га батальёна Лібаўскага пяхотнага прынца Карла прускага палка капітан Малюга сустрэў оны [3] натоўп у баявым парадку, але пасля невялікай сутычкі вымушаны быў уцякаць у вёску Растолы... Страты: два радавыя і адзін барабаншчык. Пацярпелі заадно ротны цэйхгауз [4] і пажыткі ротнага камандзіра. Праўда, цешыў свайго начальніка бе-

---

[1] Эстафета — пошта, якая дастаўлялася знарочыстымі пасыльнымі, звычайна верхавымі.

[2] Генвара — января, студзеня.

[3] Оны — гэты.

[4] Цэйхгауз *(ням.)* — рэчавы склад.

ластоцкі спраўнік, «памянутая мяцежная шайка каля 4-х гадзін раніцы накіравалася назад у Царства Польскае».

Усхваляваны Валерый закурыў папяросу і, ахкаючы ад задавальнення, пачаў чытаць новы губернатараў сакрэт — рапарт брэсцкага гараднічага Зайчыкава.

Перапалоханы да смерці гараднічы скардзіўся, што натоўп паўстанцаў напаў на цэлы артылерыйскі парк у мястэчку Кодна, побач з Брэстам, і «абяззброіў усіх ваенных чыноў, забраў казённую скрынку з грашыма, а салдат, якія спрабавалі абараняцца, перабіў і што гэты натоўп быў узброены як агнястрэльнай, так і халоднай зброяй».

— Таксама нядрэнны пачатак,— пахваліў Валерый.— Значыць, праўду кажуць: «Смеласць гарады бярэ». Адны смелыя захапілі Сураж, няхай сабе хоць на пэўны час, а другія цэлы артылерыйскі склад разматлашылі. Хто ж гэта там у іх верхаводзіць?

— Гэта я ўжо ведаю,— адказаў Эразм, вярнуўшыся з кухні.— Маем вестку ад Станіслава. Перадаваў, што выступаў разам з Раманам Рагінскім і Уладзіславам Ціхорскім — абодва з Царства. Ды ты чытай, чытай далей.

Валерый зноў шпарка забегаў вачыма, на гэты раз па рапарце бельскага земскага спраўніка Лаварка.

— Глядзі ты,— не ўстрымаўся Валерый, каб не падзяліцца сваёй радасцю з Эразмам,— аж чатырнаццаць рэкрутаў адбілі! А якога жаху нагналі на калейчыцкага міравога пасрэдніка. Добра. Вельмі добра.

— А ты далей, далей чытай,— напамінаў Эразм.

— Ды тут усё, брат, цікава. Ага, у Сямяцічах таксама рэкрутаў адабралі і, глядзі ты, чыталі народу маніфест! Ты толькі паслухай:

«Прыстаў 2-га стану данёс, што партыя мяцежнікаў, прыбыўшы ў маёнтак Рудку, дзе, сабраўшы народ, прачытала нейкі маніфест і спаліла ўсе паперы і справы тамтэйшага валаснога праўлення...» Іменна трэба паліць усе іхнія чорныя справы,— усклікнуў Валерый.— Дарэчы, я спаліў бы іх разам з маёнткамі...

— Ого! — Эразм падняў указальны палец...— А пункт пяты маніфеста чытаў?

— Чытаў. Уяўляю, з якім душэўным болем згадзіўся з ім Кастусь.

— Я думаю. Ды што зробіш. Затое бачыш: мы яшчэ толькі ў паход збіраемся, а нашы суседзі ўжо вунь якога страху нагналі на сваіх ворагаў.

Валерый задумаўся.

— Так-то яно так,— сказаў ён праз нейкі час.— Але, здаецца, мне, што асноўны ўдар яшчэ наперадзе. Цяпер што — начальнікі разгублены, войскі распылены, а налёты робяцца знячэўку. Нам цяжэй будзе. Ну ды нічога, як кажуць расіяне: «Лиха беда — начало». Добра. А цяпер паглядзім, што там у Сямяцічах.

«Пры гэтым гонар маю, ваша правасхадзіцельства, далажыць,— працягваў чытаць Валерый,— што шайкі мяцежнікаў штодзённа з'яўляюцца, асабліва начамі, блізка ад горада Бельска, у лясах па дарогах, якія вядуць да Драгічына, Цэханаўцы і Сямяціч... і не дапускаюць ніякіх афіцыйных зносін з горадам Бельскам...» Ого,— прыемна здзіўляўся Валерый.— Ды яны там атакуюць па ўсіх правілах ваеннага майстэрства: перагарадзілі дарогі, адрэзалі гарнізоны... «А ад прыстава 4-га стану ніякіх данясенняў,— чытаў Валерый далей,— да гэтага часу не атрымана па той жа самай прычыне (значыць, загналі прыстава ў кут!), бо, як дайшло да майго ведама, мяцежнікі размясціліся і ў маёнтку Сямяцічы, да іх далучаецца шляхта, асабліва з вёсак 3-га і 4-га станаў даверанага мне павета...»

Валерый палажыў рапарт на стол і зноў закурыў.

— Ну бачыш, што робіцца,— глянуў ён на Эразма. — Да паўстанцаў з Царства далучаюцца нашы гродзенскія сяляне са сваім важаком — нашым сябрам Станіславам. Вось што для нас самае важнае ў гэтым рапарце. Скажу табе, гэта добры пачатак. Не паны далучаюцца да паўстанцаў, а дробная шляхта і сялянскі люд. Гэты рапарт трэба зараз жа паслаць Кастусю. Няхай парадуецца разам з намі.

— Я, між іншым, таксама пра гэта падумаў,— сказаў Эразм.— Ну, што ў цябе, расказвай.

Валерый расказаў, што ён паспеў зрабіць у Саколцы і яе ваколіцах. Зараз яму патрэбна свая кузня. Яе можна паставіць у Саўкавай лесНічоўцы, куды ён пераправіў косы са стрэльбамі. Але ён застаўся без грошай.

— Грошай мы табе падкінем,— паабяцаў Эразм.— Цяпер мы іх збіраем больш: налажылі падатак на кожны маёнтак. Гэта, здаецца, усё, чым зараз могуць быць паны карысны. Пытанне перад імі ставіцца крута: іменем Часовага польскага ўрада... Не згодзен — ідзі пад суд.

— Нарэшце-такі пачынаем гаварыць з панамі на зра-

зумелай ім мове,— сказаў Валерый.— Цяпер нас будзе ратаваць толькі строгая ваенная дысцыпліна. А што робіцца ў паветах? Я думаю, збіраць атрады з усяе губерні пакуль што няма патрэбы. Няхай кожны выступае самастойна, па-партызанску. Чуў такое слова?

— Чуў.

— Французскае. Яно мне падабаецца. Нашы суседзі з Царства, як відаць з рапартаў, так і распачалі вайну: нечаканы ўдар і шпаркі выхад з бою. Мы ж не рэгулярная армія. Іншая рэч, што кіраваць атрадамі мусіць адзін цэнтр. Іх можна збіраць у кулак і распыляць па лясах і вёсках. Адным словам, кажучы моваю ваенных, манеўраваць.

Эразм выглянуў на кухню.

— Бацюхны! — пляснуў ён рукамі,— а пра самавар жа я і забыўся... Ён там, відаць, выкіпеў да дна.

— Нічога,— усміхнуўся Валерый,— каб толькі нам цяпер тае бяды.

## III

Губернатар фон Галер усё больш траціў спакой. Куды толькі і падзелася яго фанабэрыстая самаўпэўненасць. Адчуваў ён сябе таксама блага: часта скардзіўся на сэрца і з трывогаю прыслухоўваўся да злавеснага шуму ў галаве. «Старэю,— з жалем думаў генерал.— Як-ніяк сёмы дзесятак... Ці не пара ўжо прасіць адстаўку?» Але тут жа адганяў ад сябе гэтую крамольную спакусу: што падумаюць пра яго там, у Пецярбурзе? Палічаць нікчэмным баязліўцам, калі не здраднікам. Пакінуць губерню, калі на яе заходніх граніцах ідзе ўжо крывавая вайна, і самому — у кусты! Гэтага там не зразумеюць і не даруюць.

З такімі невясёлымі думкамі губернатар даставаў з асабістага сейфа строга сакрэтныя рапарты і цыркуляры і каторы ўжо раз імкнуўся адшукаць у іх адказы на балючыя пытанні. Але колькі ні ўглядаўся ў свае паперы, нічога цікавага ў іх не знаходзіў. Міравыя пасрэднікі і самі ўладальнікі маёнткаў з усіх валасцей і паветаў слёзна моляць аб дапамозе: з таго часу як успыхнула паўстанне ў Царстве Польскім, мужыкі быццам згаварыліся — ні ўстаўных грамат не падпісваюць, ні на паншчыну не выходзяць. Што ж будзе цяпер з маёнткамі? А збяднеюць

паны — збяднее і губерня. Адзін ратунак — слаць салдат і казакоў. Але ж яны да зарэзу патрэбны для абароны гарадоў і мястэчак ад інсургентаў. На армію зараз уся надзея.

Губернатар з задавальненнем успамінае рапарт генерала Манюкіна аб тым, як ён нядаўна разбіў мяцежнікаў пад Сямяцічамі, а само мястэчка спаліў дашчэнту. Генерал, праўда, дабіўся поспеху не храбрасцю. Ён зрабіў выгляд, што збаяўся паўстанцаў, і паспешна адступіў ад мястэчка. Паўстанцы не разгадалі яго хітрасці, вырваліся ў адкрытае поле. А там сямі ротам генерала Манюкіна з артылерыяй і казацкімі эскадронамі ў прыдачу не цяжка было расстраляць людзей, узброеных аднымі кінжаламі ды паляўнічымі стрэльбамі.

Але ж такі пакуль што быў толькі адзін рапарт з поля бою. Іншыя не радавалі. І цяпер губернатару трэба, страшэнна пакутуючы, перапісваць ды перасылаць гэтыя рапарты па службовай лесвіцы ў Вільню і Пецярбург.

Найбольш, аднак, хвалявалі Галера сяляне. Гэта ж паўстанцы ўжо чытаюць ім свой маніфест! І яны, вядома ж, параўноўваюць яго з царскім.

Галер бярэ ў рукі надрукаваны на невялікім лістку паперы гэты страшэнны паўстанскі маніфест, прысланы яму з Вільні. Доўга ўглядаецца ў яго, стараючыся ўявіць, якое ўражанне ён можа зрабіць на мужыкоў. І міжвольна сам параўноўвае яго з царскім маніфестам. Цар абяцае мужыку поўную волю ад прыгону толькі тады, калі ён выкупіць свой надзел зямлі. Гэты ж крамольны паўстанскі маніфест дае тую ж волю адразу без жаднай адцяжкі і без жаднага выкупу і чыншу. Паўстанскі маніфест робіць мужыка роўным перад законам з панамі, мяшчанамі і ўсімі іншымі саслоўямі. У царскім маніфесце пра гэта няма і намёку...

І якой бы святыняй ні быў для Галера царскі маніфест, ён усё ж ловіць сябе на думцы, што мужык, калі даць яму волю для выбару, абедзвюма рукамі ўхопіцца за гэты крамольны маніфест... Ці не таму генерал-губернатар Назімаў у апошнім цыркуляры раптам стаў на абарону сялян ад злых паноў. Ён жа так і піша: пераканаўся, маўляў, што воінскія каманды пасылаліся для экзекуцыі ў маёнткі тых «паноў, якія сваім жорсткім абыходжаннем і рознымі празмернымі павіннасцямі ўзброілі супроць сябе сваіх сялян».

Як жа гэта разумець? — ломіць галаву Галер.— Яшчэ які месяц таму Назімаў лічыў усіх паноў анёламі, а ўсіх панскіх мужыкоў — бунтаўшчыкамі і мяцежнікамі. Адкуль жа такая нечаканая перамена?

Галер не ведаў яшчэ, што не сам Назімаў раптам перарадзіўся: такі цыркуляр губернатарам Паўночна-Заходняга краю параілі яму напісаць з самога Пецярбурга. Не дапусціць мужыка да мяцяжу, чаго б яно ні каштавала,— пра гэта перш за ўсё падумаў цар і яго міністры. Гэта рабілася ясным і Галеру. Але як утрымаць мужыка ў ранейшай пакоры? Нялёгка гэта зрабіць. Ой, нялёгка. А не ўтрымаеш — ён пойдзе да Яські з-пад Вільні, які, нібы калючая стрэмка, сядзіць у Галера ў пячонках. Значыць, хочаш не хочаш, а трэба нешта вырваць у паноў і падкінуць мужыкам, каб супакоіць іх. Трэба будзе напісаць пра гэта Назімаву.

Галер падышоў да сейфа і выняў папку са справамі «Мужыцкай праўды». Цяпер, думаў ён, толькі ў гэтай папцы трэба шукаць адказу на пытанне, чаго хоча мужык. Генерал Манюкін можа спаліць яшчэ не адны Сямяцічы. Але ён не перапаліць усіх вёсак і сёл.

Апошні нумар «Мужыцкай праўды» ў губернатаравай папцы быў пяты. Але ж гэта не нумар, а сапраўдная парахавая бомба, падведзеная пад рэкруцкі набор.

«Дзецюкі! Мала таго, што з мужыка дзяруць на ўсякія падаткі астатнюю кашулю, мала таго што ніколі не можаш дабіцца да куска хлеба, а ўсё, што заробіш, аддаці мусіш чорт ведае каму і чорт ведае на што, мала таго, кажу, што жыццё наша горш сабачага,— но скажыце, мае мілeнькія, чы ёсць паміж намі хто лень [1], каб не аплакваў яшчэ альбо сваго сына, альбо сваго брата, альбо сваго мужа, што цар забраў яго ў рэкруты ды і загнаў чорт ведае дзе?»

— Тфу! — сплюнуў Галер.

Аднак адкінуць ад сябе Яськаву крамолу яму было нялёгка. Ён усё яшчэ спадзяваўся знайсці ў ёй той сакрэт, валодаючы якім можна адарваць мужыка ад гэтых інсургентаў і іх Яські.

Галер аж упацеў, пакуль дачытаў да канца, дзе ўпаміналася і яго асоба: «Так для чаго, дзецюкі, талкуйце добра і не давайцеся ашукваца. За мужыцкую праўду стой-

---

[1] Хто лень — хто-небудзь.

це смела, усе разам, і калі хто захоча крыўдзіць вас, выцягаці рэкрута, то, хто б ён ні быў, чы старшыня, чы акружны, чы хоць бы сам губернатар, то вы яго таўчэце мужыцкаю рукою. А будзе вольнасць, і рэкрута не будзе, і бог вам дапаможа! Так, дзецюкі, па добрасці да ладу не дойдзем».

Прачытаўшы апошнія словы, Галер адчуў, як яго і сапраўды нібы стукнулі па лысеючай галаве і тоўстым карку Яськавы дзецюкі.

Не, трэба знайсці Яську і знішчыць яго сакрэты разам з ім самім. Іншага ратунку няма. Але дзе яго шукаць? Лелякоў з Вітам перапрэслі ўсю губерню. І хоць бы след які. Знаходзяць толькі тых, хто чытае і пашырае гэтую друкаваную крамолу. А што, калі хто-небудзь з іх і ёсць сам Яська?

Галер зноў перабірае рапарты. З апошніх злоўленых чытачоў «Мужыцкай праўды» яго найбольш зацікавіў нейкі Іосіф Гарчак — былы студэнт Пецярбургскага універсітэта, высланы сталічнай паліцыяй у родную вёску, і яго хаўруснікі Мацвей Цюхна, Казімір Станкевіч і іншыя. Не прыснілася ж салдатцы Садкоўскай тое, пра што яна так красамоўна расказала на допыце аўдытару [1] Малыгіну: «Завуць мяне Агатай Францаўнай, а прызываюся Садкоўская. Ад роду мне 38 гадоў, веры рымска-каталіцкай, на споведзі і на святым прычасці штогод бываю, пад следствам і судом не была...»

— Ну што ж,— з прыемнасцю цмокае Галер тоўстымі губамі,— асоба як быццам не пустая. Можна ёй верыць. Праўда, пераказвае яна тое, што чула ад іншых. Нейкая Бакуновічыха казала ёй, што былы панскі лёкай Мацвей Цюхна з аканомам Падвысоцкім запісаліся ў мяцежнікі. А Маркевічава наймічка Казіміра расказвала, што Гарчак, Цюхна, пісар Паўловіч і Падвысоцкі збіраліся ў яе гаспадара начамі, нешта пісалі і чыталі нейкія паперы пра цара...

— Ды гэта ж яўныя доказы! — мільганула шчаслівая здагадка ў гарачай ад думак губернатаравай галаве.— Чаму ж іх да гэтага часу не арыштавалі? Чаго марудзяць? Студэнт Гарчак і пісар Паўловіч — ды яны ж не толькі «Мужыцкую праўду»,— цэлую кніжку пра цара напісаць

---

[1] Аўдытар — справавод або сакратар ваеннага суда з пракурорскімі правамі.

могуць! А падказвалі ім, як пісаць, пэўна ж, Цюхна з Падвысоцкім. Яны ж добра ведаюць і простую мужыцкую мову, і мужыцкія думкі...

Праўда, сама Маркевічава наймічка на допыце паказала нешта іншае: быццам Падвысоцкі прыходзіў да яе гаспадара купляць нейкія цесныя самому гаспадару боты, а для чаго прыходзіў пісар Паўловіч — не ведае. Ну, ды такія недакладнасці на допытах бываюць. Вінаваты тут, відаць, аўдытар Малыгін, які не зусім умела вёў справу. Ды і сведкі допыту нішто сабе гусі: генерал-маёр Абрамовіч, корпуса жандараў капітан Шпэер, земскі спраўнік Сушынскі, акруговы начальнік Сакалоў... Цэлая світа, а куды глядзелі! Усё самому трэба ўбачыць і ткнуць носам... Вось хоць бы справа з Каліноўскім. Колькі месяцаў ловяць, а ён як зачараваны. А што, калі ён не звычайны Каліноўскі, а той самы няўлоўны Яська з-пад Вільні? Весткі, якія ўдалося сабраць пра яго, насцярожваюць. У Пецярбурзе ён сябраваў са студэнтамі з Царства Польскага. Быў у іх траха не галоўны завадатар. Гэта не так сабе. А вярнуўся — дома і не стыкаецца. Нідзе не служыць. Бацька нічога пра яго не ведае. І нагляд за Якушоўкай нічога не дае. Позняй восенню, праўда, заявіўся быў на радзіму, але, пакуль жандарскі віж данёс пра гэта свіслацкай паліцыі, яго і след прастыў. Галер і цяпер не можа даравапь такога промаху свайму недалёкаму віжу. Патрэбна была яму паліцыя? Не мог ён ціха, без шуму, пачакаць, калі Каліноўскі пакіне Якушоўку, і прасачыць, куды паедзе. А цяпер вось ламі галаву, чакай новага выпадку. Ды ўрэшце невядома, за кім і ганяцца — кола мяцежнікаў, якія чытаюць мужыкам іх лісткі, усё пашыраецца.

Галер са злосцю закрыў папку. «А Гарчака гэтага з яго кампаніяй варта ўсё ж ператрэсці да костачак,— рашыў ён.— Трэба паслаць туды каго спраўнейшага».

Галер падышоў да дзвярэй, прачыніў іх і паклікаў сакратара.

## IV

Тым часам, пакуль Валерый і яго сябры збіралі першыя паўстанскія атрады, у Варшаве і Вільні адбыліся немалыя змены.

Разлад паміж белымі і чырвонымі, які цягнуўся гадамі, успыхнуў з новаю сілаю. Але каб ясней зразумець яго, нам давядзецца яшчэ раз вярнуцца да гісторыі, хоць бы нядаўняй.

Польская дзяржава, так званая Рэч Паспалітая, якая вякамі не ладзіла з Расіяй, захапляла яе землі на поўдні і захадзе, у канцы васемнаццатага стагоддзя сама стала здабычаю трох суседніх дзяржаў — Аўстрыі, Прусіі і Расіі. Расія вярнула свае старыя ўскраіны, а праз некаторы час пасадзіла царскага намесніка і ў Варшаве — Каралеўстве, або, як яго звалі рускія, Царстве Польскім: яно стварылася пасля выгнання Напалеона з Польшчы, з часткі былога Варшаўскага герцагства. Заходнія і паўднёвыя ваяводствы Рэчы Паспалітай адышлі да Прусіі і Аўстрыі.

Такая была старая гісторыя Польшчы.

Пачалася новая гісторыя. Ці трэба казаць, што страта сваёй дзяржавы дужа засмуціла палякаў — багатых і бедных. Над іхняй айчынай навіслі цёмныя хмары.

Не меншая роспач ахапіла і самых шчырых служак рымска-каталіцкага касцёла — польскіх ксяндзоў. Стагоддзямі яны па загаду рымскіх папаў ірваліся на ўсход услед за легіёнамі польскіх каралёў і магнатаў. Крывавым мечам і святым крыжам акаталічвалі і апалячвалі літоўцаў, беларусаў, украінцаў. І паспелі зрабіць нямала.

І вось усё гэта рушылася. Магутны касцёл, які кіраваў у свой час нават самімі каралямі, траціў сваю былую сілу і славу. Як тут было не сумаваць ксяндзам па Рэчы Паспалітай.

Першую спробу вярнуць сваю дзяржаву палякі зрабілі адразу ж пасля другога раздзелу Рэчы Паспалітай — у 1794 годзе. Яна не прынесла перамогі. Але само паўстанне і яго славуты правадыр Тадэвуш Касцюшка пакінулі глыбокі след у сэрцах усіх палякаў, хоць яны і па-рознаму да яго ставіліся.

Паплылі трывожныя гады. Польшча дзялілася і перадзельвалася. Суседнія цары разрывалі яе жывое цела. І чым больш намагаліся палякі вырвацца з замежнага ярма, тым больш працівіліся гэтаму заваёўнікі.

Але пажар, раздзьмуты Тадэвушам Касцюшкам, не згас да рэшты: іскры яго тлелі і разгараліся. І ў лістападзе 1830 года ўспыхнулі з такою сілаю, што царскай Расіі давялося праваявайць траха не цэлы год, каб іх пагасіць.

І так няўдача за няўдачай. Толькі новыя слёзы і па-

куты для народа: тагачасны цар Мікалай I быў бязлітасны да тых, хто яго не слухаў. Дзесяткі тысяч змагароў за сваю бацькаўшчыну пакінулі яе, ратуючыся за межамі краіны, другія трапілі ў Сібір на катаргу... Каралеўства Польскае страціла апошнія рэшткі былой самастойнасці.

Такія ж няўдалыя былі і паўстанні супроць Аўстрыі і Прусіі.

Дзе ж прычыны няўдач? — моцна задумаліся палякі.

Адны наракалі на замежныя дзяржавы — Францыю і Англію: яны не дапамагалі ім асіліць самага магутнага іх ворага — рускага цара. Іншыя лічылі, што на паўстанне трэба падымаць увесь народ — і шляхту, і халопаў, і гараджан. Тады будзе поспех. Князі і магнаты з імі не згаджаліся. Калі даць зброю халопам і гарадской галоце, то яшчэ невядома, у каго яны будуць страляць і каго рэзаць. Ды так жа яно і было ў Аўстрыйскай Галіцыі, дзе ў 1846 годзе халопы перабілі і перарэзалі траха не ўсіх сваіх паноў... Не, не,— адмахваліся яны,— не дай бог клікаць на паўстанне гэтае быдла! Вялікай польскай справы яно не разумее і ніколі не зразумее. Нават самыя спрытныя ксяндзы не здольны ўталкаваць ім, за што яны мусяць змагацца.

Не, шаноўныя панове,— пярэчылі ім іншыя.— Просты народ пойдзе здабываць для сваёй айчыны волю, калі сам стане вольны. Для гэтага трэба ў самім Каралеўстве знішчыць паншчыну, даць мужыкам зямлю без выкупу і не лічыць іх за рабочае быдла. Тады яны будуць страляць і рэзаць не сваіх паноў, а чужаземных салдат і чыноўнікаў. Воля, роўнасць і братэрства,— вось тая сіла, якая аб'яднае ўвесь народ і павядзе яго на бой за вызваленне бацькаўшчыны. Прыклад таму — першая французская рэвалюцыя.

Так паступова размежаваліся паміж сабою дзве польскія партыі: партыя белых і партыя чырвоных. Важаком першай за межамі Польшчы стаў багаты магнат князь Адам Чартарыскі, другой — генерал Людвіг Мераслаўскі. Абодва яны пасля другога няўдалага паўстання жылі ў Парыжы як эмігранты[1], адкуль і рыхтавалі новае паўстанне. У самой Варшаве белыя стварылі вышэйшы свой орган — Дырэкцыю, а чырвоныя — Цэнтральны нацыянальны камітэт.

---

[1] Эмігранты — людзі, якія вымушаны або па добрай волі перасяляюцца ў чужыя краіны.

Да ладу белыя з чырвонымі так і не прыйшлі. Сёння той ці іншы паляк лічыў сябе чырвоным, а назаўтра раптам бялеў. Або наадварот. Былі чырвоныя, якія бялелі, і белыя, якія чырванелі. Адны белыя выступалі за паўстанне, іншыя баяліся яго, як чумы. Былі ў партыях правыя і левыя. Было нямала і асобных груп і дробных партый і таварыстваў. І што ні галава, то розум: кожны лічыў, што толькі ён ведае сакрэты і можа даваць разумныя парады, як выратаваць Польшчу.

Нямала было і такіх паноў, што дапамагалі цару трымаць у пакоры свой народ. Найбольшым халуйствам сярод іх вызначаўся маркіз Аляксандр Велярольскі. Займаючы высокія пасады пры царскім намесніку ў Варшаве, ён рабіў усё, каб зблізіць белых з рускім урадам і не дапусціць паўстання. Праўда, белыя ўсё ж не пайшлі за ім, бо хацелі адабраць у цара не толькі сваё Каралеўства, а і ўсходнія землі — Літву, Беларусь і правабярэжную Украіну. А на гэта без вайны цар не згадзіўся б. І калі на пачатку 1861 года па ўсім Каралеўстве Польскім шырока, як вясенняя паводка, разліліся маніфестацыі супроць рускага цара і яго парадкаў, белыя пастараліся схавацца ў цень, саступаючы дарогу чырвоным, падахвочваючы іх з-за вугла: давайце, маўляў, панове, бунтуйце, а мы вам, калі дойдзе да справы, паможам. Вам, чырвоным, няма чаго траціць. А мы, калі высунемся наперад, то пры няўдачы рызыкуем і галовамі і маёнткамі. Рынуцца ў бой Адам Чартырскі збіраўся тады, калі можна будзе без рызыкі захапіць уладу і абвясціць сябе новым польскім каралём. А гэта можа стацца, калі застрашаны паўстаннем рускі цар сам пакіне Каралеўства або яго прымусяць зрабіць гэта Францыя і Англія. Бо хіба ж нявыгадна ім мець паміж моцнай Расіяй і сваімі дзяржавамі вернага і лагоднага сябра — Каралеўства Польскае?

Стары князь Адам Чартарыскі ўлетку таго ж года пакінуў гэтую грэшную зямлю. Намеснікам яго стаў малодшы сын Уладзіслаў.

Калі пачалося паўстанне, то выявілася, што самым непажаданым сапернікам белых стаў генерал Мераслаўскі: ён даў згоду чырвонаму Часоваму польскаму ўраду заняць пасаду дыктатара і галоўнакамандуючага паўстаннем і ўжо збіраўся са сваімі прыхільнікамі-эмігрантамі выехаць на радзіму. Праўда, сярод чырвоных Мераслаўскі не вызначаўся асаблівай рэвалюцыйнасцю. Часта не згаджаўся

і спрачаўся з Нацыянальным камітэтам. Але ўжо тое, што ён збіраўся заклікаць на паўстанне гарадскіх рамеснікаў і нават мужыкоў, дужа перапалохала малодшага Чартарыскага і яго сяброў з Дырэкцыі. Пры ўдачы ён, чаго добрага, можа не толькі вызваліць Каралеўства ад рускага цара, а і ад польскіх паноў і магнатаў...

У Нацыянальным камітэце, які абвясціў сябе ўжо Часовым урадам, не было згоды, як і ў саміх партыях.

Побач з левымі чырвонымі там засядалі правыя чырвоныя або тыя, якіх падсунулі ўраду белыя. Былі там людзі шчырыя, разумныя, былі і пустыя крыкуны. Але ўсе яны, калі дайшло да справы, стаялі на адным: Польшча павінна аднавіцца ў старых межах. Літва, Беларусь, Украіна — не рускія, а польскія землі... Так было да падзелу Польшчы, так мусіць заставацца і ў новай, вызваленай ад рускага цара айчыне. Таму гэтыя землі, як польскія правінцыі, мусяць таксама паўстаць па загаду з Варшавы.

Маніфест Часовага ўрада не ўзрадаваў белых — ні ў самой Польшчы, ні на яе ўскраінах: ім зусім не хацелася даваць сваім халопам роўныя правы і надзелы зямлі без выкупу. Вырваць у польскага пана ўступку для прыгоннага мужыка было не лягчэй, чым костку з воўчых зубоў. А тут глядзі, як размахнуліся чырвоныя з Часовага ўрада! Што ж будзе, калі ім пашанцуе ўзяць верх і захапіць уладу ў свае рукі? Не, так справа не пойдзе! — рашылі белыя. Цяперашні Часовы ўрад з гэтым адчайным і безразважным ваякам Мераслаўскім можа сапсаваць усю справу нацыянальнага вызвалення, якую яны вядуць дзесяткі гадоў.

А тут якраз і саюзнікі белых заварушыліся: прыслалі ноты Расіі. Белым здавалася, што яны вось-вось услед за нотамі пашлюць і свае легіёны. Значыць, пара выходзіць з ценю на святло, каб не прапусціць дзяльбы пірага.

І белыя рынуліся ў адкрыты бой.

Не паспеў дыктатар чырвоных Мераслаўскі перайсці граніцу, як трапіў у атрад свайго ворага багатага пана Мяленцкага, і той вымусіў яго вярнуцца назад, ні слова не сказаўшы пра гэта Часоваму ўраду.

Тым часам, пакуль чырвоныя шукалі свайго дыктатара, белыя выкралі пячатку Часовага ўрада і напісалі намінацыю[1] свайму прыхільніку генералу Марыяну Лянге-

---

[1] **Намінацыя** — пасведчанне.

вічу на пасаду галоўнакамандуючага паўстання, абвясціўшы пра гэта ва ўсіх сваіх і замежных газетах.

Разгублены такім паваротам справы, Часовы ўрад вымушаны быў перадаць ваенную ўладу новаму дыктатару і прыняць у свой склад аднаго з членаў Дырэкцыі.

І зноў пачаліся ранейшыя спрэчкі, сваркі, інтрыгі...

Бязвольны і няздольны генерал Лянгевіч доўга не ўтрымаўся ў ролі дыктатара: пасля першых баявых няўдач уцёк у Аўстрыю, дзе і трапіў у рукі аўстрыйскай паліцыі.

А цяпер, зрабіўшы такое невялікае адступленне, зноў вернемся да нашых герояў.

У гэты самы час «пабялеў» і Нестар Дзюлеран — французскі паляк або польскі француз. Праўда, сам Нестар нарадзіўся ў Варшаве. Але продкі яго — французы. Таму і прозвішча ён меў не польскае, а французскае. «Пабялеўшы», Нестар нават хваліўся, што яго далёкія продкі былі самыя чыстакроўныя маркізы. Потым збяднелі. Але з кім чаго не бывае.

Дык вось гэты самы нашчадак французскіх маркізаў Нестар Дзюлеран, якога Кастусь выгнаў з Літоўскага камітэта і які шукаў спачування і заступніцтва ў Варшаве, раптам усплыў наверх. У сярэдзіне лютага ён вярнуўся з Варшавы.

Але, перш чым сустрэцца з непрымірымым сваім сапернікам, Нестар пачаў шукаць новых сяброў. І хутка знайшоў якраз таго, хто шукаў яго самога,— Якуба Гейштара, ковенскага пана, галаву літоўскага Камітэта белых.

Як і Нестар, Якуб Гейштар баяўся Каліноўскага за яго занадта вольныя думкі. Але пакуль што ён толькі пільна сачыў за ім, спадзеючыся на Серакоўскага, сваяка Франца Далеўскага. Серакоўскі, лічыў Гейштар, рана ці позна разыдзецца з Каліноўскім і прымусіць яго адступіцца ад хлопаманства. Што ні кажы, Серакоўскі — карэнны паляк, хоць і сапсаваны рознымі рэвалюцыйнымі фантазіямі Герцэна і Чарнышэўскага.

Белыя з гейштараўскага Камітэта рабілі перашкоды чырвоным, дзе толькі маглі. Паўстання яны баяліся, як агню. А калі яно пачалося, ставілі яму палкі ў колы. Яны добра ведалі, што Кастусь Каліноўскі не збіраецца гуляць у жмуркі. Яго апошняя інструкцыя паўстанскім камандзірам ясна гаварыла, на каго ён збіраецца абапірацца і якое паўстанне рабіць. У пункце восьмым інструкцыі так

і запісана: «Найбольш вядомых прыгнятальнікаў сялян для прыкладу караць смерцю па рашэнню ваеннага суда перад сабраным сельскім народам, не дапускаючы самачыннай расправы».

Але ж гэта значыць, што давядзецца павесіць і самога Гейштара, і графа Стажэнскага, і графа Плятэра...

А тут і ў Царстве Польскім белыя заварушыліся. Такую вестку прывёз Гейштару граф Стажэнскі, які трымаў сувязь з белаю Варшаваю.

І Гейштар працягнуў руку Дзюлерану з такой жа надзеяй, як і Дзюлеран Гейштару. Цяпер яны думалі адну думу: узяць паўстанне ў свае рукі і павесці яго так, як ім выгадна.

Набраўшыся храбрасці, Нестар Дзюлеран запрасіў на канспіратыўную[1] кватэру Якуба Гейштара і членаў Літоўскага правінцыяльнага камітэта.

Да Кастуся ўжо дайшлі чуткі пра змены ў Варшаве. Але ён не думаў, што яны закрануць так глыбока і іх Камітэт, і ўсю справу паўстання ў Літве і Беларусі. Пакуль ён быў гаспадар у Камітэце, усё ішло па яго жаданню і разуменню: атрады папаўняліся мужыкамі і збяднелымі шляхціцамі-засцянкоўцамі, начальнікі атрадаў, а таксама дзесяткаў і сотняў падбіраліся з людзей, якія менш думалі пра новага караля для Польшчы, а больш клапаціліся аб простых людзях. Словам, Кастусь са сваімі аднадумцамі рыхтаваў к вясне шырокую народную вайну.

Нестар Дзюлеран на гэты раз гаварыў мала. Ён паказаў членам Камітэта сваю новую намінацыю і загад Варшавы пра замену Літоўскага правінцыяльнага камітэта Аддзелам, што кіруе правінцыямі Літвы.

Калі ашаломленыя члены Камітэта азнаёміліся з гэтымі дакументамі, Нестар, кашлянуўшы для важнасці, дадаў:

— Воляю і высокімі правамі, дадзенымі мне Варшавай, я абвяшчаю Літоўскі правінцыяльны камітэт распушчаным. Слова для агалашэння складу членаў новага Аддзела даю майму сябру Якубу Гейштару — старшыні Камітэта партыі белых на Літве.

— Гэта што — не жарты, грамадзянін Дзюлеран? — запытаўся Кастусь, густа пачырванеўшы.

---

[1] Канспірацыя — тайная, падпольная дзейнасць супроць урада.

— Гэта, як бачыце, зусім сур'ёзна, грамадзянін Каліноўскі,— холадна адказаў Нестар.— Спадзяюся, на гэты раз вы будзеце больш далікатны...

— Ды ўжо ж, бачу,— сказаў Кастусь.— Гані вас у дзверы, дык вы праз акно лезеце...

Яму хацелася зноў зрабіць з Нестарам так, як ён зрабіў увосень. Але ж цяпер разам з ім трэба выкідаць і Гейштара. А гэта ўжо яму не пад сілу: становішча рэзка змянілася.

Перш чым абвясціць склад членаў Аддзела, Якуб Гейштар доўга чысціў белаю хустачкаю нос і губы, аблізваўся. Нарэшце выставіў перад сабою невялікую паперку і сказаў:

— Па згодзе з галоўным камісарам Часовага ўрада, у Аддзеле, што кіруе правінцыямі Літвы, прызначаюцца наступныя асобы.— Ён прачытаў прозвішчы ўсіх членаў свайго Камітэта.— Абавязкі паміж сабою мы размяркуем самі. Быломý Літоўскаму правінцыяльнаму камітэту прапаную здаць мне пячатку, спісы арганізацыі і грашовую справаздачу.

Сказаўшы гэта, Гейштар сеў на сваё крэсла і ўтаропіўся ў Кастуся: ну што, маўляў, ты цяпер запяеш?

Кастусь адвёў вочы ўбок: яму так і карцела пусціць у ход не словы, а кулакі. Але ён стараўся сцішваць гнеў, каб не даць лішняй прычыны радавацца сваім ворагам.

Першы падняўся з крэсла Малахоўскі — паўстанскі начальнік Вільні. Нечаканы ўдар па Камітэце яго ўзрушыў гэтак жа моцна, як і Кастуся.

— Дык што ж,— са злосцю загаварыў ён,— выходзіць, справу сваю мы мусім перадаць контррэвалюцыйным памешчыкам — пану Гейштару і яго белай кампаніі?

Нестар замахаў на яго рукамі:

— Чаму памешчыкам, грамадзянін Малахоўскі! Мы не збіраемся скасаваць партыю, да якой належу і я сам.

— Належаў...— паправі́ў яго Малахоўскі.

— Мы пойдзем разам за вялікую нашу польскую справу...

Гейштар спыніў іх:

— Зараз, панове, не да спрэчак — хто белы, хто чырвоны. Айчына патрабуе ад нас усіх нацыянальных сіл і сродкаў. І мы не можам даверыць паўстанне тым, хто рыхтуе вайну паміж саслоўямі нашай адзінай нацыі. Назваць нас контррэвалюцыянерамі могуць толькі людзі, якім не

дарагія святая айчына і святая вера нашых бацькоў і дзядоў.

Кастусь слухаў Гейштара і яшчэ больш пераконваўся, што не лёс айчыны хвалюе яго, а ўласны маёнтак. Адчуўшы блізкую пагрозу гэтаму маёнтку, ён і кінуўся ў бойку.

Калі Гейштар выгаварыўся, Кастусь папрасіў у Нестара слова.

— Грамадзяне і панове,— пачаў ён, усё яшчэ стрымліваючы сваё абурэнне на Гейштара і яго памагатага Нестара Дзюлерана.— Тое, што мы зараз пачулі, не лезе ні ў якія вароты. Гэта сапраўды здрада нашай рэвалюцыі, як бы пан Гейштар тут ні апраўдваўся. Самая рэвалюцыйная, самая перадавая партыя чырвоных становіцца слугою тых сіл, якія баяцца сапраўднага паўстання, імкнуцца звесці яго на нішто. Цяперашні Часовы ўрад баіцца святла, баіцца вынесці вялікую гістарычную спрэчку з заваёўнікамі сваёй радзімы на суд усяго народа.

Кастусь спыніўся, задумаўшыся. Потым страсянуў цёмна-русаю чупрынаю, рашуча сказаў:

— Калі вы, пан Гейштар, і ваша партыя шчыра заклапочаны справамі паўстання, ідзіце да нас з адкрытаю душою, без каменя за пазухаю. Мы пацісне́м вашу руку, калі яна не заплямлена крывёю вашых прыгонных людзей. Але мы ніколі не згодзімся на старыя парадкі. Век рабства адыходзіць у нябыт беззваротна. Нават амерыканскія негры рвуць ланцугі, якімі былі скуты вякамі.

— Я не разумею вас, пан Каліноўскі! — захваляваўся Гейштар.— Хіба ж мы, памешчыкі літоўскіх і беларускіх земляў, выступаем супроць скасавання прыгону! Ды мы першыя адгукнуліся на заклік цара. Нарэшце, мы не супроць і маніфеста Часовага ўрада Польшчы, які ідзе далей царскіх міласцяў і, як вам вядома, не за ваш, а за наш кошт. Навошта ж вы нас абражаеце?..

— Вы добра разумееце, пан Гейштар, аб чым ідзе гаворка,— адказаў Кастусь.— І міласці царскія, і міласці панскія — гэта яшчэ толькі сухая скарынка жабраку, а не воля. Я кажу аб мільёнах людзей, якія або зусім не маюць па вашай міласці кавалка сваёй зямлі або мусяць атрымаць зараз абрэзаны вамі, панамі, абсмактаны пусты надзел часам самай горшай няўдобіцы. Вы, пан Гейштар, ведаеце гэта лепш за мяне, бо яшчэ нядаўна выклікалі рускіх казакоў у свае маёнткі хвастаць нагайкамі і розгамі сваіх людзей... Хіба ж могуць вашы прыгонныя даверыць

вам свой лёс зараз, у грозныя гадзіны сваёй гісторыі? Спачатку вы хоць абрэжце кіпцюры, якімі здзіралі скуру са сваіх прыгонных... Тады, можа, яны вам і паверацъ, што вы хочаце ім дабра, і пойдуць за вамі.

Гейштара пачынала калаціць.

— Даволі, пан Каліноўскі! — выгукнуў ён не сваім голасам.— Хопіць! Я сказаў ясна: спрэчак з вамі весці мы не збіраемся...

— А што — ваяваць збіраецеся? Яшчэ чаго не хапала!

— Не ваяваць, а раскрыем вашы імёны ў друку! Выбірайце: або згода, і мы пойдзем на паўстанне разам з вамі, або — царская пятля... А калі не царская, дык наша — за здраду...

— Вось да чаго дайшло! — задрыжаў Кастусь.— Дык ведайце, белыя панове, што цар і без вас даўно падрыхтаваў мне і маім сябрам пятлю. Так што гэтым мяне не запалохаць!

У спрэчку ўмяшаліся Баляслаў Длускі і Эдмунд Вярыга. Яны выказаліся супроць страты самастойнасці для Літвы. Але не вельмі і пярэчылі загадам Варшавы аб зменах у Камітэце. Чаховіч маўчаў. Козел яшчэ не вярнуўся з Пецярбурга.

— У такі час,— сказаў Длускі,— сапраўды, можа, лепш не раздрабняць нашых сіл. Удасца нам што зрабіць для свайго краю ці не, яшчэ невядома. А калі мы далучымся да Варшавы, пэўна ж, нечага даб'ёмся.

— Вось іменна толькі нечага! — заўважыў Малахоўскі.

Длускі пацізнуў плячыма:

— Лепш сініца ў руках, чым журавель у небе...

— А калі сініца ў караля перакінецца?

— Кароль і цар — адно ліха,— сказаў Длускі.— Але калі ўжо выбіраць для Польшчы, дык, пэўна ж, лепш кароль, чым цар.

Вярыга, як і раней, сказаў, што ён мала спадзяецца на сялянскае паўстанне. Селянін пакуль што слепа верыць цару. Але ў Літве і Беларусі жывуць не адны сяляне. І калі ўдасца дабіцца волі, то яна не абміне і селяніна: ён будзе мець хоць сініцу ў руках... Варшаву ён таксама не пахваліў за разгон Камітэта. Чаму Варшава так учэпіста трымаецца за свае былыя правінцыі? У гэтых жа правінцыях, большых у некалькі разоў за само Каралеўства Польскае, жыве, можа, якая дзесятая доля палякаў...

Бяспраўны Аддзел замест раўнапраўнага Камітэта — гэта аплявуха нашым народам.

Распусціць Камітэт Кастусь не згадзіўся.

— Мы будзем рашуча пратэставаць перад Варшавай! — заявіў ён ад імя Камітэта.— Варшава без згоды з намі ўзняла паўстанне. А цяпер капае нам яму, у якую можа ўваліцца сама.

На другі дзень ён сапраўды падаў Дзюлерану гнеўны пратэст, адрасаваны Часоваму ўраду. Дзюлеран абяцаў пераслаць пратэст сваім гаспадарам, аднак зноў напомніў, што спрэчкі бескарысныя. Справа паўстання перадаецца цяпер у іншыя рукі. Ён па-ранейшаму верыць у шчырасць Кастуся, хоць той і зняважыў яго. Але час змяніўся. Варшава цяпер больш спадзяецца на людзей, якія маюць пэўны ўплыў у краі і могуць павесці за сабою край па цвёрда вызначанай дарозе. І калі Кастусь хоча паслужыць польскай справе, ён, Дзюлеран, не будзе пярэчыць паслаць яго назад, на сваю радзіму — камісарам Гродзенскага ваяводства; толькі, вядома, пад строгім яго наглядам і на яго адказнасць перад Варшавай. А Малахоўскага, якога ён таксама паважае як разумнага і шчырага чалавека, ён можа пакінуць памочнікам начальніка горада Вільні. Іншым членам Камітэта таксама знойдуцца пасады, вартыя іх.

Трэба сказаць, і Дзюлеран, і сам Гейштар добра разумелі, што Кастусь і яго сябры пусцілі ў арганізацыі глыбокія карэнні. І калі іх зусім адкінуць убок у такі час, гэта можа пашкодзіць справе. Таму, узяўшы круты паварот, яны ўсё ж далей запалохванняў пакуль не ішлі. Судовай справе, якую завёў на Кастуся Аддзел Гейштара і Дзюлерана, ходу яшчэ не давалі.

Кастусь пакутліва перажываў крушэнне сваіх планаў. Узняць бунт супроць белых ён не мог. У апошні час яны паспелі ўмацавацца ў шмат якіх гарадах і мястэчках. Узяць хоць бы нядаўнюю няўдачу атрада Фелікса Віславуха. У пачатку лютага сябры з Пецярбурга і Варшавы перадалі Камітэту вестку, што ў Літву маецца прыбыць чыгункай другая гвардзейская дывізія і што яе трэба затрымаць дзе-небудзь у дарозе перад Вільняю. Камітэт не марудзячы даручыў здольнаму маладому камандзіру Віславуху сабраць у Свянцянскім павеце атрад, узарваць чыгунку і затрымаць дывізію ў непраходных бездарожных лясах, калі не ўдасца разбіць яе.

Белым не спадабаўся Віславух — выхаванец Генуэзскай школы, вучань Мераслаўскага. Чаго можна чакаць ад гэтага чырвонага мераслаўшчыка, калі яму даць пару тысяч чалавек і зброю? Тым больш калі яму ўдасца гэтая аперацыя? Тады ж ён стане героем, славутасцю на ўвесь край. Гэта была сур'ёзная пагроза для Гейштара і яго Камітэта. І яны зрабілі ўсё, каб атрад Віславуха не сабраўся. Асабліва стараўся Францішак Далеўскі. Яго сваяк Зыгмунд Серакоўскі яшчэ не прыбыў у Вільню. А калі Віславуху пашанцуе, чырвоныя могуць перадумаць наконт пасады галоўнакамандуючага паўстаннем у Літве і Беларусі... Разгневаны Віславух гразіўся, што павесіць Далеўскага на першай асіне.

І вось зараз гэтыя здраднікі вырываюцца наперад і становяцца важакамі паўстання. Даць ім бой — гэта значыць павесці вайну на два франты: супроць царскіх гвардзейцаў з казакамі і супроць белых атрадаў.

Мінула некалькі дзён пакутлівага роздуму. Варшава не адказвала: Кастусь і не здагадваўся, што Нестар нікуды і не пасылаў яго пратэсту.

Тым часам адбыліся новыя падзеі, якія блізка закраналі і Кастуся. Паўстанскі маніфест нарабіў перапалоху ў Пецярбурзе не менш, чым у Вільні і Гродні. І цар, сцяўшы зубы, падпісаў новы ўказ для заходніх губерняў, ахопленых паўстаннем: спыніць з 1 сакавіка паншчыну і знізіць плату за сялянскія надзелы на дваццаць працэнтаў. Гэта была першая перамога над прыгонніцкай царскай Расіяй, хоць і невялікая. Але ж гэта была і пагроза для шырокага народнага паўстання, якое рыхтаваў Кастусь. На апошняе цар якраз і разлічваў: адарваць мужыка ад паўстанцаў, мацней прывязаць яго да сябе.

Новы царскі ўказ пайшоў гуляць па сёлах і весях [1], збіваючы мужыка з панталыку. Два гады ён чакаў новага сапраўднага царскага слова аб прыгоне і вось дачакаўся. Значыць, цар не падмануў. Значыць, ён па-ранейшаму добры. Гэта толькі злыя паны і чыноўнікі не жадаюць мужыку дабра.

Пачалося зацятае змаганне за былога прыгоннага: цар цягнуў яго на свой бок, паўстанцы — на свой, з той толькі розніцай, што Кастусь са сваімі сябрамі хацеў зрабіць яго гаспадаром паўстання, а белыя — слугою.

---

[1] Весі *(старасл.)* — вёскі.

Другая падзея была для Кастуся не менш важная. З Варшавы ў Вільню прыехаў палкоўнік Ануфрый Духінскі, прызначаны ваенным начальнікам Гродзенскага ваяводства замест Валерыя Урублеўскага... Значыць, і тая арганізацыя, якой Кастусь аддаў найбольшую частку свайго сэрца, якую сам стварыў і выняньчыў, цяпер пераходзіць да Варшавы...

Хто такі Духінскі? Звычайны эмігрант, стары чалавек, удзельнік мінулых паўстанняў. Ніякіх ні подзвігаў, ні перамог яго ніхто не ведае. Ён проста, відаць, добры прыяцель Мераслаўскага, які, напэўна, і параіў яго на гэтую пасаду. Ці ж мог Кастусь з лёгкаю душою даверыць яму сваю родную Гродзеншчыну? Вось чаму ён усё часцей задумваўся над апошнімі словамі Нестара Дзюлерана. Вярнуць былое ён ужо не мог. Але яшчэ можна выратаваць хоць частку арганізацыі, калі вярнуцца на радзіму. Камісар пры ваяводскім і ваенным начальніках усё ж не апошняя асоба.

Дзюлерану таксама не хацелася поўнасцю аддавацца ў рукі Гейштара. Як бы ён ні «бялеў», ён усё ж аставаўся верны свайму куміру[1] генералу Мераслаўскаму і яго прыхільнікам у Часовым урадзе. І хоць Мераслаўскі часта зблiжаўся з белымі, ён усё яшчэ трымаў на іх камень за пазухай. Тое ж рабіў і Дзюлеран. Гэта была і гульня на хітрасць і на падман. У гэтай гульні важна перахапіць перамогу, калі яна прыйдзе. Прасцей кажучы, гэта былі звычайныя інтрыгі.

Разважыўшы ўсё цвяроза, Кастусь выехаў на радзіму. Судовую справу на яго Гейштар спыніў.

## V

З таго часу як у Саўкаву леснічоўку трапіў Пятрок, Язэп не разлучаўся з ім. Старэйшы, хоць і ненамнога, Пятрок стаў самы блізкі яго сябар. І адзін і другі дужа сумавалі па родных мясцінах, часта ўспаміналі сваіх знаёмых, марылі аб тым часе, калі зноў убачацца з імі.

Петрака забралі ў двор да пана Жардзецкага гадоў дзесяць таму назад гэтак жа, як і Язэпа да пана Ясінскага. Бацькоў яго пан Жардзецкі даўно прамяняў нейкаму пану з-пад Вільні на парасят моднага англійскага заводу.

---

[1] К у м і р — ідал, прадмет сляпога пакланення.

Чаму пану з-пад Вільні прыйшла ў галаву такая дурнота — мяняць парасят на людзей? Можа, у яго сваіх не хапала? А можа, таму, што папы часта мянялі сваіх прыгонных на сабак, на коней. А чым жа парасяты не тавар для такога гандлю? З таго часу Пятрок нічога пра сваіх бацькоў і не ведае. Жывуць яны там ці, можа, новы пан таксама памяняў іх па якіх іншых заморскіх жывёлін.

Хлопцы не забывалі і сваіх крыўдзіцеляў — пана Жардзецкага і яго цівуна Дракулу. Колькі розных кленічаў паслалі яны ім за доўгую зіму! Якой толькі кары не пажадалі ім і ад бога і ад людзей. Пятрок усё рваўся ў маёнтак, каб падпільнаваць там дзе з-за вугла свайго пана. Быў ён хлопец дужы і адважны. Але, успамінаючы сваю няўдалую сустрэчу з панам Жардзецкім, Язэп усё ж не раіў яму хадзіць у маёнтак, тым больш аднаму. А Саўка дык і слухаць гэтага не хацеў: зноў што здарыцца, тады новая бяда... «Без дазволу і не думайце пакідаць лесн ічоўку!» — казаў ён хлопцам адно і тое ж.

Аднойчы Язэп запытаўся ў Петрака, адкуль у яго шрам на ўсю шчаку.

— Памятка ад панскага быка Рагаля,— адказаў Пятрок.— Я тады кароў пасвіў.

— Распароў рогам?

— Ага.

— Ты, мусіць, дражніўся з ім?

— Дзе там падражнішся! Зласнейшага быка за таго Рагаля, мусіць, няма і на свеце. Яго ўсе баяліся.

— Добра яшчэ, што вока цэлае,— паспачуваў Язэп.

Звычайна ціхая Саўкава леснічоўка напрадвесні зашумела, як вулей перад вылетам рою. Тут, у зробленай наспех кузні, стукалі і грукалі малаткі і молаты, звінела жалеза. З драўлянага калашніка чуўся шоргат пілак, стук сякер: там цесляры насаджвалі на касільны выкаваныя кавалямі косы і пікі, майстравалі розныя скрынкі для гаспадарчых патрэб.

Язэпу цесляры даручылі самую цікавую для яго работу — вышукваць у лесе роўныя дрэўцы для касільнаў, палкі для пік. Язэп ганарыўся сваёй работаю і рабіў яе старанна і спраўна. Лёгкі сам, у лёгкіх лыкавых лапцях, ён абхадзіў і аблазіў усе гушчары навакол леснічоўкі і заўсёды прыносіў якраз тое, што трэба было. Свой тавар ён сам ачышчаў ад кары і сушыў на чарэні Саўкавай печы.

Часта прыязджалі ў леснічоўку фурманкі з рознымі прыпасамі — і харчамі і зброяй. Прывозілі сюды нават авёс і сена: у хляве і пад крытаю павеццю пафырквалі прывязаныя за білы коні.

Па двары сюды-туды хадзілі і бегалі маладыя хлопцы і сталыя мужчыны, апранутыя яшчэ па-зімоваму: хто ў простых сялянскіх кажушках і світках, у лапцях, а хто ў больш далікатнай панскай вопратцы: у куртках на ваце з цёмнага і шэрага фабрычнага сукна, у ботах з высокімі халявамі. Гэта былі ўсё дробныя паны: чыноўнікі з маёнткаў і ўрадавых устаноў, студэнты, якія пакінулі свае універсітэты, каб далучыцца да паўстанцаў, сыны небагатых фальваркоўцаў і арандатараў, малазямельная і беззямельная шляхта.

Як і задумалі Кастусь з Валерыем яшчэ з восені, Саўкава леснічоўка стала адной з надзейных баз, дзе збіраліся паўстанцы з бліжэйшых ваколіц. Другая, меншая, база была недалёка ад Саколкі. Туды Валерый збіраўся перавесці к вясне сваю школу.

Кожны дзень пасля снедання ўсе жыхары леснічоўкі выходзілі за сядзібу на добра вытаптаную прасторную палянку, дзе ўлетку Саўка рабіў агарод і касіў сена. Там стаялі саламяныя чучалы і драўляныя козлы-коні. Адстаўны паручнік Завістоўскі, блізкі сябар Урублеўскага, вучыў тут сваіх байцоў спрытна калоць гэтыя саламяныя чучалы пікамі, секчы і пароць косамі, без промаху траплять кінжалам якраз у тое месца, дзе павінна быць сэрца, калі б гэта былі жывыя салдаты, смела кідацца ў атаку з сякераю ці сахаром, калі няма стрэльбы. Козлы служылі для муштроўкі на спрыт. Паручнік Завістоўскі добра разумеў справу і стараўся навучыць сваіх людзей усяму таму, што магло спатрэбіцца ім у нялёгкім ваенным паходзе.

Язэп таксама не прапускаў ваенных заняткаў, хоць па гадах і быў самы маладзейшы з паўстанцаў. Шчыры і старанны ў кожнай рабоце, ён і тут не паддаваўся старэйшым. А паручнік Завістоўскі дык не раз, бывала, жартуючы, даваў яму каманду:

— А ну, Язэп, пакажы дзядзьку Сідарчуку, дзе ў каня хвост, а дзе грыва!

Пасміхаючыся сам сабе, Язэп адыходзіўся далей ад козлаў і, папляваўшы на рукі, імкліва кідаўся наперад. Вышыня бралася ім лёгка і нават артыстычна. Дзядзька

Сідарчук толькі пыхкаў, чырванеючы: от жа спрыт у хлопца! А перад камандзірам апраўдваўся:

— Каб мне такія гады...

Але быў у Язэпа і яшчэ адзін любімы занятак — буквар. Прыязджаючы сяды-тады да Саўкі, Фелікс вучыў яго пазнаваць літары. Навука была нялёгкая. За ўсю зіму Язэпу ўдалося толькі сяк-так запомніць іх. А калі дайшло да складоў, дык тут хоць плач. Любы самы лёгкі склад трэба чытаць не так, як ён вымаўляецца, а як вымаўляюцца асобныя літары: аз, букі, ве́дзі, глаголь, дабро, есі, жывеце, зело... Гэта значыць, каб атрымаўся склад б а, трэба спачатку прачытаць б у к і-а з, а тады ўжо вымавіць склад б а. А калі паўтарыць яшчэ раз гэтыя букі-аз, то будзем мець цэлае слова: ба-ба. А калі замяніць першыя букі літарай жывеце, то выйдзе не баба, а жаба.

Адным словам, не навука, а му́ка. Саўка гэтай навукі не ведаў, а Фелікс прыязджаў не часта. Але потым, к вясне, у лесьнічоўку ўсё часцей пачалі трапляць і людзі пісьменныя. Не маючы іншых кніжак, яны ахвотна гарталі Язэпаў буквар, а гаспадару буквара ахвотна паказвалі і расказвалі, як асобныя літары злучаць у склады і цэлыя словы. Ад іх Язэп даведаўся, што лягчэй запамінаюцца літары, калі іх вымаўляць па-іншаму: ба, ва, га, жа, за, ка... бу-ву-гу... бру-вру-гру...

Натрудзіўшы добра язык і губы, Язэп пачаў нарэшце чытаць і сам лёгкія словы пад малюнкамі на першых старонках буквара: ма-ма, му-ха, су-ха, ка-ша, Ма-ша, мыла, шы-ла... Чытаў і радаваўся, што робіць гэта сам, і толькі пасміхаўся з Петрака, якому буквар ніяк не даваўся. Ды той не вельмі і цікавіўся ім. А калі аднойчы пасля доўгага перапынку ў лесьнічоўку прыехаў Фелікс, Язэп прачытаў яму траха не ўсю першую частку буквара.

— Малайчына! — шчыра пахваліў яго Фелікс.— Калі так пойдзе і далей, то скора сам і кнігі чытаць будзеш.

— Я хацеў бы навучыцца чытаць «Мужыцкую праўду»,— адказаў узрадаваны пахвалою Язэп.— Але ж у ёй не такія літары, як у буквары...

— На жаль, не такія,— згадзіўся Фелікс.— А каб іх вывучыць, патрэбна яшчэ адна зіма... А дзе яе зараз возьмеш? Скора ў нас такое пачнецца, што не да буквароў будзе...

Да гэтага налёты паўстанцаў на вайсковыя гарнізоны гарадоў і мястэчак рабіліся толькі дзе-нідзе. Найбольшы

перапалох у стане ворага нарабілі, як вядома, атрады Рагінскага, Сангіна і Рыльскага. Пасля няўдалага бою каля мястэчка Сямяцічы яны зноў сабраліся ў адзін моцны атрад і зноў пайшлі вольнічаць па паўднёвых валасцях і паветах губерні. Атрад рос і папаўняўся. У сярэдзіне лютага ён удала напаў на павятовы горад Пружаны, захапіўшы з мясцовага цэйхгауза ўсю зброю з порахам, а з казначэйства — усе грошы. Потым, не дайшоўшы да Кобрына, атрад падзяліўся: Сангін з Рыльскім рушылі на захад ад Беластока, а Рагінскі — на поўдзень, у Палессе. Але на гэты раз ваенная ўдача пакінула іх. Царскі палкоўнік Вімберг дагнаў атрад Сангіна і Рыльскага каля Бельска, напаў на яго знячэўку і разбіў дашчэнту. Станіслаў Сангін загінуў у бойцы, а Браніслаў Рыльскі трапіў у палон. Трагічна закончыўся і слаўны паход Рамана Рагінскага: атрад яго акружылі казакі... Сам ён таксама трапіў у рукі ворагаў.

Гэта была першая буйная няўдача. Услед за ёю прыйшла вестка і аб другой, хоць і меншай. Эразм Заблоцкі са сваімі сябрамі падрыхтавалі ў самой Гродні атрад маладых паўстанцаў. Напрадвесні яго збіраліся вывезці на цягніку ў Парэчча, каб там далучыць да атрада Людвіга Нарбута. Аперацыю гэтую даручылі самаму надзейнаму паўстанцу з чыгуначнікаў — начальніку станцыі Лявону Кульчыцкаму. Цёмнай непагодлівай ноччу сто пяцьдзесят беглякоў са зброяй, якая ў каго мелася, цішком сабраліся ў пустых таварных вагонах. Машыніст Вінтар падаў паравоз. А калі даведаўся, каго збіраецца везці, нешта шапнуў свайму памочніку, і той ужо на хаду цягніка адчапіў вагоны. Сам Вінтар паспеў саскочыць з паравоза, на якім паехаў адзін Кульчыцкі і чалавек дзесяць паўстанцаў, што былі з ім... На іншых паўстанцаў напалі салдаты, і тыя разбегліся хто куды.

Эразм Заблоцкі моцна перажываў гэтую няўдачу. Ён паспадзяваўся на Кульчыцкага. А Кульчыцкі — на сваю ўладу над машыністам-немцам, які не спачуваў паўстанцам.

Пажурыўшы свайго сябра за легкадумнасць у першай ваеннай аперацыі, Валерый, аднак, і супакоіў яго: вядомыя палкаводцы і тыя памыляюцца... Калі ж улічыць, што Эразм чалавек не ваенны і што памылку яго можна паправіць, сабраўшы новы атрад, то бедаваць лішне няма чаго. Адных толькі ўдач на вайне, як вядома, не бывае.

І вось аднойчы, калі ўжо адшумелі паводкі і на лугах адскочыла першая кволая траўка, у Саўкаву лесьнічоўку прыехаў Валерый. Язэп адразу не пазнаў яго: ні кучаравай чорнай барады, ні вусоў на яго сур'ёзным, крыху нават строгім твары не было. Ды і апрануты ён быў не так, як тады ў Саколцы. І куртка яго, і боты з высокімі халявамі, і шапка нічым не вызначаліся і не вылучаліся з адзення іншых паўстанцаў. І толькі калі, дружалюбна ўсміхнуўшыся, Валерый запытаўся ў яго: «Ну, як маешся, Язэп?», ён раптам успомніў, дзе бачыў, і нават вельмі блізка, гэтага статнага плячыстага дзецюка.

— Ой, дзядзька Валерый! — усклікнуў здзіўлены Язэп.— А я і не пазнаў вас...

— Ну, значыць, багаты буду. Так ці не?

— Дзіва што!

— Не нудзішся тут па сваім пану?

Язэп весела засмяяўся:

— Што вы! Няхай па ім чэрці з балота нудзяцца.

Валерый дастаў з блішчастага сярэбранага партсігара папяросу.

— Курыць не навучыўся?

— Не,— заматаў Язэп галавою.— Ды тут і курыць няма чаго, каб і хацеў. Саўка не курыць. Тытуню ў яго няма.

— А мох? Яго ж кругом вунь колькі! Мае вучні смокчуць цыгаркі з моху, толькі дым слупамі валіць.

— Ён горкі. У горле пяршыць.

— Што, спрабаваў?

— Даводзілася...

Валерый абышоў Саўкаву гаспадарку. Пабываў і на палянцы, дзе паручнік Завістоўскі паказваў госцю, як ён вучыць сваіх людзей.

Ведаючы Валерыя як выдатнага стралка з рэвальвера, Завістоўскі папрасіў яго паказаць сваё майстэрства паўстанцам.

— А не пачуе нашай страляніны той, каму не патрэбна чуць? — запытаўся Валерый.

— Не,— адказаў Завістоўскі.— Тут у нас спакойна.

Валерый згадзіўся, але з умоваю, што разам з ім будуць страляць і ўсе, хто пажадае: па адным патроне, бо іх у яго небагата.

Ахвотнікаў знайшлося чалавек дзесяць. Быў сярод іх і Язэп. Да гэтага яму ўдавалася сяды-тады страляць з Саўкавай аднастволкі. Вялікіх поспехаў ён не меў, але

лічыў, што справа гэтая нескладаная. Рэвальвер — іншая рэч. Ён яго не раз бачыў у паноў і афіцэраў. Але ў руках трымаць яшчэ не даводзілася.

Валерый узяў чысты аркуш паперы, чорным алоўкам намаляваў на ім невялікі круг і павесіў на дрэва. Потым адмераў ад круга трыццаць крокаў і сказаў:

— Цэль для рэвальвера далекаватая, затое можна добра праверыць руку і вока.

Ён зарадзіў свой рэвальвер і падаў першаму стралку з шарэнгі ахвотнікаў — высокаму вусатаму шляхціцу Пшыбыльскаму. Той доўга цэліўся, пакуль адважыўся націснуць на курок. Нарэшце ляснуў стрэл. Паручнік Завістоўскі кінуўся да дрэва на праверку. Усе іншыя не зводзілі з яго вачэй. Хто-ніхто жартаваў:

— Пан Пшыбыльскі няйначай у самы пуп уляпіў...

— А мо толькі дарэмна варон напужаў. Глядзі вунь, як раскрычаліся.

Завістоўскі ўважліва агледзеў чорны круг, потым адвярнуўся і развёў рукамі.

Спахмурнелы пан Пшыбыльскі адышоўся ўбок. Валерый суцешыў яго:

— Так было і ў мяне, калі страляў першы раз. Рэвальвер — не стрэльба. Яго да пляча не прыціснеш.

Другі стралок паслаў сваю кулю ўслед за першай. І трэці і чацвёрты... А іншыя адмовіліся: ці варта і сапраўды дарэмна псаваць патроны свайго начальніка!

— Мы не верым, што можна трапіць у цэль з такой далечыні,— апраўдваліся няўдачнікі.

— Дык вы ж у неба стралялі,— пасмейваліся тыя, хто не страляў.

Усе чакалі самага галоўнага стрэлу. Зараджаючы рэвальвер, Валерый крыху хваляваўся: а што, калі і ён у неба трапіць? Праўда, ужо даўно з ім гэтага не здаралася. І, калі грымнуў стрэл, усе кінуліся ўслед за Завістоўскім да цэлі.

— Ёсць! — радасна закрычаў Завістоўскі.— Цэль накрыта! Вось яна! — ён тыцнуў пальцам у самую сярэдзіну чорнага круга.— Віншую, Валерый, з удачай!

— Віншуем, пан начальнік! — падхапілі і ўсе іншыя.— З такімі рукамі і вачамі не страшна ў любы бой ісці.

Валерый таксама агледзеў цэль:

— Ну, хто яшчэ хоча паспытаць шчасця?

Усе ветліва адмовіліся. Язэпу, праўда, хацелася хоць

патрымаць такую дзівосную зброю ў руках. Ды пасаромеўся сказаць пра гэта Валерыю. Няхай, можа, калі іншым разам.

Пасля абеду Валерый сабраў паўстанцаў на дворы і абвясціў, што атрад пакідае леснічоўку. Яны пойдуць пад Беласток, дзе збіраюцца асноўныя сілы з трох паветаў — Сакольскага, Бельскага і Беластоцкага. Па дарозе атраду ставіцца задача — чытаць сялянам маніфест польскага ўрада і надзяляць іх зямлёю. Баявых сутычак пазбягаць. Але дзе ўдасца, пажадана папаўняць запасы зброі. Атрад павядзе паручнік Завістоўскі. У Саўкавай лесніцоўцы застанецца пакуль што адзін яе гаспадар. А каб яму не было сумна — і Язэп Валовіч. База гэтая атраду яшчэ спатрэбіцца.

Язэпу зусім не хацелася расставацца з Петраком і новымі сваімі сябрамі. Яму здавалася, што дзядзька Валерый незаслужана пакрыўдзіў яго. І калі ўсе кінуліся збірацца ў дарогу, Язэп падышоў да Валерыя.

— Ну што, не рад, бачу, ты майму загаду...— сказаў Валерый, заўважыўшы невясёлы настрой у хлопца.

— Якая ж радасць...— адказаў Язэп чуць не плачучы.— Я хачу з усімі...

— Мы ж ваяваць пойдзем.

— А я што — горшы? Спытайце ў паручніка. Няхай ён скажа...

Валерый задумаўся:

— Але ж ты, браце, яшчэ не зусім паўналетні жаўнер...

— Нічога, я ўсё зраблю, як паўналетні. Вазьміце мяне з сабою. Я не хачу адзін тут аставацца,— прасіўся Язэп.

— Чаму — адзін? А Саўка? Ды і Фелікса мы не бяром. Ён будзе прыязджаць сюды, збіраць новых людзей.

Язэп вось-вось гатовы быў расплакацца, як малое дзіця. Валерый бачыў гэта, і яму не хацелася даводзіць яго да такіх немужчынскіх слёз.

— Ну добра,— сказаў ён.— Толькі будзеш ты пры абозе. Кашу варыць умееш?

— Ды ўжо ж як-небудзь,— павесялеў Язэп.— Можна збірацца?

— Давай. Толькі глядзі, Кастусю мяне не выдавай. Скажы: я не я і хата не мая... Разумееш?

— Нічога. Знайду, што сказаць.

Язэп кулём кінуўся збірацца ў дарогу.

## VI

За сталае месца сваёй работы цяпер Кастусь выбраў Беласток. На гэта былі прычыны.

Беласток, за які Кастусь траха не цэлы год змагаўся з Варшавай, нарэшце-такі далучыўся да Гродзеншчыны. І не адзін: разам з ім далучыліся і паўднёвыя паветы — Брэсцкі, Пружанскі і Кобрынскі. Людзей, блізкіх Кастусю, тут яшчэ не было. Іх трэба было знайсці за самы кароткі час. Да таго ж Беласток, як найбольш зручны для свайго штаба, выбраў і ваенны начальнік ваяводства Ануфрый Духінскі.

Спыніўся Кастусь на кватэры ў Феліксавага сваяка Максіма Патапчыка. Дзядзька Максім вельмі рад быў госцю, хоць і не мог усё яшчэ дараваць яму крыўды за тое, што набіраць другі і чацвёрты нумары сваёй газеты ён прывозіў друкара з Гродні. «Ды я, дзядзька Максім, шкадаваў тваіх сваякоў,— апраўдваўся Кастусь, жартуючы.— А то ўслед за бабкаю давялося б спраўляць хаўтуры каму з маладзейшых...» Сапраўды ж дык рабіў гэта ён з-за асцярогі: частыя выезды друкара Максіма да сваякоў маглі прыцягнуць за ім хвост [1].

З першага ж дня Кастусь акунуўся ў работу з галавою. Арганізацыі, якую ён пакінуў мінулай восенню на Гродзеншчыне, ужо не было. З блізкіх яму сяброў мала хто ўцалеў. Валерыя замянілі Духінскім. Вось-вось дабяруцца і да Эразма Заблоцкага. Парадзелі шэрагі яго аднадумцаў у паветах і акругах: іх месцы занялі белыя або тыя з чырвоных, якія паспелі ўжо збялець.

Кастусь глянуў на спіс кіраўнікоў Гродзенскага павета: павятовы начальнік — пан Сільвестровіч, ваенны рэферэнт [2] у яго — пан Вайсятыч, рэферэнт казны — пан Ромар, надзелу сялян зямлёю — пан Камінскі, шляхоў зносін — пан Завістоўскі, апекі — пан Багатка. І толькі адзін начальнік горада Гродні — доктар Цаханоўскі. Ці не замала аднаго доктара на цэлую кучу паноў? Тое ж і ў акруговых арганізацыях: пан на пану сядзіць і панам паганяе. Ці ж можна паверыць, што яны сапраўды надзеляць сваіх сялян зямлёю, дадуць ім волю і роўныя з сабою правы, як пра гэта гаворыцца ў польскім маніфесце?

---

[1] Хвост — тут у сэнсе — шпік.

[2] Рэферэнт — загадчык аддзела губернскай ці павятовай арганізацыі.

Што ж заставалася рабіць? Пакінуць усё на волю лёсу? Зрабіць так ён не мог. Вельмі ж многа цяплілася ў яго сэрцы ружовых надзей на будучыню. Ён, здавалася, ужо бачыў яе ў сваіх снах і марах. Жыў ёю і дзеля яе. Ён яшчэ ясна не ўяўляў сабе гэтай будучыні, але шчыра верыў у яе і чакаў, як прыходу светлага дня пасля зацяжной непагадзі. Не, не, ён не здрадзіць ёй — сваёй светлай мары, што б там ні было! Ён жыве і будзе жыць ёю да таго часу, пакуль б'ецца яго гарачае і неспакойнае сэрца.

Ясны розум падказваў Кастусю, што яшчэ не ўсё страчана. Трэба толькі зараз жа ўхапіцца за галоўнае, што зноў дасць яму цвёрдую апору ў жыцці.

Перш-наперш ён пайшоў да Духінскага і сказаў яму шчыра:

— Пан ваенны начальнік! Дазвольце мне як палітычнаму камісару ваяводства даць вам адну практычную параду.

Духінскі адарваўся ад карты губерні, якую ён упарта вывучаў, і ветліва адказаў:

— Калі ласка, пан камісар. Я вас слухаю.

— Я многа думаў у апошні час,— сказаў Кастусь,— і прыйшоў да цвёрдага пераканання, што аднаму вам цяжка будзе кіраваць ваеннымі справамі ў нашай губерні. Яна не маленькая, расцягнутая і ўдаўжкі, і ўшыркі на сотні вёрст. Чалавек вы ў нас новы. А паўстанне чакаць не можа...

Духінскі насцярожыўся. Дабрадушны поўны твар яго з пышнымі пасівелымі вусамі пасуровеў:

— Дык што, вы супроць майго прызначэння? Але ж гэта справа Варшавы...

Кастусь паспешна замахаў рукамі:

— Не, не, пан Духінскі! Гэтага ў мяне і ў думках не было. Бронь божа.

— А як вас разумець?

— Я толькі дзеля карысці справы хачу прапанаваць вам прызначыць начальнікам свайго штаба, а гэта значыць сваім першым памочнікам, Валерыя Урублеўскага, вашага папярэдніка на пасадзе ваеннага ваяводы. Я яго добра ведаю і як гарачага прыхільніка польскай справы, і як чалавека, здольнага ў ваенных пытаннях. Як вы на гэта гледзіце?

— А як на гэта паглядзіць ваш віленскі Аддзел? — запытаў Духінскі.— Асабліва Дзюлеран?

— Я думаю,— сказаў Кастусь,— гэта ваш клопат перш за ўсё. Вы павінны рабіць, як вам лепш. Урэшце, вас прыслала на гэтую пасаду Варшава, а не Аддзел. Потым жа размова ідзе толькі аб памочніку. А лепшага я не ведаю. І раю яго вам, зноў жа кажу, дзеля карысці нашай агульнай справы.

Духінскі некаторы час маўчаў, паскубваючы свае пышныя вусы, потым сказаў:

— Я падумаю.

— Калі ласка, пан ваявода. Падумайце. І сур'ёзна падумайце. Гэта вельмі важна.

Назаўтра сам Духінскі паклікаў Кастуся і сказаў, што ён згодны прыняць яго параду.

Гэта была першая і, бадай, самая важкая цаглінка, якую Кастусь здолеў ваклаcці ў падмурак новай ваеннай арганізацыі на сваёй роднай Гродзеншчыне ўжо ў самы разгар бітвы. Валерый пакінуў Саколку — на гэты раз назаўсёды — і пачаў спешна збіраць сваіх людзей у адзін атрад.

Цяпер Кастусь моцна задумаўся, як уратаваць у арганізацыі Эразма Заблоцкага. Перад ад'ездам на радзіму Гейштар доўга навучаў яго, як і што яму рабіць і якія ён будзе мець правы. Не згаджаючыся ў душы ні з адною яго парадаю, Кастусь, аднак, вымушаны быў даць слова, што ён будзе слухацца Варшавы і новага Літоўскага камітэта — цяпер ужо толькі бяспраўнага Аддзела. Найбольш націскаў Гейштар на мір паміж саслоўямі. Не дай бог пакрыўдзіць хоць аднаго яснавяльможнага пана-землеўласніка! Без іх аб паўстанні і думаць няма чаго. А з тае прычыны, што і грошы, і харчы на паўстанне даюць паны, то яны ж мусяць і кіраваць гэтым паўстаннем. Бо паважаючыя сябе паны-багацеі, пэўна ж, не будуць слухаць нейкіх там рэвалюцыйных шляхцюкоў-галадранцаў або нікому не вядомых дробных чыноўнікаў, як Эразм Заблоцкі ці Ільдэфонс Мілевіч.

Кастусь жа думаў па-іншаму. І ён вырашыў рабіць так, каб і Гейштару дагадзіць, і арганізацыю не загубіць да рэшты. Даведаўшыся, што пад Брэстам жыве былы царскі вязень і катаржанін Гофмейстар, Кастусь зноў пайшоў да ваеннага ваяводы: яго падтрымка ў такой справе важыла не менш, чым самога Гейштара. Гейштару важна было, каб цывільным начальнікам ваяводства стаў пан, такі ж, як ён. Ну што ж: пан дык пан... Але гледзячы які.

Пан Гофмейстар выступаў супроць рускага цара яшчэ тады, калі сам Кастусь пад стол пяшком хадзіў. Друкар Максім Патапчык, які добра ведаў пана Гофмейстара, расказваў, што ён і цяпер застаўся такі ж вальнадумец, якім быў і ў маладыя гады. Праўда, на што вялікае ён няздатны. Але і на здраду не пойдзе, як іншыя паны.

Духінскі на гэты раз згадзіўся з новаю парадаю Кастуся адразу ж. Так пан Апалін Гофмейстар стаў начальнікам Гродзенскага ваяводства, а Эразм Заблоцкі — яго наместнікам з роўнымі правамі ў сваёй паўночнай частцы губерні, з прыдачай яму яшчэ Бельскага і Сакольскага паветаў.

Прыйшла чарга і да паветаў. Перш за ўсё Кастуся цікавілі паўднёвыя паветы, тыя, дзе ён яшчэ не бываў. І ён сеў у брычку, якую разам з маладым буланым канём падарыў яму новы цывільны ваявода пан Гофмейстар.

Але перш чым сесці ў брычку, якую Кастусь любіў сам і якую раіў усім павятовым і акруговым камісарам, ён успомніў пра свайго маладога фурмана Язэпа Валовіча. Вось хто павядзе яго брычку па гродзенскіх дарогах! Вось хто яму зараз больш чым патрэбны.

Даведаўшыся, што Валерый ужо сабраў свой атрад у лесе каля маёнтка графа Кружэнсцерна, Кастусь запрог буланага ў брычку і рушыў у дарогу: Язэп, думаў ён, напэўна ж, мусіць быць пры атрадзе.

Як акцызнаму чыноўніку, па пашпарту Канстанціну Чарноцкаму, Кастусю дазвалялася ездзіць па ўсіх карчмах і маёнтках, дзе гналі і распівалі гарэлку: казна вельмі баялася, каб яе не ашуквалі паны-бровапшчыкі і карчмары, бо з кожнага вядра ці бутэлькі гарэлкі яна брала сваю дзяржаўную даніну — акцыз. Так што мандат царскага акцызніка быў цяпер для Кастуся найлепшы дакумент. Няхай жандары Лелякова ганяюцца сабе на здароў'е за дваранінам Канстанцінам Каліноўскім. А ён, акцызны кантралёр Канстанцін Чарноцкі, знаць таго двараніна не знае і ведаць не ведае.

Праўда, цяпер жандары, відаць, больш пра яго пранюхалі і ведаюць, чым тое, што летась у кастрычніку ён раскідаў «Мужыцкую праўду» па дарозе са Слоніма ў Ваўкавыск. Інакай не панаклейвалі б яны траха не на кожным рагу Гродні і Вільні аб'яў пра пошукі двараніна Кастуся Каліноўскага з апісаннем яго партрэта: росту сярэдняга, брунет, вусоў чорных, год каля 36... Чытаючы гэтыя аб'я-

вы, Кастусь кожны раз шчыра смяяўся: трапілі пальцам у неба! Нейкаму жандару спрасонку ці з п'яных вачэй тады здалося, што ён брунет, што ў яго чорныя вусы і што ён чуць не стары дзядок... Вось жа дзякуй яму за такі партрэт! Цёмна-русы Кастусь, якому зараз, са студзеня месяца, ішоў дваццаць шосты год, мог спакойна разгульваць пад носам у самых спрытных жандараў. Баяўся Кастусь іншага: у Вільні пачаліся ўжо арышты...

Ці стрымаюць арыштаваныя клятву не выдаваць сваіх сяброў і знаёмых з арганізацыі? І хоць ён ненавідзеў душою ўсіх гэтых гейштараў, аскеркаў і стажэнскіх, але не жадаў бы збавіцца ад іх рукамі паліцэйскіх жандараў палкоўніка Лосева[1] альбо маёра Лелякова. Занадта ўжо ненадзейныя гэтыя паны. Ці надоўга хопіць у іх патрыятызму і любві да сваёй заняволенай радзімы?

Кастусь выехаў з горада раніцай і праз гадзіны тры быў ужо ў маёнтку графа Кружэнсцерна. Ранняя вясна таго года добра падсушыла дарогі, на лугах скрозь бліпчала кволая маладая трава, а ў лясах не сціхаў птушыны грай. Кастусь любіў гэтую пару года. Кожны дзень вясна прыносіць нешта новае, свежае, тое, чаго яшчэ не было ўчора. Душа ад гэтага радавалася і напаўнялася добрымі пяшчотнымі пачуццямі і да першых пупышкаў на дрэвах, і да першых лісцікаў на вербах і бярозах, да першых галасоў зязюлі і салаўя. Але нідзе не бачыў Кастусь такіх вёснаў, як некалі ў сваіх Мастаўлянах або ў Якушоўцы. Ці гэта толькі так яму здавалася? З якой нецярплівасцю, бывала, чакаў ён першага цвету ў бацькавым садзе! А як цвілі там і каля дому, і на ўскраінах лясоў пахучыя, бы мёд, чаромхі! Кастусь нават шкадаваў, калі іх бязлітасна латашылі маладыя людзі на букеты. Бэзу ён так не шкадаваў.

Маёнтак графа Кружэнсцерна быў наводшыбе ад дарогі, у ціхім лясным закутку, якіх нямала траплялася на лясістай Гродзеншчыне. Мяркуючы па будынках — нават дом стары, драўляны,— маёнтак гэты быў не з багатых. Двор, куды заехаў Кастусь, таксама не вызначаўся раскошаю. Да таго ж не відаць было на ім і парадку: тут можна было ўбачыць і кучы гною, выкінутыя з хлявоў, і нейкія гнілыя калоды, і разбітыя калёсы, і свіней з парасятамі... Пасярод двара стаяў драўляны калодзеж з вы-

[1] Лосеў А. М.— віленскі жандарскі афіцэр.

сокім жураўлём. Маладая дзяўчына — відаць, служанка — чэрпала ваду. Кастусь запытаўся ў яе, ці можа ён бачыць гаспадара маёнтка графа Кружэнсцерна. Дзяўчына адказала, што графа Кружэнсцерна дома няма.

— А дзе ён гуляе, ваш граф?

Дзяўчына адказала, што граф рэдка калі і бывае ў гэтым маёнтку — іх у яго многа, а гаспадарку вядзе тут аканом пан Зяновіч. Кастусь папрасіў дзяўчыну, каб паклікала аканома.

Хутка на ганку старога дома паказаўся лысы, невысокі чалавечак у камізэльцы — пан Зяновіч. Кастусь прывітаўся, зняўшы шапку, і сказаў, што ён добра ведае пана Зяновіча і таму адважыўся без дазволу заехаць на яго двор.

— Адкуль жа пан мяне ведае? — пацікавіўся аканом.— Я пана першы раз бачу ў маёнтку...

— Вас добра ведае мой сябар Валерый Урублеўскі,— сказаў Кастусь.— А гэта ўсё роўна, што і я.

Кастусь сказаў, хто ён.

— О,— ледзь не падскочыў пан Зяновіч,— так бы адразу пан і казаў. Такі высокі госць... Валерый тут недалёка. Я пашлю па яго.

Пан Зяновіч гукнуў парабка і сказаў, каб выпраг Кастусёвага каня і прынёс аўса.

Пагаманіўшы з панам Зяновічам аб тым ды аб сім, Кастусь выйшаў сустракаць Валерыя. Хоць пан Зяновіч і памагаў шчыра чым мог паўстанцам, але гаварыць пры ім з Валерыем пра свае справы Кастусю ўсё ж не хацелася.

Сустрэў ён Валерыя за дваром пры лесе.

— Вось дык спатканне! — дзівіўся Валерый, вітаючыся.— Ці не з неба зваліўся? Ты ж, здаецца, не збіраўся да нас?

Кастусь сказаў, у якую дарогу ён сабраўся.

— А заехаў я да цябе,— дадаў ён,— па Язэпа. Ён тут?

— Тут,— адказаў Валерый.— От будзе рады. Ён жа даўно цябе не бачыў.

— Падрос, мусіць?

— Ды нішто, салдат хоць куды. Хацеў пакінуць яго ў Саўкі. А ён — у плач. Прыйшлося забраць.

— І добра зрабіў. Што яму там у Саўкі? З людзьмі весялей. Але цяпер ужо я яго забяру: ён жа цудоўны

фурман! Коней так любіць. З ім у дарозе не прападзеш. Прышлі яго да пана Зяновіча.

— Не, не, даражэнькі,— znаківаў галавою Валерый.— Так не будзе. Язэпа я табе аддам, але не задарма.

— А што хочаш за яго? — засмяяўся Кастусь.

— Пабудзеш маім госцем у лагеры, тады аддам.

— А што,— адказаў Кастусь,— разумная парада. Далібог. З ахвотаю пагляджу твае войска. Вядзі! Хоць я і не збіраўся рабіць у цябе рэвізію.

— Рэвізіі можаш не рабіць, калі яшчэ верыш мне.

— Веру, брат.— Кастусь па-сяброўску абняў Валерыя,— і спадзяюся больш, чым на ўсіх духінскіх, разам узятых.

— Духінскі,— сказаў Валерый,— стары чалавек. Калі што і ведаў некалі, дык даўно забыўся... Яму цяпер бы на прызбе сядзець, на вясновым сонейку грэцца.

Кастусь прытворна патрос пальцам перад Валерыем:

— Ну, ну, не крыўдзі свайго начальніка...

— Ды ўжо ж як-небудзь памяркуемся. Так, як ты з Гофмейстарам. Я, брат, у цябе вучуся...

Перайшоўшы на сур'ёзны тон, Кастусь сказаў:

— Аднак не пазнаю я зараз работы нашых рук...

— Што ты хочаш сказаць? — не зразумеў Валерый.

— Ці ж мы з табою марылі яшчэ год таму назад толькі аб панскай рэвалюцыі?

— Ні ў якім разе! Паны і рэвалюцыя — нешта зусім недарэчнае. Рэвалюцыя, як я разумею, гэта глыбокі пераварот дзеля вялікай мэты. А якая мэта панскай рэвалюцыі? Вельмі абмежаваная: замяніць аднаго дэспата другім. Але што мы цяпер можам зрабіць?

— Вось я і думаю пра гэта. Гейштар са сваёй хеўрай з кожным днём усё глыбей капае магілу нашай справе. А «чырвоны» Дзюлеран на ўсё заплюшчвае вочы. Нядаўна яны знялі з пасады начальніка Навагрудскага павета доктара Борзабагатага...

— Што ты кажаш? — не паверыў Валерый.

— Што чуеш.

— Гэта сумленнейшы чалавек і самы сапраўдны рэвалюцыянер!

— Але, на жаль, гэты сапраўдны рэвалюцыянер — костка ў горле ў паноў з Аддзела. Вось яны яго і замянілі. І кім? Панам Кашыцам, ад якога ні сумленнем, ні рэвалюцыйнасцю і не пахне.

— Тым славутым Кашыцам, у маёнтках якога аж два разы за апошні год салдаты секлі розгамі і бізунамі часоваабавязаных?

— А якім жа яшчэ! Такі пан якраз па душы ім. Чуў, што ён сказаў нядаўна на сходзе паноў Наваградскага павета?

— А што?

— Сэнс такі: «Усе мы, паны, мусім рабіць так, каб звесці рэвалюцыйны рух чырвоных на нішто. Іначай нам будзе кепска...»

— Ого, куды павярнуў! Бач ты яго! Не,— шчыра абураўся Валерый,— так нам справы не выйграць.

— А трэба выйграць! — рашуча сказаў Кастусь.— Або хоць бы не прайграць таго, што дае маніфест. Апіраючыся на яго, мы пойдзем далей сваёю дарогаю. А пакуль што адступаць не будзем. Гэта і заганяе мяне, як бачыш, у брычку. На Вільню цяпер мала надзеі. Хіба на аднаго толькі Серакоўскага. Але баюся, паны гейштары не даверанць яму высокай пасады.

— Чаму? — не зразумеў Валерый.— Ён жа Варшавай прызначаны на пасаду ваеннага ваяводы ўсёй Літвы і Белай Русі.

— Калі і кім? Тых, хто яго прызначаў, ужо бадай нікога і не засталося. Пра Стэфана Баброўскага чуў?

— Чуў,— уздыхнуў Валерый.— Хто б мог падумаць...

— А ён жа быў адзін з самых сапраўдных рэвалюцыянераў, такі, як доктар Борзабагаты. Ды доктару яшчэ пашанцавала: яго прагналі з пасады і — усё. А Стэфана, відаць, нялёгка было выжыць з урада. Давялося ісці на правакацыю, каб забіць на дуэлі [1]. Вось, браток, як яно робіцца, калі хто становіцца ўпоперак дарогі такім «патрыётам», як князі і графы чартарыскія, радзівілы, стажэнскія... Разумееш, Валерый, мне часта прыходзіць у галаву думка, што перш, чым дабіцца сапраўднай волі для народа, нам трэба знішчыць гэтую гнілую і разбэшчаную касту, якую называюць дваранствам...

— Думка цікавая,— сказаў Валерый.— Але ці не занадта смелая? Хто ж яго знішчыць?

— Як хто? Тыя, каму яны — костка ў горле...— Падумаўшы, Кастусь дадаў: — Вядома, зрабіць гэта нялёгка. Але, калі я думаю пра гэта, мне лягчэй робіцца на душы.

---

[1] Стэфан Баброўскі забіты на дуэлі, падстроенай яго ворагамі з партыі белых.

У лагеры Валерый завёў Кастуся ў свой начальніцкі будан, скіданы з яловых лапак, як і ўсе іншыя буданы, што рассыпаліся навакола. Атрад Духінскага, як яго цяпер называлі, толькі што сабраўся ў адно месца. Складаўся ён з атрадаў Валерыя Урублеўскага і невялікіх груп і групак, створаных Браніславам Шварцам і яго сябрамі на Беласточчыне. Кастусь часта ўспамінае Браніслава. Раней ён не любіў яго, бо лічыў яго асноўнай прычынай адрыву Беластоцкага ваяводства ад Гродзеншчыны. Цяпер жа, калі, арыштаваны ў канцы мінулага года, Браніслаў адышоў ад барацьбы, Кастусь толькі шкадуе яго. Вобраз яго нейк прыкметна пасвятлеў і набыў не толькі драматычную афарбоўку, але і сапраўдныя гераічныя рысы: ён, выгнаннік з роднай зямлі, шчыра змагаўся за сваю бацькаўшчыну і зрабіў дзеля гэтага, што мог [1]. І, як відаць, не выдаў царскім жандарам ні Кастуся — свайго саперніка, ні іншых знаёмых па гродзенскай і віленскай арганізацыях.

Праз гадзіну Валерый пастроіў атрад на прасторнай зялёнай палянцы разгорнутым фронтам: коннікі, стральцы і касінеры. Невялікі абоз размясціўся за строем пры самым лесе. І калі Кастусь падышоў да правага фланга, Валерый рэзка ўзмахнуў рукою і скамандаваў:

— Смірна!

Шарэнга замерла. Толькі пачмыхвалі ды пазвоньвалі цуглямі коні.

Шпаркім маршавым крокам Валерый падышоў да Кастуся і, узяўшы пад казырок, адрапартаваў:

— Грамадзянін камісар ваяводства! Паўстанскі атрад ваеннага начальніка Гродзенскага ваяводства Ануфрыя Духінскага пастроены на паверку. Чакаю вашага загаду.

Трымаючы руку пад казырок, Кастусь выгукнуў:

— Добры дзень, грамадзяне жаўнеры!

— Добры дзень, грамадзянін ваяводскі камісар! — гучна, хоць і не зусім дружна, адказалі жаўнеры.

Кастусь рушыў уздоўж строю. Сяды-тады прыпыняўся, вітаючы жаўнераў, перакідваючыся адным-двума словамі: хто, адкуль, ці не крыўдзіцца на камандзіраў... Потым,

---

[1] Браніслаў Шварц (або Шварцэ) — сын польскага эмігранта, удзельніка паўстання 1830 года. Нарадзіўся і жыў у Францыі. Там жа вучыўся і стаў інжынерам-чыгуначнікам. Дужа сумаваў па радзіме сваіх бацькоў. Прыехаў у Беласток будаваць чыгунку, дзе і стварыў рэвалюцыйную арганізацыю.

вярнуўшыся да стральцоў, што стаялі пасярэдзіне строю, загаварыў на поўны голас, каб усе чулі:

— Жаўнеры! Грамадзяне! Дазвольце перадаць вам шчырае прывітанне ад нашага паважанага ваяводы пана Духінскага, а таксама ад тых людзей з Гродні і Вільні, якія штодзённа думаюць пра нашу вялікую справу вызвалення бацькаўшчыны. Вайна супраць рускага цара-тырана, якая са студзеня месяца бушуе за Віслай і Нёманам, перакінулася і на нашы літоўскія і беларускія землі. Шырокая, як тая бурная паводка, яна разліваецца і па нашай Гродзеншчыне. Адны атрады ўжо б'юцца не на жыццё, а на смерць, іншыя спяшаюцца ім на дапамогу. Ваш атрад яшчэ меў толькі дробныя сутычкі. Але яны гартавалі вас, рыхтуючы да новай вялікай бітвы.

Грамадзяне коннікі! Грамадзяне стральцы! Грамадзяне касінеры! Будзьце цвёрдыя і непахісныя ў любой баталіі [1] з ворагам — малой і вялікай. Як бы цяжка нам ні было, мы даб'ёмся волі. У будучай вольнай сваёй дзяржаве, якая б яна ні была — злучана з вольнай Польшчай, вольнай Літвой ці вольнай Расіяй або і зусім самастойная, як у іншых народаў, нас не раз успомняць добрым словам нашы дзеці, унукі і праўнукі. Тых жа, хто здрадзіць сваёй святой справе, праклянуць нашы нашчадкі, аплююць іх паганыя магілы.

Жаўнеры, грамадзяне зямлі нашай роднай — Белай Русі! Паклянёмся ж быць вернымі нашай святой і справядлівай справе да канца!

— Клянёмся! — напоўнілася паляна рознымі галасамі.

— Клянёмся!

— Клянёмся!

— Паклянёмся лепш прыняць смерць і вечную славу, чым ганьбу і вечную няволю!

Жаўнеры зноў адказалі тройчы:

— Клянёмся!

— Клянёмся!

— Клянёмся!

Кастусь падышоў да Валерыя, які стаяў пры конніках на правым фланзе, і нешта сказаў яму. Валерый падаў каманду:

— Атрад, направа!

Атрад павярнуўся.

---

[1] Баталія — бітва.

— Правае плячо наперад! Шагам марш!

Калона заварушылася і падалася наперад.

— Шкада, барабана няма,— сказаў Валерый.

— А ён нам, здаецца, і не патрэбны,— адказаў Кастусь.— Мы войска лясное, бясшумнае. Гэта царскія салдаты без барабана і ў прыбіральню не патрапяць...

Калона прамаршыравала перад ваяводскім камісарам і, па камандзе, рассыпалася па лесе.

— А цяпер, грамадзянін ваяводскі камісар, запрашаю цябе на жаўнерскую кашу,— сказаў Валерый.— Варыў яе, між іншым, твой пабрацім Язэп.

— О, з прыемнасцю пакаштую братавай кашы! Давай! Калі яна не бярозавая...

— Бярозавая каша выдаецца за асаблівыя заслугі,— адказаў Валерый.— А ў цябе іх пакуль што няма.

Адвячоркам Кастусь выехаў з маёнтка гасціннага аканома пана Зяновіча.

На козлах брычкі з лейцамі ў руках сядзеў шчаслівы Язэп. А каб ён меў выгляд сапраўднага фурмана, пан Зяновіч падарыў яму чырвоны шалік і новую сырамятную пугу з лёгкай, гладкай стусінкай.

## VII

Адвячорак, у які Кастусь выехаў з маёнтка графа Кружэнсцэрна, быў такі ж па-вясноваму ясны і чысты, як і ўвесь дзень. Сонца яшчэ шчодра разлівала і святло і цяпло на лугі і палеткі. Праўда, з нізкіх мясцін патыхала прэлай вільгаццю, затое на ўзгорках пахла добрым сухім водарам.

Буланы, сяды-тады пафыркваючы, бег трушком. Язэп не спускаў з яго вачэй. Яму хацелася хутчэй распазнаць нораў свайго буланчыка, каб ведаць, і як абыходзіцца з ім, і як весці яго ў дарозе. Першым знаёмствам ён быў задаволены. Буланы — дужы малады конь — ішоў і бег роўна, лёгка, без нокання і без пугі.

Кастусь распытваўся ў Язэпа, як ён жыў без яго, як зімавалася ў Саўкавай лесніччоўцы. А калі даведаўся, што Язэп вывучыў за зіму ўсе літары ў буквары і ўмее нават чытаць першыя словы пад малюнкамі, дык радаваўся гэтаму не менш, чым сам грамацей Язэп.

— І дзе ж твой буквар? У Саўкі пакінуў?

— Не-е,— шчасліва ўсміхаўся Язэп.— Я з ім цяпер не расстаюся. У торбе.

І праўда, у зрэбнай торбачцы, дзе змяшчалася ўсё Язэпава дабро, Кастусь знайшоў і пацёрты буквар — самае большае яго багацце. Ён пагартаў буквар, з прыемнасцю ўспамінаючы знаёмыя старонкі, малюнкі і той год, калі ўпершыню пазнаваў гэтую першую нялёгкую навуку. У буквары нічога не змянілася — ён усё той жа, з тымі ж азамі ды букамі ў пачатку, з той жа фітой і іжыцай — у канцы...

— Ну, а ў госці да пана Жардзецкага больш не збіраешся? — пацікавіўся Кастусь, паклаўшы буквар у торбачку.

Язэп расказаў, як яны праз усю зіму марылі з Петраком пабываць у Драздах, каб падпільнаваць там з-за вугла пана або хоць бы яго цівуна Дракулу. Але, шчыра пашкадаваў ён, цяпер ужо не давядзецца...

— Чаму? — запытаўся Кастусь.

— Далёка цяпер тыя Дразды...

— Ну і што ж? Пабудзем яшчэ ў гасцях і ў твайго пана. Хоць цяпер ён ужо толькі былы твой пан. Ты ж, пэўна, ведаеш, што зараз у нас усе роўныя — ці вяльможны пан, ці мужык Сцяпан. Гэта значыць, што пан Жардзецкі, што ты — розніцы перад законам няма.

— То гэта перад законам,— паморшчыўся Язэп.— А так — якая мне раўня пан або я яму?

Цвярозы Язэпаў адказ спадабаўся Кастусю. Сапраўды, гэты няшчасны, прыгнечаны ўсімі бедамі падлетак лепш разумее саслоўную роўнасць, чым тыя, хто складаў маніфест. Вось калі б яны напісалі, што ўся зямля і маёмасць як панская, так і мужыцкая дзеляцца пароўну — такая роўнасць была б сапраўдная. Але і тое добра, што хоць да такой дадумаліся. Цар жа не дадумаўся зрабіць гэтага.

— Скажы, а Пятрок твой што за чалавек? — запытаўся Кастусь праз некаторы час.

Язэп расказаў, што ведаў пра Петрака. Успомніў заадно і пра дзядзьку Рыгора: яго ён усё яшчэ любіць, як роднага бацьку, і вельмі хацеў бы бачыць.

— А што, ён зусім стары, твой дзядзька Рыгор?

— Не. Гадоў пяцьдзесят. Яго паны Жардзецкія таксама малога да сябе забралі.

— То, можа, давай папросім твайго дзядзьку Рыгора да нас? Як думаеш?

— Дык ён жа далёка. Ды і ці выпусцілі яго з астрога?

— Нічога, мы яго і ў астрозе знойдзем. Ён, відаць, мог бы ў нас нядрэнным камандзірам стаць. Як думаеш?

— Не ведаю...

— Чаму не ведаеш?

— Ён салдатам не быў.

— Ну, гэта не бяда. Салдатамі і мы з табой не былі. А ваяваць, як давядзецца, будзем не горш за царскіх гвардзейцаў. Так ці не?

— Не ведаю...

— А я ведаю,— упэўнена сказаў Кастусь.

Сонца ўжо садзілася за дальні лес, калі Кастусь з Язэпам убачылі справа ад дарогі на шырокім палетку дзесяткі тры аратых.

— Панскае поле аруць. Мусіць, пад ярыну,— сказаў Язэп, махнуўшы пугаю ў бок аратых.

— Чаму панскае? — пачаў прыглядацца да аратых і Кастусь.— Можа, сваё?

— Не. Вунь і цівун каля іх... Якраз як наш Дракула.

— А і праўда,— сказаў Кастусь.— Цікава. Калі б пан наняў аратых, то не паставіў бы да іх прыганятага. А ну, прыпыні Буланага.

Пад'ехаўшы бліжэй да аратых, Язэп затпрукаў і пацягнуў лейцы да сябе. Буланы спыніўся.

Кастусь саскочыў з брычкі, падышоў да цівуна, які прыглядаўся да незнаёмага падарожнага, памахваючы тонкім гнуткім прутком.

— Чыё гэта поле, пан цівун? — запытаўся Кастусь.

Цівун — пажылы вусаты чалавек у шырокім саламяным капелюшы — змераў незнаёмага вострымі нядобразычлівымі вачыма і адказаў няпэўна:

— Поле майго пана... А вас што цікавіць?

— Ды нічога. А як жа хоць зваць вашага пана, калі не сакрэт?

— Які ж сакрэт! — буркнуў цівун, адвярнуўшыся.— Яго ўся губерня ведае. Граф Стажэнскі.

— Ну,— сказаў Кастусь,— такога знакамітага пана не толькі губерня — увесь край ведае. Нават Варшава. Ён жа наш прадвадзіцель дваранства.

Цівуну, відаць, спадабалася пахвала яго пану, і ён павярнуўся тварам да цікаўнага падарожнага.

— У графа не адзін маёнтак...

— Дзіва што! — сказаў Кастусь.— Багацейшы за яго

ў нас хіба што сам князь Радзівіл. А скажыце, пан цівун, гэта што — граф наймае аратых?

Цівун прамаўчаў, углядаючыся ў аратага, які падыходзіў да яго, пакінуўшы ў баразне саху.

— Табе чаго? — закрычаў цівун на яго здалёку.

Стары селянін, у доўгай зрэбнай кашулі і такіх жа штанах, босы, без шапкі, сказаў, нізка пакланіўшыся:

— Пан цівун, ці не дазволіў бы крыху раней работу скончыць?

— Чаму гэта раней?

— Субота ж сёння, панок. Ды і затаміліся дужа за доўгі дзень. Конікі таксама з ног валяцца...

Цівун глянуў у бок лесу, над якім павісла сонца.

— Паспееце,— строга сказаў ён.— Баразна яшчэ добра відаць. Ідзі, ідзі!

— А што, стары,— спыніў Кастусь аратага,— гадзіліся ж з панам, нябось, дацямна?

Стары панура зірнуў на Кастуся.

— Хто гадзіўся? Паншчыну адрабляем.

І пайшоў, сплюнуўшы пад ногі.

— Чакай, чакай, стары,— гукнуў Кастусь.— Пра якую паншчыну ты гаворыш? Яе ж нават сам цар адмяніў нядаўна па нашай губерні!

— Цар адмяніў, а пан цівун не адмяніў...

Стары пайшоў да сахі. Цівун рушыў за ім.

— Пан цівун, гэта праўда? — крыкнуў яму наўздагон Кастусь.

Цівун не павярнуўся, паказаўшы гэтым, што размова скончана.

Кастусь таксама плюнуў сабе пад ногі, як стары араты, і пайшоў да брычкі.

— Паехалі,— даў ён каманду.

Сустрэча з цівуном і аратым так уразіла яго, што ён доўга не мог апамятацца. Яго пачынала калаціць. Граф Стажэнскі, які добра ведае пра маніфест польскага Часовага ўрада і пра вясенні царскі ўказ, прымушае яшчэ людзей адрабляць паншчыну, як быццам нічога на свеце і не здарылася, і не змянілася. Сам жа сядзіць у Вільні і робіць з такімі ж, хоць крыху і бяднейшымі, панамі рэвалюцыю ў цэлым краі... Ды гэта ж несусветны падман! Такога рэвалюцыянера трэба вешаць першага на першай жа асіне!

Кастусь успомніў, што даўно ўжо ён не займаўся сваёю «Мужыцкаю праўдай». Усё няма калі. Ворагі ж тым часам

не дрэмлюць: такі шум вунь узнялі пасля царскага ўказа, што хоць вушы затыкай. Усю віну за паўстанне цяпер валяць на паноў, хоць тыя гатовы яго ўтапіць у лыжцы вады. А як беднаму мужыку разабрацца ў гэтым вэрхале: цар і царысты крычаць, што паны выступаюць супроць адмены паншчыны, таму і мяцеж узнялі, што мужыкі мусяць абараняць сваю волю ад паноў-мяцежнікаў... А тут і праўда: такія, як граф Стажэнскі, усё яшчэ ніяк не могуць расстацца з паншчынай. Паспрабуй цяпер растлумач людзям, што Часовы ўрад яшчэ ў студзені абвясціў ім і поўную волю ад паноў, і поўную роўнасцю з панамі. Ці ж яны паверацъ табе? А калі не паверацъ, то як іх павядзеш за сабою?

Хутка Кастусь з Язэпам прыехалі ў сяло, што стаяла пры лесе на высокім узгорку, з драўлянаю цэркаўкай на водшыбе.

Вузенькая вулачка, па якой бадзяюцца куры і свінні, курныя хаткі немаведама якой даўнасці, з адным-двума акенцамі, з бычынымі ці свінымі пузырамі замест шкла. Дзе-ні дзе старыя бярозы з драўлянаю бараною для бусліната гнязда. Збуцвелы калодзеж з доўгім жураўлём у небе, адзін на дзесяць — дваццаць двароў... Адным словам, сяло было такое ж, як і ўсе іншыя, дзе пабываў Кастусь. Нічога, апроч горкага жалю ў яго душы, не выклікала такое гаротнае сяло.

— Гэй, дзядзька, ёсцека ў вас тут карчма? — запытаўся Кастусь у першага сустрэчнага мужыка.

— Ёсцека. Як жа, каб без карчмы... Там, на тым канцы сяла.

Дзядзька нізка пакланіўся праезджаму пану, так, як і стары араты свайму цівуну.

Кастусь тпрукнуў, і Язэп спыніў каня.

— А чыё гэта сяло? Панскае ці скарбовае?

— Панскае, чыё ж яшчэ,— адказаў дзядзька, праціраючы кулаком чырвоныя слязлівыя вочы, хоць быў яшчэ, як відаць, не стары: за густым рыжым шчаціннем угадваўся твар мужыка сярэдніх гадоў. Кастусь часта бачыў у вёсках і сёлах такіх слязлівых і сляпых мужыкоў і баб і ведаў, што гэта курныя хаты і цьмяная лучына выядаюць ім вочы. Ён глядзеў на стрэхі бліжэйшых хатак: ні дзе хоць бы лядашчага глінянага коміна! Якая ўсё ж вялікая сіла — сіла прывычкі! Бо зрабіць комін, а іх ужо шмат дзе і робяць,— справа зусім няхітрая. Вось бы чым заняліся нашы паны стажэнскія ды і ўсе адукаваныя людзі! Патрэб-

па абвясціць бязлітасную вайну гэтай благой старасвеччыне. Ну і дапамагчы мужыкам зразумець, што яны людзі.

Да брычкі тым часам пачалі падыходзіць і іншыя мужыкі: цікава, што за пан размаўляе з іхнім Макаром? Можа, навіны якія прывёз? Цяпер жа вунь такое на свеце робіцца...

— А якому пану належала ваша сяло? — распытваўся Кастусь у мужыкоў.— Ці не графу Стажэнскаму?

— Але, але, панок,— жвава заківаў калматаю галавою слязлівы мужык.— Мы графскія...

— Былі графскія? А цяпер?

Мужыкі пераглянуліся паміж сабою: што ён хоча сказаць, гэты падарожны пан?

— Мы былі і ёсцека графскія,— пацвердзіў другі мужык.

— Ну, а воля хіба не дайшла да вас?

— Якая ж нам воля? Не сякуць цяпер розгамі панскія цівуны — от і воля наша.

— А тое, што паншчыну адмянілі, вы ведаеце?

— Хто яе адмяняў? Калі тое яшчэ будзе...— гуртам загаманілі мужыкі.

— Як — хто? — здзівіўся Кастусь.— Тры месяцы ўжо, як польскі Часовы ўрад зрабіў вас вольнымі і перадаў вам вашы надзелы без жаднага выкупу. Вы хоць чулі пра гэта?

Мужыкі разводзілі рукамі: не, не чулі.

— У валасці казалі, што нядаўна цар зняў з нас паншчыну і паменшыў плату за надзелы,— адказаў слязлівы мужык.

— Дык чаму ж вы ўсё яшчэ лічыце сябе графскімі? — вёў далей размову Кастусь.

— А чые ж мы?

— Нічые. Вольныя людзі. І сяло ваша ўжо не графскае.

— Каб жа так яно было...

— Скажыце: а вунь аруць графскае поле вашы мужыкі?

— Яны паншчыну адрабляюць. Мы ўчора аралі.

— Як жа так, дзецюкі,— пачынаў гарачыцца Кастусь,— нават сам цар, як вы кажаце, назусім адмяніў паншчыну, а вы ўсё яшчэ не можаце расстацца з ёю? Спадабалася яна вам, ці што?

— А паспрабуй не выйдзі на паншчыну,— загаманілі мужыкі разам.— Цівун цябе ў рог скруціць.

— Дык вы ж кажаце, ён ужо не сячэ вас розгамі.

— На стайні перад людзьмі не сячэ. Гэта праўда. Ды ён і без розгаў замучыць цябе так, што жыць не захочаш. Або з торбаю па свеце пусціць... Што мы супроць графа! Ён нядаўна прыязджаў сюды. Дык усе ў воласці перад ім лістам сцелюцца. А ты, чалавеча, кажаш...

— Пан як быў панам, так і астаўся,— сказала высокая худая жанчына ў саматканай, пацямнелай ад пылу і бруду кашулі са зборкамі каля каўняра. На галаве ў яе была такая ж саматканая, але пафарбаваная балотнаю рудою хустка. Яна таксама слухала гаворку мужыкоў з Кастусём.

— А што з ім станецца,— адказалі мужыкі.— Ліха яго не возьме.

— Нядаўна, як прыязджаў граф,— зноў загаварыла жанчына,— мы, бабы, рабілі на яго агародзе. Дзень быў гарачы. Пот вочы выядае. А тут сажалка побач. От адна баба, Марыля Краўцова, і кажа:

— Жаначкі, давайце хоць крыху твар спаласнём.

— Давайце! — загукалі і іншыя.

Мы падышлі да сажалкі і давай мыцца. Убачыў гэта цівун. Прыбег. Як наробіць крыку! А вэй-вэй! Што ж мы нарабілі? Тут жа, у гэтай сажалцы, сам граф купаецца!

Прагнаў ён нас і загадаў парабкам, каб спусцілі ваду з сажалкі: яна ж, бачыш, мужыцкім потам пахне! А вы кажаце — пан роўны з мужыкамі... Дзе там!

Мужыкі разгаварыліся, і Кастусь даведаўся ад іх пра ўсё, што яго цікавіла. Толькі пра паўстанцаў нічога не сказалі: не чулі, не бачылі... Ведаюць жа, нябось, радаваўся Кастусь такім адказам, усё і чулі, а можа, і бачылі, а маўчаць перад чужым незнаёмым чалавекам ды яшчэ панам з выгляду. Яму вельмі хацелася пакінуць ім памятку — маніфест або нават прачытаць яго тут жа. Ды ўспомніў, як ён летась гэтак жа вось рызыкоўна на людзях раскідаў па дарозе са Слоніма «Мужыцкую праўду». Зараз рызыкаваць яму так нельга. Перад ім немалая дарога, і вельмі ж ён прыкметны, пан акцызны рэвізор, у сваёй брычцы.

Усхваляваны ўбачаным і пачутым, Кастусь паехаў далей, у карчму, дзе меўся спыніцца на начлег.

Праз некалькі дзён пасля ад'езду Кастуся атраду Духінскага давялося прыняць першае баявое хрышчэнне. Выступіўшы з лясоў графа Кружэнсцерна, атрад рушыў у бок Слоніма. Туды, па загаду ваеннага ваяводы, мусілі падцягвацца і ўсе іншыя атрады і групы паўстанцаў Гродзенскай губерні. Валерый не раіў Духінскаму збіраць людзей у адзін гурт.

— Мы не рэгулярная армія,— пярэчыў ён свайму начальніку.— Наша перавага ў вольных манеўрах.

Упарты ваявода і слухаць не хацеў.

— Затое пры ўдачы мы можам разбіць лепшыя часці генерала Манюкіна і надоўга вывесці яго са строю. А гэта адразу падыме наш прэстыж [1].

— Удача — справа няпэўная,— не здаваўся Валерый.— Яна можа быць, а можа і не быць... Куды лепш, калі спадзявацца не на ўдачу, а на разумны разлік.

Духінскі з першых жа дзён свайго ваяводства акуратна пісаў рапарты ў Варшаву: віленскага Аддзела ён не прызнаваў, тым больш што аўтарытэтнага ваеннага цэнтра там і не было. І яму вельмі хацелася пахваліцца нечым важным, а не апісваць бясконца сумныя будзённыя справы. Ды ўрэшце там, у Варшаве, ад яго і чакалі нечага незвычайнага: калі не перамог, то хоць добрых вестак. Гэтым і кіраваўся ён у першую чаргу, замышляючы свой план буйной баталіі з карнымі атрадамі генерала Манюкіна.

Але трэба сказаць, Манюкін быў не з дурных генералаў. Ён лёгка разгадаў план свайго саперніка і рашыў даць бой яго атрадам паасобку, не дапускаючы іх злучэння ў адзін баявы кулак.

Хітры і каварны генерал Манюкін больш баяўся мужыкоў, чым саміх паўстанцаў. І ён рабіў усё, каб не толькі адлучыць мужыкоў ад паўстанцаў, але і зрабіць іх сваімі памагатымі. Бо хто ж лепш за мужыка высачыць чужога чалавека ў сваіх лясах і на сваіх дарогах. Ад яго вачэй не схаваюцца ні заяц, ні воўк, не тое што чужы чалавек са стрэльбаю ці пікаю. А каб гэты мужык зненавідзеў паўстанца і даносіў пра яго ўладам у тую ж хвіліну, як толькі

[1] Прэстыж — аўтарытэт.

ваўважыць, Манюкін і ўсе царскія чыноўнікі штодня бубнелі яму, што паўстанне — справа панская, а не мужыцкая. Паны пайшлі супроць цара-бацюхны за тое, што ён скасаваў прыгон і клапоціцца аб сваім хрышчоным народзе, як родны бацька аб дзецях. Калі паны возьмуць верх у вайне, то адразу ж вернуць паншчыну і ўсе старыя парадкі. А каб гэтага не было, кожны мужык мусіць стаць на абарону сябе і сваёй вёскі ад панскіх паўстанцаў. Так узніклі сельскія каравулы, кіраваць якімі пасылаліся салдаты і унтэр-афіцэры з ваенных гарнізонаў.

Што мог Кастусь і яго сябры выставіць супроць манюкінскай маны? Адзіны пакуль што маніфест новай польскай улады. Але гэтага было мала. Мужык ведаў свайго пана як аблупленага і не верыў яму і яго абяцанкам.

Тое, што так непакоіла Кастуся яшчэ да паўстання, вырвалася напаверх з немалой выбуховай сілай, пахіснуўшы ўсю справу. Варта было атраду Духінскага рушыць у паход, як Манюкін праз сваіх каравульных ужо ведаў, куды ён ідзе і з якою сілаю. І таму генерал паслаў свае атрады не па слядах паўстанцаў, а наперарэз ім і якраз у такое месца, дзе зручней было даць бой: на ўскраіны лясоў пад вёскамі Валілы і Саколда.

Валерый не спадзяваўся на гэтую сустрэчу, хоць і ведаў, што Манюкін ужо рыхтуе ім пастку. Калі атрад падышоў да лесу каля вёскі Валілы, яго нечакана асыпаў град куль. Не разабраўшыся, з якою сілаю яны сустрэліся, Духінскі даў каманду на штурм. Валерый ледзьве адгаварыў яго не рабіць гэтага: штурмаваць добра ўзброеных салдат на такой зручнай для іх пазіцыі больш чым рызыкоўна. Духінскі нехаця згадзіўся, і Валерый адвёў атрад ад Валілаў да Саколды. Але і там яго чакалі карнікі. На гэты раз адыходзіць не было куды, і Валерый згадзіўся з Духінскім, што трэба прыняць бой.

Першыя кінуліся ў атаку коннікі. Іх вялі афіцэры, што перайшлі да паўстанцаў з Беластоцкага гарнізона. Яны змялі і рассеялі па лесе пярэднія шарэнгі салдат. Аднак у глыб лесу прабіцца не маглі і павярнулі назад. Не ўдалося прарвацца праз лес і стральцам з касінерамі. А тым часам падскочылі свежыя часці салдат з-пад Валілаў. Сілы аказаліся зусім няроўныя. Паўстанцы неслі немалыя страты, і Валерыю нічога не аставалася, як спешна адступіць пад моцным агнём ворага...

Няўдача спыніла паход атрада Духінскага. Але нена-

доўга. Праз два тыдні атрад сабраўся зноў. І зноў рушыў тымі ж дарогамі да Слоніма, але ўжо з большаю асцярогаю.

З рознымі ўдачамі і няўдачамі прабіваліся на Слонімшчыну і іншыя атрады. З-пад Гродні выйшаў атрад адстаўнога палкоўніка Аляксандра Лянкевіча, або Ляндара, як па-сяброўску называлі яго паўстанцы. Спачатку ён падаўся на ўсход, маючы намер сабраць па дарозе і далучыць да сябе дробныя групы паўстанцаў, каб потым разам рушыць на поўдзень. Але ўжо каля мястэчка Азёры атраду перагарадзілі дарогу салдаты Манюкіна. Здарылася тое ж, што і з атрадам Духінскага. Праўда, Лянкевічу больш пашанцавала, чым Валерыю і Духінскаму: ён лягчэй вырваўся з нечаканага бою і давёў рэшткі сваіх людзей да Ваўкавыска, дзе далучыўся да атрада Густава Стравінскага. А неўзабаве да іх з баямі прабіўся і пружанскі атрад Фелікса Влодака. З Навагрудка прывёў сваіх жаўнераў Вітальд Міладоўскі. На самой Слонімшчыне гасцей чакаў паўстанскі ваенны начальнік Францішак Юндзіл. Меўся прыбыць яшчэ сюды і Рамуальд Траўгут — з Кобрына. Але пасля трох удалых сутычак з ворагамі Варшава паслала яго праз Палессе на Валынь.

З тае прычыны, што атрад Духінскага затрымліваўся ў дарозе, каманду над злучанымі атрадамі ўзяў на сябе старэйшы па чыну Аляксандр Лянкевіч. Ён вывеў атрады за Слонім, у Мілавідскія лясы і сам выбраў для іх пазіцыю, якая яму здавалася найбольш зручнай. Лянкевіч ведаў, што доўгай перадышкі Манюкін яму не дасць і што атрад Духінскага можа і не паспець да пачатку буйной сутычкі. І ён вельмі ўзрадаваўся, калі раптам у госці да паўстанцаў завіталі Кастусь з Эразмам.

Траха не ўвесь апошні месяц Кастусь не злазіў з брычкі. Дзе толькі не пабыў ён за гэты час! Язэп абвазіў яго па ўсіх паўднёвых паветах. Нарэшце яны трапілі ў Гродню. Дарога дашчэнту выматала і Кастуся, і яго маладога фурмана. Не здаваўся пакуль што адзін толькі Буланы, хоць і пахуднеў за гэты час.

Але Кастусь не думаў пра сябе. Больш хвалявалі яго непаладкі траха не ва ўсіх арганізацыях губерні — і павятовых і акруговых. Усё ішло не так, як трэба. У атрады збіраліся толькі дзесяткі і сотні. А ён марыў аб тысячах, дзесятках тысяч... Дзе прычына? — ламаў ён галаву. Засмуча-

ны гэтымі неладамі, Кастусь іншы раз траціў раўнавагу і вінаваціў кожнага павятовага і акруговага начальнікаў, хоць потым часта і каяўся. Сустрэўшыся з Эразмам, ён і яму нагаварыў нямала колкіх слоў. Эразм лічыў, што яго справа — грамадзянская ўлада. Гэтага, аднак, Кастусь і слухаць не хацеў: ці ж можна цяпер, у самы гарачы ваенны час, адрываць грамадзянскую справу ад ваеннай!

Кастусь гарэў сам справаю паўстання і не мысліў сабе раўнадушнымі сваіх падначаленых. Ад Эразма ён даведаўся, што ваўкавыскі павятовы начальнік доктар Мечыслаў Гліндзіч ужо даўно не падае голасу, а слонімскі павятовы — арыштаваны.

— І што ты зрабіў, каб замяніць іх? — запытаўся Кастусь.

Эразм вінавата развёў рукамі:

— Сувязь з паветамі страчана... Вестак адтуль ніякіх не маю...

Кастусь рэзка абарваў яго:

— Ведаеш прыказку: калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет пойдзе да гары. Ці не думаеш, што прыказка гэтая спецыяльна для цябе складзена?

Прысаромлены Эразм моцна пачырванеў.

— Усё часу няма...— апраўдваўся ён.— На работу ж трэба хадзіць...

Праз хвіліну Кастусь абняў Эразма і сказаў:

— Вось што, браток: работу сваю ты кідай. Цяпер у нас самая важная работа — весці вайну з царскім генералам Манюкіным. Садзіся ты са мною ў маю брычку і — гайда з намі. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Эразм пакінуў ваяводскія справы свайму сакратару Ільдэфонсу Мілевічу і сеў у брычку.

Ваўкавыск ім пакуль што прыйшлося абмінуць: дарогі там былі запоўнены салдатамі і пікетчыкамі Манюкіна. Ды і ў Слонім прабівацца было рызыкоўна. Яны спыніліся пад горадам у маёнтку пана Ягалкоўскага — аднаго з акруговых начальнікаў. Туды Кастусь запрасіў гаспадаровага суседа Іосіфа Стравінскага і выдаў яму намінацыю на начальніка Слонімскага павета замест арыштаванага доктара Сімановіча. Пан Стравінскі ахвотна згадзіўся прыняць пасаду і даў Кастусю і Эразму слова гонару верна служыць справе паўстання. Кастусь напомніў яму, што ён як ваяводскі камісар будзе строга сачыць за тым, каб усе паўстанцы, якія прыходзяць у павет і праходзяць праз яго,

былі накормлены і апрануты, а сялянам каб чытаўся маніфест Нацыянальнага польскага ўрада з усімі належнымі вынікамі. Тых з паноў, хто будзе дапамагаць Мураўёву, а не паўстанцам, строга караць, таксама як і ўсякіх іншых здраднікаў.

У тыя дні новы генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў яшчэ толькі прымаў справы ад свайго папярэдніка Назімава, але нядобрая слава пра яго паспела ўжо абляцець увесь край. Усе ж ведалі яго як самага крывавага царскага генерала, хоць і роднага брата дзекабрыста Аляксандра Мураўёва і цёзку павешанага царом Мікалаем І Мураўёва-Апостала Сяргея Іванавіча. Калі яму напаміналі пра брата-дзекабрыста, ён звычайна адказваў: «Я не з тых Мураўёвых, якіх вешаюць, а з тых, якія вешаюць». Гэтая генеральская самахарактарыстыка так і засталася за ім на векі вечныя.

Мураўёву-вешацелю ішоў у той час шэсцьдзесят сёмы год, і ён паспеў ужо не раз даказаць царскаму дому, на што здольны як верны страж рускага прастола. Яго пасылалі ў Заходні край на расправу з паўстанцамі яшчэ ў 1830 годзе. Потым нейкі час ён губернатарстваваў у Гродні, служыў міністрам дзяржаўных маёмасцяў. І вось зараз цар зноў даў яму поўную волю над цэлым краем. Назімаў, хоць і стараўся з усяе сілы, не мог спыніць тут рэвалюцыйнага пажару і вымушаны быў развітацца з Вільняю.

Кастусь моцна задумваўся над зменаю начальніка краю. Замест старога ката прыйшоў новы, яшчэ горшы. Што ж: клін трэба выбіваць клінам. І самая найпершая контрмера, думаў ён, можа быць толькі адна — шырэй падымаць на паўстанне саміх мужыкоў. Мужык — вось хто вырашыць спрэчку з рускім царом.

Кастусь выказаў свае думкі ўголас Эразму і папрасіў, каб ён запісаў іх і, як вернецца ў Гродню, разаслаў цыркулярам усім павятовым і акруговым начальнікам.

— Гэта цяпер вельмі і вельмі важна, Эразм! — горача даводзіў ён сябру.— Мы ўжо і так многа страцілі.— Цяжка ўздыхнуўшы, Кастусь сказаў: — Ты разумееш: я ўсё думаю пра Зыгмунта... Храбрэйшы і разумнейшы з усіх нас, ён першы стаў ахвяраю на полі бою... У чым тут справа?

— Сіла няроўная,— адказаў Эразм.— Ён не лёгка здаўся.

— Магчыма,— разважаў Кастусь.— Але на ўсё ёсць прычына.

— Можа, выкупіць яго Гейштар? Усе ж гэтыя царскія пракуроры і следчыя — прадажныя душы.

— Баюся, што не ўдасца зрабіць гэта,— сказаў Кастусь.— Вельмі ж вядомая ён асоба. Ды, здаецца, не надта і засмуціўся праз гэта Гейштар і яго сябры. У мяне такое нядобрае прадчуванне, што ўсе гэтыя паны і графы ўмяшаліся ў наша паўстанне, каб яго задушыць. Ты не думаеш так?

— Пра гэта нават страшна падумаць...

— Ну што ж: час пакажа, так яно ці не так.

Зыгмунту Серакоўскаму, пра якога ўспомніў Кастусь, апрача ўсяго, не пашанцавала. Хоць і гэта не абышлося без прычыны. І не адной. Калі ў жніўні мінулага года ён даваў згоду стаць ваенным кіраўніком паўстання ў Літве і Беларусі, рабіліся агаворкі, што яно яшчэ не скора будзе. Ёсць яшчэ час аб усім падумаць і падрыхтавацца. І раптам усё змянілася. Са службы Зыгмунт вырваўся толькі ў канцы сакавіка. Рыхтаваць паўстанне па сваіх мыслях і планах яму не было калі: яно ўжо разгаралася. Прыйшлося весці ў бой тыя атрады, якія яму далі і якіх ён не знаў і не ведаў. Гейштар паслаў яго ў Ковенскую губерню. «Там самая лепшая рэвалюцыйная арганізацыя ў краі,— хваліў ён Зыгмунту сваю родную Ковеншчыну.— З Ковеншчыны адкрываюцца шырокія шляхі і на цэнтр краю — Вільню і на Латгалію з крэпасцю Дзінабургам».

Шчыры і сумленны ва ўсім Зыгмунт паверыў свайму быламу аднакашніку па універсітэце. Ды як было не паверыць? Гейштар жа сам рыхтаваў Ковеншчыну да паўстання і апошні час траха што і не пакідаў яе: мяняў павятовых і акруговых, спрачаўся з ксяндзом Мацкявічусам, які сабраў свой атрад з адных літоўскіх мужыкоў. Гейштар хацеў падкінуць яму дзесяткаў два-тры дваран — з літоўскай шляхты. Але ўпарты ксёндз нізашто не згадзіўся прыняць у свой атрад ні аднаго шляхціца.

Зыгмунта і самога вабіла Ковеншчына: сапраўды, яна магла стаць цэнтрам паўстання. Ковенскія лясы і непраходныя балоты давалі шырокі прастор для манеўраў і партызанскай вайны. На ўзбярэжжы Балтыкі Зыгмунт чакаў зброі для паўстанцаў і высадкі валанцёраў[1] з Францыі і Англіі. З Ковеншчыны пры ўдачы можна было перакінуць пажар паўстання на ўсходнія беларускія і рускія губерні.

[1] Валанцёры — добраахвотнікі.

Але ўсё гэта Зыгмунт бачыў толькі ў сваіх светлых марах. Калі ж прыйшлося да справы, Ковеншчына аказалася зусім не такой ружовай, як яе намаляваў Зыгмунту яго стары сябар Гейштар. Гейштар да прыезду Зыгмунта паспеў зрабіць усё, каб развaліць паўстанскую арганізацыю чырвоных, і не стварыў сваёй, новай. Ён проста падмануў Зыгмунта, спадзеючыся, што Зыгмунт зробіць тое, што павінен быў зрабіць ён сам да пачатку паўстання.

Траха не цэлы месяц Зыгмунт вадзіў у бой атрады сваіх храбрых камандзіраў: Мацкявічуса, Колышкі, Длускага. Ён удала блытаў сляды і ўводзіў у зман ворагаў — гвардзейскія часці генерала Ганецкага. Але сілы яго з кожным днём слабелі. Ковенская рэвалюцыйная арганізацыя яму не памагала, бо яе і не было. Узброіць сялян не было чым. Высадка валанцёраў не адбылася: царскаму ўраду ўдалося падкупіць капітана карабля... Затое самі ковенскія дваране шкодзілі Зыгмунту дзе толькі маглі: сачылі за кожным яго крокам і даносілі Ганецкаму, пасылалі праваднікамі карнікаў сваіх аканомаў, лёкаяў, егераў... Шчыра стараліся выслужвацца перад Ганецкім і мясцовыя немцы-каланісты. Разам з панскімі егерамі яны далучаліся да гвардзейскіх часцей Ганецкага і, як добра спрактыкаваныя стралкі, палявалі на паўстанцаў, стараючыся перш-наперш забіваць іх камандзіраў.

Так сустрэла Ковеншчына Зыгмунта Сераковскага. Але гэта былі толькі першыя цяжкія выпрабаванні.

Змардаваныя няспыннымі пераходамі з баямі, атрады Сераковскага, здавалася, ужо адарваліся ад сваіх ворагаў і апынуліся ў непраходных Біржанскіх лясах. Чакалі толькі Мацкявічуса, які ішоў сюды другімі дарогамі. Але не паспелі і адпачыць, як раптам былі атакаваны часцямі Ганецкага... Іх прывялі сюды тыя ж панскія праваднікі з немцамі-каланістамі.

Толькі на трэці дзень Ганецкаму ўдалося рассеяць пераможаных паўстанцаў. Цяжка параненага Зыгмунта сябры схавалі ў маёнтку пані Касцялкоўскай, адкуль збіраліся пераправіць яго за мяжу. Для гэтага патрэбна была павозка з рысорамі: Зыгмунт быў паранены ў спіну і яго нельга было везці на звычайнай павозцы. Але як сябры Зыгмунта ні прасілі пашо Касцялкоўскую, павозкі яна не дала. Наадварот, каб уратаваць сваё дабро, цішком кінулася да спраўніка, дзе якраз кватараваў са сваім штабам сам генерал Ганецкі...

Так трапіў у рукі ворагаў праслаўлены рэвалюцыянер, блізкі сябар Чарнышэўскага, Тараса Шаўчэнкі і Кастуся Каліноўскага. Разам з ім драпежная пані Касцялкоўская загубіла і Баляслава Колышку, студэнта Маскоўскага універсітэта, выхаванца польскай ваеннай школы ў Генуі. Ён, як і ўвесь штаб Зыгмунта, да апошняй хвіліны не пакідаў свайго любімага ваяводу. Пані, якую яны вызвалялі ад рускага цара, выдала іх з-за нікчэмнай рысорнай павозкі...

Хіба ж пасля гэтага не скажаш, што Зыгмунту Сераkoўскаму не пашанцавала! Сам ён зрабіў усё, што не толькі мог, а можна было зрабіць...

Лагер Лянкевіча, куды прабіраліся Кастусь з Эразмам, размяшчаўся каля вёскі Мілавіды, недалёка ад Брэсцка-Бабруйскай шашы. Месца гэтае параіў Лянкевічу пан Кярсноўскі — гаспадар тутэйшага маёнтка, дзе і спыніліся Кастусь з Эразмам адвячоркам.

Паабедаўшы наспех, пан Кярсноўскі павёў гасцей у лагер паўстанцаў. Ісці было нядоўга, але такімі сцежкамі, што без павадыра загубіўся б тут на першай вярсце. Мінуўшы поле, падарожныя трапілі на нізкае гразкае балота з рэдкаю расліннасцю сярод лазняку і ракіты. Павадыр, пан Кярсноўскі, адразу ж знайшоў на гэтым гіблым балоце жардзяныя кладкі-масткі.

— Што,— спытаўся Кастусь,— і пана Лянкевіча вы вялі па гэтых чортавых мастках?

Пан Кярсноўскі — немалады ўжо чалавек высокага росту і моцнага складу — весела разрагатаўся:

— Што вы, пан камісар! Ён утапіў бы тут усё сваё войска. Мы ідзём нацянькі. Пана Лянкевіча я вёў па дарозе. У яго ж абоз і кавалерыя.

— Ну добра,— згадзіўся Кастусь.— Але, выходзіць, той жа дарогаю могуць прайсці сюды і салдаты Манюкіна? Тады што? Пастка?

— Пастка, ды не для ўсіх. Для мяне тут пастак няма. Ды і чаго салдатам Манюкіна перціся ў гэтае балота? Яны пойдуць па шашы. А яна не так і блізка ад лагера. Паспрабуй дабрацца да яго па забалочаным гушчары!

— А калі ўсё ж дабяруцца?

— Ну, тады для пана Лянкевіча ў мяне знойдуцца яшчэ і такія сцежкі, пра якія нават лесуны тутэйшыя не ведаюць.

— А калі нападуць знячэўку? — дапытваўся Кастусь.

— А пікеты навошта? Сюды яны і зайца не прапусцяць незаўважаным.

— Аднак мы не зайцы, а ніхто нас пакуль што не аклікае.

— Не аклікае, бо я з вамі.

І праўда, большай глухамані, чым гэты куток, не знайшлося б і на ўсёй Слонімшчыне. Кастусь пераканаўся ў гэтым, калі яны трапілі ў лес — яшчэ цямнейшы за самую Белавежскую пушчу. Здавалася, не толькі чалавек — мядзведзь не заглядваў сюды ад пачатку свету. Пераскокваючы штохвіліны цераз гнілыя паваленыя дрэвы, абыходзячы ямы, напоўненыя балотнаю вадою, падарожнікі выйшлі нарэшце на сухі ўзгорак, дзе і ўбачылі між векавых елак і хвой белыя палаткі і зялёныя буданы.

— Вось і сам лагер,— сказаў пан Кярсноўскі.— Цяпер вы не мае госці, а палкоўніка Лянкевіча. Вунь яго палатка,— паказаў ён рукою направа.

Каля палаткі, адганяючы яловай галінкай камароў, якія так і віліся цэлымі раямі, стаяў вартавы — прысадзісты жаўнер у цёмнай чамарцы венгерскага крою і чырвонай канфедэратцы. Двухстволка яго была прыстаўлена да палаткі. Вартавы, відаць, добра ведаў пана Кярсноўскага, бо адразу ж ахвотна адказаў яму, што пан палкоўнік на вячэрнім абходзе і хутка напэўна вернецца.

— То, можа, і нам далучыцца да пана палкоўніка? — прапанаваў Эразм.

— Ты перахапіў маю думку,— сказаў Кастусь.— Дзе яго шукаць?

Вартавы паказаў, куды ісці.

— Тут недалёка.

— На палянцы каля смалярні? — перапытаў Кярсноўскі.

— Так, так, проша пана. Але, я думаю, пан палкоўнік ужо скончыў свой абход.

Так яно і было. Не паспелі госці ступіць і дзесяці крокаў, як убачылі недалёка за дрэвамі гаспадара. Ён вяртаўся ў палатку, і не адзін, а з цэлаю світаю сваіх камандзіраў.

Палкоўнік Лянкевіч — стройны, плячысты мужчына з моцна загарэлым смуглявым тварам — вельмі ўзрадаваўся гасцям.

— А гэта мой штаб,— паказаў ён на сваіх сяброў.— Знаёмцеся.

— Бадай усіх я ўжо ведаю,— сказаў Кастусь.— Калі не ў твар, то па прозвішчах.

Лянкевіч прадставіў гасцям сваіх камандзіраў — Влодака, Стравінскага, Юндзіла і Міладоўскага.

— Вось толькі пана Міладоўскага бачу ўпершыню,— сказаў Кастусь, вітаючыся з ім за руку.— Ды гэта і не дзіва: ён у нас — пагранічны князь.

Камандзіры засмяяліся.

— Чаму пагранічны?

— Ну, віленцы яго лічаць сваім, мінчане — таксама, а мы — гродзенцы — тым больш. А ў самога пана Міладоўскага да каго душа ляжыць, дазвольце пацікавіцца?

Пан Міладоўскі — малады афіцэр з прыгожым светлым тварам — падкруціў вусы і адрапартаваў жартоўным тонам:

— Так што душа мая зараз ляжыць да вас, пан ваяводскі камісар!

— А пан палкоўнік не пакрыўдзіцца? — тым жа тонам запытаўся Кастусь.

— Мы з панам палкоўнікам як-небудзь паладзім. А сёння — вы ў нас самы найбольшы начальнік.

— А Эразм?

— Ну і пан Заблоцкі, вядома...

— Значыць, душа ваша, пан Міладоўскі, добра разбіраецца ў начальніках?

— Так, так, пан ваяводскі камісар, вы ўгадалі...

Былы прапаршчык і член Пецярбургскай афіцэрскай арганізацыі, Кастусёў равеснік Вітальд Міладоўскі вызначаўся вясёлым характарам і дасціпнасцю. На ўсё ён глядзеў па-свойму і ніколі не траціў гумару.

— А як маецца доктар Борзабагаты? — раптам зусім сур'ёзна запытаўся Кастусь.

— Нічога. Жыве і ўсіх кляне...

— Каго гэта ўсіх? І мяне хіба, ці што?

— Ну, яму ёсць каго клясці і без вас. Першага — пана Кашыца. Другога — Гейштара. А трэцяга — мяне...

— Ну, паны Кашыц і Гейштар знялі яго з пасады паятовага. Гэта ясна. А вас за што?

— Не думаю і не раблю так, як ён хоча.

— А як ён хоча?

— Ну, дай яму волю,— сказаў Міладоўскі,— дык ён усё дагары дном пераверне. Адным словам, неспакойны наш доктар. Гатоў усе маёнткі раздаць мужыкам, абы

тыя ішлі ў атрады... Але ж гэта ўжо занадта. А цо занадта, то не здрова.

У лесе цямнела, хоць, як відаць было па невялічкіх светлых воблачках, сонца яшчэ не зайшло: дзе-нідзе яно, як іголкамі, праколвала сваімі жоўтымі праменнямі гушчыню ціхіх вяршалін.

Палкоўнік Лянкевіч перапыніў гаворку і запрасіў гасцей у палатку.

— Навошта нам палатка, пан палкоўнік? — сказаў Густаў Стравінскі.— Пагода сёння цудоўная. Вечар цёплы.

— А камароў куды ты падзееш?

— Дык камарам і ў палкоўніцкую палатку ўлёт не забаронены,— адказаў за Густава Міладоўскі.

Камары, і праўда, заўладалі і гаспадарамі, і гасцямі. Яны не толькі крывавілі твар і рукі, а і залятаялі, не разабраўшыся, у нос, у рот і ў вушы.

— І ўсё ж я сваёй прапановы не знімаю,— сказаў палкоўнік Лянкевіч, ваюючы з камарамі.— У палатку іх не пусціць мой вартавы. Праўда, стралец Янэк?

— Пастараюся, пан палкоўнік.

У палатцы — досыць прасторнай — стаяў невялікі стол, збіты з дошак і накрыты белаю настольніцай, і дзве дашчаныя лаўкі абапал.

Гаспадар папрасіў гасцей і камандзіраў садзіцца і сказаў:

— Я карыстаюся выпадкам вітаць нашых высокіх гасцей на гэтай важнай ваеннай нарадзе.

Камандзіры дружна гукнулі:

— Віват [1] пану ваяводу і пану ваяводскаму камісару! Віват на сто лят!

Кастусь з Эразмам паклонам адказалі на прывітанне.

— А цяпер, панове камандзіры і высокія госці,— пачаў нараду палкоўнік Лянкевіч,— дазвольце мне коратка намаляваць карціну нашага паходу па цэнтральных і паўднёвых паветах губерні.

Палкоўнік расказаў, як збіраўся яго атрад і што яны зрабілі да гэтага часу: колькі мелі сутычак з карнымі часцямі генерала Манюкіна, дзе і як дастаюць зброю і харчаванне.

Ён пашкадаваў, што ваеннаму ваяводзе Духінскаму ніяк пакуль не ўдаецца вырвацца з Ружанскіх лясоў і

---

[1] Віват (*лац.*) — няхай жыве, ура.

што з гэтай прычыны яму, Лянкевічу, давядзецца і надалей выступаць самастойна на свой страх і рызыку. Ён папрасіў высокіх гасцей пацвердзіць гэтыя яго правы ад імя ваяводскай арганізацыі.

Кастусь запытаўся ў палкоўніка, якая асноўная мэта збору ўсіх атрадаў у адно месца.

Палкоўнік сказаў, што такое жаданне ваяводы Духінскага.

— А самі вы, пан палкоўнік, што думаеце наконт такога жадання?

Палкоўнік пацінуў плячыма:

— Вялікага сэнсу ў гэтым я не бачу. Відаць, нам лягчэй і зручней весці справу ўсё ж дробнымі атрадамі.

— Вось і я так думаю, пан палкоўнік,— сказаў Кастусь.— Нам лепш трывожыць, а дзе можна, то і біць смертным боем Манюкіна там, дзе ён гэтага не чакае, не даваць спакою яго гарнізонам, распыляць яго сілы па ўсёй губерні. Адным словам, давесці да таго, каб яму зрабілася моташна і моцна зажадалася даць лататы ад нас за трыдзевяць зямель...

Па просьбе камандзіраў Кастусь расказаў пра апошнія падзеі ў краі пасля змены генерал-губернатара, а таксама пра ваенныя няўдачы Духінскага пад Беластокам і Сераkoўскага пад Біржамі на Ковеншчыне. І хоць гэтыя падзеі не мелі нічога светлага, Кастусь зусім не маляваў іх чорнымі фарбамі, а сказаў, што наадварот: яны мусяць узняць новую, яшчэ вышэйшую хвалю шырокага народнага паўстання.

Раніцай пікетчыкі паведамілі, што па Брэсцка-Бабруйскім тракце ідзе вялікая воінская часць — з казакамі і гарматамі.

Палкоўнік Лянкевіч ветліва папрасіў Кастуся і Эразма пакінуць лагер, а сам пачаў рыхтавацца да сустрэчы іншых — няпрошаных гасцей.

## IX

Што ж адбылося пад Мілавідамі?

Як расказваў потым у сваім рапарце падпалкоўнік Булгарын, яму ўдалося прарвацца да лагера Лянкевіча зусім блізка, траха не за вярсту, да самай смалярні. Вакол яе і разгарэўся бой. Булгарын вёў наступленне па ўсіх

правілах ваеннай навукі. Спярша абстраляў лагер з гармат. Потым пусціў першую стралковую роту і трэці ўзвод трэцяй роты справа ад смалярні, а другі ўзвод той жа трэцяй роты паслаў з барабанным боем — налева. Як прызнаваўся падпалкоўнік, гэтым ён збіраўся збіць Лянкевіча з панталыку: завабіць яго на барабанны бой і агаліць фронт перад стралковаю ротаю. Але Лянкевіч разгадаў яго хітрасць і сустрэў досыць густым агнём і стральцоў і барабаншчыкаў. Як відаць, хапіла і тым і другім, бо праз дзве гадзіны Булгарын замяніў першую роту другою. Аднак і другая не зрушыла з месца абаронцаў лагера. Нічога не дабіўся і камандзір трэцяй роты маёр Ягораў.

Тым часам дзень канчаўся, страты ў Булгарына раслі. І ён вымушаны быў паказаць паўстанцам спіну: адвёў свой карны атрад назад, адкуль прыйшоў. Здабыткі яго — два палонныя паўстанцы. Страты — дзевяць забітых і сорак адзін паранены... Такія лічбы назваў сам Булгарын.

Ад'ютант жа Валерыя Урублеўскага настаўнік Арамовіч сведчыў потым, што карныя атрады страцілі пад Мілавідамі дзвесце сорак чалавек...

Ачухаўшыся сяк-так, падпалкоўнік Булгарын аддаў назаўтра загад яшчэ раз штурмаваць лагер паўстанцаў. Але лагера ўжо не было: паўстанцы пакінулі яго.

Аб'яднаны атрад палкоўніка Лянкевіча зноў распаўся. Ні сам палкоўнік, ні яго камандзіры і не здагадваліся, што яны зусім лёгка маглі б дабіць знясіленага за дзень Булгарына, калі б кінуліся за ім наўздагон. Але на адкрыты бой за межамі свайго непрыступнага лагера яны не адважыліся. Хоць урэшце гэта таксама нічога не вырашала: генерал Манюкін паслаў бы новыя роты.

Падобную сутычку правёў і маёр Крэмер з атрадам Духінскага ў Ружанскіх лясах. З той хіба розніцай, што атрад Крэмера дагнаў Духінскага на маршы і напаў знянацку. У першыя ж хвіліны казакі Крэмера адрэзалі палкоўніка Духінскага з невялікаю групаю ад атрада і загналі ў лясныя нетры. Увесь удар прыняў на сябе Урублеўскі. Восем разоў храбра вадзіў ён сваіх стральцоў і касінераў у атаку на стралковыя часці і казацкія эскадроны маёра Крэмера. І ўсё ж разбіць іх не мог. Прыйшлося спыніць бой і вывесці атрад з-пад агню, каб злучыцца з Духінскім.

Спяшацца на Слонімшчыну цяпер ужо не было патрэ-

бы, і Духінскі павярнуў свой атрад на поўдзень, у Пружанскія лясы.

Атрады Духінскага і Лянкевіча разышліся, не сышоўшыся. Пачалася новая вайна — партызанская.

Тым часам, пакуль ваявода Духінскі мераўся сілаю з генералам Манюкіным, Кастусь вёў упартае змаганне за ўмацаванне сваёй арганізацыі. Ён, як ніхто, ведаў, што за тыдзень ці два перамогі не здабудзеш. І адна альбо дзве ўдачы ў баі справы не вырашаць, як і адна ці дзве няўдачы.

Пасля Мілавідаў Кастусь развітаўся з Эразмам і зноў падаўся ў паўднёвыя раёны, дзе, як яму здавалася, найбольш цяпер патрэбны былі і яго вока, і дапамога. На пана Гофмейстара ён не вельмі спадзяваўся. Праўда, у апошні час Варшава прыслала ваенным начальнікам Брэсцкага ваяводства студэнта духоўнай семінарыі Стасюкевіча, які адразу ж пачаў збіраць свой атрад у Ракітнінскіх лясах за Бугам. Хто гэты Стасюкевіч? Які ён начальнік? Які камандзір? Усё гэта таксама непакоіла Кастуся, і ён рушыў за Буг: лепш адзін раз убачыць, чым дзесяць раз пачуць.

Не паспеў Кастусь па прыездзе ў лагер пазнаёміцца з маладым камандзірам, як раптам спаткаў пры яго штабе свайго стрыечнага брата Івана.

Браты даўно не бачыліся, і гэтая неспадзяваная сустрэча моцна ўсхвалявала іх.

— Адкуль? Якім чынам ты апынуўся тут? — дапытваўся Кастусь.

— А ты — адкуль? — пытаўся ў сваю чаргу Іван, моцна абнімаючы брата.— Ці не тая ты важная асоба з Жонда народовага [1], якую мы чакаем?

— Тая, братка, тая,— адказваў узрадаваны сустрэчаю Кастусь.— Толькі прозвішча ў мяне — калі хто пытаць будзе — чужое.

— Якое ж яно чужое?

— Ну, няхай будзе Хамовіч, ці што?

— Дык што — у цябе яно не адно?

— А мне яны не замінаюць. Наадварот: чым больш прозвішчаў, тым лягчэй заблытаць сляды. За мной жа ганяюцца, як за якім небяспечным ваўком.

---

[1] *Жонд народовы* — народны ўрад. Так называўся з мая месяца Часовы нацыянальны ўрад у Варшаве.

Браты не маглі нагаварыцца. Іван расказаў, што ён толькі гэтай вясною скончыў ваенную медыка-хірургічную акадэмію і меўся ехаць на Кубань на службу. Але сам ён — удзельнік рэвалюцыйнай афіцэрскай арганізацыі — даўно выбраў шлях, па якім пайшоў яго блізкі сваяк. Вярнуўся на радзіму, а тут і паўстанне пачалося.

— Ну і як жа там у Пецярбурзе? — пытаўся Кастусь.— Прычакаемся мы калі дапамогі ад яго?

Іван сказаў, што афіцэрская арганізацыя паслала ўжо не адзін дзесятак сваіх членаў у Вільню і Варшаву.

— А што чуваць з «Зямлёй і воляй»? Можна на іх спадзявацца?

— Наўрад. Наколькі мне вядома, зараз яны зусім не гатовы выступіць.

— Шкада... Вельмі шкада,— сказаў Кастусь.— Нашы белыя спадзяюцца на Англію і Францыю. Але, здаецца, іх выступленне яшчэ менш рэальнае, чым землявольцаў. Дарэчы, ты, можа, таксама белы?

— Што ты, брат Кастусь: кім мяне лічыш? Што я — пан ці граф?

Кастусь распытаўся ў Івана пра яго бацькоў.

— Жывыя і здаровыя,— сказаў Іван.— Мой малодшы брат, Рыгор, таксама тут, у атрадзе Стасюкевіча. Я перацягнуў яго з ваеннай часці, што стаіць у Брэсце, дзе ён служыў унтэр-афіцэрам.

Нагаварыўшыся з братам, Кастусь заняўся атрадам. Ён папрасіў Стасюкевіча пастроіць сваё войска фронтам, што праз некаторы час і было зроблена.

Выслухаўшы рапарт самога камандзіра і павітаўшы яго атрад ад імя Жонда нарадовага, Кастусь абышоў фронт, знаёмячыся з афіцэрамі рот і ўзводаў. Сам ён на гэты раз выйшаў на парад у паўстанскай форме. На ім была шэрая чамарка, вышытая на грудзях чорнымі шнурамі, на галаве круглая футравая шапка, хоць на дварэ было і цёпла, на нагах юхтовыя боты, а за папругаю кінжал і рэвальвер.

Пасля агляду атрада ў страі Стасюкевіч даў каманду павярнуцца направа. Камандзіры рот падхапілі яго каманду. І калі атрад павярнуўся направа, зноў пачуўся малады гучны голас Стасюкевіча:

— Цырыманіяльным шагам, марш!

Атрад рушыў уздоўж палянкі каля лесніковай пасады. І хоць стройнага маршу не выйшла, але тупату стараліся

рабіць больш чым трэба. Параўнаўшыся з высокім госцем, афіцэры бралі пад казырок або падымалі над галовамі шашкі. Кастусь вітаў іх:

— Няхай жыве Жонд нарадовы!

Або:

— Няхай жыве вольнасць для ўсяго народа! На шыбеніцу вешацеля Мураўёва! Смерць цару-дэспату Аляксандру другому!

Афіцэры, а за імі і ўсе жаўнеры падхоплівалі словы Кастуся і разносілі іх па ўсім лесе.

Атрад Стасюкевіча спадабаўся Кастусю, як і яго малады камандзір-начальнік. Кастусь горача павіншаваў яго з першымі поспехамі і пажадаў будучых ваенных удач. А калі потым заглянуў у спіс асабовага складу, то ўбачыў той жа малюнак, што і ў іншых атрадах: мала яшчэ, зусім мала ў іх людзей з простага звання — мужыкоў. Дзе ж яны? Чаго чакаюць?

Пакідаючы лагер, Кастусь зноў успомніў пра «Мужыцкую праўду»: даўно не гаварыў ён з людзьмі па шчырасці праз сваю газету... А трэба гаварыць і гаварыць, будзіць, і клікаць, і весці ў бой. І ён загадаў свайму фурману Язэпу павярнуць аглоблі на поўнач, да Беластока. Там ён спадзяваўся дастаць паперу і, можа, нават знайсці друкарню, каб не ездзіць у Саўкаву леснічоўку. У дарозе ў яго заклапочанай галаве ўжо сам сабою складваўся тэкст гэтай новай газеты — сёмага нумара. Ну вядома ж, пачне ён звычайным зваротам: «Дзецюкі!» А далей пакаецца, што доўга не гаманіў з імі. Падумаць толькі: паўгода, як ён маўчыць!

І думкі, а за імі і словы паплылі адна за адною і адно за адным:

«Дзецюкі!

Доўга маўчаў я, не казаў вам нічога, бо хацеў разглядзецца добра ды разабраць, што гэта дзеецца на свеце, штоб ужо апавясціць вас па справядлівасці ды сказаць, як наказвае бог ды сумленне, што нам цяпер трэба рабіць. Чакаць моўчкі больш ужо нязмога! Памяркуйма толькі, што думаюць цяпер зрабіць з намі. Абяцаў нам цар зямлю. Чыноўнікі, папы ды маскалі — усе ў адзін голас дурылі нас, што цар нам шчыра думае ды дасць волю, сапраўдную волю. І слухалі мы цара. Казаў ён нам яшчэ два гады служыць паншчыну, і паншчыну мы адбывалі. Наказаў цар некрута, далі мы яму і некрута, а самі моўчкі

глядзелі, як нашых сынкоў ды братоў на край свету пагналі. Накінуў нам падушнага — плацілі мы падушнае за жывых і ўмёрлых, за дзяцей і за старцоў нядужых, плацілі мы земскую павіннасць ды вялікія зборы, плацілі на пасярэдніка, на праўленне, старшыням, пісарам, акружным, асэсарам — ды бог ведае, каму плацілі, ды ўсё не пыталіся, куды ідуць нашы грошы. Усе нас крыўдзілі ды ўсе абдзіралі, і біў нас сільнейшы, крыўдзілі багатыя, а на тое нідзе не было справядлівасці. Мы ўсё маўчалі ды слухалі, усім кланяліся, за ўсё плацілі, усё цярпелі, ждучы канца, бо спадзяваліся справядлівай вольнасці, спадзяваліся, што дадуць вольнай зямелькі ды ў падушным справядлівы набор будзе. Замест таго, штоб аддаць нашу зямельку, ды якую ж зямлю — гэту, што з дзядоў-прадзедаў кроўнаю працай дзесяць раз ужо на яе зарабілі ды заплацілі,— за гэту зямлю цар наказуе нам чыншы плаціць у казначэйства. Ды якія ж чыншы? Якія ўздумаецца пастанавіць чыноўнікам ды судовым крывапійцам, ды яшчэ з кожным годам усё большыя ды большыя. Так волі нам ужо і не будзе: век цэлы плаці ды на век нясі астаткі, каб адплаціцца, палатам ды праўленням. Падмануў жа нас цар, а яго служкі папы, чыноўнікі ды маскалі падвялі нас, як чорт добру душу...»

Так думка за думкай, слова за словам вёў шчырую гутарку Кастусь са сваімі мужыкамі пра іх жыццё-быццё, пра тое, што баліць і ім і яму. Успомніўшы і пагаманіўшы пра новы рэкруцкі набор і пра польскі маніфест, ён зашаптаў тыя самыя запаветныя словы, дзеля якіх вялася ўся гэтая гаворка:

«Падумайце добра, ды, памаліўшыся богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! Нас цар ужо не падмане — не падвядуць маскалі! Няма для іх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба — для іх мы глухі і немы, нічога не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды косамі туды, дзе дабіваюцца волі ды праўды, а мы, іх бацькі ды жонкі нашы, сцерагчы будзем ды ўведамляць, адкуль на іх цягне нячыстая царская сіла, ды ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам і бацькам».

Вось, здаецца, і ўсё галоўнае і набалелае, што яму хацелася сказаць сваім мужыкам зараз. Пачуюць яны яго, паслухаюць добрай парады, і ўсё зменіцца, паўстанне

пойдзе адзінай правільнай дарогай, як паўстанне народнае, а не панскае.

У Беластоку з ваяводскіх начальнікаў Кастусь знайшоў аднаго Гофмейстара. Праз яго зараз ішла тайная перапіска з Вільняю і Варшаваю, ён жа ведаў явачнымі кватэрамі і ў самім горадзе.

— А вам пісьмо, пан камісар,— радасна сустрэў ён Кастуся, падаючы канверт на імя Чарноцкага.

Кастусь раскрыў канверт, прабег вачыма: нейкі знаёмы Нестар перадаваў яму паклоны ад сябе і сваіх сяброў і вельмі чакае яго ў госці. І ўсё.

Кастусь дастаў са свайго дарожнага саквояжыка круглую невялічкую каробачку і высыпаў з яе на пісьмо кучку белай пудры. Потым развеяў пудру па рэдкіх радках пісьма, і адразу ж між іх пачалі цямнець другія літары... Прачытаўшы іх, Кастусь спытаўся:

— Даўно прыйшло пісьмо?

— Трэцяга дня. А што?

— Клічуць мяне ў Вільню.

— Надоўга?

— Відаць, надоўга.

— А хто ж замест вас будзе?

— Раяць выбраць намесніка самому.

Гофмейстар шчыра пашкадаваў, што яму даводзіцца развітацца са сваім камісарам у такі час.

— Нічога не парадзіш,— сказаў Кастусь.— Калі клічуць, значыць, я там больш патрэбен. У Вільні ідуць арышты. Працаваць у Аддзеле там цяпер нялёгка.

— Усюды нялёгка,— сказаў спахмурнелы Гофмейстар.— Калі вы тут былі блізка, я адчуваў сябе смялей і спакайней. А цяпер не ведаю, што і рабіць. Можа, няхай хто іншы возьме маю пасаду? Прашу вас...

Кастусь рашуча адказаў, што зняць яго з ваяводства адзін ён не можа ды і рабіць гэта няма патрэбы, а замест сябе ён мяркуе паставіць Эразма Заблоцкага.

— Але ж ён — ваявода, мой намеснік...— напомніў Гофмейстар.

— Ваяводам будзе хто іншы.

— Хіба што...

Кастусь падзякаваў пану Гофмейстару за каня і брычку і папрасіў, каб ён пераслаў яго фурмана Язэпа ў атрад Духінскага. Сам у той жа дзень поездам выехаў у Гродню, да Эразма, а адтуль — у Вільню.

## X

Паснедаўшы, Кастусь збіраўся пайсці да Малахоўскага, як раптам пачуў праз адчыненую фортку свайго пакойчыка голас трубы і дробны стук барабанаў.

«Што б гэта значыла?» — падумаў ён, прыслухоўваючыся да знаёмай салдацкай музыкі. Трубілі і барабанілі недзе блізка. Відаць, нейкі ранні ваяка пагнаў з такім шумам сваю роту на вучэнне.

Але мінула некалькі хвілін, а барабаны не цішэлі.

Кастусь выйшаў з дому. Была шэрая туманная раніца пасля няспыннага начнога дажджу. Старыя драўляныя тратуары на Замкавай вуліцы, дзе на адной з явачных кватэр правёў гэтую ноч Кастусь, і добра выгладжаны рамізнікамі і балаголамі брук яшчэ і не пачыналі падсыхаць. Сям-там у нізінах і выбоінах блішчалі свежыя лужыны і лужынкі.

Людзей на вуліцы было мала. І Кастусю адразу кінулася ў вочы, што ідуць яны бадай усе ў той бок, дзе заўзята трубілі і барабанілі.

Міжвольна ён і сам пайшоў за людзьмі. Малахоўскі яго пачакае — ён ведаў. Цяпер яму таксама вярнулі старую пасаду — начальніка горада Вільні. Пасада не лёгкая, але ўсё ж самы цяжкі груз лёг на Кастусёвы плечы — унутраныя справы ўсяго краю.

Аддзел Гейштара дажываў апошнія дні. Каб неяк удыхнуць у яго свежую кроплю жыцця, Аддзел зноў перайменавалі, назваўшы яго на гэты раз Выканаўчым аддзелам на Літве. Якая ў гэтым была патрэба, Кастусь пакуль што і сам не разабраўся. Хіба толькі, каб яшчэ больш прывязаць Літву і Беларусь да Варшавы. Але ж ні Гейштар, ні яго сябры ніколі і не рабілі жаднай спробы адлучыць сябе ад Польшчы і польскай справы. А мо Жонд нарадовы ўжо бачыў, што Аддзел рана ці позна зноў вернецца да чырвоных, у якіх, апрача агульных, ёсць і свае інтарэсы.

Трывожылі Кастуся і апошнія арышты. У руках мураўёўскіх следчых ужо апынулася траха не палавіна Аддзела — Аскерка, Яленскі, Францішак Далеўскі... Што гэта? Выпадковасць? Ці, можа, ім вядомы прозвішчы і ўсіх астатніх членаў паўстанскага штаба? Гейштар з Нестарам зусім апусцілі рукі. Чакаюць з дня на дзень сваёй чаргі... А прадвадзіцель віленскага дваранства Аляксандр Да-

мейка ўжо збірае подпісы паноў пад вернападданіцкім адрасам рускаму цару. Вось яна — вернасць сваёй польскай справе, змагацца за якую яны кляліся яшчэ два месяцы таму назад! Першыя няўдачы, і паны падаюць на калені перад царскім вешацелем.

Пазнаёміўшыся са справамі Аддзела і самога паўстання ў цэлым краі, Кастусь убачыў, што патрэбны крутыя і неадкладныя меры. Ён напісаў гарачы заклік да народа зямлі літоўскай і беларускай і надрукаваў яго разам з сёмым нумарам падрыхтаванай ім яшчэ на Брэстчыне «Мужыцкай праўды». У гэтым закліку, які ён назваў па-ваеннаму «Прыказам», Кастусь ясна і коратка расказаў народу, што зараз трэба рабіць і каму памагаць — мураўёўскім салдатам ці паўстанцам...

Неўзабаве гукі трубы і барабанаў прывялі Кастуся на Лукішскі рынак, побач з якім на ўзгорку ён убачыў новую высокую шыбеніцу. Устрывожаныя людзі — гараджане і сяляне з ваколіц, што прыехалі на рынак, пільна ўглядаліся на шыбеніцу, каля якой салдаты-барабаншчыкі заўзята білі ў свае барабаны.

Цяпер Кастусю ўсё стала ясна: Мураўёў рыхтуе чарговую лютую расправу. Каго ж на гэты раз ён збіраецца вешаць? Нядаўна, за некалькі дзён да прыезду Кастуся ў Вільню, на гэтай шыбеніцы замучылі саратніка Зыгмунта Серакоўскага Баляслава Колышку. Іменна замучылі, а не павесілі, бо мураўёўская пятля не вытрымала сваёй ахвяры і абарвалася, калі пакутнік быў яшчэ не да канца задушаны... Давялося катам чапляць другую пятлю і дарабляць сваю чорную справу.

Хто ж чарговы? Сам Зыгмунт? — кальнула пад сэрцам у Кастуся. Няўжо Мураўёў адважыцца забраць жыццё ў таго, каго ведае ўся руская армія як лепшага з сваіх сыноў, розуму і сумленню якога аддаюць належную павагу і пашану вядомыя ваенныя і палітычныя дзеячы цэлай Еўропы? А дзе ж нарэшце цар-імператар? Няўжо ён дазволіць гэтае злачынства ў сваёй неспакойнай імперыі, даючы лішні козыр Англіі і Францыі, якія і так вострацъ на яго зубы? Незразумела! Зусім незразумела... Толькі сляпы страх перад крушэннем імперыі, відаць, штурхае самадзержца і яго генерала-вешацеля на такі неразумны ўчынак.

Трывожныя думкі Кастуся раптам перапыніў знаёмы голас:

— Канстанцін Сямёнавіч!

Ён азірнуўся і ўбачыў побач з сабою дзяўчыну з кошыкам, напоўненым цыбуляй, пятрушкай і іншай рыначнай зелянінай.

— Марыська! — Кастусь з радасным хваляваннем падаў ёй руку.

Смуглыя шчокі дзяўчыны, адзетай у цёмную, у кветках, сукенку, загарэліся яркім румянцам. Відаць было, што гэтая нечаканая сустрэча ўсхвалявала яе не менш, чым Кастуся.

— Ты даўно тут, у Вільні?

— Не. З тыдзень.

— Чаму ж не зайшоў? — з дакорам запыталася Марыся.

— Усё няма калі...

— І не напісаў ні разу — дзе ты і што з табою... Раней я ў Цітуся Далеўскага пыталася пра цябе. Сказаў, што ты паехаў на сваю радзіму.

— Было такое, Марыська. А напісаць я не мог...

— Разумею. Ты ж, мусіць, з тых, за кім ганяюцца гэтыя каты,— кіўнула яна галавою ў бок шыбеніцы.— Я здагадвалася пра гэта яшчэ тады, калі ты жыў у нас на кватэры...

— А ведаеш, Марыська, у мяне засталіся самыя лепшыя пачуцці да вашай сям'і,— скіраваў Кастусь гаворку ў другі бок.— Як там жывуць вашы кватаранткі — Стэфа і Броня?

— Добра. Заходзь, Кастусь. Усе мы будзем рады табе. Ты зусім забыў нас...

Ёй хацелася сказаць — «мяне», але яна стрымала сябе: прычыны да гэтага Кастусь ёй не даваў, хоць і быў з ёю вельмі ласкавы і далікатны. Але чаму ён такі нерашучы? Няўжо яна першая мусіць сказаць тыя душэўныя словы прызнання, якія ўсе дзяўчаты чакаюць ад любімых? А можа, сустрэў ён другую або ажаніўся?

Між тым, барабаны на плошчы забілі і мацней і часцей. Натоўп захваляваўся. Пачуліся галасы: «Вядуць... Каго ж гэта? Каго? Ды кажуць, самага галоўнага мяцежніка... Бач ты, галоўнага... Хто ж ён такі? Серакоўшчык нейкі. Праваслаўны ці каталік? Каталік. Але не з паноў. Матка найсвентшая...» — хрысціліся жанчыны.

Марыська збялела:

— Хадзем адгэтуль, Кастусь! Я не магу...

— Але, Марыська, ідзі,— сказаў Кастусь.— А я ўсё ж застануся...

— Ну, як хочаш. Чакаем цябе. Заходзь!

Кастусь схапіў яе за руку. Яму хацелася сказаць ёй нешта вельмі патрэбнае, важнае. Але ці мог ён думаць пра ўласнае шчасце? І ён сказаў, сурова заглушаючы свае пачуцці:

— Мы яшчэ ўбачымся, Марыська... Кланяйся ад мяне маме і сяброўкам.

Як толькі Марыся пайшла, да шыбеніцы пад'ехала некалькі павозак з жандарамі і чыноўнікамі. Кастусь прасунуўся наперад, але так, каб не кідацца ў вочы жандарам, якія загарадзілі сабою шыбеніцу. І тут ён ясна ўбачыў: два дзябёлыя мардатыя жандары з аголенымі шашкамі вялі пад рукі Зыгмунта. Ён ледзь пераступаў нагамі: відаць, раны яго не загаіліся. Яшчэ два жандары ішлі спераду і два — ззаду. За імі рухалася цэлая судзейская світа з паліцмайстарам на чале. Апрануты Зыгмунт быў у сваё ваяводскае адзенне: мяккі каптан цёмнага колеру, фіялетавая канфедэратка на галаве, лёгкія боты. Але пазнаць яго, тым больш здалёку, цяжка было. На бледным, як палатно, худым і змардаваным твары блішчалі адны вочы — вочы Зыгмунта: разумныя, гарачыя, арліныя... Яны пільна ўглядаліся ў натоўп, шукаючы таго, каго ён спадзяваўся яшчэ раз убачыць перад смерцю. Але яго, праўдзівей, яе — першай прыгажуні на Літве, Апалоніі, яго маладой жонкі, у натоўпе не было. Жандары не сказалі ёй, калі павядуць на Лукішкі яе Зыгмунта. Барабанаў яна не чула. А калі і пачула, то не ведала, з якой прычыны яны ўзнялі трывогу.

У Кастуся закалацілася сэрца, затуманіліся вочы. Чалавек, якога ён зараз бачыў апошні раз, быў самы блізкі яму, пасля брата Віктара, сябар і настаўнік. Гэта ён разам з Чарнышэўскім і Герцэнам пасеяў у яго душы зярняты святой любві і нянавісці, паказаў ім, маладзейшым, адзіную ў жыцці дарогу да шчасця людзей.

Хто ж ён сам і адкуль у яго такая несакрушальная сіла духу і вера ў сваю справу? Кастусь ведаў жыццё Зыгмунта, як сваё ўласнае, і этапы гэтага жыцця зноў замільгалі ў яго памяці.

...Маленства не песціла Зыгмунта Серакоўскага гэтак жа, як і сталыя гады. І было ў гэтым маленстве нешта вельмі ж блізкае Кастусю і да болю зразумелае: Зыгмунт

рана страціў бацьку, гэтак жа, як Кастусь — матку. Бацька яго, беспамесны валынскі дваранін Ігнацій Серакоўскі, не вярнуўся з паўстання 1830 года, калі Зыгмунту не было яшчэ і чатырох гадоў. Зыгмунт забыў бацьку — пра гэта ён не раз гаварыў сябрам. Але само паўстанне, размовы пра яго запомніў на ўсё жыццё. Любімым героем яго стаў Тадэвуш Касцюшка. І рос ён хлопчыкам смелым і чэсным.

Кастусь добра запомніў расказ Зыгмунта пра тое, як яго хацелі забраць у кадэцкі корпус. Было яно так. Калі Зыгмунту мінула шэсць гадоў, у дом да іх завітаў паліцэйскі чыноўнік, што набіраў дваранскіх дзяцей у кадэцкія карпусы. Аддаваць свайго любімага, старэйшага з дзяцей, сына на вайсковую муштру маці не хацела. Яна хацела бачыць Зыгмунта настаўнікам ці адвакатам, а не бяздушным царскім афіцэрам. Каб адвесці пагрозу, яна цішком пераапранула яго ў адзенне дзяўчынкі і паказала чыноўніку.

— Няма ў мяне хлопчыкаў, пан начальнік,— сказала маці, выстаўляючы Зыгмунта наперад.— Вось самая большая дачка, гэта сярэдняя, а гэта — малодшая...

Паліцэйскі паўглядаўся ў дзяцей, пачмыхаў і разгарнуў свае паперы:

— Значыцца, кажаце, сыноў у вас няма, пані Серакоўская?

— Няма... няма... Адны дочкі...

— Тады трэба зрабіць папраўку ў спісах, бо тут, відаць, нехта з перапісчыкаў наблытаў: напісаў, што ў вас ёсць сын Зыгмунт.

— Не, не, няма ў мяне сына, пан начальнік...— цвярдзіла сваё маці.

— Ну добра, зробім папраўку. Як жа зваць вашу старэйшую дачку?

— Зося... Так, так, пан начальнік, Зося...

Сумленны Зыгмунт не мог вытрымаць няпраўды.

— Я — не дачка! — цвёрда сказаў ён чыноўніку.— Я — сын, Зыгмунт Серакоўскі.

Дорага каштаваў матцы гэты ўчынак яе шасцігадовага Зыгмунта: каб усё ж выратаваць яго ад кадэцкага корпуса, давялося аддаць паліцэйскаму ўсё спадчыннае серабро... З жартам расказваючы пра гэта сябрам, Зыгмунт зусім не каяўся ў сваім учынку. «Сумленнасць,— казаў ён,— даражэй і золата, што там серабро».

Але хлопчык, а потым і юнак Зыгмунт быў не толькі чэсны,— ён быў упарты і настойлівы. Яму вельмі хацелася паступіць у вышэйшую школу. Сродкаў у маці на гэта не было. І Зыгмунт яшчэ з апошніх класаў гімназіі пачаў збіраць грошы, зарабляючы прыватнымі ўрокамі. Такіх заработкаў, аднак, назбіралася няшмат, і ён два гады потым служыў гувернёрам у багатай сям'і. Яму вельмі не хацелася турбаваць маці, якая ніколі не мела лішняга рубля, каб патраціць яго на сынаву вучобу.

У Пецярбурзе Серакоўскі паступіў на той жа юрыдычны факультэт па разраду так званых камеральных навук, які потым скончыў і Кастусь. І яго невялічкі студэнцкі пакойчык на Васільеўскім востраве неўзабаве становіцца штабам польскага зямляцтва. Душой гэтага штаба маладых патрыётаў быў сам гаспадар пакойчыка Зыгмунт Серакоўскі.

А калі ў 1848 годзе ўспыхнула рэвалюцыя ў Еўропе і пайшлі чуткі, што генерал Бем ужо вядзе польскія замежныя легіёны з Аўстрыі да рускай граніцы, Зыгмунт імчыцца на радзіму, каб даведацца, ці праўда гэта і ці не пара рушыць у паход за вызваленне Польшчы яму самому і яго сябрам. У дарозе яго арыштавалі. І хоць ён ні слова не сказаў ні пра сябе, ні пра сваіх сяброў, царскія жандары нюхам пачулі ў ім свайго ворага. А самы галоўны тагачасны жандар Расіі цар Мікалай І напісаў на яго справе: «У Арэнбургскі корпус».

І сталася так, што маці ўсё ж не зберагла ад салдацкай казармы любімага сына...

Год за годам цягнуў салдацкую лямку мікалаеўскі салдат Зыгмунт Серакоўскі. Цярпеў і голад, і холад, і шпіцрутэны.

Вось тады і пакляўся ён сам сабе прысвяціць сваё жыццё змаганню за адмену ў рускай арміі палачнай дысцыпліны.

Перацярпеўшы ўсе пакуты, Зыгмунт з часам усё ж даслужыўся да першага маленькага чыну — унтэр-афіцэра. А далей пайшло лягчэй. Разумны, адукаваны унтэр-афіцэр Зыгмунт Серакоўскі, які сам вывучыў тры замежныя мовы — англійскую, французскую і нямецкую — і мог вольна гаварыць па-казахску, дабіваецца нарэшце пераводу па службе з правінцыяльнай глухамані ў губернскі горад Арэнбург — месца высылкі рэвалюцыянераў. І тут

ён зноў трапляе ў сваю сям'ю. Як і ў Пецярбурзе, ён становіцца душою новага гуртка сваіх землякоў — палякаў, украінцаў і беларусаў. Яшчэ задоўга да гэтага Зыгмунт завёў сардэчную і сяброўскую перапіску з такім жа, як сам, выгнаннікам — салдатам суседняга гарнізона Тарасам Шаўчэнкам. І гэтая перапіска моцна здружыла двух гаротнікаў на ўсё жыццё.

Праз восем гадоў катаржнай муштры Зыгмунт дaслужыўся да афіцэра. Цяпер яму дарога адкрыта ў Акадэмію генеральнага штаба, куды ён з дапамогаю добрых сяброў нарэшце і трапляе.

Зноў Пецярбург! Толькі цяпер ён быў ужо не тым, якім пакінуў яго Зыгмунт. Мікалай I — Палкін, як празвалі яго ў арміі,— ужо гніў у магіле. Перадавая Расія пасля няўдалай Крымскай вайны шукала новых для сябе шляхоў. Усё галасней і галасней клікалі лепшыя сыны айчыны Русь да змен і рэформаў. Да іх хору далучаецца і Зыгмунт Серакоўскі, стаўшы адным з рэдактараў часопіса «Современник» па замежнаму раздзелу. Тонкі, разумны палітык, Серакоўскі здзіўляе чытачоў глыбокімі па зместу і бездакорна адшліфаванымі па форме артыкуламі, нарысамі, даследаваннямі на розныя тэмы — грамадскія і літаратурныя. Да голасу Зыгмунта чуйна прыслухоўваюцца і яго землякі, і рускія людзі. Як аднаго з таленавітых і папулярных пісьменнікаў-публіцыстаў ведаюць яго і на Захадзе. Высока ставіць яго як супрацоўніка часопіса і свайго новага сябра і Мікалай Гаўрылавіч Чарнышэўскі.

Але Серакоўскага ні на момант не пакідае думка пра шпіцрутэны і дзікія парадкі ў рускай арміі. Пра гэта ён з хваляваннем піша ў часопісе, выступае з гарачымі прамовамі ў Акадэміі. Сіла доказаў заўзятага ворага шпіцрутэнаў Зыгмунта прымусіла задумацца і некаторых яго настаўнікаў, а праз іх і афіцэраў ваеннага міністэрства. Вось чаму Зыгмунта як лепшага знаўцу ваенна-крымінальнага права пакінулі пасля Акадэміі пры ваенным міністэрстве.

Так крок за крокам упарта і настойліва ішоў ён да сваёй запаветнай мэты — нанесці сакрушальны ўдар па шпіцрутэну.

Не марудзячы, Серакоўскі падаў ваеннаму міністру праект рэформы крымінальнага права ў арміі, у якім ясна даводзіў, што палачная дысцыпліна не робіць армію моцнай, а, наадварот, аслабляе яе, што лічыць салдата

простай жывёлінай у сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя дзіка і недарэчна, што ваенна-дысцыплінарны статут рускай арміі страшэнна застарэў... Адным словам, праект быў такі дасканалы і ўражлівы, што нават заўзяты прыхільнік шпіцрутэна ваенны міністр Сухазанет не адкінуў яго і не пакараў дзёрзкага капітана Серакоўскага. Затое знайшліся ў міністэрстве і прыхільнікі Зыгмунтавага праекта. Яны параілі міністру паслаць капітана Серакоўскага за мяжу вывучаць статуты іншых армій, каб потым лепшае запазычыць пры рэформе свайго.

З гэтага часу пачынаецца вялікае падарожжа Зыгмунта па Еўропе. Як знатнага рускага пасланца яго прымаюць самыя славутыя ваенныя і палітычныя дзеячы Англіі, Францыі, Італіі, нават англійская каралева Вікторыя. Не мінаў ён і сваіх землякоў — польскіх эмігрантаў. Захапляючыся ваенным талентам Гарыбальдзі, ён трапляе і да яго ў госці.

Мінуў час, і Зыгмунт перамог: яго праекты змен у ваенным статуце і адмены палачнай дысцыпліны былі нарэшце ўхвалены самім ваенным міністрам. Заставалася толькі чакаць ухвалы цара.

Але гэтага шчаслівага моманту ў сваім жыцці Зыгмунт не дачакаўся: дачаснае паўстанне ў Польшчы і на Літве паклікала яго ў новы бой. Завяршаючы першую справу свайго жыцця — вызваленне рускага салдата ад зненавіднага шпіцрутэна, ён пазней, чым гэта яму трэба было, уступіў у бой за другую справу — вызваленне сваёй бацькаўшчыны ад царскага прыгнёту. І гэта прывяло яго да паражэння, а потым і да мураўёўскай шыбеніцы...

Такі вобраз вялікага пакутніка і змагара прамільгнуў яшчэ раз перад вачыма Кастуся, калі ён убачыў свайго старэйшага сябра і настаўніка на краі магілы.

Тым часам каты рабілі сваю справу: чыталі прысуд, мылілі пятлю, ладзілі падстаўку. Лысы азызлы турэмны ксёндз нешта чытаў у сваёй ксёнжцы, махаў крыжам. Зыгмунта па-ранейшаму трымалі пад рукі жандары. І па-ранейшаму ён, здавалася, нічога не чуў, шукаючы сваімі арлінымі вачыма ў натоўпе самага блізкага чалавека...

Калі цырымонія скончылася, паліцмайстар махнуў рукою да жандараў, што трымалі Зыгмунта, і тыя тут жа павалаклі сваю ахвяру да пятлі... Зыгмунт упіраўся, нешта крычаў, плюючы ў мардатыя твары жандараў...

У натоўпе пачуліся стогны, выкрыкі: «Што робяць, іроды!», «Хворага чалавека ў пятлю валакуць...»

Кастусь адвярнуўся.

— Эх, Зыгмунт, Зыгмунт,— зашаптаў ён праз слёзы.— Як жа ты нам зараз патрэбен...

І ў тую ж хвіліну ён пакляўся зрабіць усё, каб адпомсціць мураўёўскім катам за гэтую самую дарагую ахвяру. Ён мусіць з сённяшняга ж дня ўзяць на свае плечы і цяжар, які нёс Зыгмунт. І ніякія белыя гейштары не саб'юць цяпер яго з таго шляху, па якім да канца свайго жыцця ішоў Зыгмунт Серакоўскі.

## XI

Кастусь не забыўся пра дзядзьку Рыгора. Ад'язджаючы з Гродні ў Вільню, ён папрасіў Эразма пацікавіцца ім і, калі ўдасца, паслаць яго да Саўкі.

Эразмаў пасланец знайшоў дзядзьку Рыгора дома: яго выпусцілі з астрога раней часу, вызначанага судом. Пасля таго як сам былы генерал-губернатар Назімаў прызнаўся, што дарэмна пасылаў казакоў мужыкоў секчы за непаслушэнства панам і што не ўсе паны — боскія анёлы, абвінавачанне супроць дзядзькі Рыгора адпала само сабою. Ды і пану Жардзецкаму хацелася парысавацца перад сваімі парабкамі: глядзіце, маўляў, які я не злапомны, старыя грахі лёгка забываю. А напрадвесні, калі прыгонныя кайданы нарэшце ўпалі з дваровага люду, пан Жардзецкі нават сказаў ім жаласлівую прамову пра добрага цара-бацюхну і добрых паноў, якія толькі і думаюць, каб зрабіць людзям дабро, даць ім палёгку ў жыцці, і што за гэта былыя прыгонныя таксама мусяць быць глыбока ўдзячны сваім панам, жыць з імі ў згодзе, слухаць іх без цівунскага бізуна і прынукі, бо з тае прычыны, што ні надзелаў сваіх, ні жытла былыя дваровыя людзі, а цяперашнія парабкі не маюць, без паноў ім не абысціся...

Жонка Рыгорава, цётка Мар'яна, не дачакалася свайго мужыка з астрога: памерла перад самым яго зваротам. Так што цяпер, апрача жончынай магілы, нішто яго не звязвала з маёнткам пана Жардзецкага, і таму яму зусім не цяжка было накінуць сваю дашчаную будку ды перабрацца да Саўкі, як параіў Эразмаў пасланец. Адтуль ужо ён і трапіў у атрад Духінскага, які кружыў па ваколіцах Белавежскай пушчы.

Гэта быў час, калі новы генерал-губернатар пачаў браць верх над паўстанцамі і перацягнуў на свой бок добрую палавіну паноў і розных падпанкаў, ужо не кажучы аб праваслаўным духавенстве. Бадай па ўсіх вёсках і сёлах ствараліся каравулы з добраахвотнікаў і ахвотнікаў да казённай гарэлкі і казённай закускі, на што Мураўёў не скупіўся. Гэтую ўнутраную варожую сілу добра адчуў на сабе Зыгмунт Сеpакоўскі на Ковеншчыне яшчэ вясною. Яна і прыспешыла разгром яго атрадаў.

Што ж заставалася рабіць паўстанцам? Аддавацца на міласць і сумленне якой-небудзь пані Касцялкоўскай ці вясковага папа, які пільна сочыць са сваёй званіцы за рухам паўстанцаў, а потым імчыцца з даносам да бліжэйшага станавога, або клін выбіваць клінам?

Кастусь з першых дзён паўстання цвёрда стаяў на тым, што на тайную вайну ворага трэба адказваць такой жа тайнаю вайною, гэта значыць, мець сваю жандармерыю і разведку не толькі ў гарадах, а і пры ўсіх баявых атрадах. Вось чаму, заняўшы важную пасаду ў Аддзеле, ён зноў і зноў напамінаў пра бяспеку з тылу. Ужо ў «Прыказе да народу зямлі літоўскай і беларускай» Кастусь строга напамінаў ворагам паўстання, хто б ён ні быў — пан ці мужык:

«Цяпер то настаў час, што кожнаму будзе адмерана так, як ён сам сабе намерыць. Пан будзе ліхі — пана павесім, як сабаку! Мужык будзе кепскі — то і мужыка павесім... і будзе справядлівая вольнасць... Міліцыі і каравулаў па сёлах каб ніякіх нідзе не было, бо калі зловяць каго ў каравуле або ў міліцыі, то калі не цяпер, то пазней без агаворкі павесяць... Бо хто хоча крыўды людской, той няхай лепш сам марна прападае!..»

Вось так на мураўёўскую шыбеніцу Кастусь адказаў сваёй паўстанскай шыбеніцай.

Валерыю Урублеўскаму дзядзька Рыгор спадабаўся з першага знаёмства. Тым больш што знаёмілі яго з ім Язэп і Пятрок. Яны ручаліся за дзядзьку Рыгора, як за сябе саміх.

Якраз у тыя дні Валерый падбіраў людзей для свайго карнага атрада. І ніяк не ўдавалася яму вызначыць сярод іх камандзіра: адзін занадта гарачы, другі — занадта спакойны, халодны, трэці — з паноў...

«А што, калі перадаць гэты атрад дзядзьку Рыгору?» — падумаў Валерый, пагаманіўшы з ім аб тым ды сім. Кастусь — той бы напэўна так і зрабіў. І ён сказаў дзядзьку Рыгору сваю думку.

Дзядзька Рыгор маўчаў: што ён, гэты высокі начальнік, жартуе ці напраўду кажа?

Валерый усміхнуўся:

— Спужаўся?

— Не тое каб спужаўся,— нерашуча загаварыў Рыгор.— Але ж я не кемлю, што гэта за атрад. Ды яшчэ камандзірам...

Калі ж Валерый расказаў яму, што і да чаго, дзядзька Рыгор сказаў, што ён згодзен далучыцца да такога атрада, але каб радавым...

— Колькі табе гадоў, дзядзька Рыгор? — запытаўся Валерый.

— Нямала... За пяцьдзесят мінула.

— Ну дык што ж: можа, мне паставіць камандзірам над табою Петрака або Язэпа? Разумееш, дзядзька Рыгор (Валерый зваў яго так, як Пятрок і Язэп), мы не збіраемся нянчыцца са сваімі ўнутранымі ворагамі. Але толькі з ворагамі, а не з людзьмі, што выпадкова памыляюцца, або ашуканымі сапраўднымі ворагамі. Мы, вядома, таксама не будзем гладзіць іх па галоўцы. Але не будзем і стрыгчы пад адзін гаршчок. Ты, дзядзька Рыгор, лепш за нас разбярэшся, каго і як судзіць і караць. Ад паноў і падпанкаў нацярпеўся за свой век нямала, так што зуб на іх у цябе яшчэ востры. Ну а мужыка, калі ён благі, таксама не мінеш. Чыстае сумленне тваё падкажа табе, як і што рабіць: каго караць словам, а каго і шыбеніцай.

— Дык жа я непісьменны, грамадзянін начальнік...— выставіў апошні свой козыр дзядзька Рыгор.

—. Нічога, дзядзька Рыгор. Адхвастаць лазіною каравульшчыка ці павесіць нягодніка на сырой асіне здолееш і без пісьменнасці. Запісаць жа прысуд над ім, калі будзе такая патрэба, знойдзецца каму і без цябе. Я падбяру табе пісара. Мяне толькі адно турбуе: як начальніку, табе не шкодзіла б мець да кінжала і рэвальвер.

— Рэвальвер — мне? — зноў напалохаўся дзядзька Рыгор.— Ды я ніколі яго і ў руках не трымаў. Бачыў толькі...

— Бачыў — ужо добра,— дабрадушна гаварыў Валерый, дастаючы з кабуры свой рэвальвер.

Рыгор адхіснуўся. Чорная барада яго затрэслася.

— Бронь божа... Яшчэ стрэліць...

— Нічога. Сам ён не страляе. На, не бойся.

Рыгор усё яшчэ з вялікім недаверам узяў рэвальвер у рукі і пачаў разглядаць яго, як нейкі цуд.

— Вось бачыш,— сказаў Валерый.— Ён зусім не страшны для таго, хто трымае яго ў руках. Затое для ворага — найстрашнейшая рэч. Як той пярун, трах — і цябе няма. Праўда, для гэтага трэба ўмець страляць. Ну, ды не багі гаршкі лепяць. Навучышся.

Валерый не памыліўся, прызначаючы дзядзьку Рыгора сваім памочнікам. Тыдні праз тры ён ужо зусім адолеў сваю камандзірскую грамату. Невялічкі атрад яго, у які ён прыняў і Петрака з Язэпам — яны цяпер не хацелі расставацца ніводнага дня,— шпарка гайсаў у лёгкіх брычках па ваколіцах пушчы, разганяючы сельскія караулы і наводзячы страх на шпіёнаў і даносчыкаў. Нідзе доўга не затрымліваючыся, дзядзька Рыгор заўсёды некуды знікаў гэтак жа, як і выпадкова аднекуль з'яўляўся. Жандары Лелякова з ног збіліся, ганяючыся за ім, ды ўсё дарэмна.

Неяк ужо ў сярэдзіне лета ваўкавыскі павятовы Андрэй Мушынскі паскардзіўся Духінскаму, што пан Жардзецкі — самы шкодны ў павеце: падатку на патрэбы паўстання не плаціць, саміх паўстанцаў лічыць разбойнікамі з вялікай дарогі, а яго цівун Дракула пад выглядам найму парабкаў раз'язджае па сёлах і мястэчках, высочваючы і вынюхваючы паўстанскія сцежкі. Духінскі перадаў скаргу Валерыю, а Валерый паклікаў да сябе начальніка свайго карнага атрада.

— Што ж,— сказаў дзядзька Рыгор,— ахвотна вазьмуся за гэтую справядлівую справу: пан Жардзецкі ў мяне от дзе сядзіць, як скула,— паказаў ён на свой правы бок.

— Калі ён — такая ж скула і для паўстанцаў,— сказаў Валерый,— цягні на асіну, як раіць Кастусь. Я не пярэчу.

У Дразды атрад прымчаўся на досвітку. Тут Рыгор падзяліў яго на дзве групы. Адну паслаў да пана, другую — да цівуна. А сам з Язэпам і Петраком стаіўся ў садзе, каля панскага дома.

Першую групу павёў атрадны пісар, добра вядомы Язэпу фельчар Ваўкавыскай турмы Станіслаў Шпакоўскі, другую — ляснік Марцін Яроцкі.

Станіслаў падняў пана Жардзецкага з пасцелі без ліпняга шуму.

— Хто вы такія і што вам трэба? — запытаўся перапалоханы пан у незнаёмых. Ён палічыў іх разбойнікамі і ўжо збіраўся прапанаваць ім свой кашалёк, як адкупное за жыццё.

— Мы — тайная служба маёра Лелякова! — упэўнена адказаў Станіслаў.— У нас ёсць весткі, што пан трымае ў сябе паўстанцаў...

— Я — трымаю паўстанцаў?! — закалаціўся пан.— Хто вам сказаў? Ды я іх гатоў бачыць на шыбеніцах, а не ў сваім маёнтку. Вы запытайцеся ў ваўкавыскага спраўніка, якую паслугу я раблю яму...

— О не, пане,— пакруціў галавою Станіслаў,— вы нешта не тое гаворыце. Хітруеце. Паказвайце, дзе іх хаваеце.

— Калі ласка,— ажывіўся пан, апранаючыся.— Можаце перагрэсці ўвесь мой маёнтак. І хто гэта сказаў вам? Ну і людзі!

На двары пан убачыў свайго цівуна, акружанага такімі ж тайнымі агентамі Лелякова.

— Ды вось мой лепшы цівун,— сказаў пан да Станіслава.— Няхай ён скажа, як мы сумленна памагаем пану Лелякову... Ён пакажа вам усе мае сховы. Калі ласка!

— Сховы панскія мы ведаем не горш за цівуна,— раптам пачуўся збоку голас Рыгора.

Пан Жардзецкі азірнуўся і тут жа асунуўся, як мяшок, на дзядзінец.

— Матка боска... Мне кепска...

— Нічога, пан, пацярпіш,— сказаў Рыгор.— Мы цябе доўга не затрымаем. Язэп, збірай людзей!

Язэп кулём кінуўся да хлявоў, і хутка адтуль пачуўся рэзкі звон — сігнал на спешны збор.

Праз хвіліну на дзядзінец збегліся ўсе панскія парабкі. Рыгор коратка расказаў ім, для чаго іх паднялі з пасцеляў у такую рань.

— Што будзем рабіць з панам і яго памагатым? — запытаўся ён у парабкаў.

Цівун Дракула пусціў самую сапраўдную слязу:

— Я не вінаваты, паны паўстанцы. Бачыць бог з высокага неба. Гэта пан Жардзецкі пасылаў мяне высочваць паўстанцаў...

— А чаму ён мяне не пасылаў? — сказаў Панцялей, злосна паглядаючы на пана і цівуна.— Э, што доўга гава-

рыць: аднаго поля ягады. Разам шкодзілі, разам і судзіць іх.

— А дзе ж іх трэці хаўруснік, Адась? — пачуўся голас.— Ён такі ж гад...

— Сюды, сюды і яго цягніце! — загаманілі парабкі.— Дзе ён?

Але панскага фурмана Адася на дзядзінцы не было. Язэп з Петраком кінуліся шукаць яго.

— Ён ужо дзе-небудзь у паліцыю памчаўся,— сказаў Панцялей.— Яго трэба было першага з пасцелі падымаць.

Відаць, так яно і сталася, бо неўзабаве Язэп з Петраком вярнуліся адны. Жонка Адасёва сказала, што ён пабег на збор, як толькі пачуў звон.

— Ну што ж,— сказаў Рыгор,— да яго чарга яшчэ дойдзе. А пакуль будзем судзіць самага найпершага нашага крывапіўцу пана Жардзецкага і яго вернага пса цівуна Дракулу. І суд наш будзе кароткі: пакуль Адась вернецца з паліцыяй, наш і след прастыне. Пан Жардзецкі нямала напіўся нашай мужыцкай крыві, не аднаго засек на стайні, паслаў у астрог і на катаргу. А цяпер, калі мы дабіваемся лепшай долі, ён стаў нам упоперак дарогі. Я думаю, прыйшла пара пану Жардзецкаму разлічыцца за ўсе нашы пакуты і слёзы. Разлічыцца спаўна.

— Пара, ой пара, Рыгорка! — дружна ківалі галовамі парабкі.— Дай табе бог здароўя за твае добрыя словы.

Пан сядзеў на зямлі, панурыўшыся. Цівун стаяў побач, усё яшчэ ўсхліпваючы.

— Хто з вас, людзі добрыя, хоча заступіцца за свайго пана?— запытаўся Рыгор.— Ну, паручыцца за яго, ці што?

Парабкі маўчалі.

— Няма такіх?

— Няма! — адказаў за ўсіх Панцялей.

— Тады я скажу, які наш прысуд: пятля на першай асіне! А з цівуном што?

— Ды гэтак жа, Рыгорка, судзі і яго,— падказалі парабкі.— Яны адзін аднаго варты.

— Воля ваша,— сказаў Рыгор.— Больш часу ў нас няма. Хлопцы, на брычкі!

І атрад у момант знік з маёнтка разам з панам і яго цівуном.

## XII

Лета таго года было неспакойнае. Падзеі набягалі адна на адну, як тыя марскія хвалі ў непагадзь, і яны не абміналі Кастуся.

Паўстанне слабела з кожным днём. Штаб, што кіраваў ім у апошнія месяцы, распадаўся і развальваўся. Ды і сама рэвалюцыйная арганізацыя ледзьве ліпела. Прыйшоў для яе самы цяжкі час.

Ні з Гейштарам, ні з Дзюлеранам, якія толькі шкодзілі паўстанню, Кастусь паладзіць не мог. А яго аднадумец Малахоўскі ўжо збіраўся, як начальнік горада, разагнаць рэшту старых членаў Аддзела і абвясціць свой самастойны народны ўрад Літвы і Беларусі. Дзеля гэтага ён ужо заказаў і новую пячатку.

Зацятыя спрэчкі ў Аддзеле дайшлі да Варшавы. І там захваляваліся не на жарты: літоўскага сепаратызму яны баяліся больш, чым здрады белых. І таму ў сярэдзіне ліпеня Варшава прыслала на месца Дзюлерана новага ўрадавага камісара Аскара Авейду — члена Жонда нарадовага, чалавека, які лёгка сыходзіўся і з белымі, і з чырвонымі. Аднак і ён ужо нічога не мог зрабіць. Ды Кастусь і не спадзяваўся на яго. Ён па-ранейшаму збіраў паразганяных Гейштарам людзей, добра яму знаёмых, пісаў лісты і загады павятовым і камандзірам атрадаў, каб трымаліся да апошняга, не распускалі жаўнераў да самай зімы. Свайго сакратара і блізкага сябра Іосіфа Яманта, на кватэры якога доўгі час жыў, ён паслаў ваяводскім камісарам у Мінск, даўшы яму наказ падымаць сялян на мяцеж. Ён усё яшчэ спадзяваўся стварыць на руінах старой новую арганізацыю і выступіць у рашучы бой будучай вясною. Ён не думаў, што белыя паны здольны на такую нечуваную здраду, як вернападданніцкія подпісы на вернападданніцкіх адрасах цару... Адзін Дамейка ўжо сабраў 235 подпісаў! А ўслед за панамі-дваранамі пачалі адхрышчвацца ад паўстання і ксяндзы з іх высокімі духоўнымі айцамі касцёла — епіскапамі.

Тым часам, стварыўшы Асобую следчую камісію, Мураўёў ужо дабраўся да самага цэнтра паўстання: у канцы ліпеня ў сеткі гэтай камісіі трапіў і Якуб Гейштар... Праўда, потым пайшлі чуткі, што ён сам здаўся на міласць Мураўёва, каб лягчэй апраўдацца перад яго следчай камісіяй. Што ж, як кажуць, дыму без агню не бывае. Але як

бы там ні было, Якуб Гейштар, які яшчэ зусім нядаўна пагражаў Кастусю самымі суровымі карамі за яго занадта вольныя думкі, перад арыштам усё ж перадаў пячатку Аддзела яму, а не каму іншаму, бо бачыў, што толькі Кастусь яшчэ здольны весці паўстанне далей, калі гэта магчыма. Авейда мала ведаў мясцовы край і людзей. Гейштар на яго не спадзяваўся гэтак жа, як і Кастусь.

Праз месяц жандары Мураўёва схапілі і Аскара. І ён, не змаўляючыся з Гейштарам, перадаў сваю камісарскую ўладу Кастусю Каліноўскаму. Значыць, і ён не бачыў вакол сябе нікога іншага, годнага гэтай высокай пасады.

Новага камісара Варшава не прыслала. Ды ў тыя дні ёй было не да літоўскага камісара. Спадзеючыся на замежныя легіёны, Жонд нарадовы ўсё яшчэ баяўся даць зброю простаму народу. Аднак час мінаў, легіёнаў сваіх ні Англія, ні Францыя не слалі, і к канцу лета паўстанне ў ваяводствах Каралеўства Польскага пайшло на спад гэтак жа, як і ў Літве. І тады на змену белым няўдачнікам у Жонд нарадовы зноў прыйшлі чырвоныя. Але той моцнай арганізацыі, якую яны перадалі белым вясною, ужо не было. Перамогі змяніліся паражэннямі. Да таго ж, як і раней, чырвоныя не зусім ясна ўяўлялі сабе, куды ідуць і каго вядуць за сабою. Здольных правадыроў пасля Яраслава Дамброўскага і Стэфана Баброўскага ў іх цяпер не было. Сяляне па-ранейшаму адбывалі паншчыну або плацілі аброк, і ні белыя, ні чырвоныя гэтаму не пярэчылі. Пра студзеньскі маніфест Часовага нацыянальнага ўрада ўжо мала хто і ўспамінаў.

І вось у такі цяжкі для паўстання час у Варшаву прыехаў мала каму да гэтага вядомы чалавек, якому суджана было стаць у цэнтры падзей і павесці паўстанне далей новым шляхам. Гэта быў Рамуальд Траўгут, камандзір Кобрынскага атрада.

Ні сам Траўгут, ні хто іншы ніколі і не падумаў бы, што яму давядзецца ўзняцца на самы высокі грэбень паўстанскай хвалі і як рулявому весці свой карабель па бурным акіяне. Яшчэ вясною адстаўны падпалкоўнік Траўгут ціха і мірна пражываў у сваім невялічкім маёнтку, што перайшоў да яго як спадчына ад аднаго са сваякоў, пад Кобрынам на Палессі. Ён ведаў аб паўстанні ў Каралеўстве Польскім, відаць, пільна сачыў за ім, але сам далучацца да яго не збіраўся. Так потым гаварыў ён сам. Ні на службе ў арміі, ні пасля адстаўкі ён, здавалася, грамад-

скімі справамі не цікавіўся, ні да белых, ні да чырвоных не далучаўся. Маўклівы, задуменны, набожны Рамуальд быў добры сем'янін, дбайны гаспадар, і толькі. Але прыйшла вясна, і ўслед за бурнай паводкай рушыла на паўстанне і яго Кобрыншчына. Лепшы яго сябар дзіцячых і юнацкіх гадоў Апалін Гофмейстар стаў брэсцкім ваяводаю. Адстаўны палкоўнік Ануфрый Духінскі прыехаў на Гродзеншчыну за блізкі свет вызваляць Траўгута і такіх, як ён, ад царскага прыгнёту і самаўладства. Нават некаторыя царскія афіцэры пакідалі свае гарнізоны і па добрай волі далучаліся да паўстанцаў.

Як жа было пасля гэтага спакойна сядзець склаўшы рукі ў сваім маёнтку нават такому ціхаму чалавеку, як адстаўны падпалкоўнік Рамуальд Траўгут? Яго папрасілі ўзяць пад сваю каманду Кобрынскі атрад, і ён згадзіўся. За два тыдні з людзей, якія ніколі не нюхалі пораху, ён зрабіў выдатных салдат. Далося гэта яму нялёгка. Затое ў першай жа сутычцы яго салдаты, узброеныя простымі паляўнічымі стрэльбамі, ушчэнт разбілі немаленькі карны атрад стралкоў са штуцарамі і казакоў з пікамі і шашкамі капітана Кярсноўскага. Сам капітан не вытрымаў такой ганьбы і застрэліўся. Тады генерал Манюкін паслаў на Траўгута палкоўніка Энберга з трыма ротамі салдат і сотняю казакоў. Атрад Траўгута, які меў не больш паўтары сотні жаўнераў, разбіў і палкоўніка Энберга.

Раз'юшаны Манюкін траха не лопнуў ад гневу і сораму за сваіх камандзіраў і свае войскі. Што там за Траўгут і якая ў яго армія? Дывізія ў яго, ці што? І ён шле ўжо чатыры роты салдат і дзве сотні казакоў пад камандай лепшага свайго генерала Эгера. На гэты раз бой быў адчайны і крывавы. І ўсё ж сказаць, хто каго перамог, нельга было. Дзён праз дзесяць атрад Траўгута сабраўся зноў і нават папоўніўся новымі свежымі сіламі, што надышлі з-пад Брэста.

Такіх удач не ведаў тады ні адзін камандзір атрада.

Што ж гэта было — шанцаванне, выпадковасць або дурнота ворагаў? Тым больш што сам Траўгут раней ніколі і не быў ні пяхотным камандзірам, ні артылерыстам. Ён — сапёр, сапёрны інжынер. Але, відаць, у ім даўно драмаў сапраўдны талент палкаводца і абудзіўся пры першым жа выпадку. Сябры расказвалі, што ў Севастопалі ён хадзіў на ўвесь рост па рэдутах[1] пад густым агнём ворага.

[1] **Рэдут** — ваеннае палявое ўмацаванне.

Значыць, ён быў апрача ўсяго смелы і бясстрашны чалавек. А часам і суровы да сябе і да іншых. У першыя дні адзін шляхціц з атрада нядбайна выканаў яго загад. Траўгут сам пры ўсім атрадзе застрэліў яго. Праўда, потым ён прызнаваўся, што збіраўся толькі напужаць нядбайніка, а куля крыху збочыла... Так яно ці не так — цяжка сказаць, бо калі другі шляхціц зрабіў спробу ўцячы з атрада, камандзір перадаў яго ваеннаму суду і потым згадзіўся памілаваць прысуджанага да расстрэлу дэзерціра толькі па просьбе ўсяго атрада.

Але Траўгуту шанцавала каля свайго роднага Кобрына: дома, як кажуць, і вуглы памагаюць. Тут ён і яго жаўнеры ведалі кожную сцяжынку ў лесе ці на балоце. Гэта быў не апошні ў яго козыр. Капітана Кярсноўскага ён заманіў у пастку толькі таму, што добра ведаў гэтую пастку. Удала выбіраў ён пазіцыі і ў другі, і ў трэці раз.

Пра ваенныя ўдачы Траўгута даведалася Варшава і наставіла перад ім самую цяжкую задачу: рушыць праз Палессе на паўночную Валынь, каб злучыцца там з валынскімі атрадамі. Повай сваёй задачы Траўгут не разумеў, але ён быў дысцыплінаваны камандзір і адмовіцца не пасмеў.

Цяжкі паход праз палескія нетры і рэкі пры частых сутычках з ворагам змарыў атрад дашчэнту. І ўсё ж ён прарваўся на Валынь. А там — ніякіх паўстанцаў не знайшоў: разбітыя, яны адышлі на поўдзень, у Галіцыю...

Траўгут ясна бачыў гібель свайго атрада і даў каманду рассыпацца і рушыць, як хто можа, назад, да родных мясцін.

Але да Кобрына дабрылі ўжо толькі рэшткі разбітага за дарогу, змучанага атрада. Сам камандзір моцна захварэў, і сябры неслі яго на руках.

Ачуняўшы, Траўгут не стаў збіраць новы атрад. Яго мучыла думка: хто кіруе паўстаннем і як кіруе? Ці ёсць там, у Варшаве, хоць адна светлая галава? Ці ёсць у іх прадуманы ваенны план? Уласная практыка і практыка вядомых яму іншых камандзіраў гаварылі яму, што там, наверсе, нешта або разладзілася, або і зусім не наладжвалася. Перш чым брацца за новы атрад, каб весці яго ў невядомы паход па лясных нетрах, яму захацелася разабрацца ва ўсім гэтым, і ён выехаў у Варшаву.

Быў канец ліпеня. У Жондзе сядзелі белыя, чакаючы замежных легіёнаў. Паўстанне мала цікавіла іх: важна

было толькі не спыняць яго зусім, бо тады не будзе прычыны Англіі і Францыі пасылаць свае легіёны на дапамогу Каралеўству Польскаму. Адзін з членаў Жонда так і гаварыў: «Досыць, калі ў кожным павеце пачуецца раз на тыдзень адзін стрэл, каб Еўропа вызваліла Польшчу». І таму, калі шчыры і сумленны Траўгут намаляваў ім свой план ваенных аперацый, яны толькі паморшчыліся, пастараўшыся тут жа ад яго збавіцца: далі высокае званне генерала і паслалі за мяжу, каб падганяў там Англію і Францыю...

Два месяцы Траўгут пражыў за мяжою і пераканаўся, што і там такая ж неразбярыха, як і ў Варшаве: ніхто нічога не ведае і ведаць не хоча. Англія і Францыя вызваляць Польшчу і не думаюць. Ідуць адны пустыя размовы. Значыць, вызваляць Польшчу трэба сваімі сіламі. А дзе тэтыя сілы? І Траўгут, які ніколі не належаў ні да белых, ні да чырвоных, прыйшоў да думкі, якая ўжо даўно была вядома яго земляку-гродзенцу Кастусю Каліноўскаму: сілы гэтыя — у народзе. Не адных паноў і шляхціцаў трэба клікаць на бой, а ўвесь народ польскі: мужыкоў, рабочы люд, местачкоўцаў, гараджан... Толькі яны адны, і ніхто іншы, здольны вызваліць свой край ад чужынцаў. Аднак Жонд нарадовы не кліча іх у бой, не дае ім зброі, закупленай за мяжою. Значыць, трэба папрасіць-такі Жонд сысці з дарогі, а калі не паслухае — зрабіць з ім тое ж, што і з нядбайным шляхціцам у Кобрынскім атрадзе...

Калі Траўгут вярнуўся з такімі думкамі з-за мяжы, Жондам кіравалі ўжо чырвоныя. Але кіравалі яны не лепш, чым іх папярэднікі: тая ж неразбярыха ў ваенных планах, апора на тых жа абраннікаў з вышэйшых саслоўяў. Тады, параіўшыся з некаторымі ваеннымі кіраўнікамі паўстання, Траўгут прыйшоў на пасяджэнне чырвонага Жонда і заявіў: «Усе вы, панове і грамадзяне, можа, і добрыя людзі, шчырыя патрыёты сваёй радзімы, але кіраваць паўстаннем у такі цяжкі для яго час няздольны. З гэтага дня кіраваць ім буду я...»

І што ж: чырвоныя члены Жонда не абурыліся, не прагналі яго з пасяджэння, а нават з палёгкаю ўздыхнулі: паўстанне ўжо было на такім спадзе, што толькі цуд мог выратаваць яго. Можа, генерал Траўгут і ёсць гэты цуд. Няхай кіруе.

І генерал Траўгут, былы камандзір невялічкага Коб-

рынскага атрада, стаў рулявым усяго паўстання ў апошнія яго месяцы.

Першым сваім загадам ён зацвердзіў кіраўніком паўстання ў Літве і Беларусі Кастуся Каліноўскага. Кастусь не прасіў яго пра гэта, але новы дыктатар паўстання добра бачыў, што Кастусь — адзіны ў Вільні чалавек, які мысліць і робіць так, як мысліць зараз і пачынае рабіць ён сам. Значыць, і даяраць яму можна, як сабе самому.

Так нарэшце спыніліся спрэчкі паміж белымі і чырвонымі і ўся ўлада перайшла ў рукі двух чалавек — Рамуальда Траўгута ў Каралеўстве Польскім і Кастуся Каліноўскага — у Літве і Беларусі.

А тым часам тапор ката, занесены над галавою Кастуся, апускаўся ўсё ніжэй і ніжэй... Цёмныя навальнічныя хмары насоўваліся з розных бакоў. Арыштаваны камісар Віленскага ваяводства Мечыслаў Дарманоўскі назваў следчай камісіі аднаго з вядомых яму важакоў паўстання, кандыдата ці доктара правоў Канстанціна Хамовіча, дадаўшы, што раней ён быў камісарам у Гродні. Сапраўднага Кастусёвага прозвішча Дарманоўскі не ведаў. Узрадаваны Мураўёў не марудзячы шле тэлеграму Гродзенскаму губернатару: «Знайсці і выслаць сюды арыштаваным доктара правоў Канстанціна Хамовіча, зрабіўшы ў яго вобыск. Ён ураджэнец Гродзенскай губерні, быў тайным камісарам спярша там да чэрвеня, потым у Вільні».

Пакуль гродзенскі губернатар шукаў нейкага Хамовіча, другі арыштаваны Станіслаў Ажэшка, ратуючыся ад шыбеніцы, назваў следчай камісіі сапраўднае Кастусёва прозвішча. І Мураўёў спешна шле ў Гродню новую тэлеграму: «Вам пісана пра арышт Канстанціна Хамовіча. Выявілася, што сапраўднае яго імя Канстанцін Каліноўскі. Арыштуйце таксама доктара Заблоцкага. Калі не ён камісар Гродзенскай губерні, дык павінен ведаць такую асобу...»

Але Кастусю зноў пашанцавала: гродзенскі расшыфроўшчык тэлеграмы зрабіў памылку — прачытаў не Каліноўскі, а Кайноўскі.

А можа, гэта была і не памылка? І губернатар зноў зазваніў ва ўсе званы: шукайце важнага злачынцу Канстанціна Кайноўскага!

Мінуў цэлы месяц, і нарэшце ўсё ж выпаралі патрэбнага Мураўёву Канстанціна Хайноўскага — беластоцкага шляхціца з вёскі Хайнава. Праўда, першая літара ў яго

прозвішчы не сыходзіцца, ды ліха з ёю. Арыштавалі небараку Хайноўскага і пад вялікім канвоем павезлі ў Вільню.

Так шчасліва абмінулі Кастуся першыя ўдары грому. Але кола аблавы на яго ўсё звужалася, хоць ён ужо быў не Хамовічам, не Чарноцкім, а Ігнаціем Вітажэнцам — настаўнікам геаграфіі са сталым месцам пражывання ў Святаянскіх мурах у кватэры настаўніка гімназіі Жаброўскага.

## XIII

Як ні стараўся фон Галер выслужыцца, к пачатку лета яму ўсё ж давялося развітацца з губернатарскім крэслам. А сядзеў ён у гэтым крэсле, трэба сказаць, учэпіста, трымаўся за яго рукамі і зубамі.

Першы ўдар яму нанёс царскі намеснік у Варшаве вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч. Яшчэ ў канцы мінулага года ён паскардзіўся міністру Валуеву, што Галер слаба карае мужыкоў-бунтароў і што калі так будзе і надалей, то «к вясне ў гэтай губерні паўторацца няшчасныя галіцыйскія падзеі, якія могуць ахапіць і сумежныя губерні...».

Пачалося паўстанне, і думка ў вярхах наконт мужыкоў змянілася. Цяпер іх не душыць раілі, а, наадварот, сяды-тады і па шэрсці пагладзіць: малайцы, маўляў, што не слухаеце сваіх благіх паноў. Так ім, панам, і трэба. Яны ж, бачыце, супроць цара-бацюхны мяцеж узнімаюць, хочуць зноў прыгон вярнуць.

Так сама па сабе адпала прычына зганяць Галера з губернатарскага крэсла.

Аднак прыйшла вясна, і на Галера зноў пасыпаліся папрокі.

Дзе самы шырокі размах мяцяжу? У яго губерні!

Дзе найбольш чытаецца самая страшная для імператарскага дома газетка «Мужыцкая праўда»? У яго губерні!

З самай восені ён шукае і не можа або не хоча знайсці таго двараніна Канстанціна Каліноўскага, які раскідаў гэтую страшную крамольную газетку каля Слоніма.

Так закончылася губернатарская кар'ера генерал-маёра фон Галера. Яго месца спачатку заняў граф Бабрынскі, а потым у канцы жніўня — самы вышкалены жандарскі служака ў чыне генерал-маёра Скварцоў.

Да гэтага Скварцоў служыў галоўным жандарам на Ковеншчыне. Потым некалькі месяцаў замяняў галоўнага

жандара ўсяго краю ў Вільні. А зараз Мураўёў паслаў яго ў найбольш небяспечную губерню. Адпраўляючы Скварцова на новае месца, ён, між іншым, напомніў яму і пра «Мужыцкую праўду» і пра не знойдзенага дагэтуль Канстанціна Каліноўскага. «Шукаць яго, я думаю, трэба там,— сказаў Мураўёў.— Мне здаецца, «Мужыцкая праўда» — справа яго рук. Якія ў мяне доказы? Ніякіх. Проста чуццё або нюх старога разведчыка. Вы, генерал-маёр, як самы надзейны з жандарскіх афіцэраў, паспрабуйце разгадаць гэтую таямніцу там на месцы...»

Скварцоў вельмі расчуліўся ад пахвалы начальніка краю і абяцаў зрабіць усё магчымае і немагчымае.

Пазнаёміўшыся з апошнімі рапартамі павятовых ваенных начальнікаў, новы ваенны губернатар пераканаўся, што паўстанне на Гродзеншчыне яшчэ трымаецца на высокай хвалі, не так, як у іншых губернях. Мяцежнікі, як і раней, смела атакуюць вайсковыя гарнізоны, знішчаюць паштовыя станцыі, адбіраюць грошы ў казначэяў, псуюць тэлеграфныя лініі... Надзейнае іх прыстанішча Свіслацкая і Белавежская пушчы. І што самае страшнае — тут больш, чым дзе, за мяцежнікамі ідуць мужыкі — панскія і скарбовыя — і дробная засцянковая шляхта. «Значыць,— рашыў Скварцоў,— мяцежнікі тут трымаюцца не толькі сваёю сілаю, а і дапамогаю ўсяго насельніцтва. Значыць, першы і самы моцны ўдар трэба нанесці ўсім тым, хто спачувае мяцежнікам або дапамагае ім».

І тады за восень жандары Лелякова і салдаты ператрэслі і перакалацілі кожную вёску, ля якой калі-небудзь праходзіў хоць адзін паўстанец. Турмы перапоўніліся тымі, хто бачыў паўстанцаў і не паведаміў пра іх начальству, і нават тымі, хто слухаў чытаныя ім адозвы супроць цара і маніфест Жонда нарадовага. Мужык цяпер для Скварцова, як і для Мураўёва, не быў страшны: паўстанне ў краі дажывала апошнія дні. Значыць, можна было зноў паказаць мужыку яго законнае месца ў імперыі, адбіць у яго жаданне да непаслушэнства і цару і пану. А каб відней было, як строга карае ўлада за спачуванне паўстанцам, Скварцоў, з дазволу Мураўёва, загадаў паліць цэлыя вёскі — па выбару павятовых ваенных начальнікаў. І вельмі рад быў, чытаючы гэты першы рапарт:

«Беластоцкага павета жыхары вёскі Явароўкі (шляхцiцы), што мае 27 двароў, з самага пачатку гэтага поль-

скага мяцяжу дапамагалі мяцежнікам. Апрача таго, потым шмат хто з іх прымалі ўдзел у мяцяжы, рабілі прытулкі для шаек па чаўнах, якія хаваліся імі на астравах блізкіх рэк Супрасля і Нарвы.

За такія злачынныя дзеянні шляхціцаў вёскі Яваroўкі, па загаду начальніка краю, жылыя хаты яе з гаспадарчымі пабудовамі атрадам нашых войскаў пад начальствам ваеннага начальніка тутэйшага павета палкоўніка Мантэйфеля 6 гэтага жніўня спалены дашчэнту, а жывёла, уся рухомая маёмасць разам з жыхарамі дастаўлены ў гор. Беласток, дзе яны да далейшага загаду ў ліку 61 мужчынскага і 80 душ жаночага полу трымаюцца пад арыштам, а маёмасць прадаецца з аўкцыённага торгу, і выручаныя за яе грошы па патрабаванні будуць высланы начальніку Гродзенскай губ.

*Маёр Штэйн».*

За Яваroўкаю пусцілі з дымам вёскі Пеняжкі, Шчука, Шумлы, Эйсымонты... А ўсіх жыхароў — старых і малых — пагналі ў Сібір...

І ўсё ж першыя здаліся не мужыкі і дробныя засцянкоўскія шляхціцы-арандатары, а паны-дваране. Яны напісалі жаласлівую слёзную просьбу да цара, каб дараваў ім іхнія грахі. Губернатар Скварцоў аж ахкаў ад радасці, чытаючы вернападданніцкі адрас:

«Усяміласцівейшы Гасудар!

Паўстанне ў Царстве Польскім, на вялікі жаль, знайшло свой адбітак і ў Гродзенскай губ.

З прычыны рэвалюцыйных падзей, якія адбываліся тут, краіна апынулася ў няшчасным становішчы, асабліва дваране, якія ўладаюць маёнткамі.

Складаючы адно цэлае і непадзельнае з Расіяй, пад дзяржаўным тваім, гасудар, скіпетрам, дваранства Гродзенскай губ. адкідвае ўсялякі ўдзел у рэвалюцыйных дзеяннях і асмельваецца прасіць тваёй, аўгусцейшы манарх, міласэрнасці.

Аддаючы лёс наш на ўсяміласцівейшы погляд, заяўляем шчыра табе, вялікі гасудар, пачуцці нашай вернападданніцкай адданасці».

— Ну,— сказаў сам сабе ўголас узрадаваны губернатар,— цяпер паўстанню — канец. А мне — заслужаны лаўровы вянец!

Скварцоў не быў такі ганарлівы, як Галер. Ён быў намнога маладзейшы за свайго папярэдніка, ведаў сабе цану і верыў, што слава сама рана ці позна знойдзе яго. І вось яна нарэшце ў яго ў руках! Няважна, як яна здабываецца, колькі людскіх пакут і слёз у гэтай славе...

Пасля першых такіх сваіх поспехаў Скварцоў усё часцей успамінаў Каліноўскага. Праўда, ён шукаў яго з першага дня прыезду ў Гродню. Ды шукаў, можна сказаць, ветру ў полі. То ён быў Хамовічам, то Кайноўскім... Потым ён паслаў Мураўёву нейкага бяскрыўднага шляхціца з-пад Беластока Хайноўскага... Давялося апраўдвацца і прасіць выбачэння з-за безгаловага тэлеграфіста. Затое цяпер сваю памылку той будзе памятаць да канца жыцця... Губернатар загнаў яго ў далёкую Сібір як мяцежніка.

Скварцоў зноў і зноў перабіраў справы «Мужыцкай праўды», чытаў і перачытваў гэтую крамолу і нарэшце паклікаў свайго жандарскага штаб-афіцэра.

Доўга і крычаў на яго, і раіўся з ім. Лелякоў, здавалася, зрабіў усё, што мог, а ніякіх слядоў ні друкарні, ні выдаўцоў «Мужыцкай праўды» на Гродзеншчыне так і не выявіў.

— Але ж не з неба яна валіцца, гэтая «Мужыцкая праўда»! — бушаваў разгневаны Скварцоў, хапаючыся за галаву.— І не магу я паверыць, каб яе падкідалі нам Варшава або Вільня.

Збялелы ад начальніцкага гневу Лелякоў маўчаў. За апошні час ён прыкметна пастарэў і асунуўся. Відаць, нялёгка ішла ў гэты год яго жандарская служба.

Крыху супакоіўшыся, Скварцоў сказаў:

— Я перагледзеў прозвішчы пакараных за «Мужыцкую праўду». Слабенька, бацейка, слабенька вы іх каралі. Аднаго толькі нейкага мужыка Цюхну расстралялі. Мала. Зусім мала. Студэнта Гарчака, замест таго каб павесіць на самой шматлюднай плошчы, выслалі ў Пермскую губерню. Іншых рассовалі туды-сюды. Ну, ды ў гэтым, відаць, больш вінаваты Галер, чым вы. Так?

Лелякоў кашлянуў, прачышчаючы перасушанае горла:

— Мяне ён, вядома, не слухаў...

— Дрэнна, што не слухаў,— сказаў Скварцоў.— А я цвёрда ўпэўнены, што гэтыя людзі ведаюць, хто і дзе друкуе «Мужыцкую праўду».

— Дазвольце далажыць, ваша правасхадзіцельства,

што новых ліскоў «Мужыцкай праўды» даўно ўжо не знойдзена...

— Узрадаваў! — скрывіўся Скварцоў.— Новых не знойдзена! А старыя што ж — усе сабраны і спалены?

Збянтэжаны Лелякоў уцягнуў галаву ў плечы:

— Старыя ўсё яшчэ знаходзяцца...

— І, значыць, чытаюцца?

— Вядома...

— Я рашыў,— тонам загаду сказаў Скварцоў,— зрабіць раптоўныя вобыскі ў канцылярыі Палаты дзяржаўных маёмасцяў, ва ўсіх сельскіх і валасных праўленнях, а таксама ва ўсіх пісароў і наогул асоб ненадзейных. Як вы на гэта глядзіце?

— Так, як і вы, пан генерал-маёр.

— Быць не можа, каб мы такім густым невадам не вылавілі той рыбы, якая нас цікавіць,— сказаў Скварцоў і скупа ўсміхнуўся ад свайго красамоўства.— Выконвайце! — дадаў ён суха.

— Слухаю, пан генерал-маёр! — казырнуў Лелякоў.

— Арыштуйце ўсіх, у каго знойдзеце гэтыя лісткі. А там мы ўжо як-небудзь дабяромся і да галоўных канаводаў. У мяне, прызнаюся,— больш лагодна загаварыў губернатар,— цепліцца тайная надзея вывудзіць гэтым невадам і самога Каліноўскага. Яны ведаюць адзін аднаго, толькі не заўсёды выдаюць.

Лелякоў яшчэ раз пачціва аддаў чэсць свайму строгаму начальніку і выйшаў з яго кабінета.

## XIV

Над пушчаю клубіліся асеннія хмары. Ішлі дажджы. Густыя вяршаліны векавечных хвой і ялін шчодра рассявалі іх праз свае зялёныя рэшаты на жаўнераў Валерыя Урублеўскага, за якімі няспынна гналіся салдацкія роты і казацкія эскадроны генерала Манюкіна. Невялікія перадышкі карнікі давалі ім толькі начамі, калі і самі, знясіленыя, падалі, дзе папала, і засыпалі, як забітыя.

Праз усё лета — і пры Духінскім, і без яго, са жніўня месяца зноў стаўшы ваенным начальнікам ваяводства,— Валерый не толькі адбіваўся ад карнікаў, а і сам нападаў на іх, дзе было зручна. І заўсёды ратавала яго пушча. Як родная маці, прымала яна яго ў свае абдымкі, бараніла ад

ліхіх ворагаў. Генерал Манюкін добра разумеў жыватворную сілу старадаўняй Белавежы для паўстанцаў і рабіў усё, каб выбіць у іх з-пад ног гэтую трывалую апору. І толькі цяпер, калі паўстанне ў краі дажывала апошнія дні, яму ўдалося нарэшце ўзяць верх і над атрадамі Валерыя Урублеўскага. Разбітая рэвалюцыйная арганізацыя ваяводства ўжо не магла пасылаць ім ні зброі, ні хлеба, ні грошай. Рады паўстанцаў радзелі. Атрады распадаліся.

Каб выратаваць хоць рэшткі свайго войска, Валерый вырашыў вывесці яго на зімоўку за межы Гродзеншчыны, у польскае Падляссе. Варшава не пярэчыла гэтаму. Сілы яе таксама слабелі, і яна мела намер паставіць Валерыя ваенным начальнікам Падляскага, а можа, і Люблінскага ваяводстваў.

Познім адвячоркам паўстанцы спыніліся на начлег пры нейкім не надта гразкім балоце. Расставіўшы пікеты [1], яны рассыпаліся па кустах шукаць журавін і брусніц.

Апошнія дні людзі са зборнага атрада Валерыя Урублеўскага галадалі гэтак жа, як і самі камандзіры: абоз іхні з кухняю карнікі адрэзалі і ўсімі сіламі адганялі паўстанцаў ад панскіх мыз [2] і хутароў, дзе можна было чым-небудзь пажывіцца. Сырую ж лясную дзічыну, калі яна і траплялася па дарозе, не ўясі, а паліць кастры начамі асцерагаліся, каб не прывабіць ворагаў.

Валерый папрасіў свайго ад'ютанта Ігната Арамовіча паклікаць камандзіраў. Неўзабаве да яго з'явіліся камандзір батальёна былы капітан Лібаўскага палка Эйтмановіч, камандзір пяхотнай роты стральцоў падпаручнік Завістоўскі, камандзіры касінераў Ляткоўскі і Сіманэ — француз-валанцёр, камандзір конных стральцоў Кабылінскі і дзядзька Рыгор. Яго і цяпер усе так звалі і велічалі. І лятучы атрад яго на лёгкіх брычках таксама называўся атрадам дзядзькі Рыгора, а жаўнеры — брычнікамі.

Схуднелы за лета, зноў аброслы густою кучараваю барадою, Валерый коратка далажыў сваім баявым сябрам, дзе яны апынуліся за апошні дзень і што мусяць рабіць далей.

— Ратунак у нас зараз адзін,— закончыў ён свой кароткі рапарт,— накарміць людзей і рушыць да самага Падляссся. Там нас чакаюць нашы браты па зброі. Дзе і як

---

[1] Пікет — ваенны дазор, каравул.
[2] Мыза — дача з сваёй асобнай гаспадаркаю.

дастаць харчы? Давайце памазгуем разам. Часу маем небагата: адарваліся мы ад варожай пагоні, відаць, ненадоўга.

Камандзіры задумаліся. Цяжкую задачу паставіў перад імі іх камандзір і начальнік.

— Колькі яшчэ нам тупаць да таго Падлясся? — першы загаварыў падпаручнік Завістоўскі.

— Вёрст шэсцьдзесят — семдзесят,— адказаў Валерый.

— Мнагавата,— уздыхнуў зморany нялёгкімі паходамі камандзір стральцоў.

Эйтмановіч папрасіў у Валерыя яго лясную карту. Доўга ўглядаўся ў яе, потым сказаў:

— На жаль, ты не памыляешся, ваявода. Такі марш па гэтых пакручастых чортавых сцежках для галоднай пяхоты ой які нялёгкі...

Дзядзька Рыгор запытаўся ў Валерыя, ці ёсць дзе блізка якое жытло. Валерый адказаў з жалем:

— Здаецца, тут толькі лясныя і балотныя нетры... І на карце маёй нічога лепшага не відаць...

— А за нетрамі мусіць жа быць і поле,— разважаў уголас дзядзька Рыгор.— А дзе поле, там і людзі. Дазволь, ваявода, адлучыцца мне з маімі хлопцамі.

— Але ж у нас грошай ні капейкі,— развёў рукамі ад'ютант Валерыя, ён жа і атрадны казначэй.— Чым будзем плаціць за харчы?

— Нічога. Свет не без добрых людзей. Не паміраць жа нам галоднай смерцю.

Не бачачы іншай рады, Валерый даў згоду дзядзьку Рыгору на адлучку.

— Але ненадоўга,— напомніў ён.— Чуць дзень, падымаемся.

— Пастараюся,— адказаў дзядзька Рыгор.— Брычкі ў нас яшчэ спраўныя. От толькі коні каторы час на адной траве...

— А ты, браток, расстарайся там заадно і аўса,— папрасіў Кабылінскі.— Хоць бы мяшкі тры-чатыры. Тады б мы яшчэ пацягаліся з казачышкамі...

— Ды ўжо ж не абміну, калі дзе да яго дарвуся.

Конніца былога афіцэра рускай арміі дужага барадача сярэдніх гадоў Казіміра Кабылінскага славілася на ўсю губерню. Пра яе ведалі і Вільня і Варшава. Не раз паказвалі ёй спіны лепшыя казацкія і ўланскія эскадроны, не кажучы пра пяхоту.

Але найбольш яна рабіла набегі на казармы і гарнізоны. І не аднаму каменданту далася ў знакі, што добра відаць хоць бы з такога маляўнічага рапарта падпаручніка Ружанскай этапнай каманды, напісанага ім у пачатку чэрвеня месяца:

«Гэтага чысла ў 3 гадзіны раніцы па тракту на гор. Слонім наляцела шайка інсургентаў (верхавых), узброеных двухствольнымі стрэльбамі, рэвальверамі і шаблямі, лікам да 100 чалавек, і, акружыўшы казарменны дом, пачалі страляць у вокны і падпальваць саму казарму, патрабуючы з крыкам скласці зброю, іначай перарэжуць усіх. Між тым, у адзін час з нападам на каманду 15 чалавек на ўвесь кар'ер накіраваліся да маёй кватэры і, сустрэўшы мяне па дарозе ў казарму, арыштавалі і не далі дабегчы да казармы, загадаўшы вярнуцца на кватэру для вобыску зброі, пораху, грошай, казённых і сакрэтных папер начальства. Пасля неаднаразовых пагроз з прыстаўленнем рэвальвераў з узведзенымі куркамі да маіх грудзей я мусіў аддаць сваю двухствольную стрэльбу, паляўнічую бутэлечку пораху, 59 руб. казённых і кармавых арыштанцкіх — 6 р. 12 кап. У казарме забрана: стрэльбаў — 22, патронаў — 903 і большая частка амуніцыі, а таксама і гаспадарчыя рэчы. У каманднай канцылярыі многа знішчана папер, кніг і архіваў».

Праўда, налёт на Ружанскую казарму зрабілі не сто, а пяцьдзесят шэсць коннікаў, ды вядома ж: у страха вочы вялікія. Затое ўжо, калі гаворка ішла аб стратах паўстанцаў, дык манюкінскія афіцэры на ману не скупіліся: забівалі іх у сваіх рапартах, колькі ім хацелася. Падпалкоўнік Амантаў пахваліўся губернатару, што пры сутычцы каля хутара Пухлы 25 ліпеня яго казакі забілі аж трыццаць коннікаў Кабылінскага. А двое з тых казакоў, што забівалі гэтых коннікаў,— Кузняцоў і Шыпанаў, не згаварыўшыся з камандзірам, засведчылі потым, што «забітых або параненых мяцежнікаў на месцы, дзе адбывалася справа, не знойдзена». Наадварот: «...хоць напад быў зроблены нечакана, але мяцежнікі паспелі схавацца ў сад і з-за плота саду стралялі ў казакоў і ўланаў, у выніку чаго неўзабаве быў забіты есаул Прусакоў і 4 уланы ранены, а адзін улан упаў з канём у бульбяную яму і там забіўся насмерць. Уланы, убачыўшы сваіх параненых, першыя павярнулі назад, і калі казакам ужо нельга было адным трымацца супроць мяцежнікаў, то і яны адступілі...»

Праўду пра гэты бой, як бачым, пакінулі сваім нашчадкам самі радавыя казакі, а не іх камандзір падпалкоўнік Амантаў...

Дзядзька Рыгор не хацеў браць з сабою Язэпа.

— Паспі ты, хлопча, пакуль мы вернемся,— угаворваў ён яго.— Ты ж ледзьве на нагах трымаешся.

Але ўпарты Язэп не здаўся і на гэты раз. Як жа можна, каб дзядзька Рыгор не ўзяў яго ў такую дарогу? Як жа атрад брычнікаў абыдзецца там без яго? Нарэшце, хто лепш за яго павядзе брычку з самім камандзірам паўстанскага карнага атрада? Ён жа ўвесь час возіць яго, як раней вазіў Кастуся Каліноўскага. Ці ж даверыць ён каму свайго новага любімчыка, густагрывага Сівака?

Дзядзька Рыгор махнуў рукою:

— Спрачацца з табою, хлопец, няма калі. Запрагай.

Язэп у момант запрог каня і сеў на сваю фурманскую лаўку, або козлы. Атрад дзядзькі Рыгора пакінуў прывал.

Калі сцямнела, паўстанцы нарэзалі і наламалі лазняку і пападалі на яго тут жа, у кустах, без вячэры: камандзіры паабяцалі пабудзіць іх хоць у самую поўнач, як толькі вернецца дзядзька Рыгор з харчамі.

Валерый з ад'ютантам таксама змайстравалі сабе лазовую пасцель — адну на двух, каб цяплей было. Але раней чым заснуць, доўга яшчэ гаманілі паціху аб тым ды сім, чуйна прыслухоўваючыся да лёгкага пошуму блізкага лесу і балотных хмызнякоў, стараючыся ўлавіць тарахценне Рыгоравых брычак. Як яму там? Ці пашанцуе знайсці што-небудзь? Валерый ведаў, што дзядзька Рыгор зробіць усё гэта лепш за яго самога, і гатовы быў верыць нават у самы цуд.

Нарэшце Арамовіч замоўк, і Валерый зразумеў, што ад'ютант яго заснуў. «Вось і добра,— парадаваўся Валерый,— няхай, небарака, паспіць трохі. Хапіла бядоты і яму. Толькі людзі, што самі па сваёй волі,— падумаў Валерый,— выступаюць за вялікую справу, здольны цярпець такія нястачы і пакуты». Ні ад свайго ад'ютанта, ні ад іншых камандзіраў ён не пачуў за апошнія дні ніводнай скаргі на іхняе незайздроснае паходнае жыццё. А гэта ж людзі, якія не прывыклі жыць як набяжыць.

Валерый падумаў пра каравульных. А што, калі і іх зваліў сон? Ён падняўся асцярожна, каб не пабудзіць

ад'ютанта, апрануў сваю паходную куртку ў рукавы і рушыў аглядаць сонны лагер.

Скрозь было ціха. Чулася толькі пафыркванне коней, якія пасвіліся пры лесе, ды пахрапванне жаўнераў у кустах.

Стаялі сходнія дні. З закрытага хмарамі неба пачынаў церушыць дождж. «Не хапала яшчэ гэтай назолы,— са злосцю падумаў Валерый.— Манюкінцы даюць перадых хоць начамі, а гэтаму ніякага ўгамону няма...»

Каравульныя неслі службу спраўна, і заспакоены Валерый вярнуўся назад на сваю лазовую пасцель.

Ужо на самым золку яго аклікнуў трывожны голас:

— Грамадзянін ваенны начальнік...

Валерый усхапіўся разам са сваім ад'ютантам.

— Хто тут? — запытаўся ён, углядаючыся ў постаць жаўнера, які яго пабудзіў.

— Я ад дзядзькі Рыгора...— прагаварыў жаўнер і тут жа зваліўся з ног.

Валерый нахіліўся да яго:

— Ды гэта ж Пятрок! Што з табою, даражэнькі?

Пятрок не адказваў. Арамовіч расшпіліў яму світку, абмацаў грудзі.

— Плячо ў крыві...— сказаў ён.

Валерый захваляваўся:

— Кліч Івана! Эх ты, новая бяда!..

Хутка Арамовіч вярнуўся з доктарам Іванам Каліноўскім. Доктар памацаў пульс параненага. Потым дастаў з свайго саквояжыка пляшачку, адкаркаваў і даў яму панюхаць нашатыру. Пятрок заварушыўся, адплюшчыў вочы.

— Ну вось і добра,— сказаў доктар, павесялеўшы.— А зараз, браток, паглядзім тваю рану.

Рана была не цяжкая, але страта крыві і немалая дарога, якую ён прабег пасля гэтага, прывялі Петрака да непрытомнасці. Доктар хутка ачысціў рану і забінтаваў плячо.

Акрыяўшы, Пятрок расказаў, што здарылася з дзядзькам Рыгорам і яго атрадам.

Гадзіны праз дзве пасля ад'езду яны натрапілі на нейкі фальварак ці маёнтак. Дастукаліся да гаспадара — яшчэ не старога, але ўжо добра аблыселага пана Цыбука. Пан Цыбук, калі даведаўся, чаго ад яго хочуць, гэтак разбедаваўся, небарака, што хоць ты яму самому дапамажы. Няма, маўляў, у яго ні хлеба, ні скаромніны, ні аўса. Самі

галадаюць. Дзядзька Рыгор паспачуваў галоднаму пану, але ўсё ж не паверыў яму і папрасіў ключы ад свірнаў. Пан на дыбкі стаў: як можна не верыць яму, усімі паважанаму двараніну Цыбуку! Дзядзька Рыгор, аднак, не спалохаўся пана і пачаў даставаць з кабуры свой рэвальвер: цяпер ён страляў з яго мала горш за самога Валерыя. Пан адразу абмяк і сказаў, заікаючыся, што ключоў пры сабе не трымае, яны — у аканома. Аканом паслаў да дварэцкага. Дварэцкі — да ключніка. А той як у ваду ўпаў...

Шукаць другога, багацейшага пана не было калі, і дзядзька Рыгор даў каманду сваім брычнікам ламаць замкі.

Ну, вядома ж, салгаў лысы пан! У свірнах у яго знайшлося і сала, і вяндліна, і нават добры запас печанага хлеба для парабкаў. А ў скрынях — і гарох, і авёс, і пшаніца... Выбірай што хочаш.

Напакаваў узрадаваны дзядзька Рыгор свае брычкі дабром і — у дарогу. Хацеў падзякаваць пану-лгуну перад ад'ездам, ды дома яго ўжо таксама не знайшлі: знік недзе ўслед за ключнікам...

Вёрст за пяць да прывалу абоз дзядзькі Рыгора дагналі конныя жандары. Сутычка была кароткая. Вырвацца з яе ўдалося аднаму Петраку. Іншыя, відаць, забіты або трапілі ў палон.

— Пракляты душагуб!..— гнеўна абураўся Валерый на пана-здрадніка... Як жа Рыгор не разгадаў яго чорную душу ды не запёр дзе на той час разам з яго памагатымі...

Хістаючыся, Валерый пачаў расціраць абедзвюма рукамі лоб і скроні. Няўдачы паўстання, змораныя галодныя людзі, з якімі ён пакідаў родны край, гібель атрада дзядзькі Рыгора,— усяго гэтага было занадта нават для Валерыя — чалавека з моцнай воляй і моцным характарам.

— І Язэп быў з вамі? — запытаўся ён у Петрака.

Пятрок кіўнуў галавою.

— Няшчасны...— прастагнаў Валерый.— Не ўсцераглі мы Язэпа...

Яго ахапіла такая скруха, нібы ён страціў самае дарагое ў жыцці. Успомніў пра Кастуся, які так шкадаваў Язэпа і любіў яго, бы роднага брата. Што ён скажа яму, калі давядзецца ўбачыцца?

У гэты час да Валерыя падбег камандзір коннага атрада і далажыў, што яго разведчыкі заўважылі недалёка казацкія раз'езды.

Валерый загадаў Арамовічу падымаць жаўнераў.

— Бою прымаць не будзем,— сказаў ён Кабылінскаму.— Цяпер толькі наперад! Да самага Падляссся. Дойдзем! Мусім дайсці!

## XV

У тую ноч Кастусь начаваў на тайнай кватэры на Зарэчнай вуліцы. Цяпер, калі мураўёўскія жандары наступалі яму на пяты, ён часта не бываў дома: гаспадару гаварыў, што позна заседжваецца ў сяброў за вістам [1]. Гаспадар гэтаму, вядома, не пярэчыў. Што ж, кватарант яго чалавек яшчэ малады, жонка і дзеці дома не чакаюць. Няхай гуляе.

Не паспеў яшчэ Кастусь добра ўспацца, як у пакой са свечкаю ў руках убегла гаспадыня кватэры, пажылая ўдава пані Догель.

— Пан Костусь!..— зашаптала яна ўстрывожаным голасам.— Пан Костусь... Аблава...

Кастусь прахапіўся.

— Тушыце свечку, пані Догель! — папрасіў ён.— Дзе аблава?

— Дом акружаны салдатамі... Я яшчэ не спала. Пачула гамонку, глянула ў акно і — сюды...

— Дзякую, пані Догель,— сказаў Кастусь і ў той жа момант ускочыў на падаконнік.

За дзвярыма на драўлянай лесвіцы ніжняга паверха пачуўся грукат цяжкіх салдацкіх ботаў. Чакаць няпрошаных гасцей можна было кожную секунду, і Кастусь праз момант апынуўся на пажарнай лесвіцы. А цяпер куды? Спусціцца ўніз на двор і спрабаваць уцячы?.. Але ж там, ля дзвярэй, ужо нехта таксама чмыхае... Заставаўся адзін ратунак — падняцца ціпіком на дах. Тым больш што, хоць ноч і месячная, на лесвіцу падаў цень, хаваючы бегляка ад злога вока...

Тым часам пані Догель адным махам зачыніла акно, закінула Кастусёвы чаравікі і верхнюю вопратку пад ложак, а сама лягла на яго пасцель, моцна захропшы.

Хутка з трэскам адчыніліся дзверы і жандарскія ліхтары зашнырылі па пакоі. Адзін з жандараў падскочыў да ложка, адкінуў коўдру і тут жа нацягнуў яе назад.

[1] Віст — картачная гульня.

— Баба! — плюнуў ён.— Старая баба...

Пані Догель нехаця «прачыналася».

— Хто тут? — прагаварыла яна.

І раптам закрычала нема:

— Ратуйце! Грабяць! Забіваюць!

— Цыц, дурніца! — крыкнуў жандар.— Мы — паліцыя, а не грабежнікі.

Але пані Догель не так лёгка было супакоіць. Яна крычала, нібы яе, і праўда, грабілі і забівалі.

Жандары выбеглі з пакоя, злосна бразнуўшы дзвярыма.

Шчыльна прыціснуўшыся грудзьмі да чарапічнага даху, Кастусь толькі цяпер успомніў, што апынуўся ён тут у адной бялізне. Ды калі было яму думаць пра вопратку?

Зіма яшчэ не лягла, але начныя замаразкі даймалі ўжо як мае быць. Асабліва зараз, пры месячнай ночы. Да таго ж ляжаць на стромкім даху, пакрытым густым інеем, можна было толькі нерухома, каб не сарваць чарапіц ды не зваліцца ўніз на галовы салдатам, якія тупалі ўзад і ўперад па двары.

Салдаты пацiху перагаворваліся паміж сабою. Кастусь пачаў прыслухоўвацца да іх гаворкі. Адзін салдат прасіў у другога махоркі. Той адказваў, што раскурваць пры тайнай аблаве не дазваляецца. Першы сказаў, што паліцмайстар Саранчоў, відаць, шукае тут леташні снег. «Чаму снег? — запярэчыў другі.— Кажуць, нейкага важнага мяцежніка шукае. Усіх быццам пералавілі, а той усё яшчэ на волі».— «То чаму яму якраз тут сядзець? — сказаў першы.— Дамоў жа ў горадзе нямала».— «Ну, паліцмайстару лепш вядома: у яго ўсюды свае вочы і вушы...»

Салдаты пагаманілі і прыціхлі.

«Няўжо і сапраўды Саранчоў ганяецца за мною?..— падумаў Кастусь.— Значыць, кватэра пані Догель выкрыта... Хто б мог яе выкрыць? Не сама ж гаспадыня. Іначай не прыбегла б яна будзіць мяне. Аднак трэба неадкладна перадаць пра гэта сябрам. Эх, сябры, сябры! Мала вас ужо і засталося...»

І думкі пра нялёгкі лёс сяброў і самога паўстання засланілі на нейкі момант і страх перад аблавай, і калючы холад, які злездзяніў ужо яго босыя ногі і бязлітасна насядаў на плечы.

Што ж адбылося за апошні час? Што ён зрабіў як першая асоба ў Аддзеле і што яшчэ можна зрабіць? Праўда,

рады яго сяброў моцна парадзелі, паўстанскія атрады знясілены або разбіты, многія камандзіры перабіты ці захоплены ў палон. Але яшчэ не ўсё страчана. Трэба толькі не дапусціць поўнага развалу таго, што яшчэ ўцалела.

Кастусь ужо не чуў ні рук, ні ног. Ды і ўсё цела здубянела, як нежывое, гатовае вось-вось сарвацца з даху і пляснуцца на галовы салдатам.

Вобыск зацягваўся.

«Доўга ж яны там шукаюць»,— ахкаў першы салдат. «А ім што — цёпла. Ну і не спяшаюцца».— «А можа пан Саранчоў там дзе гарачанькі чаёк папівае са сваімі памочнікамі...» — «У якой-небудзь удавіцы-дабрадзейкі...» — хмыкнуў другі салдат. «Ах, з якою ахвотаю я выпіў бы зараз кубак пустога вару».— «Бач, чаго табе зажадалася. Можа, яшчэ і на чарачку пацягнула...» — «А чаму б і не, саскляеўшы. Шынялёк казённы не вельмі грэе. Гэта не кажух мужыцкі...»

«Мне б такі шынялёк,— з жалем падумаў здубянелы Кастусь, слухаючы гаворку вартавых.— І чаму мне не прыйшло ў галаву прыхапіць хоць коўдру, хоць прасціну...»

Жандары аблазілі ўвесь дом, абшукалі скляпы, пабывалі і на гарышчы: Кастусь добра чуў з даху, як яны там стукалі і грукалі, перакідаючы markdown рознае ламачча.

І ўжо, калі не толькі апошнія сілы, а і прытомнасць пакідала перамёрзлага Кастуся, ён як спрасонку пачуў аднекуль з калідора: «Іван, Сымон, адбой...» — «Нарэшцетакі...» — сказаў адзін з салдат, і яны тут жа зніклі з двара.

А калі яшчэ праз нейкі момант салдацкія боты загрукалі за домам па драўляным вулічным тратуары, Кастусь павольна пачаў спаўзаць уніз да пажарнай лесвіцы.

Пані Догель, якая здагадвалася, што яе кватарант мог знайсці схованку толькі на даху, ужо расчыняла акно, збіраючыся кінуцца яму на дапамогу.

## XVI

— Ну расказвай, расказвай, браток, як там і што,— гаварыў Кастусь, моцна абнімаючы свайго былога сакратара Язэпа Яманта.

Язэп толькі што прыехаў з Мінска. Кастусь чакаў яго

з нецярплівасцю. Канчаўся стары год, трэба было думаць пра новы. І не толькі думаць. А і нешта рабіць важнае, вялікае. Побач з Кастусём цяпер не было чалавека, якому б ён мог даверыць свае патаемныя думкі і сумненні. Тры дні таму арыштаваны яго верны сябар Цітус Далеўскі, малодшы брат Францішка і Апалоніі Далеўскіх. Усе гэтыя дні Кастусь толькі і думае пра яго. Не выходзяць з галавы і светлыя вобразы адважных змагароў за вызваленне краю ад царызму Антанаса Мацкявічуса і Ігната Здановіча — начальніка горада Вільні пасля Малахоўскага, павешаных нядаўна крывавым Мураўёвым. З памочнікаў у Кастуся засталіся толькі Ільдэфонс Мілевіч, якога ён выклікаў у канцы лета з Гродні, і яго цёзка па прозвішчу Юзэф Каліноўскі — інжынер-капітан у адстаўцы, выкладчык Віленскай гімназіі. Але і той і другі да рэшты страцілі ўсялякую веру ў поспех паўстання і раілі Кастусю толькі адно: спыніць яго зверху... Гэта значыць, яму, Кастусю Каліноўскаму, як першай асобе ў паўстанні на Літве і Беларусі, паслаць пра гэта ў ваяводствы і паветы загад...

А што скажа Ямант? Кастусь выклікаў у Вільню і Вітальда Парфіяновіча з Магілёва. Але той яшчэ недзе ў дарозе.

Што скажуць яны, камісары двух немаленькіх ваяводстваў?

Сябры прыселі на канапе ў невялікім пакойчыку, дзе стаялі яшчэ старэнькая камодзінка, столік і пара лёгкіх крэслаў. Пакойчык гэты быў добра знаёмы не аднаму Кастусю. За апошнія гады тут адбылося нямала тайных спатканняў і тайных размоў. Кватэра Ямантаў на Ратушскай плошчы была сапраўдным штабам для Кастуся і яго сяброў. Тут, як і ў сям'і Далеўскіх, Сыракомлі, Грагатовічаў, усе любілі Кастуся, сустракалі, як роднага сына. Стары Ямант — павераны князя Вітгенштэйна — звычайна не ўмешваўся ў справы маладых, але кожны раз пры такіх сустрэчах, бывала, і сам не адрываў вачэй ад акна ў сваім кабінеце, і пасылаў малодшую дачку Ядвігу да варот, на варту, хоць Язэп і не прасіў яго гэтага рабіць.

— Што ж табе расказаць,— задумаўся Язэп.— З чаго пачаць? Навін нямала.

Ён зняў акуляры, якія насіў па прычыне хваробы вачэй з першых студэнцкіх гадоў, прычасаў белым грабянцом свае пышныя мяккія валасы каштанавага колеру, папраўкратаў рукою шырокі чорны гальштук на белай кашулі.

— А ты ўсё, усё расказвай,— падхапіў Кастусь, падрыхтаваўшыся слухаць.— Я ж там не быў і нічога, апроч скупенькіх вашых рапартаў, не чытаў. А мне не толькі хочацца, а вельмі важна ведаць, як там у вас і пачыналася, і як канчаецца. Нам зараз патрэбна ўлічыць усё да макулінкі, каб не паўтараць горшага.

— Ну што ж, на Міншчыне, відаць, пачыналася, як і ўсюды — маніфестацыямі, выступленнямі гімназістаў, спевамі ў касцёлах нацыянальнага польскага гімна «Ешчэ Польска не згінэла, покі мы жыемы...». Жанчыны насілі жалобу па ахвярах варшаўскіх расстрэлаў. Праўда, добрая частка нашых паноў ужо леташняй восенню адкрыта выказалася на сваім дваранскім сходзе за далучэнне Мінскай губерні да Царства Польскага. Чаго не зрабілі паны іншых ваяводстваў.

— Ад гэтага яны, аднак, спадзяюся, не пачырванелі,— скупа ўсміхнуўся Кастусь.

— Не, вядома. Ды нічога з іхняй гаворкі і не выйшла. Цар як дачуўся пра такую крамолу, разагнаў і сам дваранскі сход.

Язэп узяў са стала папяроску.

— Ты яшчэ не навучыўся? — запытаўся ў Кастуся, паказваючы на папяросу.

Кастусь паківаў галавою:

— Горка на душы і без іх.

Закурыўшы, Язэп працягваў:

— Нашу чырвоную партыю стварылі там вядомы табе Ян Козел, афіцэр Артылерыйскай акадэміі Станіслаў Ляскоўскі, доктар Міхаіл Аскерка і дзесяткі іхніх сяброў і сябровак. Былі там, вядома, і іншыя партыі і групы. К пачатку паўстання яны пачалі гуртавацца вакол ваяводы Карнелія Пялікшы — пана з-пад Мінска з партыі белых, і ваяводскага камісара Баляслава Свентаржэцкага, такога ж пана з Ігуменшчыны. Потым, калі Свентаржэцкі падаўся з паўстанскімі атрадамі на сваю радзіму, яго замяніў добра вядомы табе доктар Міхаіл Аскерка. Ваенную справу ўзяў на сябе Станіслаў Ляскоўскі. У гэты ж час выйшла, можна сказаць, з глыбокага падполля самая яркая фігура паўстання на Міншчыне — Антон Трусаў, студэнт Маскоўскага універсітэта.

— Я чуў пра яго,— перапыніў Кастусь расказчыка.— Аскерка казаў — ён на мяне падобны.

— Знешне я не сказаў бы. А вось характар бадай што

твой. Я з ім разоў колькі сустракаўся і кожны раз захапляўся яго мужнасцю і непахіснай вераю ў сваю справу. Між іншым, нашу рэвалюцыю Трусаў разумее па-свойму. Ён — закляты вораг цара. Але не ў захапленні і ад Царства Польскага. Ды і паноў — як белых, так і іншых — лічыць лішнім баластам у нашых атрадах. «Толькі палкі ў колы ставяць»,— кажа. Адным словам, цікавы чалавек. Сам не з дваран — бацька яго дробны паштовы чыноўнік — паштальён і станцыйны наглядчык. З тых, каго б'юць і плакаць не даюць. Помніш, Пушкін апісаў такога небараку ў сваім апавяданні «Станцыйны наглядчык». І ўсё ж неяк выжыў гэты пакутнік — Антонаў бацька. І дзяцей выгадаваў. І нават паслаў свайго Антона ў гімназію. Дарэчы, вучыўся ён у Мінскай гімназіі разам з Уладзіславам Борзабагатым.

— Цікава. Вельмі цікава,— сказаў Кастусь.— Калі і Трусаў такі, як Борзабагаты, то я зайздрошчу вам.

— У нас не адзін Трусаў такі... Што б ты сказаў, каб пазнаёміўся з нашай Камілай. Даю слова — закахаўся б! А можа, ужо ажаніўся тут, без мяне?

— Дзе там! А хто яна?

— Дзяўчына. Яшчэ не старая. Дачка нашага мінскага паэта Дуніна-Марцінкевіча. Чуў пра такога?

— Не толькі чуў, а і чытаў сёе-тое. Сыракомля яго хваліў. Дык што ж з Камілаю? Дзе яна?

— На жаль, далёка.

— А што? Выслана?

— Губернатар Кажэўнікаў яшчэ зімою загнаў яе ў астрог. А ўвосень выслаў недзе аж у Пермскую губерню. Я сам яе не бачыў. Але пра яе там расказваюць, як пра сапраўдную гераіню. Нямала крыві яна сапсавала і губернатару, і яго жандарам. Вострая на язык, разумная, яна спрытна абводзіла ўсіх следчых вакол пальца, і яны выслалі яе, нарэшце, проста так, без жадных доказаў віны.

— Шкада,— уздыхнуў Кастусь.— Якіх здольных і добрых людзей губяць. Так... Так... Ды што ж з Трусавым было далей?

— А тое, што ён, скончыўшы гімназію, паступіў у Маскоўскі універсітэт. Збіраўся стаць доктарам. Упартая натура. Нічога не скажаш. Ды тут здаўся і ён: праз два гады звольніўся. Не было з чаго жыць. Праўда, праз чатыры гады зноў вярнуўся ў Маскву. Але зноў не вытрымаў голаду і галечы. Калі ж пачалася завaруха ў Царстве Поль-

скім, ён увесь аддаўся рэвалюцыі. Бацька яго ў гэты час жыў у Мінску, і Антон меў пры ім прыстанішча. Насіў сялянскую вопратку, з панамі і з мужыкамі гаварыў напросту, паказваючы гэтым, што ўсе людзі роўныя. Гэта яшчэ да Варшаўскага маніфеста. Многія яго лічылі звычайным дзіваком. А калі прыйшла пара выступаць, гэты дзівак ужо меў гатовы атрад. І ў тым атрадзе ніводнага багацея, ніводнага пана. Студэнты, гімназісты, рамеснікі, дробныя чыноўнікі. Падбіраў па сабе.

— Далібог, ён мне падабаецца,— усклікнуў Кастусь.— Так і трэба. Выбачай, я цябе перапыніў.

— Па дарозе ў лясісты Ігуменскі павет, дзе чакаў яго са сваім атрадам Ляскоўскі, Трусаву давялося прыняць першы сур'ёзны бой. На яго атрад, да якога ў дарозе далучыліся са сваімі людзьмі каморнік Красоўскі і чыноўнік Мінскай палаты Канапацкі, напала рота адборных салдат капітана Багаеўскага. Сілы былі няроўныя Трусаву давялося адступіць з немалымі стратамі. І тут ён зразумеў прычыну сваёй баявой няўдачы. Па-першае, ні ён сам, ні яго памочнікі не былі ваеннымі камандзірамі. Па-другое, атрад яго біўся траха не голымі рукамі. Якая ж тут вайна! Салдаты паляць у цябе са штуцараў, а ты лезеш на іх з кінжалам ці адбіваешся аднастволкай. Нават двухстволак не было. Ды і адкуль яны маглі быць у бедных студэнтаў або рамеснікаў. Вось і табе, і мне, і ўсім нам першая навука: не весці ў бой людзей без сучаснай зброі.

— Але, цяжкая навука,— згадзіўся Кастусь.— Так яно, бадай, і ўсюды было. Мы сур'ёзна задумаліся аб зброі, калі ўжо трэба было страляць. Спадзяваліся дастаць яе за межамі. А ўсё пайшло па-іншаму.

— І ўсё ж Трусаў не здаўся,— працягваў Язэп.— Перамагаючы цяжкую дарогу і нястачы, з баямі дайшоў ён да Ігуменскіх лясоў, дзе і злучыўся з атрадам Ляскоўскага. Цяпер ім было лягчэй — і Трусаву і Ляскоўскаму. Яны добра дапаўнялі адзін аднаго: першы браў розумам, другі — ваенным умельствам. Не буду расказваць пра ўсе іх удачы і няўдачы, паходы і прыгоды, скажу толькі, што атрад Трусава і цяпер жыве. Царскія карнікі, а найбольш матухна-зіма рассеялі яго па глухіх засценках і леснічоўках, але да рэшты не дабілі. І я думаю...

— Што ён перазімуе? — захваляваўся Кастусь.

— Але. Няхай сабе хоць адзін шкілет ад яго, а перазімуе.

— А на жывой касці, кажуць, мяса нарасце...

— Сам Трусаў нядаўна выехаў у Пецярбург, пакінуўшы атрад Васілю Канапацкаму. А Ляскоўскі яшчэ ў кастрычніку пайшоў са сваімі людзьмі на зімоўку ў Царства Польскае. Вось якія ў нас справы.

— Дзякую,— сказаў Кастусь,— за такі змястоўны рапарт. Цяпер мне ясней, што робіцца на Міншчыне. А зараз, браток, самае важнае, што я хачу пачуць ад цябе: даваць мне, як камісару Аддзела, каманду ваяводскім і павятовым начальнікам спыніць паўстанне ў Літве і Беларусі ці не? Як ты на гэта глядзіш?

Язэп задумаўся. Цяжкае пытанне паставіў перад ім яго сябар і начальнік.

— Для гэтага,— сказаў ён нарэшце,— трэба ведаць, што робіцца ў іншых ваяводствах, а галоўнае — у Царстве.

— На жаль,— адказаў Кастусь,— у іншых ваяводствах не лепш, чым у вашым. Урублёўскі пакінуў Гродзеншчыну. Хто замяніць Антанаса Мацкявічуса на Ковеншчыне — яшчэ не ведаю. Няма ўжо, браток, кім і замяніць. Баляслава Длускага я паслаў у Прусію, каб залажыў там ваенную школу: нам жа трэба думаць і пра будучыню. Туды ж выехаў і Уладзіслаў Малахоўскі: закупляць зброю. Атрады з Ковеншчыны таксама прыйшлося перакінуць на зіму за мяжу. Праўда, Віцебшчына яшчэ трымаецца. Паўстанцы там дружаць з сялянамі. А яны для іх цяпер — і надзейны дах над галавою, і кавалак хлеба, хоць мякіннага. З Магілёва чакаю Парфіяновіча. Думаю, ён таксама не ўзрадуе. У нас жа, у Вільні, дзе ні ступіш — на жандара або на салдата трапіш... На Лукішках шыбеніца не гуляе... З Варшавай сувязь бадай што страчана. І ўсё ж у мяне рука не падымаецца спыніць барацьбу, як раяць мне мае памочнікі. Я хачу да вясны падрыхтаваць новае паўстанне. І на гэты раз не так. К ліху паноў! Яны, і праўда, толькі ставяць палкі ў колы, як кажа Трусаў. Я з ім згодзен. Мы будзем падымаць мужыкоў. За гэты год сам Мураўёў лепш, чым хто, падарваў іх веру ў добрага цара-бацюхну. Вельмі ж многа назапасіў ён у іх душах і сэрцах крыўды і злосці. Бесчалавечныя суды, шыбеніцы, спальванне цэлых вёсак, высылка ў Сібір старых і малых... Гэта жахліва. І за што? Толькі за тое, што людзі хочуць быць гаспадарамі на сваёй зямлі, не хочуць чужога здзерства над сабою і глуму. Чалавек толькі ў мыслях падумаў што-

небудзь нядобрае пра цара — і ўжо цягаюць яго па турмах, чыняць расправу. Дык што ж — людзі будуць цярпець бясконца?..

Кастусь устаў з канапы, прайшоўся па пакоі, паглядзеў у акно. Каля брамы на вуліцы стаяла Ядвіга — ружовашчокая дзяўчынка-падлетак. «Малайчына,— падумаў ён,— разумее, што брат не звычайную гаворку вядзе тут са мною».

— Або вазьмі гэты падман з зямлёю...— зноў загаварыў Кастусь.— Цэлы год дурылі мужыкам галовы, што перагледзяць несправядлівыя ўстаўныя граматы, знізяць адработкі пану, вернуць адрэзкі... Навалаклі з усяе Русі безліч чыноўнікаў. Ну, тыя жывуць сабе за мужыцкі кошт, прыпяваючы, нешта мераюць, пішуць, ганяць паноў-палякаў: яны такія-сякія... А цар, бачыце, клапоціцца пра вас, паслаў нас, маўляў, памагаць вам адабраць у паноў вашы спрадвечныя надзелы: ведаюць жа, нягоднікі, што для мужыка бацькаўшчына — самае святое. Вельмі добра, кажуць мужыкі, памагайце. І што ж, дурылі іх, пакуль Мураўёў расправіўся з нашым паўстаннем. А цяпер і хвастом накрыліся. Гэтыя чыноўнікі мне нагадваюць саранчу, пра якую я чытаў у кнігах. Ёсць такая на свеце. Яна як дзе ўпадзе — усю гаспадарку знішчыць. Так і царскія чыноўнікі. Яны людзі спрытныя, умеюць так аблізаць чалавека, што з іх рук выйдзеш голенькі, як маці нарадзіла. Вось і жыві пад такім урадам без суда і праўды.

— А што робіцца зараз у нашых гімназіях, каб ты ведаў! — сказаў Язэп.— Суцэльная парука! Ні гімназіст не можа вучыцца, ні настаўнік не можа вучыць, калі хто з самых надзейных царскіх служак або з паноў не паручыцца за іх пад вялікі заклад. Ты не ўяўляеш, як абураны такімі парадкамі настаўнікі, гімназісты і іх бацькі. Гэта таксама сухі порах супроць Мураўёва. Гімназіст за ўрокі мусіць заплаціць дваццаць рублёў і яшчэ ўнесці дзвесце рублёў залогу, што ён будзе трымаць сябе, як святы, славіць цара і яго генерал-губернатара. Ён мусіць падаць у гімназію кучу розных даведак ад розных устаноў — грамадзянскіх і ваенных, што нічым не замешаны ў паўстанні. Мала гэтага, патрэбна мець яшчэ паручыцельства дзвюх вядомых асоб, якія гатовы будуць заплаціць кожны па шэсцьсот рублёў, калі іх падапечны, не дай бог, паварушыць хоць адным пальцам супроць устаноўленых у гімназіі парадкаў. Мала і гэтага: і сам гімназіст, і яго апекуны

даюць падпіску плаціць ад дваццаці пяці да ста рублёў штрафу за кожнае слова, нават знячэўку сказанае ў гаворцы з сябрамі па-польску або па-беларуску. А няхай толькі жандары ўбачаць на вуліцы настаўніка або іншага чыноўніка без царскай кукарды на шапцы,— адразу аштрафуюць.

— Ну,— сказаў Кастусь,— гімназіі яшчэ паўбяды. Дзеці мужыкоў і людзей бедных у іх не вучацца. У тых не тое што дзвесце рублёў, а і дваццаці капеек няма за душою. А ты вазьмі нашы сельскія школы. Яны ж, як тыя жабракі, жывуць. Кажуць, Мураўёў паабяцаў папам на іх патрэбы каля мільёна рублёў, а школам — у дзесяць разоў менш. Гэта з тых дзесяткаў мільёнаў, што ён збірае з усяго краю як падаткі. Ну, вядома: асвета яму не патрэбна. А папы — яны, нябось, цара славяць ды мужыкоў у цэрквах і іх дзяцей у школах рабіць гэта прымушаюць.

Развітваючыся з Язэпам, Кастусь сказаў:

— Дзякую, братка Язэп, яшчэ раз. Ты мяне абнадзеіў. А то я тут, адарваны ад сваіх людзей, пачынаю кіснуць, як і мае памочнікі. Здавацца не будзем, як нам ні цяжка! Або жыццё, але вольнае, або смерць, але мужная, на полі бітвы!

Увечары таго ж дня прыехаў з Магілёва і Вітальд Парфіяновіч. Кастусь не пакінуў яго начаваць у Ямантаў, баючыся аблавы, а павёў на сваю кватэру ў Святаянскія муры.

## XVII

Яшчэ ўвосень Мураўёў і яго галоўны жандар палкоўнік Лосеў, немалады ўжо каржакаваты мужчына, з сівізною рэдкіх валасоў і з хітрымі, калючымі вочкамі на азызлым твары, раззванілі на ўвесь свет, што мяцеж у Літве і Беларусі задушаны да рэшты, што ўсе тутэйшыя абывацелі, абласканыя добрасардэчным начальнікам краю, дзень і ноч славяць за гэта бога і цара-вызваліцеля.

Але так гаварылася для іншых. Самі ж яны добра ведалі, што вуголле патушанага, як ім здавалася, пажару не толькі яшчэ тлее, а дзе-нідзе і ярка ўспыхвае, што недзе ж яшчэ жыве галава паўстання.

У пачатку снежня гэтая галава ўжо была названа і па прозвішчу. Арыштаваны Людвіг Дзічкоўскі — начальнік

Ковенскага ваяводства — падказваў Мураўёву: «Галоўнае праўленне Літвы, зразумела, знаходзіцца ў Вільні... Хто ў апошні час займае першую пасаду — не ведаю, на пасадзе ж сакратара, як мяркую па почырку,— Канстанцін Каліноўскі. А мо ён сам і ёсць камісар Літвы. У такім разе сакратаром у яго — Цітус Далеўскі...»

Здраднік Дзічкоўскі падказаў нават, дзе шукаць таго і другога: ён толькі не ведаў апошняй Кастусёвай кватэры.

Жандары Лосева кінуліся па гарачых слядах. Цітуса Далеўскага яны засталі на явачнай кватэры ўдавы паэта Сыракомлі. Прапісаны ж ён у апошні час быў на кватэры ўдавы былога віленскага галоўнага архітэктара Юзэфы Грагатовіч пад прозвішчам Парфіяновіч. У гэтай жа ўдавы ў канцы мінулага года кватараваў і сам Кастусь. Там ён пазнаёміўся з кватаранткамі гаспадыні, маладымі дзяўчатамі Браніславай Сідаровіч і Стэфаніяй Фальскай, а потым і з Юзэфінай дачкою Марысяй, якая на пачатку вясны вярнулася з Варшавы, дзе жыла ў сваёй цёткі. Усе яны ведалі, што Кастусь не просты кватарант, што ён хаваецца тут, у Вільні, ад паліцыі пад чужым прозвішчам. Яны горача спачувалі яму і яго справе і маўчалі. Стэфанія ж з часам стала ў яго адной з тайных пасыльных з важнымі даручэннямі.

Цітус Далеўскі сышоў у магілу, не вымавіўшы ні слова пра таго, каго ён найбольш любіў і каму найбольш верыў.

Мураўёў вар'яцеў ад злосці. Доктар Фавелін, які лячыў яго, баяўся за яго старое сэрца, раіў яму спакой, паіў рознымі кроплямі. Яму ж цяпер хацелася аднаго: бачыць на шыбеніцы свайго галоўнага ворага Кастуся Каліноўскага. О, тады ўжо ён супакоіцца! А пакуль галава паўстання на волі — мяцеж к вясне можа разгуляцца зноў.

Турбавала Мураўёва і тое, што не знойдзены яшчэ камісары Мінскай і Магілёўскай губерняў. Праз іх будучае новае паўстанне можа перакінуцца на ўсход і на поўдзень Расіі, як гэта замышлялі зрабіць Сераkoўскі і Звяждоўскі. Серакоўскага няма, а Звяждоўскі яшчэ недзе жыве. Ён можа вярнуцца.

Гэтыя трывожныя думкі і падказалі Мураўёву паслаць у Мінск свайго лепшага жандара Лосева. Няхай ён разведае пра ўсё там на месцы. Вока ў яго вострае, нюх на крамольнікаў, як у таго ганчака на зайцоў. Вось толькі ніяк не даецца яму гэты няшчасны Каліноўскі, пры адным

успаміне пра якога ў Мураўёва пачынае страляць калаццё і ў сэрцы і ў печані. На Гродзеншчыне яго ўсё ж, відаць, няма. Іначай новы губернатар Скварцоў яго ўжо высачыў бы. Асабліва пасля пагалоўнай аблавы на Казённую палату і валасныя праўленні. Можа, нават і ў Вільні яго цяпер няма. Можа, ён дзе ў Мінску. У Магілёве — наўрад: далёка ад цэнтра ён адрывацца не будзе. Гэтую сваю здагадку Мураўёў таксама выказаў Лосеву. Лосеў не палічыў яе вартай увагі, але запомніў.

Мураўёў не памыліўся, пасылаючы Лосева ў Мінск. За тыдні тры хітры і каварны обер-жандар дабіў ваяводскую арганізацыю да рэшты. У яго рукі трапілі і ваяводскія камісары Язэп Ямант і Міхаіл Аскерка. Але ні той, ні другі пра Кастуся пакуль што нічога не сказалі. Найбольш, так сам ён прызнаваўся, Лосеву памагала прытворства. Пасля таго як няшчасная ахвяра пабывала ў руках самых бессумленных следчых і салдафонаў, ён выказваў да яе шчырае спачуванне: гаварыў ласкавыя суцяшальныя словы і пускаў нават слязу. Збіты з панталыку арыштант забываў на пэўны час, хто перад ім, і пачынаў верыць яму. Але не кожны раз памагала Лосеву такое каварства. «Шэсць разоў пацалаваў яго, шэльму,— расказваў ён пра аднаго арыштанта,— і што ж вы думаеце? Ні слова патрэбнага мне не сказаў».

Адным з першых у рукі Лосева трапіў апошні мінскі ваявода Гектар Лапіцкі — пан з маёнтка Пціч. Пасаду гэтую яму перадаў пан Пялікша, які ўвосень выехаў у Пецярбург, а потым уцёк за мяжу. Ужо з першай сустрэчы Лосеў убачыў, што перад ім чалавек недалёкі, але з моцным пачуццём гонару. І, доўга не думаючы, ён закінуў сваю адмысловую вудачку. «Ваша правасхадзіцельства! — сказаў ён яму, пускаючы сваю лосеўскую слязу.— Мне вельмі і вельмі шкада вас, такога вядомага ў губерні памешчыка, такога добрага бацьку і сем'яніна (у пана Лапіцкага было пяцёра малых дзяцей), што я гатоў усё зрабіць, каб памагчы вам...» Пан Лапіцкі адразу ж размяк і выдаў Лосеву і тое, што ведаў, і чаго не ведаў.

Аднойчы, перачытваючы спісы арыштаваных па губерні, Лосеў натрапіў на знаёмае прозвішча: Парфіяновіч. Ці не мае асоба з такім прозвішчам якой сувязі з Цітусам Далеўскім? — мільганула ў яго думка. Гэта ж той выдаваў сябе за Парфіяновіча, і Лосеву з яго следчымі нямала давялося памучыць яго, пакуль не дабіліся свайго. Ці не хава-

ецца за гэтым прозвішчам і другая важная ў арганізацыі асоба?

І ў паліцэйскага палкоўніка Лосева разгулялася фантазія: а раптам Далеўскі і Каліноўскі мелі адно прозвішча, каб лягчэй было блытаць сляды?

Вітальд Парфіяновіч, незадоўга да таго арыштаваны ў Бабруйску, сядзеў у мінскай турме. Лосеў загадаў прывесці яго.

Неўзабаве два турэмныя жандары прывялі ў кабінет Лосева невысокага маладога чалавека з бледным перапалоханым тварам, з неспакойнымі вачыма. Рукі і ногі яго дрыжалі, як у ліхаманцы. «Ну і баязлівец,— падумаў жандарскі палкоўнік.— Не, гэта не Каліноўскі». Такія яму таксама траплялiся, і ён іх добра ведае. А што, калі напужаць яго яшчэ больш? І Лосеў тут жа выпаліў, не даючы арыштаванаму апамятацца:

— Вы — Канстанцін Каліноўскі?

Пачуўшы знаёмае прозвішча, Парфіяновіч утаропіўся ў палкоўніка непрытомнымі вачыма.

— Так ці не?

— Я — Вітальд Парфіяновіч...— ледзьве прагаварыў арыштаваны перасохлымі ад страху губамі.

Лосеў штучна зарагатаў:

— Ну, гэта вы кіньце! Нам усё вядома. З вамі гаворыць палкоўнік Лосеў. Чулі маё прозвішча?

— Чуў, пан палкоўнік...

Лосеў палажыў перад сабою ліст чыстай паперы, узяў ручку з пяром, абмакнуў у чарніла:

— Значыць, так і запішам: Канстанцін Каліноўскі, упаўнаважаны камісар Літвы, галоўная ў мяцяжы асоба... Дыктатар паўстання!

— Я — камісар Магілёўскага ваяводства... Я ўжо сказаў пра гэта пану следчаму...

— Ведаем, ведаем,— прыцмокнуў гучна Лосеў.— Усе вы прыкідваецеся авечкамі. Камісару ваяводства мы можам і дараваць жыццё. Вышлем куды-небудзь у Пермскую губерню і — скачы там здаровенек! А галоўнага дыктатара — толькі на шыбеніцу! Вось якая тут розніца. А калі ваяводскі камісар не дурань ды паможа нам, то мо справа абыдзецца і без высылкі. Усё гэта вы, пан Каліноўскі, ведаеце. Але я не з тых, каго можна абдурыць.

Запісаўшы нешта на чыстым лісце, Лосеў працягваў допыт.

— Вы арыштаваны ў Бабруйску?

— Так.

— Ехалі ў Магілёў?

— Так.

— Каб пабачыцца там са сваім памочнікам — камісарам ваяводства Людвігам Звяждоўскім?

— Я — сам камісар Магілёўскага ваяводства,— лепятаў ні жывы ні мёртвы ад страху Парфіяновіч.— Людвіг Звяждоўскі з вясны перабраўся ў Царства Польскае... Ды і не камісарам ён быў, а ваенным начальнікам.

— Нам лепш ведаць, куды хто перабраўся! — строга перапыніў яго Лосеў.— Хто яшчэ працуе ў Віленскім Аддзеле разам з вамі?

— Але ж я не з Аддзела...

— Не, бацейка, так справа не пойдзе. Даю вам роўна суткі на роздум. Калі праз суткі не раскажаце праўду — пашлю на шыбеніцу без суда. Усё!

Лосеў паклікаў з калідора жандараў і загадаў ім забраць арыштаванага.

— Трымаць яго пад пільным наглядам,— крыкнуў ён жандарам.— Гэта — самы галоўны злачынец!

Парфіяновіч не стрымаўся і расплакаўся наўзрыд.

«Ну і слімак! — з агідай сплюнуў Лосеў, калі арыштаванага вывелі з кабінета.— Як ён трапіў у камісары цэлага ваяводства!»

Лосеў ужо нават пашкадаваў, што дарэмна разыграў з ім такую штуку: толькі час дарма патраціў. І нават не збіраўся больш выклікаць яго, як раптам к канцу дня яму далажылі, што арыштаваны Вітальд Парфіяновіч сам просіць спаткання з панам палкоўнікам.

«Што ён прыдумаў? — ламаў галаву Лосеў.— Няўжо скажа, што ён — Каліноўскі? Але ж не можа гэтага быць!» Лосеў успомніў, як з гонарам трымалі сябе перад судом Ігнат Здановіч і Цітус Далеўскі. Смерці яны не баяліся. О, гэта былі храбрыя людзі! Яны аберагалі свайго важака, чым маглі: нават жыццём.

Увялі арыштаванага. Ён па-ранейшаму ўвесь дрыжаў.

— Ну, што новага скажаце, камісар Каліноўскі? — сустрэў яго Лосеў.

— Пішыце, пан палкоўнік...— прахрыпеў Парфіяновіч.— Патрэбны вам Каліноўскі жыве ў Вільні...

— Так, так,— захваляваўся Лосеў, пачынаючы запісваць.— Адрас?

— Святаянская вуліца, Святаянскія муры...
— Нумар дома?
— Не ведаю.
— Кватэра?
— Не помню.
— Пад якім прозвішчам?
— Вітажэнец — яго цяперашняе прозвішча...
— Не хлусіце?
Парфіяновіч перахрысціўся дрыжачаю рукою.
— Вось вам святы крыж.
— Значыць, вы не Каліноўскі?
— Не. Я — Парфіяновіч.
— Шкада. А што яшчэ пра яго ведаеце? Як яго знайсці? Там жа ў мурах не адзін дом.
— У Дамініканскім доме жыве пані Баневіч,— дадаў Парфіяновіч.— Яна ведае, дзе Каліноўскі. Яна ўсё ведае...
— Больш нічога не скажаце?
— Нічога...
— Забраць арыштаванага! — крыкнуў Лосеў жандарам.

Ад такой навіны яго кінула ў пот. Потым пачала калаціць ліхаманка, як і самога здрадніка Парфіяновіча. Сяк-так ён напісаў наступныя радкі:

«На Святаянскай вуліцы ў Святаянскіх мурах жыве злачынец Каліноўскі, ваявода пад імем Вітажэнца. У Дамініканскім доме жыве пані Баневіч. Да яе звяртаюцца агенты з іншых гарадоў для ўказання ім месца жыхарства Каліноўскага і іншых. Яна ўсё ведае... Лосеў».

Шыфраваная тэлеграма палкоўніка Лосева дайшла да палаца генерал-губернатара ў дзевяць гадзін вечара 28 студзеня. Мураўёў, як звычайна, сядзеў у сваім рабочым кабінеце. З часу свайго прыезду ў Вільню ён яшчэ ні разу не парушыў строгага распарадку рабочага дня: з 8 гадзін раніцы да абеду, потым з 8 вечара да позняй ночы, пакуль дазваляў доктар Фавелін. Разам з ім сядзелі ў канцылярыі і яго памочнікі.

Прачытаўшы расшыфраваную тэлеграму ад Лосева, стары генерал нават праслязіўся ад радасці: нарэшце-такі ён дачакаўся гэтага шчаслівага дня! Спешна выклікаў да сябе паліцмайстара горада Саранчова. Калі той прыбег, задыхаўшыся, паказаў яму тэлеграму палкоўніка Лосева. Моцна сціскаючы свой кулак і пабліскваючы вачыма, сказаў:

— Цяпер ён у маім кулаку! Яго толькі трэба ўмела ўзяць.

Саранчоў павіншаваў свайго шэфа з такой незвычайнаю ўдачай, а Мураўёў загадаў яму:

— Прыцягніце мне гэту Баневічыху сюды зараз жа. Я сам з яе шкуру спушчу, калі не скажа, дзе шукаць злачынца.

Саранчоў паслаў да пані Баневіч свайго агента. Але той вярнуўся праз хвілін пяць і далажыў, што яе няма дома.

— Дзе ж яна? — дапытваўся разгублены Саранчоў.

— Паехала да бацькоў у госці.

— Далёка?

— На Ашмяншчыну.

Мураўёў, калі яму сказаў пра гэта Саранчоў, ледзьве не зваліўся з крэсла. Сэрца яго трывожна закалацілася, грудзі сціснула задышка.

— Праверце дамавыя кнігі! — пракрычаў ён, задыхаючыся, да Саранчова.— Самі праверце... Ды —нікому ні слова... Пакуль што...

Ад'ютант, які дзяжурыў пры сваім начальніку, пабег клікаць доктара Фавеліна, а Саранчоў кінуўся правяраць дамавыя кнігі Святаянскіх муроў.

«Хто б мог падумаць,— ахкаў паліцмайстар,— што той, каго другі год шукаюць па ўсім краі, жыве па суседству з самім генерал-губернатарам! Што цяпер скажа Мураўёў? Напэўна, прагоніць са службы...»

Святаянскія муры, і сапраўды, адным бокам упіраліся ў палац генерал-губернатара. Выбраў іх для сваёй кватэры Кастусь не выпадкова. Зацішнейшага месца ў цяперашнім неспакойным горадзе не было... Некалі сярэдневяковыя мураванкі гэтага квартала належалі езуіцкаму касцёлу святога Яна, што ўзвышаўся тут жа над імі, таму і празвалі іх Святаянскімі. Спачатку ў Святаянскіх мурах размяшчалася езуіцкая калегія [1], потым Віленскі універсітэт, а калі яго закрылі пасля другога польскага паўстання, сюды перабраліся гімназія, музей старажытнасцяў, архіў і абсерваторыя. Тут жа мелі кватэры дзесяткі настаўнікаў і служачых гэтых устаноў.

Прабегшы вачыма дамавыя кнігі жылых будынкаў Святаянскіх муроў, ніякага Вітажэнца Саранчоў у іх не

[1] Вышэйшая школа езуітаў.

заўважыў. Праўда, як потым выявілася, прозвішча такое было ў кнізе Гімназічнага дома, але з гарачкі паліцмайстар яго прапусціў.

«Не дурань жа ён выстаўляць сябе ў дамавой кнізе»,— думаў Саранчоў, бегучы назад у палац.

— Ну што? — сустрэў яго Мураўёў, які па-ранейшаму сядзеў у сваім кабінеце як на вострых іголках. Пасля добрай порцыі розных кропель, якімі яго толькі што падкарміў доктар Фавелін, стары зусім асалавеў і абмяк. Доктар раіў яму зараз жа легчы ў пасцель. Але ён і слухаць не хацеў.

— Няма яго ў дамавых кнігах...— нясмела адказаў Саранчоў.— Ды і наўрад, каб ён зрабіў гэта...

— А як жа гаспадары кватэры трымаюць яго без праціскі? Што ж, выходзіць, вашы падначаленыя не правяраюць, хто жыве ў нашым горадзе? Нават у мяне пад бокам...

— Я разбяруся...— апраўдваўся паліцмайстар.— Перад Новым годам мы правяралі ўсе кнігі...

— Я таксама разбяруся з вамі,— прыгразіў Мураўёў.— Толькі не зараз. Капітан! — звярнуўся ён да дзяжурнага ад'ютанта.

— Я вас слухаю, пан генерал-губернатар! — казырнуў малады шустры капітан.

— Падняць дзве роты салдат з бліжэйшай казармы і акружыць Святаянскія муры!

— Будзе зроблена, ваша высокаправасхадзіцельства!

Ад'ютант памчаўся выконваць загад.

— А вам, пан паліцмайстар, строга загадваю перабраць там са сваімі памочнікамі кожную кватэру, пераглядзець кожную шчылінку. Прозвішча злачынца не забылі?

— Што вы, пан генерал-губернатар... Як можна забыць... Вітажэнец!

— Ну, глядзіце!

— Стараюся, як магу, пан генерал-губернатар!..

Праз дзве гадзіны пасля гэтай размовы ў кватэру настаўніка мясцовай Святаянскай гімназіі Жаброўскага пастукалі. Кастусь устаў, запаліў свечку і пайшоў адчыняць дзверы: думаў, вярнуўся з дарогі гаспадар. На цёмнай лесвічнай пляцоўцы ён убачыў перад сабою двух жандараў.

— Ваша прозвішча? — спытаўся адзін з іх.

— Вітажэнец,— спакойна адказаў Кастусь.— Настаўнік геаграфіі Ігнацій Вітажэнец...

— Вы арыштаваны! — радасна ўсклікнуў другі жандар, хапаючы Кастуся за руку...

## XVIII

Асобая следчая камісія засядала ў старым Дамініканскім будынку[1],ператвораным цяпер у галоўную гарадскую турму. У цесных манашскіх келлях, чакаючы суда, сядзелі найбольш важныя арыштаваныя паўстанцы. Справы іх, закончаныя следствам, перасылаліся ў Палявы ваенны суд.

У адну з такіх келляў пад нумарам трэцім і ўпіхнулі Кастуся ў ноч з 28 на 29 студзеня. Турэмны наглядчык пасвяціў ліхтаром, паказваючы, у якім баку нары і параша, і замкнуў за сабою цяжкія, абабітыя чорнаю бляхаю дзверы.

Застаўшыся адзін, Кастусь убачыў у келлі палоску цьмянага святла, што прабівалася аднекуль з калідора праз невялікае замочнае вочка ў дзвярах. Ён узрадаваўся гэтаму светламу вочку, як адзінай цяпер пічылінцы, што звязвала яго са знешнім светам. Ён нават не заўважыў пры святле ліхтара, ці ёсць тут якое акенца і дзе яно. Першае, што прыйшло яму ў галаву,— паваліцца на цвёрдыя турэмныя нары і паспрабаваць заснуць. Заўтра ж перад ім нялёгкі дзень. На яго — ён гэта ведаў — з самага ранку накінецца ўся мураўёўская зграя... І яму давядзецца адбівацца ад яе з усяе сілы. Для гэтага трэба назапасіць, колькі ўдасца, і сілы і вытрымкі.

Кастусь лёг не распранаючыся, у паліто, зняўшы толькі чаравікі. У келлі было холадна, моцна патыхала сырым скляпеннем. Цяжкі пах даўно не праветранай келлі сціскаў грудзі, ад яго пяршыла ў горле. Кастусь стараўся не думаць пра тое, што здарылася, задушыць у сабе боль, крыўду, пакутныя перажыванні. Але сілы на гэта не хапала: трывожныя думкі разрывалі яго. Моцна балела галава.

Як жа ўсё гэта здарылася? Хто выдаў яго? Ямант? Мі-

---

[1] Дамініканскі будынак — дамініканскі касцёл з жылымі трохпавярховымі мураванкамі побач. Дамінікане — члены манашскага ордэна (брацтва, таварыства) імя св. Дамініка.

левіч? Яго цёзка па прозвішчу Юзэф? І яшчэ — Парфіяновіч? Хто ж з іх? Больш ніхто не ведаў, дзе ён жыве і пад якім прозвішчам. Мілевіча і Юзэфа ён бачыў зусім нядаўна, за некалькі гадзін да свайго арышту. Яны разам чыталі першы нумар новай газеты «Голас з Літвы», што выйшла нядаўна ў Кенігсбергу. Гэта была газета іхняга віленскага Аддзела. Надрукавалі яе Малахоўскі і Длускі. Кастусь пераслаў ім тайнаю поштаю для першага нумара свой артыкул, у якім былі і такія словы: «Перакананыя ў святасці нашай справы, незалежна ад таго, што скажуць або пастановяць дыпламаты і ўладары свету, мы будзем далей весці справу вызвалення радзімы». Так, толькі так ён думаў, так і рабіў — вёў далей сваю святую справу. Не маглі ж Юзэф і Мілевіч так адразу і выдаць яго, калі нават яны і трапілі сюды, у гэты Дамініканскі астрог раней за яго. Гэтаму паверыць Кастусь не мог. Заставаліся двое — Ямант і Парфіяновіч. Яманта ён ведае даўно, яшчэ са студэнцкіх гадоў. А з Парфіяновічам пазнаёміўся нядаўна. І даверыў яму важную пасаду ў арганізацыі, можа, толькі таму, што не было ў той час іншай замены. Што ён ведае пра яго? Вельмі мала.

Кастусь прамучыўся рэштку ночы ў цяжкім роздуме. Раніцай стары калідорны слуга прынёс яму снеданне — кавалак чорнага цвілога хлеба і кубак вады. Ваду Кастусь выпіў залпам і папрасіў яшчэ. Да хлеба не дакрануўся.

І траха не следам за калідорным у келлю прымчаўся пасыльны жандар. Ён загадаў арыштаванаму ісці за ім у камісію.

На першы допыт самага важнага мяцежніка сабралася ўся камісія: старшыня палкоўнік Шалгуноў і члены — штабс-капітан Сямёнаў, паручнікі Гогель і Юган, обер-аўдытар Шчэрба і звычайны аўдытар калежскі асэсар Фёдараў — ён жа і пісар.

Старшыня камісіі — важны, надзьмуты палкоўнік немаладых ужо гадоў з густымі вусамі і бакенбардамі — пачаў допыт сам.

— Ваша прозвішча?

Кастусь адказаў без запінкі:

— Вітажэнец.

— Імя?

— Ігнацій.

Старшыня раптам зморшчыў свой сыты пунсовы твар, паставіў калом вочы і праз момант увесь скалануўся ад

гучнага чыху. Члены камісіі дружна пажадалі яму добрага здароўя. Ён паўтарыў свой чых з тым жа поспехам. Потым яшчэ і яшчэ. І толькі пасля сёмага чыху нарэшце супакоіўся. Выцершы хустачкай нос, ён працягваў, звяртаючыся да арыштаванага:

— Дзе нарадзіліся?

— У Галіцыі.

— Дакладней?

— Галіцыя, Дудзінская воласць, вёска Загор'е...

Кастусь даўно прыдумаў месца жыхарства для свайго Вітажэнца: такое, якое нялёгка праверыць, каб і хацеў, бо Галіцыя не ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі.

— Як і калі трапілі ў Вільню?

Кастусь адказаў тым жа гатовым адказам:

— Тайна перайшоў у Каралеўства Польскае. Адтуль — у Вільню...

— Чаго?

— Шукаю службы.

— Якой?

— Настаўніцкай. Я — выкладчык гісторыі і геаграфіі.

— Дзе выкладалі свае навукі?

— Пакуль нідзе.

— Чаму?

— Не знайшоў вольнай вакансіі...

— А што вы тут робіце?

— Займаюся вывучэннем гісторыі славянскіх народнасцей і іх культуры.

Старшыня зрабіў перапынак. Дастаў з кішэні касцяную зубачыстку і, кіўнуўшы галавою ў бок штабс-капітана, пачаў чысціць зубы.

— З якога і па які час вы былі камісарам Гродзенскага ваяводства? — рэзкім голасам выпаліў штабс-капітан.

— Ні з якога і ні па які час камісарам Гродзенскага ваяводства я не быў,— адказаў Кастусь, стараючыся трымаць сябе вольна і незалежна.

— На кватэры ўдавы былога Віленскага галоўнага архітэктара Юзэфы Грагатовіч не пражывалі?

— Не пражываў.

— І Канстанціна Каліноўскага не ведаеце?

— Не ведаю...

З пытанняў штабс-капітана Кастусь усё больш і больш пераконваўся, што ў рукі камісіі трапілі весткі, вельмі для яго небяспечныя. Але колькі гэтых вестак?

К паўдню, калі галодны і змораны Кастусь ледзь трымаўся на нагах, у пакой увялі пажылую жанчыну ў арыштанцкім халаце, з жоўтым маршчыністым тварам. Толькі вочы яе, хоць і вельмі засмучаныя, адразу напомнілі Кастусю, што перад ім Марысьчына маці Юзэфа Грагатовіч, яго былая гаспадыня. Няўжо яна — галоўны сведка супроць яго? — падумаў Кастусь. Але ж яна не ведала яго новай кватэры і новага прозвішча. Яе з дачкою арыштавалі ўслед за Цітусам Далеўскім. І, відаць, толькі за тое, што ён кватараваў у іх. Кастусь гэта ведаў. І як жа ён пашкадаваў цяпер, што сказаў ім тады і сваё сапраўднае прозвішча.

Цётка ж Юзэфа моўчкі стаіць перад Кастусём, спагадліва глядзіць яму ў вочы, быццам хоча сказаць: «Эх, Кастусёк, Кастусёк! І цябе не мінула бяда... Як мне шкада вас, хлопчыкі...»

— Вы ведаеце гэтага чалавека? — запытаўся ў яе старшыня камісіі.

— Не... Не ведаю...

Цётка Юзэфа стараецца гаварыць спакойна, роўным голасам, і Кастусь добра адчувае, як ёй цяжка гэта даецца.

— Прыгледзьцеся лепш,— падганяе яе штабс-капітан.— Гэта ж ваш былы кватарант Макарэвіч!

— Не ведаю... Першы раз бачу...

Кастусь гатовы быў кінуцца ў ногі добрай мужнай жанчыне і дзякаваць, дзякаваць ёй за гэтыя яе словы.

Не дабіўшыся нічога ад цёткі Юзэфы, яе вывелі з пакоя.

На Кастуся зноў пасыпаліся ранейшыя пытанні. Праўда, Парфіяновіча не ўспаміналі. Кастусь усё адмаўляў. Яму хацелася высветліць, што яшчэ ведае пра яго камісія і ці не знойдзецца ў яе вестках якіх слабінак для абароны.

Цётка Юзэфа памагла яму адбіць першы наступ камісіі. Але што чакае яго наперадзе? Колькі часу яшчэ будзе абараняць яго Ігнат Вітажэнец з Галіцыі ад гэтай воўчай зграі? Да таго ж яму трэба думаць не толькі пра сябе, а і пра сваіх сяброў, што асталіся на волі, пра ўсю арганізацыю, якую трэба ўратаваць, што б там ні было. Кастуся не пакідала надзея кіраваць сваёй арганізацыяй і з турэмнай келлі. Для гэтага трэба толькі знайсці каго з тутэйшых турэмшчыкаў, хто спачувае іх справе. А такія людзі ёсць усюды. Сябры яго будуць, напэўна, шукаць іх.

У абед следчая камісія зрабіла перапынак. Кастуся

завялі ў келлю. Калідорны зноў прынёс яму кавалак цвілога хлеба і ў драўлянай місцы крыху нейкага рэдкага супу.

— Дзякую, бацька! — падзякаваў Кастусь за абед.

— Няма за што,— адказаў стары, ставячы Кастусёў абед на нары.

— Даўно тут служыце?

— Даўно...

Стары турэмшчык зачыніў за сабою дзверы.

Паабедаўшы, Кастусь прылёг на нары. Галава, якая порасціхла была на час допыту, зноў разбалелася. Ён заплюшчыў вочы: не шкодзіла б хоць часінку падрамаць.

Праз нейкі момант ён сапраўды задрамаў. Яму прыснілася, што ён сядзіць на канапе ў чыстым пакоі на кватэры ў цёткі Юзэфы. Прыгожая чарнабровая дачка яе Марыся спявае песню «Ой, ляцелі гусі з далёкага краю», заплятаючы доўгія чорныя косы, а ён глядзіць на яе і не можа наглядзецца. Як яна яму падабаецца! Але ён не адважваецца сказаць ёй пра гэта. Чаму ён такі нясмелы?

І раптам сон абрываецца. Кастусь расплюшчвае вочы і бачыць перад сабою знаёмага пасыльнага з камісіі. Жандар тармосіць яго за плячо:

— Прашу следаваць за мною!

— Зноў у камісію? — здзівіўся Кастусь.— Колькі ж можна мучыць чалавека за адзін дзень?

— Не размаўляць!

Кастусь нехаця пайшоў за пасыльным, стараючыся ўспомніць да драбніц цудоўны сон пра каханую дзяўчыну, якая так і не ведае, што ён яе кахае, ці, можа, толькі здагадваецца. Нясмелы ён быў — гэта праўда. Але ці мог ён, беспраўны і бяздомны, думаць, што хто-небудзь адгукнецца на яго шчырыя сардэчныя пачуцці. Яму хацелася сказаць пра сваё каханне любімай дзяўчыне тады, калі ён зноў стане вольным чалавекам. І ён чакаў гэтага дня з нецярплівасцю.

Старшыня камісіі сустрэў яго на гэты раз зусім нечаканым пытаннем:

— З вамі, Вітажэнец, хоча пабачыцца адна асоба па імені Марыя Грагатовіч. Вы не супроць такой сустрэчы?

Члены камісіі пільна ўтаропіліся ў Кастуся, якога моцна захістала ў бакі. Але, хутка апамятаўшыся, ён сказаў:

— Такой асобы я не ведаю...

— Ну што ж,— сказаў штабс-капітан, скупа ўхмыляючыся,— пазнаёміцеся, калі не ведаеце.

Калежскі аэсар прачыніў дзверы і загадаў пасыльнаму прывесці Марыю Грагатовіч.

«Як жа ёй прыйшла ў галаву такая благая думка? — моцна хваляваўся Кастусь, чакаючы гэтай сустрэчы.— І адкуль яна ведае, што я тут? Ці не правакацыя гэта самой следчай камісіі? Як трымаць сябе перад ёю? Не паказаць выгляду, што яна табе самая мілейшая на ўсім свеце? Ох, як гэта цяжка будзе зрабіць...»

Тым часам Марысю ўвялі ў следчы пакой. Кастусь ледзь пазнаў яе — худую, бледную, прыгнечаную цяжкім горам. Апранута яна была ў сваё хатняе адзенне: цёплы жакецік шэрага колеру, чорная спадніца і чорная хустка на галаве. «Значыць, яна ўжо на волі»,— парадаваўся за яе Кастусь.

Марыся ж як убачыла Кастуся, так і кінулася з крыкам да яго:

— Косцік! Любы, каханы мой Косцік! Ты хацеў бачыць мяне?

І сама павісла ў яго на шыі, асыпаючы яго гарачымі пацалункамі.

Кастусь глядзеў на яе непрытомнымі вачыма. Ці мог ён адпіхнуць яе, як чужы чалавек, закрычаўшы: «Вар'ятка! Ідзі прэч! Я цябе знаць не знаю і ведаць не ведаю». Сэрца яго замерла: ён першы раз у жыцці пачуў ад яе такія дарагія яму словы, адчуў на сваёй шчацэ яе гарачы дзявочы пацалунак.

— Эх, Марыська, Марыська! — прастагнаў ён, душачы слёзы, якія падступалі да горла.— Як жа, любая галубка мая, несумленна скарысталі злыя людзі тваё шчырае да мяне каханне, пра якое я, на жаль, даведаўся толькі зараз. Яны ж топяць мяне тваімі рукамі, дарагімі такімі для мяне гэтымі рукамі...

Кастусь схапіў Марысіну руку і пачаў цалаваць.

— Хопіць! Забраць! — крыкнуў старшыня да пасыльнага.

Пасыльны жандар тузануў Марысю за другую руку:

— Прашу следаваць за мною!

— Косцік! — нема загаласіла Марыся.— Дык ты не клікаў мяне? Гэта яны прыдумалі? Я выдала цябе...

— На жаль, гэта так,— адказаў Кастусь.— Але я рад, галубка мая, што ўбачыў цябе і пачуў хоць перад смерцю шчырыя словы прызнання. Я таксама кахаю цябе яшчэ з першай нашай сустрэчы... Бывай, Марыська! Бывай!..

— Косцік! — вырвалася з рук пасыльнага Марыся.— Яны падманулі мяне. Што ж я нарабіла...

І яна як падкошаная ўпала на падлогу.

— Забраць! — ужо больш грозна крыкнуў старшыня да жандара.

Калежскі асэсар памог пасыльнаму: удвух падхапілі абмярцвелую дзяўчыну і пацягнулі за дзверы. Кастусь павярнуўся да старшыні камісіі, сціскаючы кулакі ад гневу.

— Я пратэстую, пан палкоўнік! — сказаў ён.— Гэта подлая вераломная правакацыя! Сумленны чалавек, хто б ён ні быў, не можа па́даць так нізка!

Палкоўнік зрабіў строгі твар і патрос указальным пальцам:

— Арыштаваны Канстанцін Каліноўскі! Вы забываеце, дзе знаходзіцеся!

— Ведаю, пан палкоўнік,— больш спакойна сказаў Кастусь.— Я знаходжуся ў такой установе, дзе топчацца бруднымі ботамі ўсё самае святое... Вы дабіліся свайго, пан палкоўнік! Можаце святкаваць сваю перамогу. Толькі я на вашым месцы не хацеў бы перамогі, здабытай такімі не вартымі сумленнага чалавека сродкамі...

— Арыштаваны, я пазбаўляю вас слова!

З калідора вярнуліся пасыльны жандар і калежскі асэсар. Палкоўнік крыкнуў да жандара:

— Арыштаванага ў камеру зараз жа!

— Следуйце за мною! — скамандаваў жандар Кастусю.

## XIX

Хоць Мураўёў сам і не сядзеў у следчай камісіі, але ўсё важнейшае, пра што там гаварылася пры допыце Кастуся, ён ведаў. Яму хацелася вырваць у свайго галоўнага ворага не толькі новыя імёны яго таварышаў, але і сапраўдныя думкі пра апошнія падзеі ў краі. Ён разумеў, чаму паўстала Польшча. А чаго ж хоча Літва і Беларусь? Адарвацца ад Расіі, каб далучыцца да палякаў? Але ж пра Каліноўскага гэтага яму ніхто не гаварыў.

Мураўёў не толькі душыў паўстанне, а і рабіў усё, каб абяліць сваю крывавую работу перад светам, паказаць, як ён па-бацькоўску дбае пра тутэйшы край, вызваляючы яго ад мяцежнікаў-палякаў. Ён нават даручыў сваім людзям,

што нядрэнна валодалі пяром,— чыноўніку канцылярыі Масолаву, члену асобай следчай камісіі Гогелю і генералу Ратчу — сабраць патрэбныя звесткі і напісаць для сучаснікаў і патомкаў гісторыю апошняга мяцяжу ў Паўночна-Заходнім краі. І, вядома, ці трэба казаць, як бы ён узрадаваўся, калі б яму ўдалося зламаць волю самага першага мяцежніка ды паставіць яго сабе на службу.

Тым часам Кастусь трымаўся перад членамі камісіі як самы звычайны радавы паўстанец. Мінуў траха не цэлы месяц, а яны не вырвалі з яго вуснаў ніводнага повага для сябе ні імені, ні факта. Імёны ён называў толькі тых, каго ўжо або не было на свеце, або яны былі далёка ад мураўёўскіх шыбеніц — за межамі. Факты называў усім вядомыя. Думак сваіх не раскрываў. Сябе наперад не выстаўляў. Ды і размах самога паўстання маляваў зусім мізэрным, не вартым той увагі, якая аддаецца яму рускім царом і яго намеснікам у краі Мураўёвым. Адным словам, Кастусь змагаўся і ў палоне, стараючыся ўсыпіць пільнасць ворага.

Гульня гэтая нарэшце надакучыла не толькі членам камісіі, а і самому Кастусю. І ён заявіў рашуча, што больш ад яго следчая камісія нічога не даб'ецца.

— Калі грамадзянская шчырасць з'яўляецца дабрадзейнасцю, то шпіёнства апаганьвае чалавека! — кінуў ён у твар следчым гнеўныя словы.— Грамадства, пабудаванае на шпіёнстве, не вартае гэтай назвы!

І старшыня, і ўсе члены яго камісіі аслупянелі ад такой дзёрзкай заявы. Чаго ж яны мучылі сябе цэлы месяц, каб пачуць такую знявагу для іх грамадства!

Кастусь сказаў і яшчэ колькі непрыемных для членаў камісіі слоў, а потым зрабіў ясны вывад:

— Прычыны і вынікі гэтай заявы мною добра абдуманы, а ўсведамленне гонару ўласнай годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці іншым шляхам.

Раззлаваны палкоўнік Шалгуноў загадаў калежскаму асэсару пісаць даклад Мураўёву аб заканчэнні следства.

«Ну вось і ўсё!» — з палёгкай уздыхнуў Кастусь пасля такой сваёй заявы. Ён упаў на цвёрдыя нары і доўга ляжаў у цяжкім роздуме, узіраючыся ў вузкае, зафарбаванае вапнаю акенца, за якім месціўся шырокі і вялікі белы свет. Міне колькі дзён, і ён пакіне гэты свет. О, як не хочацца пакідаць яго ў дваццаць шэсць гадоў! Як многа хочацца

яшчэ і зрабіць, і сказаць людзям! Зрабіць, праўда, ужо не ўдасца нічога, а сказаць ён мог бы яшчэ многа чаго тым, каго ён вёў за сабою, каб яны не адракаліся ад сваёй мужыцкай праўды і пасля яго смерці, каб дабіваліся яе, пакуль не даб'юцца.

Першыя крокі ўжо зроблены. І немаленькія. Лёд крануўся. І калі нават зусім задушаць іх паўстанне, яны ўсё ж вырвалі ў крывавага цара нейкую палёгку: паншчыну ён адмяніў ужо зараз, а не праз гады, як абяцаў. Няхай не ўдалося ім адабраць у паноў сваю спрадвечную бацькаўшчыну без выкупу,— яны ўсё ж прымусілі іх зменшыць плату за яе.

Так што пакідае Кастусь гэты свет без пары недарэмна. Як жа расказаць пра ўсё гэта людзям? А што, калі папрасіць у следчых паперы з чарнілам у камеру? Сказаць, што хоча тут, на адзіноце, без прынукі выкласці тое, што не сказаў на допытах. Раней ён пісаў свае паказанні, але толькі пры следчых, у іх пакоях.

Ён сказаў калідорнаму, што хоча бачыць каго са следчых. Стары цяпер ахвотней гаварыў з Кастусём, чым у першыя дні. Кастусь адчуваў, што не ўсё нутро дзядзькі Сымона, як ён яго называў, здранцвела пад турэмнай вопраткай. Дзядзька Сымон некалі ў маладосці жыў у вёсцы. Потым дваццаць пяць гадоў служыў у салдатах. І таму, калі ён даведаўся, што яго падапечны Кастусь Каліноўскі чакае страшнай кары за тое, што хацеў дабра мужыкам, у душы ў старога зарадзілася не толькі спачуванне да яго, а і павага.

Неўзабаве ў камеру зайшоў калежскі асэсар Фёдараў — самы ціхі з членаў камісіі, немалады ўжо юрыст. Кастусь сказаў, што ён хоча.

— Хоць ваша просьба і незаконная,— растлумачыў юрыст,— але я перадам яе палкоўніку.

Палкоўнік нават узрадаваўся, калі даведаўся, для чаго просіць арыштант Каліноўскі паперу.

— Відаць, адумаўся,— сказаў ён.— Дайце яму, што просіць. Генерал-губернатар зусім нездаволены нашым следствам. Можа, нам удасца яшчэ што-небудзь вырваць у яго... Дарэчы, справа яго ўжо накіравана генерал-губернатарам у палявы ваенны суд з рэзалюцыяй скончыць яе за трое сутак. Так што доўга яму пісаць не давядзецца...

Атрымаўшы паперу, пяро і чарніла, Кастусь задумаўся: дзе ж пісаць? Ні стала, ні крэсла ў камеры не было.

Ён сказаў пра гэта дзядзьку Сымону, і той праз нейкі час прынёс цвёрдую картоніну і старое крэсла. Картоніну палажыў на нарах, а крэсла паставіў побач.

— Цудоўна! — павесялеў Кастусь.— Лепшай канцылярыі мне і не трэба. Дзякую, дзядзька Сымон!

І калі стары калідорны пакінуў камеру, Кастусь сеў за свой «пісьмовы» стол. За апошні турэмны месяц ён вельмі змарыўся і целам і душою. Вочы яго глыбока запалі, на пажоўклым твары праляглі першыя маршчынкі. Скроні дзе-нідзе заіскрыліся дачаснай сівізною. Кастусь адчуваў, што пачынае слабець. Ныюць грудзі, адольвае млявасць. «Ці не сухоты прыкінуліся? — задумваўся ён.— Як у брата...» І сон стаў нейкі неспакойны. Часта сніцца Марыська. Ён не раз прасіў сваіх следчых, каб дазволілі яму новае спатканне з ёю. Але цяпер пра гэта яны і слухаць не хацелі.

Зараз, трымаючы пяро ў руках, Кастусь зноў перш-наперш успомніў сваю Марыську. І так захацелася сказаць ёй пра сваё набалелае, што рука сама пачала выводзіць яе імя. А потым паліліся з душы і іншыя словы:

Марыська, чарнаброва галубка мая,
Дзе ж ся падзела [1] шчасце і ясна доля твая?..
Усё прайшло-прайшло, як бы не бывала,
Адна страшэнна горыч у грудзях застала [2].

Калі за нашу праўду бог нас стаў караці
Дый у прадвечнага саду [3] вялеў прападаці,
То мы прападзём марна, но праўды не кінем.
Хутчэй неба і шчасце, як праўду, абмінем!

Ад каханай дзяўчыны думкі перакінуліся да тых, каго ён любіць гэтак жа, як і яе. І ён — тым жа песенным складам працягваў:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра твайго.

А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тады за праўду станавіся смела,
Бо адню з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, народзе, старасці свабодна.

---

[1] Ся падзела — старая форма дзеяслова «падзелася».
[2] Застала — скарочаная форма дзеяслова «засталася».
[3] Прадвечны сад — райскі сад, з якога, паводле біблейскай легенды, бог выгнаў першых людзей — Адама і Еву.

Кастусь адчуў, як яму палягчэла ў грудзях: ён сказаў якраз тое, што яму хацелася сказаць. Але перад ім ляжалі аркушы чыстай паперы. І, пахадзіўшы крыху па вузкай камеры, ён зноў узяўся за пяро, каб прадоўжыць гаворку з тымі, каго ён не сёння-заўтра пакіне навекі.

— Браты мае, родныя мужыкі! — зашаптаў ён сам сабе, як малітву, першыя словы.— Горка пакінуць родную зямельку і цябе, дарагі мой народзе. Застогнуць грудзі, забаліць сэрца, але не шкада загінуць за тваю праўду. Прымі ж, народзе, шчырае маё слова перадсмяротнае, бо яно ж як бы з таго свету, толькі дзеля дабра твайго напісана... Няма, браткі, большага шчасця на свеце, калі чалавек можа пазнаць навуку, яе мудрасць... Але як дзень з ноччу не ходзяць разам, так і не ідзе поруч навука праўдзівая з няволяю царскай. І пакуль мы будзем пад ярмом гэтым, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацця і ніякай навукі, як жывёліну, нас ганяць будуць не дзеля дабра, на пагібель нашу...

Слёзы засцілалі яму вочы. Ён змахваў іх і зноў шаптаў і шаптаў свае запаветныя словы развітання, запісваючы іх на паперы. Як і ў песенных радках, якія ён толькі што напісаў, Кастусь вёў размову з сваім народам адзін на адзін, без старонніх апекуноў, вучыў яго, што яму рабіць, раіў, як жыць. Ён верыў, што людзі пачуюць яго, што яны не толькі ўспомняць Яська свайго добрым словам, а і добрымі справамі. Ён клікаў іх і да вялікай бітвы, і да вялікай працы, «шчырай і простай, як тое сэрца, што б'ецца пад сярмягай, як той мужыцкі розум, што не перабірае, калі трэба рабіць». Бо ніхто-ніхто не зробіць мужыку дабра, не дасць волі, толькі сам ён. «Доўга палякі чакалі дапамогі з-за граніцы,— пісаў ён далей,— народы чужаземныя крычалі многа, а дагэтуль нічога не зрабілі. Ты, аднак, народзе, не чакай і з чым можаш ідзі ваяваць за сваё права, за сваю славу, за сваю бацькаўшчыну. Хапіўшы за што зможаш, за касу, тапор, цэлай грамадой ідзі ваяваць за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную...»

Напісаўшы гэтыя развітальныя словы, Кастусь падумаў з жалем, што яны нікуды далей царскіх следчых і не трапяць. А тыя толькі пасмяюцца з іх. А як бы хацелася, каб яго лісты вырваліся на волю, дайшлі да Марыські, да тых, з кім ён развітваецца. З сябрамі звязацца яму так і не ўдалося. Ці мо іх ужо таксама няма на волі, ці, можа, не знай-

шлі ў гэтай турме сцежкі да яго. Ды і не дзіўна. Нават дзядзька Сымон не згадзіўся перадаць ад яго прывітання Марысьцы, хоць, здаецца, і перастаў ужо дзічыцца яго. «Ат, абыдзецца без гэтага,— бурчаў ён дабрадушна.— Там, на кватэры, можа, каго з вашых падпільноўваюць... Пападзешся, тады што?»

Кастусь разумеў яго і спыняў гаворку. «А што, калі яшчэ раз папрасіць яго? — падумаў ён.— Няхай перадасць гэтыя лісты Марысьцы хоць пазней, калі зніме Мураўёў свае засады і каравулы. Хоць праз год, праз два, абы дайшлі яны да тых, каму пісаліся».

Кастусь сказаў старому калідорнаму пра сваю апошнюю просьбу.

— А што за пісьмы ў цябе і каму? — запытаўся ён.— Той жа дзяўчыне?

— Не толькі дзяўчыне, дзядзька Сымон, а і табе самому, і ўсім добрым людзям...

Сымон здзіўлена глядзеў на Кастуся: ці не звар'яцеў гэты малады мяцежнік? Яму пісьма напісаў? Што ж ён, сваяк які, ці што?

— А што ж ты, хлопча, там напісаў мне ў сваіх пісьмах? — усё ж пацікавіўся ён.

— Хочаш ведаць?

— Пэўна ж. Сам жа я, мусіць, не прачытаю: не шыбка пісьменны.

— Добра, дзядзька Сымон, слухай.

Паглядаючы на дзверы, каб хто не зайшоў, Кастусь ціхім голасам прачытаў Сымону свае пісьмы з-пад шыбеніцы. Стары салдат выслухаў уважліва і працягнуў руку:

— Каму перадаць?

Кастусь назваў адрас Марыські Грагатовіч.

— А ёй чаму не напісаў нічога? — перапытаў Сымон.

— Ёсць тут колькі слоў і ёй, дзядзька Сымон. Вось гэты лісток,— паказаў Кастусь на асобны аркуш, узяты ім з нараў.— Магу прачытаць, калі хочаш. У мяне сакрэтаў няма. Толькі пісьмо гэтае напісана трошкі не так. А як песня.

І Кастусь прачытаў яму сваё пісьмо-песню.

Выслухаўшы, Сымон неспакойна замаргаў вачыма:

— Жаласна напісаў, хлопча. За сэрца бярэ.

Ён загарнуў усе аркушы і засунуў іх у кішэню сваёй курткі.

— А калі тваёй Марыські няма там, то каму яшчэ перадаць?

Кастусь задумаўся на хвіліну. Ён ведаў адрасы Мілевіча, Юзэфа, Ямантаў, пані Догель. Каго ж з іх выбраць? Яманты! Вось каму можна даверыць яго тайныя пісьмы. Стары Ямант, які з жывой цікавасцю сачыў за іх работаю, пэўна ж, знойдзе, каму іх перадаць. І ён назваў адрас Ямантаў.

Сымон паўтарыў сам сабе адзін і другі адрас і выйшаў з камеры.

Кастусь уздыхнуў з палёгкаю.

Адпачыўшы крыху, ён пачаў пісаць другое развітальнае пісьмо — на гэты раз ужо асобай следчай камісіі.

## XX

Дзён праз колькі пасля перадачы запіскі следчай камісіі ў камеру да Кастуся зайшоў апрануты ў новенькі цывільны мундзір з блішчастымі гузікамі чыноўнік сярэдніх гадоў. Кароткія вусікі, рыжыя бакенбарды на сытых ружовых шчоках. Вітаючыся з вязнем, асуджаным да пакарання смерцю, назваў сябе:

— Масолаў Аляксандр Мікалаевіч, асабісты сакратар генерал-губернатара.

— Вельмі прыемна,— стрымана кіўнуў галавою Кастусь.— Чым магу служыць асабістаму сакратару генерал-губернатара?

— Вельмі многім, Канстанцін Сямёнавіч,— ажыўлена, па-прыяцельску загаманіў Масолаў.

— Не разумею.

— Растлумачу: я збіраюся напісаць дакументальныя нарысы пра мяцеж на Літве...

— Паўстанне, вы хочаце сказаць?

— Ну, няхай сабе паўстанне,— лёгка згадзіўся Масолаў з такою папраўкай.— Мяне, само сабою, цікавіць усё, што датычыць гэтай тэмы. А вы ж, можна сказаць,— душа мяцяжу, сірэч [1], паўстання — няхай будзе па-вашаму.

— Дзякую за камплімент, пан Масолаў. Але гэта не так: душа паўстання — наша рэвалюцыйная арганізацыя.

Масолаў энергічна замахаў рукамі:

[1] Сірэч — гэта значыць; старое слова ў рускай мове.

— Разумею, разумею, Канстанцін Сямёнавіч. Я сам — ліберал.

Кастусь іранічна ўсміхнуўся:

— Чый ліберал?

— Ну што вы так недружалюбны да мяне,— пакрыўдзіўся Масолаў.— Я не такі, як вы думаеце. Мне вядома, што ваша партыя чырвоных таксама лічыць сябе ліберальнай.

— І рэвалюцыйнай,— дадаў Кастусь.— А гэта ўжо нешта іншае. Я ведаю лібералаў, якія служаць цару не менш шчыра, чым сам генерал-губернатар. Ну ды бог з вамі, хто вы і што. Мне ад гэтага, як кажуць у нас, ні холадна, ні горача. Што ўсё ж вас цікавіць?

— Я хацеў бы ўдакладніць некаторыя пытанні, якія вы закранулі ў сваёй апошняй запісцы на імя следчай камісіі. Я пазнаёміўся з ёю ў нашай канцылярыі.

— Калі ласка. Прашу садзіцца.

Кастусь падставіў госцю старое крэсла, а сам прысеў на нарах.

— Я хацеў бы пачаць з канца, калі дазволіце.

— А чаму гэта я не дазволю? Пачынайце, з чаго хочаце. Мне ўсё роўна.

— Вы пішаце: «Я не праціўнік шчасця народнага, не праціўнік і Расіі, калі яна нам дабра жадае, але праціўнік тых бедстваў, якія абрушваюцца на край наш няшчасны». Гэта вашы словы?

— Так. Мае. І што ж у іх вам незразумела?

— Усё.

— Напрыклад?

— Хіба ж Расія не жадае дабра вашаму краю? Хіба ж бедствы выклікала Расія, а не вы самі разам з палякамі?

— Вось бачыце,— адказаў Кастусь.— Мы — лібералы, як вы кажаце. А разумеем і ацэньваем гістарычныя факты і падзеі па-рознаму. Значыць, няма ў нас з вамі, пан Масолаў, нічога агульнага. Ну добра. Але спачатку нам трэба разабрацца, пра якую Расію мы гаворым. Мужыцкая Расія бунтуецца ў апошнія гады гэтак жа, як і наш край. А лепшыя рускія людзі, такія, як Герцэн і Чарнышэўскі, спачуваюць гэтаму бунту. Больш таго: клічуць сваіх мужыкоў на бунт. Супроць каго? Не супроць жа палякаў, беларусаў, украінцаў, літоўцаў. Гэтая Расія сапраўды дабра нам жадае.

— Дык што, вы лічыце сапраўднымі рускімі людзьмі

не аўгусцейшага імператара Аляксандра Мікалаевіча, не генерал-губернатара Міхаіла Мікалаевіча, а Герцэна і Чарнышэўскага? Якія ж яны рускія?

— А хто яны — туркі?

— Першы з іх здраднік: пакінуў сваю радзіму і абліває яе памыямі з Лондана,— рэзка адказаў Масолаў.— Другі — проста вар'ят...

— Добра, пан Масолаў,— спакойна сказаў Кастусь.— Паспрабуем разабрацца ў вашых сцвярджэннях. Чаму Герцэн апынуўся ў Лондане? Таму, што не можа гаварыць на сваёй радзіме пра тое, што думае. Бацька вашага аўгусцейшага загнаў быў яго ў Вяцкую губерню ўжо за першыя яго вольныя словы. Што да Чарнышэўскага, дык дай бог кожнаму такое вар'яцтва: гэта самы светлы розум на Русі. Так што, як бачыце, тая Расія, якая трымае ў няволі свой уласны народ, пэўна ж, дабра нам не жадае. Гэта Расія дэспатаў, крывасмокаў і розных іншых цемрашалаў. З такою Расіяй мы мірыцца не будзем, колькі б ні жылі пад яе ярмом.

Масолаў збянтэжана замахаў рукамі:

— Ну, гэта занадта, пан Каліноўскі! Такія словы пра Расію мы чуем толькі ад нашых ворагаў — французаў і англічан. Я чытаю іх газеты.

— Я не чытаю,— сказаў Кастусь.— У мяне іх няма, і мне няма калі іх чытаць. Так што не бойцеся: гавару я не з чужога голасу. І мы ўжо, здаецца, высвятлілі з вамі, пра якую Расію ў нас ідзе гаворка. Гэта Расія нас і за людзей не лічыць. За адно сваё роднае слова, знячэўку сказанае ў якой-небудзь казённай установе, нас штрафуюць... Вы гэта ведаеце?

Масолаў густа пачырванеў:

— Генерал-губернатар інакш не можа зрабіць. Тут Расія, а не Польшча. Генерал-губернатар вырашыў перабудаваць ваш край — выкараніць усё польскае, каталіцкае, а ўвесці ўсё рускае, праваслаўнае. Гэта вельмі разумная думка...

— А можа, пан Масолаў, раней трэба было б у саміх літоўцаў і беларусаў запытацца, што яны хочуць выкараніць і што ўвесці? — усё тым жа спакойным тонам заўважыў Кастусь.

— Ну, гэта вы многа захацелі! — запярэчыў Масолаў.

— Нічога не многа. Я хачу толькі, каб нас лічылі за людзей, а не за рабочае быдла. Каб самі мы былі гаспада-

рамі ў сваім доме, а не ўсе гэтыя вашы пасрэднікі, спраўнікі, прыставы і ліха ведама хто. Гэта зусім нямнога, пан Масолаў! Мне на сваёй бацькаўшчыне месца для службы не знайшлося, хоць і вярнуўся я сюды з дыпломам кандыдата ў кішэні. А тысячам вашых невукаў і шкурадзёраў — калі ласка! Справядліва гэта?

— Былы генерал-губернатар,— сказаў Масолаў, яхідна ўхмыляючыся,— аднак, не памыліўся. Не маглі ж вы, чырвоны рэвалюцыянер, шчыра служыць рускаму ўраду! Хоць, выходзіць, вы і не ў ладах ні з польскаю справаю, ні з польскім дваранствам.

— А вы думаеце, рускія дваране, якімі вы замяняеце ў нас польскіх, лепшыя?

— Пэўна ж. Яны не будуць цягнуць ваш край да Царства Польскага, не будуць памагаць палякам наладжваць мяцяжы...

— А я, пан Масолаў, як і кожны наш мужык — літовец ці беларус — хацеў бы бачыць пана на асіне — любога: і польскага і рускага... Так што вы нас зусім не ашчаслівілі рускім дваранствам. Што да польскай справы, то я прызнаваў і прызнаю яе справаю справядлівай. Царства Польскае мае права на самастойную дзяржаву.

— Але ж Рэч Паспалітая сама выкапала сабе яму...

— Я не хвалю Рэч Паспалітую,— сказаў Кастусь.— Яна душыла сваіх і нашых прыгонных мужыкоў не горш, чым гэта рабіла і робіць іншая дзяржава, пабудаваная на несправядлівасці. Але гэта не значыць, што яе трэба было разрываць на часткі і вынішчаць усё нацыянальнае. Апрача караля і шумлівага сейма, у Польшчы жывуць мільёны палякаў. Яны ніколі не мірыліся і не зміраццa з сваім бяспраўным становішчам.

— Але ж палякі хочуць мець не толькі ранейшую сваю Польшчу, а і ўсходнія землі — Літву, Беларусь і частку Русі ўкраінскай. Вы ведаеце?

— Я гэта ведаю.

— І як вы на гэта глядзіце?

— Вядома, не так, як вы.

— Цікава...— дзівіўся Масолаў.— Значыць, вы выступаеце заадно з былым гродзенскім прадвадзіцелем дваранства графам Стажэнскім і згодны вярнуць Польшчы родную вам Гродзеншчыну? Але ж вы не польскі пан і не граф! Як вас разумець?

— Пан Масолаў! — Кастусь безнадзейна махнуў ру-

кою.— Каб нават я і адказаў вам на гэтыя пытанні, вы ўсё роўна нічога не зразумееце. Так што застанемся лепш, як кажуць, кожны пры сваёй думцы. Ну, а калі гаварыць шчыра, урад рускі, як я ўжо сказаў у вядомай вам запісцы, найбольш можа зрабіць карысці і для нашага, і для свайго народа, чым хто-небудзь іншы. Расія — вялікая дзяржава. Яна магла б стаць яшчэ больш магутная, каб прыняла нас у сваю сям'ю як роўных, як сваіх братоў, а не рабоў. Гэта не толькі мая думка. Як сведчыць Пушкін, пра гэта марыў і вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч: «Нередко он говорил о временах грядущих, когда народы, распри позабыв, в великую семью соединятся». Пра вялікую вольную сям'ю для нашых народаў марыў да канца сваіх дзён таксама і ўкраінскі паэт, роўны Пушкіну і Міцкевічу, царскі выгнаннік Тарас Шаўчэнка. Ды што гаварыць, па добрай волі ваш цар нічога для нас добрага зрабіць не можа.

— Але ж ён па добрай волі вызваліў вашых сялян ад прыгоннай залежнасці,— запярэчыў Масолаў.— Па добрай волі ўжо зараз адмяніў прыгон для часоваабавязаных і зменшыў кошт надзельнай зямлі...

— Наіўны вы ліберал, пан Масолаў,— горка ўсміхнуўся Кастусь.— А ў сваіх унутраных губернях, дзе народ са зброяй у руках не прымусіў зрабіць гэта, ён зменшыў што-небудзь?

— То гэта ў сваіх,— збянтэжыўся ад неспадзяванага пытання Масолаў.— Не ва ўсіх жа адразу... Расія можа і без хлеба астацца... Паны ж самі не ўробяць зямлі.

— Навошта самім — няхай аддадуць мужыкам!

— Як аддадуць? Назусім?

— Але. Пакінуць сабе, колькі самі ўробяць, а рэшту аддадуць.

— Ну...— захваляваўся Масолаў.— Так можна дагаварыцца немаведама да чаго...

— А ведаеце, колькі ў нас людзей не маюць свайго кавалка зямлі? Яны з ахвотаю будуць ураб ляць яе.

— Што ж, можа, тады і казённыя землі аддаць ім?

— І казённыя! — падхапіў Кастусь.— І манастырскія! І царкоўныя! І нават землі царскага дома! Іх таксама нямала назбіраецца.

Масолаў пачырванеў, надзьмуўся, як індык:

— Гэта... гэта грабеж!

— Чаму грабеж? Гэта была б рэвалюцыя. Бо па добрай волі ні цар, ні паны з духавенствам такой справядлі-

вай рэформы не зробяць. Наадварот, яны яшчэ ў мужыка апошняе адбіраюць. Дарэчы, ці ведае ваш добры і справядлівы, як вы думаеце, кумір, або яго вялікасць гасудар імператар усерасійскі цар польскі і вялікі князь фінляндскі, што робяць у нас вашы чыны і чыноўнікі?

— Што вы маеце на ўвазе?

— Раскажу. Сядзіць такі разбойнік з вялікай дарогі дзе-небудзь у павеце. Займае пасаду ваеннага начальніка або спраўніка. Грошы з казны грабе прыгаршчамі: больш трох тысяч на год. Гэта ў той час, калі мільёны мужыкоў у нас і ў Расіі не маюць лішняй капейкі на соль, калі нам, вязням, казна адпускае на харчаванне па сем ці восем капеек на суткі на брата... Ды ўсё роўна свярбяць рукі ў гэтага разбойніка. Хочацца пагрэць іх яшчэ лепш на народных бедствах. Што ж ён, гáдзіна, робіць? Пераапранае двух-трох сваіх жандараў і падсылае ў вёску ці засценак, як паўстанцаў. Тыя прыходзяць, кракадзілаву слязу пусцяць: мы, маўляў, па лясах нацягаліся, страху нацярпеліся, нагаладаліся... Прыміце, накарміце... У простых людзей сэрцы не такія каменныя, як у вашых жандараў. Паспачуваюць, накормяць, напояць. А тут карны атрад — шусь! Зганяць мужыкоў у кучу. «Вы такія-сякія! Вёску спалім!» Людзі ў плач, у голас: «Паночкі, за што?» — «Як за што? За тое, што памагаеце мяцежнікам!» Тым часам адзін з паночкаў шапне старасту: «Збярэш дзве або яшчэ лепш тры сотні, паліць не будзем...»

— Гэта вы прыдумалі! — запратэставаў Масолаў.— Так не рабілася.

— На жаль, прыдумаць такое цяжка,— уздыхнуў Кастусь.— Там, дзе людзі не адкупіліся, вёскі і засценкі іх сапраўды спалілі, пажыткі прадалі з малатка, грошы ў казну паклалі, а няшчасных пагарэльцаў у Сібір загналі. Больш за пяць тысяч такіх ахвяр пакінулі свой родны кут. Колькі людзі слёз пралілі і праліваюць... Душа баліць... А тыя, хто гэта робіць, балююць разам са сваім генерал-губернатарам: то каранацыю цара святкуюць, то імяніны яго і царыцы, то п'юць і скачуць у гонар гвардзейскіх царскіх палкоў і іх палкоўнікаў... Дзе ў гэтых людзей сумленне? Ці ж можна цярпець іх у сваім доме? Што нам застаецца рабіць? Адно: браць косы і вілы ды гнаць усіх іх прэч. Так мы рабілі, так і будзем рабіць!

Перадыхнуўшы, Кастусь дадаў:

— Шкадую, што сам не дачакаўся светлай волі. Ды га-

наруся, што і я паклаў цаглінку ў падмурак вялікага будынка для будучай вялікай і вольнай сям'і.

Масолаў усхапіўся з крэсла, пачаў збірацца.

— Вы ўпарты чалавек! — закрычаў ён, трасучы кулаком.— Адной нагою ў магіле стаіць, а сваё права правіць... Пакаяліся б хоць перад смерцю!

— Але ж вы, пан Масолаў, не поп і не ксёндз, каб перад вамі спавядацца, а звычайны мураўёўскі лёкай!

Масолаў выскачыў з камеры як апараны.

## ЭПІЛОГ

Кастуся прывялі на рыначную плошчу Лукішкі ранічай дзесятага сакавіка. Там з мая мінулага года высілася на ўзгорку высокая дзябёлая шыбеніца з пяньковай пятлёю — «мураўёўскім гальштукам», як празвалі яе ў народзе. У гэтай пятлі скончылі сваё жыццё ўжо дзесяткі Кастусёвых сяброў.

І хоць раніца была халодная, ветраная, на плошчы перад шыбеніцай сабраўся траха не ўвесь горад.

Кастусь са звязанымі назад рукамі стаяў перад сваімі катамі горды, з узнятай галавою. Сяды-тады акідаў вачыма густы натоўп, шукаючы, як і раней Зыгмунт Серакоўскі, таго адзінага чалавека, якога б хацеў яшчэ раз убачыць. Ён не ведаў, што цяжкахворая яго Марыська не ўстае з ложка з таго дня, як бачылася з ім у шалгуноўскай следчай камісіі...

Калі паліцмайстар Саранчоў, чытаючы прысуд, назваў яго імя: «...дваранін Вікенцій Каліноўскі», Кастусь усклікнуў на поўны голас:

— У нас няма дваран, усе роўныя! — Яму добра відаць было, як захваляваўся на плошчы народ, ухваляючы яго направўку. На словы з прыгавору: «...за здраду дзяржаве і схіленне да бунту жыхароў...», Кастусь таксама гучна, каб усе чулі, адказаў:

— Судзіць мяне можа толькі мой народ! Ніякай іншай дзяржавы я не прызнаю!

Паліцмайстар прыгразіў яму, каб змоўк. А потым усё рабілася вельмі паспешна...

Цела Кастуся Каліноўскага па старому звычаю катаў закапалі тут жа, каля шыбеніцы, побач з Серакоўскім, Далеўскім, Здановічам, Колышкам... А калі да магіл герояў

паўстання пачалі збірацца гараджане і жыхары ваколіц, іх целы тайна перазахавалі ў цытадэлі — на вяршыні Замкавай гары, каля старажытнай вежы «караля літоўцаў і рускіх», як ён сам сябе называў, Гедыміна.

А што ж сталася з іншымі героямі паўстання і нашай аповесці?

Стаўшы палкоўнікам, Валерый Урублеўскі не раз вадзіў свае атрады — пешыя і конныя — у бой у Падляскім і Люблінскім ваяводствах. У студзені на яго неспадзявана напаў атрад казакоў. Цяжка паранены ў галаву і ў правае плячо, ён зваліўся з каня непрытомны. Казакі падумалі, што ён забіты, і памчаліся далей. Калі бой скончыўся, яго падабралі сяляне і перанеслі ў маёнтак арандатара Ксаверыя Складоўскага, сваяка будучай сусветна вядомай вучонай Марыі Складоўскай-Кюры. Адтуль, трохі падлячыўшыся, Валерый трапіў у Францыю, дзе ў 1871 годзе разам з Яраславам Дамброўскім і сотнямі іншых эмігрантаў — удзельнікаў паўстання — адважна змагаўся на барыкадах Парыжа як праслаўлены генерал Парыжскай Камуны. Потым стаў сакратаром польскай секцыі I Інтэрнацыянала, блізкім сябрам Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса.

Памёр Валерый Урублеўскі 5 жніўня 1908 года і з вялікаю пашанай пахаваны парыжанамі на славутых могілках камунараў Пер-Лашэз.

Фелікс Ржанскі памагаў, чым мог і як мог, свайму сябру Валерыю. Калі Валерый вывеў свае атрады ў Падляссе, ён перабраўся за мяжу, дзе і жыў удалечыні ад радзімы.

А Язэп? У тую няўдалую вылазку па харчы ён да апошняй хвіліны не пакідаў цяжка параненага свайго камандзіра і трапіў у палон да жандараў разам з ім. Дзядзьку Рыгора жандары Лелякова павесілі, а Язэпа выслалі ў Сібір на катаргу.

Іншым таксама выпала нялёгкая доля.

*1971*

## ЗМЕСТ

**Александр Иванович Якимович**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ТРЕХ ТОМАХ

*Том первый*

*Повести*

Для среднего и старшего школьного возраста

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Ул. Б. Ідэльсон. Мастак Я. А. Ігнацьеў. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктары Я. Ф. Харко, Л. Р. Законнікава.

ІБ № 175

Здадзена ў набор 07.10.77. Падп. да друку 23.08.78. АТ 09785. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Ум. друк. арк. 24,05. Ул.-выд. арк. 25,42. Тыраж 23 000 экз. Зак. 683. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Якімовіч А.**

Я 45 Збор твораў у 3-х тамах. Том І: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1978.

440 с.; 9 л. іл.

У першы том увайшлі наступныя творы: аповесць «Перамога», у якой расказваецца пра жыццё нашай вёскі 30-х гадоў у часы калектывізацыі; у цэнтры твора «Базылёў курган» — юныя краязнаўцы; гістарычныя аповесці «Адкуль ліха на свеце» і «Кастусь Каліноўскі» прысвечаны барацьбе беларускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

**Я** $\frac{70803-166}{М\ 302(05)-78}$ **падпісное** **Бел 2**